# СІТУАЦЫЯ З ПРАВАМІ ЧАЛАВЕКА Ў БЕЛАРУСІ Ў 2014 ГОДЗЕ

АГЛЯД-ХРОНІКА

Аўтар-складальнік: Таццяна РЭВЯКА

Рэдактар і аўтар уступнага артыкула: Валянцін СТЭФАНОВІЧ

Выданне падрыхтавана на падставе аглядаў сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі за кожны месяц 2014 года. Кожны з месяцовых аглядаў уключае аналіз важнейшых падзей, якія ўплывалі на выкананне правоў чалавека за дадзены перыяд, а таксама найбольш яўныя і характэрныя факты парушэнняў, зафіксаваных за гэты час.

Агляд падрыхтаваны на падставе асабістых зваротаў ахвяр парушэнняў правоў чалавека, фактаў, зафіксаваных праваабаронцамі, а таксама агучаных у адкрытых крыніцах інфармацыі.

У кнізе выкарыстаны фотаздымкі з архіву Праваабарончага цэнтра «Вясна», Радыё Свабода, tv.lrytas.lt, газеты «Наша Ніва», Сяргея Гудзіліна, http://www.baj.by, Франака Вячоркі, http://www.gazetaby.com.

ВЯСНА праваабарончы цэнтр

# УСТУП

Сітуацыя з выкананнем правоў чалавека на працягу 2014 года заставалася стабільна цяжкай з тэндэнцыямі да пагаршэння напрыканцы года. Парушэнні правоў насілі сістэмны і сістэматычны характар: асноўныя грамадзянскія і палітычныя правы насілі скрайне абмежаваны характар, ніякіх сістэмных зменаў у галіне выканання правоў чалавека (на заканадаўчым узроўні і (ці) на ўзроўні практык) у краіне не адбылося.

Адзіным пазітыўным фактам на працягу года стала вызваленне з калоніі паводле Закона «Аб амністыі» старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» і віцэ-прэзідэнта FIDH Алеся Бяляцкага. Аднак датэрміновае вызваленне гэтага палітвязня не стала станоўчай тэндэнцыяй і не атрымала свайго далейшага працягу;

— на заканчэнне года ў месцах пазбаўлення і абмежавання волі працягвалі ўтрымлівацца шасцёра палітычных зняволеных: Мікалай Статкевіч, Мікалай Дзядок, Ігар Аліневіч, Арцём Пракапенка, Яўген Васьковіч і Юрый Рубцоў;

— вызваленне палітвязняў Мікалая Аўтуховіча, Андрэя Гайдукова, Уладзіміра Яроменкі, Васіля Парфянкова і Эдуарда Лобава адбылося выключна ў сувязі з заканчэннем тэрмінаў іх зняволення і не сведчыць аб палітычнай волі кіраўніцтва краіны па вырашэнні праблемы палітычных зняволеных;

— працягвалася практыка крымінальнага пераследу па палітычных матывах. На працягу года былі ўзбуджаны тры новыя палітычна матываваныя крымінальныя справы: супраць палітвязня Мікалая Дзядка (арт. 411 Крымінальнага кодэкса), журналіста газеты «Белорусы и рынок» Аляксандра Алесіна (арт. 356.1 Крымінальнага кодэкса) і актывіста з г. Гомеля Юрыя Рубцова (арт. 391 Крымінальнага кодэкса). Апошні прысудам суда Цэнтральнага р-на г. Мінска быў асуджаны да 1 года і 6 месяцаў абмежавання волі з накіраваннем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу;

— працягвалася практыка адміністрацыйнага пераследу ўдзельнікаў мірных сходаў. Усяго на працягу года да адміністрацыйнай адказнасці па арт. 23.34 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях (парушэнне парадку арганізацыі і правядзення масавых мерапрыемстваў) былі прыцягнуты 53 чалавекі. Усяго палітычна матываваны адміністрацыйны арышт на працягу года, па звестках Праваабарончага цэнтра «Вясна», выносіўся ў 104 выпадках (арышт ужываўся ў дачыненні да 88 чалавек, у дачыненні да некаторых — два і болей разоў), было аштрафавана 57 чалавек;

— на працягу года ўлады актыўна выкарыстоўвалі практыку адвольных затрыманняў грамадскіх і палітычных актывістаў, асабліва напярэдадні значных грамадска-палітычных падзей. Так, напярэдадні правядзення Чэмпіянату свету па хакеі ў Мінску адвольным затрыманням было падвергнута 38 актывістаў. Таксама адвольныя затрыманні ў гэты перыяд часу былі выкарыстаны і ў дачыненні да гэтак званых «асацыяльных элементаў» з мэтай стварэння пазітыўнага вобразу Мінска сярод замежных турыстаў;

— выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў, якія праходзілі ў сакавіку 2014 года, па ацэнках кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары», прайшлі з сур'ёзнымі парушэннямі прынцыпаў дэмакратычных і справядлівых выбараў, замацаваных стандартамі АБСЕ і беларускім заканадаўствам. Атмасфера палітычнага пераследу і рэпрэсій апанентаў улады, на фоне якой праходзіла выбарчая кампанія, абмежаванні падчас фарміравання выбарчых камісій, агітацыйнай кампаніі негатыўна паўплывалі на свабоду выбару. Непразрыстасць падліку галасоў не давала падстаў сцвярджаць, што вынікі выбараў адлюстроўваюць волевыяўленне беларускага народа.

— працягвалася практыка аказання ціску на праваабаронцаў і праваабарончыя арганізацыі краіны. Рашэнне аб высылцы з краіны кіраўніка Цэнтра прававой трансфармацыі «Lautrand», грамадзянкі Расійскай Федэрацыі Алены Танкачовай з'яўляецца яскравым прыкладам палітыкі ўладаў у дачыненні да праваабаронцаў;

— працягвалася практыка прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці і выкарыстання іншых форм ціску на незалежных журналістаў, якія супрацоўнічаюць з замежнымі СМІ без акрэдытацыі. Прынятыя змены і дапаўненні ў Закон «Аб сродках масавай інфармацыі» стварылі прававую базу для далейшага кантролю над інтэрнэтам і сталі сур'ёзнай пагрозай увядзення татальнай цэнзуры медыя-сферы. Хваля блакаванняў шэрагу незалежных сайтаў і інтэрнэт-выданняў толькі пацвердзіла гэтыя негатыўныя наступствы заканадаўчыхнаваўвядзенняў;

— на працягу года былі выкананы тры смяротныя прысуды, адзін з асуджаных да смяротнага пакарання да канца года знаходзіўся ў СІЗА МУС № 1 у чаканні выканання прысуду;

— на працягу года ў дзяржаўных СМІ і органах кіравання актыўна вялася дыскусія аб неабходнасці ўвядзення адказнасці для непрацуючых асоб і аб магчымасці прымусовага прыцягнення гэтай катэгорыі грамадзян да працы, што ў сукупнасці з ужо існуючымі элементамі прымусовай працы ў краіне сведчыць аб працягу практыкі парушэнняў сацыяльных і эканамічных правоў грамадзян;

— Беларусь працягвала палітыку ігнаравання міжнародных абавязацельстваў і механізмаў у галіне абароны правоў чалавека ААН.

## I. Сусветныя выклікі праваабарончай дзейнасці

Увесь 2014 год прайшоў пад знакам сур'ёзных геапалітычных зменаў, якія аказалі ўплыў як на міжнародны кантэкст у цэлым, так і на ўнутрыпалітычную сітуацыю ў Беларусі. Агрэсія Расійскай Федэрацыі супраць Украіны, акупацыя і анэксія Крыма стала сур'ёзным выклікам для ўсёй постсавецкай прасторы, Еўропы і ўсяго свету. Упершыню пасля распаду СССР адна з краін-гарантаў незалежнасці і тэрытарыяльнай цэласнасці Украіны паводле Будапешцкага мемарандума распачала вайсковую агрэсію супраць гэтай краіны. Анэксія часткі тэрыторыі, непрыхаванае ўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы Украіны з боку Расіі садзейнічалі распальванню вайсковага канфлікту на паўднёвым усходзе краіны, паставіўшы пад пагрозу яе тэрытарыяльную цэласнасць, прывялі да гібелі тысяч людзей, дэстабілізавалі сітуацыю ва ўсім постсавецкім рэгіёне і выклікалі міжнародны крызіс.

Падзеі ў суседняй дзяржаве моцна адбіліся на стане грамадства ў Беларусі, вялікая частка якога знаходзіцца пад уплывам прапаганды расійскіх СМІ. Сацыёлагамі адзначалася падзенне праеўрапейскіх настрояў у беларускім грамадстве і, адпаведна, рост прарасійскіх, узмацненне попыту на ідэю «моцнай улады» і аўтарытарнага тыпу лідараў. Гэтыя тэндэнцыі мелі безумоўна негатыўныя наступствы як для магчымасцяў папулярызацыі ідэй правоў чалавека, так і праваабрончай дзейнасці на ўсёй постсавецкай прасторы і ў Беларусі, у прыватнасці.

Ідэі рэвізіі прынцыпаў універсальнасці правоў чалавека, замацаваных ва Усеагульнай дэкларацыі, усё часцей загучалі ў рыторыцы кіраўнікоў шэрагу постсавецкіх і іншых краін. Прычым, як правіла, у кантэксце антызаходняй рыторыкі ў цэлым. Правы чалавека абвяшчаюцца вынаходніцтвам выключна заходняй цывілізацыі, чужымі і нават варожымі, разбураючымі «традыцыйныя каштоўнасці», уяўляючымі пагрозу для «асаблівых і духоўных цывілізацый». Пасля крызісу ва Украіне антызаходняя рыторыка, найперш у расійскіх СМІ, значна ўзрасла.

Беларусь не стала выключэннем з гэтага кантэксту. Натуральна, што праваабарончая дзейнасць у такім дыскурсе гучыць выключна ў негатыўным кантэксце, прадстаўляецца як варожая і антыдзяржаўная, а праваабаронцы — як агенты чужога ўплыву ці наогул агенты «сусветнай ліберальнай змовы», «замежныя агенты ці пятая калона».

Паказальным у сувязі з гэтым з'яўляецца выступ міністра замежных спраў Беларусі Уладзіміра Макея на сесіі Генеральнай Асамблеі ААН у Нью-Ёрку 30 верасня 2014 года. Ён, у прыватнасці, адзначыў:

«Динамику современной мировой политики, безусловно, определяет множество факторов. В качестве одного из определяющих мы выделили

бы сопротивление большинства населения на планете навязыванию им чего-либо извне. Действительно, как и в прошлом, «сильные мира сего» продолжают считать, что именно их видение и модель развития являются универсальными. Они и не спрашивают у остальных, нравятся ли им, например, так называемая «либеральная демократия» или Вашингтонский консенсус. Остальных просто ставят перед выбором — принимайте «рецепты» или готовьтесь к последствиям — угрозам, санкциям, «цветным революциям».

Честно говоря, мы — большинство — уже привыкли к тому, что нам навязывают чуждые политические и экономические модели. Мы четко понимаем, для чего это делается. Кто-то хочет, чтобы наши народы кормили не самих себя, а транснациональный корпоративный капитал. Если мы сопротивляемся, нас наказывают. Предлог всегда надуманный — «нарушение прав человека» в непокорных государствах.

Беларусь, Венесуэла, Иран и Куба, будучи предметом нападок извне, на протяжении многих лет ощущают подобное давление особо остро.

Не менее опасно, однако, и нечто другое. В последнее время такие попытки насаждения стали предприниматься уже и в отношении нашей идентичности. Нам все более настойчиво стараются навязать чуждые культурные предпочтения.

В частности, нас заставляют отказаться от ценностей традиционной семьи и вместо них признать многообразие форм этого института. Иными словами, нас пытаются лишить нашей собственной «души». Это иной способ подчинить капиталу неугодных, сделав их «бездушными» рабами».

Дадзеная рыторыка насамрэч з'яўляецца нічым іншым, як спробай апраўдання фактаў парушэння правоў чалавека і адсутнасці дэмакратыі нейкім «навязваннем» звонку, а таксама спробай рэвізіі прынцыпаў універсальнасці правоў чалавека. Характэрным таксама для такога кшталту рыторыкі з'яўляецца ўжыванне танных прапагандысцкіх клішэ аб нібыта існуючай пагрозе інстытуту і каштоўнасцям традыцыйнай сям'і. Вельмі часта такая рыторыка з'яўляецца апраўданнем дыскрымінацыйных практык і законаў, якія супярэчаць асноўным міжнародным актам у галіне абароны правоў чалавека.

Другім сур'ёзным выклікам для праваабаронцаў, які з'явіўся ў выніку крызісу ва Украіне, стаў паступовы пераход свету да «мовы халоднай вайны».

Як паказвае наша мінулае, існаванне двухпалярнага свету адыграла адмоўную ролю ў кантэксце правоў чалавека і іх абароны, паколькі вельмі часта прыводзіла да таго, што геапалітычныя перавагі былі куда больш важнымі, чым пытанні захавання правоў чалавека ў той ці іншай краіне

свету. Так, ЗША аказвалі падтрымку вайсковым хунтам у краінах Цэнтральнай і Паўднёвай Амерыкі, нягледзячы на масавыя парушэнні там правоў чалавека, толькі па прычыне «абароны» гэтых краін ад камуністычнай пагрозы. СССР, у сваю чаргу, безумоўна закрываў вочы на факты парушэння правоў чалавека ў краінах, якія сталі «на шлях будаўніцтва сацыялізму». Абодва сусветныя полюсы выкарыстоўвалі праваабарончую рыторыку выключна ў сваіх палітычных мэтах — як сродак палітычнага ціску і дэманстрацыі пераваг аднаго палітычнага ладу над іншым.

Ва ўмовах сённяшняга крызісу мы бачым сур'ёзную пагрозу пераходу часткі краін Захаду менавіта да падобных падыходаў да праваабарончай праблематыкі. Дадзеная пагроза заключаецца ў тым, што пытанні ацэнкі фактаў парушэння правоў чалавека ў той ці іншай краіне будуць рабіцца з улікам геапалітычных перавагаў гэтай краіны і палітыкі замоўчвання і заплюшчвання вачэй на відавочныя факты грубых парушэнняў у краінах, якія стаяць на выгодных для заходніх краін палітычных пазіцыях. Пры такіх абставінах будзе назірацца аддаленне ад каштоўнаснага падыходу да правоў чалавека на карысць геапалітычнай мэтазгоднасці.

Акрамя таго, існаванне краіны ва ўмовах халоднай вайны заўсёды дае магчымасць абгрунтавання тых ці іншых парушэнняў і абмежаванняў правоў чалавека неабходнасцю абароны нацыянальнай бяспекі і тэрытарыяльнай цэласнасці.

## II. Палітычна матываваны пераслед: асноўныя тэндэнцыі года

На працягу года адзначалася зніжэнне агульнай колькасці выпадкаў крымінальнага пераследу па палітычных матывах у параўнанні з папярэднімі гадамі. Аднак праблема наяўнасці палітвязняў у турмах так і не атрымала свайго поўнага вырашэння.

Усе вызваленні палітвязняў на працягу года былі звязаныя выключна са сканчэннем тэрмінаў іх зняволення. Адзіным выключэннем стаў нечаканы выхад на волю з Бабруйскай калоніі старшыні ПЦ «Вясна» і віцэ-прэзідэнта FIDH Алеся Бяляцкага, які быў вызвалены ў першы дзень уступлення ў сілу Закона «Аб амністыі». Дадзенае вызваленне з'яўлялася выключна палітычным рашэннем беларускіх уладаў, паколькі дзеянне амністыі не распаўсюджвалася на Алеся Бяляцкага ў сувязі з устаноўленым яму адміністрацыяй папраўчай установы статусам злоснага парушальніка рэжыму і накладзенымі на яго дысцыплінарнымі спагнаннямі. Вызваленне Алеся Бяляцкага ўлады Беларусі выкарысталі ў мэтах інтэнсіфікацыі кантактаў з ЕС і ЗША.

Аднак вызваленне праваабаронцы не стала станоўчай тэндэнцыяй па вызваленні ўсіх палітвязняў. На заканчэнне года ў турмах і месцах абме-

жавання волі працягвалі знаходзіцца шасцёра палітзняволеных: Мікалай Статкевіч, Мікалай Дзядок, Ігар Аліневіч, Арцём Пракапенка, Яўген Васьковіч і Юрый Рубцоў.

Беларускія ўлады працягвалі палітыку непрызнання наяўнасці палітвязняў і не дэманстравалі гатоўнасць да вырашэння гэтай праблемы.

Самі палітвязні неаднаразова заяўлялі аб аказанні ціску на іх як непасрэдна з боку адміністрацый папраўчых установаў, так і праз іншых зняволеных. Варта адзначыць, што практычна ўсе палітычныя зняволеныя на працягу свайго ўтрымання ў месцах пазбаўлення волі неаднаразова прыцягваліся да дысцыплінарнай адказнасці, падвяргаліся ізаляцыі ў ШЫЗА (штрафны ізалятар) і ПКТ (памяшканне камернага тыпу). Мікалай Статкевіч, Мікалай Дзядок і Яўген Васьковіч працягвалі адбываць тэрмін у турмах, куды яны былі пераведзены па рашэннях судоў у сувязі з заменай рэжыму адбыцця пакарання на больш жорсткі. Да канца года Яўген Васьковіч адбыў максімальны трохгадовы тэрмін знаходжання ў турме і ў кастрычніку быў пераведзены ў папраўчую калонію г. Магілёва. У Мікалая Статкевіча турэмны тэрмін заканчваецца ў сярэдзіне студзеня 2015 года.

У сакавіку 2015 года з Магілёўскай турмы ў сувязі з заканчэннем тэрміну адбыцця пакарання на волю павінен быў выйсці Мікалай Дзядок, але ў лістападзе стала вядома пра ўзбуджэнне ў дачыненні да яго новай крымінальнай справы па арт. 411 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы, якая выконвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі). Падставай для ўзбуджэння крымінальнай справы сталі ранейшыя выпадкі прыцягнення М. Дзядка да дысцыплінарнай адказнасці адміністрацыяй папраўчай установы. Трэба адзначыць, што праваабарончыя арганізацыі выступаюць за адмену дадзенага артыкула Крымінальнага кодэкса, аналагаў якому няма ў заканадаўстве суседніх краін, у сувязі з магчымасцю селектыўнага яго ўжывання адміністрацыямі папраўчых установаў да няўгодных вязняў і магчымасцямі шырокага яго трактавання. Гэта другі выпадак выкарыстання дадзенага артыкула ў дачыненні да палітвязняў. У 2012 годзе па гэтым артыкуле да года пазбаўлення волі быў асуджаны Дзмітрый Дашкевіч. Суд над ім адбываўся на тэрыторыі калоніі практычна ў закрытым рэжыме.

Узбуджэнне новай крымінальнай справы ў дачыненні да Мікалая Дзядка напярэдадні вызвалення яскрава прадэманстравала палітычную матывацыю ягонага пераследу. Рашэнне аб працягненні тэрміну зняволення палітвязня, відавочна, прымалася ўладамі з улікам прэзідэнцкіх выбараў 2015 года.

Моцны рэзананс атрымала затрыманне прадстаўнікамі КДБ журналіста і аглядальніка тыднёвіка «Белорусы и рынок» Аляксандра Алесіна. Ён

быў затрыманы ў адной з кавярняў Мінска 25 лістапада падчас сустрэчы і нібыта перадачы матэрыялаў, якія складаюць дзяржаўную таямніцу прадстаўніку адной з амбасадаў краіны ЕС у Беларусі. А. Алесін быў затрыманы па падазрэнні ва ўчыненні злачынства па арт. 356 Крымінальнага кодэкса (здрада Радзіме) і змешчаны ў СІЗА КДБ у г. Мінску. Пры гэтым сам КДБ на працягу тэрміну знаходжання А.Алесіна ў СІЗА ніяк не каментаваў затрыманне і не прадастаўляў інфармацыю аб месцы знаходжання і працэсуальным статусе журналіста. Аляксандр Алесін спецыялізуецца на тэме вайсковага супрацоўніцтва Беларусі, у тым ліку з Расійскай Федэрацыяй. Усе ягоныя матэрыялы грунтуюцца выключна на адкрытых крыніцах і размяшчаюцца для публічнага доступу на старонках газеты «Белорусы и рынак», а таксама на сайтах незалежнага інфармацыйнага агенства «БелаПАН». У выніку розгаласу і хуткай рэакцыі журналісцкай і праваабарончай супольнасці як у Беларусі, так і па-за яе межамі, Аляксандр Алесін быў вызвалены з-пад варты 10 снежня, а абвінавачанне ў дачыненні да яго было перакваліфікавана з арт. 356 на арт. 356.1 (устанаўленне супрацоўніцтва з органамі замежнай выведкі без прыкмет здрады Радзіме). Дадзены артыкул прадугледжвае максімальную санкцыю ў выглядзе 2 гадоў пазбаўлення волі і таму, згодна з нормамі Крымінальна- працэсуальнага кодэкса, не прадугледжвае меру стрымання ў выглядзе ўтрымання пад вартай. А. Алесіна быў вызвалены пад падпіску аб нявыездзе. Следства па дадзенай справе да канца года не было завершана, але, на думку праваабаронцаў, справа мае сумнеўную далейшую перспектыву.

З 22 снежня гомельскі грамадскі актывіст Юрый Рубцоў пачаў адбываць пакаранне ў папраўчай установе адкрытага тыпу №7 у вёсцы Куплін Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці. 6 кастрычніка ён быў асуджаны судом Цэнтральнага раёна Мінска па арт. 391 Крымінальнага кодэкса (знявага суддзі ці народнага засядацеля) на 1 год і 6 месяцаў абмежавання волі з накіраваннем ва ўстанову адкрытыга тыпу. Крымінальны пераслед Юрыя Рубцова звязаны з ягоным адвольным затрыманнем 28 красавіка 2014 года падчас санкцыянаванага мірнага сходу «Чарнобыльскі шлях» за майку з надпісам «Лукашенко, уходи!» і асуджэннем на 25 сутак адміністрацыйнага арышту суддзёй суда Савецкага раёна Мінска Кірылам Палулехам. Згодна з прад'яўленым Юрыю Рубцову абвінавачваннем, падчас судовага разбіральніцтва ён дапусціў абразлівыя выказванні ў адрас суддзі Кірыла Палулеха. У суд Юры Рубцоў быў дастаўлены аголены па пояс, у выглядзе, які абражаў ягоную чалавечую годнасць, а суддзя пры гэтым не прыняў ніякіх мер, скіраваных на абарону ягоных правоў, а таксама не адрэагаваў на ягоныя просьбы выдаць яму акуляры для азнаямлення з матэрыяламі справы. Дзеянні суддзі відавочна супярэчылі Кодэксу Рэспублікі Беларусь «Аб судаўладкаванні і статусе

суддзяў», а таксама Кодэксу гонару суддзі Рэспублікі Беларусь. У сувязі з грубым парушэннем сваіх правоў Юрый Рубцоў выказаў незадаволенасць і пратэст, назваўшы падобныя судовыя працэсы «судзілішчам», а суддзяў, якія выносяць незаконныя судовыя рашэнні, «падонкамі». Дадзеныя словы былі інтэрпрэтаваныя як выказванні, скіраваныя персанальна ў адрас суддзі К. Палулеха, пры гэтым заўвагі Юрыя Рубцова да пратакола судовага паседжання, накіраваныя ім у суд, былі адхіленыя гэтым жа суддзёй, як неабгрунтаваныя. У аснову вынесенага прысуду былі пакладзены выключна паказанні супрацоўнікаў міліцыі (у тым ліку тых, якія «сведчылі» на працэсе 28 красавіка), сакратара судовага паседжання і самога суддзі К. Палулеха. Ні падчас папярэднягя следства, ні падчас судовага разбіральніцтва дадзенай крымінальнай справы не быў дапытаны як сведка адвакат Юрыя Рубцова, які ўдзельнічаў падчас разгляду справы 28 красавіка ў якасці ягонага абаронцы. Ніякіх працэсуальных перашкодаў да допыту адваката ў якасці сведкі згодна з дзеючым Крымінальна-працэсуальным заканадаўствам не было.

Выпадак з Юрыем Рубцовым яскрава падкрэсліў праблему адвольных затрыманняў. На працягу 2014 года ўлады актыўна выкарыстоўвалі такі від рэпрэсій у дачыненні да грамадска-палітычных актывістаў. Асабліва паказальным стала кампанія адвольных затрыманняў напярэдадні Чэмпіяната свету па хакеі. Усяго, па дадзеных Праваабарончага цэнтра «Вясна», адвольным затрыманням і арыштам было падвергнута 38 грамадска-палітычных актывістаў. Характэрна, што большасць з іх затрымліваліся міліцыяй па месцы жыхарства (дома ці на вуліцы) і абвінавачваліся адразу па двух артыкулах КаАП —17.1 (дробнае хуліганства) і 23.4 (непадпарадкаванне законным патрабаванням супрацоўнікаў міліцыі). Гэта дазваляла ізаляваць іх на значныя тэрміны — да 25 сутак.

Напярэдадні Чэмпіянату свету адвольным затрыманням і арыштам былі падвергнуты і іншыя катэгорыі грамадзян — гэтак званыя «асацыяльныя элементы» (асобы з алкагольнай залежнасцю, без пэўнага месца жыхарства, прастытуткі). Мінскія ўлады яшчэ да пачатку Чэмпіянату адкрыта заяўлялі ў СМІ аб намерах правядзення кампаніі па «ачыстцы» вуліц горада. Агульная колькасць асоб, ізаляваных у гэты перыяд у ЛПП (лячэбна-працоўны прафілакторый), ЦІП (цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў) і іншыя месцы прымусовага ўтрымання, невядомая, аднак, па сведчаннях асоб, якія адбывалі адміністрацыйныя арышты ў гэты перыяд часу, ЦІП г. Мінска быў перапоўнены арыштаванымі, і іх прыходзілася вывозіць у ІЧУ (ізалятар часовага ўтрымання) г. Жодзіна.

Адвольныя затрыманні набылі сістэматычны характар і выкарыстоўваюцца ў якасці рэпрэсій і ціску на грамадзян, якія выяўляюць грамад-

ска-палітычную актыўнасць. Паказальным прыкладам з'яўляецца сітуацыя з Паўлам Вінаградавым. Ён быў асуджаны за «масавыя беспарадкі» 19 снежня 2010 на пл. Незалежнасці ў Мінску і вызвалены ў жніўні 2011 года паводле працэдуры памілавання, дагэтуль знаходзіцца пад прывентыўным наглядам, устаноўленым у дачыненні да яго судом. Павел Вінаградаў рэгулярна на працягу года прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці напярэдадні значных грамадскіх падзей. Нагодай для пераследу заўсёды з'яўліўся аднатыпныя пратаколы аб нібыта «нецэнзурнай лаянцы» ў грамадскіх месцах, непадпарадкаванні патрабаванням супрацоўнікаў міліцыі. Сведкамі на судах выступалі выключна супрацоўнікі міліцыі, і выключна іх паказанні клаліся ў аснову судовых пастаноў. Агулам Павел Вінаградаў правёў у месцах прымусовага ўтрымання каля двух месяцаў. У снежні ён быў вымушаны з'ехаць у г. Беразіно, дзе пражывае ягоны бацька, у адваротным выпадку супрацоўнікі міліцыі пагражалі яму накіраваннем у ЛТП.

Усяго за 2014 год Праваабарончым цэнтрам «Вясна» былі зафіксаваны 253 факты адміністрацыйных затрыманняў (172 у 2013 г.), 162 справы былі разгледжаныя судамі (111 судовых працэсаў у 2013 г.), у 104 выпадках быў вынесены адміністрацыйны арышт (усяго арыштам было падвергнута 88 чалавек, некаторыя — два і болей разоў, у 2013 г. — 59 чалавек), 57 аштрафаваны (52 чалавекі ў 2013 г.) За парушэнне парадку арганізацыі і ўдзелу ў масавых мерапрыемствах (арт. 23.34 КаАП РБ) былі прыцягнутыя да адказнасці 53 чалавекі.

Павелічэнне агульнай колькасці адміністрацыйных затрыманняў і арыштаў у 2014 годзе ў параўнанні з 2013 годам можна патлумачыць двума чыннікамі, якія аказалі ўплыў на агульны узровень рэпрэсій: выбары ў мясцовыя Саветы і правядзенне Чэмпіянату свету па хакеі ў Мінску.

Асобна варта адзначыць выпадкі прыцягнення грамадзян да адказнасці за рэалізацыю права на мірныя сходы і выказванне меркаванняў. Дзеючы Закон «Аб масавых мерапрыемствах» робіць фактычна немагчымым рэалізацыю на практыцы свабоды мірных сходаў. Нават такія традыцыйныя шэсці апазіцыйных сіл, як «Чарнобыльскі шлях», «Дзяды», якія праходзілі з санкцыі Мінгарвынкама, заканчваліся затрыманнямі і прыцягненнем да адміністрацыйнай адказнасці ўдзельнікаў і арганізатараў. Так, арганізатар шэсцяў у месцы масавых пахаванняў ахвяр сталінскіх рэпрэсій, намеснік старшыні КХП-БНФ Юрась Беленькі тройчы быў падвергнуты штрафам па абвінавачанні ў парушэнні парадку арганізацыі гэтых шэсцяў. Пры гэтым акцыі прайшлі ў поўнай адпаведнасці з дазволам Мінгарвыканкама і не суправаджаліся парушэннямі грамадскага парадку. У віну Юрыю Беленькаму ставілася тое, што ён не ўзгадніў з мі-

ліцыяй меры па забеспячэнні грамадскага парадку падчас правядзення масавых мерапрыемстваў. Разам з тым, забеспячэнне грамадскага парадку падчас правядзення мірных сходаў і саміх дэманстрантаў з'яўляецца выключнай прэрыгатывай органаў міліцыі. Яшчэ абсурдней выглядалі выпадкі прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці ўдзельнікаў фотасесій. Так, у Віцебску пасля размяшчэння фотаздымкаў у інтэрнэце 7 удзельнікаў былі абвінавачаны ў правядзенні несанкцыянаванага пікета і пакараны штрафамі і арыштам.

## III. Праваабарончая дзейнасць: тэндэнцыі і выклікі

Для праваабарончай супольнасці ў 2014 годзе важнай падзеяй стаў выхад на волю па амністыі старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» і віцэ-прэзідэнта FIDH Алеся Бяляцкага. Вызваленне стала вынікам ціску на ўлады Беларусі з боку ЕС, ЗША, міжнародных арганізацый, а таксама небывалай хвалі салідарнасці з боку праваабрончай супольнасці ўсяго свету. У падтрымку Алеся Бяляцкага выказваліся такія сусветна вядомыя дзеячы, як Аун Сан Су Чжы і Вацлаў Гавал, зняволены праваабаронца некалькі разоў вылучаўся на Нобелеўскую прэмію міра і ўваходзіў у шот-ліст, а таксама за тры гады ў зняволенні Алесь стаў лаўрэатам некалькіх прэстыжных міжнародных прэмій. Усе гэтыя абставіны ў сукупнасці, безумоўна, паўплывалі на рашэнне беларускіх уладаў аб вызваленні Алеся Бяляцкага на паўтары гады раней да заканчэння тэрміну ягонага ўвязнення.

У кастрычніку Камітэт па правах чалавека ААН прыняў рашэнне па справе Алеся Бяляцкага, згодна з якім было ўстаноўлена парушэнне Рэспублікай Беларусь ягоных правоў, прадугледжаных арт. 9 (права на свабоду і асабістую недатыкальнасць), арт. 14 (права на справядлівае судовае разбіральніцтва) і арт. 22 (свабода асацыяцый) Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах. У рашэнні Камітэта адзначаецца, што пасля таго, як у 2003 годзе Праваабарончы цэнтр «Вясна» быў пазбаўлены дзяржаўнай рэгістрацыі, яго заснавальнікі тройчы (у 2007, 2009 гг.) звярталіся ў Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь з заявамі аб рэгістрацыі, але дзяржава тройчы адмовіла ім у гэтым, пазбавіўшы такім чынам магчымасці адкрываць рахункі для прыцягнення фінансавання дзейнасці аб'яднання. Па меркаванні Камітэта, парушэннем свабоды асацыяцый з'яўляюцца адмовы ў дзяржаўнай рэгістрацыі Праваабарончага цэнтра «Вясна», прынятыя толькі на падставе таго, што ў пададзеных дакументах меліся нязначныя неадпаведнасці патрабаванням Міністэрства юстыцыі, якія маглі б быць выпраўлены пры прадастаўленні рэгіструючым органам такой магчымасці заснавальнікам. Адмовы ў рэгістрацыі прывялі да забароны дзейнасці арганізацыі на тэрыторыі Беларусі і

стварылі перашкоды ў рэалізацыі яе сябрамі сваіх правоў. Прысуд Алеся Бяляцкага да пазбаўлення волі за дзеянні, звязаныя з атрыманнем і расходваннем сродкаў на фінансаванне арганізацыі, якую ён узначальваў, стаў прамым следствам парушэння свабоды асацыяцый. Пры разглядзе справы беларускія суды адверглі доказы таго, што сродкі прызначаліся і выкарыстоўваліся менавіта на ўказаныя мэты, і не разглядалі справу з пункту гледжання гарантый права на свабоду асацыяцый. У гэтых варунках прыцягненне Алеся Бяляцкага да крымінальнай адказнасці Камітэт расцаніў як парушэнне гэтага права.

Дадзенае рашэнне стала важным не толькі для сяброў Праваабарончага цэнтра «Вясна» і самога Алеся Бяляцкага, але і іншых краін свету, дзе ўлады працягваюць практыку прыцягнення да крымінальнай адказнасці праваабаронцаў, у тым ліку ў сувязі з атрыманнем фінансавання на мэты дзейнасці арганізацый.

У дачыненні да Праваабарончага цэнтра «Вясна» ўлады Беларусі на працягу года ад тактыкі прамых ці ўскосных рэпрэсій, характэрных для 2010-12 гг., перайшлі да поўнага ігнаравання арганізацыі. Усе мерапрыемствы, якія арганізоўваліся ў Беларусі міжнароднымі арганізацыямі (ААН, Рада Еўропы і інш. ) з удзелам МЗС і няўрадавых арганізацый, адбываліся без удзелу прадстаўнікоў Праваабарончага цэнтра «Вясна». Не сталі выключэннем і кансультацыі, якія праводзіліся ў межах падрыхтоўкі да працэдуры Універсальнага перыядычнага агляду, на якія былі запрошаны прадстаўнікі шэрагу зарэгістраваных арганізацый (БАЖ, БХК, Цэнтр прававой трансфармацыі і інш.). Пры гэтым Праваабарончы цэнтр «Вясна» прымаў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы альтэрнатыўнага даклада ў Савет па правах чалавека ААН у межах працэдуры УПА, актыўна працуе з іншымі механізмамі ААН.

Былі зафіксаваны кропкавыя індывідуальныя рэпрэсіі ў адносінах да праваабаронцаў. Так, 30 кастрычніка аддзелам па грамадзянству і міграцыі Першамайскага РУУС г. Мінска было прынятае рашэнне аб ануляванні віда на жыхарства кіраўніка Цэнтра прававой трансфармацыі «Lawtrend» Алены Танкачовай, а 5 лістапада — аб яе высылцы з Беларусі тэрмінам на тры гады. Нагодай для прыняцця такога рашэння сталі пяць выпадкаў прыцягнення А. Танкачовай да адміністрацыйнай адказнасці за парушэнні правіл дарожнага руху (відэафіксацыя перавышэння дазволенай хуткасці руху аўтамабіля, зарэгістраванага на імя праваабаронцы). Пры гэтым Алена Танкачова пражывае ў Беларусі на працягу амаль 30 гадоў, мае ў Беларусі нерухомасць, дачку — грамадзянку Рэспублікі Беларусь. Праваабарончая супольнасць Беларусі расцаніла гэтыя дзеянні ўладаў як палітычна матываваныя і звязаныя з актыўнай праваабарончай дзейнасцю Танкачовай.

Уцэлым магчымасці для дзейнасці праваабарончых арганізацый у краіне не змяніліся і заставаліся моцна абмежаванымі. Як і раней, атрыманне дзяржаўнай рэгістрацыі праваабарончым арганізацыям было фактычна немагчымым, а дзейнасць незарэгістраваных заставалася крыміналізаванай. Захоўвалася праблема, датычная атрымання ўнутранага і замежнага фінансавання на дзейнасць арганізацый: з 2011 года парушэнне парадку атрымання замежнай бязвыплатнай дапамогі было крыміналізавана.

## IV. Свабода слова

Самай істотнай падзеяй у галіне свабоды слова сталі змены і дапаўненні ў Закон «Аб сродках масавай інфармацыі», якія былі прынятыя Палатай прадстаўнікоў у аўральным парадку 17 снежня без публічнага абмеркавання з грамадскасцю і журналісцкай супольнасцю. Як сказала міністр інфармацыі Лілія Ананіч, прадстаўляючы змены ў закон, «у гадзіну «ч» усе павінны працаваць на дзяржаву, не супраць яе».

Згодна з прынятымі зменамі, дзеянне закона аб СМІ распаўсюджана на ўсе інтэрнэт-выданні, за выключэннем патрабаванняў аб абавязковай дзяржаўнай рэгістрацыі. Міністэрства інфармацыі атрымала магчымасць блакавання інтэрнэт-сайтаў у пазасудовым парадку. На думку прадстаўнікоў незалежнай журналісцкай супольнасці і праваабаронцаў, новыя палажэнні закона ствараюць магчымасць татальнай цэнзуры інтэрнэт-прасторы.

Яшчэ ад пачатку дзеяння заканадаўчых новаўвядзенняў (з 1 студзеня 2015 года), пачынаючы з 19 снежня, цэлы шэраг незалежных інтэрнэт-выданняў быў заблакаваны для доступа карыстальнікаў у Беларусі. Сярод такіх сайтаў аказаліся belapan.com, belepen.by, naviny.by, belaruspartisan.org, charter97.org, udf.by, gazeta.by, zautra.by. Пры гэтым дзяржаўныя органы адмаўлялі сваю датычнасць да блакавання.

Яшчэ адзін са шляхоў барацьбы з распаўсюдам непажаданай інфармацыі агучыў міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч падчас нарады, прысвечанай узмацненню барацьбы з распаўсюдам наркотыкаў. Ён адзначыў, што лічыць неабходным цалкам забараніць доступ да ўсіх сайтаў, якія знаходзяцца ў спісе абмежаванага доступу. Пры гэтым у спісе абмежаванага доступу акрамя сайтаў, якія займаюцца продажам наркатычных сродкаў і распаўсюджваюць парнаграфію, знаходзяцца шэраг незалежных сайтаў, у тым ліку charter97.org, belaruspartisan.org, spring96.org і інш. Сайт Праваабарончага цэнтра «Вясна» spring96.org быў унесены ў спіс абмежаванага доступу па рашэнні Генеральнай пракуратуры ў жніўні 2011 г. у сувязі «з прапагандай дзейнасці, забароненай заканадаўствам», што, на думку Генпракуратуры, выражаецца ў размяшчэнні інфармацыі

аб дзейнасці Праваабарончага цэнтра «Вясна», які не прайшоў абавязковай дзяржаўнай рэгістрацыі. Праваабаронцы спрабавалі абскардзіць дадзенае рашэнне Генеральнай пракуратуры ў судовым парадку, але суд Цэнтральнага р-на г. Мінска спыніў вытворчасць па справе, аргументаваўшы яе непадведамаснасцю суду.

Адной з выразных негатыўных тэндэнцый года стаў маштабны пераслед незалежных журналістаў, якія супрацоўнічаюць з замежнымі СМІ без акрэдытацыі. Пры гэтым улады неаднаразова адмаўлялі ў акрэдытацыі сродкам масавай інфармацыі, за супрацоўніцтва з якімі вынесена найбольш спагнанняў: «Беларускаму Радыё Рацыя» і сатэлітнаму тэлеканалу «Белсат». Найбольш шырока выкарыстоўваліся наступныя формы ціску і пераследу журналістаў: афіцыйныя пракурорскія папярэджанні аб недапушчальнасці парушэння заканадаўства аб СМІ і адміністрацыйная адказнасць за «незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ».

Наступ на свабоду слова і незалежныя СМІ, у тым ліку на інтэрнэт-сайты, па меркаванні журналісцкай і праваабарончай супольнасці, звязаны з прэзідэнцкімі выбарамі, якія павінны адбыцца ў 2015 годзе.

## V. Праблема смяротнага пакарання

На працягу 2014 года ў Беларусі былі прыведзены ў выкананне тры смяротныя прысуды ў дачыненні да асуджаных Рыгора Юзэпчука, Аляксандра Грунова і Паўла Селюна. Яшчэ адзін асуджаны да смяротнага пакарання — Эдуард Лыкаў да канца года знаходзіўся ў камеры смяротнікаў СІЗА МУС № 1 г. Мінска ў чаканні вынікаў разгляду ягонага прашэння аб памілаванні на імя прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Вялікую занепакоенасць выклікае той факт, што смяротныя прысуды ў дачыненні да Паўла Селюна і Аляксандра Грунова былі прыведзеныя ў выкананне пасля рэгістрацыі індывідуальных зваротаў асуджаных у КПЧ ААН і пачатку працэдуры № 92, пра што пісьмова быў праінфармаваны ўрад Беларусі. За апошнія гады ўсяго налічваецца 6 выпадкаў прывядзення прысудаў у выкананне насуперак працэдурам КПЧ ААН (В. Кавалёў, А. Жук, В. Юзэпчук, А. Бурдыка, А. Грышкавец, П. Сялюн, А. Груноў). Дадзеная практыка сведчыць аб грубым ігнараванні Рэспублікай Беларусь узятых на сябе міжнародных абавязацельстваў у галіне правоў чалавека. 1 снежня КПЧ ААН выказаў сур'ёзную заклапочанасць тым, што Рэспубліка Беларусь прывяла ў выкананне смяротны прысуд ў дачыненні да асобы, скарга якога знаходзілася на разглядзе Камітэта (выкананне смяротнага прысуду А. Грунова): «Пазіцыя Камітэта пра правах чалавека адносна незадавальнення просьбы Камітэта аб прыняцці часовых мер абароны дзеля пазбягання непапраўнай шкоды застаецца нязменнай»,

заявіў сэр Найджэл Родлі, старшыня Камітэта. Ён падкрэсліў, што Беларусь не першы раз прыводзіць у выкананне смяротны прысуд у дачыненні да заяўнікаў, чые зарэгістраваныя справы знаходзяцца на стадыі разгляду. «Гэта ўяўляе сабой сур'ёзнае парушэнне Беларуссю сваіх міжнародна-прававых абавязацельстваў», — адзначыў сэр Найджэл.

Варта дадаць, што ў двух выпадках па індывідуальных зваротах пакараных смерцю на момант разгляду зваротаў КПЧ ААН было ўстаноўлена парушэнне Рэспублікай Беларусь арт. 6 МПГПП — права на жыццё.

Нязменнай крытыцы з боку беларускіх праваабаронцаў падвяргалася і сама працэдура прывядзення ў выкананне смяротных прысудаў. У прыватнасці, нявыдача цела пакаранага і неўказанне месца яго пахавання блізкім. Такія працэдуры неаднаразова прызнаваліся КПЧ ААН жорсткім і бесчалавечным абыходжаннем адносна родных пакараных смерцю.

Неднаразова сваякі пакараных ініцыявалі змяненне дадзеных палажэнняў Крымінальна-выканаўчага кодэкса Рэспублікі Беларусь, але ўсе гэтыя спробы былі безвыніковымі. Вельмі своеасаблівa ўладамі Беларусі былі інтэрпрэтаваны просьбы сваякоў пакараных смерцю аб выдачы іх асабістых рэчаў. На працягу 2014 года было зафіксавана два выпкадкі, калі родным пакараных — Паўла Селюна і Аляксандра Грунова — адміністрацыяй СІЗА №1 былі дасланы турэмныя робы з надпісам ИМН (исключительная мера наказания). Менавіта ў такіх робах знаходзяцца прыгавораныя да смяротнага пакарання ў СІЗА ў чаканні прывядзення прысуду ў выкананне. Такога кшталту дзеянні дастаўляюць дадатковыя пакуты сваякам расстраляных і таксама з'яўляюцца жорсткім і бесчалавечным абыходжаннем.

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Студзень 2014 года

У студзені захоўвалася стабільна кепская сітуацыя з правамі чалавека з тэндэнцыяй да кансервавання негатыўных практык, якія складаліся на працягу апошняга часу. Не адбывалася пазітыўных зменаў ні на заканадаўчым узроўні, ні на правапрымяняльным. Магчымасці рэалізацыі правоў грамадзянамі былі моцна абмежаваныя, асабліва гэта датычылася сферы свабоды выказвання меркаванняў рознай тэматыкі, у тым ліку — шляхам правядзення публічных акцый. Ніводзін з заяўленых па ўсёй краіне мірны сход не быў дазволены мясцовымі ўладамі, а несанкцыянаваныя мерапрыемствы спыняліся гвалтоўнымі метадамі з далейшым прыцягненнем удзельнікаў да адміністрацыйнай адказнасці. Практыка прэвентыўнага і рэпрэсіўнага спынення любога іншадумства, непадкантрольных уладам ініцыятыў грамадзян, праяў салідарнасці, шырокага агучвання праблемных пытанняў спрыяла зніжэнню публічнай актыўнасці грамадзян. Працягвалася выкарыстанне такога інструменту ціску, як вынясенне пракурорскіх папярэджанняў за дзейнасць ад імя незарэгістраваных арганізацый, пры гэтым легалізацыя грамадскіх ініцыятыў шляхам рэгістрацыі органамі юстыцыі для незалежных арганізацый заставалася немагчымай з розных фармальных ці надуманых падстаў.

Нявырашанай заставалася самая вострая праблема — наяўнасць палітычных зняволеных. Беларускія ўлады па-ранейшаму дэманстравалі адсутнасць палітычнай волі для яе вырашэння, і ў месцах пазбаўлення волі працягвалі ўтрымлівацца 11 палітвязняў: Алесь Бяляцкі, Мікалай Статкевіч, Мікалай Аўтуховіч, Эдуард Лобаў, Мікалай Дзядок, Яўген Васьковіч, Арцём Пракапенка, Ігар Аліневіч, Андрэй Гайдукоў, Уладзімір Яроменак і Васіль Парфянкоў. Кіраўнік дзяржавы ў студзені зрабіў некалькі спекулятыўных публічных заяў, датычных лёсу і магчымых механізмаў вызвалення вязняў сумлення Алеся Бяляцкага і Мікалая Статкевіча.

Так, 21 студзеня на сустрэчы з кіраўнікамі найбуйнейшых беларускіх СМІ Аляксандр Лукашэнка заявіў, што не ведае пра тое, што прадстаўнікі грамадскасці даўно кампенсавалі шкоду, якую нібыта нанёс дзяржаве праваабаронца Алесь Бяляцкі. А. Лукашэнка даручыў першаму намесніку сваёй адміністрацыі Аляксандру Радзькову праверыць гэтую інфармацыю. «Гэта сур'ёзны аргумент. Тут справа не ў палітыцы і не ў пазіцыі самога Бяляцкага. Клянуся вам, я яго не ведаў і не ведаю», — сказаў Лукашэнка, заўважыўшы, што «падаткі — гэта святое». Па словах кіраў-

ніка дзяржавы, калі інфармацыя аб кампенсацыі шкоды пацвердзіцца, павінна быць разгледжана пытанне аб ужыванні да Бяляцкага амністыі. Ніякай інфармацыі пра «вынікі праверкі» да канца месяца не паступала, а дадзеная заява ніякім чынам не паўплывала на лёс зняволенага праваабаронцы. Да таго ж, малаверагоднай з'яўляецца распаўсюджанне дзеяння закона аб амністыі на А. Бяляцкага, паколькі ён мае шэраг спагнанняў і статус «злоснага парушальніка рэжыму», у сувязі з чым на яго не распаўсюджвалася дзеянне закона аб амністыі ў 2012 годзе.

Таксама дырэктар БелаПАН Алесь Ліпай падняў пытанне аб магчымасці ўжывання амністыі да Мікалая Статкевіча: «Наколькі я разумею, прашэнне аб памілаванні ад іх для гэтага не патрабуецца. У прыватнасці, Мікалай Статкевіч — кандыдат у прэзідэнты на выбарах 2010 года. Ён атрымаў самы суровы прысуд з асуджаных за арганізацыю масавых беспарадкаў — шэсць гадоў, і ўжо адседзеў больш за палову тэрміну. Але нават людзі, якія штурмавалі Дом урада і білі ў ім шкло, ужо выйшлі на свабоду, а Статкевіч не толькі не ўдзельнічаў у такіх дзеяннях, але і не заклікаў да пагрому. Ён, мабыць, з тых людзей, хто не стане прасіць аб памілаванні нават пад ціскам. Было б у лепшых традыцыях хрысціянства і беларускага народа дараваць яму тое, што ён выступаў з рэзкай крытыкай улады і ўдзельнічаў у арганізацыі мірнай акцыі пратэсту, якая перарасла ў біццё шкла і збіццё людзей зусім не па яго волі. Амністуюць іх, гэта дапаможа наладзіць дыялог з Еўрапейскім Саюзам — дыялог, які, безумоўна, у інтарэсах беларускага народа, а значыць, павінен быць і ў інтарэсах кіраўніка дзяржавы». У адказ Аляксандр Лукашэнка нагадаў, што ўжо не раз казаў аб існуючай у краіне практыцы памілавання: асуджаны павінен напісаць прашэнне аб памілаванні, якое будзе разгледжана. «Можаш не пісаць, што ты вінаваты», — дадаў кіраўнік дзяржавы. На ўдакладняючае пытанне Алеся Ліпая, ці значыць гэта, што, калі Мікалай Статкевіч напіша просьбу аб памілаванні, але там не будзе прызнання яго віны, то яго вызваляць, Аляксандр Лукашэнка адказаў: «Магчыма, зробім, але парадак выкананы павінен быць. Статкевіч палітычна для мяне не канкурэнт, — падкрэсліў Лукашэнка. — Статкевіч — палітычны труп для беларусаў. На апошніх выбарах ён вёў гэтую палітыку на карысць прэзідэнту. Ён не быў мне супернікам і палітыкам, і не будзе. Статкевіч таго не варта, каб быць каменем перапоны ў нашых адносінах з Еўрасаюзам». Такім чынам, А. Лукашэнка даў адназначна зразумець, што для М. Статкевіча адзіны датэрміновы шлях на волю палягае выключна праз прашэнне аб памілаванні, які вязень, у сваю чаргу, адназначна адмаўляе.

На гэтай жа сустрэчы А.Лукашэнка заявіў аб аднаўленні дыялогу з Захадам: «У апошні час азначыўся перыяд, калі мы адзін на аднаго не

кацім, не наступаем. Мы пачалі неяк размаўляць». Па словах кіраўніка дзяржавы, «мы правялі шэраг мерапрыемстваў, няхай не публічных: часта многія еўрапейцы, прыязджаючы да нас, просяць, каб гэта было не публічна. Я з імі адкрыта размаўляю, калі яны просяцца да мяне на прыём, нікому не адмаўляю, з усімі размаўляю — ад кангрэсмэнаў ЗША да звычайных палітыкаў і нават былых з Еўропы. І ў нас такіх кантактаў адбылося вельмі шмат, пайшоў нейкі дыялог», — распавёў А. Лукашэнка. «Няхай мы не сядзім за агульным сталом і не абмяркоўваем праблемы (мы да гэтага прыйдзем), але ёсць нейкі дыялог, і гэта ўжо добра».

Пра станоўчую дынаміку ва ўзаемаадносінах Еўрапейскага Саюза і асобных краін з афіцыйным Мінскам адзначалася і 29 студзеня ў Мінску падчас круглага стала на тэму беларуска-еўрапейскіх адносін пасля віленскага саміту Усходняга партнёрства. Пры гэтым кіраўнік дэпартамента палітыкі, інфармацыі і прэсы прадстаўніцтва ЕС у Беларусі Рудольф Рышар заявіў, што Еўрапейскі Саюз не гатовы да кампрамісу з уладамі Беларусі па пытанні палітвязняў. «Для поўнага наладжвання адносін ёсць некаторыя ўмовы, якія да гэтага часу не вырашаны. Тут з нашага боку я магчымасці для кампрамісу не бачу. Калі канкрэтныя рашэнні не будуць прынятыя, складана будзе нешта рабіць з нашага боку», — падкрэсліў Рышар. Начальнік аддзела ЕС і субрэгіянальных арганізацый упраўлення агульнаеўрапейскага супрацоўніцтва беларускага МЗС Алег Шлома, каментуючы праблему палітвязняў, у сваю чаргу адзначыў: «Гэтае пытанне на слыху. Але гэта не значыць, што гэта адзіная перашкода, і калі яе прыбраць, надыдзе шчаслівае будучыня ў нашых адносінах з ЕС. Будзем рэалістамі, прачнуўшыся заўтра, нават калі гэтыя людзі выйдуць з турмаў, мы не ўбачым, што мы сталі добрымі сябрамі з Еўрасаюзам, на нас пасыпаліся еўрапейскія грошы і мы сталі любімчыкам Еўрапейскага Саюза. Занадта шмат негатыву назапасілася, які патрабуе часу і сумесных намаганняў, каб яго пераадолець. Мы не закрываем на яго вочы. Але гэта адно з пытанняў», — адзначыў прадстаўнік МЗС.

Дадзеныя заявы як кіраўніцтва Беларусі, так і прадстаўнікоў ЕС адназначна сведчаць пра працяг дыялогу па праблеме палітычных зняволеных і захаванне пазіцыі Еўрапейскага Саюза адносна ўзнаўлення паўнавартаснага супрацоўніцтва выключна пасля вызвалення палітвязняў. Нягледзячы на тое, што знешнепалітычны фактар працягваў заставацца адным з самых уплывовых рычагоў уплыву на беларускае кіраўніцтва па дадзенай праблеме, да канца месяца ніякіх станоўчых зрухаў на практыцы не адбылося.

## Палітычныя зняволеныя, крымінальны пераслед грамадскіх актывістаў

3 студзеня з палітвязьнем Мікалаем Аўтуховічам у Гродзенскай турме пабачылася ягоная жонка Алена Аўтуховіч. Спатканне доўжылася 2 гадзіны, размаўлялі праз тэлефон, бачыліся праз шкло. Пра стан мужа яна сказала, што Мікалай трымаецца, засталося 3 месяцы, і ён здолее іх годна вытрымаць, хаця ў адносінах да яго выкарыстоўваюцца рознага кшталту правакацыі. Алена Аўтуховіч адзначыла, што медыцынскую бандэроль, якую яшчэ ў сярэдзіне снежня адправіла вязню ягоная маці, М. Аўтуховіч на момант спаткання яшчэ не атрымаў. 7 студзеня Мікалаю Аўтуховічу споўніўся 51 год. Апошнія 5 гадоў палітвязень сустракае свой Дзень народзінаў у турме і калоніі пасля вынясення прысуду аб пакаранні 5 гадамі пазбаўлення волі. Толькі 25 студзеня стала вядома пра атрыманне М. Аўтуховічам медыцынскай бандэролі з неабходнымі лекамі.

4 студзеня Марына Адамовіч, жонка палітвязня Мікалая Статкевіча паведаміла, што ліст зняволенага ягонаму брату, які жыве ва Украіне, пра Майдан і стасункі Украіны з Расіяй, не прапусціла турэмная цэнзура. М. Статкевічу проста вярнулі пусты канверт. Паводле Марыны Адамовіч, у апошнім лісце Мікалай Статкевіч адзначыў, што нядаўна споўнілася 3 гады як ён апынуўся за кратамі, і гэта была дакладна палова прызначанага яму тэрміну. «Напісаў, што час для яго праляцеў вельмі хутка», — удакладніла Марына Адамовіч. 22 студзеня М.Адамовіч атрымала ад мужа ліст, у якім той фактычна адказаў на пытанне, ці пагадзіўся б напісаць прашэнне аб памілаванні, каб выйсці на волю: «Калегі з Сацыял-дэмакратычнай партыі Нямеччыны зараз ва ўрадзе, і яны з дапамогай схаванай дыпламатыі цяпер будуць дамагацца майго вызвалення, як Хадаркоўскага. Але я супраць тайнай дыпламатыі там, дзе патрэбныя іншыя сродкі. І я не Хадаркоўскі, я кандыдат у прэзідэнты, а той бізнэсмэн. Таму ніякага прашэння я пісаць не буду. Бо заклікаў людзей на Плошчу, дзясяткі тысяч прыйшлі, нягледзячы на страх. І здраджваць такой колькасці людзей я не змагу». 23-га студзеня ў цэнтры польскага горада Катавіцы адбылася акцыя салідарнасці з М. Статкевічам, прымеркаваная да 1000 дзён яго ўтрымання ў зняволенні. Каля размешчанай палаткі з выявай палітвязня супрацоўнікі бюро еўрадэпутата Марэка Мігальскага прапаноўвалі мінакам падпісваць карткі з заклікам вызвалення М. Статкевіча, якія пазней былі адасланы А. Лукашэнку.

4 студзеня Марына Лобава, маці палітвязня Эдуарда Лобава, паведаміла, што сын на каталіцкія Каляды змог патэлефанаваць дадому пасля працяглага маўчання. Марына Лобава адзначыла, што ягоны голас быў

вельмі радасны і бадзёры. Э. Лобаў у калоніі працягвае навучацца на электрыка і ўжо выконвае пэўныя працоўныя заданні. Патэлефанаваць дадому палітвязень змог таксама 6 і 14 студзеня. М. Лобава паведаміла, што ёй двойчы тэлефанаваў айцец Дзмітрый, які звычайна наведвае палітвязня, і сказаў, што зноў збіраецца да яе сына ў калонію, як толькі знойдзе для гэтага час.

4 снежня ў лісце да грамадскай актывісткі Вольгі Мікалайчык палітвязень Васіль Парфянкоў паведаміў, што ў перасыльным пункце Жодзінскай калоніі, адкуль яго збіраюцца перавезці ў калонію ў Горках, удзень нельга сядзець на шконках, тым больш ляжаць: цэлы дзень трэба быць на нагах. Палітвязень адчувае інфармацыйны голад: няма тэлевізара, газет ён не атрымлівае, а з-за таго, што ў яго на рахунку зусім няма грошай, бо з ЛТП у Светлагорску паўмільёна рублёў не вярнулі, Васіль не можа набыць паштовак ці канвертаў, каб ліставацца. 12 студзеня бацькі Васіля Парфянкова адправілі яму грошы, каб ён мог набыць канверты і паперу для лістоў, а таксама прадукты. 28 студзеня ў Мінскім гарадскім судзе адбыўся разгляд касацыйнай скаргі па справе палітвязня Васіля Парфянкова. Прысуд суда Першамайскага раёна пакінуты без зменаў — 1 год пазбаўлення волі, а скарга — без задавальнення.

15 студзеня адказны сакратар аргкамітэта па стварэнні партыі БХД Дзяніс Садоўскі паведаміў, што палітвязень Яўген Васьковіч Новы год сустракаў у ШІЗА турмы № 4 у Магілёве, атрымаўшы спагнанне на 10 сутак 27 снежня 2013 года. Усяго з кастрычніка 2011 года Я. Васьковіч правёў у ШІЗА 247 сутак. Большасць пакаранняў былі вынесены з адной і той жа фармулёўкай: «за адмовы выконваць законныя патрабаванні супрацоўнікаў турмы». Пры росце 186 сантыметраў палітвязень важыць толькі 65 кілаграмаў. 30 студзеня маці і бабуля Яўгена Васьковіча атрымалі кароткатэрміновае спатканне з палітвязнем — 2 гадзіны размовы праз шкло і тэлефон. Маці зняволенага Рушанія Васьковіч адзначыла, што сын пахудзеў, адчуваецца недахоп сонца і вітамінаў. Актуальнай застаецца для Я. Васьковіча праблема выпіскі газет.

25 студзеня Валянціна Аліневіч, маці палітвязня Ігара Аліневіча, пасля кароткатэрміновага спаткання з сынам паведаміла, што сын быў рады атрымаць навіну пра ўганараванне ягонай кнігі «Еду ў магадан» прэміяй імя Ф. Аляхновіча, але літаратарам сябе не лічыць. Ён адзначыў, што для яго было самым важным тое, што шмат людзей даведаліся з ягонага твора пра тое, што адбываецца ў «амерыканцы» — СІЗА КДБ. Адносна далейшых літаратурных планаў І. Аліневіч сказаў, што практычна іх ажыц-

цявіць немагчыма, бо як толькі ён сядае нешта пісаць, у тым ліку — лісты, за ягонай спіной адразу ўзнікаюць тры чалавекі, якія адсочваюць змест напісанага. Спатканне ў Наваполацкай калоніі адміністрацыя калоніі фіксавала на відэа і аўдыё. У палітвязня ўзялі подпіс, што яму паведамілі пра вядзенне аўдыё і відэазапісу. Валянціна Аліневіч адзначыла, што ў апошні час сын адчувае недахоп інфармацыі, ён стаў атрымліваць нашмат менш газет. Таксама Ігару Аліневічу не дазваляюць тэлефанаваць, апошні раз ён здолеў патэлефанаваць дадому ў кастрычніку 2013 года.

28 студзеня Анатоль Пракапенка, бацька палітвязня Арцёма Пракапенкі, паведаміў, што ад сына ўжо болей за два тыдні няма ні лістоў, ні тэлефанаванняў. Анатоль Пракапенка адзначыў, што пазіцыя Арцёма наконт адмовы пісаць прашэнне аб памілаванні засталася нязменнай. Бацька палітвязня дадаў, што новых спагнанняў сыну не выносілася і выказаў надзею на атрыманне спаткання на працягу бліжэйшых двух месяцаў.

30 студзеня стала вядома, што заява на рэгістрацыю кандыдатуры Алеся Бяляцкага на Нобелеўскую прэмію міру перададзена ў Нобелеўскі камітэт. Подпісы пад заявай збіралі дэпутаты польскага Сойму ад «Грамадзянскай Платформы» і партыі «Права і Справядлівасць».

## Смяротнае пакаранне

17 студзеня жыхар Гомеля Аляксандар Груноў, асуджаны паўторна да смяротнага пакарання Гомельскім абласным судом за забойства студэнткі Емяльянчыкавай, падаў касацыйную скаргу ў Вярхоўны суд. У касацыйнай скарзе Аляксандар Груноў з адвакатам згадваюць, што калегія крымінальных спраў Гомельскага абласнога суда дала ацэнку добраахвотнаму прызнанню Аляксандра ў забойстве і ягонай яўцы з павіннай, але не ўлічыла іх у выраку. Аляксандар Груноў утрымліваецца ў Гомельскім СІЗА. Ягоная маці Вольга Грунова пасля вынясення прысуду двойчы мела спатканне з сынам у следчым ізалятары. Яна напісала скаргі Генеральнаму пракурору і Аляксандру Лукашэнку. Жанчына лічыць, што менавіта выказванні кіраўніка дзяржавы наконт рэзананснага забойства студэнткі ў Гомелі паўплывалі на апошні прысуд.

## Ужыванне катаванняў і іншых відаў жорсткага і бесчалавечнага абыходжання

14 студзеня мінчанка Людміла Кучура звярнулася ў суд пасля адмовы Следчага камітэта разглядаць скаргу па фактах катаванняў яе мужа

Пятра Кучуры ў калоніі № 15 Магілёва. У лістападзе 2013 года Людміла Кучура звярталася ва ўпраўленне па Магілёўскай вобласці Следчага камітэта з заявай аб катаваннях у дачыненні да яе мужа Пятра Кучуры, які на той момант адбываў пакаранне ў ВК-15 г. Магілёва. Замест правядзення праверкі з мэтай устанаўлення факта жорсткага і бесчалавечнага абыходжання са зняволеным і ацэнкі дзеянняў адміністрацыі і персаналу калоніі, начальнік Магілёўскага абласнога ўпраўлення СК перанакіраваў гэтую скаргу — на дзеянні супрацоўнікаў органаў унутраных спраў — у Дэпартамент выканання пакаранняў МУС. Указаўшы на тое, што разгляд скаргі Дэпартаментам ніяк не можа лічыцца непрадузятым, жонка зняволенага абскардзіла ў Следчы камітэт гэтыя дзеянні па перадачы скаргі ў іншы орган. У сваю чаргу, СК РБ парушэнняў у дзеяннях падначаленага не знайшоў і ў задавальненні скаргі адмовіў. Тым самым Людміла Кучура і яе муж былі пазбаўлены права на судовую абарону, бо ў выпадку правядзення следчым органам праверкі і адмовы паводле яе вынікаў ва ўзбуджэнні крымінальнай справы, яны мелі б права абскардзіць гэтую адмову ў судзе. Гэта і прымусіла жанчыну звярнуцца ў суд. Але ў снежні 2013 года суд Ленінскага раёна Магілёва адмовіў ва ўзбуджэнні грамадзянскай справы па скарзе на рашэнне начальніка ўпраўлення па Магілёўскай вобласці СК РБ. Нягледзячы на тое, што 30 снежня 2013 года Пётр Кучура быў пераведзены на строгі рэжым у магілёўскую турму №4, жонка асуджанага ў пошуках справядлівасці звярнулася ў Магілёўскі абласны суд. У сваёй скарзе яна просіць вышэйшую інстанцыю вызначэнне суда Ленінскага раёна г. Магілёва ад 19 снежня 2013 года адмяніць і перадаць пытанне на новы разгляд у суд першай інстанцыі. Справа датычыць падзеяў 19 верасня 2013 года, калі Пётр Кучура, інвалід 3-й групы, быў змешчаны ў камеру штрафнога ізалятара, дзе санвузел быў засыпаны вялікай колькасцю хлоркавай вапны. У выніку кантакту з вадой адбылася рэакцыя, якая прывяла да атручвання выпарэннямі хлору. У іншую камеру зняволенага перавялі толькі пасля значнага пагаршэння самаадчування, медыцынскай дапамогі пры гэтым не аказалі. Праверкай пракуратуры Магілёўскай вобласці ўстаноўлена, што ў мэтах дэзінфекцыі раствор хлорыстай вапны ў ВК-15 доўгі час не ўжываецца (паводле тлумачэнняў супрацоўнікаў медыцынскай часткі). Гэта азначае, што хлоркавая вапна ў дадзеным выпадку магла быць прыменена да асуджанага як сродак катавання.

## Пераслед праваабаронцаў і праваабарончыя арганізацыі

2 студзеня праваабаронца Таццяна Рэвяка атрымала паведамленне за подпісам намесніка начальніка Ашмянскай мытні А.В. Датчука, у якім

было сказана, што мытня атрымала з Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Гродзенскага аблвыканкама заключэнне экспертнай камісіі па выніках вывучэння друкаванага выдання «Асьвечаныя Беларушчынай», аўтарам якога з'яўляецца праваабаронца і літаратар, палітвязень Алесь Бяляцкі. Пры гэтым сам тэкст экспертызы не быў дасланы. Гэта была ўжо другая экспертыза, паколькі першапачатковая не адпавядала законным патрабаванням. Згодна з высновамі першай экспертызы, літаратуразнаўчая кніга Алеся Бяляцкага «можа нанесці шкоду іміджу Рэспублікі Беларусь». Якія высновы ўтрымліваюцца ў паўторным заключэнні — не паведамлялася. Пры гэтым у паведамленні ўказвалася, што «па выніках правядзення двух мытных экспертыз і на падставе Раздзела 1.3 Адзінага пераліку тавараў, да якіх ужываюцца забароны ці абмежаванні на ўвоз ці вываз дзяржавамі-членамі Мытнага саюза ў межах Еўразійскай эканамічнай супольнасці «неабходна на працягу 10 працоўных дзён у Ашмянскай мытні аформіць працэдуру «рээкспарту на тэрыторыю Літоўскай Рэспублікі» выдання. 14 студзеня ў суд Ашмянскага раёна была пададзена скарга на дзеянні Ашмянскай мытні. 29 студзеня ў судзе Ашмянскага раёна адбылося папярэдняе слуханне па грамадзянскай справе супраць Ашмянскай мытні. Справу разглядала суддзя Таццяна Емельяновіч, мытны орган прадстаўлялі Тамара Глінкевіч і Алена Ждановіч. У якасці прадстаўніка інтарэсаў заяўніка Таццяны Рэвяка ў працэс быў дапушчаны юрыст Павел Сапелка. У выніку паседжання была атрымана магчымасць азнаёміцца з вынікамі паўторнай экспертызы выдання, на падставе якой было прынятае рашэнне пра рээкспарт кнігі. Выявілася, што яе праводзілі ўсё тыя ж супрацоўнікі Гродзенскага ўніверсітэта Уладзімір Ягорычаў і Вадзім Хілюта, якія рабілі першапачатковае заключэнне, і правамоцнасць прызначэння якіх у якасці экспертаў абскарджвалася праваабаронцамі. Мытны орган прасіў даследваць кнігу на наяўнасць заклікаў ці прапаганды экстрэмізму і тэрарызму, а таксама інфармацыі, якая можа нанесці палітычную ці эканамічную шкоду РБ, дзяржаўнай бяспецы, здароўю і маральнасці грамадзянаў. Ні экстрэмізму, ні тэрарызму ў кнізе не было выяўлена, на другое пытанне эксперты фактычна ўхіліліся ад адказу, спаслаўшыся на вынікі першай экспертызы, дзе адназначнага адказу не было прадстаўлена.

14 студзеня віцебскага праваабаронцу Пятра Іванова папярэдзілі аб магчымай дэпартацыі. Пётр Іваноў нарадзіўся ў Беларусі, але працаваў у Расійскай Федэрацыі, дзе і атрымаў грамадзянства. Аддзел грамадзянства і міграцыі Кастрычніцкага РАУС запатрабаваў да 20 студзеня ад Іванова справаздачы, на якія сродкі ён жыве, у іншым выпадку — пагра-

жаюць дэпартаваць з Беларусі. Пётр Іваноў былы кадравы вайсковец, мае сталыя прыбыткі — пенсію. Усё гэта засведчана дакументамі. Тэрмін «Віду на жыхарства» праваабаронцы сканчваецца ў кастрычніку 2014 года, і міліцыя спрабуе знайсці падставы, каб не працягнуць гэта тэрмін або дэпартаваць яго заўчасна. У Віцебску жыве сям'я П. Іванова, тут у яго кватэра.

## Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні

3 студзеня ў судзе Цэнтральнага раёна Гомеля пачаўся суд над лідарам кампаніі «Хопіць піць — трэба жыць!» Дзмітрыем Карашковым. Міліцыя абвінаваціла яго ў арганізацыі несанкцыянаванага мерапрыемства. Паводле адміністрацыйнага пратакола, уранку 11 лістапада 2013 года Дзмітрый выйшаў на пляцоўку пры аблвыканкаме з транспарантам: «Спыніце продаж алкаголю каля школ», за што і быў затрыманы. У пратаколе, які склаў маёр міліцыі Уладзімер Недабой, напісана, што Карашкоў «публічна выказваў свае асабістыя інтарэсы з выкарыстаннем транспаранта». Суддзя Алена Цалкова ўдакладняла, ці звяртаўся ён у гарвыканкам па дазвол на пікет. Актывіст адказаў, што гэтым разам не звяртаўся, бо раней пісаў туды заяву, але гарвыканкам не дазволіў праводзіць антыалкагольны пікет. Забарону Карашкоў абскардзіў у Цэнтральным райсудзе, аднак і суд Цэнтральнага раёна, і вышэйшыя суды пакінулі ягоную скаргу без задавальнення, пасля чаго скарга была накіравана ў Камітэт па правах чалавека ААН. Ён таксама дадаў, што ў Гомелі за апошнія сем гадоў не дазволена ніводнага масавага мерапрыемства. 9 студзеня суддзя Алена Цалкова рашэнне вынесла аб пакаранні Дзмітрыя Карашкова штрафам у памеры 10 базавых велічынь.

9 студзеня гарадоцкага актывіста Партыі БНФ Леаніда Аўтухова затрымалі паводле ананімнага даносу. У Гарадоцкім РАУС яму паказалі ліст за подпісам «Ананім», дзе гаварылася, што ён рыхтуе ў райцэнтры акцыю пратэсту. Л. Аўтухова пратрымалі ў пастарунку тры гадзіны — пакуль не з'ехала абласное начальства, якое прыязджала сустракацца з незадаволенымі мясцовымі прадпрымальнікамі. Непасрэдна з візітам прадстаўнікоў Віцебскага аблвыканкама Леанід Аўтухоў і звязвае сваё затрыманне. Хто яго напісаў, Леанід Аўтухоў не ведае. Але не можа выключаць, што да гэтага нейкае дачыненне маглі мець і самі міліцыянты, бо 9 студзеня ў Гарадку чакалі прадстаўнікоў аблвыканкама, і супрацоўнікам РАУС не хацелася дадатковых праблем. Нервовая сітуацыя ў Гарадку складаецца ў сувязі з правядзеннем у горадзе «Дажынак -2014».

14 студзеня ў судзе Савецкага раёна Мінска адбыўся судовы працэс над кіраўніком Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатолем Лябедзькам па абвінавачанні ў парушэнні артыкула 23.34, частка 3 КаАП (арганізацыя альбо ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве). А. Лябедзьку затрымалі раніцай 12 студзеня каля гаража, спачатку адвезлі ў РУУС Савецкага раёна, а потым — у апорны пункт міліцыі, які знаходзіўся побач, дзе быў складзены пратакол правапарушэння за акцыю 5 студзеня, калі палітык разам са сустаршынёй кампаніі «За справядлівыя выбары» Віктарам Карняенкам збіралі ў цэнтры Мінска подпісы за адмену аўтапошліны. Пасля складання пратакола А. Лябедзьку пасадзілі ў легкавы аўтамабіль і вывезлі спачатку ў Курапаты, а потым да гарадскога крэматорыя, каля 18 гадзін даставілі ў Вяснянку і пакінулі там. Суддзя Кірыл Палулех прызнаў Анатоля Лябедзьку вінаватым і вынес рашэнне аб пакаранні штрафам у памеры 45 базавых велічынь.

23 студзеня некалькі дзясяткаў чалавек, пераважна юнакоў з суполак «Альтэрнатыва» і Рух салідарнасці «Разам», выйшлі з партрэтам забітага ў Кіеве дэманстранта-беларуса Міхала Жызнеўскага і свечкамі да будынку ўкраінскай амбасады ў Мінску. Яны праспявалі гімн «Магутны Божа». Калі людзі ўжо разыходзіліся, з'явіліся супрацоўнікі міліцыі, якія затрымалі 12 удзельнікаў жалобнай акцыі. Сярод затрыманых былі Ілля Дабратвор, Міхал Мікуліч, Дзмітрый Сільчанка, Ірына Вяткіна, Алег Кіроль і інш. Усе былі дастаўлены ў РУУС Цэнтральнага раёна, з 22.30 усіх пачалі адпускаць без складання пратаколаў.

25 студзеня ў Мінску ў скверы імя Сімона Балівара міліцыя ў цывільным затрымала 2 актывістаў ініцыятывы «Ежа замест бомб» і 5 бяздомных. Усе былі дастаўлены ў Партызанскі РУУС, дзе ў іх знялі адбіткі пальцаў і перапісалі пашпартныя дадзеныя. 26 студзеня АМАП і супрацоўнікі міліцыі ў цывільным прыйшлі на акцыю ініцыятывы, якая праходзіла каля крамы «Шчасце» ў раёне метро»Усход». 1 лютага супрацоўнікі міліцыі ізноў наведалі раздачу ежы ў скверы імя Балівара для правядзення растлумачальнай працы, мэта якой — перашкодзіць актывістам прыходзіць на месца раздачы, а таксама спыніць дзейнасць ініцыятывы «Ежа замест бомб». 2 лютага чацвёра супрацоўнікаў міліцыі да пачатку акцыі ўжо чакалі актывістаў на кропцы раздачы каля метро «Усход». Спачатку супрацоўнікі паспрабавалі сарваць раздачу ежы, аднак яна ўсё роўна адбылася. Адзін з актывістаў быў затрыманы і дастаўлены ў Першамайскі РУУС, але неўзабаве быў адпушчаны. Астатнія ўдзельнікі акцыі адзначаюць, што пасля таго, як яны пакінулі месца раздачы, туды пад'ехаў міліцэйскі аўтобус, не выключана — для затрымання астатніх

актывістаў. «Ежа замест бомб» — міжнародны рух, які складаецца з не звязаных адзін з адным незалежных груп актывістаў, якія пратэстуюць супраць мілітарызму і беднасці з дапамогай бясплатнай раздачы ежы (як правіла, вегетарыянскай) тым, хто жыве ў нястачы. У Мінску першая акцыя прайшла летам 2005 года, зараз ежу раздаюць кожныя выхадныя ў трох месцах — у Міхайлаўскім скверы, скверы імя Сымона Балівара і каля ГЦ «Шчасце» (метро «Усход»).

27 студзеня актывіст Ілля Дабратвор атрымаў адказ з пракуратуры Фрунзенскага раёна Мінска, куды ён скардзіўся на незаконныя дзеянні міліцыі, якая затрымала яго 29 кастрычніка 2013 года з сынам Яўсеем (2005 г.н.) на акцыі па ўшанаванні продкаў Дзяды. Па словах Дабратвора, нагодаў для затрымання супрацоўнікі Фрунзенскага РАУС не назвалі, у РАУС з яго ўзялі тлумачэнні. У сваёй скарзе актывіст звяртаў увагу на тое, што ў ягоным выпадку адсутнічалі нагоды і падставы для затрымання. Тым больш незразумела, чым тлумачыцца затрыманне непаўнагадовага дзіцяці. Пракурор Фрунзенскага раёна г. Мінска А.А.Беспалы адзначыў, што для правядзення праверкі няма падстаў. «Як вынікае з вашага звароту, пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні супрацоўнікамі Фрунзенскага РАУС г. Мінска ў адносінах Вас не складаўся і, адпаведна, адміністрацыйны працэс не пачынаўся». Пры гэтым у адпаведнасці з арт. 9.5 ПВКаАП адміністрацыйны працэс з'яўляецца пачатым з моманту адміністрацыйнага затрымання фізічнай асобы. На гэта Ілля Дабратвор звяртае ўвагу ў скарзе, накіраванай ужо пракурору г. Мінска. Аналагічным чынам актывіст аспрэчвае яшчэ адно адвольнае затрыманне — 23 студзеня, калі яго такім самым чынам затрымалі міліцыянеры Цэнтральнага РАУС г. Мінска.

30 студзеня ў судзе Першамайскага раёна Мінска адбылося слуханне адміністрацыйнай справы былога палітвязня Дзмітрыя Дашкевіча па абвінавачанні ў парушэнні парадку прэвентыўнага нагляду (п.1 арт.24 — 12 КаАП). Абвінавачаны ў суд не з'явіўся, патлумачыўшы гэта занятасцю на працы. Акрамя таго, на думку Дашкевіча, у судах працуюць людзі, «якія не аднойчы фабрыкавалі справы», і якім ён не лічыць патрэбным даказваць сваю невінаватасць. Дзмітрый Дашкевіч атрымаў папярэджанне за парушэнне правіл адбыцця прэвентыўнага нагляду пасля таго, як 19 снежня 2013 года не з'явіўся ў крымінальна-наглядную інспекцыю Першамайскага РУУС, дзе павінен адзначацца першы, трэці і чацвёрты чацвер кожнага месяца. Як растлумачыў Дашкевіч, ён проста забыўся пра тое, што трэці чацвер месяца выпаў на 19 снежня. На наступную раніцу яму патэлефанаваў інспектар з прапановай з'явіцца ў РУУС, што Да-

шкевіч адразу ж зрабіў, але ў міліцыі ў яго дачыненні склалі пратакол аб парушэнні парадку прэвентыўнага нагляду. Як адзначыў Д. Дашкевіч, у падобных выпадках (калі чалавек адзін раз забыўся прыйсці ў міліцыю, але зрабіў гэта на наступны дзень) пратаколы, як правіла, не складаюць. Аднак інспектар сказаў, што скласці гэты пратакол яму загадала начальства. Рашэнне суда — штраф у 10 базавых велічынь.

31 студзеня стала вядома, што мінімум двое фанатаў футбольнага клуба БАТЭ арыштаваны судом Барысава на пяць сутак за акцыю падтрымкі Майдана. Першы з іх 29 студзеня быў выкліканы ў мясцовы аддзел міліцыі, адкуль яго не адпусцілі, а назаўтра быў праведзены закрыты суд, на якім заўзятару БАТЭ абвясцілі пастанову аб арышце за «парушэнне ўстаноўленага парадку правядзення сходу, мітынгу, вулічнага шэсця, дэманстрацыі, пікетавання». 31 студзеня другому фанату патэлефанавалі дадому і запрасілі на размову. Пасля таго, як ён папрасіў выслаць яму позву, супрацоўнікі міліцыі прыехалі і забралі яго з дому. Пасля адведзеных па законе трох гадзін «да высвятлення асобы» ў Барысаўскі ГАУС паехаў бацька хлопца з адвакатам. У аддзеле паведамілі, што затрыманага разам з матэрыяламі справы павезлі ў суд. Наступныя дзве гадзіны адмаўляліся наогул паведамляць пра яго месцазнаходжанне. Да затрыманага не дапускалі адваката, як і ў папярэднім выпадку, яго прывезлі ў суд і асудзілі. 27 студзеня 23 фанаты БАТЭ зладзілі сваю акцыю салідарнасці з Украінай у выглядзе фатаграфавання з бел-чырвона-белым сцягам і плакатамі «Трымайся, Украіна, мы з табой» і «Слава героям». Фотаздымкі трапілі ў інтэрнэт. Астатнія фанаты таксама апынуліся ў полі зроку супрацоўнікаў міліцыі, іх знаходзяць праз «Укантакце», параўноўваюць фота ды вызвоньваюць. На фанацкіх форумах «Укантакце» паведамілі, што супрацоўнікі праваахоўных органаў прыходзілі і да фанатаў «Дынама», якія таксама выказаліся ў падтрымку Майдана.

## Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі, пераслед журналістаў

8 студзеня выдаўцу незалежнага інфармацыйнага бюлютэня «Клімавіцкая інфа-панарама» Сяргею Аржанцаву адмовілі ў праве прысутнічаць на пасяджэнні адміністрацыйнай камісіі Клімавіцкага райвыканкама. У гэты дзень на пасяджэнні камісіі павінны былі разглядацца некалькі спраў аб адміністрацыйных правапарушэннях, якія зацікавілі выдаўца. Прысутнасць журналіста чамусьці не спадабалася старшыні адміністрацыйнай камісіі Наталлі Асмалоўскай. Спадарыня Асмалоўская, якая акрамя старшынства ў адміністрацыйнай камісіі адначасова ўзначальвае ўпраўлен-

не справамі Клімавіцкага райвыканкама, паведаміла Сяргею Аржанцаву, што яна забараняе яму прысутнічаць на пасяджэнні. Чым выкліканая такая адмоўная рэакцыя райвыканкамаўскай чыноўніцы, засталося незразумелым, бо згодна артыкула 2.14 Працэсуальна-выканаўчага кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях «Справы аб адміністрацыйных правапарушэннях разглядаюцца адкрыта». Сяргей Аржанцаў пакінуў адпаведны запіс пра гэтае парушэнне ў кнізе заўваг і прапаноў Клімавіцкага райвыканкама.

17 студзеня стала вядома, што аддзел ідэалогіі Віцебскага аблвыканкама праінфармаваў рэдакцыі мясцовых газет, хто з супрацоўнікаў з'яўляецца сябрамі ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў», а хто толькі збіраецца ўступіць у «непажаданую» арганізацыю. Асобных журналістаў выклікалі ў аблвыканкам для тлумачэнняў наконт сяброўства ў арганізацыі. Пад увагу ідэолагаў найперш трапілі ўдзельнікі сяброўскай сустрэчы віцебскіх журналістаў, якая прайшла напрыканцы 2013 года. На ёй прысутнічалі і «бажаўцы», і проста калегі-журналісты. Журналістам давялося тлумачыць, што збіраліся яны не на сход, бо з Віцебску няма асобнай гарадской філіі ГА «БАЖ», і што гэта была звычайная перадсвяточная сяброўская сустрэча за гарбатай, дзе людзі дзяліліся сваімі планамі, размаўлялі пра нейкія прафесійныя праблемы, а потым слухалі спевы Георгія Станкевіча, барда з Бешанковічаў. Раней падобныя сустрэчы ніякай цікаўнасці ў аддзела ідэалогіі аблвыканкама не выклікалі.

20 студзеня апоўдні ў Віцебску быў затрыманы рэдактар газеты «Віцебскі кур'ер» Алег Баршчэўскі і дастаўлены ў Кастрычніцкі РУУС. Прычына затрымання — нібыта несапраўднае вадзіцельскае пасведчанне. Спыніў аўтамабіль і затрымліваў журналіста супрацоўнік ДАІ Ігар Артамонаў. Праз некалькі гадзін Алег Баршчэўскі быў адпушчаны з РУУС. Перад тым, як яго адпускаць, у аддзяленне міліцыі прывезлі жанчыну з падатковай інспекцыі Першамайскага раёна Віцебска, якая ўзяла з А. Баршчэўскага абавязацельства з'явіцца і здаць падатковую дэкларацыю.

27 студзеня Вярхоўны суд не задаволіў патрабаванняў уласніка фірмы «БЕЛСАТплюс» Андрэя Белякова, які дамагаўся забароны на выкарыстанне таварнага знаку «Белсат ТВ» («Belsat TV») польскім тэлеканалам. Афіцыйны прадстаўнік «Белсата» ў Беларусі Міхась Янчук адзначыў, што гэтае рашэнне можа быць яшчэ абскарджана ў парадку нагляду цягам трох гадоў. Пры гэтым важна — паводле беларускага заканадаўства такая ж самая справа з такімі ж самымі бакамі больш не можа разглядацца ў беларускім судзе, гэта значыць, што спадар Белякоў не зможа

падаць супраць тэлеканала такі самы пазоў другі раз. Фірма А.Белякова пад назваю «БЕЛСАТплюс» займаецца продажам абсталявання для прыёму спадарожнікавага і кабельнага тэлебачання і радыётэхнічнага абсталявання. Першапачатковым патрабаваннем спадара Белякова было прыпыніць трансмісію сігнала тэлебачання «Белсат» аператарамі спадарожніка «Astra». Аднак пасля паседжання 21 студзеня пазоўнік змяніў патрабаванні і пакінуў толькі прыпыненне выкарыстання таварнага знака «Белсат ТВ» («Belsat TV»). Паводле заканадаўства, нельга блакаваць таварны знак, калі яго выкарыстоўваюць у іншай галіне (трансляцыя і прадукцыя тэлевізійных праграм). Фірма «БЕЛСАТплюс» не ажыццяўляе тэлевізійнай трансляцыі. Тэлеканал зарэгістраваны ў Польшчы, таксама, як і дамен сайта. Даменнае імя не зарэгістраванае ў Беларусі і не адмініструецца, а тэлебачанне не транслюецца з тэрыторыі Беларусі. Адпаведна, і таварны знак не падпадае пад юрысдыкцыю беларускага права.

28 студзеня быў узламаны гомельскі незалежны сайт «Цвярозы погляд» (http://spasemstranu.com/), які працуе ў рамках кампаніі «Хопіць піць — трэба жыць». Гэта адбылося падчас пахавання ў Гомелі Міхаіла Жызнеўскага, які загінуў на Майдане, — на той час адміністратары сайта як раз былі занятыя на пахаванні. Невядомымі быў усталяваны адмысловы код, які дапамог спампаваць і знішчыць увесь кантэнт на сайце. Замест яго зламыснікі размясцілі свой кантэнт, накіраваны на рэкламаванне нетрадыцыйных сэксуальных адносін.

29 студзеня салігорскі актывіст Аляксандр Малочка атрымаў адказ з Ашмянскай мытні, датычны вынятай у яго на мяжы кнігі Валерыя Карбалевіча «Аляксандр Лукашэнка. Палітычны партрэт». Ашмянская мытня паведаміла, што па выніках праведзенай мытняй экспертызы кніга падлягае вяртанню ўладальніку, як сказана ў лісце за подпісам намесніка начальніка мытні І. Змітровіча ад 23 студзеня бягучага года. З моманту накіравання кнігі на экспертызу прайшло 4 месяцы , і ўвесь гэты час аб выніках экспертызы Малочка нічога не ведаў. 18 студзеня ён напісаў мытнікам ліст з просьбай нарэшце азнаёміць яго з заключэннем экспертаў і, калі кніга не ўтрымлівае «матэрыялаў экстрэмісцкага толку», азнаёміць з працэдурай яе вяртання. Аб выніках экспертызы ў лісце мытнікаў нічога не было сказана: толькі аб працэдуры вяртання. А.Малачку прапанавалі звярнуцца да начальніка мытні з пісьмовай заявай і на працягу 10 дзён пасля гэтага забраць яе «па месцы захоўвання». Кнігу Валерыя Карбалевіча ў А. Малочкі забралі ў верасні пры вяртанні з Літвы ў Беларусь для праверкі на экстрэмізм. У пачатку кастрычніка ад начальніка Ашмянскай мытні актывіст атрымаў апавяшчэнне, што мытная экспертыза па кнізе

была прызначаная 30 верасня, і што яе правядзенне даручана «эксперту з ліку ўпаўнаважаных службовых асоб Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай працы , культуры і па справах моладзі Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта».

## Абмежаванне свабоды сходаў

4 студзеня да індывідуальнага прадпрымальніка і актывіста Мікалая Чарнавуса, які працуе на Цэнтральным каапрынку Баранавічаў, завітаў участковы міліцыянер. Супрацоўнік міліцыі ўзяў тлумачэнне наконт несанкцыянаванага пікета супраць карупцыі, які прайшоў у гарадскім парку 26 снежня 2013 года. У гэтым адзіночным пікеце арганізатар у адзенні Дзеда Мароза трымаў у руках плакат «Старшыні Дзічкоўскі, Язубец — непатапляемыя. Старшыня аблвыканкама Сумар абмануў Прэзідэнта. Карупцыянер у парламенце. Ганьба!!!» Мікалай Чарнавус адмовіў свой удзел у пікеце і ўпэўнены, што да суда справа не дойдзе, бо мясцовыя чыноўнікі не зацікаўлены ў раздуванні карупцыйнага скандала, у якім замешаны першыя асобы горада і раёна.

9 студзеня калегія Брэсцкага абласнога суда па грамадзянскіх справах падтрымала рашэнне суда Бярозаўскага раёна ў справе забароны пікета, запланаванана на 10 кастрычніка — у Сусветны дзень супраць смяротнага пакарання. Прычынай забароны з'яўлялася непрадастаўленне ў райвыканкам разам з заявай дамоў з адпаведнымі службамі (ЖКГ, міліцыяй і бальніцай) на абслугоўванне пікета. Як суд Бярозаўскага раёна, так і калегія абласнога суда спасылаліся на заканадаўства, згодна з якім дамовы з міліцыяй, медыкамі і камунальнымі службамі падчас масавых мерапрыемстваў патрэбны для бяспекі грамадзян. Выканаць жа ўмовы заключэння дамоў на практыцы не ўяўляецца магчымым. Скарга праваабаронцаў Сяржука Русецкага, Тамары Шчапёткінай і грамадскай актывісткі Таццяны Тарасевіч пакінута без задавальнення. Па словах Сяргея Русецкага, цікава тое, што суддзі нарэшце звярнулі ўвагу на палажэнні Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных справах, якімі гарантуецца свабода сходаў, хаця прадказальна зрабілі выснову, што забарона пікета не супярэчыць міжнародным стандартам.

12 студзеня пікет супраць міліцэйскага гвалту ў Віцебску планаваў правесці «урач-праўдаруб» Ігар Пастноў, але ягоную заяўку не задаволіла адміністрацыя Кастрычніцкага раёна. Прычыны забароны акцыі — адсутнасць дамоў з медыкамі, міліцыяй і службамі ЖКГ. Наяўнасць такіх дамоў абавязковая для арганізатараў масавых акцый, калі яны прахо-

дзяць па ініцыятыве грамадзян. Гэтае патрабаванне рэгламентавана рашэннем №881 Віцебскага гарвыканкама. І выканаць яго практычна немагчыма, бо адказныя службы адмаўляюцца заключаць дамовы, пакуль няма дазволу на акцыю ад уладаў. Ігар Пастноў, які збіраўся правесці аднаасобную маўклівую акцыю ў месцы, адмыслова вызначаным для гэтага ўладамі, лічыць забарону несправядлівай. Ён медык, і заключаць дадатковыя дамовы з медслужбамі лічыць немэтазгодным. Забруджваць тэрыторыю падчас пікета-рэквіема па ахвярах міліцэйскага гвалту ён не збіраўся. А наяўнасць міліцыі на гэтай акцыі, па ягоным меркаванні, і так абавязковая. Па-першае, пікет ён збіраўся праводзіць 12 студзеня, у выходны дзень у месцы масавага адпачынку гараджан, дзе і так мусяць дзяжурыць міліцэйскія патрулі. Па-другое, сама мэта пікета — пратэст супраць міліцэйскага гвалту, павінна быць актуальнай і для ўсяго міліцэйскага кіраўніцтва, і для шараговых супрацоўнікаў, якім варта было б падтрымаць прапанову «чысткі» кадравага складу ад асоб, схільных да садызму і гвалту.

13 студзеня пачаўся судовы працэс па скарзе грамадскага актывіста Мікалая Уласевіча на дзеянні Астравецкага райвыканкама, які адмовіў яму ў правядзенні 7 снежня 2013 года пікета «Карупцыянераў да адказнасці!». Разгляд справы пачаўся у 10.30 і скончыўся праз дзве гадзіны пасля вывучэння матэрыялаў справы на этапе пачатку спрэчак бакоў. Суддзя Аляксандар Раткевіч аб'явіў перапынак да 16.00. Да абвяшчэння перапынку Уласевіч заявіў адвод складу суда, які зняў яго пытанне да прадстаўніка адказніка пра тое, якім нарматыўным актам рэгулюецца неабходнасць заключэння дамоў заяўніка пікета з міліцыяй і медустановамі на забеспячэнне правапарадку і ахову здароўя ўдзельнікаў масавага мерапрыемства. У 16 гадзін разгляд справы не ўзнавіўся. За 20 хвілін да працягу Уласевічу патэлефанавала сакратарка судовага паседжання і паведаміла, што працэс адкладаецца. Па яе словах, пра дзень працягу разгляду Мікалаю Уласевічу абяцалі паведаміць дадаткова. 16 студзеня суд адмовіў актывісту ў задавальненні скаргі.

15 студзеня старшыня Брэсцкага абласнога суда Тамара Сучок не задаволіла скаргу бярозаўскіх праваабаронцаў аб забароне пікета 4 жніўня 2013 года, накіраванага на падтрымку беларускіх палітычных вязняў; рашэнне суда Бярозаўскага раёна і абласной судовай калегіі пакінута без зменаў. І Бярозаўскі раённы суд, і судовая калегія, і старшыня Брэсцкага абласнога суда прыйшлі да высновы, што рашэнне выканкама пра небходнасць заключэння дамоў з міліцыяй, камунальнай гаспадаркай і бальніцай пры арганізацыі масавага мерапрыемства не

супярэчыць Міжнароднаму пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, не пагляблюючыся больш дэтальна ў самі пярэчанні, якія сведчаць пра ягоную неадпаведнасць міжнародным стандартам у галіне свабоды мірных сходаў.

15 студзеня ў судзе Першамайскага раёна Віцебска прайшоў разгляд скаргі каардынатара Руху «За свабоду» па Віцебскай вобласці Хрыстафора Жаляпава і актывіста аргкамітэта па стварэнні сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада» Аляксея Гаўруцікава, якія патрабавалі прызнаць незаконнай забарону Першамайскай адміністрацыяй пікета салідарнасці з палітвязнямі, які не адбыўся 10 снежня 2013 года. Прычына забароны пікета ў Дзень правоў чалавека была традыцыйнай: адсутнасць дамоў на абслугоўванне акцыі. Пры гэтым арганізатары падавалі заяўку разам з копіямі лістоў з прапановай заключыць дамовы, адрасаванымі ў міліцыю, гарадскую паліклініку і службу ЖКГ. З апошняй структурай ніколі няма праблем — яны пагаджаюцца на дамовы. З міліцыі адказалі ўжо пасля таго, як раённыя ўлады даслалі адмову: маўляў, пра што дамаўляцца, калі акцыя ўжо забароненая. З цэнтральнай гарадской паліклінікі таксама прыйшла адмова: дамову на абслугоўванне заключыць немагчыма, бо ўзімку ўсе медычныя службы працуюць у складаным рэжыме, абумоўленым масавымі захворваннямі. Першамайскі райсуд не ўбачыў у гэтай сітуацыі нічога надзвычайнага і скаргу актывістаў не задаволіў. Рашэнне раённай адміністрацыі пра забарону акцыі прызнана слушным, а прэтэнзіі арганізатараў — беспадстаўнымі.

16 студзеня Аляксей Гаўруцікаў, актывіст аргкамітэта па стварэнні сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада», распавёў пра новую стратэгію адстойвання права на свабоду мірных сходаў. «Стратэгія такая: мы падаем заяўкі, а з імі — копіі лістоў з запытамі наконт заключэння дамоваў на абслугоўванне акцый, накіраваных у службу ЖКГ, абласную ўправу МУС і ў цэнтральную гарадскую паліклініку за два месяцы да плануемага мерапрыемства. Гэтыя структуры згадваюцца ў рашэнні гарвыканкама №881 аб парадку арганізацыі масавых акцый. У гэтым рашэнні напісана, што дамовы мы мусім заключаць адразу, да падачы заявак. Але не было ніводнага разу, каб гэтыя службы пагадзіліся заключыць дамовы — апрача камунальнікаў. Медыкі звычайна дасылаюць нам адпіскі, нават без указання прычын. А ў міліцыі свае рэзоны: яны ігнаруюць рашэнне выканкама і дзейнічаюць паводле закону аб масавых акцыях — пішуць, што дамовы заключаць толькі тады, калі будзе дазвол ад раённай адміністрацыі. Калі гэткая сітуацыя паўторыцца, то праз 15 дзён мы атрымаем чарговую адмову ад раённых уладаў». Да-

лей, паводле Аляксея Гаўруцікава, актывісты пададуць заяву, каб суд змусіў управу МУС і цэнтральную паліклініку да заключэння дамоў. Гэтая працэдура зойме прыкладна 30 дзён. І калі суд вырашыць пытанне на іх карысць, у актывістаў яшчэ застанецца час, каб падаць заяўкі паўторна, ужо з дамовамі. Іншага шляху, каб атрымаць дазвол, віцебскія актывісты не бачаць. Яны хочуць дамагчыся, каб адказныя структуры не стваралі перашкодаў для выканання рашэння гарвыканкама. Хаця гэтае рашэнне яны лічаць вельмі недасканалым: за чатыры мінулыя гады ніводнай акцыі віцебскім апазіцыянерам правесці так і не ўдалося — і менавіта праз тое, што ўмовы гэтага рашэння выканаць немагчыма. Праўда, і звароты ў суды не дапамагалі. Так, у 2013 годзе, А.Гаўруцікаў і Х.Жаляпаў ужо спрабавалі змусіць праз суд да заключэння дамоў медыкаў і міліцыю. Аднак у Кастрычніцкім райсудзе ім было заяўлена, што змусіць адпаведныя арганізацыі да заключэння дамоў нельга — бо яны не займаюцца выключна продажам сваіх паслуг насельніцтву. Тады актывісты вырашылі пайсці іншым шляхам: прыцягнуць да судовай адказнасці кіраўнікоў установаў, якія адмовіліся з імі супрацоўнічаць. І тады ў Кастрычніцкім райсудзе занялі кардынальна іншую пазіцыю: суддзя Алена Папкова не задаволіла скаргу такога зместу і параіла звяртацца ў суд з просьбай змусіць да заключэння дамоў. Давялося звяртацца ў абласны суд, каб дамагчыся ўцямнага адказу, якія скаргі суддзі ўсё ж могуць задаволіць. Знайсці шлях да вырашэння праблемы — магчымасці рэалізаваць сваё права на арганізацыю масавых акцый — віцебскія актывісты спрабуюць з 2009 года, калі было прынята рашэнне №881. Змяніць яго, каб зрабіць выканальным на практыцы, гарвыканкам ні за што не пагаджаецца: адтуль прыходзяць адказы, што рашэнне прайшло юрыдычную экспертызу, зацверджана, а значыць прызнана дасканалым. За два апошнія дні віцебскія актывісты падалі заяўкі адразу на некалькі акцый. Старшыня гарадской арганізацыі Партыі БНФ замовіў пікет у Дзень Канстытуцыі 15 сакавіка і мітынг у Дзень Волі 25 сакавіка. Імпрэзы ён хоча правесці ў парку Мазурына — на тэрыторыі Кастрычніцкага раёна. У парку імя 30-годдзя ВЛКСМ хацелі б правесці падобныя імпрэзы каардынатар Руху «За свабоду» па Віцебскай вобласці Хрыстафор Жаляпаў і актывіст аргкамітэта па стварэнні сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада» Аляксей Гаўруцікаў. Яны таксама хочуць правесці пікет у дзень Канстытуцыі і мітынг у Дзень Волі. Заяўкі пададзены ў Першамайскую раённую адміністрацыю, з якой, у выпадку адмовы, і давядзецца судзіцца, кажа Аляксей Гаўруцікаў. 29 студзеня пікет да Дня Канстытуцыі быў забаронены: абласная ўправа МУС і ўрачы зноў даслалі адмовы. З паліклінікі напісалі, што да 15 сакавіка яшчэ багата часу, і яны не могуць абяцаць, што ў той дзень зной-

дзецца брыгада хуткай дапамогі для дзяжурства. А міліцыянты даслалі стандартную «адпіску», што будуць разглядаць прапанову толькі пасля таго, як акцыю дазволяць улады.

17 студзеня ваўкавыскі грамадскі актывіст Віталь Гуляк атрымаў адмову ў правядзенні пікета салідарнасці з украінскім Майданам, які планаваўся ў гарадскім парку Ваўкавыска (гэтае месца афіцыйна вызначанае ўладай для правядзення масавых мерапрыемстваў) 25 студзеня. У адказе за подпісам намесніка старшыні райвыканкама Уладзіміра Захарчука ўказвалася: «В соответствии со статьей 2 Закона РБ от 30 декабря 1997 года «О массовых мероприятиях... уличное шествие — это организованное массовое движение группы граждан по пешеходной или проезжей части улицы (дороги), бульвара, проспекта, площади. Таким образом, массовое мероприятие, за разрешением на проведение которого Вы обратились, в городском парке невозможно». Зразумець нешта канкрэтна з гэтага адказу папросту немагчыма.

20 студзеня ў Гродзенскім абласным судзе прайшоў разгляд касацыйнай скаргі мясцовых праваабаронцаў Віктара Сазонава, Уладзіміра Хільмановіча і Рамана Юргеля на рашэнне суда Ленінскага раёна, якім была прызнаная законнасць адмовы гарвыканкамам праводзіць ім 10 кастрычніка 2013 года інфармацыйны пікет пра сітуацыю са смяротным пакараннем у Беларусі. Гарвыканкам адмовіў праваабаронцам праводзіць пікет, таму што палічыў, што заяўнікі не ў стане аплаціць выдаткі, звязаныя з яго правядзеннем. Пры тым на першым судовым працэсе высветлілася, што правядзенне пікета ў Гродна каштуе ажно 23 мільёны 324 тысячы беларускіх рублёў. Чыноўнікі таксама заявілі, што заяўнікі не пазначылі, ці збіраюцца выкарыстоўваць піратэхнічныя сродкі і адкрыты агонь, палічыўшы гэта парушэннем заканадаўства. Яшчэ гродзенскі гарвыканкам парушыў закон «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь», даўшы свой адказ не на мове звароту — беларускай, а па-руску. Калегія абласнога суда ў складзе трох суддзяў узяла бок гарвыканкама і суда першай інстанцыі.

21 студзеня Магілёўскі гарвыканкам прыняў рашэнне адмовіць у дазволе на правядзенне пікета супраць увядзення новых падаткаў, арганізатарамі якога выступілі старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі БНФ «Адраджэньне» Дзмітрый Салаўёў, старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі АГП Уладзімір Шанцаў і намеснік старшыні Свабоднага прафсаюза Беларускага Юрый Новікаў. Мерапрыемства яны планавалі правесці 25 студзеня на пляцоўцы стадыёна «Хімік» — у адзіным дазволеным месцы ў горадзе. У афіцыйным адказе, які атрымаў Уладзімір

Шанцаў ад МГКУ дарожна-маставога прадпрыемства, сказана, што на прадпрыемстве недахоп прыбіральшчыкаў тэрыторыі, а дзень меркаванага мерапрыемства прыпадае на выходны. Спачатку камунальнікі заключылі дамову з арганізатарамі на прыбіранне тэрыторыі, аднак потым разарвалі яе ў аднабаковым парадку.

23 студзеня былая старшыня Гомельскага гарвыканкама Святлана Гальдадэ атрымала паведамленне з Камітэта па правах чалавека ААН аб рэгістрацыі скаргі, якую яна разам з гомельскімі праваабаронцамі Анатолем Паплаўным і Леанідам Судаленкам падала ў сувязі з забаронай у абласным цэнтры 4 жніўня 2012 года пікета ў падтрымку палітычнага зняволенага праваабаронцы Алеся Бяляцкага. Святлана Гальдадэ просіць Камітэт устанавіць факт парушэння з боку дзяржавы яе і праваабаронцаў правоў на свабоду правядзення мірных сходаў і свабоду выказвання меркавання і рэкамендаваць беларускаму ўраду прывесці закон «Аб масавых мерапрыемствах», а таксама рашэнне мясцовай улады аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у адпаведнасць з міжнароднымі абавязацельствамі.

26 студзеня ў Баранавічах планаваўся пікет пад лозунгамі «Дзеянні ўлады і законы РБ — пад грамадзянскі кантроль», правядзенне якога Баранавіцкі гарвыканкам забараніў прафсаюзнаму актывісту Рыгору Грыку, нягледзячы на тое, што заяўнік заключыў дамовы з паліклінікай, ЖКГ і міліцыяй і выканаў усе патрабаванні закону аб масавых мерапрыемствах. Прычым аб забароне пікета актывісту стала вядома не з адказу гарвыканкама, які Рыгор Грык так і не атрымаў нават да 26 студзеня, а пасля размовы грамадскага актывіста з намеснікам начальніка аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі ГАУС маёрам Паўлам Кульгавікам.

30 студзеня праваабаронцы і грамадскія актывісты Сяргей Гоўша, Віктар Сырыца, Вячаслаў Болбат, Віктар Мезяк, Мікалай Чарнавус, Рыгор Грык і Анжаліка Камбалава звярнуліся да новага старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Юрыя Грамакоўскага з прапановамі аб дэмакратызацыі рашэння аб масавых мерапрыемствах. У заяве сказана, што па розных прычынах ужо больш за 6 гадоў Баранавіцкі гарвыканкам не дае дазволу фактычна нікому з прадстаўнікоў грамадскасці на правядзенне масавых мерапрыемстваў, парушаючы арт. 2 і 35 Канстытуцыі РБ. У пацвярджэнне сказанага заяўнікі прыклалі да звароту копіі сваіх заяў на правядзенне масавых мерапрыемстваў і адмовы гарвыканкама і ГАУС, а таксама рашэнне Камітэта па правах чалавека ААН, які прызнаў незаконным рашэнне Баранавіцкага гарвыканкама забараніць сход грамадзян гора-

да 10 верасня 2006 года. Заяўнікі адзначаюць, што згодна з рашэннем гарвыканкама № 1497 ад 16.06.2009г. «Аб парадку правядзення ў г. Баранавічы масавых мерапрыемстваў» ад арганізатараў патрабуецца заключыць дамовы аб прыборцы тэрыторыі, медыцынскім абслугоўванні і ахове грамадскага парадку. Аднак выканаць рашэнне ў часцы заключэння дамовы з Баранавіцкім ГАУС практычна немагчыма. У аддзеле аховы грамадскага парадку ГАУС заяўляюць, што падпішуць дамову тады, калі гарвыканкам дасць дазвол на правядзенне мерапрыемства, а дазвол на правядзенне не даецца, матывуючы тым, што не заключана дамова з міліцыяй. Заяўнікі просяць унесці наступныя змены ў рашэнне Баранавіцкага гарвыканкама: 1. пашырыць колькасць пастаянных месцаў для правядзення масавых мерапрыемстваў да 3-4; 2. у сваіх рашэннях аб забароне пікетаў, сходаў ці мітынгаў і г.д. канкрэтна ўказваць, які пункт Закону (ці рашэння гарвыканкама) аб масавых мерапрыемствах, абзац і частку абзаца парушылі заяўнікі, каб выключыць усе спрэчныя пытанні; 3. запрашаць саміх заяўнікаў на пасяджэнні гарвыканкама, дзе плануецца разгляд іх заяў на правядзенне масавых мерапрыемстваў для высвятлення спрэчных пытанняў ці звычайных удакладненняў; 4. унесці дадатковы пункт: Адзіночныя пікеты праводзяцца па заяўнаму прынцыпу, і дазвол Баранавіцкага гарвыканкама на іх правядзенне не патрабуецца, калі заяўнік бярэ на сябе абавязак па прыборцы тэрыторыі, забеспячэнні аховы грамадскага парадку і медыцынскаму абслугоўванні. 5. выкрасліць з пункта 4 падпункт, які абавязвае арганізатараў масавых мерапрыемстваў заключаць абавязковае пагадненне з міліцыяй па ахове грамадскага парадку. Заяўнікі прапануюць не заключаць дамову з міліцыяй таму, што п. 5 Пастановы Савета Міністраў РБ ад 05.03.2012 г. № 207 абавязвае мясцовы выканаўчы і распарадчы орган на працягу аднаго дня з моманту рэгістрацыі заявы на правядзенне масавага мерапрыемства накіроўваць яго копію ў тэрытарыяльны орган унутраных спраў для разгляду пытанняў, звязаных з аховай грамадскага парадку.

## Абмежаванне свабоды асацыяцый

8 студзеня галоўнае ўпраўленне юстыцыі Брэсцкага аблвыканкама адмовіла ў рэгістрацыі асветніцкага грамадскага аб'яднання «Брэсцкія хрысціянскія дэмакраты». Як вынікае з адказу, які быў дасланы старшыні аргакамітэта гэтага аб'яднання Дзмітрыю Шурхаю, назва арганізацыі, з пункту гледжання юрыстаў аблвыканкама, не адпавядае вызначэнню грамадскага аб'яднання. У адказе гаворыцца, што слова «хрысціянскія» можа ўваходзіць у назву рэлігійнай арганізацыі, якая ставіць на мэце асветніцкую дзейнасць у галіне вывучэння хрысціянскага веравучэння, а слова

«дэмакраты» можа ўваходзіць у назву палітычнай партыі. Ва ўпраўленні юстыцыі таксама паведамілі, што ў адпаведнасці з заканадаўствам грамадскім аб'яднаннем «з'яўляецца добраахвотнае аб'яднанне грамадзян для сумеснай рэалізацыі грамадзянскіх, сацыяльных, культурных і іншых правоў, але не для рэалізацыі свабоды сумлення, палітычных праграм». Ранейшая спроба зарэгістраваць арганізацыю брэсцкіх хрысціянскіх дэмакратаў таксама была беспаспяховай, у тым ліку з прычыны таго, што ініцыятары стварэння грамадскага аб'ядання не ўзгаднілі яго назву з «рэгіструючым органам». Тады пярэчанні ў галоўнага ўпраўлення юстыцыі аблвыканкама выклікала нібыта неадпаведнасць назвы арганізацыі на рускай і беларускай мовах («Брестские христианские демократы» і «Берасцейскія хрысціянскія дэмакраты»).

13 студзеня пінскаму каардынатару аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» Сяргею Сухаверхаму пракуратура вынесла афіцыйнае папярэджанне за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Папярэджанне падпісана Супрун Людмілай Сцяпанаўнай, намеснікам Пінскага міжраённага пракурора.

15 студзеня стала вядома, што з 451 арганізацый, якія мелі да нядаўняга часу істотныя льготы па арэндзе памяшканняў (90 % зніжка), льготы захаваныя толькі ў 195. У шорт-ліст аб'яднанняў, якім далі льготу, увайшлі практычна ўсе федэрацыі спорту, уключаючы нават Федэрацыю гольфа. Са 195 арганізацый, якія засталіся ў спісе ільготнікаў, 52 — менавіта спартыўныя федэрацыі і аб'яднанні. Пры гэтым моладзевым аб'яднанням спартыўнай тэматыкі ільготы прадастаўлены, а моладзевым арганізацыям інтэлектуальнай і забаўляльнай скіраванасці («Гомельскі клуб вясёлых і знаходлівых», «Беларускі КВЗ») — не. Льготы атрымалі аб'яднанні інвалідаў, дабрачынныя, «чарнобыльскія» арганізацыі, тыя, якія аказваюць дапамогу дзецям, аб'яднанні шматдзетных бацькоў. У спіс грамадскіх аб'яднанняў, якім аказваецца падтрымка, не ўвайшлі ГА «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» (ТБМ), ГА «Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына», ГА «Беларускі фонд SOS — Дзіцячая вёска», РГА «Цэнтральная служба ананімных алкаголікаў», БГА «Рэспубліка без наркотыкаў», РГА «Беларуская асацыяцыя клубаў ЮНЕСКА», РГА «Ліга добраахвотнай працы моладзі». Чаму гэта адбылося, у Дзяржаўным камітэце па маёмасці не адказалі, спаслаўшыся на «немагчымасць даць інфармацыю». Са спісаў выключаны саюзы прадпрымальнікаў і экалагічныя аб'яднанні. Ільгот таксама пазбавіліся саюзы нацыянальных меншасцяў, у тым ліку ГА «Саюз палякаў на Беларусі», аднак у спіс ільготнікаў увайшлі яўрэйскія дабрачынныя аб'яднання

і суполкі, а таксама Камуністычная партыя Беларусі. У Беларусі каля трох тысяч грамадскіх арганізацый. Пералік ільготнікаў складаецца па ўзгадненні з прэзідэнтам.

23 студзеня старшыня прафсаюзнай суполкі Свабоднага прафсаюза Беларускага на бабруйскім заводзе ТДіА (трактарных дэталяў і агрэгатаў) Міхаіл Кавалькоў заявіў, што на заводзе працягваецца дыскрымінацыя сябраў СПБ. У сувязі з гэтым ён накіраваў заяву, адрасаваную дырэктару БЗ ТДіА Аляксандру Аграновічу (копіі даслаў міністру прамысловасці, міністру працы і сацыяльнай абароны, старшыні бабруйскага гарвыканкама, генеральнаму дырэктару МТЗ, пракурору Першамайскага раёна), у якой вылучыў шэраг патрабаванняў да адміністрацыі завода. Калі патрабаванні не будуць прыняты пад увагу, М. Кавалькоў з 27 студзеня абвесціць галадоўку, каб прыцягнуць увагу да дыскрымінацыі па прафсаюзнай прыкмеце. Патрабаванні ў заяве наступныя: прыпыніць пераслед сябраў СПБ; уступіць у перамовы са «свабодаўцамі» па выпрацоўцы і заключэнні калектыўнай дамовы; ліквідаваць дыскрымінацыйныя пункты калектыўнай дамовы і распаўсюдзіць яе дзеянне на ўсіх працоўных завода; забяспечыць старшыні суполкі СПБ свабодны доступ на тэрыторыю завода; прадаставіць для суполкі СПБ памяшканне для статутнай дзейнасці і забяспечыць роўныя ўмовы з прафсаюзам АСМ. Таксама ў заяве Міхаіл Кавалькоў пералічыў парушэнні, дапушчаныя адміністрацыяй завода ў адносінах да сябраў незалежнага прафсаюза. Яны пачаліся з 2005 года: гэта забарона «свабодаўцам» карыстацца фізкультурна-аздараўленчым комплексам, блакіроўка пропуска Міхаіла Кавалькова, звальненні сябраў СПБ, пазбаўленне фінансавых бонусаў і многае іншае. 27 студзеня стала вядома, што галадоўка адкладзена яе ініцыятарам Міхаілам Кавальковым. Нагодай стала абяцанне з боку завадской адміністрацыі правесці канструктыўныя перамовы з старшынём суполкі Свабоднага прафсаюза Беларускага, у якіх будуць разгледжаны ўсе злабадзённыя пытанні «свабодаўцаў». Заява з назвай «В режиме диалога» з'явілася і на афіцыйным сайце прадпрыемства. У ёй гаварыцца пра важнасць двух бакоў прыйсці да кампраміснага рашэння.

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Люты 2014 года

У лютым беларускія ўлады артыкулявалі сваю зацікаўленасць праблемай правоў чалавека. Праўда, яны выказалі сваю заклапочанасць праблемамі ў дадзенай сферы не ў Беларусі, а ў некаторых замежных краінах. 10 лютага МЗС Беларусі апублікаваў ужо другі даклад «Найбольш рэзанансныя выпадкі парушэння правоў чалавека ў асобных краінах свету ў 2013 годзе» (першы быў падрыхтаваны па выніках 2012 года). Міністр замежных спраў Уладзімір Макей ва ўступным артыкуле адзначыў, што сёння правы чалавека ўзведзены міжнароднай супольнасцю на такі ж высокі ўзровень, як пытанні міру і ўсясветнай бяспекі, і без тэмы правоў чалавека сёння высокі міжнародны ўзровень проста немагчымы. Кіруючыся такім падыходам, беларускі МЗС абраў наступальную тактыку, сцвярджаючы, што тыя краіны, якія абвінавачваюць Беларусь, самі парушаюць правы чалавека. У прэамбуле да даклада напісана, што ён тычыцца тых краін, якія ўвялі санкцыі адносна Беларусі — дзяржаў ЕС, ЗША і Канады. Пры гэтым беларускія ўлады свядома ўхіліліся ад крытыкі тых краін, якія традыцыйна падтрымліваюць Беларусь на міжнародным узроўні. Даклад носіць выключна прапагандысцкі характар, накіраваны ў тым ліку на выпрацоўку аргументацыі для міжнародных арганізацый на крытыку сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі. Аднак станоўчым аспектам з'яўлення гэтага даклада стала тое, што беларускія ўлады прызнаюць, што правы чалавека не з'яўляюцца выключна ўнутранай праблемай дзяржаў і падлягаюць увазе і заклапочанасці з боку міжнароднай супольнасці.

ЕС і ЗША вельмі хутка адрэагавалі на даклад беларускага МЗС. Прадстаўніцтва Еўрасаюза адзначыла, што «прыняло да ведама даклад», дадаўшы, што ЕС штогод выпускае даклад, які канцэнтруецца на працы ЕС па прасоўванні правоў чалавека ў свеце. «Выкарыстоўваючы магчымасць, якая прадставілася, ЕС зноў нагадвае беларускім уладам пра важнасць выканання ўсіх рэзалюцый Савета ААН па правах чалавека, у тым ліку выкананне рэкамендацый па паляпшэнні сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі, супрацоўніцтве са спецдакладчыкам па сітуацыі ў краіне».

«Злучаныя Штаты Амерыкі заўсёды адкрытыя да дыялогу з Беларуссю па сітуацыі з правамі чалавека», — пракаментавалі ў амбасадзе ЗША ў Мінску справаздачу МЗС Беларусі. «Мы таксама гатовыя абмяркоўваць з беларускімі ўладамі нашу справаздачу пра сітуацыю з правамі чалавека ў той частцы, якая тычыцца Беларусі».

Па-ранейшаму самай вострай праблемай заставалася наяўнасць палітычных зняволеных. Аднак у лютым з'явілася некалькі заяў, у выніку якіх стала зразумела, што пазіцыі некаторых замежных краін па колькасці і персанальным спісе палітвязняў разыходзяцца. Так, беларускія праваабаронцы настойвалі на безумоўным вызваленні і рэабілітацыі 9 палітвязняў (Алесь Бяляцкі, Мікалай Статкевіч, Мікалай Аўтуховіч, Эдуард Лобаў, Мікалай Дзядок, Ігар Аліневіч, Андрэй Гайдукоў, Уладзімір Яроменак і Васіль Парфянкоў) і патрабавалі перагляду спраў справядлівым судом і вызвалення палітвязняў Яўгена Васьковіча і Арцёма Пракапенкі, адзначаючы несправядлівую кваліфікацыю іх дзеянняў і празмернасць вынесенага пакарання, і лічачы, што яны адбылі ўжо дастатковае пазбаўленне волі за здзейсненыя ўчынкі.

Тое, што Еўрасаюз палітычнымі лічыць толькі 6 беларускіх зняволеных, прагучала 17 лютага падчас нефармальнай сустрэчы праваабаронцаў з паслом адной з еўрапейскіх краін. Намеснік старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянцін Стэфановіч пасля сустрэчы пракаментаваў дадзеную інфармацыю па просьбе журналіста Еўрарадыё: «Ніхто канкрэтных лічбаў не называў ніколі — мы ўдзельнічалі ў розных сустрэчах, калі нас прасілі прадставіць наш пункт гледжання на тыя ці іншыя справы, мы іх агучвалі і заўсёды казалі: «Мы лічым палітвязнямі 11 чалавек». І тое, што зараз мы даведаліся пра шасцярых — гэта для нас новая інфармацыя». Пры гэтым персанальны спіс, каго ЕС прызнае палітвязнямі, не быў названы. Якая еўраструктура прыняла рашэнне лічыць палітычнымі менавіта такую колькасць беларускіх вязняў, таксама засталося невядомым.

18 лютага карэспандэнту БелаПАН у прадстаўніцтве ЕС у Беларусі растлумачылі, што спісы палітвязняў па розных прычынах могуць адрозніваццa. «Па-першае, рознымі могуць быць спісы ў міжнародных праваабарончых арганізацый і тых, якія працуюць у Беларусі. Па-другое, колькасць палітвязняў можа быць рознай у розныя перыяды. Для ЕС застаецца важным, каб у любым выпадку ўсе палітвязні былі вызвалены і не з'яўляліся новыя, а сітуацыя з правамі чалавека паляпшалася». ЕС, адзначалася ў паведамленні, «прыслухоўваецца да розных пунктаў гледжання, меркаванняў экспертаў, праводзіць маніторынгі, робіць свае ўласныя высновы з сітуацыі і прымае рашэнні самастойна». Але так і не прагучала, каго ЕС лічыць палітвязнямі ў Беларусі, аднак адзначалася, што Еўрасаюз працягвае заклікаць беларускія ўлады да вызвалення палітвязняў і паляпшэння сітуацыі з дэмакратыяй, вяршэнствам закона і правамі чалавека, у тым ліку правам грамадзян на справядлівы суд і адсутнасць палітычна матываваных пераследаў.

Пра тое, што палітычны дыялог афіцыйнага Мінска з Брусэлем немагчымы без вырашэння праблемы палітвязняў, заявіў 19 лютага падчас

сустрэчы з прадстаўнікамі беларускай апазіцыі кіраўнік дэпартамента Усходняга партнёрства Еўрапейскай службы знешніх дзеянняў Дырк Шубель, які знаходзіўся ў Беларусі з працоўным візітам. Па выніках сустрэчы адзін з яе ўдзельнікаў, лідар АГП Анатоль Лябедзька адзначыў, што папрасіў еўрачыноўніка пракаментаваць інфармацыю ў СМІ аб тым, што ЕС нібыта мае спіс з шасці палітвязняў, у той час як у Беларусі лічаць такімі адзінаццаць. Па словах палітыка, Дырк Шубель заявіў, што ніхто ніякіх выключэнняў з агульнага спісу не рабіў на ўзроўні ЕС, што яны патрабуюць вызвалення ўсіх палітвязняў без усялякіх выключэнняў, а заявы, якія прагучалі, могуць быць прыватным меркаваннем асобных членаў Еўрапейскага Саюза.

Вядома, што вызваленне палітвязняў — галоўнае патрабаванне ЕС да беларускіх уладаў, без вырашэння якога шанцаў на пачатак паляпшэння стасункаў няма, але ў лютым з'явілася трывога, што пасля вызвалення 6, а не 11 зняволеных Еўрасаюз можа палічыць патрабаванне выкананым. Такое развіццё падзеяў было б вельмі небяспечным, улічваючы тое, што знешнепалітычны фактар на сённяшні дзень з'яўляецца самым уплывовым на сітуацыю як з палітычнымі зняволенымі, так і ўвогуле на становішча з правамі чалавека ў краіне.

Адзін з механізмаў, які можа быць выкарыстаны краінамі ЕС у справе ціску на афіцыйны Мінск па пытанні палітвязняў, быў прапанаваны Швецыяй і выкладзены ў дакуменце пад загалоўкам «20 пунктаў пра Усходняе Партнёрства пасля Вільні», прадстаўленым 10 лютага на паседжанні Савета ЕС на ўзроўні міністраў замежных спраў. У дакуменце рэкамендуецца шляхам «нефармальных кантактаў» з Мінскам, «выкарыстоўваючы» факт правядзення Чэмпіянату свету па хакеі ў Мінску (травень 2014 г. — рэд.), падштурхоўваць беларускія ўлады да «пазітыўных крокаў адносна палітвязняў».

Моцны рэзананс выклікала заява амбасадара Ізраіля ў Беларусі Іосіфа Шагала ў інтэрв'ю ізраільскаму каналу RTVI 6 лютага, што з пункту гледжання Ізраіля беларускія палітзняволеныя з'яўляюцца крымінальнікамі. «Тыя, каго лічаць палітзняволенымі, — гэта чатыры чалавекі афіцыйна сёння. Чатыры чалавекі засталіся, сядзяць у турме. Лукашэнка прапануе ім напісаць просьбу аб памілаванні, як у гісторыі з Хадаркоўскім: напішы просьбу — цябе адпусцяць. Яны не жадаюць, лічаць за лепшае заставацца героямі ў турме», — сказаў Іосіф Шагал. На пытанне журналісткі аб пазіцыі Ізраіля, як адзінай дэмакратыі на Блізкім Усходзе, у дачыненні да праблемы палітзняволеных у Беларусі Шагал адказаў: «Як мы паставімся да палесцінца, які кіне камень у Кнэсет? Ён хто — палітзняволены ці крымінальнік? Яны ўсе сядзяць па крымінальным артыкуле, а не па палітычным. Усе. За напад на парламент, за кіданне камя-

нёў». «Я не кажу, што яны не палітзняволеныя — з якога боку глядзець. З пункту гледжання крымінальнага кодэкса краіны, дзе іх пасадзілі, яны крымінальнікі. З пункту гледжання Польшчы ці Еўрасаюза, яны палітзняволеныя», — дадаў ізраільскі дыпламат. На ўдакладняючае пытанне журналісткі «а з пункту гледжання Ізраіля?», Шагал адказаў: «З пункту гледжання нашага, яны — крымінальнікі, таму што ў іх ёсць артыкул — за хуліганства, за кіданне камянёў, за знявагу ўлад ну і гэтак далей». Аднак МЗС Ізраіля не падтрымаў выказванні свайго амбасадара ў Беларусі. 14 лютага на сайце амбасады Ізраіля ў Варшаве з'явілася афіцыйнае паведамленне прэсавага сакратара ізраільскага Міністэрства замежных справаў, якое адмежавалася ад выказванняў амбасадара Іосіфа Шагала. «У сувязі са зместам інтэрв'ю, дадзенага 6 лютага тэлеканалу RTVi амбасадарам Ізраіля ў Беларусі, прэсавы сакратар МЗС Ізраіля і амбасада Ізраіля ў Варшаве жадаюць растлумачыць: «Словы амбасадара ў Мінску ні ў якім разе не адлюстроўваюць пазіцыю Дзяржавы Ізраіль. У інтэрв'ю амбасадар Шагал выказаўся пра іншыя краіны (у т. л. Польшчу). Гэтыя словы выклікалі непаразуменне сярод нашых сяброў. Выказваем шкадаванне з гэтай нагоды. Адпаведныя тлумачэнні ўжо былі перададзеныя праз дыпламатычныя каналы. Ігаль Пальмор, прэсавы сакратар МЗС Ізраіля. Амбасада Ізраіля».

У сваю чаргу былыя беларускія палітвязні і іх сваякі, а таксама сваякі тых, хто цяпер утрымліваецца ў беларускіх турмах паводле палітычных матываў, звярнуліся да прэзідэнта Ізраіля Шымона Пэрэса, прэм'ер-міністра Біньяміна Нетаньяху і старшыні Кнэсэту Юлія-Ёэля Эдэльштэйна з патрабаваннем адклікаць з Беларусі амбасадара Іосіфа Шагала. «Мы не можам умешвацца ў кадравую палітыку ізраільскага МЗС. Але лічым відавочным, што пасля абразлівых для дэмакратычнай супольнасці Беларусі выказванняў далейшае знаходжанне спадара Шагала на сваёй пасадзе ў нашай краіне наўрад ці будзе спрыяць падтрыманню пазітыўнага вобразу Дзяржавы Ізраіль у беларускім грамадстве», — сказана ў звароце.

Нягледзячы на вострыя дыскусіі вакол праблемы палітвязняў, іх лёс на працягу лютага заставаўся нязменным. Не адбылося ніякай пазітыўнай дынамікі і ў іншых адчувальных сферах правоў чалавека ў Беларусі. Сітуацыя заставалася закансерваванай і стабільна кепскай.

## Палітычныя зняволеныя, крымінальны пераслед грамадскіх актывістаў

1 лютага Марына Адамовіч, жонка палітвязня Мікалая Статкевіча, паведаміла са спасылкай на дасведчаную крыніцу, што турэмныя цэнзары не прапусцілі ліст Статкевіча з адказам на заяву А. Лукашэнкі, зробленую 21

студзеня падчас сустрэчы з кіраўнікамі найбуйнейшых беларускіх СМІ. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што для вызвалення Мікалаю Статкевічу трэба напісаць прашэнне аб памілаванні. У ранейшых лістах М.Статкевіч пісаў, што катэгарычна адмаўляецца звяртацца да А.Лукашэнкі з прашэннем аб памілаванні. Марына Адамовіч сцвяржае, што з таго часу нічога не змянілася. 6 лютага жонка Мікалая Статкевіча паведаміла, што палітвязень не выключае, што пасля нядаўніх прапаноў напісаць прашэнне ёсць верагоднасць таго, што патрэбнае прашэнне могуць напісаць за яго. «Узгадваю, як восенню 2011 года начальнік атрада прапанаваў мне напісаць заяву на імя начальніка калоніі з патрабаваннем (!) вызваліць мяне, пажадана па-беларуску. Я заяву напісаў, пераказаўшы ў ёй частку апошняга слова ў судзе і назваўшы прозвішча сапраўднага злачынцы. Потым, падумаўшы, перадаў [...], што магчымая фальсіфікацыя «прашэння» ад майго імя. (Прачытаў потым пра такую магчымасць у газеце, за што ўдзячны). Пазней, у студзені 2012 года, калі я сядзеў у «спецкамеры» ПКТ і чакаў суда па «крытай», адзін супрацоўнік аператыўнага аддзела сказаў мне, што такі план у іх сапраўды быў. Нават пахваліўся, што «зрабілі» б такое «прашэнне», якое б «ніводная экспертыза не выявіла». Палітвязень патлумачыў, што піша пра ўсё гэта, «каб ні ў кога падобнай спакусы і зараз не з'явілася».

7 лютага Марына Лобава, маці палітвязня Эдуарда Лобава, які адбывае пакаранне ў Івацэвіцкай калоніі, паведаміла, што сын першы раз за месяц тэлефанаваў дадому. Э. Лобаў распавёў, што вялікія маразы ён перажыў нармальна і не захварэў. 25 лютага Марына Лобава мела кароткатэрміновае спатканне з сынам. Размова адбывалася дзве гадзіны па тэлефоне праз шкло. М. Лобава адзначыла, што Эдуард адчувае сябе нармальна. У чэрвені ў яго заканчваецца вучоба, і палітвязень атрымае дыплом электрагазазваршчыка, будуе планы на хуткае вызваленне (павінен быць вызвалены 18 снежня 2014 года).

6 лютага польскі дэпутат Еўрапейскага парламента Філіп Качмарак даслаў ліст падтрымкі палітвязню Яўгену Васьковічу і зварот да беларускага Чырвонага Крыжа з просьбай расследаваць сітуацыю, у якой апынуўся зняволены. З пятнаццаці месяцаў, якія Яўген Васьковіч знаходзіцца за кратамі, восем ён правёў у карцары. «Як вядома, знаходжанне ў карцары нават некалькі дзён вельмі небяспечна для жыцця чалавека і можа прывесці да трагічных наступстваў. Я падазраю, што шматмесячнае знаходжанне Яўгена ў карцары — катаванне з мэтай прымусіць яго падпісаць прашэнне аб памілаванні», — адзначыў Ф. Качмарак. 17 лютага беларускі Чырвоны Крыж адказаў: «Беларускім таварыствам Чырвонага Крыжа атрыманы ваш зварот з нагоды Яўгена Васьковіча 10.02.2014, і па дару-

чэнні старшыні Беларускага таварыства Чырвонага Крыжа Малашкі В.А. паведамляем вам, што намі адпраўлены запыт у Дэпартамент выканання пакаранняў Міністэрства ўнутраных спраў аб умовах утрымання пад вартай і магчымасці наведвання Яўгена Васьковіча». 26 лютага Яўген Васьковіч адзначыў сваё 24-годдзе. Гэта ўжо чацвёрты Дзень нараджэння, які палітвязень сустрэў у зняволенні.

8 лютага Наталля Пінчук, жонка палітвязня-праваабаронцы Алеся Бяляцкага, паведаміла, што атрымала ліст ад мужа, у якім ён піша, што ўвесь вольны час працуе над эсэ пра пісьменніка Барыса Мікуліча. Гэты двойчы рэпрэсаваны пісьменнік, які памёр пасля вайны, некалькі месяцаў не дачакаўшыся рэабілітацыі, друкаваўся ў даваенным часопісе «Маладняк», які выходзіў у Бабруйску, дзе зараз адбывае пакаранне Алесь Бяляцкі. 25 лютага А. Бяляцкі стаў лаўрэатам прэміі «Залаты апостраф», заснаванай часопісам «Дзеяслоў» у намінацыі «non-fiction» за артыкул «Дзяды былі з намі», напісаны з нагоды 25-годдзя першага масавага мітынгу ў Беларусі на Дзяды.

8 лютага грамадская актывістка і рэжысёр Вольга Нікалайчык паведаміла, што атрымала ліст ад палітвязня Мікалая Аўтуховіча, у якім ён напісаў, што не атрымаў паштоўкі і тэлеграмы, якія яму дасылалі беларускія і ўкраінскія актывісты ў Дзень нараджэння з кіеўскага Майдана. 26 лютага праваабаронца Алег Волчак адзначыў, што адміністрацыя гродзенскай турмы не дазваляе правесці дыягностыку стану здароўя Мікалая Аўтуховіча. У палітвязня сур'ёзныя праблемы з зубамі, яму патрэбны імплантанты, а яму да гэтага часу не перадалі міксер для драбнення ежы.

8 лютага Валерыя Хоціна, жонка палітвязня Мікалая Дзядка, паведаміла, што адміністрацыя Магілёўскай турмы адмовілася прымаць для яго прадуктовую перадачу. Па словах В. Хоцінай, яму даслалі бандэроль: «снікерсы», цыгарэты, якія ён прасіў, гарбату, паколькі ён паведаміў, што гэта магчыма, але ў хуткім часе прыйшло паведамленне, што бандэроль вяртаецца. Прычыну, чаму прадуктовую бандэроль не дазволілі перадаць, родным не паведамілі. Перад гэтым кніжная бандэроль адміністрацыя турмы прапусціла. Паводле слоў палітвязня, ён прачытаў усе кнігі з турэмнай бібліятэкі, якія яго цікавілі. Валерыя Хоціна адзначыла, што ў апошніх лістах Мікалай на дрэннае здароўе не скардзіўся.

11 лютага палітвязня Васіля Парфянкова накіравалі ў папраўчую калонію №9 у Горках, дагэтуль ён утрымліваўся ў следчым ізалятары №7 у Жодзіна. 5 снежня 2013 года Васіля Парфянкова асудзілі на год папраў-

чай калоніі строгага рэжыму за парушэнне патрабаванняў прэвентыўнага нагляду. Ён быў узяты пад варту ў зале суда і адпраўлены ў следчы ізалятар.

20 лютага ў Варшаве прэзентавалі Нацыянальную прэмію ў галіне абароны правоў чалавека імя Віктара Івашкевіча, заснаваную сайтам «Хартыя-97». Віктар Івашкевіч — актыўны дзеяч беларускага дэмакратычнага руху, які ў 2013 годзе заўчасна пайшоў з жыцця. Адным з лаўрэатаў прэміі стаў палітвязень Уладзімір Яроменак.

24 лютага сям'я палітвязня Андрэя Гайдукова, які адбывае пакаранне ў Магілёўскай калоніі № 19, вярнулася з доўгатэрміновага спаткання, якое працягвалася трое сутак. Вольга Гайдукова, маці палітвязня, паведаміла, што спатканне прайшло добра, Андрэй адчувае сябе нармальна, настрой у яго добры, вязень чакае вызвалення (павінен выйсці на волю 8 траўня 2014 года).

## Смяротнае пакаранне

У лютым споўнілася пяць гадоў з пачатку дзейнасці кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі». У межах кампаніі існуе некалькі накірункаў. І адзін з іх — юрыдычная дапамога людзям, асуджаным да смяротнага пакарання дзеля таго, каб пераканацца ў справядлівасці судовага разбіральніцтва. За гэты час было пададзена некалькі скарг у Камітэт па правах чалавека ААН, з іх ужо разгледжаны звароты па справах Уладзіслава Кавалёва і Андрэя Жука, па астатніх адбываецца камунікацыя. Адным з накірункаў з'яўляецца праца са сваякамі асуджаных, якія дабіваюцца змены парадку выканання смяротных прысудаў і выдачы цел расстраляных. Яшчэ адзін з важных накірункаў — інфармацыйны. Вакол тэмы смяротнага пакарання дзяржаўныя органы спрабуюць захаваць завесу таямнічасці і сакрэтнасці. Інфармацыя не пра ўсе прысуды робіцца публічнай і з'яўляецца ў СМІ. Вялікая складанасць — немагчымасць правядзення мірных сходаў супраць смяротнага пакарання.

## Ужыванне катаванняў і іншых відаў жорсткага і бесчалавечнага абыходжання

8 лютага Віктар Шаршун знаходзіўся ў сваёй кватэры на бульвары Шаўчэнкі ў Мінску, калі невядомыя пазванілі ў дзверы, прадставіўшыся супрацоўнікамі ЖЭС. Як выявілася пасля, насамрэч гэта былі супрацоўнікі міліцыі. Не прадставіўшыся, яны загадалі грамадзяніну зняць бел-

чырвона-белы сцяг, які вісеў на ягоным балконе, паколькі, па іх словах, гэта сімволіка з'яўляецца незарэгістраванай. Віктар Шаршун адмовіўся гэта рабіць і паспрабаваў зачыніць уваходныя дзверы. Тады супрацоўнікі міліцыі выцягнулі яго на лесвічную пляцоўку, пачалі збіваць. З кайданкамі на руках Віктара Шаршуна даставілі ў РУУС Цэнтральнага раёна г. Мінска, дзе ён прабыў да позняга вечара, аднак ніхто не тлумачыў прычыну затрымання, пратакол адміністрацыйнага правапарушэння таксама не складаўся. Каля 21 гадзіны затрыманага даставілі на вул. Мініна для праходжання агляду на прадмет ужывання алкаголю. Пасля таго яго ізноў адвезлі ў РУУС. Мужчына дрэнна сябе адчуваў, была выклікана хуткая дапамога, якая шпіталізавала яго ў 2-ю клінічную бальніцу. Перад ад'ездам у шпіталь мужчыне ўручылі ўжо складзены пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні па арт. 23.4 (непадпарадкаванне законнаму распараджэнню ці патрабаванню службовай асобы пры выкананні ім службовых паўнамоцтваў) і 23.5 (абраза службовай асобы пры выкананні ім службовых паўнамоцтваў) КаАП Рэспублікі Беларусь. У бальніцы пацыенту зрабілі рэнтгенаграфію рэбраў, пасля чаго адпусцілі дадому. Віктар Шаршун падаў скаргу ў пракуратуру Цэнтральнага раёна Мінска з просьбай правесці пракурорскую праверку адносна неправамерных дзеянняў міліцыі і прыцягнуць вінаватых асоб да адказнасці. «Спасылка работнікаў міліцыі на тое, што нібыта я парушыў дзеючае заканадаўства, вывесіўшы на балконе незарэгістраваную ва ўстаноўленым законам парадку сімволіку, з'яўляецца недарэчнай і незаконнай, паколькі карыстанне незарэгістраванай сімволікай забаронена законам толькі ўдзельнікам масавых мерапрыемстваў», — адзначае грамадзянін у скарзе на дзеянні работнікаў міліцыі. 13 лютага Віктар Шаршун атрымаў даведку з гарадской станцыі хуткай медыцынскай дапамогі. У выпісцы з медыцынскіх дакументаў сярод іншага адзначалася, што падчас знешняга агляду 8 лютага зафіксаваны шматлікія ссадзіны і вонкавыя пашкоджанні скураных пакроваў. У якасці дыягназу там адзначаецца магчымы закрыты пералом 8-9 рабрынаў злева. 25 лютага з адказу намесніка пракурора Цэнтральнага раёна М.М.Хортава стала вядома, што скарга В. Шаршуна перанакіравана ў суд Цэнтральнага раёна. Такім чынам, пракурор замест таго, каб правесці праверку і прыцягнуць да адказнасці супрацоўнікаў міліцыі, перадаў справу ў суд, змяніўшы прадмет абскарджвання на нязгоду грамадзяніна з вядзеннем адносна яго адміністрацыйнага працэсу.

## Пераслед праваабаронцаў і праваабарончыя арганізацыі

10 лютага ў судзе Ашмянскага раёна была разгледжана грамадзянская справа праваабаронцы Таццяны Рэвяка супраць Ашмянскай мытні,

якая вынесла рашэнне аб рээкспарце ў Літоўскую Рэспубліку 40 асобнікаў вынятых у яе на мяжы кніг зняволенага праваабаронцы Алеся Бяляцкага «Асьвечаныя Беларушчынай». Гэта патрабаванне мытні было абгрунтавана высновамі двух экспертыз і Раздзелам 1.3 Адзінага пераліку тавараў, да якіх ужываюцца забароны ці абмежаванні на ўвоз ці вываз дзяржавамі-членамі Мытнага саюза ў межах Еўразійскай эканамічнай супольнасці. Мытны орган прадстаўлялі Тамара Глінкевіч і Алена Ждановіч, а таксама была дапытана ў якасці спецыяліста супрацоўніца Ашмянскай мытні Н. Кананові ч. У якасці прадстаўніка інтарэсаў заяўніка Таццяны Рэвяка ў працэс быў дапушчаны юрыст Павел Сапелка. Падчас паседжання суддзёй Таццянай Емельяновіч былі заслуханы бакі, вывучаліся пісьмовыя матэрыялы справы, адбыліся судовыя спрэчкі бакоў, выступілі сведкі з боку праваабаронцаў — Сяргей Сыс і Андрэй Палуда, якія засведчылі, што Таццяна Рэвяка везла кнігі не для продажу, а для распаўсюду сярод сяброў і знаёмых Алеся Бяляцкага. 11 лютага суддзя Таццяна Емельяновіч не задаволіла скаргу Т. Рэвякі, прызнаўшы правамоцнай забарону ўвозу выдання ў Беларусь. Пры гэтым суддзя прызнала праведзеныя экспертызы па кнізе непрымальнымі, улічыўшы іх разам з тым як меркаванне спецыялістаў, а рашэнне аб адмове, па яе словах, было прынята сыходзячы з унутраных перакананняў. Суд прызнаў, што змест літаратуразнаўчай кнігі Алеся Бяляцкага «Асьвечаныя Беларушчынай» можа нанесці шкоду палітычным інтарэсам Рэспублікі Беларусь, дзяржаўнай бяспецы і маральнасці грамадзян. Пры гэтым суд не прывёў ніводнай фразы з гэтай кнігі, якая, па яго меркаванні, можа ненесці шкоду ўказаным каштоўнасцям. 12 лютага Сакратарыят ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» заявіў, што лічыць рашэнне суда палітычна матываваным і выкліканым толькі тым, што аўтар цяпер знаходзіцца ў зняволенні.

13 лютага ўвечары на беларускай мяжы для дагляду затрымалі кіраўніка прыватнай культурна-асветніцкай установы «Платформа інавэйшн» Андрэя Бандарэнку. У аўтамабілі мытнікі знайшлі некалькі асобнікаў гадавой справаздачы пра дзейнасць арганізацыі. Праз некалькі гадзін перамоў мытнікі правялі поўны дагляд аўто і затрымалі для правядзення экспертызы ўсе асобнікі справаздачы. Андрэй Бандарэнка падкрэсліў, што гадавая справаздача «Платформы» з'яўляецца адкрытым дакументам і размешчана на афіцыйным сайце арганізацыі. Раней ні ў аднаго з дзяржаўных органаў прэтэнзій да гэтых справаздач не ўзнікала.

18 лютага суд Цэнтральнага раёна Мінска разгледзеў скаргу намесніка старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянціна Стэфановіча на рашэнне Генпракуратуры ўнесці сайт spring96.org у спіс абмежаванага

доступу для інтэрнэт-карыстальнікаў. Справу разглядала суддзя Алена Сямак, прадстаўнік адказчыка — намеснік начальніка аддзела па наглядзе за выкананнем правоў і свабод грамадзян Генеральнай пракуратуры Павел Елісееў. Валянцін Стэфановіч на пачатковай стадыі працэсу заявіў хадайніцтва дапусціць да слухання прадстаўніка грамадскасці — старшыню Беларускага Хельсінкскага камітэта Алега Гулака, а таксама дазволіць заяўніку і яго прадстаўніку азнаёміцца з пастановай Генпракуратуры, на падставе якой сайт spring96.org быў унесены ў спіс забароненых. Стэфановіч таксама выступіў з хадайніцтвам аб вядзенні працэсу на беларускай мове. Суд і прадстаўнік пракуратуры падтрымалі хадайніцтвы, за выключэннем апошняга. Такім чынам, судаводства вялося на рускай мове, але паказанні Стэфановіча і Гулака былі ўнесены ў пратакол пасяджэння на беларускай. Пры гэтым суддзя адзначыла, што кампутар у зале пасяджэння не прыстасаваны да беларускай мовы. Па хадайніцтве прадстаўніка пракуратуры да матэрыялаў справы былі далучаны скрыншоты з матэрыяламі сайта ПЦ «Вясна». Генпракуратура узказвала, што адной з падстаў унясення сайта spring96.org у спіс забароненых з'явілася публікацыя матэрыялаў неправамернага характару. Пастанова аб гэтым была вынесена ў жніўні 2011, аднак у матэрыялах справы былі прадстаўлены спасылкі ў асноўным на артыкулы, якія выйшлі пасля жніўня 2011. В.Стэфановіч аспрэчваў парушэнне сваіх правоў як аднаго з аўтараў сайта ПЦ «Вясна», а менавіта — незаконнае абмежаванне на распаўсюд інфармацыі. На яго думку, у пракуратуры не было падстаў на ўнясенне сайта ў спіс забароненых, бо матэрыялы, размешчаныя на ім, ніякім чынам не парушаюць закон, а наадварот, спрыяюць паляпшэнню прававой культуры насельніцтва. Пазіцыя Генпракуратуры была заснавана на тым, што на сайце spring96.org размешчана інфармацыя аб дзейнасці арганізацыі — ПЦ «Вясна» , якая не прайшла дзяржаўную рэгістрацыю ва ўстаноўленым законам парадку, а значыць, размяшчэнне такой інфармацыі таксама з'яўляецца парушэннем закона. П.Елісееў адзначыў, што скарг ад грамадзян на інфармацыю, размешчаную на spring96.org, не паступала, пракуратура самастойна прыняла рашэнне аб унясенні сайта ў спіс забароненых у парадку нагляду згодна з указам прэзідэнта №60. Прадстаўнік Генпракуратуры падкрэсліў, што інфармацыя на сайце ПЦ «Вясна» прапагандуе супрацьпраўныя дзеянні, падрывае асновы дзяржаўнасці, таму забарону для дзяржаўных арганізацый на карыстанне дадзеных электронным рэсурсам праваахоўнікі лічаць абгрунтаванай. У ходзе слухання Павел Елісееў адзначыў, што калі б у Генпракуратуры была магчымасць абмежаваць усіх грамадзян да доступу да сайта ПЦ «Вясны», яны яе б рэалізавалі. У часе судовых спрэчак В.Стэфановіч адзначыў, што прадстаўнік Генпракуратуры так і не патлумачыў, чым кан-

крэтна былі парушаныя правы грамадзян праз інфармацыю, якую распаўсюджваў заяўнік на сайце spring96.org. «Наша дзейнасць заснаваная на прынцыпах правоў чалавека. Мы падтрымліваем дзяржаўную палітыку па барацьбе з экстрэмізмам, прапагандай гвалту, нацыянальнай, расавай і іншай дыскрымінацыі. Я настойваю, што інфармацыя, якую мы распаўсюджваем, не парушае закон. І пракуратура не прадставіла контраргументы». Прадстаўнік Генпракурора у спрэчках настойваў, каб В.Стэфановіча прызналі неналежным заяўнікам па справе, а таксама спыніць грамадзянскую справу, паколькі асабістыя правы Стэфановіча парушаны не былі. У выніку разгляду суд вынес вызначэнне, згодна з якім Валянцін Стэфановіч прызнаны неналежным заяўнікам, паколькі не з'яўляецца ўласнікам сайта spring96.org, яго асабістыя правы праз унясенне сайта ў спіс забароненых не парушаны. Акрамя таго, суд пастанавіў спыніць вытворчасць па грамадзянскай справе ў сувязі з яе непадведамаснасцю суду. 21 лютага Валянцін Стэфановіч накіраваў прыватную скаргу ў Калегію па грамадзянскіх справах Мінскага гарадскога суда на вызначэнне суда Цэнтральнага раёна аб спыненні вытворчасці па справе ўнясення ў «чорныя спісы» сайта spring96.org. З вызначэннем, вынесеным судом Цэнтральнага р-на г. Мінска праваабаронца не згодны, паколькі лічыць, што яно не заснавана на законе і парушае ягонае законнае права на абскарджанне дзеянняў дзяржаўнага органа ў судовым парадку, што падведамасна судам паводле нормаў ГПК Рэспублікі Беларусь (справы, якія выцякаюць з адміністрацыйных праваадносін).

## Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні

1 лютага на здымках беларускага фільма «Авель» быў затрыманы мужчына, які выкрыкваў лозунг «Жыве Беларусь!». У гэты вечар ствральнікі фільма здымалі масавую сцэну — 4-тысячнае шэсце дэманстрантаў ад Кастрычніцкай плошчы да плошчы Незалежнасці. Каля ўніверсама «Цэнтральны» малады чалавек некалькі разоў выкрыкнуў лозунг «Жыве Беларусь!». Яго адвялі ў бок і паведамілі пра затрыманне. У хуткім часе малады чалавек быў адпушчаны.

2 лютага ў Мінску каля Камароўскага рынку адбываўся збор подпісаў за вылучэнне кандыдатам у дэпутаты мясцовага савета актывісткі БХД Марыны Хоміч. Па словах сустаршыні аргкамітэта Партыі БХД Віталя Рымашэўскага, «людзі ў цывільным усяляк абражалі ўдзельнікаў, здымалі іх на відэа, аказвалі псіхалагічны ціск». Віталь Рымашэўскі ў адказ на гэтыя дзеянні выклікаў міліцыю. На 7 лютага палітыка запрасілі ў РУУС

Савецкага раёна і там абвясцілі, што ён пакараны штрафам у 16 базавых велічынь «за беспадстаўны выклік міліцыі». Віталь Рымашэўскі адзначае, што міліцыя на ягоны выклік так і не прыехала, хаця ў пратаколе адміністрацыйнага правапарушэння было запісана, што міліцэйскі нарад да Камароўскага рынку выязджаў.

10 лютага былога палітвязня, сустаршыню аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Паўла Севярынца выклікалі ў крымінальна-выканаўчую інспекцыю Фрунзенскага раёна Мінска, дзе вынеслі яму пісьмовае «афіцыйнае папярэджанне аб недапушчэнні супрацьпраўных паводзінаў». На пытанне, з чым звязана такое папярэджанне, быў дадзены адказ: «Вы стаіце ў нас на ўліку». Палітык звязвае гэта з блізкім чэмпіянатам свету па хакеі і з сустрэчамі па рэгіёнах, якія ён праводзіць падчас мясцовай кампаніі. Павел Севярынец адбыў тры гады абмежавання волі за ўдзел у акцыі пратэсту супраць фальсіфікацыі вынікаў выбараў у 2010 годзе, вызвалены 19 кастрычніка 2013 года і два гады будзе мець непагашаную судзімасць.

12 лютага ў Гродна адбыліся адміністрацыйныя працэсы над сябрамі Аб'яднанай грамадзянскай партыі, удзельнікамі выбарчага пікета 7 лютага на вуліцы Ажэшкі. У выніку тры чалавекі — Аляксандра Васілевіч, Ежы Грыгенча і Руслан Кулевіч былі аштрафаваны на 15 базавых велічынь кожны; Ірына Давідовіч, сябра АГП з Іўя, была аштрафавана на 10 базавых велічынь — суд улічыў, што яна беспрацоўная і на яе ўтрыманні знаходзяцца двое непаўнагадовых дзяцей. Сябры АГП былі выклікаactive ў Ленінскі РАУС Гродна з самай раніцы, цэлы дзень іх трымалі ў міліцыі. Пасля 14.30 у РАУС прыехала суддзя Алена Пятрова, якая і вынесла пастановы аб пакаранні. Сведкам супраць удзельнікаў выбарчага пікета АГП, усе з якіх збіраюцца балатавацца кандыдатамі ў дэпутаты, выступалі міліцыянты і прадстаўніца гарадской выбарчай камісіі Ірына Вішнеўская. Апошняя ў час пікета была прыслана на месца яго правядзення. Судовыя працэсы скончыліся каля шостай гадзіны вечара. Суддзя палічыла, што актывісты АГП займаліся не толькі зборам подпісаў за сваё вылучэнне кандыдатамі, але і парушылі заканадаўства тым, што адначасова збіралі подпісы супраць увядзення новага падатку на аўто.

22 лютага ўвечары падчас акцыі салідарнасці з Украінай былі затрыманы маладафронтаўцы Андрэй Цянюта, Наталля Крывашэй, Станіслаў Була. Актывісты праводзілі акцыю на «нулявым кіламетры» Гомеля, дзе прымацавалі спіс загінулых на Майдане і запалілі знічкі ў памяць аб героях. Адразу пасля пачатку акцыі актывісты былі затрыманы супрацоўніка-

мі міліцыі. У Цэнтральным раённым аддзеле міліцыі Гомеля ў дачыненні да Андрэя Цянюты, Наталлі Крывашэй і Станіслава Булы былі складзены адміністрацыйныя пратаколы за парушэнне парадку арганізацыі масавых мерапрыемстваў згодна з артыкулам 23.34 КаАП. У дачыненні да чацвёртага затрыманага, Канстанціна Жукоўскага, які фатаграфаваў маладзёнаў і таксама быў дастаўлены ў міліцыю, супрацоўнік Цэнтральнага РАУС А. Бельскі вынес пастанову паводле артыкула 364 Крымінальнага кодэкса нібыта за пагрозу прымянення гвалту да супрацоўніка міліцыі. К. Жукоўскі адзначыў, што такім чынам маглі быць расцэнены ягоныя словы пра магчымасць зрабіць іх неўязнымі ва Украіну за перашкоды ва ўшанаванні памяці ахвяраў Еўрамайдана.

22 лютага актывістаў «Маладога Фронту» Мікалая Дземідзенку і Дзмітрыя Крэмянецкага затрымалі на ўкраінскай мяжы, паставілі штампы на забарону ўезду на тэрыторыю Украіны на 5 гадоў і адвезлі на беларускі бок. Пасля гэтага на мяжы з'явіліся супрацоўнікі міліцыі, якія затрымалі хлопцаў за тое, што тыя нібыта лаяліся матам. Да суда, які адбыўся 24 лютага, актывісты ўтрымліваліся ў Ельскім РАУС. На іх былі складзены пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні па 17.1 КаАП (дробнае хуліганства), падмацаваныя пяццю рапартамі міліцыянтаў і пратаколамі апытання двух іншых затрыманых у РАУС. Суддзя суда Ельскага раёна Цалкоў Іван Пятровіч прыняў рашэнне пакараць Мікалая Дземідзенку і Дзмітрыя Крэмянецкага адміністрацыйным арыштам тэрмінам 10 сутак кожнага.

## Абмежаванні свабоды слова
## і права на распаўсюд інфармацыі, пераслед журналістаў

4 лютага Алег Жалноў, вядомы бабруйскі блогер, быў затрыманы ў УУС з-за «спробы дыстанцыйнага падрыву» гэтага будынка. Прычынай падазрэнняў стаў бралок з гукавым сігналам, які зазвінеў у кішэні Жалнова. Накіравацца ў УУС блогера прымусіла крымінальная справа, заведзеная на яго сына Аляксея: на гэты дзень быў прызначаны допыт у аддзеле следчага камітэта, і Жалноў-старэйшы збіраўся здымаць яго на відэа. Гэтая крымінальная справа — працяг гісторыі з канфліктам каля будынка ДАІ, па якой у 2013 годзе адбылося некалькі судовых пасяджэнняў, таксама была сканфіскаваная тэхніка ў кватэры Жалновых, якую дасюль не вярнулі. Блогеру быў прысуджаны штраф за непадпарадкаванне патрабаванням супрацоўнікаў міліцыі. Аляксея Жалнова абвінавацілі па артыкула 364 Крымінальнага кодэкса «гвалт ці пагроза прымянення гвалту ў адносінах да супрацоўніка органаў унутраных спраў». Сцвярджаец-

ца, што падчас верасеньскага канфлікта ля будынка ДАІ Аляксей Жалноў ударыў «даішніка» Аляксандра Бутоўскага па галаве. Алег Жалноў настойвае на тым, што яго сын не выкарыстоўваў фізічную сілу супраць Бутоўскага, а абвінавачанне — помста яму за ўсе відэаролікі і суды. 7 лютага пракуратура Бабруйска распачала супраць Алега Жалнова крымінальную справу па факце «публічнай абразы прадстаўніка ўлады ў сувязі з выкананнем ім службовых абавязкаў» па артыкуле 369 КК РБ. Нагодай сталі запісы ў персанальным інтэрнэт-блогу Алега Жалнова. Як адзначае прэс-служба УУС Бабруйскага гарвыканкама, тут «быў апублікаваны шэраг абразлівых матэрыялаў у адносінах да супрацоўніка міліцыі». 20 лютага Алег Жалноў паведаміў, што яму пагражае абвінавачанне па артыкуле № 340 «Заведама ілжывае паведамленне аб небяспецы», ідзе праверка. Гэта следства ягонага візіта ў УУС, калі адзін з міліцыянтаў успрыняў ягоныя рэчы як пагрозу бяспекі і аформіў гэта як заяву аб падрыхтоўцы да выбуху.

5 лютага журналісты Сяргей Кручкоў, Наста Рэзнікава і аператар Аляксандар Пацееў прыехалі на Віцебшчыну здымаць нарыс пра жыццё Мёрскага раёна, але не паспелі падрыхтавацца да здымкаў, як прыехала міліцэйская машына. Супрацоўнікі міліцыі сказалі, што журналісты — не мясцовыя, таму не маюць права тут знаходзіцца, і загадалі ехаць у пастарунак. У аддзяленні міліцыі ім паведамілі, што яны нібыта збіраліся здымаць стратэгічны вайсковы аб'ект — «казарму» для ўдзельнікаў вучэнняў. Журналісты растлумачылі, што яны збіраліся здымаць касцёл, а казарма была не меньш як за метраў 250. Пасля дачы тлумачэнняў затрыманым сказалі, што яны вольныя, і службовая машына «правяла» іх да выезду з райцэнтра. Пра тое, што ў Мёрах праходзяць вучэнні, журналісты не ведалі. Насамрэч, у Мёрах дзейнічае «вайсковае становішча» з «каменданцкай гадзінай» ды іншымі абмежаваннямі. Вучэнні распачаліся яшчэ ў 20-х чыслах студзеня. У Мёрах разгорнуты штаб тэрытарыяльнай абароны, тут сфармавана асобная стралковая рота, на часовую службу «мабілізаваны» некалькі соцень ваеннаабавязаных грамадзян.

8 лютага споўнілася пяць гадоў з моманту ўступлення ў сілу новага Закона «Аб сродках масавай інфармацыі». З гэтай нагоды адбылася прэзентацыя аналітычнага даклада «За рэформы медыя ў Беларусі», падрыхтаванага супольнымі намаганнямі міжнароднай арганізацыі «Індэкс цэнзуры» (Index on Censorship) і Беларускай асацыяцыі журналістаў. «Закон аб СМІ застаецца рэпрэсіўным; ён не спрыяе развіццю плюралістычных і незалежных навінавых СМІ праз складаную працэдуру абавязковай дзяржаўнай рэгістрацыі сродкаў масавай інфармацыі, а таксама праду-

гледжвае магчымасць закрыцця СМІ нават за невялікія парушэнні. Відавочна, што ўлады краіны маюць намер пашырыць гэтыя абмежавальныя прынцыпы і на рэгуляванне дзейнасці інтэрнэт-выданняў», — адзначыў адзін з аўтараў даклада, намеснік старшыні ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» Андрэй Бастунец. Беларусь застаецца краінай з адным з найбольш рэпрэсіўных медыяландшафтаў у Еўропе, гаворыцца ў дакладзе.

12 лютага міжнародная арганізацыя «Рэпарцёры без межаў» апублікавала індэкс свабоды прэсы ў свеце. Індэкс свабоды прэсы публікуецца штогод і вымярае ўзровень свабоды распаўсюду інфармацыі ў 180 краінах. Ён адлюстроўвае ступень свабоды, якой карыстаюцца журналісты, СМІ і Інтэрнэт-актывісты, свабоду выказвання меркаванняў, а таксама намаганні, якія робяць улады дзеля таго, каб забяспечыць выкананне прынцыпаў свабоды слова. Самыя лепшыя паказчыкі — у Фінляндыі, Нідэрландаў і Нарвегіі (адпаведна — 1-е, 2-е і 3-е месцы), самы горшы рэйтынг — у Туркменістана (178), Паўночнай Карэі (179) і Эрытрэі (180), Арменія — на 78 месцы, Грузія — на 84, Таджыкістан — 115, Расія — на 148. Беларусь у гэтым рэйтынгу — на 157 месцы. За ёй ідзе Пакістан (158), далей — Азербайджан (160), Казахстан (161). Узбекістан (166), Іран (173), Туркменістан (178).

12 лютага газета «Рэспубліка» надрукавала афіцыйны спіс «экстрэмісцкіх матэрыялаў». Першым пунктам ідуць CD-дыскі, канфіскаваныя ў 2008 годзе ў журналіста Алеся Буракова. Гэта фільм польскага рэжысёра Міраслава Дэмбіньскага пра лёс закрытага ўладамі Гуманітарнага Ліцэя імя Якуба Коласа. Другі дыск — запіс канцэрта «Салідарныя з Беларуссю», які праходзіў у цэнтры Варшавы. Экстрэмісцкімі гэтую прадукцыю прызнаў суд Кастрычніцкага раёна Гродна. Таксама ў спісе альбом «Прэсфота Беларусі 2011». Яго экстрэмісцкім прызнаў суд Ашмянскага раёна. Тое рашэнне выклікала вялікае абурэнне ў Беларусі і свеце. Альбом змяшчаў здымкі найлепшых беларускіх фатографаў. Астатнія пазіцыі ў спісе займаюць выданні пра гісторыю Расіі і некаторыя цячэнні праваслаўя, сярод якіх «Чытаючы Евангелле. Роздумы над евангельскімі чытаннямі. Хто мы: хрысціяне ці юдэі?» (выдавецтва «Праваслаўная ініцыятыва»), «Слова і Справа Івана Грознага», «Расія, прабудзіся. У абарону Айчыны», «Тайны сусветны ўрад», «Іга юдэйскае», «Вялес — Бог русаў».

18 лютага заснавальнік сайта www.orshatut.by Віктар Андрэеў паведаміў, што аднаму з рэкламадаўцаў і параілі адмовіцца ад супрацоўніцтва з імі. Чалавек патлумачыў В. Андрэеву, што яго папярэдзілі з КДБ, маўляў,

сайт «не зусім той», і каб не было непрыемнасцяў, трэба прыбраць адтуль рэкламу. Сайт існуе больш за тры гады, на ім асвятляюцца мясцовыя навіны, а таксама навіны рэгіёна і вобласці. Размяшчаюцца таксама прыватныя аб'явы і рэклама тавараў ды паслуг.

19 лютага стала вядома, што старшыня Магілёўскага аблвыканкама Пётр Руднік загадаў начальніку абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў Фёдару Балейку «сцерці ў парашок пісак» з незалежнай маланакладнай газеты «НАШ Магілёў». П. Рудніка раззлаваў артыкул, размешчаны на сайце газеты «НАШ Магілёў», пра першага намесніка старшыні аблвыканкама Аляксея Кісялёва «Магілёўскі чыноўнік не пускаў на прыём жанчыну з дзіцем». Гераіняй артыкула з'яўляецца Ірына Ільінская, якая расказала журналістам пра сітуацыю, якая склалася падчас яе прыёму першым намеснікам старшыні аблвыканкама Кісялёвым. Ён не хацеў яе пускаць у кабінет з дзіцем, якое спала ў яе на руках, прапанаваў пакінуць дзіця ў калідоры. Толькі тады, калі людзі ў калідоры пачалі абурацца, чыноўнік пусціў да сябе жанчыну. Стала таксама вядома, што ўчастковы Аляксандр Уласенка зацікавіўся незалежным журналістам Алесем Бураковым (старэйшым). Міліцыянт тэлефанаваў яго суседцы і браў у яе на яго характарыстыку, распытваў пра тое, чым ён займаецца.

19 лютага Юрый Дзяшук быў выкліканы ў пракуратуру Лідскага раёна, дзе журналісту было ўручана афіцыйнае папярэджанне за працу без акрэдытацыі на карысць замежных сродкаў масавай інфармацыі, а таксама пра недапушчальнасць публікацыі неправеранай інфармацыі. Пісьмовую копію папярэджання журналісту ў пракуратуры перадаць адмовіліся. Падчас папярэдняга выкліку, які адбыўся 10 лютага, у пракуратуры Юрыя апыталі адносна яго журналісцкай працы. Скарыстаўшыся законным правам, журналіст адмовіўся адказваць на некаторыя пытанні, пры гэтым патлумачыў, што працуе са СМІ як фрылансер, і з яго матэрыяламі можна азнаёміцца шмат на якіх беларускіх сайтах, а таксама ў газетах і часопісах. Юры Дзяшук у 2008 годзе скончыў факультэт журналістыкі БДУ, адслужыў у войску і вярнуўся ў Бярозаўку. З гэтага часу пачаў супрацоўніцтва з мясцовымі і рэспубліканскім выданнямі, такімі, як «Лідская газета», «Прынёманскія весткі», «Лідскі летапісец», сайт Lida.by

24 лютага салігорскі актывіст Аб'яднанай грамадзянскай партыі Аляксандр Малочка атрымаў ад начальніка Ашмянскай мытні Івана Нівяркевіча паведамленне, у якім сказана, што мытня накіравала вынятую ў яго на мяжы кнігу Валерыя Карбалевіча «Аляксандр Лукашэнка. Палітычны партрэт» у рэгіянальны аддзел Упраўлення КДБ (РОУ КДБ) па Гро-

дзенскай вобласці г. Ашмяны, каб даследаваць на прадмет аднясення да Пераліку забароненых да ўвозу ці вывазу з тэрыторыі Мытнага саюза тавараў. З ліста вынікае, што папярэдняя экспертыза, якую праводзіла Галоўнае ўпраўленне ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Гродзенскага аблвыканкама, не прызнаецца дастатковай. Начальнік мытні «просіць лічыць несапраўдным» папярэдні ліст з Ашмянскай мытні ад 23 студзеня: у ім сп-ра Малочку інфармавалі, што экстрэмізму ў кнізе Карбалевіча няма, і што ўладальнік можа забраць яе. «На ўсе пытанні, пастаўленыя Ашмянскай мытняй перад мытным экспертам, адказы атрыманыя не былі, — піша цяпер начальнік мытні. — У дадзены момант вызначаецца іншая экспертная арганізацыя з мэтай атрымання адказаў на пастаўленыя Ашмянскай мытняй пытанні».

27 лютага на мяжы з Украінай на памежным пераходзе Новая Гута памежнікі затрымалі гомельскага журналіста, сябра ГА «БАЖ» Анатоля Гатоўчыца па падазрэнні ў тым, што ён парушыў парадак знаходжання ў памежнай зоне. Журналіст прыехаў на памежны пераход з мэтай падрыхтоўкі матэрыялу пра тое, як змянілася сітуацыя на мяжы ў сувязі з апошнімі падзеямі ва Украіне. Паколькі журналіст не прад'явіў пашпарт адразу з пасведчаннем, яго затрымалі для высвятлення абставін. Прыкладна праз гадзіну пасля затрымання Анатоля Гатоўчыца адпусцілі без складання пратакола. На развітанне старшы прапаршчык Патапенка папярэдзіў журналіста, што для працы ў памежнай зоне трэба загадзя браць дазвол ад памежнай групы.

## Абмежаванне свабоды сходаў

4 лютага судом Салігорскага раёна была разгледжана скарга грамадскага актывіста Уладзіміра Шылы на забарону мясцовым райвыканкамам пікета да Дня правоў чалавека 10 снежня 2013 года. Справу вяла суддзя Ала Трафімчук з удзелам памочніка пракурора Салігорскага раёна Юліі Гаршковай. Бок выканкама прадстаўляў юрыст Аляксей Страпко. Падчас судовага паседжання прадстаўнік выканама выказаўся супраць задавальнення скаргі і нарэшце агучыў прычыны забароны пікета, чаго не было зроблена ў афіцыйнай адмове. Выявілася, што нагодай стала просьба заяўніка мерапрыемства ўскласці абавязкі па забеспячэнні гармадскага парадку, медыцынскаму абслугоўванню ды прыборцы тэрыторыі на мясцовыя органы ўлады. Заслухаўшы заяўніка, прадстаўніка Салігорскага райвыканкама і пракурора, якія палічыў неабходным адмовіць у задавальненні скаргі, суд прызнаў скаргу Уладзіміра Шылы неабгрунтаванай.

12 лютага суддзя суда Аршанскага раёна і горада Орша Алеся Котава адмовіла Юрыю Нагорнаву і Яўгену Анішчанку ў задавальненні скаргі. Актывісты спрабавалі праз суд змусіць міліцыю, паліклініку і камунальнае прадпрыемства «Спецаўтабаза» заключыць дамовы на абслугоўванне пікета. Суддзя падтрымала прадстаўнікоў адказных служб у іх нежаданні супрацоўнічаць з апазіцыянерамі. Паводле судовага рашэння, медыкаў, міліцыянтаў і работнікаў «Спецаўтабазы» нельга змусіць да заключэння дамоў, бо гэта — некамерцыйныя структуры. Між тым, існуе рашэнне гарвыканкама №74 «Аб некаторых пытаннях арганізацыі масавых мерапрыемстваў у горадзе Орша», дзе наўпрост сказана: заяўнікі акцый мусяць разам з заяўкай падаць копіі дамоў на абслугоўванне. А таксама пералічаны структуры, з якімі трэба дамаўляцца: райаддзел міліцыі, паліклініка №1 і камунальнае прадпрыемства «Спецаўтабаза». Актывісты звярнуліся ў суд пасля адтрыманых адтуль адмоў, што стала прычынай для забароны пікета па праблеме аварыйнага маста праз Днепр 30 кастрычніка 2013 года. У цяперашнім судовым працэсе заяўнікі прасілі, каб суд змусіў гэтыя структуры заключыць з імі дамовы на новую дату — на 29 сакавіка, аднак прадстаўнікі гэтых арганізацый аднагалосна заявілі ў судзе, што дамаўляцца з актывістамі не будуць ні ў якім разе. Прадстаўнік «Спецаўтабазы» ў суд не з'явіўся: адтуль даслалі афіцыйны ліст, што просяць суд разабрацца ў сітуацыі без іх удзелу. Прадстаўнік міліцыі на працягу ўсяго судовага пасяджэння маўчаў, зазначыўшы толькі ў пачатку, што не прызнае прэтэнзій заяўніка. Не пажадалі гаварыць ні прадстаўніца паліклінікі, ні прадстаўніца райвыканкама. Суддзя Алеся Котава агучыла іх пазіцыю паводле дакументаў судовай справы. Прадстаўнікі міліцыі сцвярджалі, што не заключаюць дамоў, бо заяўнікі не маюць дазволу на правядзенне акцыі ад райваканкама. Райвыканкам не дае дазволу без папярэдняга заключэння дамовы. Міліцыянты сказалі, што не могуць дамаўляцца з арганізатарамі ні на адну канкрэтную дату, бо яны, маўляў, не ведаюць, ці будуць у іх у той дзень вольныя супрацоўнікі. Прадстаўнікі паліклінікі сказалі, што ў пераліку відаў іх камерцыйнай дзейнасці няма такога пункту, як абслугоўванне масавых акцый. І таму яны таксама заключыць дамовы не могуць. Паводле ліста з камунальнай службы, яны ўвогуле не могуць зрабіць таго, пра што іх просяць: прадпрыемства «Спецаўтабаза», згаданае ў рашэнні гарвыканкама, прыборкай гарадскіх тэрыторый не займаецца ўвогуле, а толькі вывозіць смецце. Да таго ж, і адны, і другія, і трэція сказалі, што ніколі не заключалі дамоў з фізічнымі асобамі, і зрабіць гэта не ў стане. Суды наконт забароны пікета праз мост працягваліся амаль 2 месяцы.

17 лютага ў Глыбокім была атрымана адмова на заяву адносна правядзення пікета да Дня Канстытуцыі, які планаваўся 15 сакавіка. Пры-

чына забароны, паводле райвыканкама — адсутнасць дамоў на абслугоўванне акцыі медыкамі, камунальнымі службамі і міліцыяй. Між тым, ні медыкі, ні камунальшчыкі ўвогуле не адказалі на прапанову заяўнікаў — мясцовых актывістаў Ярaслава Берніковіча і Дзмітрыя Лупача заключыць такія дамовы. Заява ў райвыканкам была накіравана ў той самы дзень, як і лісты да адказных служб. Выканкам адказаў заяўнікам праз 10 дзён. Глыбоцкі выканкам абгрунтаваў сваю адмову адсутнасцю дамоў на абслугоўванне акцыі, якія неабходна заключаць папярэдне ў адпаведнасці з рашэннем райвыканкама №167 «Аб вызначэнні месцаў для правядзення мітынгаў і пікетавання» . Следам за лістом пра забарону акцыі прыйшоў адказ з райаддзела міліцыі. З яго вынікае, што міліцэйскае кіраўніцтва чакала, пакуль адмовіць выканкам, бо агульны сэнс ліста такі: маўляў, вам забаранілі праводзіць акцыю, значыць, і мы дамову лічым немэтазгоднай.

26 лютага глыбоцкія актывісты Яраслаў Берніковіч і Дзмітрый Лупач атрымалі адмову на заяўку аб правядзенні пікета да Дня Волі 25 сакавіка. Прычына забароны: адсутнасць дамоў на абслугоўванне акцыі медыкамі, камунальнымі службамі і міліцыяй. Пры гэтым раённае міліцэйскае кіраўніцтва Глыбокага наўпрост заявіла ініцыятарам пікету, што заключаць папярэднія дамовы адмаўляецца. Начальнік РАУС Васюковіч напісаў, што законам аб масавых мерапрыемствах прадугледжаны пэўны парадак іх арганізацыі. І што ў законе няма такога патрабавання, каб дамовы на ахову правапарадку падчас нейкіх акцый заключаліся з міліцыяй яшчэ да таго, як мясцовыя ўлады вырашаць, дазволіць мерапрыемства ці не. Гэта лагічна, бо навошта заключаць дамовы, калі яшчэ невядома, ці будзе тая акцыя. Аднак мясцовыя ўлады кіруюцца рашэннем Глыбоцкага райвыканкама № 167, дзе ўказана, што разам з заяўкай на акцыю трэба падаваць ўжо заключаныя дамовы з медыкамі, камунальнымі службамі і міліцыяй. Такім чынам, выканкам стварыў такі парадак арганізацыі масавых акцый, у выніку якога правесці іх стала проста немагчыма.

## Абмежаванне свабоды асацыяцый

8 лютага машыніст крана 5 разраду Аляксандр Сахарук з Брэста, які працуе ва Упраўленні механізацыі № 127 будаўнічага трэста № 8, паведаміў, што працягвае змагацца ў судах за далучэнне яго да калектыўнай дамовы. Справа ў тым, што дамова тычыцца толькі сябраў афіцыйнага прафсаюза. А паколькі Сахарук — сябра прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці, то, згодна з арт. 41 Працоўнага кодэкса, яму трэба было

напісаць заяву ў дырэкцыю аб далучэнні да дамовы, што Аляксандр і зрабіў. У дырэкцыі параілі напісаць яшчэ заяву і ў прафсаюзную арганізацыю, і гэта зрабіў рабочы. Але атрымаў адмову і ад дырэкцыі, і ад прафсаюза. Для яго, як воіна-афганца, у дамове было прапісана толькі 2 пункты: выходны 15 лютага — дзень вываду войск з Афганістана, аплата за гэты дзень і грашовая ўзнагарода. Іншых ільгот, прэміяльных і даплат Сахарук афіцыйна быў пазбаўлены. Яму, як работніку, што не мае ніякіх парушэнняў працоўнай дысцыпліны, кожны раз патрэбна «выбіваць» гэтыя даплаты праз розныя інстанцыі. І рабочы вырашыў звярнуцца з гэтай праблемай у суд. Суд Маскоўскага раёна Брэста палічыў гэтую сітуацыю калектыўным канфліктам, які можа вырашыцца ў дасудовым парадку. Касацыйная скарга не змяніла сітуацыі. На дадзеным этапе Аляксандр Сахарук звярнуўся са скаргай да старшыні абласнога суда. 31 сакавіка ў Сахарука заканчваецца працоўны кантракт. Яму намякалі, што кантракт працягнуты не будзе. На думку Аляксандра, гэтая сітуацыя — дыскрымінацыяй па прафсаюзнай прыналежнасці.

18 лютага Асамблея няўрадавых дэмакратычных арганізацый і Цэнтар прававой трансфармацыі апублікавалі гадавы агляд «Свабода асацыяцый і прававы стан некамерцыйных арганізацый у Беларусі» за 2013 год. Згодна з дадзенымі Міністэрства юстыцыі, у 2013 годзе зарэгістравана 70 новых грамадскіх аб'яднанняў (2 міжнародныя, 11 рэспубліканскіх і 57 мясцовых), 1 асацыяцыя грамадскіх аб'яднанняў, 11 фондаў (1 міжнародны і 10 мясцовых). Па напрамках дзейнасці зарэгістраваныя ў Рэспубліцы Беларусь грамадскія аб'яднанні: фізкультурна-спартыўныя — 649; дабрачынныя — 396; моладзевыя — 256, у тым ліку дзіцячыя — 29; асветніцкія, культурна-забаўляльныя, выхаваўчыя — 223; нацыянальных меншасцяў — 112; інвалідаў вайны і працы, вэтэранаў — 86; навукова-тэхнічныя — 84; аб'ядноўваюць прыхільнікаў аховы прыроды, помнікаў гісторыі, культуры — 71; творчыя — 49; жаночыя — 30 і іншыя — 565. Паводле экспертаў Асамблеі НДА і Цэнтра прававой трансфармацыі, колькасць новых НКА ў 2013 годзе значна ніжэйшая за паказчыкі 2011 і 2012 гадоў, калі цягам года рэгістрацыю атрымлівалі больш за сто грамадскіх аб'яднанняў і больш за 20 фондаў. Разам з тым, у 2013 годзе захавалася ранейшая тэндэнцыя рэгістрацыі спартовых грамадскіх аб'яднанняў — менавіта яны складаюць больш за палову новых грамадскіх аб'яднанняў. Па стане на 1 студзеня 2014 года ў Беларусі зарэгістравана 15 палітычных партый і 1057 партыйных арганізацый, 37 прафесійных саюзаў (33 рэспубліканскія прафсаюзы, 1 тэрытарыяльны прафсаюз і 3 прафсаюзы ў арганізацыях) і 23193 прафсаюзныя арганізацыі, 2521 грамадскае аб'яднанне, з іх 231 міжнарод-

нае, 694 рэспубліканскія і 1596 мясцовых. Зарэгістравана і пастаўлена на ўлік 38915 арганізацыйных структур грамадскіх аб'яднанняў. Зарэгістраваны 31 саюз (асацыяцыя) грамадскіх аб'яднанняў, 145 фондаў (14 міжнародных, 5 рэспубліканскіх і 126 мясцовых), 7 рэспубліканскіх дзяржаўна-грамадскіх аб'яднанняў.

20 лютага набылі моц папраўкі ў некаторыя законы па дзейнасці палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў. У прыватнасці, была захавана норма, што заснавальнікамі грамадскага аб'яднання павінны з'яўляцца не менш за 50 чалавек, аднак іх колькасны склад цяпер не прывязваецца да абласцей і Мінска. Быў спрошчаны парадак рэгістрацыі зменаў і дапаўненняў у статуты партый і аб'яднанняў: яны будуць афармляцца ў выглядзе дадаткаў да статутаў. Раней любая, нават нязначная, змена патрабавала прыняцця новай рэдакцыі статута. Папраўкі таксама прадугледжваюць магчымасць ператварыць грамадскае аб'яднанне ў палітычную партыю. Адпаведнае рашэнне павінен прымаць вышэйшы орган аб'яднання. Пасля прыняцця такіх рашэнняў орган грамадскага аб'яднання набывае статус вышэйшага органа палітычнай партыі. Патрабаванні да стварэння палітычных партый пры гэтым застаюцца ранейшымі — наяўнасць не менш за 1000 заснавальнікаў ад большасці абласцей краіны і Мінска. Пры ператварэнні грамадскага аб'яднання ў партыю на працягу шасці месяцаў да прыняцця такога рашэння аб'яднанне не мае права прама ці ўскосна атрымліваць грашовыя сродкі ды іншую маёмасць з рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў, дзяржаўных органаў і арганізацый, міжнародных арганізацый і замежных грамадзян. Акрамя таго, партыя ў адрозненне ад аб'яднання, не можа займацца прадпрымальніцкай дзейнасцю.

24 лютага стала вядома, што ў Аляксандра Мікіткі, сябра пярвічкі Свабоднага прафсаюза Беларускага на заводзе ТДіА (трактарных дэталяў і агрэгатаў), скончыўся тэрмін яго працоўнага кантракта, і завадскі кіроўца даведаўся, што начальства не жадае болей бачыць яго на прадпрыемстве. А. Мікітка быў удзельнікам нядаўняга судовага працэсу, які тычыўся нявыплаты прэмій за высокую культуру вытворчасці. Старшыня пярвічкі СПБ Міхаіл Кавалькоў упэўнены, што галоўная прычына непрацягнення кантракта — гэта сяброўства Аляксандра Мікіткі ў свабодным прафсаюзе. Ён адзначыў, што 11 лютага накіраваў хадайніцтва на імя дырэктара завода, у якім адзначалася, што ў мінулым годзе начальнік цэха Міхаіл Ваянец папярэджваў, што з сябрамі СПБ не будуць працягвацца кантракты. Аляксандр Мікітка ў цаху №2 адпрацаваў 11 гадоў, а агулам на заводзе ТДіА — больш за 23 гады.

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Сакавік 2014 года

На сітуацыю з правамі чалавека ў Беларусі значны ўплыў аказвалі падзеі, якія фарміравалі грамадска-палітычную павестку месяца, сярод якіх — выбары дэпутатаў мясцовых Саветаў (23 сакавіка), рэакцыя грамадзян на сітуацыю ў суседняй Украіне, святкаванне чарговай гадавіны ўтварэння Беларускай Народнай Рэспублікі — Дзень Волі (25 сакавіка). Магчымасці карыстацца сваімі грамадзянскімі і палітычнымі правамі, найперш свабодай выказвання меркавання, былі празмерна абмежаванымі. Так, затрымліваліся і падвяргаліся арыштам і штрафам удзельнікі масавых перадвыбарчых мерапрыемстваў (у тым ліку і кандыдаты ў дэпутаты), калі ў сваіх публічных выказваннях закраналі вострыя праблемы накшталт наяўнасці палітвязняў і зніклых, выказвалі стаўленне да падзеяў ва Украіне, заклікалі ігнараваць выбары і г.д. За акцыі салідарнасці з украінскім народам і выказванне падтрымкі змаганню супраць расійскай агрэсіі былі затрыманы 30 чалавек, з якіх 8 былі падергнуты адміністрацыйным арыштам. Нягледзячы на атрыманы ад уладаў Мінска дазвол на правядзенне шэсця і мітынга на Дзень Волі, 8 яго ўдзельнікаў былі затрыманы, 2 з якіх атрымалі пакаранні ў выглядзе арыштаў. Фіксаваліся выпадкі прэвентыўных адвольных затрыманняў і доўгатэрміновай ізаляцыі актывістаў напярэдадні Дня Волі і дня выбараў. У многіх выпадках разам з удзельнікамі масавых мерапрыемстваў, як санкцыянаваных, так і несанкцыянаваных, затрымліваліся журналісты, якія выконвалі свае прафесійныя абавязкі.

Самай вострай праблемай па-ранейшаму заставалася наяўнасць палітычных зняволеных. У сакавіку выйшаў на волю пасля 3-месячнага арышту за парушэнне правіл прэвентыўнага нагляду актывіст «Маладога Фронту» Уладзімір Яроменак, але гэта не змяніла агульную карціну — за кратамі працягвалі ўтрымлівацца 10 палітзняволеных: Алесь Бяляцкі, Мікалай Статкевіч, Мікалай Аўтуховіч, Эдуард Лобаў, Мікалай Дзядок, Ігар Аліневіч, Андрэй Гайдукоў, Васіль Парфянкоў, Яўген Васьковіч і Арцём Пракапенка. У публічнай прасторы не вельмі актыўна, але ўсё ж працягвалі агучвацца патрабаваннні з боку Еўрапейскага Саюза аб іх вызваленні як перадумове наладжвання эфектыўнага супрацоўніцтва з беларускім афіцыйным бокам. Так, міністр замежных спраў Літвы Лінас Лінкявічус падчас працоўнага візіту ў гэтую краіну міністра замежных спраў Беларусі Уладзіміра Макея 28 лютага-1 сакавіка адзначыў, што «існаванне палітычных зняволеных застаецца істотнай праблемай у адносінах ЕС і Бе-

ларусі». 1 сакавіка Уладзімір Макей у Вільні даў інтэрв'ю інфармацыйнаму агенцтву BNS (Baltic News Service), у якім выказаў нязгоду з пазіцыяй Лінаса Лінкявічуса: «Ваш міністр падкрэсліў, што ў нас ёсць так званыя палітвязні, з чым мы, натуральна, катэгарычна не згодныя. Гэтыя асобы панеслі канкрэтныя пакаранні за пэўныя крымінальныя дзеянні, не буду ўдавацца ў дэталі. Мы са свайго боку падкрэслілі, што таксама б хацелі, каб Еўрапейскі Саюз зняў з Беларусі санкцыі супраць 243 асоб і 32 прадпрыемстваў, якія, з нашага пункту гледжання, абсалютна неабгрунтавана былі ўведзеныя пасля прэзідэнцкіх выбараў у снежні 2010 года (...) У гэтым плане мы разумеем, што трэба вырашаць існуючыя праблемы ў адносінах паміж Еўрапейскім Саюзам і Беларуссю. З нашага боку — патрабаванне адмены санкцый, з боку ЕС — вызваленне асоб, так званых палітвязняў. Мы лічым, што ўсё павінна знаходзіцца не ў палітычнай сферы, а ў чыста прававой сферы. Усё павінна вырашацца ў адпаведнасці з законам. Калі суд палічыць, альбо адпаведныя праваахоўныя структуры палічаць, што асоба падлягае вызваленню, або калі гэты чалавек напіша адпаведнае прашэнне аб памілаванні, адпаведнымі кампетэнтнымі камісіямі або органамі гэтыя просьбы будуць разгледжаны і ўнесены на разгляд кіраўніку дзяржавы». Асобна У. Макей пракаментаваў сітуацыю з Алесем Бяляцкім: «Наколькі мне вядома, вывучаюцца абставіны гэтай справы. Я не магу зараз гарантаваць, адказваць за Генпракуратуру і за адпаведныя структуры, але абставіны гэтай сітуацыі вывучаюцца».

Разам з тым, Аляксандр Лукашэнка назваў адзіны шлях, згодна з якім палітвязні могуць выйсці на волю — падача на яго імя прашэння аб памілаванні. 23 сакавіка, адказваючы на пытанне аб вызваленні палітвязняў на выбарчым участку пасля галасавання на выбарах дэпутатаў мясцовых саветаў, ён заявіў: «Не хачу паўтараць, але будзе зварот (аб памілаванні — рэд.) — будзе мой подпіс. Не будзе — ні чэмпіянат свету (па хакеі), ні 70- годдзе перамогі, нічога не дапаможа. Гэта мой прынцыповы падыход да гэтага, і не толькі мой. Мы — дзяржава, мы — краіна. І нас не трэба нахіляць. І не трэба зыходзячы з двайных, трайных стандартаў да нас адпаведным чынам ставіцца. Не ад майго подпісу тут нешта залежыць». На ўдакладненне журналіста БелаПАН аб тым, што былі прэцэдэнты, калі кіраўнік дзяржавы даваў памілаванне зняволеным і без прашэнняў, А. Лукашэнка заявіў: «Так, і без прашэнняў я прымаю масу такіх рашэнняў. Я толькі не ведаю, чаму вы зацыкліліся на некалькіх прозвішчах. Прэзідэнт мае права памілаваць любога чалавека па пэўнай працэдуры. Так, бывалі выпадкі, але ж злачынства злачынству розніца, па-першае. Па-другое, я часта вам казаў і вашым там падабаронным — не напружвайце абстаноўку. Вінаваты — ціхенька, без шуму, без гвалту, давайце ўнутры краіны вырашаць гэтае пытан-

не. Вы вывелі гэтыя пытанні на міжнародны ўзровень. Вось адпаведны, адэкватны, сіметрычны адказ. Але мая заява і мае прапановы, калі ўжо хочаце, застаюцца ў сіле».

Захоўвалася сітуацыя разыходжання ЕС з пазіцыяй беларускіх праваабаронцаў па колькасным спісе палітвязняў, а таксама нявызначанасці персанальнага спісу, адносна якога Еўрасаюз вядзе перамовы з беларускім бокам і патрабуе вызвалення. 10 сакавіка на просьбу БелаПАН пракаментаваць сітуацыю з офіса кіраўніка дэлегацыі Еўрапарламента па сувязях з Беларуссю Філіпа Качмарака паступіў адказ, у якім гаварылася: «афіцыйная колькасць палітзняволеных — 11». Пры гэтым падкрэслівалася, што без вызвалення палітзняволеных «адносіны паміж Еўрасаюзам і Беларуссю не палепшаюць». Але ўжо 12 сакавіка памочнік Качмарака Сільвія Фодар заявіла, што дадзеная не з'яўляецца афіцыйнай пазіцыяй Еўрапарламента: «Я б хацела зрабіць удакладненне наконт заявы адносна палітзняволеных у Беларусі. Лічба «11», якая згадвалася ў папярэднім каментарыі, называецца некаторымі няўрадавымі арганізацыямі і не з'яўляецца афіцыйнай пазіцыяй Еўрапарламента».

Нягледзячы на рознаўзроўневыя дыскусіі адносна праблемы палітвязняў, іх лёс на працягу лютага заставаўся нязменным, а сітуацыя з шырокім спектрам правоў усё болей кансервавалася ў самых негатыўных праявах.

## Палітычныя зняволеныя, крымінальны пераслед грамадскіх актывістаў

3 сакавіка стала вядома, што палітвязень Мікалай Статкевіч вымушаны быў напісаць заяву аб бяспечным утрыманні ў сувязі з пачасціўшыміся ў адносінах да яго правакацыямі. Па ягоным меркаванні, гэта адбываецца ў сувязі з жаданнем уладаў прымусіць яго напісаць прашэнне пра памілаванне. У выніку М. Статкевіч быў пераведзены ў адзіночную камеру турмы № 4 у Магілёве. 8 сакавіка ў лісце жонцы Марыне Адамовіч палітвязень паведаміў, што адчувае небяспеку свайму жыццю. Па ягоных словах, небяспека тлумачыцца тым, што разам з ім у камеры быў іншы зняволены, на якога ў выпадку адмысловай правакацыі адміністрацыя магла ўскласці адказнасць.

11 сакавіка ў 8 раніцы з арыштнага дома ў Баранавічах на волю выйшаў актывіст «Маладога Фронту» Уладзімір Яроменак, які адбываў трохмесячны арышт за парушэнне рэжыму прэвентыўнага нагляду. У. Яроменак адзначыў, што адміністрацыя да яго ставілася нармальна, былі

зафіксаваны два парушэнні, але ў штрафны ізалятар яго не накіроўвалі. На пытанне, ці будзе працягваць грамадскую дзейнасць, былы палітвязень не адказаў, зазначыўшы, што будзе вырашаць гэта пытанне з сям'-ёй, але сваіх палітычных перакананняў ён не змяняе. У. Яроменак падзякаваў усім, хто пісаў яму, ён атрымліваў сотні лістоў з волі, а таксама незалежным газетам «Новы час і «Свободные новости», якія падпісалі яго на свае выданні.

24 сакавіка грамадская актывістка і рэжысёр Вольга Мікалайчык паведаміла, што з атрыманага ад палітвязня Васіля Парфянкова ліста ёй стала вядома, што з 37 дзён, адбытых у калоніі ў Горках, ён 23 дні ўтрымліваўся ў ШІЗА. Васіль паведаміў пра вялікі ціск на яго з боку адміністрацыі калоніі: у яго ўжо 10 парушэнняў рэжыму, за што яго пазбавілі спатканняў і перадач. В. Парфянкоў так пракаментаваў сваю будучыню ў калоніі: «Засталося 8 месяцаў голаду». Паводле ліста Васіля Парфянкова, ён так і не атрымаў высланы яму праваслаўны крыжык і мапы свету і Беларусі. Чаму яму не дазволілі атрымаць гэтыя рэчы, палітвязню невядома.

18 сакавіка ў Гродзенскай турме адбыўся выязны суд па пытанні ўстанаўлення над палітвязнем Мікалаем Аўтуховічам прэвентыўнага нагляду. Суд праходзіў без адваката, яму паведамілі пра пачатак працэсу за паўгадзіны да працэсу. М. Аўтуховіч хадайнічаў адкласці суд да з'яўлення абаронцы, але яму адмовілі. Справу разглядаў суддзя суда Ленінскага раёна Гродна Юрый Казакевіч. Над М. Аўтуховічам быў устаноўлены прэвентыўны нагляд тэрмінам на 1 год і 4 месяцы. Пасля суда М.Аўтуховіч сустрэўся са сваім абаронцам. Палітвязень скардзіўся на боль у руцэ і высокую вільготнасць у камеры. 28 сакавіка суд прызнаў скаргу палітвязня Мікалая Аўтуховіча неабгрунтаванай і адмовіў у яе задавальненні. Рашэнне прынята суддзёй Ленінскага раённага суда Гродна Жанай Краўчанкай. Два папярэднія дні ў гродзенскай турме нумар 1 на выязным пасяджэнні адбываўся разгляд скаргі вязня на спагнанні, якімі пакарала яго адміністрацыя. Двойчы яму далі вымову і адзін раз змясцілі ў штрафны ізалятар. Мікалай Аўтуховіч спадзяваўся, што калі скаргу задаволяць, гэта можа паўплываць на ўмовы яго жыцця пасля вызвалення.

26 сакавіка «Наша Ніва» атрымала з Адміністрацыі прэзідэнта адказ на свой запыт, датычны заявы А. Лукашэнкі 21 студзеня падчас сустрэчы з кіраўнікамі буйных беларускіх СМІ, што ён не ведае пра тое, што вызначаная судом нібыта нанесеная шкода праваабаронцам і палітвяз-

нем Алесем Бяляцкім даўно выплачаная. Тады ж А. Лукашэнка адразу ж даручыў намесніку кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандру Радзькову разабрацца ў пытанні: «Гэта сур'ёзны аргумент. Тут справа не ў палітыцы і не ў пазіцыі самога Бяляцкага. Клянуся вам, я яго не ведаў і не ведаю». Тады ж ён сказаў, што калі інфармацыя аб кампенсацыі шкоды пацвердзіцца, павінна быць разгледжанае пытанне пра ўжыванне да А.Бяляцкага амністыі. Адказ з Адміністрацыі падпісаны загадчыкам галоўнага ўпраўлення па працы са зваротамі грамадзян і юрыдычных асоб Станіславам Буко. Ён запэўніў, што «А.В.Бяляцкім кампенсавана вызначаная рашэннем суда шкода, нанесеная дзяржаве», а «інфармацыя па гэтым пытанні даведзена да прэзідэнта Рэспублікі Беларусь». Аднак «у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам пры разглядванні пытанняў аб памілаванні або ўмоўна-датэрміновым вызваленні факт кампенсацыі шкоды разглядаецца ў комплексе з іншымі абставінамі, якія заслугоўваюць увагі», — удакладнялася ў адказе. Пры гэтым трэці шлях, згодна з якім А. Бяляцкі можа быць вызвалены, у адказе не быў названы, а менавіта — вызваленне паводле амністыі. 31 сакавіка Гродзенскі абласны суд, разгледзеўшы касацыйную скаргу калегі А. Бяляцкага — Таццяны Рэвяка, пакінуў у сіле рашэнне пра забарону ўвозу ягонай кнігі «Асьвечаныя Беларушчынай» на тэрыторыю Беларусі. Калегія суддзяў па грамадзянскіх справах прыняла рашэнне за тры хвіліны, што сведчыць пра тое, што яно было прынятае загадзя. Пры гэтым старшынюючы ў паседжанні суддзя Аляксандр Калеснік паводзіў сябе агрэсіўна і па-хамску. Ён не дазволіў заяўнікам падчас паседжання выказацца ў поўным аб'ёме і данесці да суда свае меркаванні. Матывы, па якіх касацыйная скарга не была задаволеная, не былі агучаны, было толькі заяўлена, што яны будуць выкладзеныя ў вызначэнні суда, з якім магчыма будзе азнаёміцца праз пяць дзён у судзе Ашмянскага раёна.

31 сакавіка палітвязень Эдуард Лобаў у лісце маці Марыне Лобавай паведаміў, што адмаўляецца ад сустрэч з адвакатам, паколькі не мае магчымасці весці з ім прыватную гутарку, калі з аднаго і з другога боку сядае супрацоўнік калоніі. Яна адзначыла, што калі нават прыязджае ксёндз, яны не могуць застацца сам-на-сам, і споведзь не можа адбыцца.

31 сакавіка Анатоль Пракапенка, бацька палітвязня Арцёма Пракапенкі, паведаміў, што з тэлефоннай размовы з сынам яму стала вядома пра дазвол на доўгатэрміновае спатканне з роднымі ў чэрвені. Бацька палітвязняў дадаў, што ў сына была прастуда, але цяпер са здароўем усё ў парадку. Раней А. Прапкапенка увесь час хадзіў на працу, але зараз яе стала мала, і ён займаецца спортам і чытае кнігі.

31 сакавіка рэдактар «Бобруйского курьера» Анатоль Санаценка атрымаў адказ на свой зварот у абласную грамадскую назіральную камісію пры Галоўным упраўленні юстыцыі Магілёўскага аблвыканкама. Зварот тычыўся ўмоў утрымання ў Магілёўскай турме палітвязня Яўгена Васьковіча. З ліста, атрыманага Анатолем Санаценкам, вынікае, што 21 сакавіка старшыня Грамадскай назіральнай камісіі Віктар Сідарэнка і яшчэ адзін яе прадстаўнік наведалі Магілёўскую турму № 4. У іх адбыліся сустрэчы і гутаркі з начальнікам турмы, начальнікам аддзела папраўчага працэсу і яго наменнікам, з турэмным лекарам і з работнікам мясцовай бібліятэкі, а таксама з самім Яўгенам Васьковічам. Камісія старанна даследавала ўмовы ўтрымання Васьковіча і ўмовы ўтрымання зняволеных у штрафным ізалятары (ШІЗА). Высветлілася, што палітвязень утрымліваецца ў камеры на 10 месцаў агульнай плошчай 33,89 кв. м., ён забяспечаны трохразовым харчаваннем, штотыднёвай санітарнай апрацоўкай і зменай пасцельнай бялізны. Па медыцынскую дапамогу за тры гады знаходжання ў турме звяртаўся адзін раз, у снежні 2013 г. За студзень-сакавік 2014 г. прачытаў 18 кніг, узятых з турэмнай бібліятэкі. У апошнія тры месяцы ў ШІЗА яго не змяшчалі. Між тым, праверка ўмоў утрымання ў штрафным ізалятары выявіла парушэнне Мінімальных стандартных правіл, прынятых на першым кангрэсе ААН у 1955 г. Ізалятар знаходзіцца ў падвальным памяшканні, ён не абсталяваны вокнамі з дзённым святлом. Звяртае на сябе ўвагу наступны факт з характарыстыкі на Васьковіча, выдадзенай старшыні Грамадскай камісіі кіраўніцтвам папраўчай установы: з кастрычніка 2011 г. па снежань 2013 г. Васьковіча 43 разы каралі ў дысцыплінарным парадку, у тым ліку 27 разоў змяшчалі ў ШІЗА за 27 месяцаў знаходжання ў зняволенні. Старшыня Грамадскай камісіі звярнуў таксама ўвагу на наступнае разыходжанне: падчас гутарак з супрацоўнікамі папраўчай установы на паводзіны Васьковіча ніхто не скардзіўся, а характарыстыку яму выдалі вельмі кепскую. Кіраўніцтвам папраўчай установы ён характарызуецца адмоўна; 11 ліпеня 2012 г. пастаўлены на прафілактычны ўлік як схільны да хуліганскіх праяў, да захопу закладнікаў, нападу на адміністрацыю.

## Смяротнае пакаранне

12 сакавіка Любоў Кавалёва — маці Уладзіслава Кавалёва, аднаго з расстраляных па абвінавачванні ў здзяйсненні тэракта ў мінскім метро, і ягоная сястра Таццяна Казяр накіравалі Генеральнаму пракурору РБ Аляксандру Канюку заяву з патрабаваннем узнавіць расследаванне справы па адкрытых новых абставінах з наступнай рэабілітацыяй. Гэтымі но-

вымі абставінамі яны лічаць рашэнне Камітэта па правах чалавека ААН, згодна з якім дзяржава парушыла права на жыццё асуджанага, а таксама шэраг правоў, гарантаваных нацыянальным заканадаўствам і міжнароднымі стандартамі: забарона ўжывання фізічнай сілы, прэзумпцыя невінаватасці, стандарты справядлівага правасуддзя. Заяўнікі адзначаюць, што выяўленыя парушэнні могуць быць выпраўлены толькі шляхам перагляду крымінальнай справы.

21 сакавіка маці і сястра Уладзіслава Кавалёва звярнуліся да Старшыні Вярхоўнага суда з нагляднай скаргай. Яны патрабуюць адмяніць рашэнне суда Кастрычніцкага раёна г. Мінска і Калегіі па грамадзянскіх справах гарадскога суда. Абедзьве інстанцыі адмовілі ва ўзбуджэнні грамадзянскай справы на дзеянні КДБ, МУС і Дэпартамента выканання пакаранняў, якія адмовілі прадаставіць інфармацыю пра месца пахавання Уладзіслава. У скарзе на імя старшыні Вярхоўнага суда акцэнтуецца ўвага на двух момантах, з улікам якіх скарга на дзеянні КДБ, МУС і Дэпартамента выканання пакаранняў мусіць быць разгледжана. Па-першае, раённым і гарадскім судом не было ўлічана меркаванне КПЧ ААН наконт таго, што быў парушаны артыкул 7 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах. Беларусь ратыфікавала гэтае пагадненне, адпаведна, мусіць няўхільна выконваць. Адмова разгледзець справу ў судзе азначае, што Беларусь ігнаруе патрабаванні ратыфікаванага дакументу. Па-другое, сваякам Кавалёва было адмоўлена ў рэалізацыі іх канстытуцыйнага права на незалежнае судовае разбіральніцтва і абарону ў судзе. Нават у тым выпадку, калі суд лічыць, што разгляд пытання пра месца пахавання пакаранага смерцю не падведамасны агульным судам Беларусі, сваякам мусілі паведаміць, у якую судовую інстанцыю яны могуць звярнуцца са сваёй скаргай. Тое, што выкананне смяротнага пакарання рэгламентуецца Крымінальна-працэсуальным кодэксам, не азначае, што ў судовым парадку нельга патрабаваць інфармавання сваякоў аб месцы пахавання. Паводле нагляднай скаргі Любоў Кавалёва і Таццяна Казяр патрабуюць, каб Прэзідуум Вярхоўнага суда адмяніў рашэнні ніжэйшых судовых інстанцый. А справа супраць дзеянняў КДБ, МУС і Дэпартамента выканання пакаранняў, якія не выдаюць інфармацыі аб месцы пахавання Уладзіслава Кавалёва, была накіраваная ў Кастрычніцкі райсуд Мінска для разгляду па сутнасці.

31 сакавіка шасцёра брэсцкіх праваабаронцаў накіравалі ў Савет Міністраў зварот з прапановай унесці ў Крымінальна-выканаўчы кодэкс норму, якая прадугледжвае пяцігадовую адтэрміноўку выканання смяротных прысудаў.

## Ужыванне катаванняў
## і іншых відаў жорсткага і бесчалавечнага абыходжання

5 сакавіка Людміла Кучуры, жонка зняволенага Пятра Кучуры, у дачыненні да якога была прыменена хлорка як сродак катавання ў ПК-15 г. Магілёва, накіравала звароты ў Генеральную пракуратуру — начальніку аддзела па наглядзе за выкананнем правоў і свабод грамадзян Паўлу Елісееву, а таксама ў заканадаўчы орган — у Камісію па заканадаўстве Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу і ў Камісію па правах чалавека, нацыянальных стасунках і сродках масавай інфармацыі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. Яе скаргі ў сувязі з ужываннем катаванняў у адносінах да мужа мелі патрэбу ў праверцы і прыняцці працэсуальнага рашэння. Варта было ўстанавіць сам факт жорсткага, бесчалавечнага абыходжання і даць яму належную ацэнку. Але неаднаразовыя скаргі ў органы Следчага камітэта і пракуратуры вынікаў не далі. Разгляд скаргі Дэпартаментам выканання пакаранняў МУС, куды яна была перанакіраваная органамі следства, ніяк не можа лічыцца бесстароннім. У сваіх зваротах у Генпракуратуру і парламент Людміла Кучура падкрэслівае, што заканадаўства Беларусі не мае норм пра адказнасць службовых асоб за катаванні, жорсткае і бесчалавечнае абыходжанне, аднак магчымая кваліфікацыя іх дзеянняў па артыкулах Крымінальнага кодэкса, якія прадугледжваюць адказнасць за злачынствы супраць чалавека і супраць інтарэсаў службы. Таксама, зыходзячы з асабістага вопыту, сцвярджае, што заканадаўствам Беларусі не прадугледжана эфектыўнага механізму расследавання скаргаў пра катаванні, жорсткае, бесчалавечнае, прыніжаючае абыходжанне. Яна нагадвае, што Беларусь ратыфікавала Канвенцыю супраць катаванняў і іншых жорсткіх, бесчалавечных ці прыніжаючых годнасць відаў абыходжання і пакарання, прынятую рэзалюцыяй 39/46 Генеральнай Асамблеі ААН ад 10 снежня 1984 года. Таму ў сваіх зваротах жанчына просіць Генпракуратуру і камісіі ПП НС правесці праверку па яе заяве з пункту гледжання захавання Рэспублікай Беларусь прынятых на сябе абавязацельстваў па заключаных і ратыфікаваных ёй міжнародных дамовах. Таксама яна просіць заканадаўцаў паведаміць пра меры, якія прымаюцца ПП НС Рэспублікі Беларусь у мэтах уключэння ў крымінальны закон норм, якія крыміналізуюць катаванні, жорсткае, бесчалавечнае і прыніжаючае абыходжанне.

4 сакавіка ў Мінску позна ўвечары, у дзень беларускай міліцыі, актывіст нацыянал-бальшавіцкага руху Дзмітрый Паліенка, які ў мінулым годзе неаднаразова адбываў пакаранне ў выглядзе адміністрацыйных арыштаў, быў затрыманы нарадам ППС побач са свежым графіці «Да-

лоў паліцэйскую дзяржаву». Ён быў дастаўлены ў РУУС Кастрычніцкага раёна, дзе супрацоўнікі міліцыі вырашылі адзначыць сваё прафесійнае свята катаваннямі затрыманага. «Ластаўка», г.зн. выварочванне рук, закутых у кайданкі, збіццё, брыдкаслоўе, менавіта такім няхітрым чынам стварылі сабе «святочную атмасферу». На просьбы затрыманага аказаць яму медыцынскую дапамогу, міліцыянеры не рэагавалі. У выніку актывіст парваў сабе вены зубамі, для таго, каб спыніць збіццё. Убачыўшы гэта, супрацоўнікі РУУС ударылі актывіста галавой аб сцяну з такой сілай, што ён страціў прытомнасць. Начальнік аддзялення міліцыі, які прыбыў на шум, выклікаў хуткую дапамогу. Медыкі былі ў шоку ад убачанага: сам Дзмітрый, ягонае адзенне, падлога ў камеры былі залiты крывёй. Толькі прыбыццё хуткай змагло спыніць збіццё. Д. Паліенка быў дастаўлены ў 4 гарадскую клінічную бальніцу, дзе яму былі накладзеныя швы, дыягнаставаная чэрапна-мазгавая траўма і шматлікія ўдары.

## Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні

2 сакавіка суд Ленінскага раёна Брэста не стаў разглядаць адміністрацыйную справу, распачатую ў дачыненні кіраўніка абласной арганізацыі АГП Уладзіміра Вуека. Пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні быў складзены прадстаўнікамі ідэалагічнага аддзела Брэсцкага гарвыканкама і датычыў праведзенага 30 студзеня ў Брэсце пікета па вылучэнні кандыдатам у дэпутаты гарадскога Савета сябра АГП Дыяны Касцюковіч. Спачатку супрацоўнікі міліцыі спрабавалі абвінаваціць партыйцаў у тым, што пікет адбываецца ў забароненым месцы ў цэнтры горада, але ўдзельнікі пераканалі іх у адваротным. У наступныя дні пасля пікета некаторых яго ўдзельнікаў пачалі выклікаць у міліцэйскі пастарунак альбо супрацоўнікі праваахоўных органаў самі прыходзілі на працу да актывістаў. Падчас гэтых сустрэч былі вылучаны іншыя прэтэнзіі: маўляў, збіраліся подпісы не толькі за вылучэнне кандыдата ў дэпутаты, але і за адмену новай пошліны на аўтамабілі, акрамя таго, ажыццяўляўся распаўсюд партыйнага бюлетэня «Голас розуму». Пры гэтым аргументавана адказаць, якую норму закона партыйцы парушылі, супрацоўнікі міліцыі не змаглі. У выніку адміністрацыйны пратакол быў складзены не міліцыяй, а ідэолагамі. Чыноўнікі з гарвыканкама палічылі, што ўдзельнікі пікета парушылі закон, бо не ўзгаднілі фармат мерапрыемства ў адпаведнасці з новай пастановай Цэнтрыбаркама. Аднак суддзя, вывучыўшы пратакол, вырашыў, што складзены ён неахайна і вярнуў на дапрацоўку.

2 сакавіка ў Мінску каля расійскай амбасады актывісты розных рухаў спрабавалі зладзіць акцыю пратэсту супраць агрэсіі Расіі ва Украіне. Ад самога пачатку іх чакалі «аўтазакі» і міліцэйскія аўтамабілі, узмоцненыя сілы супрацоўнікаў міліцыі, прычым большасць з іх былі апранутыя ў цывільную вопратку. Сілавікі спрацавалі жорстка, нават не дазволіўшы разгарнуць плакаты і расцяжкі. Адразу ж былі затрыманы 23 чалавекі. Сярод іх — карэспандэнт «Нашай Нівы» Ірына Арахоўская, журналісты Уладзімер Грыдзін, Іна Студзінская, Васіль Сямашка, Сяргей Гапон, Арцём Лява, Яўген Ерчак, актывісты Дзмітрый Дашкевіч, Раман Пратасевіч, Марыя Трафімава, Сяргей Фінькевіч, Марыяна Цітова, Наталля Рак, Ніна Багінская, Яна Казакова, Станіслаў Пачнель, Дзмітрый Прэдка, Віктар Дудко, Людміла Каравянская, Генадзь Луцэнка, Ігар Сергіевіч, выпадковыя мінакі і нават прэс —аташэ амбасады еўрапейскай краіны, які не назваў сваё прозвішча (па некаторых звестках гэта аташэ расійскай амбасады Пчалінцаў). Усе затрыманыя былі дастаўлены ў РУУС Цэнтральнага раёна. Праз гадзіну журналісты былі вызвалены, пры гэтым начальнік ГУУС Мінгарвыкамнкама Барсукоў сказаў журналістам: «Вы прадажныя». Быў вызвалены і журналіст Васіль Сямашка, якога Аляксандр Барсукоў пагражаў пасадзіць на вокліч «Слава героям». На працягу трох гадзін былі вызвалены большасць затрыманых, на Дзмітрыя Дашкевіча, Сяргея Фінькевіча, Яўгена Ціханава і Ніну Багінскую ў РУУС былі складзены пратаколы адміністрацыйнага правапарушэння. Багінская была адпушчана да суда, астатнія дастаўлены ў ЦІП. 3 сакавіка ў судзе Цэнтральнага раёна адбыўся разгляд адміністрацыйных спраў актывістаў «Маладога Фронту» Дзмітрыя Дашкевіча, Сяргея Фінькевіча і Яўгена Ціханава. Справу Сяргея Фінькевіча разглядаў суддзя Аляксандр Якунчыхін, які асудзіў актывіста да 10 сутак адміністрацыйнага арышту. Актывіст абвінавачваўся па арт.23.4 КаАП — непадпарадкаванне законнаму распараджэнню ці патрабаванню службовай асобы пры выкананні ім службовых паўнамоцтваў. Справу Яўгена Ціханава разглядала суддзя Вікторыя Шабуня — пратаколы былі складзены па арт. арт. 23.4 (непадпарадкаванне законнаму распараджэнню ці патрабаванню службовай асобы пры выкананні ім службовых паўнамоцтваў) і 17.1 КаАП (дробнае хуліганства). Пастанова суда — 12 сутак арышту. Вікторыя Шабуна пастанавіла арыштаваць і Дзмітрыя Дашкевіча на 12 сутак арышту па абвінавачанні ў непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі (арт.23.4 КаАП).

2 сакавіка ў цэнтры Мінска на Нямізе падчас масленічных гулянняў быў затрыманы 25-гадовы ўкраінец Антон Чарнечка, які падышоў да міліцыянера і спытаў: «Калі рухне рэжым Лукашэнкі?».

5 сакавіка грамадскі актывіст Максім Вінярскі правёў пікетаванне каля амбасады Расіі ў Беларусі. Прыблізна ў 16.00 ён стаў насупраць будынка амбасады з плакатам «Акупанты, прэч з Украіны!». Праз хвіліну ад пачатку пікетавання да Вінярскага падышоў супрацоўнік міліцыі, які ахоўваў амбасаду, і паспрабаваў забраць плакат, патрабаваў паказаць дакументы. Ён выклікаў нарад міліцыі, які ў 16.40 затрымаў актывіста і даставіў у РУУС Цэнтральнага раёна Мінска. 6 сакавіка суд Цэнтральнага раёна прызнаў актывіста вінаватым у парушэнні арт. 23.34. КаАП РБ (арганізацыя альбо ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве) і пастанавіў арыштаваць на 15 сутак. Рашэнне вынесла суддзя Вікторыя Шабуня.

6 сакавіка ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска адбылося судовае паседжанне па справе мінчука Віктара Шаршуна, збітага міліцыянтамі за бел-чырвона-белы сцяг, які ён вывесіў на ўласным балконе. Віктара Шаршуна абвінавацілі ў непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі і абразе супрацоўнікаў МУС. Справу разглядаў суддзя Валерый Есьман. У працэсе былі дапытаныя сведкі: малодшы сяржант міліцыі Каралькоў, які здзяйсняў затрыманне і ўчастковы інспектар Ілля Бугор. Паколькі адміністрацыйны пратакол па артыкуле 23.5 КаАП РБ (знявага службовай асобы) адрозніваўся ад ягонай копіі — суддзя адправіў яго на дапрацоўку.

6 сакавіка ў Магілёве на арганізатара традыцыйнай вясенняй акцыі аўтамабілістаў Іллю Палоннікава была заведзена адміністрацыйная справа, а падчас агляду яго кватэры міліцыянеры забралі на экспертызу два ноўтбукі. Акцыю «За добрыя дарогі» аўтамабіліст Ілля Палоннікаў арганізоўваў праз групу ў сацыяльнай сетцы «Укантакце». Яе ён планаваў правесці ў красавіку. Ён разам з іншымі аўтамабілістамі раздаваў налепкі «Магілёў — горад без дарог». Усе жадаючыя магілёўцы маглі прыехаць да яго ў дамоўленае месца і атрымаць гэтыя налепкі. На раздачу ўлёт так падаспелі і супрацоўнікі міліцыі, перапісалі пашпартныя звесткі, а Іллі прапанавалі праехаць у РАУС, дзе склалі пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні за правядзенне несанкцыяванага мерапрыемства. Затым разам з двума міліцыянерамі затрыманы паехаў дадому, дзе быў праведзены агляд кватэры.

7 сакавіка актывісты Руху «За свабоду» Арцём Лява і Алесь Марчанка былі пакараны арыштамі па 5 сутак за акцыю салідарнасці з Украінай, праведзеную каля расійскай амбасады 6 сакавіка.

9 сакавіка на перадвыбарчым пікеце каля Камароўскага рынку ў Мінску быў затрыманы Сяргей Пальчэўскі — давераная асоба кандыдата ў

дэпутаты Мінгарсавета Антона Жылко. Ён трымаў у руках плакат супраць падатку на аўтамабілі з надпісам «Аўтапошліна? Пайшлі на...». С.Пальчэўскага даставілі ў аддзяленне міліцыі Савецкага раёна. 10 сакавіка суд Савецкага раёна пастанавіў арыштаваць актывіста на 10 сутак.

10 сакавіка ў Гомелі супрацоўнікі міліцыі затрымалі актывіста грамадскай ініцыятывы «Наша альтэрнатыва» Андрэя Папова, які распаўсюджваў у прыватным сектары інфармацыйныя буклеты «Не дай сябе развесці». Ва ўлётках была інфармацыя аб тым, якімі нарматыўнымі актамі варта карыстацца ўласнікам прыватных дамоў у выпадку прымусовага зносу. Актывіста даставілі ў РУУС Савецкага раёна, адкуль вызвалілі пазней без складання пратакола.

11 сакавіка актывісты «Маладога Фронту» з Гомеля Стас Була і Дзмітрый Карашкоў падышлі да расійскай амбасады ў Мінску з плакатамі «Пуцін, рукі прэч ад Украіны» і «Не вайне! Пуцін — вораг». Літаральна праз паўтары хвіліны хлопцаў затрымалі і адвезлі ў РУУС Цэнтральнага раёна, дзе на іх былі складзены пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні — за непадпарадкаванне законнаму распараджэнню ці патрабаванню службовай асобы дзяржаўнага органа пры выкананні ім службовых паўнамоцтваў (арт. 23.4 КаАП РБ). У гэты ж дзень адбылося разбіральніцтва справы ў судзе Цэнтральнага раёна суддзёй Вікторыяй Шабуняй. Сведкамі выступілі міліцыянеры са службы аховы амбасады Быкаў і Берасневіч. Рашэнне суда — 11 сутак арышту Станіславу Булу, 15 сутак арышту — Дзмітрыю Карашкову.

11 сакавіка на пляцоўцы каля мінскай Філармоніі быў затрыманы кандыдат у дэпутаты Мінскага гарсавета ад Партыі БНФ Яўген Рыбакоў, які ладзіў перадвыбарчы пікет. Рыбакоў меў у руках бел-чырвона-белы сцяг. Яго затрымаў малодшы сяржант, супрацоўнік міліцыі метрапалітэна, даставіў у апорны пункт міліцыі на станцыі «Плошча Якуба Коласа». Пасля гэтага ў апорны пункт прыехаў начальнік гэтага сяржанта, яны патэлефанавалі галоўнаму ідэолагу гарсавета, праверылі дакументы кандыдата і адпусцілі.

12 сакавіка суд Савецкага раёна Мінска прызнаў лідара АГП Анатоля Лябедзьку вінаватым у правядзенні несанкцыянаванага масавага мерапрыемства і аштрафаваў на 30 базавых велічынь. Рашэнне вынес суддзя Якубоўскі. Справа была ўзбуджана за правядзенне 2 сакавіка каля Камароўскага рынку перадвыбарчага пікета «За сумленныя выбары» актывістамі АГП і «Маладой Беларусі», дзе таксама выказвалася салідарнасць з Украінай. Перадвыбарчы пікет праходзіў згодна з папярэднім уведамленнем.

12 сакавіка лідар Брэсцкай абласной арганізацыі АГП Уладзімір Вуек быў аштрафаваны на 25 базавых велічынь, а актывісты гэтай партыі Дыяна Касцюковіч і Юры Жыдовіч — на 10 базавых велічынь кожны. Яны былі пакараны за пікет, які быў ініцыяваны Аб'яднанай грамадзянскай партыяй і адбыўся на вуліцы Савецкай у Брэсце 24 лютага. Тады, нягледзячы на выказаныя супрацоўнікамі праваахоўных органаў заўвагі, што акцыя ладзіцца ў месцы, якое рашэннем гарадскіх уладаў не можа выкарыстоўвацца для пікетавання, абышлося без затрыманняў. Аднак міліцыянты перапісалі пашпартныя дадзеныя ўдзельнікаў і неўзабаве на іх былі складзеныя пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні за правядзенне несанкцыянаванага масавага мерапрыемства. Суд пагадзіўся з высновамі супрацоўнікаў міліцыі.

14 сакавіка суддзя суда Маскоўскага раёна Мінска Таццяна Мотыль пакарала лідара моладзевай арганізацыі «Zмена» Паўла Вінаградава арыштам тэрмінам 25 сутак па абвінавачанні ў парушэнні арт. 17.1 (дробнае хуліганства) і 23.4 (непадпарадкаванне супрацоўніку міліцыі) Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. Актывіст «Zмены» Аляксандр Арцыбашаў, затрыманы разам з Паўлам Вінаградавым, атрымаў 15 сутак — па арт. 23.4 КаАП. Актывісты былі затрыманы ўдзень 13 сакавіка. Арцыбашаў прыехаў на машыне да будынка міліцэйскай інспекцыі , куды Вінаградаў прыходзіў адзначацца. На выхадзе з інспекцыі Павел быў затрыманы, Аляксандра крыху пазней затрымаў супрацоўнік ДАІ. Супрацоўнікі міліцыі намякнулі, што арышт звязаны з маючымі адбыцца выбарамі ў мясцовыя саветы. Ноч на 14 сакавіка актывісты «Zмены» правялі ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў на вул. Акрэсціна.

14 сакавіка каля Цэнтра ізаляцыі правапарушальнікаў у Мінску падчас сустрэчы вызваленых пасля арышту Дзмітрыя Дашкевіча і Яўгена Ціханава былі затрыманы кандыдаты ў дэпутаты мясцовых Саветаў Ілля Дабратвор і Антон Жылко. Супрацоўнікі міліцыі ўбачылі ў аўтамабілі І.Дабратвора яго інфармацыйныя ўлёткі для выбаршчыкаў, выраб якіх прадугледжаны выбарчым заканадаўствам. Абодвух кандыдатаў даставілі ў РУУС Маскоўскага раёна, адкуль праз некаторы час адпусцілі. Супрацоўнікі міліцыі ўлёткі І. Дабратвору не аддалі.

14 сакавіка ў Мінску былі затрыманы ўдзельніцы праекта «Назіранне за выбарамі: тэорыя і практыка» Ганна Аземша і Паліна Бродзі. Яны збіраліся праводзіць трэнінг для назіральнікаў на мясцовых выбарах, і калі ехалі ў аўтамабілі, у якім знаходзілася неабходная для правядзення мерапрыемства канцылярская прадукцыя і брашуры для назіральнікаў, на

вуліцы Гусоўскага іх спыніла ДАІ. Супрацоўнікі ДАІ патлумачылі, што іх аўтамабіль спынены па падазрэнні ў здзяйсненні ДТЗ, і папрасілі дзяўчат праехаць з імі для дагляду аўтамабіля. У РУУС Фрунзенскага раёна, куды даставілі Ганну Аземшу і Паліну Бродзік, была афармлена працэдура вымання друкаванай прадукцыі. Таксама ў пратаколе дагляду аўтамабіля было пазначана, што яны не маюць афіцыйных папер пра выраб гэтай прадукцыі. Увечары затрыманых адпусцілі з РУУС.

14 сакавіка ў цэнтры Брэста праваабаронца Раман Кісляк разам з актывістам Дзмітрыем Рабцэвічам распаўсюдзілі сярод мінакоў 16 брашур з тэкстам рашэння Камітэта ААН па справе абвінавачанага ў здзяйсненні тэракту і расстралянага Уладзіслава Кавалёва. Падчас распаўсюду матэрыялаў да праваабаронцы Рамана Кісляка падышоў супрацоўнік міліцыі і патрабаваў спыніць акцыю, а 18 сакавіка паводле факту распаўсюду матэрыялаў Кісляк быў дапытаны ўчастковым інспектарам. 31 сакавіка з РАУС Ленінскага раёна Брэста быў дасланы афіцыйны ліст, з якога вынікае, што падчас праверкі не быў устаноўлены склад праваапарушэння ў дзеяннях Кісляка і Рабцэвіча паводле часткі 2 артыкула 22.9 КаАП і на гэтай падставе вынесена пастанова аб спыненні адміністрацыйнай справы.

15 сакавіка ў Гомелі каля буйнога гандлёвага дома «Рэчыцкі» актывісты Аб'яднанай грамадзянскай партыі зладзілі перадвыбарны пікет. Яго ўдзельнікі трымалі ў руках плакаты з лозунгамі «Патрабуем сумленныя выбары», «Вярніце выбары», «23 сакавіка — чарговыя нявыбары». Пікет, у якім прымалі ўдзел лідары АГП Анатоль Лябедзька і Васіль Палякоў, доўжыўся гадзіну. За пікетам назіралі супрацоўнікі міліцыі ў форме, а невядомыя людзі ў цывільным здымалі на відэа. Пасля завяршэння пікета быў затрыманы адзін з ягоных удзельнікаў — гомельскі сябра АГП Уладзімір Шыцікаў. Ён трымаў у руках плакаты з надпісамі: «Пуцінская Расія, ты звар'яцела» і «Бляск рэзідэнцый не ратуе дыктатара». Падчас правядзення пікета міліцыянеры прасілі Шыцікава прыбраць плакат, паколькі ён не адпавядае выбарчай тэматыцы, але ён адказаў, што нічога не парушае, і працягнуў трымаць плакаты. Уладзімір Шыцікаў быў дастаўлены ў РАУС Савецкага раёна. 16 сакавіка суддзя суда Савецкага раёна Гомеля Сяргей Шэўструк прызнаў Уладзіміра Шыцікава вінаватым у парушэнні парадку правядзення масавага мерапрыемства і пакараў 10 суткамі арышту.

17 сакавіка ваўкавыскі актывіст Віталь Гуляк быў аштрафаваны раённым судом на 10 базавых велічынь за правядзенне 13 сакавіка адзіночнага пікета ў падтрымку Украіны. Віталь Гуляк выйшаў у той дзень з украінскім жоўта-блакітным сцягам і плакатам «Не вайне! Пуцін прэч!» у сквер

воінаў-інтэрнацыяналістаў. Суддзя Ваўкавыскага раённага суда Мікалай Талашка таксама пастанавіў знішчыць матэрыялы ўдзельніка пікета — украінскі дзяржаўны жоўта-блакітны сцяг і выраблены плакат.

17 сакавіка ў судзе Савецкага раёна Мінска адбыліся працэсы над затрыманымі 16 сакавіка каля Камароўскага рынку 7 удзельнікамі пікета Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Усе затрыманыя абвінавачваліся ў парушэннні арт. 23.34 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях (удзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве). Пікет быў узгоднены з уладамі як перадвыбарчы, але падчас яго ўдзельнікі трымалі партрэты 10 беларускіх палітзняволеных, а таксама бясследна зніклых Віктара Ганчара, Юрыя Захаранкі, Анатоля Красоўскага і Дзмітрыя Завадскага. Сярод затрыманых — старшыня АГП Анатоль Лябедзька, кіраўнік беларускага аддзялення міжнароднага таварыства «Мемарыял» Уладзімір Раманоўскі (73 гады), першы намеснік старшыні аргкамітэта па стварэнні БСДП (Народная Грамада) Аляксандр Арастовіч, відэааператары Алесь Сіліч і Генадзь Верацінскі, журналістка Наталля Валакіда. Некаторых з затрыманых, у тым ліку Вольгу Маёраву, Ганну Канапацкую, праз тры гадзіны пасля складання пратаколаў адпусцілі з РУУС Савецкага раёна да суда, астатніх накіравалі ў Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў на вуліцы Акрэсціна. Таксама з аддзялення міліцыі былі адпушчаны журналісты. Суддзя Якубоўскі прызнаў Ганну Канапацкую вінаватай і вынес рашэнне аб накладанні штрафу ў памеры 30 базавых велічынь. Суддзя Марына Фёдарава пакарала Аляксандра Арастовіча арыштам на 10 сутак. На 10 сутак арыштаваў суддзя Палулех Уладзіміра Раманоўскага. Анатоля Лябедзьку суддзя М. Фёдарава прызнала вінаватым у парушэнні 2 арт. КаАП: 17.1 КаАП (дробнае хуліганства) і 23.34. (удзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве); па першым артыкуле — 5 сутак, па другім — 10 сутак арышту, усяго — 15 сутак арышту. Яўген Храпаў і Міхаіл Бабіла пакараны адміністрацыйнымі арыштамі на 10 сутак кожны.

21 сакавіка ў судзе Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы адбыўся разгляд адміністрацыйнай справы Уладзіміра Гундара, які правёў 4 сакавіка адзіночны пікет супраць вайны Расіі з Украінай. Вёў судовае паседжанне суддзя Станіслаў Півавар. Уладзімір Гундар не прызнаў сябе вінаватым у парушэнні арт. 23.34 КаАП (арганізацыя і правядзенне несанкцыянаванага масавага мерапрыемства). Ён адзначыў, што арт. 33 Канстытуцыі кожнаму гарантуе свабоду меркаванняў, поглядаў і іх вольнае выказванне. Суддзя прызнаў Уладзіміра Гундара вінаватым у здзяйсненні адміністрацыйнага правапарушэння і прысудзіў адміністрацыйны штраф у памеры 15 базавых велічынь.

21 сакавіка сябра АГП, кандыдат у дэпутаты Антон Жылко быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі каля ўваходу ў метро на станцыю «Трактарны завод», дзе ён разам са сваёй даверанай асобай Ганнай Канапацкай раздаваў улёткі і запрашэнні на сустрэчу з выбаршчыкамі і запрашэнні на дазволеную ўладамі акцыю — Дзень Волі. На Антона Жылко быў складзены адміністрацыйны пратакол паводле арт. 23.32 КаАП аб парушэнні парадку арганізацыі масавых мерапрыемстваў. 24 сакавіка суд Партызанскага раёна Мінска прызнаў А. Жылко вінаватым і асудзіў на 5 сутак адміністрацыйнага арышту, пры гэтым пакінуўшы на волі да абскарджвання рашэння суда.

22 сакавіка Дзяніс Садоўскі, даверанaя асоба кандыдата ў дэпутаты па Чыгуначнай акрузе № 20 у Мінску Максіма Гацака, быў затрыманы на выбарчым участку № 53, калі спрабаваў высветліць прычыну выдалення назіральніцы ад БХД. У выніку самога Дзяніса Садоўскага затрымалі супрацоўнікі міліцыі і склалі адміністрацыйны пратакол паводле артыкула 17.1 КаАП (дробнае хуліганства) і даставілі ў ЦІП да суда. 24 сакавіка суддзя суда Партызанскага раёна Сяргей Германовіч пакараў актывіста арыштам на 2 сутак і вызваліў з залы суда, паколькі Садоўскі адбыў гэтыя суткі ў ЦІП. У пратаколе правапарушэння было запісана, што Садоўскі «наўмысна ўчыніў скандал са старшынём камісіі Касцюкевіч В.В., падчас якога бегаў, гучна крычаў, актыўна жэстыкуляваў, на неаднаразовыя патрабаванні спыніць не рэагаваў, чым парушыў грамадскі парадак і выявіў непавагу да грамадства».

23 сакавіка ў Хоцімску каля 20-00 супрацоўнікі міліцыі затрымалі і даставілі ў мясцовы РАУС кандыдата ў дэпутаты Валерыя Каранкевіча. Кандыдат быў затрыманы непасрэдна на Інтэрнацыянальным выбарчым участку №3. Маёр міліцыі, які не прадставіўся Валерыю Каранкевічу, паведаміў кандыдату ў дэпутаты, што на яго адрас паступіла заява, у якой адзін з сяброў выбарчай камісіі быццам бы вінаваціць Валерыя Каранкевіча ў паклёпе. Праз паўгадзіны В. Каранкевіч быў вызвалены без складання пратакола. Ён лічыць, што яго затрыманне звязана з жаданнем перашкодзіць прысутнічаць пры падліку бюлютэняў на выбарчым участку.

24 сакавіка ўвечары ў пасёлку Руба пад Віцебскам былі затрыманы Барыс Хамайда і Аляксандр Салаўян, у якіх знайшлі нацыянальны сцяг. Двух спадароў пенсійнага ўзросту затрымлівалі амапаўцы, паклалі тварам на зямлю, збівалі, пагражалі застрэліць. У судзе Чыгуначнага раёна супрацоўнікі міліцыі заявілі, што затрыманыя не падпарадкаваліся, адмовіліся назваць прозвішчы. Суддзя Алена Цыганкова прызнала Барыса

Хамайду і Аляксандра Салаўяна вінаватымі і асудзіла на 3 сутак адміністрацыйнага арышту. Падчас адбыцця арышту высветлілася, што прэтэнзіі да актывістаў яшчэ і ў іншым. Іх выклікалі на допыты і змушалі прызнацца, «хто з іх Мірон». З першага дня затрымання гэта пачаў высвятляць Следчы камітэт. 27 сакавіка Барыса Хамайду проста з ІЧУ забралі на агляд ягонага жытла, санкцыянаваны пракурорам Раманоўскім. У пастанове на агляд жылля было сказана, што яго праводзяць у сувязі з адміністрацыйнай справай паводле артыкула 10.9 КаАП. Гэты артыкул пра знішчэнне або псаванне маёмасці ў нязначным памеры, і што справа заведзена паводле заявы РУП «Віцебскэнерга» за шматлікія выпадкі вывешвання сцягоў на электрычныя драты. Такія выпадкі фіксуюцца ў Віцебску ўжо шмат гадоў, але справу распачалі 27 сакавіка — якраз калі Аляксандр Салаўян і Барыс Хамайда адбывалі арышт. Пасля выхаду з ізалятара сябры сустрэліся на ганках ІЧУ, і спадар Салаўян распавёў, штоператрус быў і ў ягонай прыватнай хаце ў вёсцы Зайцава Віцебскага раёна.

25 сакавіка гродзенская міліцыя фактычна на паўдня затрымала грамадскага актывіста Алеся Кіркевіча. Спачатку ён быў выкліканы позвай на 15 гадзін у аддзяленне міліцыі №1 для апытання і «прафілактычнай гутаркі». Адтуль гадзіны праз паўтары актывіста павезлі ў Ленінскі РАУС, дзе чарговы раз узялі адбіткі пальцаў і ўзоры біялагічнага матэрыялу — сліну. А потым на кватэры Кіркевіча з удзелам панятых быў праведзены агляд памяшкання на прадмет наяўнасці забароненых матэрыялаў. У міліцыі дапытваліся пра датычнасць да ўлётак з заклікам байкатаваць расійскія тавары, якія нібыта з'явіліся ў раёне пражывання актывіста. Ніякіх матэрыялаў у кватэры Кіркевіча не было знойдзена, пасля чаго актывіста зноў завезлі ў Ленінскі РАУС, дзе выпісалі папярэджанне пра недапушчальнасць супрацьпраўных дзеянняў.

25 сакавіка ў Брэсце на выхадзе з украінскага консульства былі затрыманы актывісты Беларускай хрысціянскай дэмакратыі Георгій Дзмітрук і Дзмітрый Шухрай. Актывістаў даставілі ў аддзяленне міліцыі Ленінскага РАУС, дзе праверылі на наяўнасць алкагольнага і наркатычнага ап'янення. Па словах супрацоўнікаў міліцыі, іх дзеянні звязаны са званком аб тым, што ў аўтамабілі актывісты правозяць наркотыкі. Ніякіх забароненых рэчаў у актывістаў не было выяўлена, яны былі вызвалены пасля 5 гадзін затрымання.

26 сакавіка актывіст нацыянал-бальшавіцкага руху Дзмітрый Паліенка быў дастаўлены ў Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў Мінска для адбыцця адміністрацыйнага арышту тэрмінам 13 сутак нібыта за «дробнае

хуліганства». Пры гэтым на працягу двух сутак яго месцазнаходжанне і прававы статут заставаліся невядомымі. Суд, а таксама розныя падраздзяленні МУС, у якія звярталіся сваякі і сябры Дзмітрыя, адмаўлялі факт яго затрымання. Увечары 24 сакавіка Дзмітрый Паліенка паведаміў ПЦ «Вясна» пра сваё затрыманне і знаходжанне ў РУУС Заводскага раёна.

26 сакавіка ў судзе Першамайскага раёна Віцебска разглядалася адміністрацыйная справа сябра КХП-БНФ Яна Дзяржаўцава за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве 22 сакавіка. 25 сакавіка ён быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі, калі вяртаўся са святкавання Дня Волі. Ноч да суда правёў у ізалятары часовага ўтрымання. Пікет за байкот выбараў віцебскія актывісты КХП БНФ Ян Дзяржаўцаў і Алена Каваленка зладзілі напярэдадні асноўнага дня галасавання. Яны стаялі з плакатам «Байкот выбарчаму фарсу». Суддзя Наталля Карабліна не задаволіла ніводнага з заяўленых хадайніцтваў з боку Дзяржаўцава, а менавіта: не дазволіла прадставіць перакладчыка, не выклікала сведкаў з боку актывіста, не дапусціла ў працэс прадстаўніка-абаронцу Пятра Іванова. У выніку Дзяржаўцава пакаралі арыштам на 7 сутак па арт. 23.34. КаАП (удзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве).

26 сакавіка ў судзе Заводскага раёна Мінска адбыліся суды над затрыманымі 25 сакавіка ўдзельнікамі акцыі Дзень Волі — Максімам Вінярскім і Аляксандрам Блізнюком. Максіма Вінярскага затрымалі каля 20.30 у двары дома па вул. Багдановіча ўжо пасля акцыі. Падчас шэсця ён нёс чорную расцяжку з надпісам «Смерць крамлёўскім акупантам». Нягледзячы на тое, што гэта адбылося ў Савецкім раёне, актывіста даставілі ў РУУС Заводскага райна. Судовы працэс па справе Максіма Вінярскага праводзіла суддзя Алена Някрасава. Сведка па справе, начальнік падраздзялення АМАП Тарасаў, які падчас акцыі працаваў у цывільным, заявіў, што Вінярскі прыцягнуў да сябе ўвагу тым, што выкрываў фашысцкія і антыдзяржаўныя лозунгі «Пуцін — фашыст», «Далоў ілжывы рэжым Лукашэнкі». Апроч таго, сведка адзначыў, што актывіст аказваў супраціў пры затрыманні. Вінярскі цалкам адмаўляў абвінавачванне. Падчас дачы паказанняў у судзе ён адзначыў, што чуў ад супрацоўнікаў міліцыі ў аўтобусе, як тыя казалі пра апазіцыянераў, што іх трэба знічтажаць і паліць у крэматорыях, каб не дапусціць сітуацыі, як ва Украіне. У выніку суд прызнаў М. Вінярскага вінаватым у парушэнні арт. арт.17.1 (дробнае хуліганства) і 23.4 (непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі) КаАП РБ і асудзіў на 15 сутак адміністрацыйнага арышту. Аляксандр Блізнюк быў асуджаны на 5 сутак арышту таксама па такіх жа абвінавачаннях (арт.17.1, 23.4 КаАП РБ) за тое, што нёс у руках украінскі сцяг і крычаў «За Украіну!».

26 сакавіка ў судзе горада Барысава была разгледжана адміністрацыйная справа фаната футбольнага клуба БАТЭ Аляксандра Марозава. Юнак са сваёй дзяўчынай вяртаўся 25 сакавіка з Гродна дадому цягніком, калі на Барысаўскім вакзале каля гадзіны ночы яго спынілі 4 супрацоўнікі міліцыі нібыта за нецэнзурную лаянку. Да суда ён быў змешчаны ў ізалятар. Марозаў вёз з сабою фанацкую атрыбутыку і некалькі маек з надпісам «Асобны атрад БНР». Суддзя Герасімовіч абвінаваціў Марозава ў дробным хуліганстве па артыкуле 17.1 КаАП і пакараў арыштам на 5 сутак. Пасля адбыцця пакарання атрыбутыку вярнулі, а майкі адправілі на экспертызу. Што крамольнага ўбачылі супрацоўнікі Барысаўскага РУУС у майках, невядома. БНР — гэта абрэвіятура Беларускай Народнай Рэспублікі, першай беларускай дзяржавы, утворанай 25 сакавіка 1918 года.

28 сакавіка ў Брэсце быў затрыманы актывіст Руху «За Свабоду» Дзмітрый Рабцэвіч, які выйшаў з плакатамі «Не хуткім расстрэлам» і «Жыццё ці смерць» у цэнтр горада. Праз 10 хвілін да яго падышлі супрацоўнікі міліцыі, затрымалі і даставілі ў РАУС Ленінскага раёна. З РАУС Д. Рабцэвіча адпусцілі без складання пратакола. Актывіст пратэставаў супраць хуткага прывядзення смяротных прысудаў у выкананне. Ён быў вымушаны пайсці на несанкцыянаваную акцыю, бо ў цэнтры горада правесці пікет немагчыма. У гэты ж дзень брэсцкія праваабаронцы накіравалі зварот у Савет Міністраў аб увядзенні нормы ў заканадаўства аб пяцігадовай адтэрміноўцы выканання смяротных прысудаў. Дзмітрый Рабцэвіч — адзін з шасці аўтараў звароту.

30 сакавіка ў Мінску на ўваходзе на станцыю метро «Магілёўская» міліцыяй быў затрыманы паэт Славамір Адамовіч. Фармальная прычына затрымання — высвятленне асобы, але ўвагу ён прыцягнуў жоўта-блакітнай і бел-чырвона-белай стужкамі на вопратцы. С. Адамовіч быў вызвалены без складання пратакола.

## Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі, пераслед журналістаў

3 сакавіка на пункце пропуску «Новыя Юркавічы» расійскімі памежнікамі былі затрыманы карэспандэнт газеты «Камсамольская праўда ў Беларусі» Павел Міцкевіч і жыхар Гомеля, кіроўца Кастусь Жукоўскі. Па заданні рэдакцыі Міцкевіч рыхтаваў рэпартаж пра жыццё беларускай, украінскай і расійскай вёсак, размешчаных па суседстве, але ў розных дзяржавах. У журналіста і кіроўцы былі ўсе неабходныя дакументы. Расійскія памежнікі пратрымалі грамадзян Беларусі на мяжы 6 гадзін, склалі

адміністрацыйны пратакол і аштрафавалі на 100 расійскіх рублёў па абвінавачанні ў парушэнні правіл знаходжання ў памежнай зоне. Памежнікаў цікавіла, з якой мэтай наведваў журналіст Украіну, з кім там меў зносіны. Супрацоўнікі памежнай службы скапіявалі ўсе фатаграфіі і дыктафонныя запісы.

3 сакавіка падчас судовага працэсу над затрыманым каля амбасады Расіі ў Мінску Сяргеем Фінкевічам суддзя суда Цэнтральнага раёна Мінска Аляксандр Якунчыхін забараніў журналістам весці аўдыёзапіс пасяджэння. Суддзя зрабіў заўвагу журналістам пасля таго, як пабачыў у руках карэспандэнтаў дыктафоны. Аляксандр Якунчыхін заявіў, што аўдыёзапіс у працэсе можна весці толькі з яго дазволу, і што ў выпадку непадпарадкавання журналістаў могуць прыцягнуць да адказнасці. Адметна, што ў канцы снежня 2013 года на прэс-канферэнцыі намесніка старшыні Вярхоўнага суда Беларусі Валерыя Калінковіча журналісты скардзіліся яму менавіта на такія выпадкі. Сп. Калінковіч сказаў, што ведае пра гэта і паабяцаў скарэктаваць падыходы. «Сёння і ў крымінальным, і ў грамадзянскім працэсе закон утрымлівае недвухсэнсоўныя палажэнні пра тое, што ў адкрытым судовым пасяджэнні пісьмовая і аўдыёфіксацыя працэсу дапускаецца без якіх-небудзь абмежаванняў», — зазначыў ён. У хуткім часе на сайце Вярхоўнага суда з'явіўся тэкст пастановы Пленума ВС за подпісам старшыні Валянціна Сукалы «Аб забеспячэнні галоснасці пры ажыццяўленні правасуддзя і распаўсюдзе інфармацыі пра дзейнасць судоў». З дакумента вынікае, што ў адкрытых судовых пасяджэннях нельга забараніць журналістам весці аўдыёзапіс, прычым дазволу суддзі на вядзенне запісу пытацца не трэба.

5 сакавіка журналісты «Беларускага Радыё Рацыя» Мікола Бянько і Юлія Сівец атрымалі афіцыйныя папярэджанні ад Гомельскай абласной пракуратуры за подпісам намесніка пракурора Сушчынскага аб недапушчальнасці парушэння закона, а ў прыватнасці незаконнай журналісцкай дзейнасці ў рэгіёне. Доказамі ў пракуратуры палічылі матэрыялы, апублікаваныя на сайце «Беларускага Радыё Рацыя»: разгорнуты рэпартаж «Забыты Чарнобыль» пра праблемы ліквідатараў, чарнобыльскіх вёсак у Гомельскай вобласці, а таксама матэрыял «Шчодрыкі па-гомельску», дзе распавядалася пра навагодняе свята. Таксама парушэнні былі знойдзены ў блогах, размешчаных на сайце «Беларускага Радыё Рацыя». Паводле пракуратуры, «Беларускае Радыё Рацыя» з'яўляецца замежным сродкам масавай інфармацыі, таму дзейнасць без акрэдытацыі журналістаў забаронена ў Беларусі. Інтарэсы журналістаў прадстаўляў юрыст БАЖ, якога старэйшы памочнік Гомельскага абласнога пракурора Дзміт-

рый Дэбой спачатку не пускаў у кабінет на размову разам з журналістамі, але пасля адмовы Міколы Бянько і Юліі Сівец размаўляць без юрыста, пагадзіўся на ягоную прысутнасць.

11 сакавіка журналістцы «Бобруйского курьера» Марыне Малчанавай патэлефанаваў намеснік начальніка аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі УУС Бабруйскага гарвыканкама маёр міліцыі Сяргей Рудзько і запатрабаваў з'явіцца да яго для складання пратакола за ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве. Удзелам супрацоўнік міліцыі расцаніў асвятленне журналісткай антываенннага пікета, які адбыўся 6 сакавіка. Яго ладзілі ў Бабруйску мясцовыя актывісты, якія перад гэтым падавалі афіцыйную заяўку ў гарвыканкам. Пікет быў малалюдным — з двух чалавек. Праходзіў ён мірна. Спачатку пікетоўцы трохі пастаялі з папяровай расцяжкай «Мы супраць вайны» каля стадыёна на вуліцы Урыцкага. Пазней прайшліся з ёй два кварталы па тратуары. На гэтым усё і скончылася. Але праз некалькі кварталаў аднаго з пікетоўцаў дагнала машына патрульна-паставой службы. Міліцыянты папрасілі яго растлумачыць, што адбываецца, назваць сваё прозвішча. Актывіст паказаў плакат, патлумачыў, што нічога ўжо не адбываецца і сышоў дадому, не назваўшы сябе. За гэтымі падзеямі назірала і фіксавала іх журналістка «Бобруйского курьера» Марына Малчанава. Увечары яна падрыхтавала матэрыял, які затым быў размешчаны ў «Бобруйском курьере». У выніку размовы з супрацоўнікам міліцыі Марына Маўчанава прапанавала выслаць ёй позву, што маёр Рудзько і зрабіў. У позве журналістка пазначаная як асоба, у дачыненні да якой вядзецца адміністрацыйны працэс; указаны артыкул Адміністрацыйнага кодэкса — 23.34 «парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавага мерапрыемства».

16 сакавіка ў Мінску былі затрыманы тэлежурналісты Наталля Валакіда і Алесь Сіліч, якія асвятлялі перадвыбарчы пікет Аб'яднанай грамадзянскай партыі, што праходзіў у раёне Камароўскага рынку. У РУУС Савецкага раёна ў журналістаў перапісалі дадзеныя і ніякіх іншых працэдур не праводзілі. Увесь час у пастарунку відэакамера Алеся Сіліча была ў міліцыянераў. Пасля вызвалення тэхніку яму вярнулі, але ўсе зробленыя на акцыі запісы былі выдалены, а картка памяці — адфарматаваная. Праз тры гадзіны журналісты былі вызвалены.

17 сакавіка Бабруйскі раённы суд аштрафаваў мясцовага блогера Алега Жалнова на 45 базавых велічынь за размешчаны на Youtube запіс з прыёму грамадзян службовай асобай. Дзеянні А. Жалнова былі кваліфікаваны як парушэнне арт. 23.4 КаАП — «Непадпарадкаванне закон-

наму распараджэнню ці патрабаванню службовай асобы пры выкананні ёй службовых паўнамоцтваў». 30 студзеня блогер быў запісаны і з'явіўся на прыём да начальніка УУС Бабруйскага гарвыканкама Аляксандра Васільева. Прыём вёўся на першым паверсе УУС у кабінеце, што знаходзіцца ў грамадскім фае. Дзяжурны па УУС запатрабаваў ад блогера здаць перад прыёмам практычна ўсе яго асабістыя рэчы, праінфармаваўшы, што ў адваротным выпадку на прыём яго не дапусцяць. Блогер вымушаны быў падпарадкавацца, здаў мабільны тэлефон, відэакамеру і нэтбук у камеру захоўвання, усталяваную ў бабруйскім УУС. Тым не менш, пазней у сетцы інтэрнэт з'явіўся відэазапіс таго, як вёўся прыём Жалнова начальнікам УУС. Праўда, у кадры практычна няма асоб і абстаноўкі, а чутныя толькі галасы прысутных. Пабачыўшы гэты запіс у сеціве, УУС вырашыла прыцягнуць блогера да адказнасці за непадпарадкаванне патрабаванню службовай асобы. Гэта значыць — за тое, што перад прыёмам у начальніка УУС ён не здаў па патрабаванні дзяжурнага ўсе сродкі аўдыё- і відэазапісу. Адбыліся тры судовыя слуханні. У якасці сведак былі апытаныя: афіцэр міліцыі, які дзяжурыў па УУС 30 студзеня, начальнік УУС і іншыя супрацоўнікі УУС, якія прысутнічалі на прыёме грамадзян і выявілі затым запіс на Youtube. Сведкі з боку абвінавачвання спасылаліся на загад міністра ўнутраных спраў № 185 («для службовага карыстання») і інструкцыю-дадатак да яго, якія нібыта дазваляюць ім патрабаваць ад грамадзян пры наведванні УУС здаваць усе гука-і відэазапісваючыя прылады, у тым ліку мабільныя тэлефоны. Алег Жалноў будаваў сваю абарону на тым, што Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь вызначана права грамадзян на збор, захоўванне і распаўсюд інфармацыі, якая не з'яўляецца дзяржаўнай, ваеннай або камерцыйнай таямніцай. Афіцыйны прыём службовай асобы, якой з'яўляецца начальнік УУС, не можа быць «таемным» і «засакрэчаным», — даводзіў Жалноў. Паколькі загад міністра ўнутраных спраў «для службовага карыстання», на які спасылаліся прадстаўнікі УУС, не зарэгістраваны ў рэестры дзяржаўных актаў, то ён не з'яўляецца нарматыўна-прававым дакументам, абавязковым для выканання грамадзянамі. Акрамя таго, даказваў Жалноў, існуе Пастанова Савета міністраў, у адпаведнасці з якой усе датычныя грамадзян нарматыўна-прававыя акты павінны быць апублікаваныя і мець адкрыты статус. Нягледзячы на гэтыя аргументы, суддзя Наталля Шэгеда, выслухаўшы бакі, прызнала А. Жалнова вінаватым і вынесла рашэнне аб накладанні штрафу.

20 сакавіка ў Смаргоні быў затрыманы Уладзімір Шульжыцкі за раздачу праваабарончага бюлетэня «Смаргонскі грак» у адным з гарадскіх інтэрнатаў. Міліцыянты склалі пратакол і канфіскавалі 31 асобнік бюлетэня

на падставе таго, што Шульжыцкі, з ягоных слоў, не меў пры сабе дазволу на распаўсюд бюлетэня. Пасля гэтага быў праведзеныператрус у ягонай кватэры, дзе быў знойдзены яшчэ адзін нумар бюлетэня. У.Шульжыцкага адпусцілі, але выпісалі позву ў РАУС на 25 сакавіка. Бюлетэнь «Смаргонскі грак» выдаецца нерэгулярна на працягу трох гадоў накладам 299 асобнікаў. Рэдактар — смаргонскі праваабаронца Алесь Дзергачоў. 25 сакавіка смаргонская міліцыя апытала Алеся Дзергачова і Уладзіміра Шульжыцкага адносна працы выдання і рассылкі абавязковых асобнікаў у дзяржаўныя органы і архівы. Ніякіх пратаколаў не складалі, але настойліва «раілі» сп-ру Дзергачову выконваць заканадаўства. Намеснік старшыні ГА «БАЖ» Андрэй Бастунец перакананы, што патрабаванне рассылкі «кантрольных асобнікаў» дзяржаўным органам незарэгістраваных маланакладных выданняў кшталту «Смаргонскага грака», — неправамоцнае.

22 сакавіка незалежнага журналіста Яўгена Скрабца апыталі ў гарадской пракуратуры Брэста. Памочнік пракурора Паўлава складала пратакол, задаўшы два пытанні: ці мае Я. Скрабец акрэдытацыю як прадстаўнік Радыё Рацыя ў Рэспубліцы Беларусь, ці публікаваў матэрыялы, якія дыскрэдытуюць Рэспубліку Беларусь, яе ўнутраную і знешнюю палітыку ў нейкіх СМІ. Яўген Скрабец адмовіўся адказваць. 31 сакавіка пракуратура Брэста вынесла папярэджанне Яўгену Скрабцу аб недапушчальнасці супрацьпраўных дзеянняў. Папярэджанне тычыцца публікацый журналіста на сайце «Беларускага Радыё Рацыя», якое месціцца ў Беластоку. Само пісьмовае папярэджанне ў пракуратуры журналісту выдаць адмовіліся. Сам Яўген Скрабец адразу ж напісаў у пракуратуру заяву з просьбай выдаць яму копію дакумента для далейшага абскарджання.

24 сакавіка сябра «Беларускай асацыяцыі журналістаў» Алесь Дзянісаў быў выкліканы ў аддзяленне міліцыі №1 Гродна па вуліцы Гараднічанскай, дзе супрацоўнік міліцыі Алег Кока азнаёміў яго з пратаколам пра адміністрацыйнае правапарушэнне па частцы 2 артыкула 22.9 КаАП — незаконны выраб і распаўсюд інфармацыі. У пратаколе ўказвалася, што, паводле сведчанняў галоўнага рэжысёра Гродзенскага абласнога тэатра лялек Алега Жугжды, 6 лютага 2014 года Алесь Дзянісаў запісаў матэрыял для тэлеканала «Белсат». Сюжэт датычыў пастаноўкі спектакля «Фаўст. Сны» паводле класіка нямецкай літаратуры. Матэрыял, які запісаў Алесь Дзянісаў, пазней дэманстраваўся на тэлеканале «Белсат».

25 сакавіка ў Мінску падчас правядзення масавага мерапрыемства, прымеркаванага да Дня Волі, супрацоўнікі міліцыі патрабавалі выдаліць

з фотаапарата здымкі, зробленыя журналісткай газеты «Салідарнасць» Аленай Якжык, а таксама стваралі перашкоды ў працы журналіста тэлеканала «Белсат» Аляксандра Баразенкі. У гэты дзень быў заблакаваны доступ да сайта газеты «Наша Ніва» (у перыяд, прыкладна, з 19.15 да 23.30) і жывой трансляцыі з акцыі «Радыё Свабода».

27 сакавіка на настаўніка з Бешанковічаў, які ўжо некалькі гадоў выдае на ўласныя сродкі газету «Крывінка», Георгія Станкевіча склалі пратакол паводле часткі 2 артыкула 22.9 КаАП, — за парушэнне заканадаўства аб СМІ. Да яго проста ў школу прыйшоў старэйшы аперупаўнаважаны Дзмітрый Карась, які паведаміў, што супраць выдаўца ёсць паказанні двух сведкаў: два прадпрымальнікі з Калгаснага рынку засведчылі, што ён раздаваў там сваю газету. Г. Станкевіч не адмаўляў, што выдае і распаўсюджвае газету, адзначыўшы, што гэта — не перыядычнае выданне, наклад 290 асобнікаў, таму не падлягае рэгістрацыі. Ён паведаміў, што кожны нумар «Крывінкі» дасылае ў Мінск у бібліятэкі і ў Міністэрства інфармацыі, але адтуль ніколі не было прэтэнзій. Прэтэнзіі да Георгія Станкевіча, як ён сам заўважыў, пачынаюцца падчас нейкіх значных грамадскіх падзей. Так, першую адміністрацыйную справу супраць яго і «Крывінкі» распачалі ў 2010 годзе. Тады якраз ішла выбарчая кампанія, і спадар Станкевіч балатаваўся ў дэпутаты райсавета. Скончылася справа судом і штрафам памерам 20 базавых велічынь. Наступны штраф у 2012 г. быў ужо ў два разы большы — 40 базавых велічынь. Сёлета Г. Станкевіч таксама браў удзел у выбарчай кампаніі, балатаваўся ў раённы і абласны саветы. Паказанні сведак былі ўзяты якраз напярэдадні асноўнага дня галасавання. 2 красавіка суддзя Бешанковіцкага райсуда Наталля Рэут аштрафавала Георгія Станкевіча на 50 базавых велічынь.

## Абмежаванне свабоды сходаў

4 сакавіка старшыня Гомельскай абласной арганізацыі партыі левых «Справядлівы свет» Уладзімір Сякерка атрымаў адказ на свой запыт у Гомельскі гарвыканкам, з якога вынікала, што выканаўчы орган дазваляе Камуністычнай партыі Беларусі не выконваць рашэнне аб масавых мерапрыемствах. У заяве актывіст прасіў патлумачыць, на якіх умовах 7 лістапада 2013 года ў Гомелі прайшоў мітынг, прысвечаны гадавіне Кастрычніцкай рэвалюцыі. Аказалася, мітынг на галоўнай плошчы абласнога цэнтра быў дазволены па асабістым распараджэнні старшыні гарвыканкама Пятра Кірычэнка. Згодна адказу з гарвыканкама, гарадскому ЖКГ кіраўнік горада загадаў не толькі забяспечыць прыборку тэрыторыі пасля правядзення мітынгу, але таксама за кошт сродкаў на бягучае ўтрыман-

не аб'ектаў добраўпарадкавання ўсталяваць каля помніка Леніну ў дзень мітынгу два вогнішчы са сцяжкамі. Гарадская паліклініка па яго распараджэнні забяспечвала дзяжурства хуткай дапамогі, а УУС аблвыканкама — дзяжурства супрацоўнікаў міліцыі пры правядзенні мітынгу. Нагадаем, што згодна рашэнню гарвыканкама «Аб масавых мерапрыемствах», заяўнікі пікетаў і мітынгаў павінны заключыць платныя дамовы са спецыяльнымі службамі. Пры гэтым палітычным партыям і грамадзянам дазволена праводзіць мерапрыемствы ўсяго ў двух месцах, якія знаходзяцца на ўскраінах горада. Ніякіх выключэнняў, у тым ліку і для КПБ, рашэнне «Аб масавых мерапрыемствах» не ўтрымлівае.

4 сакавіка старшыня арганізацыі «Абаронцы Айчыны» Аляксандр Камароўскі паведаміў, што Камітэт па правах чалавека ААН вынес рашэнне, згодна з якім прызнаў парушэнне ягонага права на свабоду выказвання меркавання (п. 2 арт. 19 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах). Камітэт ААН спаслаўся на патрабаванне Пакта пра неабходнасць і прапарцыянальнасць абмежаванняў на ажыццяўленне такіх свабод. У прыватнасці, што «беларускія ўлады не ў дастатковай ступені прадэманстравалі падставы неабходнасці затрымання і пакарання аўтара скаргі», а таксама тое, наколькі адміністрацыйны арышт быў апраўданы. У сваёй скарзе Аляксандр Камароўскі аспрэчваў свой арышт за ўдзел у акцыі, якая адбылася 23 сакавіка 2008 года з нагоды 90-годдзя абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Яго просьба пра дазвол на правядзенне шэсця і канцэрта не была задаволеная Жодзінскім гарвыканкамам. У забароне на правядзенне акцыі ўлады сцвярджалі, што арганізатары акцыі перашкодзяць правядзенню «25-га агульнарэспубліканскага марафону», які меўся адбыцца 22 і 23 сакавіка. Аляксандр Камароўскі разам з трыма іншымі арганізатарамі заявілі, што адменяць запланаваную акцыю, але праінфармавалі выканаўчы камітэт пра свой намер правесці мірнае мерапрыемства ў любым іншым месцы, якое б не перашкаджала марафону. Тым не менш, 20 сакавіка выканаўчы камітэт паведаміў арганізатарам, што не будзе разглядаць іх просьбу, бо яна не адпавядае патрабаванням, выкладзеным у Законе «Аб масавых мерапрыемствах». Улады паведамілі, што калі актывісты правядуць акцыю 23 сакавіка, яна будзе разглядацца як несанкцыянаванае масавае мерапрыемства. У выніку Аляксандр Камароўскі і іншыя актывісты вырашылі не праводзіць мерапрыемства. Тым не менш, з мэтай інфармавання асобаў пра тое, што яно адменена, Аляксандр Камароўскі і іншыя арганізатары прыйшлі ў парк культуры Жодзіна, дзе ўжо знаходзіліся 10-15 чалавек. Неўзабаве да іх далучыліся іншыя людзі, якія вырашылі ўшанаваць памяць герояў і ўскласці кветкі да абеліска «Героі жывуць вечна». Паводле

Аляксандра Камароўскага, акцыя доўжылася прыкладна пяць хвілін. 24 сакавіка суд г. Жодзіна асудзіў Аляксандра Камароўскага да сямі сутак адміністрацыйнага арышту па абвінавачванні ў правядзенні несанкцыянаванага масавага мерапрыемства.

5 сакавіка суддзя суда Баранавіцкага раёна і горада Баранавічы Вольга Апановіч правяла паўторнае судовае пасяджэнне, на якім разглядалася скарга Рыгора Грыка на неправамоцныя дзеянні гарадскіх чыноўнікаў, якія адмовілі прафсаюзнаму актывісту ў правядзенні пікета. Намеснік старшыні райвыканкама Д. Касцюкевіч вырашыў, што лозунг масавага мерапрыемства «Дзеянні ўлады і законы РБ — пад грамадзянскі кантроль» парушае арт. 10 Закона «Аб масавых мерапрыемствах», што стала галоўнай прычынай забароны масавага мерапрыемства. Грамадскі прадстаўнік Рыгора Грыка ў судзе праваабаронца Уладзімір Малей адзначыў, што згодна арт.10 Закона «Аб масавых мерапрыемствах», пікет можа быць забаронены, калі яго мэтаю з'яўляецца ажыццяўленне прапаганды вайны ці экстрэмісцкай дзейнасці. Прадстаўнік гарвыканкама Павел Кыткін заявіў суду, што, на яго думку, згаданы лозунг масавага мерапрыемства не парушае арт. 10 Закона «Аб масавых мерапрыемствах». Але ён так і не змог адказаць суддзі Вользе Апановіч на пытанне: чаму ж гарвыканкам забараніў тады пікет прафсаюзнаму актывісту, спаслаўшыся на парушэнне менавіта арт. 10. Супрацоўніца аддзела ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Таццяна Чылік адзначыла, што лозунг пікета «Дзеянні ўлады і законы РБ — пад грамадзянскі кантроль» мог бы выклікасць незадаволенасць грамадзян, а неаб'ектыўная крытыка гарадскіх уладаў можа прывесці да дэстабілізацыі грамадска-палітычнай абстаноўкі, а гэта значыць да экстрэмізму і вайны. У выніку суддзя Вольга Апановіч прызнала рашэнне намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Д. Касцюкевіча ад 15.01.2014г. аб адмове Рыгору Грыку ў правядзенні пікета 26 студзеня 2014 г. незаконным і абавязала гарвыканкам выплаціць заяўніку дзяржаўную пошліну ў памеры 130 тыс. рублёў.

10 сакавіка ў Брэсце планавалася шэсце ў знак салідарнасці з украінскім народам, але было забаронена выканкамам. Мерапрыемства, для ўдзелу ў якім было заяўлена не больш за 15 чалавек, меркавалася правесці з 12.00 да 13.00 па праспекце Машэрава і вуліцы Леніна да цэнтральнай плошчы горада. Заяўнік акцыі, старшыня Брэсцкай абласной арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі Уладзімір Вуек адзначыў, з адказу гарвыканкама вынікае, што маршрут шэсця праходзіць бліжэй чым за 50 метраў ад адміністрацыйных будынкаў, а гэта забаронена законам «Аб масавых мерапрыемствах». Актывіст АГП нагадаў, што з ана-

лагічнай матывіроўкай мясцовыя чыноўнікі не дазволілі правесці шэсце ў падтрымку Еўрамайдана 21 снежня 2013 года, але дазволілі прадстаўнікам дэмакратычных сіл правесці па такім самым маршруце першамайскую дэманстрацыю, у якой тады прынялі ўдзел больш за сто чалавек.

10 сакавіка стала вядома, што правядзенне пікета ў Дзень Волі ў Оршы 25 сакавіка немагчымае. Актывісты нават не падавалі заяўку ў райвыканкам, паколькі вынік стаў вядомы яшчэ на папярэднім этапе: з заяўнікамі не пагадзіліся заключаць дамовы на абслугоўванне ні міліцыя, ні медыкі, ні камунальнае прадпрыемства «Спецаўтабаза», а без такіх дамоў улады дазволу не даюць. Неабходнасць папярэдняга заключэння дамоў прапісана ў рашэнні Аршанскага гарвыканкама №74 «Аб некаторых пытаннях арганізацыі масавых мерапрыемстваў у горадзе Орша». Аршанскі актывіст Ігар Казмярчак адзначыў, што прадпрыемства «Спецаўтабаза» адказала, што заключэння дамовы не будзе, бо якраз цяпер сыходзіць снег, і работнікі мусяць інтэнсіўна прыбіраць горад, таму будуць занятыя, у тым ліку і 25 сакавіка. З паліклінікі прыйшла адмова з паведамленнем, што ў іх няма нават такой паслугі, няма прэйскуранта для аплаты. З міліцыі зрабілі запыт, ці дазволілі акцыю, і напісалі, што мэтазгодна было б абмяркоўваць нейкія дамовы толькі пасля таго, як дазвол ужо атрыманы. Сітуацыя, у якую трапілі сябры Партыі БНФ Ігар Казмярчак і другі заяўнік Алесь Шутаў, вельмі паказальная. Рашэнне гарвыканкама №74 «Аб некаторых пытаннях арганізацыі масавых мерапрыемстваў у горадзе Орша» складзена такім чынам, што прапісаныя там умовы невыканальныя.

12 сакавіка пенсіянеркі з Бабруйска Валянціна Каваленка і Любоў Санкевіч падалі скаргу ў суд на дзеянні мясцовай выканаўчай улады, якая не дазволіла жанчынам правесці пікет у Дзень Канстытуцыі 15 сакавіка. Падчас пікета ў цэнтры Бабруйска жанчыны меркавалі выкарыстаць плакаты наступнага зместу: «У Канстытуцыі правы і свабоды на паперы, а нам яны патрэбныя ў жыцці!», «Чыноўнікі кіруюцца не Канстытуцыяй, а паняццямі», «Чыноўнікі і дэпутаты схаваліся ад народа за плотам адпісак». Сваю адмову чыноўнікі матывавалі тым, што ўпраўленне ўнутраных спраў Бабруйскага гарвыканкама не ўзгадніла месца правядзення акцыі, а таксама нагадалі заяўнікам, што згодна з рашэннем мясцовых уладаў пастаянным месцам для правядзення масавых мерапрыемстваў у Бабруйску вызначаны стадыён па вуліцы Урыцкага. У сваёй скарзе ў суд заяўнікі адзначаюць, што маюць права самі вызначаць месца правядзення акцыі ў адпаведнасці з заканадаўствам. А паколькі пікет з'яўляецца сродкам публічнага выказвання інтарэсаў альбо пратэсту грамадзян, акцыя страчвае ўсялякі сэнс, калі праводзіцца на ізаляванай тэрыторыі. Яны

звярнулі ўвагу суда на тое, што пікет — не пікнік, і адасабленне за агароджай стадыёна не прадугледжвае.

19 сакавіка бярозаўская міліцыя паведаміла праваабаронцам Сяргею Русецкаму і Тамары Шчапёткінай, што не можа заключыць дамову на абслугоўванне пікета, запланаванага на 25 сакавіка. Міліцыя спаслалася на тое, што райвыканкам не звярнуўся да іх пасля атрымання заявы на пікет, як гэта прадугледжвае Пастанова Савета міністраў Рэспублікі Беларусь № 207ад 05.03.2012 г., каб абмеркаваць магчымасць абслугоўвання масавага мерапрыемства. Дамовы з бальніцай і камунальнай гаспадаркай праваабаронцамі былі заключаны. 20 сакавіка Тамары Шчапёткінай патэлефанаваў начальнік аддзела ідэалогіі, працы, культуры і па справах моладзі Бярозаўскага райвыканкама Аляксандр Крагель, каб абмеркаваць, як аддаць дазвол на пікет, каб не парушыць пяцідзённы тэрмін, і ў заяўнікаў не было прэтэнзій, а таксама спытаў, ці згодны яны на перанос пікета на стадыён «Паўночны». Т. Шчапёткіна адказала, калі дазвол ёсць, то заяўляльнікі ніякіх прэтэнзій мець не будуць, нават калі дакумент прыйдзе пазней. 21 сакавіка дазвол за подпісам выконваючага абавязкі старшыні райвыканкама Міхаіла Крэйдзіча быў атрыманы заяўнікамі ў пісьмовым выглядзе. Але нечакана раніцай 22 сакавіка было дастаўлена іншае рашэнне, якое адмяняла папярэдняе, за подпісам таго ж выконваючага абавязкі старшыні райвыканкама Міхаіла Крэйдзіча, у якім утрымлівалася адмова на правядзенне пікета. Прычына адмовы — прапаганда нацыянальнай варожасці. Пры гэтым заяўленыя мэты пікета: адзначэнне 96-х угодкаў абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі, выказванне пратэсту супраць увядзення Расійскай Федэрацыяй сваіх войск на тэрыторыю незалежнай Украіны і размяшчэння расійскіх ваенных баз на тэрыторыі Рэспублікі Беларусі, патрабаванне вызвалення палітвязняў. У якіх запланаваных дзеяннях утрымліваецца прапаганда нацыянальнай варожасці — чыноўнік не ўдакладніў.

19 сакавіка Ваўкавыскі раённы суд адмовіў Віталю Гуляку ў задавальненні скаргі на дзеянні службовай асобы Ваўкавыскага райвыканкама — намесніка старшыні райвыканкама Уладзіміра Захарчука па дзвюх заяўках на правядзенне шэсця і пікета. Заявы падаваліся В.Гуляком на 25 студзеня і на 19 лютага, па абедзвюх былі атрыманы адмовы. На працэсе ў Ваўкавыску суддзя Святлана Ланцэвіч выклікала Уладзіміра Захарчука як адказчыка, але ў суд ён не з'явіўся. Райвыканкам замест Захарчука прадстаўлялі два іншыя чыноўнікі — Наталля Ігнацюк і Дзмітрый Зязюля, якія паведамілі, што намеснік старшыні знаходзіўся ў гэты дзень у камандзіроўцы. У выніку разгляду скаргі суддзя яе не задаволіла.

25 сакавіка ў Мінску адбылося санкцыянаванае Мінгарвыканкамам масавае мерапрыемства (дэманстрацыя і мітынг), прысвечанае 96-ай гадавіне абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), у якім узялі ўдзел 1500-1800 чалавек. Удзельнікі акцыі сабраліся на вызначаным месцы збору (пляцоўка каля кінатэатра «Кастрычнік»), былі разгорнуты бел-чырвона-белыя сцягі, некалькі дзяржаўных сцягоў Украіны, расцяжкі: «Жыве Беларусь», «Малады Фронт», «Беларускі рух», «Свабоду палітвязьням», «Расія-гэта вайна», «Слава Украіне — героям славы», «Малады Фронт», «За нашу і вашу свабоду», «Малады Фронт», «Дзень Волі», «Малады Фронт — героі не паміраюць», «Расія Агрэсар Прэч з СовБеза ААН!». Назіральнікамі была зафіксавана высокая канцэнтрацыя сіл міліцыі ў раёне правядзення мерапрыемства. У дварах, прылеглых да раёна Акадэміі навук, знаходзілася спецтэхніка для перавозкі затрыманых і падраздзяленні ПМСП у форме са спецсродкамі — гумавымі палкамі. Непасрэдна ў месцы збора колькасць міліцыі ў форме была мінімальнай, але канцэнтрацыя супрацоўнікаў міліцыі ў цывільным з рацыямі была досыць высокай. На месцы збора прысутнічалі кіраўнікі ГУУС Мінгарвыканкама ў цывільным. Усе яны не былі абазначаныя бэджамі. Падчас шэсця ўздоўж тратуараў з мэтай недапушчэння выхаду дэманстрантаў на праезжую частку быў выстаўлены невялікі ланцуг ПМСП. Парадак пераходу вуліц рэгуляваўся супрацоўнікамі ДАІ. Пляцоўка ў парку імя Дружбы народаў была агароджаная турнікетам, былі ўсталяваны рамкі з металашукальнікамі для праходу праз яе ўдзельнікаў шэсця. Падчас праходу міліцыя правярала не толькі змесціва асабістых рэчаў, але і змест плакатаў. Былі зафіксаваны спробы канфіскацыі некаторых з плакатаў, у прыватнасці, плаката «Расія-гэта вайна». Падчас усяго мерапрыемства вялася аператыўная відэа-здымка. Пасля завяршэння мерапрыемстваў былі затрыманы міліцыянерамі ў цывільным 10 удзельнікаў мерапрыемства: актывісты «Еўрапейскай Беларусі» Леанід Кулакоў, Уладзімір Барадка, Алена Лазарчык, Сяргей Мацкойць, Максім Вінярскі і Аляксандр Блізнюк; актывісты «Маладога Фронту» Дзмітрый Дрозд і Станіслаў Рачкель, непаўнагадовы Віктар Кашкевіч; актывіст моладзевага крыла АГП «Маладыя дэмакраты» Аляксей Маркоўскі. Позна ўвечары ўсе затрыманыя, акрамя М. Вінярскага і А. Блізнюка, былі вызвалены без складання пратаколаў аб адміністрацыйным правапарушэнні. На наступны дзень М.Вінярскаму прысудзілі 15 сутак арышту (арт.17.1, 23.4 КаАП РБ), А.Блізнюку — 5 сутак. Назіральнікамі былі зафіксаваныя выпадкі перашкодаў з боку міліцыі ў працы журналістаў. Назіранне за мерапрыемствам ажыцяўлялася сіламі валанцёраў РПГА «Беларускі Хельсінскі Камітэт» (БХК) і Праваабарончага цэнтра «Вясна», усе былі абазначаныя бэджамі РПГА «БХК» — з фотаздымкамі і пячаткай арганізацыі. Спісы назіральнікаў былі загадзя дасланы ў ГУУС Мінгарвыканкама з інфармаван-

нем аб правядзенні маніторынга ў адпаведнасці са Статутнымі мэтамі і задачамі РПГА «БХК». У цэлым вялікіх перашкодаў дзейнасці назіральнікаў з боку ўдзельнікаў мерапрыемства і міліцыі адзначана не было. Разам з тым, перад пачаткам мерапрыемства меў месца інцыдэнт з затрыманнем двух назіральнікаў — Анісіі Казлюк і Арсенія Гурскага міліцыяй у раёне ст. метро «Акадэмія навук». Яны былі дастаўлены ў пакой міліцыі ў метро, дзе іх асабістыя дадзеныя і дадзеныя бэджаў былі перапісаныя, пасля чаго назіральнікі былі адпушчаныя.

## Абмежаванне свабоды асацыяцый

25 сакавіка на бабруйскім заводзе ТДіА (трактарных дэталяў і агрэгатаў) пачалася трохдзённая папераджальная галадоўка пяці сябраў Свабоднага прафсаюза Беларускага: старшыні заводскай пярвічкі Міхаіла Кавалькова, Сяргея Пічугова, Ірыны Коршунавай, Генадзя Лабачова, Аксаны Кернажыцкай. «Свабодаўцы» вырашылі пайсці на гэты крок, бо кіраўніцтва прадпрыемства дасюль не выканала абяцанняў, дасягнутых падчас перамоваў, адносна выпрацоўкі зменаў у калектыўную дамову, якая б распаўсюджвалася на ўсіх работнікаў завода, а таксама супраць дыскрымінацыі па прафсаюзнай прыкмеце: Міхаіл Кавалькоў не можа патрапіць на тэрыторыю завода, на сваё працоўнае месца, з сябрамі СПБ не працягваюць працоўныя кантракты, ідзе паступовае знішчэнне пярвічкі. М. Кавалькоў праводзіў акцыю на прахадной завода, 4 сябры СПБ на сваіх працоўных месцах каля станкоў. На завод прыехаў маёр міліцыі Сяргей Рудзько і начальнік упраўлення ідэалагічнай працы гарвыканкама Мікалай Балюк. С.Рудзько папярэдзіў М. Кавалькова, што акцыя разглядаецца як несанкцыянаваны пікет. 26 сакавіка да акцыі далучыліся Віктар Осіпаў, Аляксандр Бенасік і 2 сябры СПБ, з якімі не працягнулі кантракты — Віталь Садоўскі і Аляксандр Мікітка. 27 сакавіка галадоўнікаў стала ўжо 12: пачалі галадаць яшчэ 3 чалавекі: Аляксандр Варанкін, Аляксандр Грамыка і Мікалай Жыбуль. Увечары галадоўка была спынена. Па словах М. Кавалькова, галоўнае, што дабіліся галадоўшчыкі падчас акцыі — гэта галоснасці, прыцягнення ўвагі. Паводле яго слоў, адміністрацыя прадпрыемства вонкава ніяк не адрэагавала на галадоўку: ідэолаг завода не сустракаўся з галадоўнікамі, нягледзячы на тое, што дадзеная сацыяльная акцыя з'яўляецца яго непасрэднай сферай працы, не падышоў ні да аднаго галадоўніка, не пацікавіўся праблемамі. М. Кавалькоў выказаў намер сустрэцца з кіраўніком абласной вертыкалі ўлады, каб данесці яму сваю пазіцыю па сітуацыі на прадпрыемстве. Калі праблемы завадской пярвічкі СПБ не будуць вырашаны, М.Кавалькоў пакідае за сабой і сябрамі СПБ права правядзення далейшых акцый.

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Красавік 2014 года

У красавіку сітуацыя з правамі чалавека захоўвалася стабільна цяжкай. Праваабаронцы віталі вызваленне 8 красавіка з Гродзенскай турмы палітвязня Мікалая Аўтуховіча, адзначаючы пры гэтым, што адбылося гэта ў выніку сканчэння тэрміну пакарання, не ў сувязі з палітычнай воляй уладаў да скасавання такой ганебнай з'явы, як палітычныя зняволеныя, таму не разглядалі дадзеную падзею як пазітыўную прыкмету. Яшчэ падчас знаходжання ў турме над М. Аўтуховічам быў устаноўлены прэвентыўны нагляд тэрмінам на 1 год і 4 месяцы, што стала сігналам па паслядоўным намеры ўладаў выкарыстоўваць дадзеную форму кантролю за палітвязнямі дзеля абмежавання іх актыўнасці пасля адбыцця пакарання.

Прэвентыўны нагляд застаецца не толькі сур'ёзным абмежавальным фактарам для былых палітычных зняволеных, але і стварае магчымасць прыцягнення іх да адказнасці, у тым ліку — крымінальнай. Пра рэальнасць такой пагрозы сведчаць пакаранні ў выглядзе арыштаў былых палітычных зняволеных за парушэнне правіл прэвентыўнага нагляду: двойчы — Васіля Парфянкова (6 месяцаў у 2012-2013 гг., 1 год — 2013-2014 гг.) і Уладзіміра Яроменкі (3 месяцы ў 2013-2014 гг.). У красавіку, акрамя М. Аўтуховіча, прэвентыўны нагляд дзейнічаў у адносінах да яшчэ двух былых палітвязняў — Дзмітрыя Дашкевіча і Паўла Вінаградава. Яны абавязаны знаходзіцца дома ў начны час, не могуць выязджаць за межы населенага пункта без дазволу адказнага органа; на іх распаўсюджваецца шэраг забарон, у тым ліку на наведванне публічных месцаў і інш, істотна абмяжоўваецца іх свабода. Таксама 28 былых палітвязняў знаходзіліся на прафілактычным уліку органаў унутраных спраў, які дазваляе супрацоўнікам міліцыі рэгулярна наведваць іх. Яны знаходзіліся пад пастаяннай пагрозай (пры прыцягненні тройчы да адміністрацыйнай адказнасці на працягу года) усталявання прэвентыўнага нагляду.

Самая вострая праблема — наяўнасць палітвязняў — заставалася нявырашанай. У месцах пазбаўлення волі працягвалі ўтрымлівацца 9 палітычных зняволеных: Алесь Бяляцкі, Мікалай Статкевіч, Эдуард Лобаў, Мікалай Дзядок, Яўген Васьковіч, Арцём Пракапенка, Ігар Аліневіч, Васіль Парфянкоў і Андрэй Гайдукоў. Не апраўдаліся чаканні некаторых экспертаў пра іх магчымае датэрміновае вызваленне як пэўнай дэманстрацыі добрай волі ўладаў перад міжнароднай супольнасцю перад чэмпіянатам свету па хакеі, які запланаваны ў Мінску з 9 па 25 траўня. 21

красавіка стала вядома, што ў парламент унесены законапраект аб амністыі на 2014 год. Тэкст закона да канца месяца заставаўся невядомым, але змест аналагічных законаў папярэдніх гадоў пакідаў мала аптымізму на тое, што ён можа быць распаўсюджаны на палітычных зняволеных. У падобнай сітуацыі толькі палітычная воля ўладаў магла б быць вырашальным фактарам вызвалення палітвязняў, але яна адсутнічала. Ніякіх рэальных крокаў у гэтым накірунку не было прадэманстравана беларускім кіраўніцтвам ні сыходзячы з уласнага рашэння, ні як крок насустрач патрабаванням Еўрапейскага Саюза, які ў красавіку не выказваўся па дадзенай праблеме, засяродзіўшы сваю ўвагу на перамовах з беларускім МЗС па пытанні пагаднення аб спрашчэнні візавага рэжыму і рэадмісіі паміж ЕС і Беларуссю.

У красавіку зафіксаваны сур'ёзныя абмежаванні свабоды мірных сходаў і прэвентыўныя адвольныя затрыманні і арышты. Так, напярэдадні дазволенага мінскімі гарадскімі ўладамі традыцыйнага шэсця «Чарнобыльскі шлях» былі прэвентыўна затрыманы і асуджаны да розных тэрмінаў адміністрацыйнага арышту 8 палітычных і грамадскіх актывістаў, пасля масавага мерапрыемства — яшчэ 8 яго ўдзельнікаў.

Таксама пачалася хваля адвольных затрыманняў і арыштаў актывістаў перад чэмпіянатам свету па хакеі. Дзеля таго, каб тэрмін ізаляцыі максімальна павялічыць, у адносінах да затрыманых вылучаліся абвінавачанні ў парушэнні двух артыкулаў Адміністрацыйнага кодэкса: 17.1 (дробнае хуліганства) і 23.4 (непадпарадкаванне патрабаванням супрацоўнікам міліцыі), што давала магчымасць тэрмін арышту прызначыць да 25 сутак. Судовая сістэма прадэманстравала поўную залежнасць ад палітычнай замовы выканаўчай улады, ні адзін з затрыманых не быў апраўданы.

Варта адзначыць, што адвольным затрыманням і арыштам з мэтай забеспячэння прыгожага знешняга фону сталіцы падчас хакейнага чэмпіянату былі падвергнуты не толькі іншадумцы, але і «асацыяльныя элементы» — бяздомныя, алкаголікі і прастытуткі. Маштаб гэтай «зачысткі» можа быць ацэнены толькі праз некаторы час.

На працягу месяца Вярхоўны суд Беларусі разгледзеў касацыйныя скаргі асуджаных да смяротнага пакарання 26-гадовага Аляксандра Грунова (паўторна) і 53-гадовага Эдуарда Лыкава, абодва прысуды пакінуты ў сіле. Таксама стала вядома пра прывядзенне ў выкананне смяротнага прысуду ў адносінах да 23-гадовага Паўла Селюна. Такім чынам, змякчэння пазіцыі дзяржавы адносна ўжывання смяротнага пакарання не адбылося, як і гуманізацыі судовай сістэмы і сістэмы прывядзення пакаранняў у выкананне.

## Палітычныя зняволеныя, крымінальны пераслед грамадскіх актывістаў

2 красавіка шведская праваабарончая арганізацыя Civil Rights Defenders абвесціла, што кіраўнік ПЦ «Вясна» і віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека Алесь Бяляцкі стаў лаўрэатам узнагароды «Абаронца грамадзянскіх правоў года». Узнагарода Civil Rights Defenders уручаецца 4 красавіка, у дзень забойства доктара Марціна Лютэра Кінга, падчас штогадовай канферэнцыі «Дні праваабаронцаў». 10 красавіка Паліна Сцепаненка, сяброўка і калега Алеся Бяляцкага, паведаміла, што новая кніга палітвязня, якая актыўна рыхтуецца да выдання, будзе мець назву «Халоднае крыло Радзімы». Кніга будзе складацца з занатовак, эсэ, інтэрв'ю, успамінаў зняволенага праваабаронцы. 19 красавіка праваабаронца Таццяна Рэвяка атрымала з Гродзенскага абласнога суда вызначэнне судовай калегіі па справе, датычнай рашэння суда Ашмянскага раёна аб рээкспарце літаратуразнаўчай кнігі зняволенага праваабаронцы Алеся Бяляцкага «Асьвечаныя Беларушчынай». «Азнаёміўшыся са зместам кнігі ў судзе касацыйнай інстанцыі, судовая калегія лічыць, што выснова суда пра тое, што інфармацыя, якая ў ёй утрымліваецца, можа нанесці шкоду палітычным інтарэсам Рэспублікі Беларусь, дзяржаўнай бяспецы і маральнасці грамадзян, з'яўляецца правільнай». Пры гэтым Гродзенскі абласны суд падставай для забароны выдання назваў зусім іншыя цытаты, чым эксперты В.Ягорычаў і В. Хілюта з Гродзенскага ўніверсітэта (вынікі абедзьвух праведзеных імі экспертыз прызнаны судом Ашмянскага раёна непрымальнымі), але высновы аднолькавыя: «вытрыманы аўтарам стыль выкладання і рыторыка могуць падштурхнуць чытача да ложных высноваў і меркаванняў, сфармаваць няправільнае ўяўленне пра Рэспубліку Беларусь, яе гістарычнае мінулае і сённяшняе, правакуе сацыяльна-палітычную напружанасць у грамадстве». 30 красавіка споўнілася роўна 1000 дзён знаходжання за кратамі Алеся Бяляцкага. Гэты дзень палітвязень сустрэў у турэмным шпіталі, куды патрапіў у выніку атручвання. Таксама стала вядома, што ў яго пачаліся праблемы з ціскам, якіх раней не было.

6 красавіка палітвязень Андрэй Гайдукоў быў пераведзены з калоніі ў Магілёве ў папраўчую калонію «Віцьба-3». 8 траўня сканчаецца тэрмін ягонага зняволення, і магчымай прычынай такога паспешлівага пераводу з'яўляецца тое, што паколькі следства і суд над ім адбываліся ў Віцебску, мясцовыя сілавікі пажадалі трымаць Гайдукова «пад рукой», у калоніі з больш жорсткім рэжымам.

7 красавіка палітвязня Васіля Парфянкова, які адбывае пакаранне ў папраўчай калоніі № 9 строгага рэжыму ў Горках, на 6 месяцаў змясцілі ў так званае памяшканне камернага тыпу. Пра гэта сам Васіль Парфянкоў напісаў у лісце да актывісткі грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь» Юліі Сцяпанавай. Да гэтага ў яго было 10 спагнанняў, палітвязень адбыў 23 сутак у ШІЗА. На ўвесь тэрмін знаходжання ў ПКТ ён пазбаўлены перадач і спатканняў.

8 красавіка ў 8 гадзін раніцы з Гродзенскай турмы №1 выйшаў на волю палітвязень Мікалай Аўтуховіч. Сустракаць яго пад сценамі Гродзенскай турмы сабраліся блізкія, палітычныя актывісты і журналісты — агулам каля 30 чалавек. М.Аўтуховіч паведаміў, што ў турме яму двойчы прапаноўвалі пісаць прашэнне аб памілаванні на імя Лукашэнкі, але ён адмовіўся, каб не чуць потым здзекі пра сваю «слабасць». Ён адзначыў, што найперш хоча адпачыць пасля турмы і заняцца здароўем, далей — высветліць сітуацыю з Саюзам афганцаў і працягнуць працу па яго стварэнні. Мікалай Аўтуховіч распавёў, што за час зняволення яму прыйшло 2292 лісты, апошні з якіх аддалі ў дзень вызвалення.

9 красавіка Валянціна Аліневіч, маці палітвязня Ігара Аліневіча, паведаміла, што начальства Наваполацкай калоніі № 10 адмаўляецца тлумачыць, чаму больш чым паўгода для зняволенага забаронены тэлефонныя званкі. В. Аліневіч адзначыла, што яе муж Уладзімір Аліневіч размаўляў па прамой лініі з намеснікам начальніка калоніі і спрабаваў высветліць прычыну забароны, але той не стаў тлумачыць. Яна дадала, што ў дадзенай калоніі няма таксафонаў, а ёсць толькі гарадскі тэлефон, і каб атрымаць дазвол на званок, трэба пісаць заяву. 26 красавіка Уладзімір Аліневіч паведаміў, што ад сына пачалі прыходзіць дадому вялікія канверты з лістамі салідарнасці, якія раней прыйшлі да яго ў калонію ад сяброў і актывістаў розных дэмакратычных арганізацый. Адміністрацыя калоніі дазволіла адправіць гэтыя лісты, бо іх вельмі шмат і ўжо не хапае месца, каб усё захоўваць.

12 красавіка Рушанія Васьковіч, маці палітвязня Яўгена Васьковіча, паведаміла, што ў апошніх лістах дадому яе сын дэманструе ранейшы аптымізм і волю, на здароўе не скардзіцца. Прашэнне аб памілаванні ён адмовіўся падпісваць, і больш яму гэта не прапануюць. 14 красавіка аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» распаўсюдзіў інфармацыю, якая ім стала вядома з крыніц у Магілёўскай турме №4, што на Яўгена Васьковіча адміністрацыя пачала аказваць усебаковы ціск праз асуджаных.

14 красавіка, пасля даволі працяглай паўзы ў ліставанні, Марына Адамовіч атрымала ад свайго мужа-палітвязня Мікалая Статкевіча адразу некалькі лістоў. Яна адзначыла, што як толькі публічна агучваецца чарговая прапанова напісаць прашэнне, у яго заўсёды пасля гэтага пачынаюцца пэўныя праблемы. На гэты раз пасля выступу А. Лукашэнкі ў дзень мясцовых выбараў некалькі лістоў яна не атрымала, яны былі канфіскаваны. На заяву М. Статкевіча аб прычынах гэтай канфіскацыі, начальнік турмы адказаў яму, што не абавязаны тлумачыць прычыны канфіскацыі, хаця гэта не адпавядае заканадаўству.

19 красавіка, напярэдадні Вялікадня, з Івацэвіцкай калоніі №22 дадому патэлефанаваў палітвязень Эдуард Лобаў і змог асабіста павіншаваць сваю сям'ю са святам. Ён паведаміў маці, Марыне Лобавай, што ў чэрвені скончыць навучанне па спецыяльнасці «электрагазазваршчык» і атрымае адпаведны дыплом.

## Смяротнае пакаранне

8-га красавіка ў Вярхоўным судзе паўторна разглядалася касацыйная скарга 26-гадовага гамельчука Аляксандра Грунова на вынесены яму смяротны прысуд Гомельскім абласным судом. Малады чалавек абвінавачаны па ч.6 п.2 арт.139 Крымінальнага кодэкса — забойства, здзейсненае з асаблівай жосткасцю. Амаль паўтары гады цягнулася судовае разбіральніцтва, прайшло каля 20 судовых паседжанняў. Пракурор адразу запрошваў максімальнае пакаранне — расстрэл, і Гомельскі абласны суд падтрымаў гэтае патрабаванне. А.Груноў разам са сваім адвакатам звярнуўся з касацыйнай скаргай у Вярхоўны суд. У кастрычніку 2013 года на паседжанні ВС абаронца Сяргей Красноў падкрэсліў, што крымінальнае заканадаўства Беларусі прадугледжвае, акрамя смяротнага пакарання, і іншыя меры пакарання — пазбаўленне волі на тэрмін ад 8 да 25 гадоў або пажыццёвае зняволенне. Абаронца, спасылаючыся на нормы міжнароднага права і звязаныя з імі нормы нацыянальнага заканадаўства, прадставіў судовай калегіі шэраг парушэнняў, якія знайшлі сваё адлюстраванне ў матэрыялах крымінальнай справы, на якія суд першай інстанцыі не звярнуў увагі. Рашэннем калегіі па крымінальных справах ВС справа Грунова была накіравана на паўторны разгляд у Гомель, які паўторна вынес смяротны прысуд, а Вярхоўны суд пакінуў гэта рашэнне ў сіле. Старшынстваваў падчас судовага паседжання Валер Калінковіч, які неаднаразова заяўляў пра тое, што ў Беларусі ўсё гатова да адмены смяротнага пакарання. Адвакат Грунова Сяргей Красноў адзначыў, што Аляксандр у вельмі падаўленым стане і пакуль не хоча падаваць пра-

шэнне аб памілаванні на імя прэзідэнта. «Трэці раз пачуць у судзе вырак — смяротнае пакаранне праз расстрэл — вельмі цяжка, у яго зараз пэўны адчай, — адзначыў абаронца. — Для мяне дзіўна, чаму Вярхоўны суд адправіў справу на новы разгляд, а пасля не ўлічыў новыя змякчаючыя абставіны, якія былі выяўленыя ў Гомельскім абласным судзе». У гэты ж дзень стала вядома, што КПЧ атрымаў зварот ад імя Аляксандра Грунова. У адпаведнасці з п. 92 Правілаў працэдур Камітэта дзяржава не павінна прыводзіць у выкананне смяротны прысуд да разгляду звароту па сутнасці ў ААН. 17 красавіка А. Груноў накіраваў наглядную скаргу на смяротны прысуд і прашэнне аб памілаванні. Асуджаны адзначыў, што суд, выносячы яму смяротнае пакаранне, не ўлічыў змякчаючыя абставіны — яго чыстасардэчнае раскаянне, поўнае прызнанне віны, яўку з павіннай, добраахвотнае супрацоўніцтва са следствам і супрацьпраўныя/амаральныя дзеянні пацярпелай Наталлі Емельянчыкавай.

8 красавіка стала вядома, што Генеральная пракуратура адмовіла сваякам Уладзіслава Кавалёва ў аднаўленні справы. У сакавіку маці і сястра Уладзіслава Кавалёва, аднаго з расстраляных два гады таму па абвінавачанні ў здзяйсненні тэракту ў мінскім метро, накіравалі заяву Генеральнаму пракурору Беларусі Аляксандру Канюку, дзе прасілі аднавіць вытворчасць па гэтай крымінальнай справе ў сувязі з нававысветленымі акалічнасцямі. З адказу Генпракуратуры вынікае, што рашэнне Камітэта па правах чалавека па справе Уладзіслава Кавалёва не ўваходзіць у пералік падстаў для перагляду справы па новаадкрытых акалічнасцях, прадугледжаных артыкулам 218 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса Беларусі.

14 красавіка судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда Беларусі разгледзела касацыйную скаргу асуджанага да смяротнага пакарання 53-гадовага Эдуарда Лыкава, якому інкрымінавана пяць эпізодаў забойства ў стане алкагольнага ап'янення. Прысуд быў вынесены Мінскім абласным судом 26 лістапада 2013 года. Старшыня судовай калегіі — Валерый Калінковіч, прадстаўнік абвінавачвання — пракурор Дударава, адвакат — Клюкач. У судзе абвінавачаны віну не адмаўляў, раскаяўся, супрацоўнічаў са следствам. Адзначыў, што з боку следства яго спайвалі, каб больш ахвотна даваў паказанні, а таксама збівалі. Адзначыў, што ўсе забойствы адбыліся ў выніку сваркі. Лічыць, што не мог дзейнічаць па-іншаму ў той сітуацыі, інакш забілі б яго. Абаронца на судзе падтрымаў касацыйную скаргу. Пракурор адзначыла, што віна Лыкава даказаная цалкам, з улікам змякчальных абставінаў яму вынесена справядлівае пакаранне — смяротнае. У выніку касацыйная скарга не задаволена, прысуд Мінскага абласнога суда пакінуты ў сіле.

15 красавіка стала вядома, што Вярхоўны суд таксама лічыць скаргу родных Уладзіслава Кавалёва адносна месца пахавання расстралянага непадведамаснай агульным судам. Такое рашэнне ўтрымліваецца ў адказе на скаргу Любові Кавалёвай (маці Уладзіслава Кавалёва) і сястры Таццяны Казяр за подпісам намесніка старшыні Вярхоўнага суда Андрэя Забары. У рашэнні паведамлялася, што рашэнні суда Кастрычніцкага раёна г. Мінска і Калегіі па грамадзянскіх справах Мінскага гарадскога суда аб непадведамаснасці разгляду скаргі агульным судам застаюцца ў сіле. Любоў Кавалёва і Таццяна Казяр у сваёй скарзе ў Вярхоўны суд патрабавалі адмяніць рашэнне суда Кастрычніцкага раёна г. Мінска і Калегіі па грамадзянскіх справах гарадскога суда, якія адмовілі ва ўзбуджэнні грамадзянскай справы на дзеянні КДБ, МУС і Дэпартамента выканання пакаранняў на адмову прадаставіць інфармацыю пра месца пахавання Уладзіслава. Вярхоўны суд адзначыў, што ёсць іншы парадак для абскарджвання адмовы прадастаўлення інфармацыі пра месца пахавання Уладзіслава Кавалёва, але іншага парадку не прадугледжана Крымінальна-выканаўчым кодэксам РБ. Магчымасці даведацца для Любові Кавалёвай пра месца пахавання яе расстралянага сына больш няма.

18 красавіка стала вядома, што ў адносінах да 23-гадовага студэнта гістфаку БДУ выкананы смяротны прысуд. Ягоны зварот яшчэ знаходзіцца на разглядзе КПЧ ААН. Гэта значыць, Рэспубліка Беларусь у чарговы раз парушыла ўзятыя на сябе міжнародныя абавязальніцтвы. 12 чэрвеня 2013 Гродзенскі абласны суд прызнаў Паўла Селюна вінаватым па чатырох артыкулах Крымінальнага кодэкса: забойства дзвюх асоб, учыненае з асаблівай жорсткасцю; крадзёж; здзек над трупамі; крадзёж асабістых дакументаў. Да гэтага малады чалавек не меў судзімасцяў. Свае дзеянні ён патлумачыў рэўнасцю — забітыя — ягоная жонка і яе каханак, якіх ён застаў у адной кватэры. Па сукупнасці злачынстваў суд першай інстанцыі прыгаварыў Паўла да выключнай меры пакарання — расстрэлу. Працэс вёў суддзя Анатоль Заяц. Сялюн падаў касацыйную скаргу на прысуд. 17 верасня 2013 яе разглядала судовая калегія Вярхоўнага суда пад старшынствам Валерыя Калінковіча. Вызначэнне — пакінуць прысуд у сіле. Маці Паўла Селюна звярнулася да Лукашэнкі і тагачаснага кіраўніка БПЦ Філарэта з просьбай паспрыяць таму, каб яе сына памілавалі — замянілі смяротнае пакаранне на альтэрнатыўнае — пажыццёвае зняволенне. Сам Павел таксама звярнуўся з прашэннем аб памілаванні на імя Лукашэнкі. Маці Паўла Селюна даведалася ад адваката, што прысуд прыведзены ў выкананне. Адвакат прыйшла на сустрэчу з падабаронным, аднак у СІЗА ёй паведамілі, што Сялюн «убыл по приговору». На

звычайнай мове гэта значыць расстрэл. Ніякіх пісьмовых дакументаў ці паведамленняў сваякам Паўла не даслалі. Маці да апошняга не ведала рашэння камісіі аб памілаванні, дату выканання прысуда. У бліжэйшыя дні яна збіралася на спатканне з сынам.

## Пераслед праваабаронцаў і праваабарончыя арганізацыі

3 красавіка праваабаронцы Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч і Раман Юргель правялі 6 гадзін у РАУС Ленінскага раёна Гродна. На іх былі спачатку складзены пратаколы апытання, потым пратаколы адміністрацыйных правапарушэнняў і адміністрацыйнага затрымання. Пратаколы афармлялі супрацоўнікі Ленінскага РАУС Павел Лапато, Аляксей Вайцешка і Мікалай Нічыпар, якія пазней выступалі ў якасці сведак. Пратаколы за нібыта адміністрацыйныя правапарушэнні былі складзены на праваабаронцаў выключна на падставе іх фотаздымкаў у інтэрнэце з беларускімі і ўкраінскімі сцяжкамі ў некалькіх гістарычных мясцінах Гродна 25 сакавіка. Праваабаронцаў абвінавацілі ў правядзенні некалькіх несанкцыянаваных пікетаў. Грамадскія актывісты некалькі гадзін чакалі дзяжурнага суддзю ў будынку РАУС. Разгляд адміністрацыйных спраў фактычна ў закрытым працэсе правяла суддзя Ленінскага раённага суда Наталля Козел. Суддзя адхіліла хадайніцтва перанесці разгляд спраў у будынак суда Ленінскага раёна і зрабіць працэсы адкрытымі. У выніку разгляду пратаколаў Наталля Козел аштрафавала кожнага з грамадскіх актывістаў на 25 базавых велічынь. 14 красавіка Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч і Раман Юргель падалі касацыйныя скаргі ў Гродзенскі абласны суд на рашэнне суда Ленінскага раёна Гродна.

26 красавіка ў Бярозаўскі РАУС былі выкліканы праваабаронцы Тамара Шчапёткіна і Сяргей Русецкі. Выклік быў ініцыяваны суддзёй суда Бярозаўскага раёна Алены Нямковай, якая даручыла міліцыі даведацца пра абставіны забароны пікета, які праваабаронцы планавалі правесці 25 сакавіка. Ад райвыканкама праваабаронцы атрымалі адмову, пасля чаго падалі заяву ў суд на дзеянні мясцовага выканаўчага органа. З Сяргеем Русецкім размаўляў старэйшы інспектар аддзела аховы грамадскага правапарадку Сяргей Галёнка, са Шчапёткінай — участковы інспектар Сяргей Несцяровіч. Тамара Шчапёткіна тлумачэнні па неадбыўшамуся пікету даваць адмовілася. Яна сказала, што ўся неабходная інфармацыя выкладзена ў заяве ў суд, і калі для суддзі Нямковай штосці незразумела, то растлумачыць асабіста ёй падчас судовага працэсу, пра час і дзень якога праваабаронцам яшчэ не паведамлялася.

## Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні

3 красавіка паэт Славамір Адамовіч быў затрыманы за ўкраінскую стужку на вопратцы. У пастарунку ў яго праверылі дакументы, агледзелі рэчы. Пасля таго, як Адамовіч паказаў выпіску пра аналагічнае папярэднее затрыманне, яго адпусцілі.

9 красавіка брэсцкаму актывісту Дзмітрыю Рабцэвічу патэлефанавалі з міліцыі і выклікалі ў пастарунак, дзе склалі пратакол паводле артыкула 23.34 КаАП за парушэнне парадку правядзення масавых мерапрыемстваў. Акцыя, у якой браў удзел Дзмітрый Рабцэвіч, адбылася 28 сакавіка, калі ён выйшаў у цэнтр горада з плакатам, на якім было напісана «Не — хуткім расстрэлам» і «Жыццё альбо смерць». Актывіст хацеў прыцягнуць увагу грамадскасці да праблемы хуткага выканання смяротных прысудаў у Беларусі пасля ўступлення іх у законную сілу. Дзмітрый Рабцэвіч прастаяў з плакатам літаральна 10 хвілін, пасля чаго да яго падышлі супрацоўнікі міліцыі і адвезлі ў РАУС Ленінскага раёна Брэста. Там у затрыманага ўзялі тлумачэнні, канфіскавалі плакат і адпусцілі без складання пратакола.

15 красавіка віцебская актывістка Алена Каваленка была прызнана вінаватай у парушэнні парадку арганізацыі і правядзення масавых мерапрыемстваў і аштрафавана на 20 базавых велічынь за пікет супраць удзелу ва ўжо мінулых мясцовых выбарах, які адбыўся 22 сакавіка ў Віцебску. Працэс у Першамайскім райсудзе Віцебска працягваўся менш за паўгадзіны, Алена Каваленка адмовілася даваць тлумачэнні, адзначыўшы толькі, што падчас пікета выказвала сваю грамадзянскую пазіцыю. Судзіла Алену Каваленка суддзя Натальля Карабліна, якая раней пакарала другога ўдзельніка той самай акцыі, сябра КХП БНФ Яна Дзяржаўцава на 7 сутак арышту.

17 красавіка гомельскіх актывістаў «Маладога Фронту» Станіслава Була, Андрэя Цянюту і Наталлю Крывашэй суд Цэнтральнага раёна Гомеля прызнаў вінаватымі ў парушэнні парадку правядзення масавых мерапрыемстваў і вынес ім папярэджанне. Маладзёнаў абвінавацілі ў тым, што яны 22 лютага правялі несанкцыянаваную акцыю на «Нулявым кіламетры» ў памяць ахвяраў Еўрамайдана ў Кіеве. Станіслава Була, які не прысутнічаў на пасяджэнні, суд прызнаў вінаватым завочна. А выклікалі актывістаў у суд не позвай, а СМС-паведамленнем. Таксама толькі ў судзе яны ўбачылі адміністрацыйныя пратаколы. Андрэй Цянюта ад-

значыў, што адміністрацыйную справу неабходна спыніць, бо пратаколы складаліся ў міліцыі без удзелу актывістаў. Сваю віну маладафронтаўцы не прызналі. Яны патлумачылі, что «Нулявы кіламетр» — гэта месца, дзе традыцыйна ладзяцца акцыі салідарнасці, і раней тых, хто ўскладаў кветкі і ставіў лампадкі ў памяць ахвяраў тэракта ў Мінску, Валгаградзе, да адказнасці не прыцягвалі.

20 красавіка на пункце пропуску «Каменны Лог» Ганну Аземшу прымусілі выехаць з тэрыторыі Беларусі і пакінуць за мяжой 130 асобнікаў інфармацыйнага бюлетэня «Восем цікавых фактаў пра выбары» і 65 асобнікаў бюлетэня «Назіральнік паведамляе». Толькі зрабіўшы гэта, Ганна змагла ўехаць у краіну.

22 красавіка суд Фрунзенскага раёна Мінска вынес рашэнне аб арышце Максіма Вінярскага на 12 сутак. Актывісту, у якога была вострая ангіна, у судзе стала дрэнна. Медыкі хуткай дапамогі, якія прыехалі на выклік, сказалі, што яму неабходна шпіталізацыя, аднак міліцыя вырашыла накіраваць яго адбываць пакаранне. У адказ на гэта Максім у судзе абвясціў сухую галадоўку. Максіма Вінярскага затрымалі супрацоўнікі міліцыі, калі ён выходзіў з гандлёвага цэнтра «Карона», паведаміўшы, што ён падобны на злачынцу. У аддзяленні міліцыі яго абвінавацілі ў непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі склалі пратакол за правапарушэнне. Максім Вінярскі нядаўна вызваліўся пасля 15-суткавага арышту з Цэнтра ізаляцыі правапарушальнікаў. Перад вызваленнем супрацоўнік міліцыі прапанаваў яму часова з'ехаць са сталіцы: маўляў, калі вы разумныя людзі, дык павінны зразумець, што ў вас ёсць два варыянты — альбо з'ехаць з краіны, альбо выехаць у вёску на час правядзення чэмпіянату свету па хакеі.

22 красавіка ў Мінску былі затрыманы актывісты «Альтэрнатывы» Аляксандр Сцепаненка і Уладзімер Сяргееў. 23 красавіка па абвінавачанні ў дробным хуліганстве суд Цэнтральнага раёна пакараў кожнага з іх арыштам на 5 сутак кожнага.

23 красавіка суддзя суда Заводскага раёна Мінска Анастасія Асіпчык пакарала арыштам на 10 сутак актывіста Іллю Дабратвора. Ён быў затрыманы 22 красавіка, калі ехаў на ўласным аўтамабілі. Яго спынілі па падазрэнні ва ўгоне аўтамабіля. Супрацоўнікі міліцыі склалі на актывіста два адміністрацыйныя пратаколы: парушэнне артыкула 17.1 КаАП (дробнае хуліганства) і 23.4 (непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі). Ілля вёз у аўтамабілі ўкраінскія і бел-чырвона-белыя сцяжкі, усяго 30 штук. Па

кожнаму артыкуле было вынесенае пакаранне па 7 сутак арышту, а пасля канчаткова, шляхам частковага складання, суддзя Асіпчык пакарала яго арыштам на 10 сутак.

24 красавіка суд Маскоўскага раёна Мінска прыняў рашэнне аб працягненні тэрміну прэвентыўнага нагляду над лідарам моладзевай арганізацыі «Zмена» Паўлам Вінаградавым (тэрмін нагляду заканчваўся 25 красавіка). Павел Вінаградаў — адзін з фігурантаў крымінальнай справы, узбуджанай пасля акцыі пратэсту супраць фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў у 2010 годзе. Ён датэрмінова выйшаў на волю, аднак адразу над ім быў усталяваны прэвентыўны нагляд. За гэты час шматразова падвяргаўся адміністрацыйнаму пераследу за грамадскую актыўнасць. Актывісту ў РУУС далі зразумець, што альбо ён з'язджае да бацькі ў Беразіно да 3 чэрвеня (завяршэння чэмпіянату свету па хакеі), альбо паедзе ў ЦІП на Акрэсціна. Павел Вінаградаў выбраў Беразіно.

24 красавіка ў Мінску прыкладна ў 22 гадзіны каля пад'езду дома быў затрыманы лідар «Маладога Фронту», былы палітвязень Дзмітрый Дашкевіч. Супрацоўнікі міліцыі праверылі ягоныя рэчы, а затым адвезлі ў РУУС Першамайскага раёна. 25 красавіка ў судзе Першамайскага раёна адбыўся разгляд адміністрацыйнай справы Дзмітрыя Дашкевіча па абвінавачанні ў парушэнні двух артыкулаў КаАП: 24.12 (парушэнне правіл адбыцця прэвентыўнага нагляду) і 23.4 (непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі). Суддзя Юрый Гарбатоўскі прыняў рашэнне арыштаваць актывіста на 25 сутак.

28 красавіка ў судзе Савецкага раёна Мінска адбыліся суды над удзельнікамі «Чарнобыльскага шляху», якія былі затрыманыя 26 красавіка адразу пасля завяршэння масавага мерапрыемства, а таксама над затрыманым прэвентыўна 25 красавіка Аляксандрам Францкевічам. Суддзя Марына Фёдарава прызнала Дзяніса Карнова вінаватым у парушэнні 2 артыкулаў Адміністрацыйнага кодэкса: 17.1 — дробнае хуліганства і 23.34 — удзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве і пастанавіла арыштаваць яго на 20 сутак. Суддзя Кірыл Палелух вынес пастанову аб арышце тэрмінам на 15 сутак Мікалая Коласа. Пры затрыманні яго збівалі ў мікрааўтобусе, ён скардзіўся, што ў яго анямела рука. Справу Леаніда Смаўжа разгледзела суддзя Лаўкова, сведкам выступаў камандзір групы АМАП Сыраватаў. Пастанова суддзі — 20 сутак арышту. Л.Смоўж паведаміў, што больш за 3 гадзіны іх трымалі тварам да сценкі у РУУС на расцяжцы. Грамадзянін Расіі Уладзімір Новікаў арыштаваны на 15 сутак арышту па абвінавачанні ў 2 правапарушэннях: непадпарадкаванне мілі-

цыі і хуліганства. Аляксандр Курбаскін арыштаваны на 20 сутак. Суддзя Марына Фёдарава вынесла рашэнне аб арышце Валерыя Таміліна на 20 сутак па абвінавачанні ў дробным хуліганстве і супраціўленні супрацоўнікам міліцыі. Гэтая ж суддзя асудзіла Аляксандра Стукіна на 20 сутак арышту. Гамяльчанін Юрый Рубцоў, які пры затрыманні быў апрануты ў майку з надпісам на спіне: «Арыштуйце мяне. Нагода? Я супраць Лукашэнкі» і на грудзях «Лукашэнка, сыходзь», быў дастаўлены ў суд без кашулі, у адных штанах. Суддзя Палулех пакараў яго арыштам на 25 сутак, быў складзены пратакол за непавагу да суда. Аляксандр Францкевіч арыштаваны на 25 сутак.

## Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі, пераслед журналістаў

2 красавіка ў судзе Бешанковіцкага раёна адбыўся разгляд адміністрацыйнай справы мясцовага настаўніка Георгія Станкевіча па абвінавачанні ў парушэнні парадку распаўсюду газеты «Крывінка» (ч. 2 арт. 22.9 КаАП), якую той выдае за ўласныя сродкі. Суддзя Наталля Рэут адмовілася перанесці працэс, каб на яго змог трапіць адвакат з Мінску, абазнаны ў заканадаўстве аб СМІ, а потым выдаліла з залы і самога Георгія Станкевіча нібыта за парушэнне правапарадку. Парушэннем суддзя палічыла просьбу Г. Станкевіча выклікаць у суд перакладчыка, бо ён ужо 18 гадоў размаўляе толькі па-беларуску, і выказаў апасенне, што нечага можа не зразумець у юрыдычнай тэрміналогіі. Выдалены з залы суда Георгій Станкевіч пайшоў у пракуратуру і падаў скаргу на дзеянні суддзі Наталлі Рэут. Пракурор паабяцаў даць пісьмовы адказ, а ўмяшацца ў справу неадкладна не палічыў патрэбным. Была напісана і другая скарга на імя старшыні суда. Тым часам суддзя завяршыла працэс, вынесшы пастанову аб накладанні на Г. Станкевіча штрафу ў памеры 50 базавых велічынь. Рашэнне аб прызнанні віны суддзя вынесла на падставе ананімнага ліста, напісанага нібыта аднавяскоўцамі настаўніка, якія «выкрываюць» факты ягонай незаконнай выдавецкай дзейнасці.

3 красавіка суддзя Бабруйскага раённага суда Наталля Чарапуха прызнала блогера Алега Жалнова вінаватым у парушэнні артыкула 23.4 КаАП — «непадпарадкаванне законнаму распараджэнню ці патрабаванню службовай асобы пры выкананні службовых паўнамоцтваў» і вынесла пакаранне памерам 46 базавых велічынь. Правапарушэннем прызнана то, што 4 лютага Алег Жалноў, ідучы на прыём да выконваючага абавязкі начальніка Бабруйскага аддзела Следчага камітэта, не здаў дзяжурнаму УУС мабільныя тэлефоны, 3G мадэм і карту памяці. Супрацоўнікі міліцыі даводзілі,

што УУС — рэжымны аб'ект, і што дзяжурны дзейнічаў у адпаведнасці з загадам міністра ўнутраных спраў №185 (для службовага карыстання) і інструкцыі да яго, якая вызначае забароненыя да праносу на рэжымныя аб'екты рэчывы і прадметы. Блогер будаваў сваю абарону на тым, што загады і распараджэнні міністра не распаўсюджваюцца на цывільных асоб. Па яго перакананні, не ўстаноўлена, ці з'яўляецца УУС Бабруйскага гарвыканкама рэжымным аб'ектам. Таксама існуе Пастанова Савета міністраў, у адпаведнасці з якой усе датычныя грамадзян нарматыўна-прававыя акты павінныя быць апублікаваныя і мець адкрыты статус. А паколькі загад № 185 не зарэгістраваны ў рэестры дзяржаўных актаў, то ён не з'яўляецца абавязковым для выканання грамадзянамі, лічыць ён.

4 красавіка бабруйская незалежная журналістка Марына Малчанава атрымала ліст з пракуратуры, з якога яна даведалася, што адміністрацыйная справа супраць яе закрыта. Пасля асвятлення антываеннага пікета журналістку выклікалі ў міліцыю. Там на прыёме ў маёра Сяргея Рудзько Марына Малчанава даведалася, што яе спрабуюць прыцягнуць да адказнасці за парушэнне артыкула 23.34 КаАП «парушэнне парадку арганізацыі ці правядзення масавага мерапрыемства». У сувязі з гэтым яна накіравала скаргу на дзеянні супрацоўніка міліцыі Рудзько ў пракуратуру, у якой прасіла разгледзець выкладзеныя ёю факты з пункту гледжання артыкула 198 КК РБ «перашкода законнай прафесійнай дзейнасці журналіста». У адказе з пракуратуры Марыне паведамілі толькі тое, што ў адносінах да яе 19 сакавіка вынесена пастанова аб спыненні справы аб адміністрацыйным правапарушэнні.

15 красавіка Віцебская абласная пракуратура вынесла папярэджанне незалежнай журналістцы Святлане Сцяпанавай пра магчымую адказнасць па артыкуле 22.9. ч 2 КаАП «незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ» за супрацоўніцтва з замежным СМІ без акрэдытацыі. У пракуратуры палічылі, што незалежная журналістка без акрэдытацыі супрацоўнічае з замежным СМІ — беларускай службай «Польскага радыё для замежжа». Пракурор аддзела па наглядзе за выкананнем заканадаўства Павел Зайцаў гутарыў з журналісткай на працягу 20 хвілін, ніякія тлумачэнні з яе боку фактычна не спатрэбіліся. Пракурор паказаў раздрукоўкі з сайта, а потым выйшаў у суседні пакой і прынёс гатовую пастанову аб вынясенні папярэджання. Папера была падрыхтавана загадзя, пад ёй стаяў подпіс намесніка пракурора вобласці Георгія Караньк.

15 красавіка глыбоцкую газету «Прэфект-інфо» аштрафавалі за парушэнне закона аб рэкламе. Заснавальнік газеты, мясцовы актывіст Яра-

слаў Берніковіч і рэдактар выдання Зміцер Лупач падкрэсліваюць, што цікаўнасць да газеты з боку кантралюючых структур узмацняецца якраз падчас выбарчых кампаній, у якіх абодва актывісты ўдзельнічаюць шмат гадоў запар. Штраф памерам 25 базавых велічынь вынес суддзя Глыбоцкага суда Андрэй Тарасевіч. Падставай для спагнання стаў пратакол, складзены супрацоўніцай упраўлення гандлю і паслуг Віцебскага аблвыканкама Жаннай Лістападавай. У пратаколе было ўказана, што ў адным з нумароў газеты за кастрычнік 2013 года былі дапушчаны некалькі парушэнняў закона аб рэкламе. Бараніцца ад прэтэнзій аддзела гандлю і паслуг Віцебскага аблвыканкама ў актывістаў не атрымалася: 15 студзеня прадстаўніка газеты выклікалі ў Віцебск, каб узяць тлумачэнні адносна парушэння п.4 артыкула 10 Закона «Аб рэкламе», аднак ліст з патрабаваннем прыехаць у рэдакцыі атрымалі са спазненнем на тыдзень.

17 красавіка Смаргонскі раённы суд асудзіў Уладзіміра Шульжыцкага за распаўсюд праваабарончага бюлетэня «Смаргонскі грак» на 20 базавых велічынь. Паводле праваабаронцы Алеся Дзергачова, які выдае «Смаргонскі грак», Шульжыцкага асудзілі на падставе таго, што ён не меў дамовы з юрыдычнай асобай на распаўсюд бюлетэня. У сваіх пярэчаннях на пастанову аб адміністрацыйным правапарушэнні Шульжыцкі хадайнічаў, каб суддзя растлумачыла, з якой юрыдычнай асобай ён мусіў заключыць дамову на распаўсюд, калі выдаўцом з'яўляецца фізічная асоба. Гэтаму хадайніцтву ў пастанове не было дадзена ніякай ацэнкі, паколькі, паводле Дзергачова, няма нормы закона, на якую б мог спаслацца суд. Суддзя прызнала, што СМІ накладам да 299 асобнікаў не падлягаюць рэгістрацыі, таму не трэба ствараць юрыдычную асобу-рэдакцыю для распаўсюду такіх СМІ. Тым не менш, пакарала за тое, што Шульжыцкі не меў дамовы з юрыдычнай асобай на распаўсюд бюлетэня. Дзергачоў звярнуў увагу яшчэ на адзін факт: наклад бюлетэня законны, тым не менш, адабраныя падчас распаўсюду асобнікі «Смаргонскага грака» падлягаюць знішчэнню паводле пастановы суда.

18 красавіка ў Кастрычніцкім РАУС Віцебска незалежнай журналістцы Алене Сцяпанавай паведамілі, што яе вінавацяць у супрацоўніцтве без акрэдытацыі з замежным СМІ. Позву выпісаў старшы інспектар Аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Сяргей Вяракса. Ён жа і паведаміў, што ініцыяваў адміністрацыйную справу за парушэнне заканадаўства аб СМІ. У журналісткі ўзялі тлумачэнні наконт матэрыяла «Віцебскія школьнікі адмаўляюцца вучыць гімн», які 28 студзеня з'явіўся на інтэрнэт-сайце Радыё Свабода. Сяргей Вяракса паведаміў журналістцы, што праінфармуе яе пра далейшае развіцце наяўнай адміністрацыйнай справы.

23 красавіка Вярхоўны суд Беларусі адмовіўся распачаць дысцыплінарную вытворчасць у дачыненні да суддзі Аляксандра Якунчыхіна, які забараніў журналістам карыстацца дыктафонамі падчас разгляду адміністрацыйнай справы. Паводле адказу намесніка старшыні Вярхоўнага суда Валерыя Калінковіча, падчас адміністрацыйнага працэсу супраць грамадскага актывіста Сяргея Фінкевіча, які праходзіў 3 сакавіка, ніякіх нараканняў на дзеянні суддзі Якунчыхіна не паступала. У сувязі з гэтым Вярхоўны суд не бачыць падставаў для ўзбуджэння дысцыплінарнай вытворчасці ў дачыненні да суддзі. Разам з тым, па сведчаннях журналістаў, якія прысутнічалі на працэсе, Аляксандр Якунчыхін зрабіў заўвагу журналістам пасля таго, як пабачыў у руках карэспандэнтаў дыктафоны. Суддзя заявіў, што аўдыёзапіс у працэсе можна весці толькі з яго дазволу, а ў выпадку непадпарадкавання журналістаў могуць прыцягнуць да адказнасці.

25 красавіка заснавальнік інтэрнэт-старонкі http://freeregion.info Вадзім Драздоў, які ўжо некалькі гадоў жыве ў Швейцарыі, паведаміў, што яго шукалі супрацоўнікі міліцыі. Пра гэта яму сказалі жыхары суседняй кватэры, якая знаходзіцца побач з той, дзе ён раней жыў. В. Драздоў папрасіў сваякоў звярнуцца да адваката, і ў выніку ўдалося высветліць, што ў дачыненні да яго праводзіцца праверка з пачатку красавіка. Паводле Вадзіма Драздова, які спасылаецца на словы адваката, супрацоўнікі міліцыі звярнулі ўвагу на тое, што на сайце freeregion.info, з'яўляюцца артыкулы крытычнага зместу.

## Абмежаванне свабоды сходаў

9 красавіка Мінюст і Брэсцкае абласное ўпраўленне ўнутраных спраў паведамілі, што звернуцца ў Бярозаўскі райвыканкам, каб на афіцыйным узроўні ўпарадкаваць пытанне заключэння дамоў з міліцыяй пры падрыхтоўцы да масавых мерапрыемстваў. Як вынікае з адказаў гэтых установаў праваабаронцам Сяргею Русецкаму і Тамары Шчапёткінай, якія звярталіся да іх з адпаведнымі зваротамі, рашэнне Савета Міністраў РБ № 207 ад 05.03.2012 г. больш важнае, чым рашэнне Бярозаўскага райвыканкама ад 09.02.2010 № 138. Згодна з Пастановай Саўміна, пасля падачы заявы на масавае мерапрыемства ў выканкам цягам сутак выканаўчы орган улады павінен даслаць копію заявы ў міліцыю для ўзгаднення пытанняў па абслугоўванні мерапрыемства. Разам з тым, у рашэнні Бярозаўскага райвыканкама (як і аналагічных рашэннях выканкамаў у многіх рэгіёнах Беларусі) патрабуецца прадставіць копію дамовы з міліцыяй пры падачы заявы на правядзенне масавага мерапрыемства. Як паведамілі з Мініс-

тэрства юстыцыі за подпісам першага намесніка міністра А.У. Білейчыка і з Брэсцкага абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў за подпісам намесніка начальніка ўпраўлення В.П.Угляніцы, рашэнне райвыканкама павінна быць выпраўлена згодна з Пастановай Саўміна. Раней бярозаўскія праваабаронцы Сяргей Русецкі і Тамара Шчапёткіна не раз у пісьмовай форме звярталіся ў Бярозаўскі райвыканкам з прапановай рашэнне ад 09.02.2010 № 138 прывесці ў адпаведнасць патрабаванням Пастановы Саўміна, але безвынікова. Падчас суда, у якім яны аспрэчвалі забарону пікета, праваабаронцы таксама сканцэнтравалі ўвагу на неадпаведнасць рашэння райвыканкама Пастанове Саўміна і ў прысутнасці суддзі і памочніка пракурора папрасілі ліквідаваць супярэчнасць. Тады юрыст райвыканкама Яўген Кашталян сказаў, што Саўмін да іх з гэтым пытаннем не звяртаўся. Цяпер да іх звернецца Мінюст і Брэсцкае абласное ўпраўленне ўнутраных спраў. Праваабаронцы спадзяюцца, што надалей пры падрыхтоўцы да масавых мерапрыемстваў больш не будзе праблем у пытанні заключэння дамоў з міліцыяй.

16 красавіка касацыйная скарга салігорскага грамадскага актывіста Уладзіміра Шылы на забарону мясцовымі ўладамі пікета да Дня правоў чалавека засталася незадаволенай. Калегія Мінскага абласнога суда пакінула ранейшае рашэнне суда Салігорскага раёна па дадзенай справе без зменаў. Ніводны з аргументаў, прыведзены актывістам у скарзе, не быў прызнаны судовай калегіяй слушным. У прыватнасці, просьбу актывіста ўскласці на органы мясцовай улады меры па забеспячэнні грамадскага парадку былі вытлумачаны як нежаданне арганізатара прымаць адпаведныя меры ўвогуле. Спасылкі Уладзіміра Шылы на ігнараванне судом Салігорскага раёна норм Канстытуцыі і Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах Мінскі абласны суд палічыў няверным і. На думку судовай калегіі, дзеючы Закон «Аб масавых мерапрыемствах» падлягае непасрэднаму выкананню і цалкам адпавядае Канстытуцыі і міжнароднаму праву.

22 красавіка стала вядома, што акцыі, прымеркаваныя да ўгодкаў Чарнобыльскай трагедыі, забаронены ў Віцебску і Наваполацку. Чацвёра віцебскіх прадстаўнікоў КХП БНФ накіроўвалі заяўку ў адміністрацыю Чыгуначнага раёна на правядзенне пікета ў Парку культуры і адпачынку чыгуначнікаў, адкуль атрымалі адмову за подпісам намесніцы кіраўніка адміністрацыі Наталлі Ляпёшкінай. Прычына адмовы ў тым, што заяўнікі, маўляў, на далучылі да заяўкі дамовы, прадугледжаныя рашэннем № 881 Віцебскага гарвыканкама. Там гаворыцца, што папярэдне арганізатары мусяць заключыць дамовы на абслугоўванне акцыі з міліцыяй, службай

ЖКГ і паліклінікай. Але гэтыя службы ад заключэння дамоў з актывістамі ўхіляюцца любым чынам. Таму актывісты прасілі, каб улады не зважалі на рашэнне Віцебскага гарвыканкама «Аб масавых мерапрыемствах у г. Віцебску», а кіраваліся непасрэдна законам Беларусі «Аб масавых мерапрыемствах» і Канстытуцыяй, бо згаданае рашэнне фактычна робіць немагчымым рэалізацыю жыхарамі горада сваіх правоў на выказванне меркаванняў і мірных сходаў. Дамовы, якія патрабуюць улады Віцебску, не ўдалося заключыць яшчэ нікому з апазіцыянераў за амаль 5 гадоў дзеяння рашэння гарвыканкама. У Наваполацку заяўку на пікет да ўгодкаў Чарнобыльскай трагедыі падаваў Яўген Парчынскі. Ён атрымаў адказ ад намесніка старшыні гарвыканкама Альберта Шакеля. Той напісаў, што пікет забараняе, бо заяўка на яго правядзенне пададзеная з парушэннем дзеючага заканадаўства.

23 красавіка сябры Гродзенскай Рады Партыі БНФ Вадзім Саранчукоў і Мікола Лемяноўскі паведамілі, што атрымалі з гарвыканкама афіцыйныя адмовы ў правядзенні інфармацыйных пікетаў. Дзве заяўкі падаваліся на 26-га красавіка — на дзень чарговых угодкаў чарнобыльскай катастрофы. Чыноўнікі з гарвыканкама сцвярджалі, што ў заяўках на правядзенне пікета не выкананы ўсе патрабаванні заканадаўства — нібыта не ўказаны ўсе патрэбныя звесткі. Пад адмовай стаіць подпіс намесніцы старшыні гарвыканкама Зоі Кулешы. Ужо больш дванаццаці гадоў у горадзе над Нёманам забараняюцца ўсе пікеты, дзе заяўнікамі выступаюць грамадскія і палітычныя актывісты.

26 красавіка, у дзень гадавіны аварыі на Чарнобыльскай АЭС, у Мінску адбылося санкцыянаванае масавае мерапрыемства (дэманстрацыя і мітынг). Падчас дадзенай акцыі ажыццяўлялася грамадскае назіранне па ініцыятыве РПГА «Беларускі Хельсінкскі Камітэт» і Праваабарончага цэнтра «Вясна» ў складзе 10 назіральнікаў. Масавае мерапрыемства насіла мірны характар. Пры гэтым мелі месца факты абмежавання права на мірныя сходы ў выглядзе адмовы аднаму з арганізатараў у правядзенні масавага мерапрыемства (І. Дабратвору), а таксама адвольнай змены часу і маршруту масавага мерапрыемства, празмерна неабгрунтаваных мер бяспекі падчас збору на месца правядзення мітынгу. Асаблівую занепакоенасць выклікалі факты адвольных затрыманняў як прэвентыўна (8 чалавек: Максім Вінярскі, Ілля Дабратвор, Аляксандр Сцепаненка, Уладзь Сяргееў, Дзмітрый Дашкевіч, Аляксандр Францкевіч, Анатоль Мірашнічэнка і Уладзіслаў Запасаў), так і пасля мерапрыемства (Дзяніс Карноў, Мікалай Колас, Леанід Смоўж, Уладзімір Новікаў, Аляксандр Курбаскін, Валерый Тамілін, Аляксандр Стукін, Юрый Рубцоў), што з'яўляец-

ца грубым парушэннем правоў дадзеных асоб. Затрыманні ўдзельнікаў масавага мерапрыемства насілі незаконны характар і былі скіраваныя на запалохванне ўдзельнікаў акцыі, а таксама як працяг практыкі палітычных рэпрэсій у дачыненні да палітычнай апазіцыі і грамадскіх актывістаў. Адзначалася немагчымасць ідэнтыфікаваць на масавым мерапрыемстве супрацоўнікаў праваахоўных органаў як такіх праз адсутнасць у значнай часткі форменнай вопраткі, а таксама адсутнасць ідэнтыфікацыйных бэйджаў на пераважнай большасці супрацоўнікаў у форме.

## Абмежаванне свабоды асацыяцый

7 красавіка Міністэрства юстыцыі Беларусі вынесла афіцыйнае папярэджанне адной з найбуйнейшых беларускіх апазіцыйных структур — Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП). Папярэджанне звязана з дзейнасцю АГП падчас мясцовай выбарчай кампаніі. АГП падчас выбарчай кампаніі ў мясцовыя саветы падчас дазволеных пікетаў заяўляла «аб вызваленні палітвязняў, падымала ўкраінскую тэму».

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Травень 2014 года

У траўні стабільна цяжкая сітуцыя з правамі чалавека абвастрылася ў сувязі з масавымі адвольнымі затрыманнямі і арыштамі актывістаў розных грамадска-палітычных груп і рухаў, якія былі праведзены напярэдадні і падчас чэмпіянату свету па хакеі (адбыўся ў Мінску з 9 па 25 траўня). Праваабаронцы зафіксавалі 39 такіх фактаў. Дадзеная практыка сведчыць пра арганізаваную ўладамі кампанію па адвольным затрыманні асоб, якія раней вызначыліся пэўнымі актыўнымі дзеяннямі. Адной з асаблівасцяў кампаніі па ізаляцыі стала складанне адмінстрацыйных пратаколаў адразу па некалькіх складах правапарушэнняў, што давала магчымасць прыцягнуць да адказнасці на больш працяглы тэрмін — да 25 сутак арышту. Зафіксаваны факты паўторнага прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці актывістаў адразу пасля вызвалення. Суды па дадзеных справах насілі выключна абвінаваўчы характар, рашэнні выносіліся з мэтай максімальнай ізаляцыі, што дазваляе казаць пра поўную залежнасць судовай сістэмы ад выканаўчай улады, выкананне імі палітычнай замовы на стэрылізацыю грамадска-палітычнага фону падчас спартыўнага мерапрыемства і ўключэнне судоў у агульны механізм рэпрэсій.

Рэакцыяй за масавыя арышты сталі публічныя заклікі як беларускіх праваабаронцаў, так і міжнароднай праваабарончай супольнасці аб спыненні гвалту ў адносінах да актывістаў, інфармацыя пра факты ізаляцыі была перададзена ў Рабочую групу па адвольных затрыманнях ААН. 16 траўня адвольныя затрыманні актывістаў у Беларусі ў адмысловай заяве асудзіла Еўрапейская служба знешнепалітычнай дзейнасці Еўрапейскага Саюза. «Мы занепакоеныя пераследам, адвольнымі арыштамі і зняволеннем некалькіх дзясяткаў прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці і апазіцыйных арганізацый напярэдадні чэмпіянату свету па хакеі ў Беларусі. Мы асуджаем ужыванне беларускімі ўладамі адміністратыўных арыштаў у якасці інструмента, накіраванага на стварэнне ціску, страху і няўпэўненасці сярод маладога пакалення Беларусі. Мы заклікаем улады Беларусі неадкладна спыніць гэтыя дзеянні і вызваліць усіх асоб, несправядліва затрыманых, зняўшы ўсе абвінавачванні супраць іх. Мы таксама паўтараем наш заклік пра неадкладнае і безумоўнае вызваленне і рэабілітацыю ўсіх палітычных зняволеных. Гатоўнасць ЕС да далейшага развіцця адносінаў з Беларуссю па-ранейшаму залежыць ад канкрэтных крокаў Беларусі ў кірунку дэмакратыі, правоў чалавека і вяршэнства закона».

Улады займалі пазіцыю адмаўлення палітычна-матываванага і адвольнага пераследу актывістаў. 14 траўня міністр унутраных спраў Беларусі Ігар Шуневіч, адказваючы на пытанні журналістаў у Палаце прадстаўнікоў, заявіў, што ўсе затрыманыя перад адкрыццём чэмпіянату свету па хакеі ў Мінску здзейснілі адміністрацыйныя правапарушэнні. «Няма і быць не можа такой дэфініцыі як «прэвентыўнае затрыманне». Затрыманні былі тых асоб, якія здзейснілі адміністрацыйныя правапарушэнні — хуліганства, непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі і гэтак далей. Такія затрымання былі, ёсць і будуць працягвацца».

Ізаляцыі былі падвергнуты не толькі іншадумцы, але і «асацыяльныя элементы» — асобы без пэўнага месца жыхарства, прастытуткі, хворыя на алкагалізм і наркаманію, прычым апошняя катэгорыя людзей не толькі арыштоўвалася на кароткі тэрмін, але і накіроўвалася ў лячэбна-працоўныя прафілакторыі на тэрмін да года.

Сітуацыя з адвольнымі затрыманнямі прадэманстравала безадказную дзейнасць зладжанага рэпрэсіўнага механізма, у які ўключаны розныя дзяржаўныя органы, і ягоную гатоўнасць да выканання рознага кшталту кан'юнктурных палітычных задач.

У траўні не адбылося прынцыповых зменаў у вырашэнні праблемы палітычных зняволеных. Вызваленне 8 траўня Андрэя Гайдукова не можа расцэньваецца як прыкмета пазітыўнай дынамікі, паколькі выхад на волю палітвязня адбыўся не ў сувязі з прадпрынятымі ўладамі крокамі і палітычнай воляй, а ў сувязі са сканчэннем тэрміну адбыцця пакарання. У месцах пазбаўлення волі працягвалі ўтрымлівацца 8 палітычных зняволеных: Алесь Бяляцкі, Мікалай Статкевіч, Эдуард Лобаў, Мікалай Дзядок, Яўген Васьковіч, Арцём Пракапенка, Ігар Аліневіч і Васіль Парфянкоў. Не засталося ілюзіяў на магчымасць змены іх лёсу праз такі прававы механізм, як амністыя: ніхто з іх не падпадае пад дзеянне адпаведнага законапраекта, ухваленага ў першым чытанні дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў 14 траўня (амністыя абвешчана ў сувязі з 70-годдзем вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў). Законапраект прадугледжвае, што амністыя не распаўсюджваецца на зняволеных, якія маюць спагнанні за парушэнні ўмоў адбыцця пакарання, а на ўсіх палітвязняў падобныя спагнанні накладаліся. Міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч, каментуючы прыняты законапраект, заняў пазіцыю адмаўлення наяўнасці асуджаных па палітычных матывах і адзначыў: «Такога тэрміна, як «палітвязень», у дадзеным законе няма і быць не можа. Падпадуць пад амністыю тыя, хто здзейсніў злачынства, якое не ўяўляе вялікай грамадскай небяспекі».

У траўні не адбылося змякчэння пазіцыі дзяржавы адносна ўжывання смяротнага пакарання. 12 траўня Магілёўскі абласны суд паведаміў, што

ў адносінах да Рыгора Юзэпчука смяротны прысуд, вынесены 23 красавіка 2013 года, прыведзены ў выкананне. Пытанні адносна абставінаў забойства Р. Юзэпчуком сукамерніка ў турме, дзе прадугледжаны асабліва ўзмоцнены нагляд за асуджанымі, засталіся без адказаў.

## Палітычныя зняволеныя, крымінальны пераслед грамадскіх актывістаў

2 траўня прадстаўнікі аргкамітэта партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» паведамілі, што палітвязня Яўгена Васьковіча, якога апошнім часам адміністрацыя Магілёўскай турмы № 4 цкавала праз іншых асуджаных, пасля агалоскі гэтых фактаў перавялі ў адзіночную камеру. Палітвязень Мікалай Статкевіч, які адбывае пакаранне ў гэтай жа турме, паведаміў у лісце сваёй жонцы Марыне Адамовіч, што змяшчэнне ў адзіночную камеру Яўгена Васьковіча звязана з няўдалай спробай адміністрацыі атрымаць ад яго прашэнне аб памілаванні.

8 траўня палітвязня Андрэя Гайдукова вызвалілі з Віцебскай папраўчай калоніі «Віцьба-3» у сувязі са сканчэннем тэрміну адбыцця пакарання. Яму загадалі пачаць збіраць рэчы ў 6 раніцы, хаця звычайна з калоніі выпускаюць аб 11-й, у 7 яго пасадзілі ў міліцэйскі аўтамабіль, адвезлі на вакзал у Віцебску, далі 20 тысяч рублёў, каб ён змог даехаць да сваякоў у Наваполацк. У дзень вызвалення А. Гайдукова паставілі на прафілактычны ўлік у КДБ і міліцыі. 14 траўня быламу палітвязню ў аддзеле па грамадзянстве і міграцыі Упраўлення ўнутраных спраў Наваполацка паведамілі, што яму забаронены выезд з Беларусі. Прычыны забароны пакідаць краіну Андрэю Гайдукову не патлумачылі, адзінае, што паведамілі — тое, што выезд з краіны яму забараніў КДБ.

11 траўня стала вядома, што палітвязня Эдуарда Лобава ў калоніі ў Івацэвічах наведаў святар. Айцец Дзмітрый не ўпершыню сустракаецца з маладафронтаўцам ў турме. Як і былыя сустрэчы, гэта адбывалася ў прысутнасці ахоўніка калоніі. Маці палітвязня Марына Лобава нагадала, што яе сын мае статус злоснага парушальніка рэжыму, які яму рэгулярна працягваюць з-за новых пакаранняў за нібыта здзейсненыя ім парушэнні.

13 траўня палітвязень Алесь Бяляцкі быў уганараваны літаратурнай прэміяй імя Алеся Адамовіча за кнігу «Асьвечаныя Беларушчынай». Гэтая прэмія была заснавана ў 1995 годзе Беларускім ПЭН-цэнтрам і ўручаецца за найлепшую публіцыстычную кнігу. За А. Бяляцкага прэмію атрымала ягоная жонка Наталля Пінчук. Яна паведаміла, што зняволены

праваабаронца ўжо ведае пра ўзнагароду. Наталля Адамовіч, дачка Алеся Адамовіча, у гонар якога была заснавана прэмія, заявіла, што Бяляцкі стаў 34-м лаўрэатам гэтай узнагароды. «Раней кнігі спальвалі, а цяпер — новая форма: забарона на ўвоз», — адзначыла яна, маючы на ўвазе рашэнне суда, згодна з якім кніга ўтрымлівае матэрыялы, якія могуць нанесці шкоду эканамічным і палітычным інтарэсам краіны, у сувязі з чым была прынята пастанова рээкспартаваць кнігі ў Літву. 14 траўня выйшла кніга Алеся Бяляцкага «Іртутнае срэбра жыцьця» пра падзеі 2010-2011 гадоў. Кніга напісана Алесем Бяляцкім падчас ягонага зняволення: з верасня 2012 па чэрвень 2013 года. Выданне ўключае ў сябе лісты з успамінамі, рэфлексіямі і развагамі, тут апісаны і звычайныя працоўныя будні, падзеі, якія папярэднічалі арышту праваабаронцы, міжнародныя паездкі.

13 траўня грамадская актывістка Вольга Нікалайчык са спасылкай на апошнія лісты палітвязня Васіля Парфянкова паведаміла, што ён быў змешчаны ў штрафны ізалятар у канцы красавіка-пачатку траўня. Пра тэрмін змяшчэння ў ШІЗА палітвязень не напісаў, як і пра прычыны вынясення дадзенага спагнання. Васіль Парфянкоў знаходзіцца ў калоніі № 9 у Горках з лютага, у ШІЗА правёў ужо больш за 40 сутак.

### Смяротнае пакаранне

12 траўня Магілёўскі абласны суд паведаміў, што ў адносінах да Рыгора Юзэпчука выкананы смяротны прысуд, вынесены 23 красавіка 2013 года. 45-гадовы мужчына быў асуджаны за забойства сукамерніка, які нібыта прайграў сваё жыццё ў даміно. У гэтай справе некалькі важных пытанняў засталіся без адказаў. Забойства было здзейснена ў турме, што прадугледжвае асабліва ўзмоцнены нагляд за асуджанымі. Азартныя гульні строга забароненыя. Паведамлялася, што ў дзень забойства ахоўнік двойчы падыходзіў да дзвярэй камеры і бачыў, што вочка на дзвярах, праз якое наглядчыкі сочаць за парадкам, залеплена газетай. Дэпартамент выканання пакаранняў так і не паведаміў, ці былі прыцягнуты да адказнасці нехта з адміністрацыі турмы за тое, што там адбылося забойства.

14 траўня стала вядома дата расстрэлу 23-гадовага студэнта гістфака БДУ Паўла Селюна, абвінавачанага ў забойстве двух асоб з асаблівай жорсткасцю. Маці асуджанага атрымала пасведчанне аб смерці. 18 красавіка адвакат Паўла Селюна з'явілася на спатканне з падабаронным у СІЗА на Валадарскага. Там ёй паведамілі, што Селюн «убыл по приговору», што на звычайнай мове значыць расстрэл. Аднак афіцыйных

дакументаў, які б гэта пацверджвалі, ні абаронцу, ні сваякам Паўла не дасылалі. 8 траўня маці асуджанага Тамара Сялюн звярнулася па тлумачэнні ў СІЗА, адтуль яе накіравалі ў Вярхоўны суд. На асабістым прыёме намеснік старшыні ВС Валеры Калінковіч пацвердзіў: прысуд прыведзены ў выкананне. У атрыманым маці Паўла Селюна пасведчанні аб смерці сына ў Вілейскім ЗАГСе дата смерці ўказана — 17 красавіка. Прычына — «невядомая». Раней у пасведчаннях расстраляных у графе «прычына смерці» ставілі проста прочырк.

## Ужыванне катаванняў і іншых відаў жорсткага і бесчалавечнага абыходжання

6 траўня актывіст Максім Вінярскі, які некалькі дзён да гэтага вызваліўся з-пад адміністрацыйнага арышту, распавёў, што 12 дзён знаходзіўся ў адной камеры з цёмнаскурым мужчынам па імені Патрык, верагодна жыхаром адной з афрыканскіх краін, які працяглы час знаходзіцца ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў. Пры гэтым ён не валодае ні рускай, ні англійскай мовамі, што пазбаўляе яго цалкам камунікатыўных сувязяў з адміністрацыяй ізалятара. Патрык адмаўляецца ад вячэры, а на абед бярэ толькі першую страву. Па словах М. Вінярскага, 2 траўня Патрык адмовіўся заходзіць у камеру пасля ранішняй паверкі. Яго паспрабавалі завесці з ужываннем фізічнай сілы, ён пратэставаў і паўтараў слова «амбасада». Пасля незразумелай слоўнай перапалкі супрацоўнікі міліцыі паваліліі яго ў калідоры на падлогу, а Вінярскага запіхнулі ў камеру, каб не замінаў, і зачынілі дзверы, Далейшыя падзеі М. Вінярскі назіраў праз шчыліну ў вакенцы «кармушкі». Патрыку закруцілі рукі за спіну і начапілі кайданкі. Затым ногі ззаду падсунулі пад рукі, атрымалася «ластаўка». Патрык, прыціснуты да падлогі, крычаў «Расісто!». Праз некаторы час ад яго адышлі, і Патрык стаў паволі вызваляць ногі. Тады яго зноў скруцілі і да канца сняданка ён ляжаў на калідоры. Затым яго досыць энергічна ўкінулі ў камеру. Ніводная змена ахоўнікаў у Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў з затрыманым нармальна гаварыць не можа, ды і не немервае цца: ляжыць у камеры, ну і няхай ляжыць далей. З-за гэтага ён не можа патрапіць у душ, на прагулку, паколькі не ведае, што ад яго патрабуюць. Па словах намесніка старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянціна Стэфановіча, праблема неналежнага абыходжання з мігрантамі набывае асаблівую актуальнасць у святле маючых адбыцца перамоў МЗС Беларусі і Еўракамісіі па пагадненні аб спрашчэнні візавага рэжыму і рэадмісіі паміж ЕС і нашай краінай. У сувязі з гэтым важным з'яўляецца пытанне стварэння адмысловых цэнтраў для ўтрымання такой катэгоры замежных грамадзян, якія б адпавядалі міжнародным стандартам і не

прыводзілі да жорсткага і бесчалавечнага абыходжання з гэтымі людзьмі, якія ў большасці выпадкаў не здзяйснялі ніякіх злачынстваў у Беларусі. Важным з'яўляецца і пытанні падрыхтоўкі персаналу, які б валодаў замежнымі мовамі і мог растлумачыць падлягаючым дэпартацыі замежным грамадзянам адпаведныя прававыя працэдуры, іх правы і абавязкі. Магчыма, што некаторым з іх небяспечна вяртацца на радзіму, і ім неабходна растлумачыць права на атрыманне прытулку ў Беларусі.

6 траўня Валянціна Акуліч паведаміла, што 18 красавіка суд Светлагорскага раёна пад старшынствам І. Прадун адхіліў яе скаргу, датычную смерці сына ў ІЧУ. Скарга была пададзена на чарговую пастанову следчага аддзела Следчага камітэта аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы ў дачыненні да супрацоўнікаў міліцыі. У ёй было ўказана, што высновы следчага аб правамернасці ўжывання фізічнай сілы і спецыяльных сродкаў супрацоўнікамі ІЧУ з'яўляюцца памылковымі, бо Аляксандр Акуліч меў патрэбу ў медыцынскай дапамозе, аднак супрацоўнікі міліцыі замест своечасовага аказання дапамогі і неадкладнага выкліку медыкаў «супакойвалі» з дапамогай дубінак чалавека з часовымі парушэннямі ў псіхіцы. Такія дзеянні з'яўляюцца актам забароненага жорсткага, бесчалавечнага абыходжання. Пры гэтым суддзю цікавіла выключна інфармацыя аб ступені маральнага падзення нябожчыка: як даўно той злоўжывае спіртным, якое ягонае асабістае жыццё і ўзаемаадносіны з роднымі, хаця гэта не мела значэння для расследавання правамернасці дзеянняў супрацоўнікаў міліцыі. Так, Акуліч быў неаднаразова судзімы, злоўжываў спіртным, і асабістае жыццё не ладзілася, але загінуў ён не ў п'янай бойцы і не ў алкагольным чадзе, а ў сценах ізалятара, там, дзе адказнасць за яго жыццё, здароўе і бяспеку прыняла на сябе дзяржава ў асобе супрацоўнікаў міліцыі. У ходзе абвяшчэння матэрыялаў праверкі прагучала некалькі цікавых момантаў, якія раней былі невядомыя, бо азнаёміцца з матэрыялам праверкі ў маці Аляксандра Акуліча да падачы скаргі ў суд не атрымлівалася. Як высветлілася, агрэсіўныя паводзіны Акуліча, на якія ў апраўданне прымянення гвалту спасылаліся міліцыянты, што дзяжурылі ў ІЧУ, выяўлялася ў асноўным у тым, што ён хаваўся за сваімі сукамернікамі і клікаў на дапамогу ... міліцыю. Фельчар хуткай дапамогі, якая прыбыла па выкліку, убачыла мёртвага Акуліча, які ляжаў на жываце з рукой, закручанай за спіну; гэта ніяк не адпавядала тлумачэнням міліцыянтаў, якія сцвярджалі, што рабілі штучнае дыханне і масаж сэрца. Следчы так і не дамогся ўцямнага адказу ад міліцыянтаў, у сувязі з чым так дзіўна аказвалася медыцынская дапамога. Васемнаццаць траўматычных кантактаў — вось вынік правамерных, на думку следства, дзеянняў ахоўнікаў ІЧУ. Дзеянні міліцыянтаў былі прызнаныя адпаведнымі Закону «Аб

органах унутраных спраў Рэспублікі Беларусь». Пастанова суда канчатковая і можа быць абскарджана толькі ў парадку нагляду. Гэта значыць, паўнавартаснага перагляду справы ўжо не будзе, гэта не прадугледжана крымінальна — працэсуальным законам.

17 траўня паход на канцэрт гуртоў Korn і Soulfly у мінскі Палац спорту для Паўла Панамарэнкі скончыўся на бальнічным ложку. Лекары дыягнаставалі ў яго страсенне мозгу. Павел сцвярджае, што яго ўдарыў спецназавец. Бацькі напісалі заяву, патрабуючы пакараць вінаватага. У Паўла быў квіток на танцпол, ён знаходзіўся каля самай сцэны, каля агароджы. У канцэртнай мітусні хлопца некалькі разоў штурханулі ў спіну, ён пры гэтым ссунуў агароджу. Амапавец, які побач стаяў, двойчы зрабіў яму заўвагу, а потым падышоў, схапіў за майку і ўдарыў галавой у твар. Хлопец стаў патрабаваць у міліцыянта назваць імя і прозвішча, сказаўшы, шо пасля канцэрта паведаміць пра ягоныя дзеянні начальніку аховы. Па словах Паўла, да іх падышоў іншы амапавец (старшы па званні), выслухаў яго. Пасля гэтага спецназаўцы параіліся, і старшы па званні прапанаваў яму выйсці на вуліцу для размовы. Там быў міліцэйскі начальнік, якому Павел распавёў пра здарэнне. Пасля гэтага хлопцу было прапанавана прайсці медыцынскі агляд. Ён сказаў, што без бацькоў нікуды не паедзе, у выніку яго проста схапілі і пацягнулі ў машыну. Адзін з амапаўцаў сказаў, што калі ён не перастане супраціўляцца, то яго патопяць у рацэ. Паўла спачатку завезлі ў РУУС Цэнтральнага раёна за накіраваннем, затым на агляд, а пасля гэтага вярнулі зноў у РУУС. Прыкладна ў дзве гадзіны ночы Паўлу стала дрэнна, яго ванітавала. Толькі тады яму выклікалі медыкаў. 23 траўня Паўла выпісалі з лякарні, пасля чаго ён знаходзіся пад наглядам у тэрапеўта.

30 траўня сястра 21-гадовага Ігара Пцічкіна, які памёр у СІЗА на Валадарскага 4 жніўня 2013 года пры нявысветленых абставінах, паведаміла, што, нягледзячы на тое, што эксгумацыя цела была праведзена яшчэ 4 снежня, родныя да гэтага часу не маюць вынікаў паўторнага ўскрыцця. Следчы спасылаўся на недахоп часу. Прадстаўнік Следчага камітэта Юлія Ганчарова паведаміла, што па выніках паўторнай экспертызы праводзіцца праверка правільнасці аказання медыцынскай дапамогі супрацоўнікамі СІЗА, і вынікі будуць пазней. Родныя Пцічкіна таксама адзначылі, што пасля смерці Ігар стаў фігурантам яшчэ аднаго расследавання — па спайсах. У Следчы камітэт пачалі выклікаць сяброў Ігара, цікавіцца ў іх, на якіх машынах ён ездзіў і куды. Яны сказалі, што на Андрэя Н. завялі крымінальную справу, і ён нібыта сведчыў, што Ігар прадаваў спайсы. Але родныя адшукалі Андрэя, і ён сказаў, што праходзіць толькі як сведка. Родныя Ігара Пцічкіна апасаюцца, што паколькі ён

мёртвы — на яго могуць сказаць што заўгодна. Маці І. Пцічкіна выклікалі даваць паказанні, у выніку чаго ўзнікла падазрэнне, што на Ігара завялі крымінальную справу. Прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Мінску Аляксандр Герасімаў абверг гэтую інфармацыю. На дадзеным этапе ў смерці хлопца вінавацілі фельчара мінскага СІЗА № 1, які дзяжурыў у ноч смерці. Распачата крымінальная справа за неналежнае выкананне прафесійных абавязкаў медработнікам, што пацягнула за сабой па неасцярожнасці смерць пацыента.

## Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні

3 траўня ў Барысаве быў затрыманы фанат БАТЭ Аляксандр Марозаў, асуджаны на 10 сутак адміністрацыйнага арышту.

4 траўня позна ўвечары на падыходзе да дома ў Гомелі быў затрыманы сустаршыня «Маладога Фронту» Андрэй Цянюта. Супрацоўнікі міліцыі склалі на яго два адміністрацыйныя пратаколы: за дробнае хуліганства і непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі. 6 траўня ў судзе Чыгуначнага раёна Гомеля сведкамі выступілі тры міліцыянты, якія заявілі, што падчас патрулявання заўважылі на вуліцы маладога чалавека, які гучна лаяўся, таму і затрымалі яго. Міліцыянты давалі сведчанні стандартнымі фразамі, пры гэтым іншых сведкаў, простых мінакоў, не апытвалі. А.Цянюта на судзе адзначыў, што ў той вечар вяртаўся дадому ад сяброўкі, паводзіў сябе спакойна і ніякім чынам не лаяўся, бо матаў у беларускай мове проста няма. Актывіст звязвае сваё затрыманне з хуткім пачаткам чэмпіянату свету па хакеі. Суддзя Анатоль Сотнікаў прызнаў Цянюту вінаватым і пакараў 10 суткамі арышту: трое сутак за «хуліганства» і сем сутак — за «непадпарадкаванне».

5 траўня ў Лідзе завяршыўся суд над грамадскімі актывістамі, на якіх за ўшанаванне памяці беларускіх дзеячоў у Дзень Волі былі складзены пратаколы па абвінавачанні ў правядзенні несанкцыянаванай акцыі. На могілках у той дзень былі людзі ў цывільным, якія перапісалі прозвішчы ўдзельнікаў акцыі памяці. Ужо 2 красавіка грамадскіх актывістаў пачалі выклікаць у міліцыю. Суд пачаўся яшчэ ў красавіку, але быў перанесены з-за таго, што на працэс не з'явіліся ўсе выкліканыя сведкі. Суд Лідскага раёна аштрафаваў на 5 базавых велічынь Сяргея Трафімчыка, Вітольда Ашурака, Мурата Мусава, Сяргея Сідарэнку і Юрыя Дзяшука, грамадскія актывісты Міхаіл Бурачэўскі і Станіслаў Суднік былі папярэджаныя.

6 траўня адбыліся суды над актывістамі «Маладога Фронту». Суд Ленінскага раёна Мінска разгледзеў справы Міхаіла Мускага і Дзмітрыя Крэмянецкага, якіх затрымалі каля новабудоўлі людзі ў цывільным, павалілі на падлогу, на галавы апранулі мяхі і ўкінулі ў аўтамабіль. У такім стане актывістаў трымалі больш за гадзіну. Суддзя Міхаіл Хома вынес пакаранне Міхаілу Мускаму ў выглядзе арышту на 20 сутак, прызнаўшы яго вінаватым у дробным хуліганстве і непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі. Гэты ж суддзя прызнаў Дзмітрыя Крэмянецкага вінаватым у дробным хуліганстве (арт. 17.1 КаАП) і пакараў штрафам памерам 15 базавых велічынь. Сведкам выступіў камандзір узвода АМАП Ткачэнка. У судзе Фрунзенскага раёна Мікалая Дземідзенку асудзілі па 2 артыкулах КаАП да арышту на 20 сутак. Справу разглядала суддзя Людміла Лапо. Сведкі — супрацоўнікі міліцыі Крук і Зянько — засведчылі, што Дземідзенка спраўляў натуральную патрэбу ў грамадскім месцы і на заўвагі міліцыі не рэагаваў.

6 траўня раніцай у Мінску былі затрыманы чацвёра актыўных фанатаў сталічнага клуба «Партызан». Пасля складання пратаколаў па арт. 17.1 КаАП (дробнае хуліганства) іх адвезлі ў суд Партызанскага раёна. Суддзя Юрый Гарбатоўскі пакараў арыштамі на 10 сутак усіх чатырох: Іллю Валавіка, Сяргея Пазняка, Кірылу Ермаловіча і Кірылу Клыкава.

6 траўня ў Мінску быў затрыманы прадстаўнік арганізацыйнага камітэта па стварэнні нацыянал-бальшавіцкай партыі Аляксандр Палякоў. Суддзя суда Заводскага раёна Алена Някрасава накіравала пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні па арт. 17.1 (дробнае хуліганства) на дапрацоўку ў РУУС. Раніцай 7 траўня Палякова ізноў прывезлі ў суд і пакаралі арыштам на 10 сутак па абвінавачанні ў брыдкаслоўі. 6 траўня доўгі час каля кватэр актывістаў НБП Дзмітрыя Паліенкі, Дзяніса Сахара і Яўгена Контуша дзяжурылі міліцыянеры і невядомыя людзі ў цывільным. Перыядычна яны званілі ў дамафоны і званкі, патрабуючы ў актывістаў прайсці з імі ў аддзяленне міліцыі. Актывісты звязваюць дзеянні праваахоўнікаў з акцыяй нацболаў супраць палітычна матываваных пераследаў, падчас якой каля галоўнага ўваходу ў парк Чалюскінцаў была вывешана расцяжка «Усіх не пасадзіш!». 26 траўня ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска была разгледжана яшчэ адна адміністрацыйная справа Аляксандра Палякова. Актывіст быў затрыманы АМАП увечары 24 траўня каля сцэны ў Зоне гасціннасці каля Палаца спорту за тое, што размахваў нацыянальным бел-чырвона-белым сцягам. Суддзя Вікторыя Шабуня прызнала А.Палякова вінаватым у парушэннні артыкула 17.1 КаАП (дробнае хуліганства) і пакарала штрафам у дзве базавыя велічыні. Да суда Палякоў больш за суткі правёў пад вартай.

7 траўня ў судзе Савецкага раёна Мінска адбыўся судовы працэс над Андрэем Ткачовым, які раней быў вядомы як мадэратар суполак «Толькі ШОС!» і «Надакучыў нам гэты Лукашэнка» ў сацыяльнай сетцы «Укантакце». Супрацоўнікі міліцыі склалі на яго пратаколы адміністрацыйных правапарушэнняў па «класічных» артыкулах: 17.1 (дробнае хуліганства) і 23.4 (непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі). Суддзя Якубоўскі пакараў актывіста арыштам на 15 сутак.

7 траўня да мадэратара суполак «Надакучыў нам гэты Лукашэнка» і «Толькі ШОС!» Сяргея Бяспалава ўвечары ў кватэру спрабавалі патрапіць супрацоўнікі міліцыі. Як паведаміў ягоны сябар Раман Пратасевіч, міліцыянеры каля 22.00 выламалі дзверы. Сяргей выскачыў з акна спальні і змог уцячы. Бацькоў і дзяўчыну Сяргея адвезлі ў РУУС Фрунзенскага раёна Мінска, адкуль пасля допыту адпусцілі. Сяргей паведаміў, што знаходзіцца ў бяспечным месцы. Міліцыя Партызанскага і Савецкага РАУСаў сталіцы працягвала пошукі кіраўніка «Маладых хрысціянскіх дэмакратаў» Марыны Хоміч. Супрацоўнікі міліцыі наведвалі знаёмых Марыны і нават зазіралі ў шафы, калі тыя казалі, што Марыны ў іх няма. Падставай для ўваходу супрацоўнікі міліцыі называлі званкі са скаргамі на гучную музыку, якія нібыта паступілі ад суседзяў. Пасля візіту да яе сваякоў 5 траўня М. Хоміч патэлефанаваў аперупаўнаважаны, які запрасіў прыйсці на апытанне. 8 траўня сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» Павел Севярынец быў выкліканы ў крымінальна-выканаўчую інспекцыю Фрунзенскага раёна Мінска, дзе яму вынеслі афіцыйнае папярэджанне аб недапушчальнасці супрацьпраўных дзеянняў. Міліцыя расшуквала таксама актывіста «Zмены» Ягора Віняцкага, аднак дома яго не знайшла. Сустаршыню аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» Віталя Рымашэўскага выклікалі ў РУУС Савецкага раёна Мінска. Былога палітвязня Сяргея Марцэлева выклікалі ў аддзяленне міліцыі.

8 траўня ў судзе Маскоўскага раёна Мінска была разгледжана адміністрацыйная справа актывіста «Еўрапейскай Беларусі» Сяргей Мацкойця. Супрацоўнікі міліцыі забралі яго з дому і адвезлі ў РУУС. Па абвінавачанні ў парушэнні артыкулаў 17.1 КаАП (дробнае хуліганства) и 23.4 (непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі) С. Мацкойць быў асуджаны на 20 сутак арышту. У судзе Фрунзенскага раёна сталіцы адбыліся працэсы над сацыяльнымі актывістамі Настассяй Кухто і Аляксандрам Арловым (арт. арт. 17.1 і 23.4 КаАП). Настассю Кухто суддзя Юля Закрэўская асудзіла на 17 сутак арышту, Аляксандра Арлова суддзя Лапо — на 20 сутак арышту. У судзе Першамайскага раёна была разгледжана адмініст-

рацыйная справа актывіста кампаніі «Еўрапейская Беларусь» Леаніда Кулакова, які быў затрыманы напярэдадні ў другой палове дня і дастаўлены ў РУУС Першамайскага райна. Суддзя — Юрый Гарбатоўскі, рашэнне — 10 сутак арышту. Суд Заводскага раёна асудзіў актывіста «Маладога Фронту» Уладзіслава Запасава на 15 сутак арышту. Суддзя Някрасаў суда Заводскага раёна асудзіў актывіста нацыянал-бальшавіцкага руху Дзмітрыя Паліенку на 10 сутак арышту, арыштаваны абвясціў галадоўку. У судзе Ленінскага раёна былы палітвязен Сяргей Казакоў асуджаны на 20 сутак арышту. У Слоніме сябра «Маладога Фронту» Дзмітрый Юшкевіч асуджаны на 20 сутак арышту.

8 траўня ў Барысаве быў затрыманы фанат БАТЭ Сяргей Кузьміч, асуджаны на 15 сутак арышту. У гэты ж дзень у Мінску быў затрыманы Даніла Ганчароў, які па абвінавачанні ў здзяйсненні дробнага хуліганства (арт. 17.1 КаАП) і непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі (арт. 23.4 КаАП) быў асуджаны на 25 сутак адміністрацыйнага арышту.

8 траўня ў Гродна ў судзе Кастрычніцкага раёна адбыўся разгляд адміністрацыйных пратаколаў у дачыненні да актывіста «Маладога Фронту» Станіслава Рачкеля і ягонага сябра Вячаслава Завінеўскага. Суддзя Алена Тоўсцік-Самойла не захацела ўзяць пад увагу акалічнасці справы і асудзіла абодвух па абвінавачанні ў дробным хуліганстве да 10 сутак адміністрацыйнага арышту. Станіслаў Рачкель і Вячаслаў Завінеўскі былі затрыманы яшчэ 25 красавіка ў раёне аўтавакзала. На іх былі складзены адміністрацыйныя пратаколы нібыта за хуліганства і распіццё спіртных напояў у грамадскім месцы, хаця экспертыза ў той жа дзень не выявіла алкаголю ў арганізмах абодвух. Гэта было ў пятніцу, і хлопцы трое сутак да панядзелка прабылі ў ізалятары часовага ўтрымання. Пасля гэтага ім выдалі позвы ў суд на 8 траўня.

8 траўня каля рэстарана «Макдональдс» на праспекце Незалежнасці ў Мінску быў затрыманы Мікалай Бабушкін. Супрацоўнікі АМАП звярнулі ўвагу на цэтлік з сімволікай «Еўрамайдана». Пры затрыманні Мікалаю не дазволілі скарыстацца магчымасцю папярэдзіць родных па тэлефоне. Суд адбыўся ў нядзелю, 11 траўня. Як яму патлумачылі супрацоўнікі міліцыі, адбываецца вельмі шмат затрыманняў, таму суды праходзяць і ў выходныя дні. Суддзя суда Цэнтральнага раёна Мінска Вікторыя Шабуня пакарала М. Бабушкіна арыштам на 5 сутак па абвінавачанні ў дробным хуліганстве (арт.17.1 КаАП). Падчас адбыцця пакарання М. Бабушкіна апыталі супрацоўнікі КДБ. Іх цікавіла, ці ведае ён тэхналогіі вырабу выбухоўкі, а таксама мэты ягонага знаходжання на Еўрамайдане. Пра затрыманне і суд

над моладзевым актывістам Мікалаем Бабушкіным стала вядома толькі пасля ягонага вызвалення вечарам 13 траўня. У адной камеры з Бабушкіным знаходзіўся жыхар Мінска Яўген Новікаў, які распавядаў, што яго затрымлівалі непасрэдна ў кватэры, ударыўшы пры гэтым па твары, а суд над ім адбыўся 13 траўня. Новікава асудзілі на 13 сутак арышту.

10 траўня каля 15 гадзін былы прэс-сакратар кампаніі «Рэвалюцыя праз сацыяльныя сеткі» Уладзімір Кумец быў затрыманы, калі выйшаў з дому і сеў у аўтамабіль. Некалькі невядомых у цывільным спынілі яго на сваёй машыне, актывіст выскачыў, паспрабаваў уцячы, але ў яго гэта не атрымалася. У. Кумец быў дастаўлены ў РУУС Ленінскага раёна, дзе яго абвінавацілі ў дробным хуліганстве (арт. 17.1 КаАП) і непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі (арт. 23.4 КаАП). Судовы працэс адбыўся 12 траўня ў судзе Ленінскага раёна Мінска. Згодна з рашэннем суддзі Міхаіла Хомы У. Кумец быў арыштаваны на 20 сутак.

12 траўня ў Нясвіжы пачаўся судовы працэс над актывісткай аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» Натальяй Бордак. Яна была затрымана 9 траўня за антываенны самаробны плакат «Не пуцінскай вайне з Украінай!», з якім выйшла ў парк Нясвіжа. На выхадзе з парку да яе пад'ехала міліцэйская машына. Нягледзячы на наяўнасць няпоўнагадовага сына, жанчыну пратрымалі ў пастарунку да суда. Ёй было прад'яўлена абвінавачванне ў арганізацыі і правядзенні несанкцыянаванага масавага мерапрыемства. Актывістку зранку даставілі ў будынак суда праз чорны ход і хацелі судзіць ў кабінеце суддзі. Але знаёмыя Наталлі, якія чакалі пачатку працэсу, запатрабавалі адкрытага разгляду справы. Паколькі Наталля Бордак мае няпоўнагадовага сына і запатрабавала ўдзелу ў працэсе адваката, суддзя Вольга Крупец дала ёй час на пошук абаронцы. Да гэтага часу актывістка была вызваленая з залы суда. 19 траўня Наталля Бордак была прызнана вінаватай і пакарана штрафам памерам 30 базавых велічынь.

13 траўня каля Нацыянальнай бібліятэкі ў Мінску затрымалі Алега Кераля, які расклейваў налепкі з тэкстам салідарнасці з затрыманымі напярэдадні ЧС па хакеі. Актывіст паспеў паведаміць праваабаронцам, што яго вязуць у Першамайскі РУУС. А. Кераль быў абвінавачаны ў «дробным хуліганстве» і «непадпарадкаванні патрабаванням супрацоўнікаў міліцыі». 14 траўня суддзя суда Першамайскага раёна Юрый Гарбатоўскі, які вёў адміністрацыйны працэс па справе Алега Кераля, накіраваў справу на дапрацоўку. Падчас разгляду справы ўзнікла шмат спрэчных момантаў, бо сведкі з боку міліцыі В.С. Жарскі і Б.Г. Бык разыходзіліся ў сваіх паказаннях. Алег

Кераль быў адпушчаны з суда, аднак ён вырашыў зайсці за сваімі рэчамі ў РУУС Першамайскага раёна, і там яго ізноў затрымалі. 15 траўня працягнуўся разгляд Алега Кераля. Рашэнне — 25 сутак арышту.

17 траўня ў Брэсце побач са сваім домам быў затрыманы актывіст Яўген Скрабец. Пра гэта сам ён паспеў папярэдзіць калег, даслаўшы смс-паведамленне пра сваё знаходжанне ў РАУС Ленінскага раёна. У міліцэйскім пастарунку паведамілі, што на Скрабца складзены адміністрацыйны пратакол за дробнае хуліганства, выходныя ён правядзе ў ізалятары часовага ўтрымання, а 19 траўня адбудзецца суд. Што канкрэтна зрабіў Яўген, у міліцыі распавядаць адмовіліся. Раніцай 19 траўня, пасля таго, як Яўген Скрабец заявіў хадайніцтва пра допуск да судовага разбіральніцтва адваката, суддзя вырашыў перанесці працэс на 21 траўня і вызваліў яго. Аднак супрацоўнікі міліцыі, якія прывезлі яго ў суд, адразу заявілі, што зноў яго затрымліваюць і адвязуць у пастарунак. У выніку Яўгена Скарбца другі раз прывезлі ў суд Ленінскага раёна, дзе пакаралі адміністрацыйным арыштам на 10 сутак.

17 траўня падчас правядзення акцыі «Ежа замест бомб» каля Міхайлаўскага сквера ў Мінску, дзе праходзіла раздача ежы для бедных грамадзян, быў затрыманы Аляксандр Курэц. Крыху пазней міліцыя затрымала яшчэ 5 удзельнікаў раздачы ежы, сярод якіх Уладзімір Лугін, Аляксандр Зубрыцкі, Яўген Зубрыцкі і Алена Нямцова. Усе затрыманыя былі дастаўлены ў РУУС Партызанскага раёна Мінска. Пасля дактыласкапіі і дагляду аўтамабіля, які належаў аднаму з удзельнікаў раздачы ежы, праз некалькі гадзін усе былі адпушчаныя без складання пратаколаў. У РУУСе пакінулі толькі Аляксандра Курца. 19 траўня ў судзе Партызанскага раёна Мінска справу А.Курца разглядедзела суддзя Вольга Паўлоўская. Актывіст быў абвінавачаны ў дробным хуліганстве (арт. 17.1 КаАП). Сведкай выступіў супрацоўнік ДАІ Аляксандр Гардзіенка. Суддзя вынесла рашэнне — 15 сутак арышту.

21 траўня маці 20-гадовага чэмпіёна Беларусі па чатырох відах адзінаборстваў Яўгена Манько паведаміла, што яе сын быў затрыманы 8 траўня ў сябе дома. Суд Савецкага раёна Мінска асудзіў яго да 20 сутак адміністрацыйнага арышту.

21 траўня жыхар Гомеля Юрый Рубцоў быў вызвалены з мінскага ЦІП пасля 25-сутачнага арышту, які быў вынесены актывісту 28 красавіка пасля традыцыйнага масавага мерапрыемства «Чарнобыльскі шлях», дзе Рубцоў прысутнічаў у майцы з надпісам «Лукашэнка, сыходзь!». Актывіст

быў дастаўлены ў аддзяленне міліцыі чыгуначнага вакзала, дзе ад яго патрабавалі падпісаць паперы аб адсутнасці прэтэнзій наконт канфіскаванай майкі, на што ён адказаў катэгарычнай адмовай. Паколькі асабісты мабільны тэлефон Рубцова за час адсідкі разрадзіўся, ён папрасіў у курсанта на вакзале патэлефанаваць жонцы, паведаміўшы, што зранку будзе дома. У Гомель Рубцоў прыехаў цягніком Баранавічы-Марыупаль 22 траўня каля 4 гадзін раніцы, дадому накіраваўся пешшу. Недалёка ад чыгуначнага вакзала ў раёне вуліцы Цыялкоўскага да яго са словамі «Юры — гэта Вы?» падбеглі два супрацоўнікі АМАП і тут жа запатрабавалі пашпарт. Актывіста спрабавалі абшукаць на прадмет знаходжання наркотыкаў, аднак прапаршчык і старэйшы лейтэнант атрымалі катэгарычны пратэст. На пад'ехаўшым тут жа міліцэйскім УАЗе Юрыя даставілі ў аддзяленне міліцыі Чыгуначнага раёна Гомеля, дзе затрымаўшыя яго АМАПаўцы падалі рапарты аб непадпарадкаванні і нецэнзурнай лаянцы ў грамадскім месцы з боку Рубцова. Пры складанні пратаколаў на патрабаванне затрыманага пра адваката яму было адмоўлена, таксама як і ў магчымасці патэлефанаваць жонцы.

Пасля складання пратаколаў Рубцова адвезлі ў ІЧУ, адтуль — у суд Чыгуначнага раёна Гомеля. У судзе супраць актывіста сведчылі ўсё тыя ж прапаршчык і старэйшы лейтэнант АМАП, са слоў якіх «пры затрыманні Рубцоў упаў на зямлю, супраціўляўся, лаяўся ў іх бок нецэнзурна». Суддзя, прозвішча якога актывіст не запомніў, асудзіў Ю. Рубцова па двух пратаколах да 5 сутак арышту. 27 траўня, пасьля 30 сутак арышту і галадоўкі ў зняволенні Юры Рубцоў быў шпіталізаваны ў Гомельскі абласны клінічны шпіталь. За час галадоўкі ён страціў 39 кілаграмаў.

## Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі, пераслед журналістаў

3 траўня вулічны выступ тэатра «Крылы халопа» са спектаклем-парадам «Малефіцыум» мусіў адбыцца падчас фестываля асаблівых тэатраў «Непратаптаны шлях» у Брэсце. Гэты фестываль адбываецца штогод, і ў ім бяруць удзел дзеці з псіха-фізічнымі асаблівасцямі развіцця. Калектыў «Крылаў халопа» збіраўся правесці майстар-класы для гэтых самадзейных артыстаў, а пасля прайсціся разам з імі па цэнтральных вуліцах горада. Аднак за некалькі дзён да выступу з'явіліся звесткі, што арганізатары імпрэзы — грамадскае аб'яднанне «Інвалід і асяроддзе» выключылі спектакль з праграмы фестывалю. Зрабілі гэта яны пасля таго, як пра вулічны выступ даведаліся чыноўнікі з аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Брэсцкага гарвыканкама.

5 траўня незалежная журналістка Алена Сцяпанава атрымала ліст за подпісам намесніка начальніка Кастрычніцкага райаддзела міліцыі Віцебска А. Захарчанкава, што адміністрацыйная справа ў адносінах да яе спынена. У лісце было сказана, што А. Сцяпанава нібыта без акрэдытацыі супрацоўнічала з «Радио Свободная Европа — Радио Свобода». Так называецца руская служба радыё, якая мае ўласны сайт і эфірны час, і перадусім асвятляе падзеі ў Расіі. Ніякіх матэрыялаў пра Віцебск ад 20.01.2014 г. на сайце няма, хаця супрацоўнікі міліцыі сцвярджалі, што менавіта ў гэты дзень журналістка «асвятляла падзеі, што адбываюцца на тэрыторыі г.Віцебска РБ без акрэдытацыі журналіста», парушыўшы такім чынам п.1 арт.1 Закону РБ «Аб СМІ»... Падчас апытання старэйшы інспектар Аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Сяргей Вяракса казаў А. Сцяпанавай, што гаворка ідзе пра беларускую службу Радыё Свабода. Паведамленне пра спыненне адміністрацыйнай справы было даслана толькі праз тыдзень пасля прыняцця рашэння (25 красавіка), прычым афіцыйную пастанову віцебскай журналістцы не даслалі. Такім чынам, у Алены Сцяпанавай не засталося часу на абскарджанне выкладзеных у лісце фактаў.

12 траўня Міністэрства інфармацыі вынесла папярэджанне газеце «Свободные новости плюс». Чыноўнікі абвінавацілі рэдакцыю ў нанясенні шкоды грамадскім інтарэсам і фармаванні негатыўнага стаўлення да Чэмпіянату свету па хакеі. Папярэджанне тычыцца №17 выдання ад 6 траўня 2014 года, дзе «СНплюс. Свободные новости плюс» паведамлялі пра тое, што Расійская Федэрацыя не заявіла для ўдзелу ў чэмпіянаце ніводнага з хакеістаў, якія прымалі ўдзел у алімпіядзе ў Сочы. Галоўны рэдактар выдання Васіль Зданюк адзначыў, што на момант падпісання нумару ў друк — 5 траўня — інфармацыя цалкам адпавядала рэчаіснасці, і рэдакцыя ніякім чынам не збіралася падаваць непраўдзівыя дадзеныя. Але 6 траўня, у дзень выхаду газеты, расійская зборная раптоўна змяніла ўласную заяўку на чэмпіянат, уключыўшы туды двух хакеістаў, якія ўдзельнічалі ў алімпійскім турніры ў Сочы. Менавіта гэты факт стаў падставай для рэакцыі чыноўнікаў Міністэрства інфармацыі. Папярэджанне падпісана міністрам інфармацыі Беларусі Алегам Праляскоўскім.

15 траўня «Беларуская асацыяцыя журналістаў» паведаміла, што журналістаў шэрагу СМІ не акрэдытавалі на чэмпіянат свету па хакеі, які праходзіць у Мінску. Паводле журналістаў, яны своечасова падавалі дакументы на акрэдытацыю, але ў выніку атрымалі прабачэнні і адмовы. Сярод тых, хто атрымаў адмовы ў акрэдытацыі, Радыё «Свабода», «ВВС», «Еўрапейскае радыё для Беларусі», карпункт НТВ і яшчэ шэраг

выданняў, якія працуюць у Беларусі. У большасці выпадкаў адмова была матывавана тым, што Міжнародная хакейная федэрацыя, якая праводзіла акрэдытацыю, аддавала перавагу спартовым выданням.

22 траўня гродзенскі сябра БАЖ Віктар Парфёненка атрымаў з Міністэрства замежных справаў Беларусі ўжо шостую адмову ў акрэдытацыі. У чарговай адмове МЗС спаслаўся на закон аб сродках масавай інфармацыі і палажэнне аб акрэдытацыі беларускага МЗС. Для гродзенскіх незалежных журналістаў склалася сітуацыя замкнёнага кола — перыядычна яны атрымліваюць папярэджанні з пракуратуры, пайшла хваля адміністрацыйных працэсаў і штрафаў за нібыта «незаконны выраб і распаўсюд інфармацыі». Па-сутнасці гэта азначае фактычную забарону на прафесію. У выніку журналістаў з Гродзеншчыны пераследуюць за супрацоўніцтва з Беларускім Радыё Рацыя і тэлеканалам Белсат.

23 траўня ад раніцы ў кватэры бабруйскага блогера Алега Жалнова пачаўсяператрус. Нагодай для візіта міліцыі стала заведзеная на Жалнова ў пачатку траўня крымінальная справа па арт. 340 Крымінальнага кодэкса «Заведама непраўдзівае паведамленне аб небяспецы», датычная лютаўскага выпадку ў будынку УУС. Тады блогер у адказ на пытанне дзяжурнага, ці ёсць у яго пры сабе зброя, аджартаваўся, што любую рэч можна выкарыстаць у гэтай якасці, і нават бірулька сігналізацыі можа выбухнуць пры пэўнай тэмпературы. Міліцыянты зафіксавалі гэтыя словы Алега Жалнова як паведамленне пра небяспеку. У кватэры Жалновых правяраючыя шукалі відэазапіс, зроблены блогерам падчас гэтай размовы з дзяжурным УУС.

23 траўня незалежны журналіст з Магілёва Аляксандр Буракоў атрымаў ужо другое ўведамленне з мясцовай міліцыі аб тым, што расследванне справы па яго заяве працягнута яшчэ на адзін месяц. Папярэдняе ўведамленне аналагічнага зместу Аляксандр Буракоў атрымаў у красавіку. Сваю заяву ў аддзел па барацьбе са злачынствамі ў сферы высокіх тэхналогій УУС Магілёўскага аблвыканкама незалежны журналіст падаў 19 сакавіка, пасля таго, як 14 сакавіка невядомыя асобы ўзламалі інтэрнэт-сайт «Свабодны фармат» і размясцілі на ім паклёпніцкія матэрыялы ў адносінах да дэмакратычных актывістаў Магілёўскай вобласці. Менавіта Аляксандру Буракову належыць даменнае імя сайта formats.by. У заяве Аляксандр Буракоў прасіў супрацоўнікаў міліцыі ўстанавіць асоб, датычных да ўзлому пароляў сайта «Свабодны фармат» і прыцягнуць іх да адказнасці паводле беларускага заканадаўства. Таксама журналіст прасіў супрацоўнікаў міліцыі высвятліць асобу аўтара электронных ліс-

тоў правакацыйнага зместу, якія дасылаліся ад яго імя вялікай колькасці людзей з электроннага адраса <a.burakov74@gmail.com>, які Аляксандру Буракову не належыць, і таксама прыцягнуць да адказнасці.

27 траўня начальнік аддзела арганізацыйна-кадравай работы Баранавіцкага гарвыканкама Таццяна Чылік адмовіла незалежнай рэгіянальнай газеце «Intex-press» у інфармацыі. Карэспандэнт газеты Арцём Гарбацэвіч звярнуўся да Таццяны Чылік з пытаннем, у колькі абышлося гарадскому бюджэту трохдзённае свята горада, колькі каштавалі феерверк і прыезд у Баранавічы беларускага фіналіста Еўрабачання Тэо. Чыноўніца ў бесцырымоннай форме адмовіла карэспандэнту ў інфармацыі. «Я не буду даваць вашай газеце інфармацыю, таму што не жадаю з вамі наогул размаўляць», — сказала супрацоўніца гарадской адміністрацыі. Карэспандэнту «IP» давялося выслухоўваць абразлівыя выпады чыноўніцы на адрас незалежнага выдання, якое, на думку Чылік, «скажае інфармацыю». А вось грамадска значную інфармацыю, якую маюць права ведаць чытачы газеты, за чые падаткі і фармуецца бюджэт, грошы якога ідуць, як на свята горада, так і на заработную плату спадарыне Чылік, даваць адмовілася. Па пытаннях правядзення свята горада газета накіравала ў гарвыканкам пісьмовы запыт.

28 траўня аўтара і вядоўцу праграм «Людскія справы» і «Рэпартаж Залеўскага» на тэлеканале «Белсат» Алеся Залеўскага Карэліцкі раённы суд пакараў штрафам у 30 базавых велічыняў па абвінавачанні ў незаконным вырабе і распаўсюдзе прадукцыі СМІ (арт. 22.9 КаАП). А. Залеўскі — супрацоўнік Польскага грамадскага тэлебачання TVP, часткаю якога з'яўляецца тэлеканал «Белсат». Супрацоўнікі тэлеканала «Белсат» ужо некалькі гадоў дамагаюцца ад МЗС Беларусі адпаведнай акрэдытацыі, але ўвесь гэты час атрымліваюць адмовы па надуманных прычынах.

28 траўня старшыня бабруйскай суполкі АГП Віктар Бузінаеў атрымаў па пошце дакументы з УУС ад маёра міліцыі Сяргея Рудзько і начальніка упраўлення УУС Аляксандра Васільева. З іх актывіст даведаўся, што па факце распаўсюду газеты «Новы Час» была праведзена праверка, але адміністрацыйная справа была спынена «у сувязі з адсутнасцю ў Вашых (Бузінаева) дзеяннях складу адміністрацыйнага парушэння, прадугледжанага ч. 2 артыкула 22.9 КаАП РБ», — сказана ў лісце Васільева. Віктар Бузінаеў адзначыў, што не ведаў, што па ягоных дзеяннях праводзіцца праверка. У паперах з міліцыі датай раздачы газет называецца 8-е, а не 7-е траўня. У пастанове Сяргея Рудзько пазначана, што менавіта «8 траўня 2014 года ў УУС Бабруйскага гарвыканкама паступіла інфарма-

цыя аб тым, што на цэнтральным рынку грамадзянінам Бузінаевым распаўсюджваліся газеты «Новы Час». Падчас адпрацоўкі тэрыторыі рынка і прылеглай тэрыторыі фактаў распаўюду газеты «Новы Час» выяўлена не было». І тут жа сцвярджаецца, што ў УУС на гэтую тэму ўсё ж «не паступала якой-небудзь інфармацыі». Далей паведамляецца, што выявіць парушэнне заканадаўства было немагчымым з-за адсутнасці асобніка выдання, якое распаўсюджвалася. І, такім чынам, віна Бузінаева не даказана.

28 траўня грамадскі актывіст з Хоцімска Валерый Каранкевіч атрымаў адказ на сваю скаргу на імя начальніка ўпраўлення ўнутраных спраў Магілёўскага аблвыканкама, у якой актывіст прасіў адмяніць пастанову начальніка Хоцімскага РАУС аб спыненні справы ў сувязі быццам бы з немагчымасцю ўстанаўлення асоб, якія ў глабальнай сетцы Інтэрнэт размясцілі публікацыі, якія абражаюць і прыніжаюць яго гонар і годнасць. У адказе за подпісам намесніка начальніка УУС Магілёўскага аблвыканкама Іванова С. Б. было сказана, што супрацоўнікі міліцыі не могуць высветліць асоб, якія змяшчалі на інтэрнэт-рэсурсе voskresinfo.com матэрыялы паклёпніцкага і ганьбячага зместу ў адносінах Валерыя Каранкевіча. Месцам рэгістрацыі ўладальніка гэтага інтэрнэт-рэсурса (ААТ «Тэхналогіі будучыні», 65082, Украіна, г. Адэса, завулак Маякоўскага, 6) з'яўляецца Украіна, устанавіць ІП-адрас гэтай асобы ці асоб не ўяўляецца магчымым, бо запыты падраздзяленняў МУС Беларусі застаюцца без адказу, таму яны не могуць быць прыцягнутыя да адказнасці. Таксама палкоўнік Іваноў паведаміў Валерыю Каранкевічу, што пастанова Хоцімскага РАУС пакінутая без зменаў, а скарга Валерыя Каранкевіча без задавальнення.

30 траўня ў судзе Кастрычніцкага раёну Гродна пачаўся адміністрацыйны працэс у адносінах да незалежнага журналіста Андрэя Мялешкі, якога абвінавацілі ў незаконным вырабе і распаўсюдзе інфармацыйнай прадукцыі. Працэс праводзіў суддзя Дзмітрый Кедаль. Справу на Андрэя Мялешку пачалі за яго матэрыял, які быў апублікаваны ў красавіку на сайце «Беларускага Радыё Рацыя». Працэс працягваўся толькі пару хвілін. Андрэй Мялешка заявіў хадайніцтва пра перанос разгляду справы для таго, каб заключыць пагадненне з адвакатам і вывучыць матэрыялы справы. Працяг працэсу прызначаны на 4-га чэрвеня.

30 траўня журналіст-фрылансер, сябра ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» Мікалай Бянько звярнуўся ў суд Цэнтральнага раёна Гомеля са скаргай на незаконнасць афіцыйнага папярэджання, вынесенага яму 5 сакавіка першым намеснікам пракурора Гомельскай вобласці

Вадзімам Сушчынскім. Пракуратура абвінаваціла Міколу Бянько ў падрыхтоўцы інфармацыйных матэрыялаў без акрэдытацыі для замежнага СМІ — «Беларускага Радыё Рацыя», якое зарэгістравана на тэрыторыі Польшчы. Фрылансер спрабаваў абскардзіць афіцыйнае папярэджанне ў пракурора Гомельскай вобласці Сяргея Аземшы і генеральнага пракурора Аляксандра Канюка, але безвынікова. Начальнік аддзела па наглядзе за выкананнем заканадаўства аб дзяржаўнай бяспецы генеральнай пракуратуры В. Шуляк напісаў у адказе журналісту: «Вынесенае ў дачыненні да Вас афіцыйнае папярэджанне аб недапушчальнасці парушэння заканадаўства аб СМІ не ўшчамляе Вашых грамадзянскіх правоў на атрыманне і распаўсюд інфармацыі і не супярэчыць Канстытуцыі і міжнародна-прававым дамовам, названым у Вашым звароце». Мікола Бянько, у сваю чаргу, бачыць у неабгрунтаваных папярэджаннях нішто іншае, як запалохванне і перашкоду прафесійнай дзейнасці.

## Абмежаванне свабоды сходаў

8 траўня актывіст Руху «За свабоду» Дзмітрый Рабцэвіч накіраваў зварот у Савет Міністраў, у якім прасіў унесці ў парламент прапанову аб выключэнні са сферы дзеянняў Закона «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь» адзіночнага пікетавання. У сваім звароце Рабцэвіч адзначыў, што існуе ненармальная сітуацыя, калі згаданы закон рэгламентуе правядзенне адзіночных мерапрыемстваў у выглядзе пікетавання. Актывіст Руху «За свабоду» лічыць, што прапанаваныя ім змены ў закон дазволяць у большай ступені рэалізаваць грамадзянамі права на выказванне свайго меркавання. Гэтую прапанову падтрымаў і праваабаронца Раман Кісляк, які назваў абсурдным з'яўленне у згаданым законе словазлучэння «адзіночнае масавае пікетаванне». Па меркаванні Кісляка, «заканадаўчыя абмежаванні гэтага закона актуальныя для сапраўды масавых мерапрыемстваў, але не для адзіночнага пікетавання». Праваабаронца ўдакладніў, што ў іншых краінах адзіночныя пікеты ладзяцца без атрымання дазволу і без абмежаванняў, якія ўсталёўваюцца для масавых мерапрыемстваў.

10 траўня актывістку кампаніі «Без візы!» з Салігорска Вікторыю Фогель выклікалі ў мясцовае аддзяленне міліцыі, дзе вынеслі афіцыйнае папярэджанне аб недапушчальнасці супрацьпраўных дзеянняў. Выклік у міліцыю быў звязаны з яе заяўкай на правядзенне пікета ў падтрымку кампаніі «Без візы!». Мерапрыемства планавалася правесці ў Мінску 11 траўня на пляцоўцы каля хакейнага спартовага комплексу «Чыжоўка-Арэна». Сталічныя ўлады заяву актывісткі на пікетаванне ў пазначаным

месцы не задаволілі. Ладзіць несанкцыянаваную акцыю Віка Фогель не збіралася. Салігорскія міліцыянты, аднак, выклікалі яе ў мясцовае аддзяленне, заявілі пра недапушчальнасць правядзення забароненага мерапрыемства і прымусілі падпісаць адпаведнае папярэджанне.

13 траўня ў судзе Бярозаўскага раёна пачаўся разгляд скаргі праваабаронцаў Тамары Шчапёткінай, Сяргея Русецкага і грамадскай актывісткі Таццяны Тарасевіч на дзеянні райвыканкама, які спачатку даў дазвол, а потым забараніў правядзенне пікета 25 сакавіка. На паседжанні суда юрыст райвыканкама Яўген Кашталян паведаміў, што адклікаць дазвол на пікет Бярозаўскі райвыканкам прымусіла вышэйстаячая арганізацыя — Брэсцкі аблвыканкам. Ініцыятары заявы ў суд прапанавалі выклікаць на паседжанне намесніка старшыні Бярозаўскага райвыканкама Міхаіла Крэйдзіча, які паставіў свой подпіс пад дазволам і адозвай, а таксама чыноўніка з Брэсцкага аблвыканкама, які ўбачыў у адной з мэтаў пікета распальванне нацыянальнай варожасці (адной з мэтаў пікета было выказванне пратэсту супраць увядзення Расійскай Федэрацыяй сваіх войск на тэрыторыю незалежнай Украіны і размяшчэння расійскіх ваенных баз на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь). Праваабаронцы таксама заявілі пра неабходнасць правядзення лінгвістычнай экспертызы. Суддзя Алена Нямкова пагадзілася выклікаць на чарговае паседжанне вышэйзгаданых асоб. 21 траўня на судзе прадстаўнік райвыканкама Яўген Кашталян нечакана запярэчыў сваім жа словам, сцвярджаючы, што Брэсцкі аблвыканкам не мае адносінаў да забароны пікета, а рашэнне прымалася чыноўнікам райвыканкама, але назваць канкрэтную асобу Яўген Кашталян катэгарычна адмовіўся. Суддзю Алену Нямкову не зацікавіла прозвішча гэтага чыноўніка, як і прадстаўніка пракуратуры Аксану Гардзеюк. 22 траўня суд адмовіў праваабаронцам у задавальненні скаргі, прызнаўшы законнай адвозву дазволу на пікет. Тамара Шчапёткіна, Сяржук Русецкі і Таццяна Тарасевіч накіравалі касацыйную скаргу ў Брэсцкі абласны суд.

14 траўня каардынатар бабруйскай суполкі БХД Таісія Кабанчук атрымала адказ з гарвыканкама з адмовай у правядзенні пікета, які планаваўся ў якасці падтрымкі палітвязня Яўгена Васьковіча. Адмова ў правядзенні пікета падпісана намеснікам старшыні гарвыканкама Аляксандра Маркачова. У ёй указваецца, што заяўка не адпавядае артыкулу № 2 Закона «Аб масавых мерапрыемствах»: не ўказаны парадак аплаты паслуг на медыцынскае абслугоўванне і прыборку тэрыторыі. Таксама Маркачоў палічыў за парушэнне інфармацыю ў СМІ — некалькі выданняў напісалі пра запланаваны пікет. Яшчэ адна нагода для адмовы: правядзенне спартовых

спаборніцтваў, якія нібыта запланаваны менавіта за заяўлены дзень, час і месца правядзення пікета — на стадыёне фабрыкі «Славянка».

18 траўня ў цэнтры Магілёва актывісты аргкамітэта партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» мелі намер правесці пікет у падтрымку палітычнага зняволенага Яўгена Васьковіча, але атрымалі адмову. Прычына адмовы, згодна з адказам чыноўніка з гарвыканкама Кунцэвіча, заключаецца ў тым, што ініцыятар пікета Алег Аксёнаў не прыклаў дамовы да заяўкі на мерапрыемства з міліцыяй аб ахове правапарадку, медыкамі, а таксама камунальнікамі. У сувязі з гэтым заўка на правядзенне пікета не адпавядае рашэнню Магілёўскага гарвыканкама ад 19 снежня 2007 года «Аб масавых мерапрыемствах у горадзе Магілёве», адзначана ў афіцыйным лісце. Алег Аксёнаў адзначыў, што калі б чыноўнікі далі дазвол на правядзення пікета, то ніякіх праблем у заключэнні згаданых дамоў не было, бо гэтыя службы адмаўляюцца заключаць дамовы на аказанне сваіх паслуг, калі няма адпаведнага рашэння гарвыканкама.

21 траўня стала вядома, што Камітэт па правах чалавека ААН прызнаў, што беларускія ўлады парушылі правы сябра Жлобінскай раённай арганізацыі Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» Уладзіміра Кірсанава на правядзенне мірнага сходу, забараніўшы яму ў 2008 годзе правесці ў Жлобіне пікет з мэтаю прыцягнення ўвагі грамадскасці да праблем ліквідацыі ў краіне палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў. У Камітэт ААН Уладзімір Кірсанаў паскардзіўся пасля таго, як не знайшоў абароны сваіх правоў унутры краіны. Жлобінскі райвыканкам забараніў яму, як і іншым актывістам, правесці ў раённым цэнтры серыю масавых мерапрыемстваў у сувязі з забаронай мінюстам на паўгода дзейнасці партыі камуністаў Беларускай (зараз Беларуская партыя левых «Справядлівы мір»). Мясцовыя чыноўнікі запатрабавалі тады ад камуністаў аплаціць паслугі міліцыі, камунальшчыкаў і хуткай дапамогі. Камітэт па правах чалавека нагадаў, што калі дзяржава накладае абмежаванне на свабоду мірнага сходу, ёй варта садзейнічаць ажыццяўленню права, а не шукаць непатрэбныя або неадпаведныя абмежаванні. А паколькі Урад Беларусі палічыў, што толькі забаронай мірных сходаў можна забяспечыць грамадскі парадак і бяспеку, ахову маральнасці і здароўя насельніцтва ці абарону правоў і свабодаў іншых асоб, то парушыў права заяўніка на свабоду правядзення мірнага сходу паводле артыкула 21 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах. На падставе рашэння Камітэта ААН Урад Беларусі мусіць забяспечыць «ахвяры парушэння эфэктыўны сродак прававой абароны, уключна з поўным пакрыццём выдаткаў і належнай кампенсацыяй», а таксама абавязаны «не дапускаць

падобных парушэнняў у будучыні». На жаль, 77-гадовы заяўнік рашэння Камітэта не дачакаўся, памёр некалькі гадоў таму. Яго інтарэсы ў Камітэце прадстаўляў праваабаронца Леанід Судаленка.

27 траўня магілёўскія ўлады не далі дазволу на пікетаванне гарвыканкама. Праз пікет у цэнтры горада Ірына Ільінская хацела прыцягнуць увагу магілёўскіх чыноўнікаў і гараджан да яе высялення з інтэрната з двума непаўнагадовымі дзецьмі. Пікет жанчына планавала 1 чэрвеня ў Міжнародны дзень абароны дзяцей. Падставай для адмовы ў правядзенні мерапрыемства стала тое, што жанчына выбрала нявызначанае для пікета мясцовымі ўладамі месца. Ірына Ільінская 14 гадоў пражыла ў інтэрнаце будаўнічага трэста №12. У яе была бестэрміновая дамова на пражыванне па хадайніцтву трэцяй арганізацыі. Год назад з ёй падманным шляхам адміністрацыя трэста заключыла тэрміновую дамову на пражыванне тэрмінам на 1 год, пасля сканчэння якой пачала працэдуру высялення жанчыны. Ільінская спрабавала адстаяць сваё права на пражыванне з дзецьмі праз суд, аднак суддзя Ленінскага раённага суда Юлія Трапыніна стала на бок адміністрацыі трэста. Магілёўскі абласны суд адмяніў рашэнне раённага суда ў сувязі са шматлікімі парушэннямі працэса і накіраваў справу на новы разгляд.

28 траўня каля помніка Тарасу Шаўчэнку ў Мінску Партыя БНФ планавала правядзенне мітынга салідарнасці з народам Украіны, але атрымала адмову. У лісце за подпісам намесніка старшыні Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта Ігара Карпенкі адзначана, што правядзенне мітынгу ў падтрымку тэрытарыяльнай цэласнасці і незалежнасці Украіны не дазволенае ў сувязі з тым, што «на месцы перасячэння вуліц Кісялёва і Старавіленскай, у Сцяпанаўскім скверы каля помніка Тарасу Шаўчэнку запланаванае іншае мерапрыемства». Аднак, што гэта за «іншае мерапрыемства», не ўдакладнялася.

## Абмежаванне свабоды асацыяцый

5 траўня актывіст незалежнага прафсаюза РЭП з Мазыра Павел Наздра атрымаў паведамленне, што працоўны кантракт з ім не будзе працягнуты «у сувязі з заканчэннем тэрміну дзеяння». Актывіст працаваў электраманцёрам у ЖЭУ па працоўнаму кантракту з 2010 года тэрмінам на чатыры гады. Па працоўнай дзейнасці да А. Наздры не было ніякіх прэтэнзій ці заўваг. Актывіст непрацягненне кантракта звязвае са сваёй грамадскай дзейнасцю, таму што праблемы з кіраўніцтвам у яго пачаліся з-за стварэння структурнага падраздзялення незалежнага прафсаюза.

5 траўня сябра пярвічкі СПБ завода ТДіА (трактарных дэталяў і агрэгатаў) у Бабруйску, грузчык складметала АМТС Віктар Осіпаў даведаўся, што з ім не працягнуты кантракт. Ён атрымаў на рукі апавяшчэнне, што тэрмін яго працоўнага кантракта заканчваецца 30 красавіка. У Віктара Осіпава ў калектыве вельмі добрая рэпутацыя, таму яго калегі адразу звярнуліся да дырэктара завода Аляксандра Аграновіча з хадатайніцтвам, каб Віктару працягнулі кантракт. Таксама вельмі добрую характарыстыку яму напісаў начальнік аддзела Алег Кавалевіч. Але гэтыя захады не паўплывалі на рашэнне намесніка дырэктара па кадрах і ідэалагічнай працы Уладзіміра Елісеенкі. Непрацягнення кантракта з Віктарам Осіпавым звязваецца з ягоным удзелам у сакавіцкай галадоўцы і сяброўствам у СПБ. На працягу 2014 года таксама не працягнулі кантракты з сябрамі СПБ Аляксандрам Мікіткам, у 2013 — Дзмітрыем Курмазам, Дзмітрыем Сакалоўскім і Сяргеем Пічуговым.

23 траўня лідар Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька паведаміў, што АГП адмоўлена ў 15 памяшканнях для правядзення з'езда. Партыйцы расцанілі гэта як спробу сарваць з'езд, паколькі калі АГП яго не правядзе, то Мінюст можа пачаць працэдуру ліквідацыі партыі.

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Чэрвень 2014 года

У чэрвені захоўваўся сістэмны і сістэматычны характар парушэнняў правоў чалавека. Магчымасці рэалізацыі грамадзянскіх і палітычных, сацыяльных і эканамічных правоў, гарантаваных Канстытуцыяй Беларусі і міжнароднымі нормамі, па-ранейшаму насілі скрайне лімітаваны характар. Іншадумцы падвяргаліся ціску, запалохванням і пераследу.

У месцах пазбаўлення волі працягвалі ўтрымлівацца палітвязні, але ў гэтай сферы быў зафіксаваны пазітыўны зрух. 21 чэрвеня з бабруйскай калоніі быў вызвалены праваабаронца Алесь Бяляцкі, у адносінах да якога была ўжыта амністыя. Тое, што дадзены крок з боку ўладаў уяўляе сабой праяву палітычнай волі, сведчыць той факт, што згодна з законам аб амністыі яна не распаўсюджваецца на асоб, якія маюць статус «злосных парушальнікаў рэжыму адбыцця пакарання», а зняволены праваабаронца такі статус меў. Пры гэтым пры вызваленні Алеся Бяляцкага не праінфармавалі, ці былі скасаваныя накладзеныя на яго спагнанні, якія рабілі немагчымым ужыванне да яго амністыі. Таксама пра палітычны характар рашэння аб вызваленні палітвязня сведчыць тое, што ў абсалютна ідэнтычнай сітуацыі амністыя 2012 года на яго не распаўсюджвалася.

Пры гэтым улады настойліва даводзілі, што вызваленне палітвязняў знаходзіцца выключна ў прававой плоскасці і ніякім чынам на дадзены працэс не ўплывае знешнепалітычны фактар, у тым ліку — пазіцыя Еўрапейскага Саюза, які па-ранейшаму настойваў на вызваленні палітвязняў як перадумовы наладжвання супрацоўніцтва з афіцыйным Мінскам. Так, у інтэрв'ю агенцтву БелаПАН 11 чэрвеня міністр замежных спраў Уладзімір Макей заявіў: «Для нас пытанне ляжыць выключна ў прававой плоскасці. Будуць выкананы адпаведныя ўнутрыдзяржаўныя працэдуры, якія дазволілі б гэтым асобам выйсці на волю — Бог з імі. Але гэта залежыць ад саміх гэтых асоб. Дзяржава, я лічу, робіць абсалютна правільна ў гэтай сітуацыі, што не мае намеру ладзіць «таргі» і «размен» з ЕС з нагоды гэтай катэгорыі асоб. Гэта абсалютна, выключна прававая праблема». Аднак наступныя ягоныя словы сведчаць, што пытанне вызвалення палітвязняў беларускімі ўладамі наўпрост увязваецца з вырашэннем знешнепалітычных пытанняў, у прыватнасці — па санкцыях з боку ЕС: «Я лічу, што мы тут павінны разумець, што ў нашых адносінах існуюць прынцыповыя праблемы: для Беларусі — гэта санкцыі, абсалютна неабгрунтаваныя санкцыі з боку ЕС, а для Еўрасаюза — гэта прэтэнзіі адносна таго,

што ў нас нібыта прысутнічае пэўная колькасць палітвязняў. Мы разумеем, што гэтыя праблемы прысутнічаюць у нашых адносінах, мы павінны гэтыя праблемы вырашаць».

Адразу пасля вызвалення Алеся Бяляцкага Уладзімір Макей таксама паспяшаўся заявіць, што ягонае вызваленне не з'яўляецца вынікам пэўных палітычных працэсаў. Так, 29 чэрвеня ў інтэрв'ю праграме «Галоўны эфір» тэлеканала «Беларусь 1» ён сказаў, што «тэма палітзняволеных ужо набіла аскоміну», і што «мы рэальна глядзім на сітуацыю, і мы ведаем, што нават калі б мы вызвалілі тых, каго яны (ЕС — рэд.) называюць «палітычнымі зняволенымі», то да Беларусі заўтра будуць прад'яўлены новыя прэтэнзіі». Нягледзячы на агучаную пазіцыю, відавочна, што вызваленне Алеся Бяляцкага адбылося не згодна прававой працэдуры, а сыходзячы з замоўчваемай палітычнай мэтазгоднасцю, а публічныя заявы маюць на мэце «захаванне твару» і дэманстрацыю адсутнасці знешняга фактару ў прыняцці рашэння па палітвязнях.

Вызваленне Алеся Бяляцкага стала станоўчым крокам, але праблема наяўнасці палітычных зняволеных у Беларусі заставалася прынцыпова нявырашанай. У месцах пазбаўлення волі працягвалі ўтрымлівацца 7 палітвязняў: Мікалай Статкевіч, Эдуард Лобаў, Мікалай Дзядок, Яўген Васьковіч, Арцём Пракапенка, Ігар Аліневіч і Васіль Парфянкоў. Ужыванне да іх той жа працэдуры вызвалення, як амністыя, заставалася па-за межамі правога поля, аднак прыклад выхаду на волю Алеся Бяляцкага дакладна прадэманстраваў, што па справах палітвязняў прымаюцца выключна палітычныя рашэнні. Адмаўляючы знешні ўплыў у пытанні палітвязняў, міністр замежных спраў Уладзімір Макей тым не менш прагаворваўся пра тыя працэсы, якія адбываюцца ў дадзенай сферы, а таксама праблемы, якія ў сувязі з гэтым дыскутуюцца паміж афіцыйным Мінскам і Еўрапейскім Саюзам. У інтэрв'ю БелаПАН ён адзначыў: «І да гэтага часу Еўрасаюз не вызначыўся з колькасцю гэтых асоб. Спачатку была лічба 11, потым восем, дзевяць, пяць ... Цяпер мы так і не ведаем, пра якую колькасці ідзе гаворка». Хаця ў выказваннях У. Макея пазіцыя ЕС выглядае нібыта непаслядоўнай, нестабільнасць гэтай лічбы тлумачыцца тым, што перамовы па праблеме палітвязняў маюць зацяжны характар, і за гэты час частка палітвязняў выходзіла на волю ў сувязі са сканчэннем тэрміну адбыцця пакарання. Яшчэ адна праблема, якая, сыходзячы са слоў міністра МЗС, абмяркоўваецца паміж беларускім бокам і ЕС — няўзгодненасць персанальнага спісу палітычных зняволеных. «І, напрыклад, здзіўляе крывадушны падыход нашых еўрапейскіх партнёраў: тыя асобы, якія на ўсходзе, напрыклад, Украіны праводзяць баявыя дзеянні, змагаюцца з уладамі — гэта тэрарысты. Тут жа, у нас, асобы, якія кідаюць кактэйлі Молатава ў будынак

замежнай амбасады — гэта ўжо палітвязні (...) Па апошніх дадзеных, два чалавекі з іх знаходзяцца ў спісе асобаў, якіх ЕС лічыць палітвязнямі. Таму трэба вызначыцца з канчатковай колькасцю,» — адзначыў У. Макей. Пазіцыя ЕС па персанальным спісе палітычных зняволеных, адносна вызвалення якіх вядуцца перамовы аб вызваленні, заставалася невядомай і для беларускіх праваабаронцаў.

На міжнародным узроўні найважнейшай падзеяй у справе ацэнкі сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі стала прэзентацыя 18 чэрвеня ў межах 26 сесіі Савета па правах чалавека ААН даклада Спецдакладчыка па сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі Міклаша Харашці. Спецдакладчык адзначыў, што за апошні год не адбылося ніякіх пазітыўных зрухаў, і ўрад не прадпрыняў неабходных крокаў для прасоўвання і абароны правоў беларускіх грамадзян. Спецдакладчык ацаніў парушэнні правоў чалавека ў краіне як сістэмныя і сістэматычныя. «Сістэматычныя — паколькі яны здзяйсняюцца кожны дзень ва ўсіх сферах жыцця. Сістэмныя — таму што практыка парушэнняў правоў чалавека з самога пачатку закладзена ў заканадаўства, у сістэму дзяржаўных органаў». Прадстаўнік Беларусі ў Жэневе Міхаіл Хвастоў, выступаючы падчас абмеркавання даклада, заявіў, што Беларусь па-ранейшаму не прызнае мандата Спецдакладчыка, лічачы яго «палітычным праектам Еўрасоюза», які не мае адносінаў да правоў чалавека. М. Хвастоў дадаў, што афіцыйны Мінск не разглядае Спецдакладчыка як інструмент супрацоўніцтва ў сферы правоў чалавека і патрабуе яго скасавання. Шэраг краін-членаў Савета заявілі, што сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі не патрабуе асаблівай увагі Савета ААН. Пра гэта было сказана ў заяве, з якой выступіла Расія ад імя такіх краін, як Балівія, Венесуэла, Зімбабвэ, Іран, Куба, Мьянма, Нікарагуа, Судан, Туркменістан і Шры-Ланка. Аднак большасць членаў Савета падтрымалі даклад Міклаша Харашці, што прадэмантравалі вынікі галасавання па рэзалюцыі «Сітуацыя ў галіне правоў чалавека ў Беларусі», прынятай 27 чэрвеня. Згодна з дадзенай рэзалюцыяй, мандат Спецдакладчыка па сітуацыі з правамі чалавека ў Белрусі быў працягнуты яшчэ на адзін год. «Савет пастанаўляе працягнуць на адзін год мандат Спецыяльнага дакладчыка па пытанні аб становішчы ў галіне правоў чалавека ў Беларусі і просіць Спецыяльнага дакладчыка прадставіць даклад аб становішчы ў галіне правоў чалавека ў Беларусі Савету па правах чалавека на яго дваццаць дзявятай сесіі і Генеральнай Асамблеі на яе сямідзясятай сесіі», — было адзначана ў рэзалюцыі, якую падтрымалі 24 дэлегацыі, 7 членаў Савета выступілі супраць і 16 — устрымаліся. У якасці Спецыяльнага дакладчыка будзе працягваць працу Міклаш Харашці. Беларускія праваабаронцы віталі падтрымку даклада і працягненне мандата Спец-

дакладчыка, лічачы гэта дзейснай магчымасцю аб'ектыўнай ацэнкі сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі і данясення гэтай ацэнкі да міжнароднай супольнасці, а таксама заклікалі беларускія ўлады да супрацоўніцтва з Міклашам Харашці, якое можа прывесці да станоўчых зрухаў у сферы правоў чалавека ў краіне.

## Палітычныя зняволеныя, крымінальны пераслед грамадскіх актывістаў

1 чэрвеня Валерыя Хоціна, жонка палітвязня Мікалая Дзядка, паведаміла, што яе мужу адмянілі дыетычнае харчаванне, якое ўвялі ўсяго на месяц. У вязня хвароба страўніка, якая ў турме абвастрылася. У 2013 годзе Мікалая Дзядка абследавалі ў турэмным шпіталі ў Мінску, але дзейснага лячэння яму так і не прапанавалі. М. Дзядок вымушаны змагацца з болямі ў страўніку, самастойна выключаючы пэўныя прадукты з рацыёну. У камеры Магілёўскай турмы, дзе адбывае пакаранне палітвязень, у спякотныя дні тэмпература дасягае 30 градусаў, але праветрываць памяшканне немагчыма.

2 чэрвеня Марына Адамовіч, жонка Мікалая Статкевіча, са спасылкай на ліст ад мужа паведаміла, што палітвязень прызнаны «схільным да нападу і ўцёкаў», што яшчэ больш пагоршыла ягонае становішча. Над ім усталяваны дадатковы нагляд, штомесяц з ім павінны праводзіць выхаваўчыя размовы. Падставай для прызнання М. Статкевіча схільным да ўцёкаў стала ўбачаная ахоўнікамі прычэпленая ў камеры на сцяне газета, якой, па іх меркаванні, можна схаваць лаз. Пры гэтым камера, дзе ўтрымліваецца палітвязень, выходзіць ва ўнутраны двор турмы, куды зняволеных водзяць на шпацыры. Мікалай Статкевіч паведаміў, што ў сувязі з пераходам Магілёўскай вобласці з аналагавага тэлебачання на лічбавае ў магілёўскай турме пакінулі толькі тры тэлеканалы — АНТ і БТ-1, і расійскі канал РТР, ахвяраваўшы беларускімі каналамі СТВ і БТ-2. 28 чэрвеня ў магілёўскай турме адбылася першая ў 2014 годзе сустрэча Мікалая Статкевіча з жонкай Марынай Адамовіч. Напярэдадні сустрэчы падчас прагулкі яму прынеслі лагерную газету «Трудавы шлях», каб палітвязень азнаёміўся з тэкстам закону аб амністыі і ўпэўніўся, што на яго гэта не распаўсюджваецца. Па словах Марыны Адамовіч, на амністыю ён не разлічвае.

7 чэрвеня Марына Лобава, маці палітвязня Эдуарда Лобава, паведаміла, што яе сын заканчвае навучанне на зваршчыка ў калоніі ў Івацэвічах. Паводле Марыны Лобавай, яе сын захапляецца ваеннай гісторыяй

і марыць атрымаць вышэйшую адукацыю. Але яна не выключае, што Эдуарду прыдасца і атрыманая ў калоніі прафесія. 21 чэрвеня, пасля апошняга доўгатэрміновага спаткання з роднымі, Эдуард Лобаў паведаміў маці, што за ім пасля вызвалення плануецца ўсталяванне прэвентыўнага нагляду.

9 чэрвеня з палітвязнем Ігарам Аліневічам у Наваполацкай калоніі сустрэлася маці Валянціна Аліневіч. Паколькі прынята рашэнне пра расфарміраванне гэтай калоніі, Валянціна Аліневіч не выключыла, што бачылася з сынам там апошні раз. 28 чэрвеня Валянціна Аліінeвіч паведаміла, што 3 тыдні не атрымлівае ад сына ні лістоў, ні тэлефанаванняў. Гэта яна звязвае з пераводам І. Аліневіча ў іншую калонію. Да канца чэрвеня так і не з'явілася інфармацыя пра новае месца адбыцця пакарання палітвязня.

13 чэрвеня аўтары індывідуальнага паведамлення, пададзенага ў Камітэт па правах чалавека ААН ад імя Алеся Бяляцкага, звярнуліся ў Камітэт па правах чалавека з адкрытым лістом. Антуан Бернар, Генеральны дырэктар Міжнароднай Федэрацыі за правы чалавека (FIDH), і Наталля Пінчук, жонка палітвязня, просяць пра больш хуткі разгляд Камітэтам пададзенай два гады таму скаргі. Зварот звязаны з тым, што ў ліпені 2012 года пастаянная місія Рэспублікі Беларусь пры офісе ААН у Жэневе накіравала ў КПЧ ноту, у якой адназначна заявіла аб адмове дзяржавы супрацоўнічаць з Камітэтам па гэтай справе і аб спыненні далейшых камунікацый у гэтай сувязі. З тых часоў дзяржава кіруецца гэтай пазіцыяй, не падаючы ніякіх паведамленняў па справе, хаця КПЧ накіраваў Беларусі ўжо два напамінанні з прапановай даць каментары па сутнасці. У сувязі з гэтым, адзначылі заяўляльнікі, няма ніякіх падстаў чакаць адказу дзяржавы па справе Бяляцкага і адкладаць па гэтай прычыне яго разгляд у КПЧ ужо больш за два гады. Той факт, што дзяржава адмовілася ад камунікацый з Камітэтам, не з'яўляецца перашкодай да разгляду скаргі, і прадстаўнікі Бяляцкага звяртаюцца да Камітэта з просьбай паскорыць гэты працэс. 21 чэрвеня Алесь Бяляцкі быў нечакана вызвалены з Бабруйскай калоніі. У 9 гадзін раніцы ён быў выкліканы з вытворчасці да начальніка калоніі, дзе пракурорскі работнік паведаміў яму пра вызваленне згодна з законам аб амністыі, які з гэтага дня ўступіў у сілу. Яму загадалі за гадзіну сабраць рэчы, пасадзілі ў хуткую дапамогу, завезлі на вакзал, пасадзілі ў электрычку і адправілі ў Мінск. А. Бяляцкі адзначыў, што не спадзяваўся на ўжыванне адносна яго амністыі, паколькі мае статус «злоснага парушальніка рэжыму адбыцця пакарання», на якіх яна не распаўсюджваецца. Адносна ўмоў

утрымання ён паведаміў, што ўжывалася поўная ізаляцыя ад іншых асуджаных, за кантакты з ім іншыя вязні неслі пакаранне ці пераводзіліся ў іншыя атрады. Афіцыйна яму двойчы прапаноўвалі напісаць прашэнне аб памілаванні: у верасні 2011 (на той час былі вызвалены некалькі палітвязняў па справе Плошчы-2010) і ў студзені 2014 пасля прэс-канферэнцыі Аляксандра Лукашэнкі, дзе кіраўніком дзяржавы была агучана інфармацыя аб магчымай амністыі А. Бяляцкага. За кратамі праваабаронца правёў 1 052 дні. Ягонае вызваленне віталі ЗША, Вялікабрытанія, вярхоўны прадстаўнік ЕЗ у замежных справах і палітыцы бяспекі Кэтрын Эштан, прэзідэнт Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы Ан Брасер, спецыяльны дакладчык ААН па пытанні аб становішчы з правамі чалавека ў Беларусі Міклаш Харасці, міжнародныя праваабарончыя арганізацыі Міжнародная федэрацыя за правы чалавека (FIDH), Civil Rights Defenders, Human Rights Watch і іншыя. 23 чэрвеня Алесь Бяляцкі наведаўся ў Крымінальна-выканаўчую інспекцыю Першамайскага РУУС Мінска, дзе быў пастаўлены на прафілактычны ўлік. У дачыненні да яго ўстаноўленыя «прафілактычныя» абмежаванні і абавязкі, згодна з якімі праваабаронцу раз на месяц павінен правяраць участковы, у выпадку выезду ў любы пункт Беларусі і за межы краіны на тэрмін больш за месяц неабходна пра гэта паведамляць у інспекцыю.

20 чэрвеня грамадская актывістка і рэжысёр Вольга Мікалайчык паведаміла са спасылкай на ліст палітвязня Яўгена Васьковіча, што яго ў чарговы раз змясцілі ў карцар. В.Мікалайчык сказала, што адміністрацыя Магілёўскай турмы забараніла дасылаць палітвязню часопісы і газеты, адзначаючы, што ён можа аформіць падпіску толькі за свае грошы.

26 чэрвеня 68-гадовая грамадская актывістка Кацярына Садоўская атрымала копію пастановы аб узбуджэнні ў адносінах да яе крымінальнай справы па ч. 2 арт. 368 Крымінальнага кодэкса (знявага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь). Паводле пастановы, справу распачаў 19 чэрвеня начальнік аддзела Савецкага раёна г. Мінска Следчага камітэта Беларусі, маёр юстыцыі Агафонаў А.Д. Падставай для крымінальнай справы стаў запіс, які Садоўская пакінула 28 красавіка 2014 г. у кнізе заўваг суда Савецкага раёна Мінска. На яго думку, у допісе Садоўскай утрымліваліся «у дачыненні да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь зневажальныя выразы і заведама ілжывыя, ганебныя, спалучаныя з абвінавачаннем у здзяйсненні цяжкіх і асабліва цяжкіх злачынстваў звесткі(...). «Так яна, загадзя пасягаючы на гонар, годнасць і аўтарытэт кіраўніка дзяржавы ў сувязі з ажыццяўленнем Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь паўнамоцтваў, ускладзеных на яго Канстытуцыяй і законамі, публічна зняважыла Прэзідэнта

Рэспублікі Беларусь у сваім пісьмовым звароце ў органы правасуддзя, ужыўшы зневажальныя словы, словазлучэнні і фразы, якія ўтрымліваюць непрыстойную, прыніжальную ацэнку Прэзідэнта РБ, наносяць урон гонару, годнасці, прыніжаюць аўтарытэт Кіраўніка дзяржавы ў вачах атачэння», — гаворыцца ў пастанове.

27 чэрвеня праваабаронца Наста Лойка атрымала ліст ад Васіля Парфянкова. Палітвязень, які адбывае пакаранне ў ПКТ (памяшканні камернага тыпу) папраўчай калоніі №9 у Горках, паведаміў, што нядаўна яго ў чарговы раз выклікалі і прапанавалі падпісаць абавязальніцтва пра законапаслухмяныя паводзіны і выкананне «законных» патрабаванняў адміністрацыі. В. Парфянкоў у чарговы раз адмовіўся гэта зрабіць, бо лічыць сваё зняволенне незаконным. Васіль Парфянкоў таксама паведаміў, што яго хвалюе тое, што з-за «парушэнняў» яму зноў пагражае нагляд, а ў яго ўжо болей за 20 парушэнняў.

## Смяротнае пакаранне

17 чэрвеня ў клубе «Графіці» ў Мінску адбылася прэзентацыя праекта беларускіх музыкаў «Апошні золак», прысвечанага праблеме смяротнага пакарання. У праекце ўзялі ўдзел шэраг вядомых музыкаў, сярод якіх Ганна Хітрык, Аляксандр Памідораў, Зміцер Вайцюшкевіч, Наста Шпакоўская, Віктар Рудэнка, Лявон Вольскі. У межах праекта сем беларускіх выканаўцаў прадставілі свае песні, у якіх распавялі пра найбольш распаўсюджаныя спосабы прывядзення ў выкананне выключнай меры пакарання. Палова з 14 песень праекта — новыя кампазіцыі, напісаныя адмыслова для «Апошняга золку». Другая палова — вядомыя песні, але ў новых версіях. Рэалізацыяй праекта займалася творчая каманда Tuzin.fm, а ініцыятарам выступіў Праваабарончы цэнтр «Вясна». Праект «Апошні золак» накіраваны ў першую чаргу на тое, каб звярнуць увагу саміх беларусаў на праблему, паколькі многія з іх да гэтага часу не ведаюць аб практыцы ўжывання ў Беларусі такога віду пакарання, як смяротнае.

## Ужыванне катаванняў і іншых відаў жорсткага і бесчалавечнага абыходжання

У пачатку чэрвеня жонка асуджанага Пятра Кучуры — Людміла Кучура, паведаміла, што ў канцы траўня атрымала з Упраўлення Следчага камітэта па Магілёўскай вобласці паведамленне аб тым, што прызначана праверка для ўстанаўлення факта атручвання хлорам зняволенага мужа і наступстваў гэтага атручвання, з гэтай мэтай будзе праведзена судова-

медыцынская экспертыза. Таксама па скаргах Людмілы Кучура запланавана і праведзена праверка згодна з артыкулам 174 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса РБ, паколькі яна прасіла распачаць крымінальную справу супраць асоб, вінаватых у прычыненні шкоды здароўю яе мужа. Для Людмілы Кучуры дадзенае паведамленне стала поўнай нечаканасцю, бо з моманту здзекаў з яе мужа ў ШІЗА ПК-15 прайшло амаль дзевяць месяцаў. Яна не выключыла, што ўздзеянне на сітуацыю магла аказаць яе скарга ў Камітэт па правах чалавека ААН, пададзеная ў сакавіку 2014 года, калі былі вычарпаны ўсе ўнутраныя сродкі прававой абароны па факце атручвання П. Кучуры хлоркавай вапнай, якая магла быць прыменена наўмысна як сродак катавання.

## Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні

5 чэрвеня суд Першамайскага раёна Мінска працягнуў прэвентыўны нагляд за Дзмітрыем Дашкевічам на 3 месяцы. Прычынай суддзя Леанід Ярмоленка назваў тое, што Дашкевіч некалькі разоў парушаў правілы прэвентыўнага нагляду. Пра працягненне тэрміну нагляду хадайнічала міліцыя Першамайскага раёна Мінска.

10 чэрвеня ў Гродна павінен быў пачацца адміністрацыйны працэс у дачыненні да 83-гадовай актывісткі польскага грамадскага руху Веранікі Себасцяновіч. Аднак адвакатка Юлія Юргелевіч паведаміла, што працэс пераносіцца ў сувязі з тым, што суддзя Таццяна Гергель толькі выйшла з адпачынку і не паспела дэталёва азнаёміцца з матэрыяламі справы. Пенсіянерку і камбатантку Вераніку Себасцяновіч абвінавачвалі ў кантрабандзе гуманітарнай дапамогі для сябраў ветэранскай арганізацыі — Звязу жаўнераў Арміі Краёвай у Беларусі. Справу ў дачыненні да Себасцяновіч у суд накіравала гродзенская мытня, якая 2 красавіка канфіскавала больш чым 70 скрынак з гуманітарнай дапамогай для ветэранаў АК ад польскай асацыяцыі «Одра-Нёман». 20 чэрвеня матэрыялы справы на Вераніку Себасцяновіч суд накіраваў «для ўхілення недахопаў» у Гродзенскую рэгіянальную мытню. Суддзя Таццяна Гергель дапытала двух сведак — Юрыя Аляксеева, які дапамагаў разгрузіць скрынкі з гуманітарнай дапамогай у пусты хлеў, а таксама аператыўнага ўпаўнаважанага рэгіянальнай мытні Максіма Качкоўскага, які ўдзельнічаў у групе, якая вымала скрынкі 2 красавіка. Пры гэтым Максім Качкоўскі не мог адказаць на пытанне суддзі, калі была выпісана санкцыя транспартнай пракуратуры на затрыманне і выманне згаданага грузу. Суддзя паводле матэрыялаў справы і сведчанняў так і не змагла ўстанавіць, калі ўсё ж была выпісана

і атрымана гэтая санкцыя. Урэшце прадстаўнік гродзенскай мытні Уладзімір Дзмітрыеў заявіў хадайніцтва пра адкліканне пратакола і яго дапрацоўку. Пасля невялікага перапынку суддзя Таццяна Гергель задаволіла гэтае хадайніцтва.

У ноч з 12-га на 13-га чэрвеня пры перасячэнні польска-беларускай мяжы для правядзення мытнага дагляду на дзве з паловай гадзіны быў затрыманы салігорскі маладафронтавец Іван Шыла. Па прыбыцці цягніка з Тэрэспаля ў Брэст беларускія памежнікі забралі ў маладзёна пашпарт. Паўтары гадзіны салігорац знаходзіўся ў невядомасці, пасля чаго яго накіравалі на поўны мытны дагляд, падчас якога прымусілі зняць майку, абутак і нават шкарпэткі. Пасля дагляду пыталіся пра наяўнасць у ноўтбуку матэрыялаў, якія супярэчаць дзяржаўнай ідэалогіі і нацыянальнай палітыцы. Такую ўвагу да сябе маладафронтавец лічыць рэхам мінулага чэмпіянату свету па хакеі. Тады, як і многіх іншых беларускіх грамадска-палітычных актывістаў, праваахоўныя органы расшуквалі Івана для прывентыўнага затрымання.

17 чэрвеня былі затрыманы чатыры графіцісты з Віцебска, якія ў двары на плошчы Перамогі ў Мінску пачалі маляваць партрэт Васіля Быкава на трансфарматарнай будцы. Затрыманыя Ілля, Сяргей, Арцём і Алег (прозвішчы прасілі не называць), якія належаць да каманды вулічных мастакоў HoodGraff, былі дастаўлены ў РУУС Партызанскага раёна, дзе на іх былі складзены пратаколы адміністрацыйнага правапарушэння па абвінавачанні ў нанясенні шкоды гарадской маёмасці. Алег Ларычаў, прадстаўнік суполкі Signal, якая запрасіла віцяблян правесці акцыю ў гонар 80-годдзя Васіля Быкава, напісаў у РУУС тлумачальную, аднак на справу гэта не паўплывала, і затрыманыя графіцісты былі дастаўлены ў суд Партызанскага раёна, які аштрафаваў кожнага з іх на 30 базавых велічынь.

17 чэрвеня вечарам супрацоўнікі міліцыі затрымалі і адвезлі ў аддзяленне бабруйскую актывістку кампаніі «Гавары праўду» Яніну Аўсянік, якая збірала подпісы за правядзенне «Народнага рэферэндума». Па меркаванні Яніны Аўсянік, праваахоўнікаў выклікала мясцовая жыхарка, якая перад гэтым паведаміла зборшчыцы подпісаў, што яе сын працуе ў міліцыі. Яніна паспела сабраць 34 подпісы, іх у аддзяленні забралі і не вярнулі. На жанчыну склалі пратакол, але Яна адмовілася яго падпісваць. Яе пратрымалі ў аддзяленні тры гадзіны і адпусцілі.

24 чэрвеня калегія Мінскага абласнога суда разгледзела касацыйную скаргу актывісткі аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціян-

ская Дэмакратыя» Наталлі Бордак на рашэнне суда Нясвіжскага раёна, згодна з якім 20 траўня яна была аштрафавана на 30 базавых велічынь. Мінскі абласны суд знайшоў шмат супярэчнасцяў і адмяніў судовую пастанову. У прыватнасці, у матэрыялах адміністрацыйнай справы адсутнічалі звесткі пра тое, ці была гэтая акцыя дазволеная гарадскімі ўладамі. Справа была накіравана ў той жа суд на новы разгляд. Наталлю Бордак асудзілі да штрафу ў памеры 30 базавых велічынь за несанкцыянаваны пікет, які суд угледзеў у тым, што 9 траўня жанчына выйшла ў гарадскі парк з плакатам «Не пуцінскай вайне ва Украіне». Яна патлумачыла свой учынак жаданнем выказаць пратэст агрэсіі Расіі супраць суседняй дзяржавы.

25 чэрвеня ў першай палове дня ў Мікашэвічах ва ўласным доме быў затрыманы актывіст кампаніі «Гавары праўду» Леанід Дубаносаў. Прычынай затрымання супрацоўнікі міліцыі назвалі лаянку матам і даставілі Леаніда ў мясцовае аддзяленне. У кабінеце маёр крымінальнага вышуку паводзіў сябе ветліва. У час затрымання актывіста яму паступіла некалькі званкоў ад журналістаў. Такія ж званкі паступалі і ў дзяжурную частку, дзе не ведалі, як каментаваць сітуацыю. Маёр прапанаваў Леаніду, што ён складзе пратакол за лаянку, але ў суд не накіруе, нібы таму, што Дубаносаў выбачыўся. Але актывіст не пагадзіўся. У выніку маёр перадумаў складаць пратакол, адзначыўшы, што лаянка яму падалася, «толькі, каб у прэсе больш нічога не было». Праз паўгадзіны пасля затрымання Леанід Дубаносаў быў вызвалены без складання пратакола. У знак кампенсацыі актывіста дадому адправілі на службовай машыне.

## Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі, пераслед журналістаў

2 чэрвеня рэдакцыя баранавіцкага выдання «Intex-press» атрымала ад арганізацый сістэм распаўсюду адмову ў супрацоўніцтве на другое паўгоддзе 2014 года. «Белпошта» адзначыла, што фармаванне падпіснога каталога друкаваных СМІ з'яўляецца правам РУП «Белпошта», што ўдзельнікі грамадзянскіх праваадносін «вольныя ва ўсталяванні сваіх правоў» і «на падставе вышэйзгаданага ўключэнне ў каталог «Intex-press» не падаецца магчымым». Брэсцкі філіял «Белпошта» і «Брэстаблсаюздрук» адказалі прыкладна тое ж, папярэдзіўшы рэдакцыю, што «прымус да заключэння дамоў не дапускаецца». Баранавіцкае выданне «Intex-press» было выключана з дзяржаўных сістэм распаўсюду ў 2006 годзе і з таго часу неаднаразова спрабавала аднавіць супрацоўніцтва, але кожны раз беспаспяхова.

9 чэрвеня журналістка з Бабруйска Марына Малчанава позвай была выклікана да маёра міліцыі Сяргея Рудзько ў мясцовы РУУС «для размовы». Размова прайшла без пратаколаў і нейкіх запісаў, яе сутнасць засталася для журналісткі незразумелай. Маёр паказаў ёй фотаздымкі з акцыі, якую яна бачыла ўпершыню, і прасіў назваць імёны людзей, якія ў ёй удзельнічалі. Сяргей Рудзько не паверыў у тое, што яна не з'яўляецца аўтарам вышэйзгаданых фотаздымкаў. А пасля пачаў выпытваць, дзе яна працуе, якім імем падпісвае свае матэрыялы і т.п. Пасля гадзіны падобных пытанняў Марына Малчанага сказала, што калі гэта проста «размова», якая не прывязана ні да якіх артыкулаў і заведзеных спраў, яна намерана сысці. У журналісткі склалася ўражанне, што супрацоўнік міліцыі хацеў зрабіць з яе ўласнага інфарматара. Марына Малчанава выказала намер абскардзіць дзеянні Сяргея Рудзько ў пракуратуру.

11 чэрвеня Брэсцкая абласная пракуратура вынесла афіцыйнае папярэджанне незалежнаму журналісту Максіму Хлябцу аб недапушчальнасці супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі. Падставай для папярэджання сталі два артыкулы, якія з'явіліся на сайце «Беларускага Радыё Рацыя»: «У Горадзе над Бугам будуць гукаць вясну» і «У Берасці адзначылі сусветны Дзень паэзіі», якія з'явіліся ў сакавіку. Афіцыйнае папярэджанне ўручыла пракурор Бахарава.

16 чэрвеня гродзенскага журналіста Андрэя Мялешку суд Кастрычніцкага раёна Гродна прызнаў вінаватым у незаконным вырабе прадукцыі СМІ і аштрафаваў на 30 базавых велічынь. Суд прыйшоў да высновы, што, рыхтуючы матэрыял для «Беларускага Радыё Рацыя» (Беласток, Польшча), Андрэй Мялешка дзейнічаў без акрэдытацыі Міністэрства замежных спраў Беларусі і парушаў артыкул 22.9 Адміністрацыйнага кодэкса. Падставай для завядзення справы супраць журналіста стала публікацыя, размешчаная 17 красавіка на інтэрнэт-старонцы «Беларускага Радыё Рацыя» і падпісаная псеўданімам Ігар Мікалаеў. Супрацоўнікі міліцыі на падставе сабраных сведчанняў сцвярджалі, што гэтая публікацыя была падрыхтаваная менавіта Андрэем Мялешкам, які не меў права працаваць без акрэдытацыі МЗС Беларусі. На папярэдніх пасяджэннях 4 і 11 чэрвеня суддзя Дзмітрый Кедаль спачатку выклікаў для ўдзелу ў працэсе дадатковых сведак, а пасля зрабіў запыт адносна вынесеных Андрэю Мялешку папярэджанняў пракуратуры за працу без акрэдытацыі.

17 чэрвеня прадстаўніца АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ Дуня Міятавіч выказала занепакоенасць з нагоды павелічэння колькасці штрафаў беларускім журналістам за працу без акрэдытацыі. «Я занепакоеная,

бо гэтая практыка можа эфектыўна забараніць журналістам выконваць сваю працу (...). Акрэдытацыя не павінна быць ліцэнзіяй на дзейнасць, і яе адсутнасць не павінна абмяжоўваць журналістаў у іх праве працаваць і свабодна выказваць сваё меркаванне, — адзначыла Міятавіч. — Усе журналісты павінны мець тыя ж прафесійныя правы, што і журналісты зарэгістраваных СМІ, — у тым ліку права на пошук і распаўсюд інфармацыі». Дуня Міятавіч таксама паведаміла, што 5 чэрвеня яна напісала міністру замежных спраў Уладзіміру Макею пра неабходнасць перагледзець патрабаванні акрэдытацыі журналістаў.

24 чэрвеня прэзідыум Вярхоўнага суда прыняў рашэнне накіраваць зыск уладальніка фірмы «БЕЛСАТплюс» Андрэя Белякова супраць тэлеканала «Белсат» на новы разгляд у сувязі з нібыта недасканалым вывучэннем доказаў па справе. Хадайніцтва пра гэта было накіравана ў Прэзідыум ВС намеснікам старшыні Вярхоўнага суда Аляксандрам Федарцовым. Афіцыйны прадстаўнік тэлеканала «Белсат» Міхась Янчук падчас пасяджэння даводзіў, што назва і лагатып тэлеканала зарэгістраваны ў Польшчы ў 2006-м годзе ў адпаведнасці з усімі еўрапейскімі юрыдычнымі нормамі і ніякім чынам не могуць парушаць правы Андрэя Белякова. Па словах жа Белякова, яго кампанія «БЕЛСАТплюс», што займаецца продажам абсталявання для прыёму спадарожнікавага і кабельнага тэлебачання, нібыта церпіць страты з-за сугучнасці з назвай тэлеканала. Нагадаем, што зыск супраць тэлеканала быў пададзены Бяляковым яшчэ ў траўні 2013 года, а 27 студзеня 2014-га калегія Вярхоўнага суда зыск адхіліла ў сувязі з тым, што Белякоў не прадставіў доказаў парушэння яго выключных правоў на гандлёвы знак. Цяпер жа, паводле рашэння Прэзідыума ВС, зыск Белякова супраць «Белсата» будзе слухацца наноў.

## Абмежаванне свабоды сходаў

5 чэрвеня некалькі дзясяткаў жыхароў Віцебска накіравалі калектыўны ліст у Савет Міністраў з просьбай паспрыяць змяненню рашэння Віцебскага гарвыканкама №881 ад 10.07.2009 г., якое рэгламентуе правілы звароту да ўладаў з заяўкамі на масавыя мерапрыемствы. Віцябляне прасілі таксама, каб Саўмін ініцыяваў зварот у Канстытуцыйны суд дзеля праверкі адпаведнасці гэтага дакумента Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Зварот ініцыяваў каардынатар Руху «За Свабоду» па Віцебскай вобласці Хрыстафор Жаляпаў. Ён патлумачыў неабходнасць гэткіх захадаў поўнай немагчымасцю правесці масавыя акцыі з ініцыятывы грамадскіх актывістаў, паколькі ўлады патрабуюць, каб разам з заяўкай іні-

цыятары прыкладалі дамовы на абслугоўванне супрацоўнікамі міліцыі, ЖКГ і медыкамі, а гэтыя структуры ўхіляюцца ад іх заключэння любымі магчымымі шляхамі. Змусіць да заключэння дамоў праз суды таксама не ўдавалося ні разу.

10 чэрвеня мазырскі праваабаронца Уладзімір Целяпун атрымаў адказ з сакратарыята Канстытуцыйнага суда на свой зварот. Пытанні і прапановы праваабаронца агучыў на прыёме грамадзян старшынёй КС, які праходзіў у Мазыры 28 траўня. Праваабаронца паставіў перад старшынёй КС некалькі пытанняў. У прыватнасці, прасіў праверыць на адпаведнасць Канстытуцыі рашэнне Мазырскага райвыканкама аб масавых мерапрыемствах, выканаць якое на практыцы немагчыма. Згодна рашэнню, заяўнік мітынга ці пікета павінен заключыць дамовы са спецыяльнымі службамі да атрымання дазволу з выканкама. Службы ж дамовы не заключаюць, спасылаючыся на адсутнасць дазволу на правядзенне мерапрыемства з боку выканкама. Як вырашыць дадзенае пытанне, якія механізмы выканання рашэння выканкама — адказ на гэтыя пытанні праваабаронца не атрымаў ні ў мясцовых улад, ні ў абласных, ні ў судах. У адказе з сакратарыята Канстытуцыйнага суда замест разгляду звароту па сутнасці было сказана, што «нагляд за дакладным і аднастайным выкананнем заканадаўства ў сферы мясцовага кіравання і самакіравання ажыццяўляюць Генеральны пракурор і падначаленыя яму пракуратуры». Грамадзяне ж, згодна адказу з сакратарыята КС, «звяртаюцца з ініцыятывай аб унясенні прапаноў, разгляд якіх падведамны КС, да прэзідэнта і органаў, якія валодаюць правам унясення ў Канстытуцыйны суд прапаноў».

12 чэрвеня пенсіянеру Васілю Хадзькову чыноўнікі Мінскага гарвыканкама ў пяты раз за апошнія паўгода адмовілі ў пікетаванні. Акцыя была запланавана на 15 чэрвеня каля слупа з асвятляльным ліхтаром пасярод сквера «Палянка» паміж вуліцамі Лібкнехта, Карпава і Люксембург ў Маскоўскім раёне сталіцы. Прычым заяўнік звярнуў увагу чыноўнікаў на тое, што прапанаванае месца пікетавання адпавядае нормам Закона «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь». Падчас акцыі з удзелам заяўніка і на ягоныя сродкі меркавалася выкарыстаць плакаты наступнага зместу: «Дом знеслі (2009 год), метро пусцілі (2012 год), а кватэру даць забылі!», «У Канстытуцыі правы і свабоды — на паперы, а мне яны патрэбныя ў жыцці!» і «На выснове якой нормы права мне — уласніку знесенага дома адмоўлена ў новай кватэры?». Аднак чыноўнікі адмовілі пенсіянеру ў правядзенні акцыі на падставе таго, што 15 чэрвеня УП «Зяленбуд Маскоўскага раёна горада Мінска» з удзелам грамадскасці

будзе праводзіць працы па добраўпарадкаванні сквера «Палянка». Трэба адзначыць, што ранейшыя адмовы на правядзенне акцыі ў гэтым жа месцы матываваліся таксама неабходнасцю добраўпарадкавання тэрыторыі сквера і пакосам травы.

13 чэрвеня чатыры дзясяткі жыхароў Глыбокага падпісаліся пад калектыўным лістом у Савет Міністраў, дзе выкладзена просьба аб ініцыяванні звароту ў Канстытуцыйны суд з мэтай ацэнкі рашэння Глыбоцкага райвыканкама №167 «Аб вызначэнні месцаў для правядзення мітынгаў і пікетавання» на адпаведнасць Асноўнаму закону. Глыбоцкі актывіст Зміцер Лупач мэту звароту патлумачыў тым, што пасля прыняцця рашэння райвыканкама ў цяперашнім ягоным выглядзе не было дазволена ніводнай масавай акцыі. У рашэнні ёсць пункт, згодна з якім трэба разам з заяўкай падаваць копіі дамоў на абслугоўванне акцыі службамі ЖКГ, міліцыяй і паліклінікай, але без дазволу на правядзенне мерапрыемства ніхто не бярэцца заключаць такія дамовы — атрымліваецца замкнёнае кола.

15 і 17 чэрвеня Гомельская абласная арганізацыя партыі левых «Справядлівы свет» планавала правесці пікеты, але атрымала адмову з гарвыканкама. Мэтай пікета 15 чэрвеня была «падтрымка дзеянняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па барацьбе са злоўжываннямі і карупцыяй сярод чыноўнікаў», пікет, планаваны на 17 чэрвеня, меў мэту папулярызацыі сярод жыхароў Гомеля кампаніі партыі «Справядлівы свет» «Стоп кошты». Прычына адмовы — невыкананне пунктаў рашэння гарвыканкама «Аб масавых мерапрыемствах», а дакладней — адсутнасць платных дамоў на медыцынскае абслугоўванне падчас правядзення пікетаў і ўборку тэрыторыі пасля іх правядзення. Старшыня абласной арганізацыі партыі Уладзімір Сякерка адзначыў, што заяўнікі пікетаў своечасова падалі заявы на заключэнне дамоў з прадпрыемствам «ГОРСАП» і цэнтральнай паліклінікай, аднак і камунальныя службы, і хуткая дапамога па надуманых прычынах адмовіліся заключаць дамовы. Станцыя хуткай дапамогі спаслалася на «загружанасць станцыі ў летні час», а «ГОРСАП» — на «востры недахоп прыбіральшчыкаў вулічнай тэрыторыі». Гомельская цэнтральная гарадская паліклініка, да якой і належыць станцыя хуткай дапамогі, на заяву наогул адказу не дала. У адрас Гомельскага гарвыканкама быў накіраваны ліст з просьбай прыняць меры па безумоўным выкананні з боку прадпрыемства «ГОРСАП» і Гомельскай цэнтральнай гарадской паліклінікі рашэння гарвыканкам, а таксама даць інфармацыю: з якімі юрыдычнымі асобамі можна заключыць дамову на медыцынскае абслугоўванне падчас правядзення

масавага мерапрыемства. У адрас «ГОРСАП» і цэнтральнай паліклінікі таксама былі накіраваны лісты з просьбай вызначыць даты, калі яны змогуць аказаць паслугі, вызначаныя рашэннем гарвыканкама. Адначасова 23 чэрвеня ў суд Цэнтральнага раёна Гомеля была накіравана скарга на дзеянні службовых асоб дзяржаўных органаў, якія ўшчамляюць канстытуцыйнае права на свабоду правядзення масавых мерапрыемстваў і як следства — на свабоду выказвання свайго меркавання.



Алесь Бяляцкі вызвалены згодна з законам аб амністыі. *У цягніку Бабруйск-Мінск, 21 чэрвеня 2014 г.*



Алеся Бяляцкага сустракаюць у Мінску пасля вызвалення з бабруйскай калоніі. З жонкай Наталляй Пінчук. *21 чэрвеня 2014 г.*




Першая прэс-канферэнцыя Алеся Бяляцкага на волі. *Мінск, 23 чэрвеня 2014 г.*



Алесь Бяляцкі здымае плкат салідарнасці з ім. *Вільня, Беларускі Дом правоў чалавека, 27 чэрвеня 2014 г.*



З гродзенскай турмы вызвалены палітвязень Мікалай Аўтуховіч. *8 красавіка 2014 г.*



Пасля 4 гадоў зняволення з івацэвіцкай калоніі вызвалены Эдуард Лобаў. *18 снежня 2014 г.*



Вызвалены з горацкай калоніі Васіль Парфянкоў. Першыя хвіліны на волі. *Орша, 5 снежня 2014 г.*



З «Віцьбы-3» вызвалены Андрэй Гайдукоў. *Віцебск, 8 траўня 2014 г.*



З арыштнага дома ў Баранавічах вызвалены Уладзімір Яроменак. *11 сакавіка 2014 г.*




Судовае паседжанне па справе Юрыя Рубцова.
*Мінск, суд Цэнтральнага раёна, 16 верасня 2014 г.*



У такім выглядзе Юрыя Рубцова судзілі пасля “Чарнобыльскага шляху”.
Майку з надпісам “Лукашэнка, сыходзь” супрацоўнікі міліцыі забралі.
*Мінск, суд Савецкага раёна, 28 красавіка 2014 г.*




Пікет у падтрымку палітвязняў у Дзень правоў чалавека.
*Брэст, 10 снежня 2014 г.*




Віктара Паўлавіча, бацьку палітвязня Мікалая Статкевіча,
віншуюць з Днём нараджэння сына. *Баранавічы, 12 жніўня 2014 г.*



Праваабаронца Алена Танкачова ў РУУС Першамайскага раёна Мінска падчас разгляду справы аб яе высылцы з Рэспублікі Беларусь.
*5 лістапада 2014 г.*



Гродзенскія праваабаронцы Віктар Сазонаў і Уладзімір Хільмановіч
былі прыцягнутыя да адказнасці за несанкцыянаванае масавае мерапрыемства
на падставе здымкаў у інтэрнэце. Быў пакараны таксама Раман Юргель.
*Гродна, 25 сакавіка 2014 г.*



Журналіст Андрэй Мялешка — тройчы за год аштрафаваны па абвінавачанні ў незаконным вырабе і распаўсюдзе інфармацыйнай прадукцыі.
*Гродна, 30 траўня 2014 г.*



Шэсць удзельнікаў фотасесіі атрымалі штрафы, адзін быў арыштаваны пасля з’яўлення здымкаў у інтэрнэце.
*Віцебск, 5 лістапада 2014 г.*



Фатограф Уладзімір Грыдзін у міліцэйскім аўтамабілі пасля затрымання разам з удзельнікамі акцыі па раздачы стужак з нацыянальным арнаментам.
*Мінск, 6 снежня 2014 г.*




Маці расстралянага Аляксандра Грунова даслалі турэмную робу сына. *Гомель, 5 лістапада 2014 г.*



На фотавыставе «Вышэйшая мера». Аўтар — Сяргей Балай пры ўдзеле кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакараня». *Мінск, 7 кастрычніка 2014 г.*




Прэс-канферэнцыя ў Сусветны дзень супраць смяротнага пакарання. Валянцін Стэфановіч, Тамара Чыкунова, Андрэй Палуда (злева направа). *Мінск, 10 кастрычніка 2014 г.*




Збор подпісаў
за вылучэнне
кандыдатаў
у дэпутаты.
*Орша,*
*5 лютага 2014 г.*




Супрацоўнікі міліцыі
патрабуюць
у зборшчыкаў подпісаў
за вылучэнне кандыдатаў
у дэпутаты прыбраць
нацыянальны сцяг.
*Гомель, 1 лютага 2014 г.*



Выбары
ў мясцовыя саветы.
Падлік галасоў
на ўчастку №23
г. Салігорска.
*23 сакавіка 2014 г.*




«Дзень Волі». *Мінск, 25 сакавіка 2014 г.*




«Чарнобыльскі шлях». *Мінск, 26 красавіка 2014 г.*




«Дзяды» — традыцыйнае шэсце ў Дзень памяці продкаў.
*Мінск, 2 лістапада 2014 г.*




Пікет супраць расійскіх вайсковых баз у Беларусі.
Арганізатар — Уладзімір Гундар аштрафаваны
за правядзенне несанкцыянаванага масавага мерапрыемства.
*Баранавічы, 4 сакавіка 2014 г.*




Акцыя салідарнасці з Украінай «Мы любім украінскі боршч».
*Мінск, 9 верасня 2014 г.*




Акцыя салідарнасці з палітвязнямі.
*Брэст, 16 лістапада 2014 г.*




Акцыя ў падтрымку палітвязняў.
*Салігорск, 28 чэрвеня 2014 г.*



Баранавіцкія актывісты віншуюць палітвязняў з Калядамі
і Новым годам. *15 снежня 2014 г.*

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Ліпень 2014 года

У ліпені захоўвалася стабільна цяжкая сітуацыя з правамі чалавека, нязменным заставаўся сістэмны і сістэматычны характар іх парушэнняў. Скрайне лімітаванымі былі магчымасці рэалізацыі грамадзянскіх і палітычных правоў, сярод якіх найбольшыя праблемы фіксаваліся са свабодай выказвання меркаванняў і свабодай сходаў, ужываліся адвольныя затрыманні і арышты, судовая сістэма заставалася залежнай ад выканаўчай улады.

Прынцыпова нявырашанай заставалася праблема палітычных зняволеных, нягледзячы на заўважнае пацяпленне ў стасунках Еўрапейскага Саюза і беларускага афіцыйнага боку, пачатак перамоваў па некаторых пытаннях пры захаванні ранейшай рыторыкі па праблеме палітвязняў. 9 ліпеня адбылося скарачэнне санкцыйнага спісу адносна васьмі беларускіх службовых асоб, уезд якім на тэрыторыю Еўрасаюза быў забаронены. Адначасова ў спіс быў дададзены суддзя шклоўскага раённага суда Віталь Волкаў, які ў студзені 2012 года прыняў рашэнне аб пераводзе экс-кандыдата ў прэзідэнты Беларусі Мікалая Статкевіча ў турму закрытага тыпу ў Магілёве на падставе таго, што Статкевіч нібыта парушаў правілы зняволення ў папраўчай калоніі № 17 Шклова. «Дадзенае рашэнне прывяло да парушэння правоў Статкевіча, у тым ліку пазбаўлення сну і пагрозе здароўю», — адзначалася ў афіцыйным паведамленні ЕС. Кіраўнік дэпартамента палітыкі, інфармацыі і прэсы прадстаўніцтва ЕС у Беларусі Рудольф Рышар заявіў, што выключэнне шэрагу чыноўнікаў з абмежавальнага спісу не азначае змены палітыкі ЕС у дачыненні да Беларусі. На прамое пытанне, ці звязана скарачэнне чорнага спісу з нядаўнім вызваленнем праваабаронцы Алеся Бяляцкага, Рышар адказаў адмоўна. Адмену санкцый у дачыненні да васьмі чалавек еўрапейскі дыпламат растлумачыў так: «Больш няма прычын для знаходжання гэтых асоб у спісе асоб і арганізацый, на якіх распаўсюджваюцца абмежавальныя меры». «Рашэнне аб выключэнні гэтых асоб не адлюстроўвае якое-небудзь змяненне ў палітыцы ЕС у адносінах да Беларусі, як яна выкладзена ў Высновах Савета ЕС ад 15 кастрычніка 2012 года: ЕС працягвае палітыку крытычнага ўзаемадзеяння з Беларуссю, уключаючы палітыку абмежавальных мер з тым, каб спрыяць выкананню правоў чалавека, вяршэнства закона і дэмакратычных прынцыпаў у Беларусі», — падкрэсліў Рышар. Паводле яго слоў, ЕС па-ранейшаму патрабуе ад беларускіх уладаў «вызваліць усіх

палітычных зняволеных і аднавіць іх у іх грамадзянскіх і палітычных правах». На пытанне, ці вядуцца ў цяперашні час кансультацыі з беларускім бокам аб далейшых кроках па выкананні патрабаванняў ЕС, Рышар адказаў: «Абмеркаванні з беларускім бокам ідуць рэгулярна. У ходзе гэтых абмеркаванняў ЕС нагадвае пра сваю пазіцыю па пытанні палітычных зняволеных».

У гэтым жа рэчышчы выказаўся і міністр замежных спраў Літвы Лінас Лінкявічус 25 ліпеня падчас працоўнага візіту ў Беларусь, мэтай якога была магчымасць абмеркаваць беларуска-літоўскія адносіны і «той дыялог, які вядзецца паміж Беларуссю і Еўрасаюзам». Л. Лінкявічус адзначыў, што паміж ЕС і беларускімі ўладамі захоўваюцца «такія праблемы, якія доўгі час не вырашаюцца. Але ўсё ж ёсць некаторыя пазітыўныя, скажам, моманты з нашага пункту гледжання. Усё яшчэ не вырашанае пытанне палітзняволеных, якое мы заўсёды ўздымаем, але вызваленне Алеся Бяляцкага мы лічым крокам у пазітыўны бок». Як паведаміў Лінкявічус, пытанне аб вызваленні беларускіх палітзняволеных уздымалася на яго сустрэчах з прэм'ер-міністрам Міхаілам Мясніковічам і міністрам замежных спраў Уладзімірам Макеем. «Трэба яшчэ некалькі захадаў зрабіць, каб зняць важную перашкоду (наяўнасць палітзняволеных), якая замінае дыялогу і таму, каб мы маглі выкарыстоўваць нашы адносіны на карысць для эканамічных, культурных і іншых сувязяў».

Такім чынам, найбольш важкі ў пытанні палітвязняў знешні фактар прынцыпова не змяніў сітуацыю з палітычнымі зняволенымі. За кратамі працягвалі ўтрымлівацца Мікалай Статкевіч, Эдуард Лобаў, Мікалай Дзядок, Яўген Васьковіч, Арцём Пракапенка, Ігар Аліневіч і Васіль Парфянкоў. Беларускія ўлады не прадэманстравалі палітычнай волі адносна іх вызвалення, а прававыя інструменты заставаліся для іх недаступнымі.

## Палітычныя зняволеныя, крымінальны пераслед грамадскіх актывістаў

5 ліпеня Марына Лобава паведаміла пра тэлефанаванне яе сына, палітвязня Эдуарда Лобава, з Івацэвіцкай калоніі. Падчас званка Эдуард распавёў, што завершыў навучанне на электрагазазваршчыка, паспяхова здаў экзамен і атрымаў дыплом, які ў яго адразу забралі. Паводле ўнутраных правіл, дакументаў у зняволеных на руках не можа быць, дыплом павінны аддаць падчас вызвалення. 17 ліпеня адбылося кароткатэрміновае спатканне Марыны Лобавай з сынам цягам дзвюх гадзін праз шкло па тэлефоне. Эдуард на ўмовы ўтрымання не скардзіўся. Яму была перададзены прадуктовая перадача, у тым ліку — гародніна і садавіна.

7 ліпеня актывістка і рэжысёр Вольга Мікалайчык паведаміла са спасылкай на ліст палітвязня Васіля Парфянкова, што яго пакаралі ШІЗА на 5 сутак за адмову выйсці на «добраахвотныя працы». Паводле звестак ад Васіля Парфянкова, ён шмат чытае, слухае радыё, а тэлевізара ў ягонай камеры няма. Палітвязню забаронена атрымліваць газеты па падпісцы, але яму дасылаюць свае выданні рэдакцыі «Нашай Нівы» і «Новага часу». 26 ліпеня бацька В. Парфянкова паведаміў, што сям'я мае праблемы з перапіскай са зняволеным. У апошнім лісце, атрыманым у сярэдзіне ліпеня, Васіль Парфянкоў напісаў, што апошні ліст ад бацькоў атрымаў 30 красавіка, а адпраўленыя 5 траўня заказным лістом газеты не атрымаў увогуле.

12 ліпеня Валерыя Хоціна, жонка палітвязня Мікалая Дзядка, паведаміла, што яе муж перанёс аперацыю ў Магілёўскай турме — яму выразалі пазногаць, які выразалі ўжо двойчы, але калі ён зноў адрастае, то ўзнікае запаленне. Палітвязень папрасіў родных даслаць яму новы англійска-рускі слоўнік. В. Хоціна адзначыла таксама, што М. Дзядок у турме вучыць арабскую мову, ужо вывучыў 200 слоў, але не ведае, ці дакладна вымаўляе.

15 ліпеня ў Магілёўскай папраўчай калоніі № 15 палітвязень Арцём Пракапенка сустрэўся з бацькамі. Доўгатэрміновае спатканне з асуджаным сынам у Віялеты і Анатоля Пракапенкі было скарочана да адных сутак, паколькі Арцём лічыцца злосным парушальнікам рэжыму і на даўжэйшае спатканне не мае права. Маці зняволенага адзначыла, што ён дужа змяніўся, схуднеў на 5 кілаграм і мусіў абмежаваць заняткі спортам, бо з'явіліся праблемы з суставамі, узніклі праблемы і з зубамі. А. Пракапенка паведаміў бацькам, што з прапановамі напісаць просьбу аб памілаванні да яго не звяртаюцца, а таксама што за два тыдні да спаткання атрымаў новае спагнанне, што замацавала статус злоснага парушальніка рэжыму (апошняе спагнанне было вынесена ў верасні 2013 года).

21 ліпеня Марына Адамовіч, жонка палітвязня Мікалая Статкевіча, са спасылкай на ліст мужа паведаміла пра пагаршэнне ўмоў атрымання карэспандэнцыі ў Магілёўскай турме: газеты прыносяць з вялікім спазненнем і толькі пасля патрабаванняў, кнігі з бібліятэкі прыносяць выключна тыя, якія зняволены ўжо чытаў. Зафіксаваны выпадкі затрымання лістоў палітвязня, напрыклад, у адным з якіх пісалася, што памер турэмнага дворыка 5 на 7 крокаў, ісці да яго ад камеры вязню 35 крокаў, але і на гэтай адлегласці яго сцерагуць ахоўнікі з двума сабакамі. 26 ліпеня Марына Адамовіч паведаміла, што падчас тэлефанавання Мікалай Статке-

віч распавёў, што ў турме пачасціліся дробныя правакацыі, звязаныя з карэспандэнцыяй і магчымасцямі атрымліваць газеты, а таксама што з ім часцей сталі праводзіць выхаваўчыя гутаркі. Вязень таксама адзначыў, што за апошнія 4 месяцы ўпершыню далі бігас, і хаця ён быў прыгатаваны з капусты мінулагодняга ўраджаю, гэта была адна з нешматлікіх страваў з гародніны.

21 ліпеня бацька палітвязня Ігара Аліневіча Уладзімір Аліневіч паведаміў, што ягонага сына перавялі з Наваполацкай калоніі ў калонію Віцьба-3, якая знаходзіцца непадалёк ад Віцебска. Пра гэта родныя палітвязня атрымалі афіцыйнае паведамленне з Дэпартамента выканання пакаранняў. 26 ліпеня бацькі атрымалі першы ліст ад Ігара Аліневіча з новага месца адбыцця пакарання. Палітвязень адзначыў лепшы экалагічны стан у Віцьбе-3 у параўнанні з Наваполацкам. Ён таксама паведаміў, што згодна з правіламі калоніі ён зможа раз на тры месяцы тэлефанаваць дадому (у наваполацкай калоніі за 4 гады ён атрымаў толькі 5 званкоў, што тлумачылася адсутнасцю тэхнічных магчымасцяў).

### Смяротнае пакаранне

2 ліпеня Генеральны сакратар ААН Пан Гі Мун, выступаючы ў штаб-кватэры ААН у Нью-Ёрку на спецыяльным мерапрыемстве, прысвечаным перадавой практыцы і выклікам у рэалізацыі мараторыя на смяротнае пакаранне, заявіў, што смяротнаму пакаранню не павінна быць месца ў XXI стагоддзі. «Дваццаць пяць гадоў таму толькі чвэрць дзяржаў-членаў ААН забаранілі смяротнае пакаранне. Сёння больш за чатыры з пяці дзяржаў, прыкладна 160 дзяржаў-членаў, альбо ўвялі забарону на смяротнае пакаранне, альбо не звяртаюцца да яе на практыцы». Пан Гі Мун заклікаў усе дзяржавы ратыфікаваць Другі Факультатыўны пратакол да Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, накіраваны на адмену смяротнага пакарання; падтрымаць рэзалюцыю Генеральнай Асамблеі ААН аб увядзенні мараторыя на ўжыванне смяротнага пакарання; а таксама прыняць канкрэтныя крокі па адмове ад смяротнага пакарання на нацыянальным узроўні.

15 ліпеня з асуджаным да смяротнага пакарання жыхаром Гомеля Аляксандрам Груновым сустрэўся адвакат Сяргей Красноў. Па словах адваката, паколькі старшыня Вярхоўнага суда Валянцін Сукала асабіста пакінуў без задавальнення ягоную наглядную скаргу, абмяркоўвалася магчымасць падачы яшчэ адной нагляднай скаргі на імя старшыні Вярхоўнага суда непасрэдна ад самога Грунова. Гэта апошняя магчымасць

звярнуць увагу на змякчаючыя віну абставіны, пра якія ў гэтай справе заявіла судовая калегія па крымінальных справах ВС, адмяніўшы першы смяротны прысуд. Аляксандр Груноў і яго маці таксама звярнуліся з прашэннем аб памілаванні непасрэдна да прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. Аднак у выніку адмоўнага разгляду прашэння асуджанаму нічога не паведамляецца, рашэнне яму зачытваецца непасрэдна перад выкананнем прысуду. Разам з тым, пасля рэгістрацыі праваабаронцамі ў Камітэце па правах чалавека ААН індывідуальнай скаргі Аляксандра Грунова ўраду Беларусі накіравана просьба не прыводзіць смяротны прысуд у выкананне да моманту разгляду скаргі па сутнасці. Стала вядома, што Аляксандра Грунова ў камеры смяротнікаў рэгулярна наведвае святар.

## Ужыванне катаванняў і іншых відаў жорсткага і бесчалавечнага абыходжання

1 ліпеня афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь Юлія Ганчарова паведаміла, што факту гвалтоўнай смерці ў СІЗА N1 г. Мінска асуджанага Ігара Пцічкіна не ўстаноўлена. «З матэрыялаў крымінальнай справы фактаў ужывання ў дачыненні да І.Пцічкіна гвалту, фізічнай сілы і спецсродкаў, як супрацоўнікамі ізалятара, так і іншымі асобамі, у перыяд знаходжання яго ў СІЗА N1 не бачыцца». Яна таксама адзначыла, што следствам атрыманы доказы сістэматычнага ўжывання загінулым курыльных сумесяў, якія ўтрымліваюць наркатычныя і псіхатропныя рэчывы, у перыяд з 2011 па 2013 год. «Следствам устаноўлена, што праз некалькі дзён знаходжання ў следчым ізалятары ў І.Пцічкіна пачалі выяўляцца і нарастаць прыкметы вострага псіхічнага расстройства, выяўленыя ў галюцынацыі, трызненні, адмове ад ежы і пітва, маніі пераследу. З гэтай прычыны апошні быў шпіталізаваны ў медычную частку ізалятара, дзе праз некаторы час наступіла яго смерць», — паведаміла прадстаўнік СК. Яна таксама адзначыла, што ў моманты абвастрэння стану асуджанага яго цела фіксавалася рамянямі. Гэта, як і пашкоджанні, атрыманыя самім асуджаным у моманты нарастання псіхічнага расстройства, выкліканага сіндромам адмовы, тлумачыць выяўленыя на целе памерлага раны і гематомы. Эксперты вызначылі, што названыя пашкоджанні характарызуюцца як лёгкія цялесныя і не знаходзяцца ў прычынна-следчай сувязі са смерцю. Паводле слоў прадстаўніка СК, у дачыненні да медыцынскага персаналу следчага ізалятара аб неналежным выкананні прафесійных абавязкаў, якія прывялі па неасцярожнасці смерць асуджанага, расследаванне крымінальнай справы працягваецца. «Прызначаны комплексная камісійная, паўторная судова-медыцынская, судова-псіхіятрычная экспертызы і судова-медычная экспертыза правільнасці выканання пра-

фесійных абавязкаў медыцынскімі работнікамі. Вынікі гэтай экспертызы ўстановяць прычыны смерці І. Пцічкіна, а таксама правільнасці аказання медыцынскай дапамогі медыцынскім персаналам следчага ізалятара». Раней Галоўнае следчае ўпраўленне СК прыняло да вытворчасці крымінальную справу ў дачыненні да работніка медыцынскай часткі СІЗА N1 дэпартамента выканання пакаранняў МУС па Мінску і Мінскай вобласці, які падазраецца ў неналежным выкананні прафесійных абавязкаў, якое пацягнула па неасцярожнасці смерць асуджанага І. Пцічкіна. Інфармацыя пра тое, што ў СІЗА памёр мінчанін, з'явілася ў Інтэрнэце са спасылкай на маці зняволенага, якая паведаміла, што на целе яе сына «выяўленыя шматлікія сінякі і гематомы». Сваякоў памерлага апавясцілі, што па выніках ускрыцця папярэдняй прычынай смерці мінчука з'яўляецца спыненне сэрца. Маці нябожчыка Жана Пцічкіна звяртае ўвагу, што прычыны гэтага спынення не выяўлены і не названы следчымі.

10 ліпеня стала вядома, што старшыня Гомельскага абласнога суда Сяргей Шаўцоў адмовіў у задавальненні нагляднай скаргі жыхарцы Светлагорска Валянціне Акуліч, якая больш за два гады дамагаецца пакарання для супрацоўнікаў міліцыі, датычных да смерці яе сына. Яшчэ ў траўні Светлагорскі раённы суд адхіліў скаргу на чарговую пастанову следчага аддзела Следчага камітэта аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы ў дачыненні да супрацоўнікаў Светлагорскага РАУС. Жанчына настойвала, што дзеянні Сцешанкова Р.І. і Бачко А.А. злачынныя, паколькі замест своечасовага выкліку медыкаў для аказання дапамогі яе сыну, у якога праявіліся часовыя парушэнні ў псіхіцы, дзяжурныя па ІЧУ «супакойвалі» яго з дапамогай дубінак. «26 траўня 2012 года, знаходзячыся ў ІЧУ Светлагорскага РАУС, Акуліч А.А. сканаў. Прычынай яго смерці, як устаноўлена заключэннямі судова-медыцынскіх экспертызаў, у тым ліку і комплекснай ад 20 траўня 2013 года за № 169, з'явілася хранічная алкагольная інтаксікацыя, якая ўскладнілася развіццём стану адмены алкаголю з дэлірыем і ацёкам галаўнога мозга. Акрамя гэтага, былі выяўлены цялесныя пашкоджанні ў выглядзе шматлікіх ранак і сінякоў, якія адносяцца да катэгорыі лёгкіх і якія ў прычыннай сувязі са смерцю Акуліча А.А. не знаходзяцца...» — адказаў старшыня аблсуда Шаўцоў, адмаўляючы ў задавальненні скаргі. Цягам года на сапраўдную прычыну смерці А. Акуліча ні следства, ні суд зважаць не жадаюць. Перад імі ставілася пытанне: чаму дзяжурныя па ІЧУ Сцешанкоў Р.І. і Бачко А.А. не панясуць пакарання за свае злачынныя дзеянні, бо замест своечасовага выкліку медыкаў для аказання дапамогі адміністрацыйна арыштаванаму, у якога праявіліся часовыя парушэнні ў псіхіцы, яны паўгадзіны «супакойвалі» яго з дапамогай дубінак, а «хуткую» выклікалі толькі тады, калі ў яго спынілася дыханне.

18 ліпеня Людміла Кучура — жонка асуджанага Пятра Кучуры, паведаміла, што пасля правядзення праверкі, якой яна доўга дамагалася, Магілёўскі міжраённы аддзел Следчага камітэта адмовіў ва ўзбуджэнні крымінальнай справы па факце неправамоцных дзеянняў супрацоўнікаў адміністрацыі ПК-15 г.Магілёва. Праверка па факце атручвання асуджанага Пятра Кучуры ў камеры ШІЗА магілёўскай калоніі парамі хлоркавай вапны была прызначана ў канцы траўня Упраўленнем СК па Магілёўскай вобласці пасля таго, як з дапамогай праваабаронцаў у Камітэт па правах чалавека ААН была накіравана скарга, у якой паведамлялася пра верагоднасць наўмыснага прымянення персаналам калоніі хлоркавай вапны як сродку катавання, жорсткага, бесчалавечнага абыходжання. УСК абяцала, што падчас праверкі будзе праведзена судова-медыцынская экспертыза для выяўлення наступстваў атручвання ў арганізме Пятра Кучуры. У выніку старэйшы следчы Магілёўскага міжраённага аддзела Следчага камітэта П.Л. Скавародкін адмовіў ва ўзбуджэнні крымінальнай справы. Сваё рашэнне следчы Скавародкін патлумачыў адсутнасцю ў дзеяннях супрацоўнікаў адміністрацыі ПК-15 складу злачынства, прадугледжанага артыкулам 426 КК РБ «Перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў». Людміла Кучура абскардзіла гэтае рашэнне гарадскому пракурору. У скарзе яна паведаміла, што калі б праверка была праведзеная своечасова, то абставіны справы высвятляць было б прасцей. Яна лічыць неабходным дапоўніць матэрыялы праверкі і прызначыць судова-медыцынскую экспертызу, даследуючы не медыцынскія дакументы, а непасрэдна пацярпелага П. Кучуру на прадмет наяўнасці ў яго слядоў уздзеяння хімічнага рэчыва. Той факт, што яму не было аказана своечасова неабходнай медыцынскай дапамогі і не было праведзена абследаванне, якраз і быў прадметам скаргаў. Таму, лічыць Л. Кучура, абгрунтоўваць адсутнасцю запісаў пра цялесныя пашкоджанні адсутнасць саміх пашкоджанняў няправільна. Пракурор горада Магілёва, разгледзеўшы скаргу Л. Кучуры на адмову ва ўзбуджэнні крымінальнай справы супраць супрацоўнікаў ПК-15, адмяніў дадзеную пастанову. «Пракуратурай г. Магілёва матэрыял праверкі вывучаны, 22.07.2014 пастанову аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы адменена, матэрыял накіраваны ў Магілёўскі міжраённы аддзел следчага камітэта для правядзення дадатковай праверкі», — паведаміў пракурор Мікалай Вульвач.

## Пераслед праваабаронцаў і праваабарончыя арганізацыі

8 ліпеня праваабаронцу Тамару Сяргей выклікалі ў Генеральную пракуратуру да намесніка начальніка аддзела за выкананнем правоў і свабод грамадзян Паўла Елісеева. Супрацоўнік пракуратуры цікавіўся, ці за-

рэгістравалася Грамадзянская ініцыятыва супраць беззаконня ў судах і пракуратуры, а таксама тым, у якія дзяржаўныя структуры апошнім часам звярталіся сябры ініцыятывы. Затым Павел Елісееў нагадаў, што 23 красавіка 2013 года Генпракуратура вынесла Тамары Сяргей афіцыйнае папярэджанне аб крымінальнай адказнасці па артыкуле 193-1 Крымінальнага кодэкса за арганізацыю дзейнасці незарэгістраванага грамадскага аб'яднання. Праваабаронца перадала Паўлу Елісееву свае пісьмовыя тлумачэнні і адмовілася падпісваць пратакол размовы. У сваіх пісьмовых тлумачэннях Тамара Сяргей звярнула ўвагу на тое, што права звяртацца да чыноўнікаў, у тым ліку калектыўна, забяспечана Канстытуцыяй. Тамара Сяргей лічыць чарговы выклік у Генпракуратуру актам запалохвання, які павінен прымусіць яе адмовіцца ад сваіх канстытуцыйных правоў і свабод. З 22 ліпеня падпісантаў калектыўных зваротаў у Адміністрацыю прэзідэнта — актывістаў Грамадзянскай ініцыятывы супраць беззаконня ў судах і пракуратуры — пачалі выклікаць на апытанні ў Галоўнае ўпраўленне па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй Міністэрства ўнутраных спраў. Так, 22 ліпеня на працягу дзевяці гадзін без перапынку на абед — з 10.00 да 19.00 — супрацоўнік упраўлення, старэйшы оперупаўнаважаны па асабліва важных справах, маёр міліцыі апытаў чатырох жанчын. Прычым трое з апытаных ужо на пенсіі, а дзвюм — больш за 75 гадоў. Сярод апошніх была і мінчанка Ларыса Сіняўская. 24 снежня 1999 года быў забіты яе сын, і па сённяшні дзень жанчына не можа дабіцца ўзбуджэння крымінальнай справы па гэтым трагічным факце. Падчас апытання Ларысы Сіняўскай, якое доўжылася больш за тры гадзіны, жанчыне заявілі, што яна можа быць прыцягнута да крымінальнай адказнасці, калі і надалей будзе падпісваць калектыўныя звароты. Выклікі грамадзян у міліцыю звязаны з праверкай, якую праводзіць Галоўнае ўпраўленне па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС у сувязі з даручэннем Генеральнай пракуратуры па ўзбуджэнні крымінальнай справы супраць юрысткі Тамары Сяргей згодна артыкула 193-1 Крымінальнага кодэкса.

30 ліпеня намеснік старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянцін Стэфановіч атрымаў ліст ад старшыні Мінскага гарадскога суда П. Каршуновіча, у якім было сказана, што той не бачыць падставы для прынясення пратэсту і задавальнення скаргі праваабаронцы на рашэнне суда Цэнтральнага раёна, датычнага ўключэння Генпракуратурай інтэрнэт-рэсурса spring96.org у спіс абмежаванага доступу. Праваабаронца настойваў, што такімі дзеяннямі Генпракуратура парушыла ягоныя правы як аўтара і чытача сайта на свабодны распаўсюд і атрыманне інфармацыі, а таксама на свабоднае выказванне свайго меркавання. Нагадаем,

што суд Цэнтральнага раёна спыніў вытворчасць па справе ў сувязі з яе непадведамаснасцю суду, абгрунтаваўшы такое рашэнне тым, што Стэфановіч не з'яўляецца ўласнікам сайта spring96.org. і не мае права абскарджваць рашэнне Генеральнай пракуратуры аб уключэнні гэтага сайта ў спіс абмежаванага доступу. Суд Цэнтральнага раёна прызнаў Валянціна Стэфановіча неналежным заяўнікам. Судовая калегія Мінгарсуда падтрымала пазіцыю раённага суда, а адказ старшыні Мінгарсуда П. Каршуновіча слова ў слова паўтарыў ранейшыя вызначэнні: «Паколькі вы не з'яўляецеся ўладальнікам названага інтэрнэт-рэсурса, суд прыйшоў да правільнай высновы аб адсутнасці ў Вас правоў на абскарджанне пастановы Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь і абгрунтавана спыніў вытворчасць па справе ў сувязі з яе непадведамаснасцю суду». Пазіцыя Генпракуратуры была заснаваная на тым, што на сайце spring96.org была размешчаная інфармацыя аб дзейнасці арганізацыі — ПЦ «Вясна», якая не прайшла дзяржаўную рэгістрацыю ва ўстаноўленым законам парадку, а значыць, размяшчэнне такой інфармацыі з'яўляецца парушэннем закона.

## Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні

2 ліпеня актывіста «Альтэрнатывы» Алега Корбана супрацоўнікі міліцыі забралі з кватэры раніцай і адвезлі ў РУУС Партызанскага раёна Мінска. У гэты ж дзень быў затрыманы яшчэ адзін сябра гэтай моладзевай арганізацыі — Уладзімір Сяргеенка. 3 ліпеня ва ўласным доме быў затрыманы сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі Антон Жылко. Толькі 7 ліпеня высветлілася, што судовыя працэсы над затрыманымі адбыліся 4 ліпеня ў судзе Партызанскага раёна Мінска. Адміністрацыйныя справы па артыкуле 17.1 КаАП (дробнае хуліганства) разглядала суддзя Вольга Паўлоўская, якая пакарала кожнага з актывістаў 10 суткамі адміністрацыйнага арышту. Прэвентыўныя затрыманні і арышты звязваюцца са святкаваннем у Мінску 3 ліпеня афіцыйнага Дня незалежнасці.

2 ліпеня ў Баранавічах быў затрыманы індывідуальны прадпрымальнік Мікалай Чарнавус пасля візіту ў гарвыканкам і сустрэчы з журналістам раённай газеты. Яго адвезлі ў гарадскі аддзел міліцыі, дзе начальнік аховы грамадскага парадку і прафілактыкі правапарушэнняў маёр міліцыі Аляксей Гетмам пачаў складаць пратакол адміністрацыйнага правапарушэння за правядзенне несанкцыянаванага мерапрыемства індывідуальных прадпрымальнікаў 1 ліпеня на гарадскім каапрынку і ў вялікай зале

гарвыканкама. Гэты працэс зацягнуўся амаль на 5 гадзін. Падчас складання пратакола Мікалаю Чарнавусу (інвалід ІІ-ой групы) стала кепска, і ён неаднаразова прасіў аб дапамозе, але маёр міліцыі Аляксей Гетмам адмаўляўся выклікаць хуткую дапамогу. Пасля складання адміністрацыйнага пратакола Мікалай Чарнавус не быў вызвалены, а яго накіравалі ў ізалятар часовага ўтрымання, дзе ў актывіста рэзка павялічыўся ціск і здарыўся гіпертанічны крыз. У гэтых умовах супрацоўнікі міліцыі вымушаны былі выклікаць хуткую дапамогу і даставіць Мікалая Чаравуса ў гарадскі шпіталь, дзе ён знаходзіўся пад наглядам 2-х супрацоўнікаў міліцыі. 3 ліпеня яго наведаў у бальніцы супрацоўнік гарадской міліцыі. Па словах М. Чарнавуса, супрацоўнік міліцыі прасіў яго падпісаць паперу, згодна з якой актывіст дае асабістую згоду, што суд над ім можа прайсці 7 ліпеня ў яго адсутнасць. Аднак грамадскі актывіст катэгарычна не пагадзіўся, таму накіраваў 5 ліпеня ліст на імя старшыні гарадскога суда, у якім прасіў яго не праводзіць суд 7 ліпеня без яго прысутнасці. Адначасова Мікалай Чарнавус накіраваў заяву гарадскому пракурору з просьбай адрэагаваць на дзеянні супрацоўнікаў міліцыі, якія адмаўляліся выклікаць хуткую дапамогу на працягу 5 гадзін. 21 ліпеня Баранавіцкі гарадскі суд прызнаў Мікалая Чарнавуса вінаватым ў парушэнні артыкула 23.34 ч.3 КаАП — арганізацыя і правядзенне несанкцыянаванага мерапрыемства і прыцягнуў яго да адказнасці ў выглядзе штрафу ў памеры 30 базавых велічынь. Вёў судовае паседжанне суддзя Яўген Брэган, сакратар — Вольга Ячнік. З трох сведкаў, пазначаных у пратаколе, з'явіўся толькі дырэктар каапрынку Віталь Рахмеджанаў, які не змог пацвердзіць у судзе, што менавіта Мікалай Чарнавус быў арганізатарам несанкцыянаванага мерапрыемства 1 ліпеня.

22 ліпеня ўдзень у цэнтры Гомеля быў затрыманы мясцовы сябра АГП Уладзімір Няпомняшчых. Актывіст праходзіў праз двары і ўбачыў двух міліцыянтаў. Калі ён праходзіў побач, сяржанты спынілі яго і запатрабавалі паказаць фотаапарат — ім здалося, што актывіст іх здымаў. У. Няпомняшчых паказаў, на камеры здымкаў з міліцыянтамі не было, тады яны запатрабавалі, каб актывіст паказаў пашпарт. У адказ ён папрасіў іх прадставіцца, яны дасталі свае пасведчанні, але У. Няпомняшчых не паспеў нічога разглядзець, таму свой пашпарт таксама адмовіўся паказаць. У выніку сяржанты даставілі яго ў апорны пункт. Уладзімір Няпомняшчых звязвае прэтэнзіі міліцыянераў з майкай, на якой напісана з аднаго боку «За Беларусь без Лукашэнкі», з другога — «Хватит, достал!». Праз тры гадзіны Уладзімір Няпомняшчых быў вызвалены з апорнага пункта без складання пратакола затрымання і правапарушэння.

25 ліпеня ў Мінску людзьмі ў цывільным быў затрыманы Мікіта Броўка. Актывіста даставілі ў аддзяленне міліцыі Савецкага раёна, дзе з ім правялі размову, знялі адбіткі пальцаў, а таксама прапанавалі адказаць на некалькі пытанняў праз дэтэктар хлусні, ад чаго актывіст адмовіўся. Праз некаторы час ў аддзяленне прыехаў ваенны камісар Мінскага раёна, які ўручыў Мікіту Броўку позву на медыцынскае абследаванне. Мікіта Броўка з'яўляецца каардынатарам грамадска-культурнай ініцыятывы Арт-Сядзіба, а таксама журналістам газеты «Новы час». Апошнім часам займаўся арганізацыяй беларускіх канцэртаў.

27 ліпеня ўвечары ў Мінску супрацоўнікамі міліцыі быў затрыманы актывіст прадпрымальніцкага руху Алесь Макаеў за тое, што падчас традыцыйнага малебену каля Чырвонага касцёла на плошчы Незалежнасці падняў бел-чырвона-белы сцяг за вызваленне палітвязняў. А. Макаеў быў дастаўлены ў РУУС Маскоўскага раёна, дзе на яго быў складзены пратакол аб адміністрацыйнам правапарушэнні па двух артыкулах: непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі (арт. 23.4 КаАП) і дробнае хуліганства (арт.17.1 КаАП). 28 ліпеня суддзя суда Маскоўскага раёна Максім Сушко прызнаў Алеся Макаева вінаватым і шляхам частковага складання вынес рашэнне пра адміністрацыйны арышт на 15 сутак. Сведкам выступаў супрацоўнік міліцыі Язэпаў.

27 ліпеня ўдзельнікаў летніка «За еўрапейскую інтэграцыю Беларусі» затрымалі на польска-беларускай мяжы на памежным пераходзе ў Баброўніках. Прычынай сталі беларускія выданні: асобнікі кнігі пра палітычных зняволеных у Беларусі «Palitviazni.info», тыднёвік беларусаў у Польшчы «Ніва». Супрацоўнікі мытні вынялі літаратуру для праверкі.

29 ліпеня ў другой палове дня актывіст грамадскай ініцыятывы «Альтэрнатыва» Ілля Дабратвор пазваніў дадому і паведаміў жонцы, што яго асудзілі на 14 сутак. У гэты дзень зраніцы Іллю Дабратвора бачылі ў Доме правасуддзя ў Мінску, дзе ў гэты час пачаўся працэс над праваабаронцам Андрэем Бандарэнкам. Ілля Дабратвор быў у чорнай майцы з Пагоняй і надпісам «Свабоду палітвязням», апранутай пад пінжак. Паплечнікі выказалі меркаванне, што за гэты надпіс яго і затрымалі. Яшчэ адной падставай для затрымання магла стаць акцыя «Альтэрнатывы» ў Дзяржынску 26 ліпеня. Па горадзе тады былі расклеены плакаты з надпісамі «За незалежную Беларусь!», «Беларусь — не Расія». Ілля Дабратвор быў асуджаны судом Маскоўскага раёна па двух артыкулах Адміністрацыйнага кодэкса: непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі (арт. 23.4 КаАП) і дробнае хуліганства (арт.17.1 КаАП).

30 ліпеня ў Магілёве быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі актывіст Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады) Алесь Сердзюкоў за збор подпісаў у падтрымку «Народнага рэферэндума». Збор подпісаў ажыццяўляўся «ад дзвярэй да дзвярэй», і нехта з жыхароў выклікаў міліцыю. Калі А. Сердзюкоў выходзіў з пад'езда дома 72А па вуліцы Маўчанскага, унізе яго чакалі міліцыянты, якія займаюцца аховай кватэр. Міліцыянты сказалі, што трэба дачакацца ўчастковага, якога яны выклікалі. Участковы хацеў забраць сабраныя подпісы, але актывіст сказаў, што нічога яму не аддасць, і той не стаў настойваць: склаў пратакол і сказаў, каб актывіст чакаў выкліку ў міліцыю ў бліжэйшы час. Міліцыянтаў у першую чаргу хвалявала, ці з'яўляецца А. Сердзюкоў распаўсюднікам газет «Народны рэферэндум», і ці ёсць у яго з сабой гэтыя газеты. Яны агледзелі рэчы актывіста і нічога не знайшлі. Сказалі, што ім паступіла інфармацыя, што акрамя збору подпісаў А. Сердзюкоў можа распаўсюджваць падобнага кшталту літаратуру.

## Абмежаванні свабоды слова
## і права на распаўсюд інфармацыі, пераслед журналістаў

9 ліпеня была здзейснена атака на паштовы адрас віцебскага лекара Ігара Пастнова. Прыйшоўшы з працы і ўключыўшы кампутар, ён атрымаў паведамленне пра тое, што пароль ягонага акаўнта ў Google быў зменены. Каманда паштовага сэрвісу папярэдзіла карыстальніка, што хутчэй за ўсё акаўнт быў узламаны, і прапанавала зноўку змяніць пароль. Калі Ігар Пастноў зноўку атрымаў кантроль, высветлілася, што знікла ўся перапіска. Сам «лекар-праўдаруб», які стаў вядомы крытыкай мясцовага медычнага начальства, за што зведаў захады карнай псіхіятрыі, лічыць, што нагодай для ўзлому магла стаць новая акцыя, якую ён распачаў на рэгіянальным віцебскім сайце «Свабодны рэгіён» (http://freeregion.info/). І. Пастновым праз Фэйсбук і інтэрнэт-сайт быў абвешчаны заклік дасылаць на ягоную паштовую скрыню фотаздымкі і сведчанні пра безгаспадарчасць і парушэнні ў сферы медыцыны на Віцебшчыне. У выніку, сцвярджае ён, людзі насамрэч актыўна сталі дасылаць фотаздымкі бальнічных палат, дзіцячых аддзяленняў, сведчанні пра збітых у міліцыі сваякоў і г.д. Частка гэтых матэрыялаў, што не паспела трапіць на старонкі інтэрнэт-выдання, знікла.

16 ліпеня ноччу быў прыпынены аўтамабіль, у якім знаходзіліся экс-кандыдат у прэзідэнты ад Партыі БНФ Рыгор Кастусёў і намеснік старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады) Ігар Барысаў. Супрацоўнікі ДАІ праверылі дакументы і сказалі, што ім з Магілёўскага

РАУС паступіла арыенціроўка на аўтамабіль «Мэрсэдэс» чорнага колеру, які нібыта здзейсніў хуліганства ў Бялынічах. Для разбіральніцтва інспектары прапанавалі праехаць ў Магілёўскі РАУС. Усе дакументы на аўто былі ў парадку. Інспектары праверылі багажнік, атрымалі адказ, што там знаходзіцца друкаваная прадукцыя ў пакунках, аднак адкрываць і глядзець не сталі — проста суправадзілі ў РАУС. Адметна тое, што ў Бялынічы па дарозе не заязджалі. У РАУСе склалі пратаколы апытанняў і пратакол агляду аўтамабіля, пасля чаго вынялі да судовага разбіральніцтва друкаваную прадукцыю. Агулам было канфіскавана амаль 12 тысяч незалежных газет: бюлетэнь «Сацыял-дэмакрат», які быў цалкам прысвечаны пытанням «Народнага рэферэндума», і газета «НАШ Магілёў» — прысвечана інфармацыйнай кампаніі «Захаваем стары Магілёў». У міліцыі дэмакраты прабылі амаль тры гадзіны. 23 ліпеня Ігар Барысаў быў выкліканы ў РАУС Магілёўскага раёна, дзе маёр Сяргей Галянтаў склаў на яго пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні па арт. 22.9 ч.2 КаАП РБ, у адпаведнасці з якім ён, не з'яўляючыся распаўсюднікам СМІ, у парушэнне арт.17 Закона «Аб СМІ» на аўтатрасе Мінск-Магілёў здзяйсняў дастаўку «улётак» «Сацыял-дэмакрат» і «НАШ Магілёў» у агульнай колькасці 11 800 асобнікаў на сваім уласным аўтамабілі, што з'яўляецца, у адпаведнасці з арт.1 Закона «Аб СМІ», распаўсюдам прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі. Маёр Галянтаў сказаў, што ў гэты ж дзень перадасць справу ў суд. Ігар Барысаў адзначыў, што зусім не згодзен з абвінавачаннем, бо не распаўсюджваў друкаваную прадукцыю, а проста перавозіў яе.

19 ліпеня гродзенскі журналіст-фрылансер Віктар Парфёненка, які супрацоўнічае з «Беларускім Радыё Рацыя» і за апошнія гады ўжо 6 разоў падаваў паперы ў Міністэрства замежных спраў Беларусі на афіцыйную акрэдытацыю і кожны раз атрымліваў адмовы, падаў сёмы раз пакет дакументаў у МЗС. У апошняй адмове было ўказана, што Віктар Парфёненка нібыта не прыклаў копію свайго пашпарта, хаця такая копія была. Цяпер журналіст дадаткова зрабіў пісьмовы пералік усіх прыкладзеных папер. Паралельна Парфёненка накіраваў скаргу на МЗС і атрымаў на яе адказ з Савета міністраў, які скіраваў яе на разгляд у той жа МЗС.

31 ліпеня, у другі дзень працэсу над праваабаронцам Андрэем Бандарэнкам, прадстаўнікоў СМІ, якія ўваходзілі ў будынак Дома правасуддзя, сустракалі супрацоўнікі органаў унутраных спраў. Не пытаючыся, якое выданне яны прадстаўляюць, міліцыянеры цікавіліся прозвішчам, імем, імем па бацьку, месцам жыхарства прадстаўнікоў СМІ і запісвалі гэтыя звесткі. На пытанне карэспандэнта БелаПАН да чалавека ў цывільным,

які запісваў звесткі, навошта гэта патрэбна, той нічога не адказаў і дазволіў прайсці. Перад тым, як запісаць звесткі, чалавек у цывільным перагортваў чыстым бокам уверх іншы аркуш паперы, што ляжаў побач, на якім былі адсканаваныя фатаграфіі журналістаў з нейкай інфармацыяй.

### Абмежаванне свабоды сходаў

5 ліпеня адмову ў правядзенні пікета атрымалі гомельскія актывісты ініцыятывы «Народны кантроль», якая праводзіць у Гомелі акцыю «Чыстая вада», накіраваную на паляпшэнне стану азёр у абласным цэнтры. 18 чэрвеня актывіст кампаніі Андрусь Мельнікаў накіраваў у Гомельскі гарвыканкам заяўку на правядзенне 3 ліпеня пікета з мэтай звярнуць увагу грамадскасці на незадавальняючы стан вадаёмаў у межах Гомеля. Актывіст планаваў правесці пікет у дазволеным рашэннем гарвыканкама месцы — на пляцоўцы каля скрыжавання вуліц Барыкіна і Вайсковай, прыклаў да заяўкі пісьмовае абавязацельства аплаціць выдаткі — паслугі хуткай дапамогі і камунальных служб. Аднак адказу ў вызначаны заканадаўствам тэрмін заяўнік так і не дачакаўся. Адказ з традыцыйнай для гомельскай дэмакратычнай супольнасці адмовай прыйшоў па пошце толькі 5 ліпеня. Прычым на самім дакуменце стаяла дата рашэння гарвыканкама «26 чэрвеня», на канверце быў штэмпель «2 ліпеня» (адпраўленне) і «4 ліпеня» (атрыманне). У адмове на пікет былі пералічаны пункты рашэння гарвыканкама аб масавых мерапрыемствах, прычым без тлумачэння — на якой менавіта падставе забаранілі правесці акцыю.

8 ліпеня БХД паведаміла, што з больш чым 100 пікетаў, замоўленых у 41 горадзе Беларусі, быў дазволены толькі адзін — 18 ліпеня ў Клічаве. Мэтай пікетаў была абарона дзяцей ад алкагалізму. Прадстаўнікі БХД планавалі на пікетах збіраць подпісы ў падтрымку зменаў у заканадаўства за дэалкагалізацыю насельніцтва, меркавалася распавесці пра антыалкагольную кампанію. Праз некалькі дзён быў фактычна забаронены пікет і ў Клічаве. Ужо пасля выдачы дазволу мясцовыя ўлады даслалі ліст аб неабходнасці заключыць дамовы з міліцыяй, медыкамі, камунальнымі службамі, а таксама атрымаць дазвол ва ўладальніка крамы, побач з якой планавалася акцыя. Арганізатар пікета Святлана Грыцэнка звязалася з уладальнікам крамы, аднак ён свайго дазволу не даў. Правядзенне пікета было сарвана.

11 ліпеня ў Брэсце быў забаронены пікет супраць росту коштаў на тавары і паслугі, заяўка на які была пададзена кіраўніком мясцовай арганізацыі Беларускай партыі левых «Справядлівы свет» Людмілай Дзенісенка. Ак-

цыю планавалася правесці 17 ліпеня на працягу гадзіны (з 13.00 да 14.00) на пляцоўцы каля сцэны ў парку воінаў-інтэрнацыяналістаў. У лісце за подпісам намесніка старшыні гарвыканкама Генадзя Барысюка падставай для адмовы пікета быў названы той факт, што ў гэты час у парку будуць адбывацца іншыя мерапрыемствы, якія былі запланаваны раней.

15 ліпеня брэсцкія актывісты абласной арганізацыі Аб'яднанай грамадзянскай партыі атрымалі адмову ў правядзенні пяці пікетаў, асноўнай мэтай якіх была заяўлена актуалізацыя ў грамадстве каштоўнасці незалежнасці і суверэнітэту дзяржавы, выказванне салідарнасці з украінскім народам у яго памкненні захаваць цэласнасць і незалежнасць Украіны. Прычынай для адмовы ў правядзенні пікетаў стала іх заяўка ў шматлюдных месцах горада — каля Брэсцкага цэнтральнага ўнівермага, кінатэатра «Беларусь» і гандлёвага цэнтра «Усход», якія не прадугледжаны рашэннем выканкама для правядзення масавых мерапрыемстваў. Прадстаўнікі ўлады спасылаліся на тое, што мерапрыемствы такога характару можна праводзіць толькі ў спецыяльна адведзеных месцах: парку воінаў-інтэрнацыяналістаў і на стадыёне «Лакаматыў».

15 ліпеня грамадскі актывіст Рыгор Грык атрымаў ліст за подпісам намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Д. Касцюкевіча, у якім паведамлялася, што ўлада не дае згоды на правядзенне пікета 27 ліпеня, прысвечанага гадавіне прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР. Чыноўнік палічыў, што заяўнікі пікета Рыгор Грык, Сяргей Гоўша і Вячаслаў Болбат парушылі п. 5 Закона Рэспублікі Беларусь ад 30.12.1997г. № 114-З «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь» (у рэдакцыі Закона Рэспублікі Беларусь ад 08.11.2011г. № 308-З) і п. 4 рашэння гарвыканкама ад 16.06.2009г. № 1497 «Аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у горадзе Баранавічы» (у рэд. рашэння Баранавіцкага гарвыканкама ад 05.10.2009г. № 2497). У чым заключаецца парушэнне, заяўнікам не паведамлялася, хаця яны выканалі ўсе патрабаванні закону, а таксама заключылі пісьмовыя дамовы з міліцыяй, паліклінікай і ЖКГ.

16 ліпеня стала вядома, што сябра слонімскай суполкі БХД Іван Бедка атрымаў адмову на правядзенне пікета, які павінен быў прыцягнуць увагу насельніцтва да праблем празмернага ўжывання алкаголю і тытуню на Слонімшчыне. У адказе за подпісам старшыні Слонімскага райвыканкама Алега Таргонскага паведамлялася, што ў правядзенні пікета яму адмовілі, паколькі «адсутнічаюць звесткі аб крыніцы фінансавання, а таксама не вызначаны маршрут руху ўдзельнікаў дадзенага мерапрыемства».

21 ліпеня Гомельскі гарвыканкам не даў дазвол на правядзенне ў абласным цэнтры 40 пікетаў, якія планаваліся 27 ліпеня, у гадавіну прыняцця Дэкларацыі аб суверэнітэце. Гарвыканкам адказаў, што заяўнікі не выканалі патрабаванні мясцовага рашэння, паводле якога кожны арганізатар мерапрыемства павінен папярэдне заключыць дамовы і аплаціць паслугі хуткай дапамогі і камунальных служб. Таксама ў адмове чыноўнікі спасылаліся на тое, што заяўнікі планавалі правесці мерапрыемствы ў найбольш людных месцах абласнога цэнтра, у той час як рашэнне дазваляе праводзіць пікеты ды іншыя мерапрыемствы толькі ў двух месцах — у аддаленым раёне каля прамысловых збудаванняў і каля стадыёна на ўскраіне горада. Дамовы заключыць з «хуткай» і камунальнымі службамі аказалася немагчыма. «Хуткая» адказвае, што не хапае аўтамабіляў, а камунальнікі спасылаліся на недахоп кадраў. У гэты ж дзень атрымалі таксама адмову на сваю заяўку праваабаронцы, якія хацелі правесці пікет 4 жніўня з мэтай нагадаць грамадскасці пра наяўнасць у краіне палітвязняў.

23 ліпеня стала вядома, што тры акцыі 27 ліпеня, у дзень прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі, забаронены ў Оршы. Мерапрыемствы планавалі аршанскія актывісты АГП — у Парку герояў, на пляцоўцы перад уваходам у кавярню «Аронія» і ў парку культуры і адпачынку тэкстыльшчыкаў. Усе тры месцы вызначаны ўладамі для правядзення масавых мерапрыемстваў. За апошнія 3 гады аршанскія ўлады не далі ніводнага дазволу на масавыя акцыі паводле ініцыятывы грамадскіх актывістаў. Прычына — адсутнасць дамоў на абслугоўванне пікетаў з міліцыяй, медыкамі і службамі ЖКГ. Гэтыя структуры адмаўляюцца заключаць дамовы, апелюючы да розных прычын. Аднак на адным з судовых працэсаў, калі актывісты спрабавалі адстаяць сваё права на выказванне ўласных меркаванняў, высветлілася, што ні міліцыя, ні паліклініка, ні прадпрыемства ЖКГ «Арыён» не мае права заключаць дамовы на абслугоўванне акцый з прыватнымі асобамі. Хаця менавіта такая ўмова прапісана ў рашэнні Аршанскага гарвыканкама, якое рэгламентуе правядзенне ў горадзе масавых акцый.

25 ліпеня бярозаўскія праваабаронцы Сяржук Русецкі, Тамара Шчапёткіна і грамадская актывістка Таццяна Тарасевіч паведамілі пра атрыманне адмовы ў пікеце, які планаваўся 27 ліпеня. Мэта пікета: нагадаць бярозаўчанам пра тое, што менавіта 27 ліпеня 24 гады таму была падпісана Дэкларацыя аб суверэнітэце Беларусі, і гэтая дата адзначалася як Дзень незалежнасці. Актывісты таксама планавалі нагадаць бярозаўчанам пра размяшчэнне расійскіх вайсковых баз на тэрыторыі Беларусі і існаванне ў краіне палітвязняў. Прычына адмовы: не ў адзін дзень з заявай

на пікет прынеслі дамовы з арганізацыямі, якія павінны абслугоўваць пікет — бальніцай і жыллёва-камунальнай гаспадаркай.

31 ліпеня ў Магілёве быў забаронены пікет у падтрымку палітвязняў, запланаваны на 4 жніўня ў цэнтры горада недалёка ад гарадской адміністрацыі. Намеснік старшыні Магілёўскага гарвыканкама Андрэй Кунцэвіч у сваім адказе ў чарговы раз паведаміў праваабаронцам Аляксею Колчыну і Барысу Бухелю, што месца для правядзення пікета — пляцоўка каля д.31 па вуліцы Першамайскай — не з'яўляецца дазволеным месцам для правядзення падобных мерапрыемстваў. Для правядзення масавых мерапрыемстваў у Магілёве адведзена месца па адрасе: вул. Чалюскінцаў 64В, якая знаходзіцца на ўскрайку горада. З пазіцыяй чыноўніка магілёўскія праваабаронцы не згодны і лічаць, што мясцовыя ўлады штучна абмяжоўваюць права грамадзян на свабоду сходаў.

## Абмежаванне свабоды асацыяцый

11 ліпеня актывіст незалежнага прафсаюза РЭП Уладзімір Андрашчук паведаміў, што намераны праз суд дамагчыся выплаты 15 мільёнаў рублёў ад кіраўніцтва прадпрыемства «Савушкін прадукт». Гэтыя грошы кампрэсаршчык аміячных установак 6 разраду Уладзімір Андрашчук павінен быў атрымаць пры выхадзе на пенсію згодна калектыўнай дамовы. Але, прапрацаваўшы 39 гадоў, выплаты не атрымаў. Гэта звязана з тым, што ў калектыўнай дамове запісана, што гэтыя грошы выплочваюцца з хадайніцтва непасрэднага начальніка работніка і са згоды генеральнага дырэктара. Андрашчук лічыць, што адмовай у выплаце кіраўніцтва адпомсціла яму за тое, што ён выйшаў з афіцыйнага прафсаюза і выступаў супраць кантрактаў.

21 ліпеня каардынатар юрыдычнай кансультацыі Моладзевай прафсаюзнай групы «Студэнцкая Рада» Марына Штрахава паведаміла, што маніторынг парушэння правоў і акадэмічных свабод студэнтаў, які праводзіўся арганізацыяй у рамках дзейнасці Грамадскага Балонскага камітэта, выявіў узмацненне ціску на студэнтаў за ўдзел у арганізацыях грамадзянскай супольнасці. Падчас маніторынгу фіксаваліся выпадкі, калі дэканы ці іншыя прадстаўнікі адміністрацыі ВНУ праводзілі са студэнтамі індывідуальныя гутаркі пра тое, што дзейнічаць у арганізацыях грамадзянскай супольнасьці непажадана, і раілі адмовіцца ад такой дзейнасці, заклікалі задумацца пра магчымыя нядобрыя наступствы.

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Жнівень 2014 года

У жніўні сістэмнасць і сістэматычнасць парушэнняў правоў чалавека захоўвалася, адсутнічалі пазітыўныя змены і паляпшэнні.

Нягледзячы на нязменна стабільна цяжкі стан з правамі чалавека, у жніўні беларускім уладам удалося значна палепшчыць свой знешнепалітычны імідж. 26 жніўня ў Мінску адбыліся перамовы ў фармаце Мытны саюз-Украіна-ЕС, прысвечаныя магчымасцям вырашэння ўкраінскага крызісу, удзел у якіх прынялі ў тым ліку высокапастаўленыя чыноўнікі ЕС, сярод якіх — Вярхоўны прадстаўнік Еўрапейскага Саюза па замежных справах і палітыцы бяспекі Кэтрын Эштан. Напярэдадні візіту Майя Кацьянчыч, афіцыйны прадстаўнік кіраўніка дыпламатыі ЕС, адзначыла, што дадзены візіт не азначае зменаў у пазіцыі ЕС адносна афіцыйнага Мінска: «Гэта не двухбаковы візіт ЕС у Беларусь. Вы, вядома, ведаеце, якія зараз стасункі паміж Еўрапейскім Саюзам і Беларуссю. У шэрагу заключэнняў Савета ЕС гэтая сітуацыя прадстаўленая. Ёсць праблемы ў палітычнай галіне, і пазіцыя Еўрапейскага Саюза ў сувязі з гэтым не змянілася».

Разам з тым, відавочна, што сустрэча ў Мінску стала чарговым крокам па ўзнаўленні стасункаў Еўрапейскага Саюза з беларускімі ўладамі, пераходам на іншы якасны ўзровень узаемадзеяння. Пры гэтым пытанне вызвалення палітвязняў, якое на працягу апошніх гадоў артыкулявалася ЕС як перадумова вяртання да супрацоўніцтва з беларускімі ўладамі, увогуле не закраналася. Гэта выклікала сур'ёзнае апасенне, што пытанні наяўнасці палітычных зняволеных і праблемы ў сферы правоў чалавека ў стасунках Еўрапейскага Саюза і афіцыйнага Мінска могуць адыйсці на другі план або ўвогуле знікнуць з павесткі дня. Такое развіццё падзеяў пагражае стаць балючым выклікам, паколькі знешнепалітычны фактар застаецца адным з самых моцных рычагоў уплыву на беларускае кіраўніцтва ў дадзеным пытанні, улічваючы фактычную адсутнасць механізмаў уплыву ўнутры краіны.

Варта адзначыць, што перамовы ў Мінску, якія відавочна палепшылі пазіцыю кіраўніцтва Беларусі на міжнароднай арэне, праходзілі на фоне адвольных затрыманняў і арыштаў грамадскіх і палітычных актывістаў, што пацвярджала нязменны рэпрэсіўны характар уладаў і іх імкненне без пазітыўных унутраных трансфармацый змяніць міжнароднае становішча, скарыстоўваючы праблемы ў суседняй дзяржаве.

Практычнае зняццё знешнепалітычнай ізаляцыі беларускіх уладаў ніякім чынам не спрыяла вырашэнню самай вострай праблемы — наяўнас-

ці палітычных зняволеных. За кратамі працягвалі ўтрымлівацца Мікалай Статкевіч, Эдуард Лобаў, Мікалай Дзядок, Яўген Васьковіч, Арцём Пракапенка, Ігар Аліневіч і Васіль Парфянкоў. Беларускія ўлады не прадэманстравалі палітычнай волі адносна іх вызвалення, а міжнародныя інструменты не былі выкарыстаныя.

## Палітычныя зняволеныя, крымінальны пераслед грамадскіх актывістаў

5 жніўня стала вядома, што ў Камітэт па правах чалавека ААН накіравана скарга палітвязня Эдуарда Лобава. Індывідуальнае паведамленне падрыхтавана юрыстамі «Беларускага дакументацыйнага цэнтра». У скарзе прыводзяцца доказы парушэнняў Рэспублікай Беларусь у асобе праваахоўных і судовых органаў пры затрыманні, арышце і разглядзе крымінальнай справы Эдуарда Лобава. Касацыйныя скаргі, пададзеныя Эдуардам і яго адвакатам у судовую калегію па крымінальных справах Мінскага гарадскога суда, былі пакінуты без задавальнення, а прысуд суда Маскоўскага раёна г. Мінска без зменаў. Наглядная скарга, пададзеная ў Вярхоўны суд РБ, таксама была пакінута без задавальнення. У 2013 годзе Эдуард Лобаў падаваў скаргу пракурору г. Мінска С. К. Хмаруку. У скарзе Эдуард прыводзіў доказы парушэння яго правоў і прасіў прынесці пратэст на прысуд суда Маскоўскага раёна г. Мінска і вызначэнне судовай калегіі па крымінальных справах Мінскага гарадскога суда на прадмет іх адмены і спынення вытворчасці па справе. Пракуратура г. Мінска перадала скаргу ў Следчы камітэт, які парушэнняў у справе Лобава не ўгледзеў, і скарга была пакінутая без задавальнення. Эдуард Лобаў адбывае пакаранне ў папраўчай калоніі № 22 Брэсцкай вобласці.

12 жніўня палітвязень Мікалай Статкевіч адзначыў 58-годдзе — свой чацвёрты ў зняволенні Дзень нараджэння. Невядомыя актывісты арганізавалі з гэтай нагоды салют каля Магілёўскай турмы №4, дзе ён утрымліваецца. 23 жніўня Марына Адамовіч, жонка Мікалая Статкевіча, паведаміла, што з ліста палітвязня ёй стала вядома пра тое, што дробныя правакацыі з карэспандэнцыяй і магчымасцямі атрымліваць газеты, якія адзначаліся раней адносна яго, скончыліся. Палітзняволены таксама паведаміў, што працягвае вывучаць самастойна англійскую мову.

18 жніўня актывіст «Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі» Павел Пракаповіч паведаміў, што палітычнаму зняволенаму Яўгену Васьковічу, які ўтрымліваецца ў турме №4 Магілёва, адміністрацыя адмаўляецца

перадаваць кнігі. Тры кнігі для вывучэння англійскай мовы, якія прасіў перадаць палітвязень — два дапаможнікі, а таксама адаптаваны раман Джорджа Оруэла «1984» на англійскай мове, прыйшлі назад родным з пазнакай «Недазволеныя ўкладанні». За апошнія некалькі месяцаў родныя і сябры Яўгена Васьковіча некалькі разоў рознымі шляхамі спрабавалі перадаць яму кнігі, але безвынікова.

23 жніўня Дзень народзінаў адзначыў палітзняволены Мікалай Дзядок, які адбывае пакаранне ў Магілёўская турме №4. Яму споўнілася 26 гадоў, з якіх амаль чатыры гады ён правёў за кратамі. 25 жніўня ў лісце сваякам М. Дзядок паведаміў пра аперацыю на назе, якую ён нядаўна перанёс.

24 жніўня Вольга Безбародкіна, адвакат палітвязня Васіля Парфянкова, паведаміла пра атрыманне дазволу на спатканне са зняволеным, які адбывае пакаранне ў калоніі ў Горках. Атрымаць такі дазвол, па яе словах, было складана. Трывогу адносна В. Парфянкова выклікала тое, што на працягу амаль 2 месяцаў сябры і родныя не атрымлівалі ад яго лістоў. 30 жніўня Васіль Парфякоў за кратамі адзначыў Дзень народзінаў, яму споўніўся 31 год.

### Смяротнае пакаранне

20 жніўня Тамара Сялюн, маці расстралянага ў красавіку за забойства дзвюх асоб Паўла Селюна, прыехала ў Гродзенскі абласны суд забраць рэчы сына. Там ёй выдалі некалькі дзясяткаў касет, кампакт-дыскаў, пласцінак, мабільныя тэлефоны і іншыя прадметы, якія належалі Паўлу. Тамару Сялюн суправаджалі гродзенскія праваабаронцы і журналісты. Жанчына сказала, што ёй было вельмі цяжка псіхалагічна настроіцца на гэты прыезд, але ёй быў дасланы дакумент, што да 1-га верасня гэтага года яна мусіць забраць гэтыя рэчы.

### Пераслед праваабаронцаў і праваабарончыя арганізацыі

21 жніўня даклад The Equal Rights Trust і Беларускага Хельсінкскага Камітэта «За паўгадзіны да вясны: даклад аб дыскрымінацыі і няроўнасці ў Беларусі», надрукаваны ў Вялікабрытаніі і дасланы поштай у Беларусь, быў затрыманы мытняй аэрапорта «Мінск-2». БХК атрымаў папярэдні акт дагляду некамерцыйнага грузу: прэтэнзій да яго няма, але груз перададзены для экспертызы ў аддзел кантрабанды. Адносна чаго гэтая экспертыза, мытнікі не паведамілі, тэрміны праверкі працягнулі да 31 жніўня.

Першая партыя такіх жа кніг прыйшла ў Беларусь у ліпені і прайшла мытную праверку без аніякіх пытанняў. Праваабаронцы таксама атрымалі ліст з Адміністрацыі прэзідэнта пра тое, што інфармацыя, выкладзеная ў дакладзе, «прынятая да ведама». Даклад з'яўляецца першай усеабдымнай справаздачай аб дыскрымінацыі і няроўнасці па ўсіх падставах і ва ўсіх сферах жыцця ў Беларусі. Ён грунтуецца на шырокіх палявых даследваннях, інтэрв'ю, фокус-группах і сур'ёзным аналізе заканадаўства і палітыкі. Даклад таксама дае шэраг дэтальных рэкамендацый беларускім уладам, якія датычаць неабходных рэформ у заканадаўстве, палітыцы і практыцы па забяспячэнні роўнасці і недыскрымінацыі.

## Адміністрацыйны праслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні

Толькі 7 жніўня стала вядома, што актывіст «Альтэрнатывы» Алег Кераль асуджаны на 10 сутак арышту, хаця затрымалі яго яшчэ 5 жніўня. У той дзень Алег намерваўся дапамагчы маці Іллі Дабратвора, які адбываў адміністрацыйны арышт у ЦІПе, перадаць перадачу. У першай палове дня да ворот ЦІПа, дзе чакаў жанчыну актывіст, пад'ехаў міліцэйскі аўтамабіль, выбеглі некалькі амапаўцаў, якія без тлумачэння прычын, схапілі актывіста і, пасадзіўшы ў аўтамабіль, адвезлі ў РУУС Маскоўскага раёна Мінска. У РУУСе былі складзеныя два пратаколы — «дробнае хуліганства» (арт. 17.1 КаАП) і «непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі» (арт. 23.4 КаАП). У судзе Маскоўскага раёна справу мусіла разглядаць суддзя Таццяна Мотыль, якая да самага вечара так і не вызвалілася з іншых судовых паседжанняў. Затым Кераля ізноў адвезлі ў РУУС, дзе пратакол адміністрацыйнага правапарушэння (дробнае хуліганства) быў перапісаны нанава, а другі пратакол аб непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі знік зусім. 6 жніўня суддзя Таццяна Мотыль хутка правяла судовае паседжанне, не дазволіўшы Алегу Кералю выказацца ў судзе па сутнасці справы, каментуючы гэта так: «Я ведаю, што вы прызнаеце сваю віну». Гэтак жа хутка актывісту была выдадзена загадзя падрыхтаваная пастанова аб арышце на 10 сутак.

12 жніўня лідар грамадскага аб'яднання «Альтэрнатыва» Алег Корбан быў асуджаны судом Фрунзенскага раёна Мінска на 10 сутак адміністрацыйнага арышту. Яго затрыманне адбылося а 10-й раніцы каля станцыі метро «Каменная горка». У РУУС Фрунзенскага раёна Мінска на Корбана быў складзены пратакол за «дробнае хуліганства» — паводле артыкула 17.1 КаАП. У гэты дзень Алег Корбан планаваў сустракаць пасля 14-сутквага арышту свайго паплечніка Іллю Дабратвора, і калі гэтага не ад-

былося, вызвалены актывіст падняў трывогу. Арышт А. Корбана, як і яго аднадумцаў з «Альтэрнатывы», звязваецца з правядзеннем кампаніі «За незалежную Беларусь».

12 жніўня Магілёўскі раённы суд вынес штраф у памеры 30 базавых велічынь сацыял-дэмакрату Ігару Барысаву. Нагодай для гэтага стала перавозка ім у сваім аўтамабілі 11 800 асобнікаў незалежных выданняў — газеты «НАШ Магілёў» і бюлетэня «Сацыял-дэмакрат». Суддзя Магілёўскага раённага суда Станіслаў Леўчанка прызнаў Ігара Барысава вінаватым у распаўсюдзе незалежных выданняў. У адпаведнасці з пастановай суддзі, уся незалежная прэса канфіскоўваецца. Суддзя палічыў, што І.Барысаў парушыў ч.2 арт.22.9 КаАП. Справа звязана з затрыманнем 16 ліпеня аўтамабіля Барысава, які рухаўся з боку Мінска, інспектарамі ДАІ ў прыгарадзе Магілёва. ДАІшнікі праверылі дакументы, пасля чаго паведамілі, што на аўтамабіль атрымана арыенціроўка, што нібыта на ім здзейснена хуліганцтва, і для разбіральніцтва неабходна праехаць у РАУС. У Магілёўскім РАУСе аўтамабіль актывіста быў дагледжаны і канфіскаваны наклады двух незалежных газет.

15 жніўня Нясвіжскі раённы суд паўторна разгледзеў адміністрацыйную справу Наталлі Бордак па абвінавачанні ў арганізацыі несанкцыянаванага масавага мерапрыемства 9 траўня з выкарыстаннем плаката «НЕ — пуцінскай вайне з Украінай». Перад гэтым 24 чэрвеня Мінскі абласны суд адмяніў пастанову Нясвіжскага раённага суда ў дачыненні да актывісткі аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» аб накладанні на яе адміністрацыйнага спагнання ў выглядзе штрафу памерам 30 базавых велічынь. Суддзя Гвозд зноў прызнала Наталлю Бордак вінаватай у арганізацыі пікета і зноў прызначыла выплаціць штраф таго ж памеру.

18 жніўня ў Мінску быў затрыманы сацыяльны актывіст Раман Халілаў. Ён вяртаўся пасля працы ў свой інтэрнат БДУІРа (студэнт 5-га курса). Супрацоўнікі міліцыі, якія чакалі актывіста ў інтэрнаце, правялі вобыск у ягоным пакоі, знайшлі ўлёткі па тэме працоўнага руху, арганізацыі забастовак і іншага зместу. Акрамя ўлётак былі сканфіскаваны кампутар і тэлефон актывіста, а яго адвезлі ў РУУС Савецкага раёна. Там быў складзены стандартны пратакол за «непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі» (арт. 23.4 КаАП) і 19 жніўня суд асудзіў яго на 10 сутак адміністрацыйнага арышту. Пасля адбыцця арышту Халілава ізноў запрасілі ў РУУС Савецкага раёна, дзе прад'явілі новы адміністрацыйны пратакол па арт. 17.11 «выраб, распаўсюд і (ці) захоўванне экстрэмісцкіх матэрыялаў». Пры гэ-

тым ніякай спецыяльнай экспертызы наконт экстрэмізму не праводзілася, такія пытанні павінен вырашыць суд. Супрацоўнікі міліцыі вярнулі Раману ягоны тэлефон, а кампутар палічылі за прыладу для вырабу ўлётак і пакінулі ў РУУСе. Пра дадзеную справу праваабаронцам стала вядома толькі пасля адбыцця пакарання Р. Халілавым.

23 жніўня ў судзе Маскоўскага раёна Мінска была разгледжаная адміністрацыйная справа актывіста «Zмены» Паўла Вінаградава. Яго пакаралі 10 суткамі арышту па абвінавачанні ў дробным хуліганстве (арт 17.1 КаАП РБ). У гэты дзень да кватэры Паўла Вінаградава падышлі супрацоўнікі міліцыі і запатрабавалі, каб той адчыніў ім дзверы. Праз пэўны час Вінаградаў выйшаў на вуліцу, дзе быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі і дастаўлены ў РУУС Маскоўскага раёна, дзе яго абвінавацілі ў дробным хуліганстве, што ён нібыта лаяўся матам каля аддзялення міліцыі. Пасля складанння пратакола П. Вінаградаў быў дастаўлены ў суд. Суддзя Аляксандар Петраш, нягледзячы на відавочны абсурд абвінавачвання, пастанавіў пакараць актывіста арыштам на 10 сутак. Сам Павел Вінаградаў віны не прызнаў. За дзень да гэтага Павел Вінаградаў напісаў у сваім блогу на сайце «Беларускага партызана», што «Zmena» вывесіла па Беларусі 100 бел-чырвона-белых сцягоў.

26 жніўня актывіста «Маладога Фронту» Дзмітрыя Крамянецкага супрацоўнікі міліцыі забралі проста з дому і даставілі ў РУУС Савецкага раёна Мінска, дзе склалі пратакол з абвінавачаннем у дробным хуліганстве па арт.17.1 КаАП РБ. У гэты ж дзень адміністрацыйную справу Д. Крамянецкага разгледзеў суддзя суда Савецкага раёна Арцём Бяскішкі і асудзіў актывіста на 10 сутак.

26 жніўня ў Мінску ў другой палове дня супрацоўнікі міліцыі затрымалі актывіста ствараемай партыі БХД са Смалявічаў Андрэя Кашэўскага, які распаўсюджваў незалежную прэсу. Супрацоўнікі транспартнай міліцыі склалі на яго два пратаколы, прычым распаўсюд газет, уласна з-за чаго ён і быў затрыманы, палічылі за несанкцыянаванае масавае мерапрыемства (арт.23.34 КаАП), а таксама дадалі яшчэ і дробнае хуліганства (арт. 17.1 КаАП). 27 жніўня суддзя суда Кастрычніцкага раёна Аляксандр Сяргей палічыў віну Кашэўскага даказанай і вынес рашэнне аб арышце тэрмінам 5 сутак.

28 жніўня ў судзе Цэнтральнага раёна Гомеля была разгледжана адміністрацыйная справа актывіста Кастуся Жукоўскага, які быў затрыманы супрацоўнікамі АМАП 25 жніўня. Па рашэнні суддзі Вольгі Казловай

актывіст быў прызнаны вінаватым у непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі (арт. 23.4 КаАП) і пакараны адміністрацыйным арыштам тэрмінам на 5 сутак. У паседжанні па патрабаванні Кастуся Жукоўскага прымаў удзел перакладчык, настаўніца беларускай мовы адной са школ Гомеля. Затрыманы патрабаваў, каб працэс праходзіў на беларускай мове. На судзе Кастусь Жукоўскі падкрэсліў, што ён не вінаваты ў правапарушэнні, у якім яго абвінавацілі. Так, 25 жніўня ён прыехаў дахаты, і выявілася, што не можа трапіць у свой двор: самазвалы з суседняй будоўлі заблакавалі яму праезд, што з'яўляецца парушэннем. Цікава, што калі ён выклікаў на месца здарэння супрацоўнікаў ДАІ, то разам з інспектарам дарожнай службы на выклік прыехалі супрацоўнікі АМАП, якія і затрымалі актывіста, а затым даставілі ў РАУС, і на ноч — у ІЧУ. Супрацоўнікі АМАП сцвярджалі на судзе, што Кастусь Жукоўскі не прадставіў па патрабаванні дакументаў і не прайшоў па патрабаванні ў службовы аўтамабіль, больш таго — «спрабаваў уцячы». Падчас слухання, на этапе агалошвання матэрыялаў справы, яшчэ да выступу адваката, у судовую залу зазірнуў міліцыянер-канваір з кайданкамі ў руках. Ён запытальна зірнуў на суддзю, і тая сцвярджальна кіўнула галавой. Потым суддзя выслухала адваката і Кастуся Жукоўскага, сышла на паўгадзіны для прыняцця рашэння, а канваір чакаў у калідоры.

29 жніўня ў другой палове дня супрацоўнікі міліцыі затрымалі на вуліцы Багдановіча ў Мінску каардынатара «Еўрапейскай Беларусі» Максіма Вінярскага, калі ён выходзіў з кватэры актывісткі Юліі Сцяпанавай. Як распавёў актывіст Леанід Кулакоў, які стаў сведкам затрымання, Вінярскаму паведамілі, што ён расшукваецца па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства. М. Вінярскага даставілі ў Савецкі РУУС Мінска і, абвінаваціўшы ў непадпарадкаванні, склалі на яго пратакол адміністрацыйнага правапарушэння па арт. 23.4 КаАП. Максім Вінярскі планаваў у той дзень прыняць удзел у традыцыйнай талацэ ва ўрочышчы Курапаты. Судовы разгляд справы Максіма Вінярскага адбыўся 1 верасня ў судзе Савецкага раёна Мінска. Суддзя Эдуард Якубоўскі прызнаў актывіста вінаватым і пакараў арыштам тэрмінам 15 сутак.

## Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі, праслед журналістаў

17 жніўня стала вядома, што баранавіцкага каментатара Уладзіміра Майсюка, які амаль 20 гадоў каментаваў матчы мясцовай каманды, звольнілі з працы пасля таго, як ён скрытыкаваў стан футбольнага поля, на якім футбалісты атрымоўваюць бясконцыя траўмы. Такое стала маг-

чымым пасля таго, як 9 ліпеня ў недзяржаўнай гарадской газеце «Intex-press» у артыкуле «Прафесія — каментатар» Уладзімір Майсюк вельмі негатыўна выказаўся аб працы стадыёна «Лакаматыў», адміністрацыя якога больш клапоціцца не аб стане футбольнага газона, а найперш, займаецца зборам грошай за арэндную плату. У гэтым артыкуле само футбольнае поле ў Баранавічах вопытны каментатар параўнаў з калгасным і паведаміў, што на баранавіцкім стадыёне адсутнічаюць рознабаковыя спаборніцтвы, няма развіцця дзіцячага спорту. Менавіта пасля публікацыі крытычных заўваг ў недзяржаўнай газеце «Intex-press» кіраўніцтва клуба адхіліла Уладзіміра Майсюка ад каментатарскай працы.

18 жніўня ў Магілёве адносна незалежных журналістаў Алеся Буракова і Міхася Аршынскага былі распачаты адміністрацыйныя разбіральніцтвы. Іх абвінавацілі ў супрацоўніцтве з замежнымі СМІ, якія не маюць акрэдытацыі на тэрыторыі Беларусі. Алесь Буракоў быў выкліканы старэйшым участковым маёрам Русланам Марозавым для апытання, якое датычылася таго, што ў кастрычніку 2013 года на тэлеканале «БелСат» з'явіўся рэпартаж пра магілёўскія трушчобы і пра тое, як у іх дагэтуль жывуць людзі. Адносна статуса Алеся Буракова ён паведаміў, што ён у пастарунку знаходзіцца як асоба, адносна якой распачата адміністрацыйнае разбіральніцтва. Са слоў маёра Марозава, справу яму накіравалі з КДБ, і ён павінен у ёй разабрацца і адрэагаваць на верагоднае праваparушэнне. У супрацоўніка міліцыі на СД-дыску было запісана некалькі рэпартажаў пра Магілёў, якія паказваў тэлеканал «БелСат». Адзін з іх датычыўся магілёўскіх трушчоб. Супрацоўнік КДБ, які займаўся гэтай справай, праводзіў аператыўна-вышуковае мерапрыемства з мэтай устанаўлення асобы, якая займалася здымкамі гэтых рэпартажаў. Незалежны журналіст адзначае, што з тэлеканалам «БелСат» ён не супрацоўнічае, а адкуль з'явіліся гэтыя рэпартажы — не ўяўляе. Больш таго, Алесь Буракоў з 2009 года неўяздны ў Польшчу, бо меў канфлікт са сваімі былымі працадаўцамі з «Радыё Рацыя», і яму праз гэта анулявалі візу.

21 жніўня Савет Міністраў прыняў Пастанову №180 аб стварэнні Рэспубліканскай экспертнай камісіі па ацэнцы інфармацыйнай прадукцыі на прадмет наяўнасці (адсутнасці) у ёй прыкмет праяў экстрэмізму. Пастанова прадугледжвае і стварэнне сістэмы экспертных камісій у кожнай з абласцей Беларусі. Згодна з урадавым паведамленнем, «у камісію ўвойдуць аўтарытэтныя эксперты ў сферы філасофіі, псіхалогіі, філалогіі, сацыялогіі, а таксама прадстаўнікі органаў дзяржаўнага кіравання, якія ажыццяўляюць процідзеянне экстрэмізму, што дасць магчымасць усебакова і кампетэнтна разглядаць матэрыялы на прадмет наяўнасці ў іх

прыкмет экстрэмізму». Рэспубліканская камісія будзе праводзіць экспертызу інфармацыйнай прадукцыі на тэрыторыі Мінска. Таксама ў яе кампетэнцыі — узгадненне палажэнняў аб абласных камісіях і іх складзе, распрацоўка рэкамендацый для абласных камісій. Акрамя таго, яна будзе разглядаць скаргі на экспертныя заключэнні абласных камісій, вывучаць і распаўсюджваць айчынны і замежны вопыт прадухілення прапаганды экстрэмісцкай дзейнасці ў інфармпрадукцыі. Камісія будзе мець права запытваць і атрымліваць неабходныя дакументы, матэрыялы і інфармацыю, якія маюць значэнне для правядзення экспертыз. Таксама яна зможа запрашаць і заслухоўваць на сваіх пасяджэннях прадстаўнікоў дзяржорганаў, арганізацый, грамадскіх аб'яднанняў і індывідуальных прадпрымальнікаў. Пры неабходнасці для экспертыз будуць прыцягвацца розныя спецыялісты, грамадскія дзеячы, якія не ўваходзяць у камісію. Правядзенне экспертызы могуць ініцыяваць дзяржаўныя органы, арганізацыі, грамадскія аб'яднанні і індывідуальныя прадпрымальнікі. Таксама яна можа праводзіцца на падставе пастаноў дзяржорганаў або службовых асоб, «якія маюць такое права». Экспертнае заключэнне экспертнай камісіі можна будзе абскардзіць у судовым парадку, а абласной камісіі — у рэспубліканскай або ў судзе. Паводле Мінінфармацыі, пастанову Савет Міністраў прымаў «у развіццё закона Беларусі «Аб супрацьдзеянні экстрэмізму»». «Дакумент прыняты ў мэтах недапушчэння распаўсюджвання на тэрыторыі Беларусі інфармацыйных матэрыялаў экстрэмісцкага характару, для абароны грамадскіх інтарэсаў ад дэструктыўных праяў у інфармацыйнай прасторы», — падкрэслілі ў Мінінфарме.

26 жніўня суддзя Цэнтральнага раёна Гомеля Марына Дамненка адхіліла скаргу сябра ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» Міколы Бянько на дзеянні першага намесніка пракурора Гомельскай вобласці Вадзіма Сушчынскага, які вынес папярэджанне журналісту-фрылансеру за падрыхтоўку інфармацыйных матэрыялаў без акрэдытацыі на замежны СМІ — «Беларускае Радыё Рацыя». Разгляд скаргі на дзеянні службовай асобы дзяржаўнага органа, якія абмяжоўваюць правы і законныя інтарэсы грамадзяніна, звёўся да высвятлення тэрміну падачы заявы ў суд. Апрача таго, суддзя адмовілася весці судовае паседжанне на беларускай мове, як прасіў Мікалай Бянько. Яна не дазволіла Міколу як сябру ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» мець у судзе свайго прадстаўніка, таксама сябра ГА «БАЖ», юрыста Леаніда Судаленку. Забаронена было рабіць фота- і відэаздымкі, апроч аўдыёзапісу. Прадстаўнік Гомельскай абласной пракуратуры, старшы памочнік пракурора Дзмітрый Дэбой (які і рыхтаваў папярэджанне Міколу Бянько), таксама заявіў, што права на абскарджванне ў судзе журналіст атрымаў яшчэ 25 сакавіка, пасля

пісьмовай адмовы пракурора вобласці скасаваць папярэджанне. У выніку суддзя Марына Дамненка вырашыла адхіліць скаргу журналіста, палічыўшы, што месячны тэрмін для звароту ў суд прапушчаны.

29 жніўня незалежная журналістка Марына Малчанава, матэрыялы якой публікаваліся на сайце тэлеканала «Белсат», атрымала позву з патрабаваннем з'явіцца ў міліцыю ў Бабруйску ў якасці асобы, у дачыненні якой вядзецца адміністрацыйны працэс паводле артыкула аб парушэнні заканадаўства аб СМІ. 31 жніўня аналагічнае запрашэнне атрымаў брэсцкі журналіст «Беларускага Радыё Рацыя» Яўген Скрабец, якому ўвечары патэлефанавалі з міліцыі і папрасілі з'явіцца ў аддзяленне нібыта для ўдакладнення звестак адносна ягонага матэрыялу на сайце радыё. У абодвух выпадках размова ідзе пра чарговую спробу прыцягнуць журналістаў да адміністрацыйнай адказнасці за працу на замежныя СМІ без акрэдытацыі, бо абодва згаданыя СМІ ўжо шмат год дамагаюцца атрымання падобнай акрэдытацыі ад уладаў Беларусі.

## Абмежаванне свабоды сходаў

На пачатку жніўня праваабаронцы атрымалі 10 адмоў на правядзенне пікетаў у Дзень салідарнасці з грамадзянскай супольнасцю Беларусі з мэтай патрабавання вызвалення палітычных вязняў. Не далі дазволаў на правядзенне пікетаў мясцовыя ўлады Наваполацку, Віцебску, Гомеля, Мазыра, Рэчыцы, Жодзіна, Барысава, Баранавічаў, Смаргоні і Магілёва. Усе адмовы мелі фармальныя падставы: адсутнасць дамоў з праваахоўнікамі, медыцынскай службай і камунальнікамі на абслугоўванне пікетаў; намер правесці пікеты на шматлюдных пляцоўках у цэнтрах гарадоў, якія не вызначаны для такіх мэтаў мясцовымі ўладамі.

3 жніўня праваабаронца Сяргей Гоўша атрымаў ліст за подпісам намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Д. Касцюкевіча, у якім паведамлялася, што гарадская ўлада не дае згоды на правядзенне пікета 4 жніўня, мэта якога — патрабаванне вызвалення палітычных вязняў. Чыноўнік палічыў, што заяўнік парушыў п. 5 Закону Рэспублікі Беларусь ад 30.12.1997г. № 114-З «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь (у рэдакцыі Закону Рэспублікі Беларусь ад 08.11.2011г. № 308-З) і п. 4 рашэння гарвыканкама ад 16.06.2009г. № 1497 «Аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у горадзе Баранавічы» (у рэд. рашэння Баранавіцкага гарвыканкама ад 05.10.2009г. № 2497). Сяргей Гоўша лічыць, што пікет забаранілі не таму, што няправільна складзена заяўка, а таму, што прадстаўнікі ўлады лічаць, што ў Беларусі няма палітычных вязняў.

4 жніўня віцебскі праваабаронца Леанід Свецік планаваў правядзенне пікета ў падтрымку палітвязняў, але атрымаў адмову. Подпіс пад забаронай паставіла намесніца кіраўніка адміністрацыі Чыгуначнага раёна Віцебска Наталля Ляпёшкіна. У заяўцы на акцыю праваабаронца нагадваў мясцовым уладам, што права грамадзян на вольнае выказванне меркаванняў і права на мірныя сходы — гэта найважнейшыя палітычныя правы. Таму ён прасіў забяспечыць на мерапрыемстве грамадскі парадак, медыцынскае і камунальнае абслугоўванне за кошт дзяржавы, а таксама «зрабіць захады па абароне ўдзельнікаў пікетавання ад магчымых правакацый і неправамерных дзеянняў з боку праваахоўных органаў падчас падрыхтоўкі і правядзення масавага мерапрыемства, а таксама пасля яго заканчэння». Аднак адмова была матывавана менавіта адсутнасцю дамоў з міліцыяй, медыкамі і службай ЖКГ на абслугоўванне акцыі.

4 жніўня жодзінскія праваабаронцы так і не атрымалі дакументальнага пацверджання з выканкаму адносна забароны пікета, якія яны планавалі правесці 4 жніўня, пры гэтым кіраўнік ідэалагічнага аддзела Ірына Карповіч па тэлефоне паведаміла, што адмова адсылалася яшчэ 28 ліпеня — замоўным лістом з апавяшчэннем.

7 жніўня ў Брэсце быў забаронены пікет у падтрымку палітычных вязняў. У адрозненні ад іншых гарадоў Беларусі, гэтую акцыю планавалася правесці 10 жніўня. Праваабаронца Уладзімір Вялічкін, які накіраваў заяўку на пікет ў гарвыканкам, месцам правядзення акцыі пазначыў пляцоўку ў парку воінаў-інтэрнацыяналістаў, якая мясцовымі ўладамі вызначана ў якасці месца для правядзення масавых мерапрыемстваў. Аднак у атрыманым з гарвыканкама адказе было сказана, што пікет не дазволены, бо ў вызначаны час пляцоўка ўжо занятая «іншым мерапрыемствам». Высветлілася, што замінаюць правядзенню пікета 10 жніўня святкаванні ў парку з нагоды Дня будаўніка.

11 жніўня праваабаронцы з Бярозы Тамара Шчапёткіна і Сяржук Русецкі накіравалі заяву ў Брэсцкі аблвыканкам з мэтай абавязваць Бярозаўскі райвыканкам прывесці сваё рашэнне адносна парадку арганізацыі і правядзення масавых мерапрыемстваў у адпаведнасць з пастановай Савета Міністраў №207, згодна з якой пасля падачы заявы райвыканкам на працягу сутак звяртаецца ў міліцыю для ўзгаднення пытанняў па ахове парадку на масавым мерапрыемстве. У красавіку праваабаронцы звярталіся ў Міністэрства юстыцыі і Брэсцкае абласное ўпраўленне ўнутраных спраў, каб гэтыя суб'екты абавязалі Бярозаўскі райвыканкам унесці неабходныя змены ў сваё рашэнне. З атрыманых адказаў здавалася, што праблема бу-

дзе вырашана. Як паведамілі з Міністэрства юстыцыі за подпісам першага намесніка міністра А.У. Білейчыка і з Брэсцкай абласной управы ўнутраных спраў за подпісам намесніка начальніка ўпраўлення В.П.Угляніцы, рашэнне райвыканкама павінна быць выпраўлена згодна пастановы Саўміна. Аднак падчас падрыхтоўкі праваабаронцаў да пікета 27 ліпеня высветлілася, што зменаў у рашэнні райвыканкама няма. З міліцыі яны зноў атрымалі адказ: мы не можам скласці з вамі дамовы, да нас павінен звярнуцца райвыканкам згодна пастановы Саўміна №207.

13 жніўня каардынатар Руху «За Свабоду» па Віцебскай вобласці Хрыстафор Жаляпаў атрымаў з Савета Міністраў адказ на зварот некалькіх дзясяткаў жыхароў абласнога цэнтра з просьбай паспрыяць змяненню рашэння Віцебскага гарвыканкама №881 «Аб масавых мерапрыемствах у г.Віцебску» ды ініцыяваць зварот у Канстытуцыйны суд дзеля праверкі адпаведнасці гэтага дакумента Канстытуцыі. У адмове было сказана, што Прэзідыум Савета Міністраў прыняў рашэнне не накіроўваць просьбу аўтараў калектыўнага звароту ў Канстытуцыйны суд без аніякіх тлумачэнняў. Прадстаўнікі Саўміна не адказалі на яшчэ адно пытанне — пра тое, каб у межах сваёй кампетэнцыі гэты орган самастойна ўнёс змены ў рашэнне Віцебскага гарвыканкама, якое немагчыма выканаць, бо мясцовыя ўлады патрабуюць, каб разам з заяўкай на акцыю ініцыятары прыкладалі дамовы на абслугоўванне з супрацоўнікамі міліцыі, ЖКГ, а таксама медыкамі. Гэтыя структуры ўхіляюцца ад заключэння дамоў любымі магчымымі шляхамі. Ухіліўшыся ад адказаў па сутнасці, прадстаўнікі Савета Міністраў пераадрасавалі зварот віцяблянаў у Міністэрства юстыцыі. У лісце, атрыманым з Мінюста, было адзначана, што мясцовыя ўлады могуць самі ўсталёўваць парадак звароту па дазволы на вулічныя акцыі. Адно што мусілі канстатаваць чыноўнікі — дык гэта тое, што ў розных рэгіёнах прадугледжаны ўладамі парадак адрозніваецца.

22 жніўня бярозаўскія праваабаронцы атрымалі адмову ў правядзенні пікета, які быў запланаваны на 25 жніўня. Мэтай пікета было адзначэнне ўгодкаў надання Дэкларацыі незалежнасці БССР статусу канстытуцыйнага закону, а таксама выказванне пратэсту супраць размяшчэння расійскіх ваенных баз на тэрыторыі Беларусі і патрабаванне вызвалення палітвязняў. Адмова падпісана намеснікам старшыні райвыканкама Яўгенам Тарасюком. Чыноўнік прычынай адмовы назваў адсутнасць копіі дамовы з міліцыяй, у той час як да міліцыі наконт абмеркавання абслугоўвання пікета, згодна Пастановы Савета міністраў № 207, павінен звярнуцца сам райвыканкам. Ведаючы незаконнасць спасылкі, чыноўнік дадаў яшчэ адну прычыну: спартовыя мерапрыемствы дзіцяча-юнацкай спартыўнай

школы, на якіх прадугледжваецца наяўнасць гледачоў, якія адбудуцца ў гэты ж час. 25 жніўня бярозаўская праваабаронца Тамара Шчапёткіна і грамадская актывістка Таццяна Тарасевіч ў мяркуемы час пікета (з 18 да 19 гадзін) прыйшлі на цэнтральны стадыён Бярозы, каб паглядзець, ці сапраўды там адбываюцца мерапрыемствы з масай гледачоў, з-за якіх бярозаўскія чыноўнікі не дазволілі пікет. Уваход на стадыён, дзе актывісты прасілі месца для 10 пікетоўцаў, быў пусты, як і вялікія трыбуны. Толькі 25 юных спартсменаў знаходзіліся на вялікім футбольным полі: частка гуляла ў футбол, а частка рэдкім ланцужком рабіла прабежку вакол поля.

24 жніўня праваабаронца Сяргей Гоўша атрымаў адказ з Баранавіцкага гарвыканкама за подпісам намесніка старшыні Дзмітрыя Касцюкевіча на свой ліст, у якім прасіў паведаміць прычыну забароны пікета, які планаваўся 27 ліпеня. Чыноўнік напісаў, што пікет, прымеркаваны да дня прыняцця Дэкларацыі аб незалежнасці 27 ліпеня, быў забаронены таму, што заяўнік не прадставіў своечасова копіі дамоў з гарадскім аддзелам унутраных спраў, паліклінікай і «Спецаўтабазай» па абслугоўванні запланаванага пікета. Але гэта не адпавядае рэчаіснасці. Заяўнікі за месяц падалі заяву аб правядзенні пікета, а крыху пазней падалі копіі дамоў з гарадскімі дзяржаўнымі структурамі па абслугоўванні мерапрыемства. Неабходныя дакументы былі прадстаўлены ў гарвыканкам своечасова — за 15 дзён да запланаванага пікета.

27 жніўня стала вядома пра забарону ў Віцебску пікета, прымеркаванага да 60-годдзя А. Лукашэнкі. Заяўку на акцыю ў адміністрацыю Кастрычніцкага раёна падаваў «урач-праўдаруб» Ігар Пастноў. Ён выканаў усе патрабаванні, рэгламентаваныя рашэннем гарвыканкама «Аб масавых мерапрыемствах у г.Віцебску», але дазволу так і не атрымаў. У лісце з адміністрацыі Кастрычніцкага раёна было напісана, што патрабаванні рашэння гарвыканкама №881 заяўнік выканаў не ў поўным аб'ёме. Паводле Ігара Пастнова, ён зрабіў усё, што ад яго патрабавалася, але сутыкнуўся з даўняй праблемай арганізатараў масавых мерапрыемстваў. Заяўнік мусіць прадставіць раённай адміністрацыі дамовы на абслугоўванне пікета супрацоўнікамі ЖКГ, гарадской паліклінікай і міліцыяй. І. Пастноў звярнуўся ва ўсе гэтыя структуры па дамовы, але станоўчы адказ атрымаў толькі ад камунальшчыкаў: прадпрыемства «Зеленгас», якое займаецца прыборкай гарадской тэрыторыі, заключыла з ім дамову. З паліклінікі яму адказалі, што не займаюцца арганізацыяй масавых мерапрыемстваў і параілі звярнуцца ў раённую адміністрацыю — маўляў, акцыямі займаюцца яны. З міліцыі напісалі, што аховай правапарадку ў любой якасці займаюцца без усялякіх дамоў, бо гэта прафесійны абавя-

зак міліцыянераў. Такім чынам, з паліклінікай і міліцыяй, якія згаданы ў рашэнні выканкама як другі бок, з якім трэба заключыць дамову, супрацоўніцтва не атрымалася. І. Пастноў збіраўся 30 жніўня або ў бліжэйшы пасля гэтай даты выходны дзень правесці аднаасобную акцыю — выйсці з плакатам «Спасибо Батьке за нашу счастливую жизнь!». Апрача гэтага, на плакаце ён хацеў размясціць фотаздымак свайго разліковага квітка з сумай заробку, а таксама фотаздымкі палат у віцебскіх шпіталях.

28 жніўня намеснік старшыні АГП Васіль Палякоў атрымаў рашэнне Камітэта па правах чалавека ААН, які прызнаў, што беларускія ўлады парушылі яго права на правядзенне мірнага сходу, забараніўшы ў верасні 2008 года правесці ў Гомелі масавае мерапрыемства з мэтаю агітацыі грамадзян не прымаць удзел у парламенцкіх выбарах, якія праходзілі ў краіне 28 верасня 2008 года. Адпаведнае рашэнне было прынята 17 ліпеня 2014 года. У Камітэт ААН Васіль Палякоў паскардзіўся пасля таго, як не знайшоў абароны сваіх правоў унутры краіны. У сваім рашэнні Камітэт па правах чалавека нагадаў, што калі дзяржава накладае абмежаванне на свабоду мірнага сходу, тады ёй варта садзейнічаць ажыццяўленню права, а не шукаць непатрэбныя або неадпаведныя абмежаванні. А паколькі Урад Беларусі палічыў, што толькі забаронай мірнага сходу можна забяспечыць грамадскі парадак і бяспеку, ахову маральнасці і здароўя насельніцтва ці абарону правоў і свабод іншых асоб, то парушыў права заяўніка на свабоду правядзення мірнага сходу паводле артыкула 21 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах.

28 жніўня з 18 да 19 гадзін у Пружанах адбыўся адзіны дазволены з 7 пададзеных заявак на Брэстчыне пікет з мэтай збору подпісаў за адкрыццё малога памежнага руху ў 30-кіламетровай зоне паміж Беларуссю і Польшчай. На пікеце на гарадскім стадыёне «Мухавец» прысутнічалі 3 чалавекі. Каардынатар кампаніі за малы памежны рух на Брэстчыне, сябра партыі «Беларуская Хрысціянская дэмакратыя» Аляксандр Храпко адзначыў, што не пашчасціла з надвор'ем: ішоў дождж, таму акрамя дзяжурных міліцыянераў і саміх пікетоўшчыкаў нікога больш не было. Подпісаў не сабралі. У Пружанах нават не спатрэбілася дамоў з адпаведнымі дзяржаўнымі службамі.

29 жніўня дзясяткі магіляўчан накіравалі калектыўны зварот у Савет Міністраў Беларусі, у якім прасілі адмяніць рашэнне Магілёўскага гарвыканкама «Аб масавых мерапрыемствах у горадзе Магілёве». Аўтары звароту адзначылі, што гэтае рашэнне супярэчыць заканадаўству Беларусі аб масавых мерапрыемствах і Міжнароднаму пакту аб грамадзянскіх і

палітычных правах, і, такім чынам, парушае канстытуцыйныя правы грамадзян на свабоду масавых сходаў. Грамадзяне, што падпісалі зварот, указалі, што рашэннем Магілёўскага гарвыканкама ўстаноўлены дадатковыя патрабаванні да прадастаўлення дакументаў пры падачы заявы на правядзенне масавага мерапрыемства: маецца на ўвазе неабходнасць прадаставіць дамовы на абслугоўванне масавага мерапрыемства (ахова, медычнае абслугоўванне і прыборка тэрыторыі). Але практыка паказала, што гэтыя дамовы заключыць немагчыма, паколькі іх адмаўляюцца заключаць без дазволу выканаўчай улады на правядзенне мерапрыемства, а дазвол на правядзенне мерапрыемства не даюць без заключаных дамоў па яго абслугоўванні. У звароце адзначалася, што парушэнне заканадаўства аб масавых мерапрыемствах носіць масавы характар: патрабаванне разам з заявай на правядзенне мерапрыемства прадастаўляць дамовы на абслугоўванне мерапрыемства ўтрымліваецца ў адпаведных рашэннях органаў улады Віцебка, Воршы, Полацка, Дуброўна, Глыбокага, Докшыцаў, Талачына, Мёраў, Ушачаў, Шаркаўшчыны, Мінска, Жодзіна, Пухавічаў, Барысава, Брэста, Пінска, Камянца, Бярозы, Століна, Гомеля, Калінкавічаў, Мазыра, Буда-Кашалёва, Рэчыцы, Нароўлі, Ельска, Веткі, Жыткавічаў, Добруша, Петрыкава, Рагачова, Жлобіна, Светлагорска, Кармы, Магілёва, Мсціслава. Грамадзяне звяртаюць увагу на тое, што падобных абмежаванняў не ўтрымліваецца ў рашэннях аб масавых мерапрыемствах двух рэгіёнаў краіны: у горадзе Мінску і Гродзенскай вобласці. Грамадзяне, што падпісалі зварот, заклікалі Саўмін адмяніць рашэнне Магілёўскага гарвыканкама для прывядзення ў адпаведнасць Канстытуцыі і Міжнароднаму пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, а таксама ініцыяваць праверку адпаведнасці Канстытуцыі 40 нарматыўных прававых актаў аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў Канстытуцыйным Судом.

### Абмежаванне свабоды асацыяцый

8 жніўня суд Ленінскага раёна Брэста не задаволіў іск былога рабочага ААТ «Савушкін прадукт» Уладзіміра Андрашчука, які спрабаваў панудзіць кіраўніцтва прадпрыемства выплаціць яму 15 мільёнаў рублёў, што выплочваюцца па калектыўнай дамове пры выхадзе на пенсію. Для выплаты непасрэдны кіраўнік Андрашчука павінен быў хадайнічаць перад генеральным дырэктарам ААТ «Савушкін прадукт», і той вырашае, даць гэтую суму, ці не. Непасрэдны кіраўнік не стаў хадайнічаць, паколькі вырашыў, што Андрашчук не мае ніякіх адносін да калектыўнай дамовы, паколькі не з'яўляецца сябрам дзяржаўнага прафсаюза. Пры гэтым стаж бездакорнай працы Андрашчука на прадпрыемстве складае 39 гадоў.

Суд спаслаўся менавіта на гэты пункт дамовы: непасрэдны кіраўнік не хадайнічаў за работніка. Але суд прызнаў, што Андрашчук далучаны да калектыўнай дамовы, паколькі згодна з арт. 365 ч.2 Працоўнага кодэкса, калі работнік — не сябра афіцынага прафсаюза — напісаў заяву аб далучэнні да калектыўнай дамовы, то ён становіцца яе ўдзельнікам.

26 жніўня заснавальнікі рэспубліканскага праваабарончага аб'яднання «Пакт» (Рух за рэалізацыю Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах) накіравалі ў Вярхоўны суд скаргу на адмову Міністэрства юстыцыі зарэгістраваць створанае грамадскае аб'яднанне. Выканаўчы дырэктар аб'яднання Леанід Судаленка адзначыў, што арганізацыя стваралася дзеля абароны інтарэсаў грамадзян, на карысць якіх Камітэт па правах чалавека ААН прыняў і будзе прымаць рашэнні аб парушэнні з боку дзяржавы іх грамадзянскіх і палітычных правоў. Адмаўляючы ў дзяржаўнай рэгістрацыі аб'яднання, Міністэрства юстыцыі спаслалася на такія недакладнасці ў дакументах, як памылка ў нумары кватэры аднаго з заснавальнікаў і ў даце нараджэння другога. Заснавальнікі дадзеныя памылкі лічаць тэхнічнымі, не здольнымі паўплываць ні на якія абставіны пры прыняцці рашэння аб дзяржаўнай рэгістрацыі аб'яднання.

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Верасень 2014 года

У верасні не адбылося пазітыўных зменаў у сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі, сістэмны і сістэматычны характар іх парушэнняў заставаўся стабільным. На працягу месяца адбывалася далейшае замацаванне негатыўных практык, выпрацаваных у папярэдні перыяд: адвольныя прэвентыўныя затрыманні і пакаранні грамадскіх і палітычных актывістаў, пераслед журналістаў за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ, немагчымасць правядзення мірных сходаў з выказваннем альтэрнатыўных меркаванняў, адмовы ў стварэнні незалежных асацыяцый.

Не адбылося станоўчых зрухаў па праблеме палітычных зняволеных, за кратамі працягвалі ўтрымлівацца Мікалай Статкевіч, Эдуард Лобаў, Мікалай Дзядок, Яўген Васьковіч, Арцём Пракапенка, Ігар Аліневіч і Васіль Парфянкоў. Улады не прадпрынялі ніякіх крокаў для іх вызвалення ні па ўласнай ініцытыве, ні пад ціскам знешніх фактараў, найперш датычных вылучаемых Еўрапейскім Саюзам і ЗША патрабаванняў вызвалення палітычных зняволеных як перадумовы ўзнаўлення паўнавартасных адносінаў. Разам з тым, варта адзначыць, што падобныя патрабаванні сталі гучаць усё радзей і не так моцна, адбывалася відавочнае нарошчванне супрацоўніцтва з беларускімі ўладамі. Пры гэтым, акрамя агучваемых пазіцый адносна палітвязняў астатні змест перамоваў з беларускім афіцыйным бокам заставаўся фактычна невядомым для грамадскасці.

Так, з 8 па 11 верасня ў Мінску знаходзілася міжведамасная дэлегацыя ЗША. Па выніках візіту і сустрэч намеснік памочніка дзяржсакратара ЗША па пытаннях дэмакратыі, правоў чалавека і працы Томас Меліа заявіў, што пытанне пра палітвязняў уздымалася падчас сустрэчы міжведамаснай урадавай дэлегацыі ЗША ў МЗС Беларусі, якая адбылася 9 верасня. Томас Меліа падкрэсліў, што пазіцыя Злучаных Штатаў застаецца нязменнай. «ЗША заўсёды заклікалі да вызвалення ўсіх палітвязняў у Беларусі, — сказаў ён. — У нас таксама адбылася сустрэча са сваякамі палітвязняў, на якой я запэўніў іх, што гэта пытанне застаецца для нас важным». Адказваючы на пытанне, што па гэтым пытанні сказалі прадстаўнікі беларускага МЗС, Меліа адзначыў: «Іх пазіцыя на працягу некалькіх гадоў не мяняецца. Яны працягваюць называць іх «так званымі палітвязнямі». І ўчорашняя заява МЗС [па выніках сустрэчы] адлюстроўвае тыя разыходжанні, якія ёсць у нас па гэтым пытанні».

Адначасова, ацэньваючы дадзены візіт, намеснік міністра замежных спраў Аляксандр Гур'янаў 17 верасня на прэс-канферэнцыі ў Мінску заявіў, што «нашы адносіны з Еўрапейскім Саюзам, бліжэйшымі суседзямі з

ЕС, са Злучанымі Штатамі знаходзяцца ў дынаміцы». Ён ізноў падкрэсліў зацікаўленасць Беларусі ў прагматычным дыялогу і супрацоўніцтве найперш у эканамічнай сферы: «Мы неаднаразова падкрэслівалі, што эканоміка і ў цэлым сацыяльна-эканамічнае развіццё для Беларусі — гэта прыярытэт. Таму зацыклівацца выключна на палітычных працэсах не ў інтарэсах нашай краіны». Гур'янаў адзначыў, што, «на шчасце, сёння пэўнае разуменне надыходзіць у частцы таго, што Беларусь гатовая абмяркоўваць і палітычныя пытанні, якія цікавяць нашых заходніх калег, але і паралельна рухаць эканамічныя праекты, якія цікавіць бізнэс».

Такім чынам, ніводным з бакоў не агучвалася, ці быў дасягнуты баланс інтарэсаў палітычнага і эканамічнага характару падчас перамоваў і які гэта можа мець уплыў на сітуацыю з дэмакратыяй, правамі чалавека ў Беларусі і лёсы палітычных зняволеных.

Важнай падзеяй у ацэнцы сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі стала прадстаўленне ў офіс Вярхоўнага камісара ААН па правах чалавека альтэрнатыўнага даклада беларускімі няўрадавымі арганізацыямі ў межах працэдуры Універсальнага перыядычнага агляду. Адзначыўшы пэўныя крокі па выкананні рэкамендацый, дадзеных па выніках першага цыкла УПА і прынятых Беларуссю, праваабаронцы выказалі заклапочанасць адсутнасцю рэальнага прагрэсу па ключавых праблемных сферах з правамі чалавека ў краіне: «Улады Беларусі не прадэманстравалі мінімальна неабходны ўзровень палітыкі падтрымкі і павагі да правоў чалавека. Рэкамендацыі ў рамках УПА аб вызваленні палітвязняў, лібералізацыі заканадаўства аб свабодзе выказвання і выбарах прызнаны непрымальнымі і не выкананы, па асобных пазіцыях прававыя рамкі яшчэ больш жорсткімі. У краіне няма органаў і структур, адказных за выпрацоўку і прасоўванне палітыкі ў галіне правоў чалавека, не прымаюцца перыядычныя комплексныя планы ў гэтай сферы. Дзейнасць парламенцкай камісіі, у кампетэнцыю якой, сярод іншага, уваходзяць пытанні правоў чалавека, за справаздачны перыяд практычна невядомая».

## Палітычныя зняволеныя, крымінальны пераслед грамадскіх актывістаў

3 верасня палітвязень Яўген Васьковіч падзякаваў за цёплыя словы і падтрымку супрацоўнікаў офіса БАЖ, якія павіншавалі зняволенага калегу са 100-годдзем «Бобруйского курьера», дзе ён працаваў да арышту. «Вядома, я тут не магу займацца журналісцкай дзейнасцю, пісаць у выданні. Аднак, тое, чаму я меў навучыцца ў «БК» і «БАЖ», дало мне добрую жыццёвую школу і дапамагло не знікнуць, заставацца жыццяра-

дасным і не смуткаваць», — адзначыў палітвязень. 20 верасня Рушанія Васьковіч, маці Яўгена Васьковіча, паведаміла, што ў сярэдзіне кастрычніка чакаецца перавод яе сына ў Магілёўскую калонію № 15, дзе ён адбываў пакаранне да пераводу ў турму №4. Гэта звязана з заканчэннем 3-гадовага тэрміна ўтрымання Яўгена ў турме, вызначанага судом.

4 верасня ў Горацкай калоніі палітвязня Васіля Парфянкова, ад якога два месяцы не было вестак, наведала адвакат Вольга Безбародкіна. Падчас сустрэчы адвакат узгадніла тэкст нагляднай скаргі на прысуд Васілю Парфянкову і даведалася ад яго пра ўмовы ўтрымання. Па словах адваката, Васіль не змог растлумачыць, чаму ад яго сябры не атрымлівалі лістоў, бо ён пісаў. Васіль Парфянкоў па-ранейшаму ўтрымліваецца адзін у ПКТ — памяшканні камернага тыпу. Адвакат адзначыла бледнасць палітвязня і тое, што ён схудаў. 28 верасня актывістка Вольга Мікалайчык, якая рэгулярна лістуецца з Васілём Парфянковым, паведаміла пра тое, што да палітвязня зноў перасталі прапускаць лісты. У сярэдзіне верасня Вольга Мікалайчык прыяжзджала ў калонію ў Горках, але сустрэчу з Васілём Парфянковым ей не дазволілі і не прынялі перадачу. З таго часу Вольга накіравала Парфянкову некалькі лістоў з часопісамі, газетамі, пустымі паштоўкамі і атрымала ад яго паведамленне, з якога вынікае, што яе лісты і пасланні іншых сяброў-адзінадумцаў да зняволенага не даходзяць.

6 верасня Марына Адамовіч, жонка палітвязня Мікалая Статкевіча, паведаміла, што з ліста мужа ёй вядома пра канфіскацыю адміністрацыяй турмы 7 лістоў палітыка з каментарамі падзей ва Украіне. 8 верасня Статкевіч Віктар Паўлавіч, бацька Мікалая Статкевіча, атрымаў ананімны ліст з пагрозамі ў свой і адрас сына і яго жонкі Марыны Адамовіч. Ліст знаходзіўся ў паштовай скрыні, тэкст быў напісаны невядомай рукой вялікімі літарамі. Аўтар ананімкі паведаміў, што калі Мікалай выйдзе з турмы, яго заб'юць. 10 верасня 88-гадовы Статкевіч-старэйшы, які жыве адзін у Баранавічах, і жонка Мікалая падалі заяву ў міліцыю з нагоды атрымання ананімнага ліста з пагрозамі. 15 верасня Марына Адамовіч паведаміла, што цэнзары Магілёўскай турмы, дзе адбывае пакаранне Мікалай Статкевіч, канфіскавалі ягоны ліст да бацькі. Гэта адбылося ўпершыню за амаль 4 гады зняволеньня палітвязня. 12 верасня Мікалая Статкевіча ў турме наведаў адвакат. 29 верасня Марына Адамовіч з тэлефанавання Мікалая Статкевіча даведалася, што перамогай скончылася змаганне мужа з турэмшчыкамі наконт таго, як быць апранутым падчас заняткаў фізкультурай. Раней палітвязню забаранілі займацца фізкультурай, зняўшы турэмную робу, і зрабілі заўвагу, якая магла скончыцца пакараннем.

Мікалай Статкевіч з гэтым не пагадзіўся і дамогся адмены незаконнага абмежавання. Марына Адамовіч паведаміла, што ў верасні Мікалая Статкевіча і іншых вязняў Магілёўскай турмы наведаў назіраючы пракурор. Паводле яе звестак, пракурор адзначыў, што «Статкевіч у турме выглядае добра». Жонцы палітвязня невядома пра тое, каб муж на нешта скардзіўся пракурору.

8 верасня Марына Лобава, маці палітвязня Эдуарда Лобава, паведаміла, што, нягледзячы на тое, што ў пачатку лета яе сын у Івацэвіцкай калоніі атрымаў прафесію зваршчыка, працы па гэтай спецыяльнасці ў калоніі яму не знайшлося. Па словах Марыны Лобавай, яе сын часам выходзіць на прамысловую зону, выконвае нейкія працы, але не па спецыяльнасці.

15 верасня Уладзімір Аліневіч, бацька палітвязня Ігара Аліневіча, паведаміў, што сын атрымаў у калоніі «Віцьба-3» працу на дрэваапрацоўцы. Ён не змог удакладніць, што менавіта робіць ягоны сын, якога ў «Віцьбу-3» перавялі толькі ў ліпені. Паводле Уладзіміра Аліневіча, у калоніі пад Віцебскам ягонаму сыну ўжо выдалі тэлефонную картку, і ён можа хоць зрэдку, але рэгулярна тэлефанаваць дадому. У Наваполацкай калоніі, дзе Ігар Аліневіч адбыў больш за 3 гады зняволення, гэтай магчымасці ён фактычна быў пазбаўлены. Рэгулярна ад Ігара Аліневіча даходзяць і лісты.

16 верасня ў судзе Цэнтральнага раёна Мінска пачаўся разгляд крымінальнай справы, узбуджанай супраць актывіста з Гомеля Юрыя Рубцова па абвінавачанні ў злачынстве, прадугледжаным артыкулам 391 Крымінальнага кодэкса «Абраза суддзі або народнага засядацеля». Суддзя — Наталля Вайцэховіч. У аснове абвінавачання — заява суддзі суда Савецкага раёна Мінска Кірылы Палулеха, які сцвярджае, што падчас разгляду адміністрацыйнай справы Юрыя Рубцова 28 красавіка той нібыта яго абразіў. Суддзя дапытала Юрыя Рубцова. Ён патлумачыў, што 28 красавіка яго даставілі ў суд Савецкага раёна Мінска напаўаголеным, што абражала ягоную годнасць. Апроч таго, ён не змог азнаёміцца з матэрыяламі адміністрацыйнай справы, паколькі быў без акуляраў. Таму і сказаў, што гэта «не суд, а судзілішча». Затым адбыўся допыт пацярпелага — Кірылы Палулеха і сведкаў: супрацоўнікаў АМАП Шарко і Андрэя Белага, а таксама супрацоўніка РУУСа Паўла Нелюбовіча, якія прысутнічалі пры разглядзе адміністрацыйнай справы, і сакратара Дар'і Стасюк, якія пацвердзілі словы суддзі Палулеха, што Рубцоў яго абразіў. Яны паведамілі, што Рубцоў нецэнзурна выказваўся, казаў, што гэта не суд, а

судзілішча, і назваў суддзю Кірыла Палулеха «падонкам». У сувязі з тым, што на працэс з'явіліся не ўсе сведкі, судовае паседжанне было перанесена на 6 кастрычніка.

20 верасня Віялета Пракапенка, маці палітвязня Арцёма Пракапенкі, паведаміла, што яе сын атрымаў у калоніі № 15 Магілёва, дзе ён адбывае пакаранне, часовую працу. Па яе словах, ад сына сям'я атрымала некалькі лістоў і тэлефанаванняў. У размове з сястрой Арцём паведаміў, што яшчэ ў ліпені атрымаў спагнанне за парушэнне, якое выявілася ў неадпаведным адзенні. Тады была спякота, ён зняў робу, а мусіў быць у робе. Іншым вязням гэта дазваляюць.

22 верасня Аляксандр Дзядок, бацька палітвязня Мікалая Дзядка, які адбывае пакаранне ў Магілёўскай турме №4, паведаміў, што сын правёў у штрафным ізалятары 20 сутак. Турэмная адміністрацыя пакарала яго за парушэнне ўстаноўленай для зняволеных формы адзення. Пакаранне было вынесена літаральна праз дзень пасля Дня народзінаў палітвязня, 23 жніўня. За ўвесь час знаходжання пад вартай М. Дзядок атрымаў больш за 20 спагнанняў ад адміністрацыі калоніі і турмы. Пасля вызвалення са штрафнога ізалятара палітвязня наведаў адвакат.

## Гвалтоўныя знікненні

1 верасня кіраўнік «Беларускага дакументацыйнага цэнтра» (БДЦ) Раіса Міхайлоўская паведаміла, што Ульяна Захаранка прызнаная пацярпелай па справе свайго сына Юрыя Захаранкі і можа азнаёміцца з матэрыяламі расследавання справы па факце ягонага знікнення. Праваабаронца адзначыла, што яшчэ ў траўні 2014 года БДЦ дапамог Ульяне Рыгораўне напісаць хадайніцтва аб прызнанні яе пацярпелай, абапіраючыся на арт. 252 КПК, дзе зафіксаваныя правы пацярпелых. Следчы ў задавальненні хадайніцтва спачатку адмовіў. Гэтая адмова была абскарджана двойчы, і ў выніку 14 ліпеня Ульяна Захаранка была прызнаная пацярпелай. Ульяна Рыгораўна даведалася аб прызнанні яе пацярпелай толькі 28 жніўня пасля двух скаргаў на следчага Юрыя Вараўку, які не рэагаваў на яе хадайніцтва. Калі б са Следчага камітэта не паведамілі пра вынікі праверкі па яе скарзе, яна б так і не даведалася пра тое, што следчы вынес станоўчае рашэнне. У дадзеным выпадку мае месца найгрубейшае парушэнне Крымінальна-працэсуальнага кодэкса, паколькі ў адпаведнасці з артыкулам 50 КПК РБ пацярпелы мае права не толькі ведаць сутнасць абвінавачвання, але і мае права атрымліваць паведамленне аб прыняцці рашэнняў, якія закранаюць яго

правы і інтарэсы, а таксама атрымліваць копіі гэтых рашэнняў. Дакумент аб прызнанні Ульяны Захаранкі пацярпелай следчы Ю.Вараўка прыехаў падпісваць дзіўным чынам: ён з'явіўся ў суправаджэнні некалькіх чалавек проста ў дом, не прадставіўся, напалохаў пажылую жанчыну, сунуў у рукі паперу і сказаў падпісаць. Яна падпісала, а потым спалохалася, і два месяцы 90-гадовая жанчына перажывала, што падпісала паперы, якія пазбаўляюць яе ўнукаў кватэры ў Мінску — гэта ўсё, што ў сям'і засталося ад Юрыя Захаранкі. Сям'я не магла распарадзіцца гэтай кватэрай на працягу 15 гадоў, таму што грамадзянская справа аб прызнанні генерала памерлым не завершана. Р. Міхайлоўская паведаміла таксама, што юрыстамі БДЦ было падрыхтавана і накіравана ў адрас Следчага камітэта РБ хадайніцтва ад імя пацярпелых Вольгі Захаранка і Ірыны Красоўскай аб аб'яднанні крымінальных спраў у адну вытворчасць. А таксама аб кваліфікацыі дзеянняў асоб, якія маюць дачыненне да здзяйснення злачынства, па арт. 128 КК РБ, паколькі ў дачыненні Ю. Захаранкі, В. Ганчара, А. Красоўскага здзейснены злачынныя дзеянні, накіраваныя супраць бяспекі чалавецтва (сістэматычнае ажыццяўленне пакаранняў смерцю без суда, выкраданне людзей, за якімі наступае іх знікненне). Пастановай ад 17 ліпеня 2014 года, вынесенай тым жа следчым Ю. Вараўкам, у задавальненні хадайніцтва было адмоўлена. У якасці прычыны ўказана адсутнасць дастатковых на тое падстаў.

8 верасня «Беларускі дакументацыйны цэнтр» падрыхтаваў асобнае прадстаўленне для раздзела «Права на жыццё» для сумеснага альтэрнатыўнага даклада НДА Беларусі, падрыхтаванага ў межах працэдуры Універсальнага перыядычнага агляду. У прадстаўленым дакуменце выкладаецца праблема, звязаная з гвалтоўнымі знікненнямі ў Беларусі палітычных апанентаў улады Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага і Дзмітрыя Завадскага. БДЦ глыбока занепакоены той акалічнасцю, што ў 2014 годзе мінуў 15-гадовы тэрмін даўніны прыцягнення да крымінальнай адказнасці па фактах названых знікненняў, што дазволіць уладам спыніць крымінальныя справы, і асобы, якія ўчынілі злачынствы супраць чалавецтва, застануцца беспакаранымі. Названыя дакументы па Рэспубліцы Беларусь будуць разгледжаны на 22-й сесіі Савета па правах чалавека ААН у траўні-чэрвені 2015 года.

## Пераслед праваабаронцаў і праваабарончыя арганізацыі

23 верасня ў Магілёўскім абласным судзе адбылося першае пасяджэнне па справе аб прыпыненні на тры месяцы дзейнасці «Магілёўскага праваабарончага цэнтра» (МПЦ). У пазове ўпраўлення юстыцыі

гаворыцца, што аб'яднанне «не прадстаўляла ў вызначаны час дакументы, неабходныя для рэгістрацыі зменаў юрыдычнага адрасу». У сувязі з гэтым грамадскаму аб'яднанню былі вынесены два папярэджанні, якія не былі абскарджаны, выяўленыя парушэнні не выпраўлены. МПЦ зарэгістраваны ў памяшканні, заяўленая плошча якога складае 17 квадратных метраў, і гэтая лічба ўказана праваабаронцамі ў дакументах. Супрацоўнікі ўпраўлення юстыцыі ўстанавілі, што рэальная плошча памяшкання па пашпарце складае 17,3 квадратных метры і загадалі заснавальнікам арганізацыі ўнесці выпраўленні ў дакументы. Была дапушчана тэхнічная памылка, якую лёгка было б выправіць, але гаспадар памяшкання, які спачатку пагадзіўся даць прытулак няўрадавай арганізацыі, пасля вяртання дакументаў з упраўлення юстыцыі адмовіўся паўторна падпісваць дадатак да дамовы з падкарэктаванымі параметрамі офіса. Дырэктар МПЦ Уладзімір Краўчанка сцвярджае, што пазіцыя ўладальніка памяшкання змянілася пасля таго, як ён атрымаў «настойлівыя рэкамендацыі» зверху, намякаючы на ціск мясцовых уладаў. Калі ў трохмесячны тэрмін МПЦ не зможа знайсці новае памяшканне, то наступны пазоў будзе пададзены ўжо аб ліквідацыі грамадскага аб'яднання.

23 верасня праваабаронца Алена Танкачова, грамадзянка Расійскай Федэрацыі, якая каля 30 гадоў пражывае ў Беларусі, атрымала апавяшчэнне аб пачатку працэдуры анулявання віду на жыхарства. Праваабаронца заявіла пра намер прадпрыняць усе неабходныя юрыдычныя дзеянні, якія могуць паўплываць на сітуацыю. А. Танкачова выказала спадзяванне на станоўчае вырашэнне праблемы і магчымасць застацца ў Беларусі. Алена Танкачова з'яўляецца старшынёй праўлення асветніцкай установы Цэнтр прававой трансфармацыі «Lawtrend».

30 верасня Вярхоўны суд пацвердзіў законнасць і абгрунтаванасць пазіцыі Міністэрства юстыцыі, якое адмовіла ў рэгістрацыі рэспубліканскага праваабарончага грамадскага аб'яднання «Рух за рэалізацыю Міжнароднага пакта па грамадзянскіх і палітычных правах» («Пакт»). Суддзя Мікалай Бабкоў не задаволіў скаргу Уладзіміра Букштынава, Леаніда Судаленкі і Міхаіла Пастухова, якія прасілі суд прызнаць неправамернай адмову ў рэгістрацыі грамадскага аб'яднання, паколькі гэтая адмова парушае канстытуцыйныя правы на свабоду аб'яднання 52-х грамадзян Беларусі — заснавальнікаў «Пакту». Вярхоўны суд адмовіўся задаволіць хадайніцтва заяўнікаў на праверку ініцыявання адпаведнасці Канстытуцыі тых нарматыўна-прававых актаў, якія тычацца рэгістрацыі грамадскіх аб'яднанняў.

## Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні

3 верасня ў другой палове дня ў Мінску на пляцоўцы каля гандлёвага цэнтра «Мацярык» (раён метро «Каменная Горка») падчас збору подпісаў супраць вяшчання ў Беларусі найбольш адыёзных расійскіх каналаў і за дазвол вяшчання ўкраінскіх супрацоўнікі міліцыі затрымалі актывіста аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» Дзяніса Лайкова і двух незалежных журналістаў, якія асвятлялі падзею. Усіх даставілі ў РУУС Фрунзенскага раёна. Амаль праз тры гадзіны пасля затрымання ўсіх вызвалілі з міліцэйскага пастарунка без складання пратаколаў аб адміністрацыйным правапарушэнні.

11 верасня актывіст «Zмены» Ягор Віняцкі быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі ў Мінску на выхадзе з капіравальнага цэнтра на вул. Няміга, дзе ён забіраў зробленыя на замову майкі з надпісамі апазіцыйнага зместу. Я. Віняцкі быў дастаўлены ў РУУС Цэнтральнага раёна, дзе на яго быў складзены пратакол адміністрацыйнага правапарушэння па абвінавачанні ў непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі (арт. 23.4 КаАП). 12 верасня суддзя суда Цэнтральнага раёна Мінска А. Дзянкевіч прызнаў актывіста вінаватым і асудзіў на 15 сутак адміністрацыйнага арышту.

12 верасня суд Маскоўскага раёна Мінска арыштаваў на 15 сутак актывіста моладзевай ініцыятывы «Zмена» Паўла Вінаградава па абвінавачанні ў дробным хуліганстве. Таксама яго пакаралі штрафам у 10 базавых велічынь за парушэнне правіл прэвентыўнага нагляду і штрафам у 3 базавыя велічыні па абвінавачанні ў распіцці спіртных напояў у грамадскім месцы. Паводле сведак — супрацоўнікаў міліцыі Канцавога і Вярбіцкага, Павел нібыта 11 верасня піў піва на стадыёне каля аддзялення міліцыі. Разам з тым, 11 верасня актывіст цэлы дзень знаходзіўся ў РУУС, куды ён прыйшоў зраніцы, каб адзначыцца згодна з умовамі прэвентыўнага нагляду. Нягледзячы на гэта, суддзя Таццяна Мотыль прызнала яго вінаватым па ўсіх абвінавачаннях. Павел заяўляў адвод суддзі, аднак яна яго адхіліла. Актывіст прызнаў сябе вінаватым толькі ў парушэнні правіл прэвентыўнага нагляду: калі да яго прыйшлі з праверкай супрацоўнікі міліцыі, ён выйшаў з дому.

12 верасня перарвалася сувязь з актывістам «Zмены» Віталем Васільковым. 15 верасня высветлілася, што ў той дзень (пятніца) ён быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі па абвінавачанні ў дробным хуліганстве (арт.17.1 КаАП) і непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі (арт.23.34 Ка-

АП) і дастаўлены ў РУУС Партызанскага раёна Мінска. Выходныя актывіст правёў у Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў. 15 верасня суддзя суда Партызанскага раёна Наталля Дзядкова прызнала Віталя Васількова вінаватым і вынесла пастанову аб арышце тэрмінам 10 сутак.

12 верасня ў Мінску міліцыя затрымала 25 удзельнікаў ініцыятывы «Кіно ў пераходзе». Прагляд мусіў адбыцца ў Парку Горкага. Усе затрыманыя былі дастаўлены ў РУУС Партызанскага раёна, але праз тры гадзіны вызваленыя. 18 верасня каля станцыі метро «Фрунзенская», дзе павінен быў адбыцца прагляд дакументальнага фільма пра вулічнага мастака Бэнксі, былі затрыманы 20 удзельнікаў прагляду, сярод якіх — Дзмітрый Латушкін і Наста Доль. Затрыманыя былі дастаўлены ў РУУС Маскоўскага раёна Мінска, адкуль адпусцілі ўсіх, акрамя Д. Латушкіна і Н. Доль. 19 верасня Наста Доль і Дзмітрый Латушкін былі дастаўлены ў суд Маскоўскага раёна. Яны былі абвінавачаны паводле двух артыкулаў Адміністрацыйнага кодэкса: дробнае хуліганства (арт. 17.1) і непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі (арт. 23.4). Суддзя Таццяна Мотыль пакарала Насту Доль і Дзмітрыя Латушкіна арыштамі на 6 і 5 сутак адпаведна. Пры гэтым Латушкін быў асуджаны «таемна» — без удзелу адваката і сведак.

16 верасня перад пачаткам судовага працэса над Юрыем Рубцовым у Мінску быў затрыманы актывіст Ілля Дабратвор. Супрацоўнікам міліцыі не спадабалася ягоная майка з надпісам «Свабоду палітвязням». Актывіст быў абвінавачаны ў парушэнні артыкулаў 17.1 (дробнае хуліганства) і 23.4 (непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі) КаАП. 17 верасня ў судзе Ленінскага раёна адбыўся разгляд адміністрацыйнай справы актывіста. Працэс праводзіў суддзя Міхаіл Хома. Сведкі-супрацоўнікі міліцыі сцвярджалі, што Дабратвор быў нападпітку, але суддзя адмовіў у задавальненні хадайніцтва аб правядзенні экспертызы на наяўнасць алкаголю. Суддзя таксама адмовіўся выклікаць у якасці сведкі журналіста Сяргея Сацука, які быў побач падчас затрымання Іллі Дабратвора, як і іншых сведак, што былі каля суда. Было адмоўлена ў далучэнні да матэрыялаў справы аператыўных відэаздымкаў. У выніку судовага разгляду Міхаіл Хома прызнаў актывіста вінаватым і вынес рашэнне аб адміністрацыйным арышце шляхам складання двух правапарушэнняў тэрмінам 20 сутак.

19 верасня ў Гродна міліцыя затрымала грамадскую актывістку Вольгу Крапоціну ў цэнтры горада каля гандлёвага цэнтра «Баторыя». У Вольгі Крапоцінай забралі 17 улётак з тэкстам «Вярніце Крым Украіне», а яе саму павезлі ў аддзяленне міліцыі па вуліцы Гараднічанскай. Туды ж неўзабаве прыехалі журналісты. Праваабаронца Уладзімір Хільмановіч

хацеў прайсці ў пастарунак разам з затрыманай, але яго туды не пусцілі. Вольгу Крапоціну чакалі дзве гадзіны, за гэты час міліцыянты склалі пратакол апытання. Адразу Крапоціну не выпусцілі, а павезлі па месцы жыхарства — там у інтэрнаце быў праведзены агляд памяшкання. Ніякай друкаванай прадукцыі выяўлена не было, але міліцыянты забралі ў пакоі ноўтбук, які не належаў Крапоцінай.

27 верасня ў Салігорску быў затрыманы актывіст «Еўрапейскай Беларусі» Уладзімір Лемеш, які ўжо некалькі гадоў навучаецца за мяжой і таму на сваёй малой радзіме бывае нячаста. Актывіст каля 16 гадзін выйшаў у краму па хлеб. Да яго падышлі двое ў цывільным. Адзін назваўся супрацоўнікам міліцыі Жыгімонтам і паведаміў, што ім неабходна даставіць У. Лемеша ў РАУС. Там яго перадалі ўчастковаму, які склаў пратакол па абвінавачанні ў дробным хуліганстве: нібыла актывіст каля ўласнага пад'езда беспрычынна з хуліганскіх намераў гучна лаяўся матамі, на заўвагі міліцыянтаў не рэагаваў. Да суда У. Лемеш двое сутак утрымліваўся ў ізалятары. 30 верасня суддзя суда Салігорскага раёна Сяргей Самуйлік прызнаў маладзёна вінаватым у парушэнні артыкула 17.1 КаАП і аштрафаваў на 2 базавыя велічыні. Пасля судовага паседжання Уладзіміра Лемеша міліцыянты павезлі дадому для правядзення так званага агляду. Агляд быў санкцыянаваны ў межах праверкі па факце вандалізму: так быў кваліфікаваны арт-перформанс невядомай групы «Партызан» па перафарбаванні 15-метровага знаку на ўездзе ў Салігорск у бел-чырвона-белы колер. Па выніках агляду ва Уладзіміра былі выняты копіі падпісных лістоў за кандыдата ў прэзідэнты на выбарах 2010 года Андрэя Саннікава, кніга Алеся Бяляцкага і бел-чырвона-белы сцяг і стужкі. Якое дачыненне ўсе гэтыя рэчы малі мець да так званага вандалізму, міліцыянты не патлумачылі.

## Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі, пераслед журналістаў

3 верасня стала вядома, што Камітэт па правах чалавека ААН прызнаў, што правы журналісткі «Народнай волі» Марыны Коктыш былі парушаны пры адмове ёй у акрэдытацыі ў Палаце прадстаўнікоў беларускага парламента. Справа з адмовай у акрэдытацыі датычыць 2008 года. Журналістка звярталася з просьбай аб акрэдытацыі пры Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ, але без тлумачэння прычын атрымала адмову, хаця раней такую акрэдытацыю мела. Рэдакцыя «Народнай волі» накіравала зварот да старшыні Палаты прадстаўнікоў. Адказаў газеце не спікер, а старшыня Камісіі па правах чалавека, нацыянальных адносінах

і СМІ Юрый Кулакоўскі. У вуснай форме ён патлумачыў, што журналістцы забаронены допуск у Дом ураду. Пасля гэтага Марына Коктыш некалькі разоў звярталася ў суд, але сітуацыя з акрэдытацыяй журналісткі так і не змянілася. Камітэт прыйшоў да высновы, што беларускія ўлады пры адмове ў акрэдытацыі парушылі артыкул 19 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, які гарантуе кожнаму чалавеку права на свабодны збор, пошук і распаўсюд інфармацыі.

4 верасня Вярхоўны суд абавязаў Польскае тэлебачанне спыніць выкарыстанне гандлёвага знака «Белсат» пры трансляцыі на тэрыторыю Беларусі, а таксама на старонцы сайта «Белсат» у інтэрнэце, даступным для карыстальнікаў на тэрыторыі Беларусі. Суд таксама пастанавіў спагнаць з адказчыка 9 998 800 рублёў судовых выдаткаў. Пазоў супраць кампаніі Telewizja Polska S.A., якой належыць гандлёвая марка «Белсат», быў пададзены ўладальнікам беларускай фірмы «БЕЛСАТплюс» Андрэем Беляковым у траўні 2013 года. Паводле Белякова, яго кампанія, якая займаецца продажам абсталявання для прыёму спадарожнікавага і кабельнага тэлебачання, нібыта церпіць страты з-за сугучнасці з назвай тэлеканала. 27 студзеня 2014 года калегія Вярхоўнага суда пазоў Белякова адхіліла ў сувязі з тым, што заяўнік не прадставіў доказаў парушэння ягоных выключных правоў на гандлёвы знак. Але праз пяць месяцаў Прэзідыум Вярхоўнага суда Беларусі прыняў рашэнне накіраваць пазоў Андрэя Белякова супраць тэлеканала «Белсат» на новы разгляд у сувязі з нібыта недасканалым вывучэннем доказаў па справе.

16 верасня сем супрацоўнікаў міліцыі пад кіраўніцтвам маёра Уладзіміра Пугачова ўварваліся ў кватэру незалежнага журналіста Алеся Буракова. Міліцыянты падставілі пад дзверы нейкую жанчыну, якая прадставілася супрацоўніцай ЖЭК, і як толькі Алесь Буракоў адчыніў дзверы, яго ледзь не збілі з ног. Супрацоўнікі праваахоўных органаў правялі агляд кватэры. Усе свае дзеянні яны фіксавалі на відэакамеру. Сказалі, што Буракоў падазраецца ў парушэнні закона «Аб СМІ», бо нібыта супрацоўнічае з нямецкім радыё «Deutsche Welle» і не мае на тое адпаведнай акрэдытацыі. У якасці доказаў міліцыянты спасылаліся на публікацыі, якія былі размешчаны на сайце радыё і былі падпісаныя Алесем Бураковым. Пасля таго, як кватэра журналіста была агледжана, міліцыянты паехалі рабіць агляд кватэры бацькоў Алеся, дзе таксама забралі кампутары. У выніку ў журналіста забралі два стацыянарных кампутары і два ноўтбукі на экспертызу. Абяцалі вярнуць кампутары праз 1-2 тыдні, як толькі праверка кампутараў будзе скончана. Алесь Буракоў адзначыў, што на рукі яму выдалі толькі пратакол аб аглядзе месца адміністрацый-

нага правапарушэння. Пратакола аб выняцці кампутараў яму не выдалі. 18 верасня Аляксандр Буракоў накіраваў скаргі на дзеянні супрацоўнікаў Ленінскага РАУС горада Магілёва міністру ўнутраных спраў Ігару Шуневічу і начальніку УУС Магілёўскага аблвыканкама Аляксандру Кавальчуку. Таксама ён накіраваў скаргу на дзеянні службовых асоб Ленінскага РАУС Магілёва і невядомых намеснікаў пракурора горада Магілёва на імя пракурора Магілёўскай вобласці. Журналіст лічыць, што праведзеныя 16 верасня агляды і выняткі камп'ютарнай тэхнікі ў кватэрах яго і яго бацькоў былі здзейснены незаконна, і ўсе доказы, атрыманыя пры правядзенні гэтых працэсуальных дзеянняў, не маюць юрыдычнай сілы. 23 верасня Аляксандр Буракоў у чарговы раз сустрэўся з супрацоўнікамі міліцыі ў Ленінскім РАУС Магілёва. Разам з журналістам у пастарунак таксама завіталі праваабаронца Барыс Бухель і бацькі Аляксандра Буракова. Барыс Бухель і маці Аляксандра Буракова заявілі хадайніцтва, каб іх дапусцілі ў якасці прадстаўнікоў журналіста ў кабінет, дзе праводзілася апытанне, аднак маёр міліцыі Уладзімір Пугачоў просьбу адхіліў. На гэты раз гутарка з маёрам Пугачовым праходзіла ў падкрэслена карэктнай форме, без складання пратакола. Міліцыянт ужо ведаў пра шматлікія скаргі на парушэнні заканадаўства пры правядзенні агляду ў кватэры Аляксандра Буракова і яго бацькоў, якія журналіст накіраваў у розныя інстанцыі. Ён уручыў журналісту чарговую позву ў міліцыю на 30 верасня і паведаміў, што да гэтага часу павінна быць прынята рашэнне — будзе ў дачыненні да яго складзены пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні ці перад ім выбачацца і адміністрацыйную справу спыняць. 30 верасня намеснік начальніка аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Ленінскага РАУС маёр Уладзімір Пугачоў азнаёміў журналіста з падрыхтаваным загадзя пратаколам аб адміністрацыйным правапарушэнні. Паводле дакумента, журналіст абвінавачваецца ў парушэнні часткі 2 арт. 22.9 КаАП — незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ. У пратаколе названы канкрэтны прыклад такой «незаконнай прадукцыі» — размешчаны на сайце DW.de («Нямецкая хваля») 25 жніўня 2014 года артыкул «Тропой контрабандиста: работают ли российские санкции в приграничье?» за подпісам Аляксандра Буракова. Супрацоўнікі міліцыі вярнулі Аляксандру Буракову два ноўтбукі, якія належаць яго жонцы і былі забраныя падчас «агляду» кватэры журналіста, а таксама адзін з сістэмных блокаў з кватэры яго бацькоў. Другі сістэмны блок з кватэры бацькоў журналіста па-ранейшаму заставаўся ў супрацоўнікаў Ленінскага РАУС, як і флэшкі.

16 верасня прадстаўніца АБСЕ па пытаннях свабоды СМІ Дуня Міятавіч, якая 15-16 верасня знаходзілася ў Мінску з афіцыйным візітам, заявіла, што патрабаванне аб абавязковай акрэдытацыі журналістаў у

Беларусі павінна быць адменена, бо яно рэальна абмяжоўвае магчымасці СМІ. Яна падкрэсліла, што ўвесь час падымае гэтую праблему падчас кантактаў з прадстаўнікамі беларускіх уладаў. Акрамя адмены абавязковай акрэдытацыі журналістаў, у Беларусі варта рэфармаваць заканадаўства аб СМІ і доступе да інфармацыі, выказалася Дуня Міятавіч. Гэтыя законы, паводле яе слоў, «тэрмінова маюць патрэбу ў рэформах» і павінны быць «гарманізаваныя і лібералізаваныя ў адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі». Змены заканадаўства ў галіне СМІ неабходныя для рэальнага паляпшэння сітуацыі ў краіне, перакананa прадстаўніца АБСЕ. Важным пытаннем таксама з'яўляецца свабода ў інтэрнэце, падкрэсліла яна: «У маім парадку дня гэтае пытанне займае важнае месца ў дачыненні да ўсіх краін — удзельніц АБСЕ, каб пераканацца, што не плануюцца ніякія забароны ў інтэрнэце ці нешта падобнае».

24 верасня Міністэрства замежных спраў Беларусі адмовіла журналісту «Беларускага Радыё Рацыя» Віктару Парфёненку ў акрэдытацыі ў якасці карэспандэнта замежнага СМІ. Пра гэта журналісту паведамілі ў прэс-службе МЗС. Адпаведныя дакументы журналіст накіраваў яшчэ 16 ліпеня. Гэта была ўжо сёмая спроба Парфёненкі, усе папярэднія таксама скончаліся адмовамі. Сам журналіст лічыць дадзенае рашэнне дыскрымінацыйным, скіраваным супраць магчымасці грамадства атрымліваць праўдзівую і рознабаковую інфармацыю на хвалях «Беларускага Радыё Рацыя».

25 верасня ў Бабруйску суддзя Наталля Чарапуха агучыла рашэнне па справе незалежнай журналісткі Марыны Малчанавай, якая абвінавачвалася ў супрацоўніцтве з замежным СМІ без акрэдытацыі. Суддзя зачытала запыт супрацоўніка міліцыі Сяргея Рудзько ў Міністэрства замежных спраў і адказ адтуль. Таксама яна зачытала запыт гэтага міліцыянта ў краснапольскую міліцыю з просьбай апытаць гераіню рэпартажа на тэлеканале «Белсат» пра дабрачынны рух. Адвакатка Марыны Малчанавай патлумачыла суду, што яе падабаронная не можа быць пакараная па артыкуле, парушэнне якога ставіцца ёй у віну. Яна адзначыла, што Малчанава — фізічная асоба, а артыкул 22.9 КаАП прадугледжвае пакаранне юрыдычных асоб. Таксама яна патлумачыла, у чым розніца паміж гатовай прадукцыяй, якая з'яўляецца ў СМІ, і зборам матэрыялаў, нагадала пра 34 артыкул Канстытуцыі, які гарантуе свабодны збор і распаўсюд інфармацыі любым грамадзянам Беларусі. Пасля гадзіннага перапынку суддзя Наталля Чарапуха агучыла пастанову: прызнаць віну Малчанавай у парушэнні артыкула 22.9 у другой частцы даказанай і пакараць яе штрафам у 32 базавыя велічыні.

26 верасня ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» прыняла заяву адносна неправамернасці пераследу рэпарцёраў, чые імёны і матэрыялы з'яўляюцца ў замежных СМІ. Журналісцкая арганізацыя лічыць, што ціск на такіх журналістаў мае адкрыты характар запалохвання і шантажу і супярэчыць нормам нацыянальнага заканадаўства і міжнародным абавязкам Рэспублікі Беларусь у галіне забеспячэння свабоды распаўсюду інфармацыі. ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» звярнула ўвагу, што палажэнні артыкула 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях «Парушэнне заканадаўства аб сродках масавай інфармацыі» не ў першы раз выкарыстоўваюцца неправамерна ў дачыненні да журналістаў, якія накіроўваюць свае матэрыялы ў замежныя медыя. Такая практыка парушае як унутранае заканадаўства Рэспублікі Беларусь, так і міжнародныя абавязальніцтвы нашай дзяржавы ў сферы свабоды выказвання меркавання.

## Абмежаванне свабоды сходаў

1 верасня ў Брэсце былі забаронены пікеты ў падтрымку малога памежнага руху. Паводле слоў аднаго з ініцыятараў пікетаў Аляксандра Храпко, у заяўках падкрэслівалася, што акцыі будуць ладзіцца ў брэсцкім парку воінаў-інтэрнацыяналістаў і на стадыёне «Лакаматыў». Менавіта гэтыя пляцоўкі самі гарадскія ўлады сваім рашэннем выбралі ў якасці месцаў, дзе могуць адбывацца масавыя мерапрыемствы такога кшталту. Увогуле, паводле слоў Аляксандра Храпко, у Брэсцкай вобласці з усіх пададзеных заявак на правядзенне падобных акцый дазвол быў атрыманы толькі на пікет, які адбыўся ў Пружанах.

1 верасня намеснік старшыні аргкамітэта святкавання 500-х угодкаў бітвы пад Оршай мастак Мікола Купава атрымаў афіцыйны ліст з забаронай з Аршанскага райвыканкама. Афіцыйная прычына забароны — адсутнасць дамоў на абслугоўваньне акцыі з міліцыяй, паліклінікай і службай ЖКГ. Такія дамовы, згодна з рашэннем мясцовага выканкама, заяўнік мусіць заключыць яшчэ да звароту па дазвол. Праз тое, што дамовіцца з гэтымі службамі немагчыма, бо гэткіх паслуг яны не аказваюць, аршанскія ўлады на працягу апошніх 4 гадоў не далі ніводнага дазволу ні на якія масавыя мерапрыемствы з ініцыятывы мясцовых актывістаў. Мікола Купава лічыць, што калі б аршанскія ўлады пагадзіліся, што бітва пад Оршай — гэта знакавая гістарычная падзея, а 500-я ўгодкі — гэта важная дата, яны напісалі б, што і ў якім парадку трэба зрабіць, каб атрымаць дазвол. Маглі б і дапамагчы ў арганізацыі — тады ніякія дамовы на абслугоўванне зусім не патрэбныя. Аднак райвыканкам цягнуў з адказам да апошняга, і за 5 дзён да мерапрыемства даслаў ліст з забаронай.

3 верасня праваабаронцы Тамара Шчапёткіна і Сяржук Русецкі атрымалі адказ з Брэсцкага аблвыканкама, куды яны звярталіся з праблемай неадпаведнасці рашэння Бярозаўскага райвыканкама пастанове Савета Міністраў. Адказ дасланы за подпісам намесніка старшыні аблвыканкама Леаніда Цупрыка. У лісце паведамлялася, што райвыканкаму дадзена даручэнне прывесці іх рашэнне ў адпаведнасць з пастановай Савета Міністраў №207, згодна з якой мясцовы выканаўчы орган павінен сам звяртацца ў міліцыю наконт аховы правапарадку на масавым мерапрыемстве, атрымаўшы заяву.

4 верасня актывісты па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» ў Гродзенскай вобласці падвялі вынікі спробаў правядзення інфармацыйных пікетаў у розных гарадах вобласці: 13 адмоў на 13 заявак. Тэматыка заяўленых пікетаў была наступная: інфармаванне насельніцтва пра праблемы ўсталявання малога памежнага руху. Усе заяўкі на розныя дні былі пададзены адным чалавекам — актывістам Анатолем Макаравым. На свае заяўкі ён атрымаў адмовы з Астравецкага, Ашмянскага, Бераставіцкага, Ваўкавыскага, Воранаўскага, Іўеўскага, Лідскага, Мастоўскага, Свіслацкага, Смаргонскага, Шчучынскага раённых выканаўчых камітэтаў, а таксама Гродзенскага і Скідзельскага гарвыканкамаў. Пераважная частка адмоў тлумачылася неадпаведнасцю ўказанага месца правядзення пікета і тым, што заяўнікам не заключаны пагадненні з адпаведнымі службамі па прыборцы тэрыторыі, ахове грамадскага парадку, забеспячэнні медыцынскага абслугоўвання. Сярод адмоў сустракаюцца і іншыя прычыны: так, у адказе Мастоўскага выканкама адмова тлумачыцца тым, што ў заяўлены дзень на месцы мяркуемага пікета адбудзецца мерапрыемства «Добры дзень, школа!», а ў адказе Іўеўскага выканкама, найбольш лаканічным, гаворыцца, што пікет немагчымы ў звязку з тым, што 6 верасня мясцовы прамысловы рынак не працуе. Бераставіцкі і Ваўкавыскі райвыканкамы парушылі заканадаўства аб мовах Рэспублікі Беларусь, даслаўшы адказы заяўніку не на беларускай мове звароту, а на рускай. Такія адказы даслалі старшыня Бераставіцкага выканкама Антон Кулісевіч і намеснік старшыні Ваўкавыскага выканкама Уладзімір Захарчук. У адказе з Бераставіцы на заяўку наўпрост сказана: «Запретить Макарову А.П. проведение массового мероприятия».

5 верасня суд Хойніцкага раёна прыняў рашэнне прызнаць скаргу актывіста АГП Аляксандра Працкі абгрунтаванай і адмяніць рашэнне мясцовага райвыканкама аб адмове ў правядзенні пікета. Аляксандр Працка планаваў 27 ліпеня правесці ў Хойніках два пікеты з мэтай актуалізацыі ў грамадстве каштоўнасці незалежнасці і суверэнітэту, а таксама выказ-

вання салідарнасці з украінскім народам у яго імкненні захаваць цэласнасць і незалежнасць дзяржавы. Актывіст загадзя падаў у райвыканкам адпаведную заяву на правядзенне пікетаў на двух пляцоўках — каля ўнівермага «Юбілейны» і на плошчы Леніна райцэнтра. Але райвыканкам адмовіў яму, матывуючы гэта тым, што дадзеныя пляцоўкі можна выкарыстоўваць у мэтах масавых мерапрыемстваў толькі для сустрэч кандыдатаў у дэпутаты з грамадзянамі ці правядзення іншых сустрэч у перыяд выбараў. А для пікетаў, маўляў, дадзеныя пляцоўкі не прадугледжаны. Аляксандр Процка не згадзіўся з дадзеным рашэннем, палічыўшы, што яно абмяжоўвае яго правы, і абскардзіў яго ў судзе Хойніцкага раёна. За апошнія дзесяць гадоў гэта першы выпадак, калі суд не пагадзіўся з рашэннем выканкама.

5 верасня бярозаўскія праваабаронцы і грамадскія актывісты атрымалі адмову на правядзенне пікета 8 верасня з мэтай адзначэння 500-годдзя бітвы пад Воршай — Дня вайсковай славы, а таксама выказвання пратэсту супраць размяшчэння расійскіх вайсковых баз на тэрыторыі Беларусі і наяўнасці палітычных вязняў. Адмова была падпісана намеснікам старшыні Бярозаўскага райвыканкама Яўгенам Тарасюком, распараджэнне аб адмове — старшынёй райвыканкама Юрыем Наркевічам. Адной з прычын адмовы ў правядзенні пікета стала тое, што ў дзень падачы заявы памылкова была дададзена копія дамовы з ЖКГ на пікет з іншай датай — 25 жніўня. Нягледзячы на тое, што памылка была заяўнікамі выпраўлена, райвыканкам яе выкарыстаў для адмовы. Другой прычынай стала адсутнасць дамовы з міліцыяй, хаця райвыканкам мае даручэнне аблвыканкама аб выпраўленні свайго рашэння «Аб парадку правядзення масавых мерапремстваў» згодна з пастановай Савета Міністраў № 207, паводле якой да міліцыі павінен звяртацца па абслугоўванні пікета сам райвыканкам.

9 верасня праваабаронца Сяргей Гоўша накіраваў старшыні Брэсцкага аблвыканкама скаргу на рашэнне Баранавіцкага гарвыканкама аб забароне пікета 27 ліпеня. У скарзе адзначалася, што масавае мерапрыемства, прысвечанае гадавіне прыняцця Дэкларацыі аб незалежнасці Беларусі, было забаронена чыноўнікамі па прычыне таго, што заяўнік нібыта не прадставіў своечасова копіі дамоў з гарадскім аддзелам унутраных спраў, паліклінікай і «Спецаўтабазай» па абслугоўванні запланаванага пікета. Сяргей Гоўша адзначыў, што праваабаронцы фактычна за месяц падалі заяву аб правядзенні пікета, а пазней данеслі і копіі дамоў з гарадскімі дзяржаўнымі структурамі па абслугоўванні мерапрыемства. У той жа час, лічыць Сяргей Гоўша, парадак арганізацыі

і правядзення масавых мерапрыемстваў рэгламентуецца не толькі законам, але і пастановай Савета Міністраў ад 05.03.2012 г. № 207, якая не патрабуе заключэння дамовы з ГАУС. Згодна гэтай пастановы, выканаўчы камітэт на другі дзень пасля рэгістрацыі заявы на правядзенне масавага мерапрыемства павінен сам прадставіць копію заявы ў праваахоўныя органы, што якраз у Баранавічах не выконваецца. Таму Сяргей Гоўша просіць Брэсцкі аблвыканкам абавязаць Баранавіцкі гарвыканкам унесці змены ў «Рашэнне Баранавіцкага гарвыканкама № 1497 ад 16.06.2009г. «Аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у г.Баранавічы» ў сувязі з прыняццем пастановы Савета Міністраў РБ ад 05.03.2012г. № 207 і не парушаць у далейшым правы заяўнікаў масавых мерапрыемстваў.

10 верасня Салігорскі выканкам не даў дазволу на правядзенне на Цэнтральнай плошчы горада пікета па зборы подпісаў за спрыяльнае навакольнае асяроддзе. Арганізатарам мерапрыемства выступаў мясцовы маладафронтавец Іван Шыла. Па яго словах, чыноўнікі не ўпадабалі абранае для правядзення пікета месца. Па ягоных словах, ініцыятары ўлічылі ўсе абмежаванні айчыннага заканадаўства, кшталту адлегласці ў 50 метраў ад будынкаў органаў дзяржаўнага кіравання. Аднак выявілася існаванне выканкамаўскага рашэння дзесяцігадовай даўніны, паводле якога на Цэнтральнай плошчы горада пікетаваць нельга нібыта дзеля «папярэджання надзвычайных здарэнняў».

19 верасня сябры Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі БНФ Ян Дзяржаўцаў, Алег Емяльянаў і Пётр Сарапеня, якія падавалі заяўкі на пікеты ў трох раёнах Віцебска, атрымалі адмовы з раённых адміністрацый. Мэтай меркаваных акцый было публічнае асуджэнне агрэсіі Расіі ў дачыненні да суверэннай Украіны. Пікеты мусілі прайсці з 22 па 24 верасня ў месцах, адмыслова вызначаных уладамі для правядзення масавых акцый. Арганізатарам адмовілі на падставе таго, што яны не заключылі дамовы на абслугоўванне акцый з ЖКГ, медыкамі цэнтральнай гарадской паліклінікі і міліцыяй, якія патрабуюцца ў адпаведнасці з рашэннем Віцебскага гарвыканкама. Аднак рашэнне гэтае невыканальнае — медыкі і міліцыя яшчэ ні разу не пагадзіліся заключыць дамовы з заяўнікамі, таму гэтым разам актывісты да іх не звярталіся.

24 верасня грамадская актывістка Таццяна Грачанікава атрымала з Мінгарвыканкама адмову ў правядзенні адзіночнага пікета супраць вайны ва Украіне. «Пададзеная вамі заява не адпавядае арт. 9 Закона «Аб масавых мерапрыемствах»», — адзначана ў адмове на заяўку аб пра-

вядзенні пікета, падпісанай намеснікам старшыні Мінскага гарадскога выканаўчага камітэта І.В. Карпенкам. У прыватнасці, чыноўнік лічыць, што правядзенне масавага мерапрыемства «не будзе спрыяць захаванню элементаў добраўпарадкавання і зялёных насаджэнняў, можа ствараць перашкоды пешаходнаму і транспартнаму руху, адцягваць кіроўцаў транспартных сродкаў ад выканання ПДР». Акрамя таго, у заяўцы «не пазначаныя канкрэтныя меры па забеспячэнні грамадскага парадку і бяспекі пры правядзенні масавага мерапрыемства».

## Абмежаванне свабоды асацыяцый

26 верасня ў Варшаве на штогадовай нарадзе АБСЕ па чалавечым вымярэнні адбылося паралельнае мерапрыемства «Свабода асацыяцый і прававыя ўмовы для дзейнасці арганізацый грамадзянскай супольнасці ў Беларусі». Арганізатарамі выступілі Асамблея няўрадавых дэмакратычных арганізацый Беларусі і Цэнтр прававой трансфармацыі. Мэтай мерапрыемства было азнаямленне ўдзельнікаў канферэнцыі са зместам альтэрнатыўнай справаздачы, якая была пададзена беларускімі арганізацыямі ў Савет па правах чалавека ААН у межах падрыхтоўкі да другога раўнда Універсальнага перыядычнага агляду па правах чалавека. У межах мерапрыемства праваабаронцы сканцэнтравалі ўвагу на выкананні беларускім урадам рэкамендацый па паляпшэнні прававых умоў для дзейнасці няўрадавых арганізацый, што былі адрасаваны нашай краіне падчас першага раўнда УПА ў 2010 годзе. У сваім выступе юрыст Асамблеі НДА Юрый Чавусаў адзначыў, што ўрад Беларусі не выканаў абсалютную большасць рэкамендацый, датычных свабоды асацыяцый. У тым ліку не выкананы тыя рэкамендацыі, якія ў 2010 годзе былі прызнаны ўрадам Беларусі ў якасці прымальных, а значыць, наша краіна ўзяла на сябе абавязак прыслухацца да іх. Так, рэкамендацыя скасавання крымінальнай адказнасці за дзейнасць незарэгістраваных арганізацый (сумнавядомы артыкул 193-1 Крымінальнага кодэкса), так і засталася не выкананая: хоць ад 2008 года новых прысудаў па артыкуле 193-1 не было зафіксавана, сам артыкул працягвае дзейнічаць і негатыўна ўплываць на развіццё беларускай грамадзянскай супольнасці. Дырэктар Цэнтра прававой трансфармацыі Вольга Смалянка падкрэсліла, што тыя шматлікія змены заканадаўства пра няўрадавыя арганізацыі, якія адбыліся ў перыяд 2010-2014 гадоў, ніякім чынам не вырашылі асноўных прававых праблем і абмежаванняў для працы некамерцыйных арганізацый. Эксперт Цэнтра прававой трансфармацыі Аляксей Казлюк адзначыў, што ў параўнанні з першым раўндам Універсальнага перыядычнага агляду інтэнсіўнасць узаемадзеяння ўрада з нацыянальнымі праваабарончымі арганізацыямі

зменшылася і абмяжоўваецца збольшага фармальнымі мерапрыемствамі з тэарэтычным абмеркаваннем праваабарончых аспектаў, далёкім ад пытанняў практычнай рэалізацыі ў дзяржаўнай палітыцы.

30 верасня стала вядома, што беларускія ўлады адмовілі ў рэгістрацыі грамадскага аб'яднання «Краёвае згуртаванне літвінаў». «Спіс заснавальнікаў ГА «Краёвае згуртаванне літвінаў» утрымлівае ў сабе няпоўныя і несапраўдныя звесткі аб заснавальніках дадзенага грамадскага аб'яднання, у сувязі з чым з'яўляецца несапраўдным дакументам», — гаворыцца ў адмове з Міністэрства юстыцыі. У якасці няпоўных і несапраўдных звестак прыводзіцца адсутнасць нумароў хатніх і рабочых тэлефонаў у двух заснавальнікаў, недакладныя звесткі пра месца жыхарства ў трох заснавальнікаў. Пры гэтым прыкладам недакладных звестак прыводзіцца тое, што адрас аднаго заснавальніка пададзены наступным чынам: «г.Слаўгарад, вул.К.Маркса», тады як, заяўляюць у Мінюсце, ён мусіць выглядаць наступным чынам: «г.Слаўгарад, вул. Маркса Карла Фрыдрыхавіча». І гэта пры тым, што бацька Карла Маркса быў Генрыхам. Паводле старшыні «Краёвага згуртавання літвінаў» Аляксандра Стральцова, заснавальнікі збіраюцца абскардзіць адмову ў Вярхоўным судзе.

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Кастрычнік 2014 года

Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі ў кастрычніку заставалася стабільна кепскай, захоўвалася сістэмнасць і сістэматычнасць іх парушэнняў. Нарастанне практыкі адвольных затрыманняў і адміністрацыйных арыштаў запатрабавала асобнага акцэнтавання з боку праваабаронцаў на гэтай праблеме як вельмі небяспечнай з пункту гледжання ціску на актывістаў, іх безабароннасці ад незаконных дзеянняў праваахоўных органаў, далейшай дэградацыі судовай сістэмы і гатоўнасці да выканання палітычных замоў. Праваабаронцы выказалі сур'ёзную заклапочанасць тым, што тактыка кароткатэрміновых адвольных арыштаў можа пашырацца і выкарыстоўвацца для блакавання грамадскай і палітычнай актыўнасці як падчас падрыхтоўкі да прэзідэнцкай электаральнай кампаніі, так і падчас яе правядзення ў 2015 годзе, улічваючы той фактар, што такія дзеянні ўладаў не выклікаюць вострай рэакцыі з боку міжнароднай супольнасці.

Замацаўвалася негатыўная тэндэнцыя прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці журналістаў, якія супрацоўнічаюць з замежнымі СМІ без акрэдытацыі. Пры гэтым атрыманне такой акрэдытацыі па-ранейшаму заставалася немагчымым з-за нязменных адмоў МЗС.

Не адбылося пазітыўных зрухаў у вырашэнні найбольш вострай праблемы — наяўнасці палітвязняў. Беларускія ўлады не прадпрынялі ніякіх крокаў для яе вырашэння ні сыходзячы з уласнай палітычнай волі, ні пад уплывам знешнепалітычных фактараў, найперш — выканання перадумовы наладжвання паўнавартасных адносінаў з Еўрапейскім Саюзам і ЗША. Аднак варта адзначыць, што ў сітуацыі значнага нарошчвання кантактаў ЕС і ЗША з беларускімі ўладамі ўзровень іх патрабаванняў адносна вызвалення палітычных зняволеных відавочна зніжаны да традыцыйнай рыторыкі, а не прынцыповых патрабаванняў. Назіралася далейшае адвязванне каштоўнаснай праблематыкі ад тых сфер узаемадзеяння, якія ўяўляюць узаемны інтарэс, далейшае развіццё прагматычных кантактаў.

Традыцыйным крокам у дадзенай сітуацыі ўспрымаецца працягненне на год Саветам ЕС абмежавальных мер адносна фізічных і юрыдычных беларускіх асоб, датычных да ажыццяўлення рэпрэсій, парушэння правоў чалавека і фінансавай падтрымкі падобных дзеянняў уладаў. У паведамленні Савета ЕС ад 30 кастрычніка сказана: «Гэта выклікана тым, што не ўсе палітзняволеныя былі вызваленыя і рэабілітаваныя, а павага правоў чалавека, вяршэнства закона і дэмакратычных прынцыпаў значна

не палепшылася ў Беларусі». Беларускі МЗС на гэта адрэагаваў жо з улікам новых тэндэнцый: «Беларускі бок са шкадаваннем канстатуе, што ў вызначэнні палітыкі Еўрапейскага Саюза ў адносінах да Рэспублікі Беларусь па-ранейшаму дамінуе інэрцыя мінулага. Прынятае 30 кастрычніка 2014 рашэнне Савета ЕС аб працягу абмежавальных мер у дачыненні да шэрагу беларускіх грамадзян і кампаній з'яўляецца чарговай страчанай магчымасцю ліквідаваць асноўную перашкоду для нармалізацыі нашых адносін і пачаць прадметную працу па выбудоўванні ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва ў інтарэсах нашых грамадзян».

Такім чынам, лёс палітвязняў заставаўся нязменным, за кратамі працягвалі ўтрымліваецца Мікалай Статкевіч, Эдуард Лобаў, Мікалай Дзядок, Яўген Васьковіч, Арцём Пракапенка, Ігар Аліневіч і Васіль Парфянкоў. У кастрычніку паўстала рэальная пагроза папаўнення спісу палітычных зняволеных: да года і шасці месяцаў абмежавання волі з накіраваннем ва ўстанову адкрытага тыпу быў асуджаны гомельскі актывіст Юрый Рубцоў. Калі рашэнне касацыйнай інстанцыі застанецца нязменным, і актывіст накіруецца адбываць вызначанае судом пакаранне, ён будзе прызнаны праваабаронцамі палітвязнем, адносна якога будуць вылучацца патрабаванні неадкладнага і безумоўнага вызвалення, а ад міжнароднай супольнасці — адпаведнай рэакцыі на з'яўленне новага палітычнага зняволенага.

Па пытанні палітвязняў прынцыповай заставалася пазіцыя спецдакладчыка па сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі Савета па правах чалавека ААН. У дакладзе, прадстаўленым 28 кастрычніка на 69 сесіі Генеральнай асамблеі ААН, Міклаш Харашці настойліва рэкамендаваў беларусім уладам «неадкладна і без якіх-небудзь умоў вызваліць усіх палітвязняў і забяспечыць поўную рэабілітацыю іх у грамадзянскіх і палітычных правах». Спецдакладчык засяродзіў увагу і на іншых балючых кропках у сітуацыі з правамі чалавека ў краіне, у тым ліку — датычна дзейнасці праваабаронцаў і суб'ектаў грамадзянскай супольнасці. Ён рэкамендаваў беларускаму ўраду гарантаваць незалежнасць арганізацый грамадзянскай супольнасці і праваабаронцаў, ствараючы ўмовы для таго, каб яны маглі працаваць, не баючыся рэпрэсій. Афіцыйны прадстаўнік дэлегацыі Рэспублікі Беларусь у ААН у чарговы раз пацвердзіў пазіцыю непрызнання мандата краінавага спецдакладчыка і назваў даклад «спробай умяшальніцтва ва ўнутраныя справы», заявіўшы, што «даклады аб сітуацыі ў Беларусі пішуцца спецдакладчыкам пад дыктоўку з Брусэля». Чарговы раз афіцыйныя ўлады Беларусі адмовіліся ад канструктыўнага дыялога з міжнароднай інстытуцыяй па пытаннях паляпшэння сітуацыі з правамі чалавека ў краіне. У сваю чаргу беларуская праваабарончая супольнасць пацвердзіла намер далейшага супрацоўніцтва са спецдаклад-

чыкам дзеля выпрацоўкі рэкамендацый адносна сістэмных пазітыўных зменаў у сітуацыі з правамі чалавека.

## Палітычныя зняволеныя, крымінальны перaслед грамадскіх актывістаў

4 кастрычніка Мікалай Статкевіч, які амаль тры гады ўтрымліваецца ў Магілёўскай турме, у лісце да жонкі Марыны Адамовіч пералічыў прадукты, якія немагчыма набыць у турэмнай краме. Гэта быў адказ на ліст Марыны Адамовіч, якая падчас наведвання турмы зайшла ў турэмны буфет і ўбачыла абвестку на паперцы, што ў продажы ёсць мясныя вырабы, пра што і напісала мужу. М. Статкевіч адказаў, што яна памылілася. Што кілбасы там няма, як і садавіны і гародніны. Ён адзначыў, што нават цыбулі з вясны няма. Таксама дадаў, што пасля таго, як летам напісаў жонцы не класці ў бандэроль арэхі, бо ў турэмнай крамне ёсць батончыкі з халвы, дык і халва адразу знікла.

4 кастрычніка Марына Лобава выказала занепакоенасць тым, што ў сітуацыі рэзкага пахаладання ў Івацэвіцкай калоніі, дзе ўтрымліваецца яе сын — палітвязень Эдуард Лобаў, няма ацяплення. Таксама маці палітвязня хвалюе тое, што не адбыўся пераход на зімовую форму адзення, што можа выклікаць перахалоджванне і хваробу. Паводле жанчыны, ужо месяц ад сына няма лістоў і тэлефонных званкоў.

6 кастрычніка суддзя суда Цэнтральнага раёна Мінска Наталля Вайцэховіч прызнала гомелькага актывіста Юрыя Рубцова вінаватым у злачынстве, прадугледжаным артыкулам 391 Крымінальнага кодэкса «Абраза суддзі або народнага засядацеля» і вынесла прысуд: два з паловай гады абмежавання волі з накіраваннем ва ўстанову адкрытага тыпу. Адразу ж суддзя ўжыла амністыю і скасавала тэрмін на адзін год. Такім чынам, канчаткова вызначаны тэрмін пакарання — год і шэсць месяцаў. Дзяржаўны абвінаваўца Гардзеенка патрабаваў для Юрыя Рубцова пакаранне ў выглядзе абмежавання волі тэрмінам на тры гады. У аснове абвінавачання — заява суддзі суда Савецкага раёна Мінска Кірылы Палулеха, які сцвярджаў, што падчас разгляду адміністрацыйнай справы Юрыя Рубцова 28 красавіка той нібыта яго абразіў. Юрый Рубцоў тлумачыў падчас папярэдняга судовага паседжання, што ў той дзень яго даставілі ў суд Савецкага раёна Мінска напаўаголеным, што абражала ягоную годнасць. Апроч таго, ён не змог азнаёміцца з матэрыяламі адміністрацыйнай справы, паколькі быў без акуляраў. Таму і сказаў, што гэта «не суд, а судзілішча». Адвакат прасіў апраўдаць Руб-

цова, паколькі прамых доказаў знявагі суддзі Кірылы Палулеха не было: у красавіку на адміністрацыйным працэсе над Рубцовым не вёўся аўдыёзапіс, не праводзіліся відэаздымкі. Абвінавачванне грунтуецца толькі на паказаннях супрацоўнікаў міліцыі, якія адвольна затрымлівалі Рубцова яшчэ падчас Чарнобыльскага шляху. Немагчыма ўпэўнена казаць, ці зневажаў Рубцоў усю судовую сістэму і асобнага суддзю, а паказанні такіх сведкаў выклікаюць зразумелыя сумненні. Намеснік старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» Валянцін Стэфановіч, які назіраў за ходам судовага працэсу, заявіў, што калі прысуд Юрыю Рубцову будзе пакінуты ў сіле, гэта будзе азначаць, што ў Беларусі з'явіўся новы палітвязень. Па ягоным меркаванні, гэты працэс — прамы вынік дзеянняў уладаў, якія практыкуюць адвольныя затрыманні актывістаў, што не здзяйснялі правапарушэнняў. Дзеянні міліцыі яўна насілі незаконны характар, паколькі Юрый Рубцоў быў затрыманы за майку «Лукашэнка, сыходзь!», такім чынам ён выказваў сваё асабістае меркаванне, гарантаванае яму Канстытуцыяй Беларусі.

13 кастрычніка Валянціна Аліневіч, маці палітвязня Ігара Аліневіча, паведаміла, што яе сын зноў змешчаны ў штрафны ізалятар. На канец верасня было запланавана спатканне палітвзня з роднымі, аднак за пару дзён да вызначанай даты ім пазванілі з адміністрацыі «Віцьбы-3», дзе ўтрымліваецца Ігар Аліневіч, і паведамілі, што спатканне пераносіцца на няпэўны тэрмін, паколькі зняволены за дысцыплінарнае парушэнне пакараны 10 суткамі штрафнога ізалятара. Праз дзесяць дзён родныя даведаліся, што за першым тэрмінам у ШІЗА быў і другі, а за другім — трэці. Высветлілася, што палітвязень адмовіўся чысціць прыбіральні, бо тады атрымаў бы ніжэйшы турэмны статус. Праз 10 дзён быў аналагічны паўторны загад, і зноў адміністрацыя пачула ад Аліневіча адмову. Трэцяе спагнанне было за тое, што канваіры нібыта чулі, што палітвязень, які ўсе гэтыя 30 дзён знаходзіўся ў адзіночцы, размаўляў са зняволенымі суседняй камеры. Кіраўніцтва калоніі паведаміла бацьку Ігара Аліневіча, што наступнай штрафной санкцыяй у выпадку непадпарадкавання вязня можа быць ізаляцыя ў ПКТ (памяшканне камернага тыпу), а потым — перавод асуджанага ў так званую «крытую» турму. 23 кастрычніка, пасля праведзеных І. Аліневічам 30 сутак у штрафным ізалятары, бацькі палітвязня, Валянціна і Уладзімір, змаглі атрымаць кароткатэрміновае спатканне з сынам. У іх таксама прынялі прадуктовую перадачу і цёплыя рэчы. Спатканне працягвалася паўтары гадзіны праз шкло і тэлефон. Па словах Валянціны Аліневіч, сын выглядаў схуднелым пасля ШІЗА. Ён пытаўся пра сваю бабулю, якая нядаўна памерла, а лістоў пра гэта яму так і не аддалі. З перыёдыкі, па

словах зняволенага, ён атрымлівае толькі тыя газеты, якія яму выпісалі. Выданні «Новы Час» і «Свободные новости плюс», якія яму высылала рэдакцыя, не аддаюць.

18 кастрычніка актывістка Вольга Мікалайчык, якая лістуецца з палітвязнем Васілём Парфянковым, паведаміла, што ён 12 сутак зноў правёў у ШІЗА. Прычына пакарання невядомая. Пасля 10 дзён маўчання, 29 кастрычніка, Вольга Мікалайчык атрымала чарговы ліст, з якога стала вядома, што Васіль Парфянкоў выйшаў з чарговага карцара, дзе адбыў 10 дзён. Палітвязень напісаў, што з 253 дзён, якія ён на той момант прабыў у Горацкай калоніі, 226 дзён знаходзіўся ў адзіночнай камеры: альбо ў карцары, альбо ў ПКТ — памяшканні камернага тыпу.

21 кастрычніка адзін з сяброў аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» Павел Пракаповіч паведаміў, што палітвязень Яўген Васьковіч пераведзены з Магілёўскай турмы строгага рэжыму ў калонію №15 у Магілёве. Перавод звязаны з завяршэннем 3-гадовага тэрміну ўтрымання ў турме, вызначанага судом за нібыта парушэнні правіл адбыцця пакарання, якія палітвязень здзейсніў у калоніі. За 3 гады ў турме Яўген Васьковіч правёў у штрафным ізалятары 247 сутак.

27 кастрычніка Валерыя Хоціна, жонка палітвязня Мікалая Дзядка, паведаміла, што муж атрымаў некалькі бандэроляў, у тым ліку — кніжную. Ён прасіў таксама даслаць медычную бандэроль, бо ў яго праблемы са страўнікам, а паколькі займаецца спортам, і ў яго увесь час праблема — расцягненні, і патрэбныя адмысловыя мазі.

## Смяротнае пакаранне

З 5 па 10 кастрычніка прайшоў шэраг праваабарончых мерапрыемстваў пад лозунгам «Смяротнае пакаранне — гэта забойства». 5 кастрычніка ў Мінску была адчынена выстава плакатаў з серыі «Шэсць аргументаў супраць смяротнага пакарання», адмыслова створаная беларускім мастаком з Вільні Алегам Аблажэем, і працы з маштабнага праекта Death Is Not Justice, перададзеных Сусветнай кааліцыяй супраць смяротнага пакарання. 7 кастрычніка быў прадстаўлены сумесны праект фотажурналіста Сяргея Балая і кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі» — «Вышэйшая мера». Героямі фотапраекта сталі Святлана Жук, Любоў Кавалёва, Тамара Сялюн, Вольга Грунова і Тамара Чыкунова — маці асуджаных на смяротнае пакаранее.

8 кастрычніка адбылася публічная лекцыя ганаровага госця Тыдня супраць смяротнага пакарання ў Беларусі Карэла Шварцэнберга, старшыні Камітэта па замежных справах Парламента Чэшскай Рэспублікі, былога міністра замежных спраў Чэшскай Рэспублікі і кіраўніка канцылярыі прэзідэнта Вацлава Гаўла. 9 кастрычніка прайшла публічная лекцыя праваабаронцы Тамары Чыкуновай, заснавальніцы і кіраўніка ўзбекскай арганізацыі «Маці супраць смяротнага пакарання і катаванняў», да актыўнай дзейнасці якой прывяла асабістая трагедыя: у 2000 годзе расстралялі яе адзінага сына, які ўжо пасмяротна быў прызнаны невінаватым. Рознага фармату мерапрыемствы, прысвечаныя праблеме смяротнага пакарання, прайшлі ў Бабруйску, Бярозе, Баранавічах, Гомелі, Барысаве, Гродна, Мазыры, Маладзечна, Рэчыцы, Брэсце, Магілёве, Віцебску.

11 кастрычніка на чарговым справаздачна-выбарчым з'ездзе Партыі БНФ сярод іншых рашэнняў былі зацверджаны змены ў Праграму партыі. Адным з такіх праграмных наваўвядзенняў стаў пункт аб адмене смяротнага пакарання ў Беларусі: «Смяротнае пакаранне павінна быць скасавана як несумяшчальны з сучаснай прававой сістэмай еўрапейскай краіны від пакарання, які мае незваротны характар і ў выпадку судовай памылкі не можа быць выпраўлены. Скасаванне смяротнага пакарання — неабходная ўмова для паўнавартаснага далучэння Беларусі да Рады Еўропы». Упершыню ў гісторыі Беларусі патрабаванне адмены смяротнага пакарання стала часткай партыйнай праграмы.

## Ужыванне катаванняў
## і іншых відаў жорсткага і бесчалавечнага абыходжання

25 кастрычніка «Еўрапейскай Беларусі» Уладзімір Лемеш, які правёў двое сутак ў салігорскім ІЧУ, накіраваў скаргу ў пракуратуру на ўмовы ўтрымання. Гэтыя ўмовы актывіст лічыць прыніжаючымі чалавечую годнасць. У 2013 годзе ў салігорскім ізалятары часовага ўтрымання былі праведзены рамонтныя працы. Па словах Уладзіміра Лемеша, у камеры з'явіўся ўмывальнік, а ўнітаз адмежавалі невялікай сценкай. Плёнка на вокнах была заменена на шклопакеты. Разам тым, асобных ложкаў на кожнага зняволеннага ў камерах для «сутачнікаў» не з'явілася — па ранейшаму людзі вымушаны туліцца на адной драўлянай гэтак званай «сцэне». Разам з Уладзімірам у камеры знаходзілася 15 чалавек, а на «сцэне» ночыць могуць не больш за 8: астатнія кладуцца ў нагах ці наогул на бетоннай падлозе. Большасць наўпрост не спяць усю ноч. Пры гэтым на ўсіх было толькі тры матрацы. Змыў ва ўнітазе не працаваў, прыходзілася карыстацца абрэзанай пластыкавай бутэлькай і насіць туды

ваду з умывальніка. Потым у гэту ж бутэльку налівалі гарбату, бо кубкаў не было. Адзначыў маладзён і праблемы з вентыляцыяй і натуральным асвятленнем: у перапоўненай камеры цыгарэтны дым увесь час, вентыляцыя ці не працуе ўвогуле ці не спраўляецца. Шклопакеты паставілі, але самі вакенцы засталіся ў памерах такія ж мізэрныя. Натуральнага асвятлення ўдзень крытычна бракуе.

## Пераслед праваабаронцаў і праваабарончыя арганізацыі

30 кастрычніка Алена Танкачова, кіраўнік Цэнтра прававой трансфармацыі «Lawtrend», у другой палове дня атрымала апавяшчэнне аб ануляванні віда на жыхарства і аб разглядзе пытання пра высылку яе з Рэспублікі Беларусь. У верасні стала вядома, што ў дачыненні да Алены Танкачовай, якая пражывае ў Беларусі з 1985 года, але мае расійскае грамадзянства, можа быць распачата працэдура пазбаўлення віда на жыхарства. Праваабаронца адзначыла, што не мае намеру даваць ацэнку або трактаваць дзеянні ўладаў да поўнага завяршэння працэсу камунікацыі з імі па гэтай сітуацыі і прыняцця канчатковых рашэнняў.

## Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні

2 кастрычніка раніцай салігорскі маладафронтавец Іван Шыла наведаў Салігорскі РАУС, куды яго напярэдадні ўвечары выклікалі позвай «на размову». Размова адбывалася з начальнікам аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Георгіем Крывальцэвічам. Ён паведаміў Івану Шылу, што за ім лічацца неадбытыя 2 сутак адміністрацыйнага арышту за ўдзел у адной з так званых маўклівых акцый, якія мелі месца ў тым ліку ў сталіцы шахцёраў яшчэ ў 2011 годзе. Пасля размовы малады чалавек быў дастаўлены ў ізалятар часовага ўтрымання.

2 кастрычніка ў Асіповічах быў затрыманы сябра аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» Алег Масальскі. Ён ішоў з жонкай па вуліцы ў майцы з партрэтам палітвязня Яўгена Васьковіча. Калі жонка адышла ў шапік, яго затрымалі праязджаючыя на машыне міліцыянты. Актывіст быў вызвалены без складання пратакола.

2 кастрычніка ўвечары ў Гродна міліцыяй быў затрыманы грамадска-палітычны актывіст Ежы Грыгенча. Як удзельнік кампаніі «Гавару праўду» ён збіраў подпісы грамадзян за пытанні «Народнага рэферэндума». Аднаму з жыхароў, да каго ў кватэру завітаў Грыгенча, падпісныя лісты

падаліся падазронымі і ён выклікаў міліцыю. Ежы Грыгенчу даставілі ў РУУС Ленінскага раёна, дзе трымалі тры гадзіны. Ежы Грыгенчу адпусцілі без складання пратакола пра адміністрацыйнае правапарушэнне, але падпісныя лісты забралі нібыта на экспертызу.

2 кастрычніка актывіст моладзевага крыла «Zмена» кампаніі «Гавары праўду» Павел Вінаградаў, за якім устаноўлены прэвентыўны нагляд, пайшоў адзначацца ў крымінальна-выканаўчай інспекцыі Маскоўскага раёна і не вярнуўся дадому. Пазней яго жонка паведаміла, што актывіст затрыманы за адміністрацыйнае правапарушэнне. 3 кастрычніка пасля таго, як Павел Вінаградаў быў адпушчаны з РУУС, ён распавёў, што ў інспекцыі з ім спрабавалі правесці прафілактычную размову: «Мой інспектар паставіў мне ультыматум: альбо ты, Паша, пераязджаеш у Беразіно, дзе жыве бацька, альбо ты едзеш лаяцца матам. Я сказаў, што ў Беразіно ехаць, па меншай меры зараз, адмаўляюся, можа быць потым. Гутарка ў нас не адбылася». Пасля гэтага актывіста адвялі да начальніка крымінальна-выканаўчай інспекцыі Мікалая Лужынскага. «Акрамя ўсяго іншага ён спытаў у мяне, дзе Завадскі (журналіст Зміцер Завадскі, які знік улетку 2000 года). Я адказваю: не ведаю. На што ён кажа: вось і жонка твая хутка будзе адказваць, што не ведае, дзе Паша. Я ў яго пацікавіўся, ці пагроза гэта. Ён кажа: не, гэта папярэджанне», — распавёў Вінаградаў. Ноч з 2 на 3 кастрычніка актывіст правёў у дзяжурнай частцы Маскоўскага РУУС. Зранку ён быў азнаёмлены з пратаколам па арт. 17.3 КаАП (распіццё алкагольных, слабаалкагольных напояў ці піва ў грамадскім месцы або з'яўленне ў грамадскім месцы ці на працы ў стане ап'янення), у якім было сказана, што ён знаходзіўся каля будынка РУУС у нецвярозым стане. На Паўла Вінаградава быў накладзены штраф у восем базавых велічынь.

6 кастрычніка ў кватэру, дзе знаходзіўся былы палітвязень і актывіст анархісцкага руху Аляксандр Францкевіч, з 6 гадзін раніцы спрабавалі патрапіць супрацоўнікі міліцыі. Прычына такой пільнай увагі праваахоўнікаў А. Францкевічу невядомая. У гэты ж дзень падобным чынам, проста дома, быў затрыманы сацыяльны актывіст Аляксандр Стукін. Ён паспеў паведаміць па тэлефоне, што яго асудзілі на 10 сутак арышту.

9 кастрычніка, напярэдадні сустрэчы паміж нацыянальнымі зборнымі Беларусі і Украіны ў Барысаве, міліцыя распачала паляванне на заўзятараў. Судом Кастрычніцкага раёна Мінска былі асуджаныя некалькі фанатаў зборнай Беларусі, уключна з вядомай у гэтым асяродку асобай Яўгенам Адэрыхам па абвінавачанні ў нецэнзурнай лаянцы ў грамадскім месцы і непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі. Яўген быў асуджаны

да 7 сутак арышту, іншыя да 10 сутак. Сярод затрыманых — аўтары банеру салідарнасці беларускага і ўкраінскага народаў, які планавалася вывесіць падчас матчу.

9 кастрычніка, напярэдадні саміту краін-удзельніц СНД і візіту ў Мінск прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Уладзіміра Пуціна, у судзе Маскоўскага раёна Мінска суддзёй Вольгай Лістраценка была разгледжана адміністрацыйная справа актывіста моладзевага крыла «Zмена» Паўла Вінаградава. Яго абвінавацілі ў дробным хуліганстве: нібыта 8 кастрычніка, калі ён прыйшоў у РУУС адзначацца, пачаў лаяўцца і брыдкасловіць у прысутнасці супрацоўнікаў міліцыі. Акрамя таго, супрацоўнікі міліцыі мэтанакіравана пішуць у пратаколах, што Вінаградаў прыходзіць да іх у нецвярозым стане. Супрацоўнікі міліцыі правялі медычны агляд на наяўнасць алкаголю ў 10-00 — прыбор паказаў 0,0. Гэта нідзе не зафіксавалі і адвялі яго ў кабінет. Пасля абеду паказалі паперу, дзе было напісана, што агляд быў у 13-00, і ў яго 1,0 праміле алкаголю. У выніку Паўла Вінаградава пакаралі 15 суткамі адміністрацыйнага арышту «за хуліганства», аштрафавалі на 8 базавых велічынь «за п'янства», і тая ж суддзя вырашыла працягнуць яму тэрмін прэвентыўнага нагляду яшчэ на год. Праваабаронцы расцанілі пераслед Паўла Вінаградава як беспрэцэндэнтную расправу над актывістам, якая не мае нічога агульнага з законнасцю і правасуддзем.

9 кастрычніка актывіста і распаўсюджвальніка незалежнай прэсы са Смалявічаў Андрэя Кашэўскага затрымалі, калі ён праходзіў каля ЦУМа ў Мінску ў майцы «Свабоду палітвязням». Пасля складання трох пратаколаў аб адміністрацыйных правапарушэннях (арт.17.1 (дробнае хуліганства), арт.23.34 (несанкцыянаванае масавае мерапремства) і 23.4 (непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі)) яго пакінулі да суда ў пастарунку. 10 кастрычніка ў судзе Савецкага раёна Мінска суддзя Эдуард Якубоўскі вынес рашэнне аб арышце актывіста на 15 сутак.

9 кастрычніка ў Барысаве пасля адборачнага матча Еўра-2016 Беларусь-Украіна, на якім беларускія заўзятары выказвалі салідарнасць з украінцамі, адбыліся масавыя затрыманні заўзятараў з Украіны і Беларусі. У дачыненні да 29 чалавек былі складзены 32 адміністрацыйныя пратаколы, былі затрыманы да суда 25 чалавек (14 украінцаў і 11 беларусаў). Судовыя працэсы адбыліся 10 кастрычніка ў судзе Барысаўскага раёна. Суддзя Самусева разгледзела адміністрацыйныя справы затрыманых украінцаў, якіх абвінавацілі ў дробным хуліганстве (арт. 17.1 КаАП РБ). Згодна з рашэннем суда Андрэй Палішчук арыштаваны на 5 сутак, Астап Лісьюк — 5 сутак, Яна Васількоўская — 5 сутак, Дзяніс Ціма-

фееў — 5 сутак, Юрый Хабалюк — 5 сутак, Аляксандр Лапанаў — (арт. 17.10 — нацысцкая сімволіка) — 10 сутак; Юрый Альховіч — 5 сутак; Вячаслаў Георгіевіч — 5 сутак, Віталь Немыкін — 5 сутак, Юрый Нецкі — затрыманы за майку «Слава нацыі!» — штраф 7 базавых велічынь, Багдан Ярэмчук — штраф 7 базавых велічынь, Андрэй Дзелюра — штраф 10 базавых велічынь. Прысутны ў судзе ўкраінскі консул заявіў, што амбасада будзе падаваць ноту ў Міністэрства замежных спраў Беларусі з нагоды масавага арышту грамадзян Украіны на тэрыторыі Беларусі. 15 беларускіх заўзятараў былі аштрафаваны кожны на 4 базавыя велічыні. Украінскія заўзятары былі дэпартаваны з Беларусі, не адбыўшы вызначаныя судом пакаранні.

13 кастрычніка жыхар Мінска Міхаіл Мяхедка, які беспаспяхова спрабаваў патрапіць на прыём да старшыні Вярхоўнага суда, быў затрыманы супрацоўнікамі аховы ў памяшканні суда і дастаўлены ў суд Ленінскага раёна. Яго абвінавацілі ва ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве (арт 23.34 КаАП РБ) і пакаралі штрафам у памеры 15 базавых велічынь. Справу разглядаў суддзя Аляксей Камушкін.

13 кастрычніка ўвечары на беларуска-польскай мяжы ў пункце пропуску «Брузгі» быў затрыманы сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» Павел Севярынец. Увагу мытнікаў прыцягнулі кнігі Зянона Пазняка, якія палітыкі вёз з сабой. Яго ссадзілі з рэйсавага аўтобуса з рэчамі і адправілі на дагляд. Кнігі «Тэрра Дэй», «Развагі», «Парсіваль» і іншыя былі вынятыя і накіраваны ў Гродзенскі гарвыканкам у камісію па экстрэмізме.

15 кастрычніка ў Праваабарончым цэнтры «Вясна» адбылася прэс-канферэнцыя, прысвечаная розным аспектам прэвентыўных затрыманняў у Беларусі, дзе былі агучаны адпаведныя заганы ў заканадаўстве, тыповыя злоўжыванні праваахоўнікаў і новыя тэндэнцыі ў святле праблемы. Гэтай праблемай праваабаронцы займаюцца не адзін год, і яна стала прадметам даследванняў, вынікі якіх былі прадстаўленыя журналістам. Даклад «Адвольныя прэвентыўныя затрыманні актывістаў у Беларусі» — праца сумеснай місіі Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH) і Праваабарончага цэнтра «Вясна», якая праходзіла ў Беларусі пасля Чэмпіянату свету па хакеі ў чэрвені бягучага года. Увага місіі была сканцэнтраваная на так званых прэвентыўных арыштах, якія аўтары даклада вызначаюць як «адвольныя затрыманні грамадзян, без прававых на тое падставаў, напярэдадні важных палітычных ці грамадскіх падзей з мэтай ізаляцыі актывістаў для недапушчэння іх удзелу ў публічных вулічных ак-

цыях, стасункаў з міжнароднымі дэлегацыямі ці прэсай, іншых відах палітычнай і грамадзянскай актыўнасці». Прадстаўляючы даклад, намеснік старшыні ПЦ «Вясна» Валянцін Стэфановіч адзначыў, што «на сённяшні дзень адвольныя прэвентыўныя затрыманні з'яўляюцца адным з відаў палітычнага пераследу, нароўных з палітычным крымінальным пераследам, і выкарыстоўваецца ўладамі ў мэтах пераследу актывістаў у сувязі з іх прыналежнасцю да тых ці іншых палітычных груп і ажыццяўленнем імі мірнай дзейнасці палітычнага характару». Таксама праваабаронцы агучылі праблему новага парадку: пачалася хваля прыцягнення актывістаў да адказнасці з абцяжарваючымі віну абставінамі — станам алкагольнага ап'янення, у якім яны нібыта знаходзіліся падчас затрымання. Адносна такога роду злоўжыванняў праваахоўнікаў актывістам раяць настойліва патрабаваць правядзення экспертызы ў грамадзянскай установе, каб у далейшым мець дадзеныя для абскарджання.

23 кастрычніка сваякі і сябры не змаглі сустрэць Паўла Вінаградава, які раніцай павінен быў вызваліцца з мінскага Цэнтра ізаляцыі правапарушальнікаў (ЦІП) пасля 15-сутачнага арышту. Вінаградава павінны былі адпусціць каля 10.00, аднак да асоб, якія прыйшлі яго сустракаць, выйшаў начальнік ЦІП Ігар Сакалоўскі і сказаў, што актывіста вывезлі з цэнтра ў 8 гадзін раніцы, куды менавіта — не паведаміў. Пазней высветлілася, што Вінаградава адвезлі ў РУУС Маскоўскага раёна, дзе азнаёмілі са зменамі ў парадку адзначэння ў РУУС у сувязі з прэвентыўным наглядам. На наступны дзень, 24 кастрычніка, калі Павел Вінаградаў прыйшоў ва ўпраўленне ўнутраных спраў Маскоўскага раёна Мінска, каб адзначыцца, у яго забралі рэчы і пасадзілі ў дзяжурку, не тлумачачы прычын затрымання. Праз 5 гадзін ён быў вызвалены без складання пратакола. На думку актывіста, адной з прычын яго затрымання мог стаць той факт, што Аляксандр Лукашэнка ў гэты дзень у першай палове дня наведваў раён жылой забудовы Міхалова-2, які знаходзіцца ў гэтым жа раёне. Вінаградаў таксама не выключыў, што міліцыя аказвае на яго ціск з мэтай прымусіць з'ехаць з Мінска.

23 кастрычніка ў Гродна мясцовыя спецслужбы сарвалі прэзентацыю рамана пісьменніка Віктара Марціновіча «Мова». Імпрэза адбывалася ў будынку мясцовага Грэка-каталіцкага цэнтра імя Маці Божай Фацімскай, што па вуліцы Гараднічанскай зусім паблізу міліцэйскага аддзялення. Раней у гэтым царкоўным будынку спакойна праходзілі розныя прэзентацыі і сустрэчы з творчымі людзьмі. У рэлігійны асяродак няпрошаныя «госці» фактычна ўварваліся на самым пачатку культурніцкага мерапрыемства. Прэзентацыя была забаронена. У святара айца Андрэя Крата, прад-

стаўніка выдавецтва Міраслава Лазоўскага і самога пісьменніка Віктара Марціновіча былі ўзяты пісьмовыя тлумачэнні. Астатніх прысутных палохалі тым, што перапішуць пашпартныя дадзеныя. 24 кастрычніка кіраўнік аддзела ідэалогіі Гродзенскага выканкама заявіў, што прэтэнзіяў да пісьменніка няма, а вось адносна святара і выдаўца сітуацыя застаецца няпэўнай: не выключалася, што іх дзеянні будуць вывучацца на прадмет магчымага адміністрацыйнага правапарушэння.

25 кастрычніка ў Мінску без тлумачэння прычын супрацоўнікі міліцыі з прымяненнем спецсродкаў затрымалі на прыпынку грамадскага транспарту на Партызанскім праспекце нібыта за нецэнзурную лаянку і непадпарадкаванне патрабаванням супрацоўнікам міліцыі грамадскіх актывістаў з Санкт-Пецярбурга (Расія) — Федаркова Андрэя і Салаўёва Івана. З імі быў затрыманы таксама і жыхар сталіцы. Затрыманыя былі дастаўлены ў РУУС Заводскага раёна Мінска, дзе на іх былі складзены пратаколы адміністрацыйных правапарушэнняў. Два дні да суда яны знаходзіліся ў РУУС. 27 кастрычніка ў судзе Заводскага раёна былі разгледжаны іх адміністрацыйныя справы. Суддзя Осіпчык асудзіла трох актывістаў па артыкулах 17.1 (дробнае хуліганства) і 23.4 КаАП РБ (непадпарадкаванне законнаму распараджэнню ці патрабаванню службовай асобы дзяржаўнага органа пры выкананні ім службовых паўнамоцтваў) і пакарала да розных тэрмінаў арышту: беларускі актывіст атрымаў 10 сутак, а госці з Расіі — па 3 сутак.

28 кастрычніка актывіст Руху «За Свабоду» Уладзіслаў Кошалеў збіраў подпісы за «Народны рэферэндум» у інтэрнаце аднаго з ПТВ на вуліцы Ваўпшасава ў Мінску. Гэта не спадабалася намесніку дырэктара па ідэалогіі гэтай навучальнай установы, якая адабрала ў актывіста падпісныя лісты і выклікала міліцыю. Не дачакаўшыся міліцэйскага нараду, Уладзіслаў сышоў з інтэрната. На наступны дзень валанцёр разам з палітыкамі Андрэем Дзмітрыевым і Юрыем Губарэвічам вырашылі сустрэцца з чыноўнікам, каб патлумачыць законнасць збору подпісаў і вярнуць падпісныя лісты. Але падчас размовы намеснік дырэктара ПТВ Казлова зноў выклікала міліцыю, якая затрымала валанцёра і адвезла яго ў РУУС Партызанскага раёна. Там на Кошалева склалі пратакол за парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавых мерапрыемстваў. Намеснік старшыні Руху «За Свабоду» Юрый Губарэвіч спрабаваў патлумачыць, што пры зборы подпісаў ніякі закон не быў парушаны. У выніку яму прапанавалі прывезці статут арганізацыі і выпіску аб тым, што Кошалеў з'яўляецца сябрам Руху. 31 кастрычніка суддзя суда Партызанскага раёна Мінска Паўлоўская прызнала Уладзіслава Кошалева вінаватым і вынесла пастанову аб арышце на 3 сутак.

29 кастрычніка на літоўска-беларускім памежным пераходзе «Каменны Лог» у Дзмітрыя Дашкевіча забралі на экспертызу на наяўнасць экстрэмізму 12 кніг «Чарвяк» — зборніка апавяданняў былога палітвязня. Адносна Д. Дашкевіча быў праведзены дагляд рэчаў і аўтамабіля. Былы палітвязень вяртаўся з прэзентацыі кнігі «Голас волі в з-за кратаў. Анталогія твораў беларскіх палітвязняў», якая прайшла ў Вільнюсе.

## Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі, пераслед журналістаў

7 кастрычніка ў Гродзенскім раённым судзе завершыўся разгляд адміністрацыйнай справы журналіста-фрылансера Андрэя Мялешкі па абвінавачанні ў парушэнні артыкула 22.9 частка 2 (незаконны выраб і распаўсюд інфармацыйнай прадукцыі) КаАП. Інтарэсы журналіста ў працэсе прадстаўляў адвакат Андрэй Шчапяткоў. На судовае паседжанне быў выкліканы ў якасці сведкі загадчык кафедры батанікі Гродзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы Алег Созінаў. Менавіта яго каментар, які ён даў Андрэю Мялешку падчас экалагічнага семінара 26 жніўня, стаў падставай для супрацоўнікаў міліцыі пачаць адміністрацыйную справу адносна незалежнага журналіста за супрацоўніцтва з замежным СМІ без акрэдытацыі. У той дзень у будынку сельскага клуба вёскі Канюхі праходзіў навуковы семінар, прысвечаны заказніку «Нёманская Свіслач», у час перапынку Мялешка запісаў каментар навукоўца Созінава. Пазней фрагмент гэтага каментара быў размешчаны на інтэрнэт-сайце «Беларускага Радыё Рацыя», а таксама на некаторых іншых інтэрнэт-рэсурсах. Інспектар РУУС Кастрычніцкага раёна г. Гродна Курпік, які ажыццяўляў маніторынг інтэрнэт-сайтаў, угледзеў у размешчаным матэрыяле на старонцы «Беларускага Радыё Рацыя» правапарушэнне, а старэйшы ўчастковы інспектар Піцко склаў пратакол. Суддзя Ганна Лявусік пакарала журналіста штрафам — 35 базавых велічынь.

8 кастрычніка суддзя Ленінскага раённага суда г. Магілёва Алена Волкава, прызнаўшы незалежнага журналіста Аляксандра Буракова вінаватым у парушэнні ч. 2 арт. 22.9 КаАП РБ (незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ), пастанавіла аштрафаваць яго на 40 базавых велічынь. У пратаколе аб адміністрацыйным правапарушэнні быў названы канкрэтны прыклад «незаконнай прадукцыі», якую нібыта «вырабіў і распаўсюдзіў» журналіст — размешчаны на сайце DW.de 25 жніўня 2014 года артыкул «Тропой контрабандиста: работают ли российские санкции в приграничье?» за подпісам Аляксандра Буракова. Артыкулы на сайце рускай службы радыё «Нямецкая хваля» сталі таксама падставай дляператрусу ў яго асабістай кватэры і кватэры ягоных бацькоў 16 верасня.

20 кастрычніка ў Віцебскім абласным судзе адбыўся разгляд касацыйнай скаргі жыхаркі Оршы Тацяны Сячко, якая 12 жніўня была затрымана падчас распаўсюду ўлётак пра «Народны рэферэндум» па паштовых скрынях. Пасля затрымання яе адпусцілі без складання пратакола, але праз тыдзень, 20 жніўня, пратакол пра правапарушэнне ўсё ж быў складзены намеснікам начальніка аддзелу аховы і прафілактыкі правапарадку Сяргеем Бязлюдавым. Ён кваліфікаваў дзеянні Тацяны Сячко паводле артыкула 22.9 КаАП — як парушэнне заканадаўства аб СМІ. 11 верасня ў аршанскім судзе адбыўся разгляд адміністрацыйнай справы. Суддзя Алеся Дранькова пагадзілася з высновамі супрацоўніка міліцыі і пастанавіла аштрафаваць Т. Сячко на 40 базавых велічынь. Аршанскія актывісты звярнуліся ў Міністэрства інфармацыі па тлумачэнне адносна магчымасці трактаваць улёткі як СМІ. Намеснік міністра інфармацыі Уладзімір Матусевіч у адказе адзначыў, што згодна ГОСТу 7.60-2005 «Выданні. Асноўныя віды.Тэрміны і вызначэнні» і тэхнічных умоваў BY 100083317.002-2007 дасланая вамі друкаваная прадукцыя з'яўляецца неперыядычным выданнем і, адпаведна, не з'яўляецца сродкам масавай інфармацыі». Ліст з Міністэрства інфармацыі Тацяна Сячко ўзяла з сабой на разгляд скаргі ў Віцебскім абласным судзе. Па яе хадайніцтве суддзя абласнога суда Святлана Іванова далучыла гэты ліст да судовай справы, аднак на вынік ён не паўплываў: рашэнне суду першай інстанцыі, нягледзячы на тлумачэнні намесніка міністра інфармацыі пра тое, што ўлёткі — гэта не СМІ, і адпаведна, распаўсюд ўлётак нельга лічыць парушэннем заканадаўства аб СМІ — засталося ў сіле.

20 кастрычніка падчас інтэрв'ю з Уладзімірам Някляевым супрацоўнікі міліцыі затрымалі відэааператара Алеся Любянчука і журналістку Марыю Арцыбашаву. Усе яны былі дастаўлены ў апорны пункт. Затрымліваў журналістаў участковы РУУС Савецкага раёна Юрый Чыркоў. Прыкладна праз гадзіну пасля затрымання журналістаў і палітыка вызвалілі пасля праверкі дакументаў без складання пратаколаў і без выняткі рэчаў. Супрацоўнікаў праваахоўных органаў цікавіў запіс, які зрабілі журналісты.

31 кастрычніка кіраўнік Гомельскага Цэнтра стратэгічных цяжбаў Леанід Судаленка па выніку аналізу рашэнняў Камітэта па правах чалавека ААН па беларускіх справах зрабіў выснову, што ў Беларусі найчасцей пераследуюць за выказванне меркаванняў. На момант аналізу Камітэт прыняў 68 рашэнняў па беларускіх справах і выявіў у 34-х з іх парушэнне права на выказванне меркавання. Такім чынам, кожная другая беларуская справа ў ААН тычыцца менавіта парушэнняў права на выказванне меркаванняў. Для зручнасці азнаямлення з названымі справамі права-

абаронцы падзялілі іх па катэгорыях: распаўсюд інфармацыі — 13 спраў; выказванне меркавання падчас мірнага сходу — 10 спраў; забарона мірнага сходу — 4 справы; перавозка друкаванай прадукцыі — 3 справы; публікацыя меркавання — 2 справы; пошук інфармацыі — 2 справы.

## Абмежаванне свабоды сходаў

1 кастрычніка баранавіцкі праваабаронца Сяргей Гоўша атрымаў ліст з Брэсцкага аблвыканкама за подпісам намесніка старшыні Леаніда Цупрыка, у якім паведамлялася, што Баранавіцкаму гарвыканкаму даручана ўнясці змены ў сваё рашэнне № 1497 ад 16.06.2009 г. «Аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у г.Баранавічы» адпаведна патрабаванням пастановы Савета Міністраў РБ ад 5 сакавіка 2012 года № 207 «Аб зацвярджэнні Палажэння аб парадку арганізацыі ўзаемадзеяння праваахоўных органаў, арганізатараў масавых мерапрыемстваў і прадстаўнікоў грамадскасці, якія выконваюць абавязкі па ахове грамадскага парадку пры правядзенні масавых мерапрыемстваў». Праваабаронца адзначыў, што раней заключыць дамову з міліцыяй па ахове грамадскага парадку было практычна немагчыма, і гэта было прычынай, па якой гарвыканкам забараняў пікеты, сходы і мітынгі. Гарадскія ўлады ігнаравалі пастанову Савета Міністраў, якая не патрабуе заключэння дамовы з ГАУС пры арганізацыі масавага мерапрыемства. Згодна гэтай пастановы, выканаўчы камітэт на другі дзень пасля рэгістрацыі заявы на правядзенне масавага мерапрыемства павінен сам прадставіць копію заявы ў праваахоўныя органы, што якраз у Баранавічах і не выконвалася.

2 кастрычніка гомелькія актывісты Пётр Кузняцоў, Юры Захаранка, Анатоль Паплаўны, Ларыса Шчыракова, Васіль Палякоў і Уладзімір Кацора даведаліся, што Камітэт па правах чалавека ААН прызнаў парушэнне іх права на выказванне меркавання і на правядзенне мірнага сходу. Адпаведнае рашэнне было размешчана на афіцыйным сайце ААН. Справа датычылася правядзення 7 траўня 2009 года, у 10-ю гадавіну знікнення міністра МУС Юрыя Захаранкі, акцыі памяці перад будынкам абласнога УУС. Усе яны былі прыцягнуты да адказнасці ў выглядзе буйных штрафаў, а Уладзімір Кацора — да адміністрацыйнага арышту.

3 кастрычніка бярозаўскія праваабаронцы паведамілі, што дабіліся змены рашэння райвыканкама ў частцы дамовы з міліцыяй. Ім спатрэбіўся без малога год, каб юрыдычны аддзел райвыканкама ў асобе юрыста Яўгена Кашталяна прывёў рашэнне райвыканкама ў адпаведнасць з пастановай Саўміна № 207. Згодна з рашэннем райвыканкама, копію

дамовы з міліцыяй на абслугоўванне масавага мерапрыемства заяўнікі павінны былі падаваць адначасова з заявай, а згодна з пастановай — пасля падачы заявы ў райвыканкам адтуль павінны звярнуцца ў міліцыю на працягу дня для ўзгаднення пытанняў па ахове мерапрыемства. Пастанова Саўміна з'явілася на пачатку 2012 года, але яшчэ ў 2013 годзе падчас суда юрыст райвыканкама Яўген Кашталян казаў, што мяняць рашэнне яны не будуць, «паколькі з Саўміна ім пра гэта не сказалі.» Праваабаронцам прыйшлося звяртацца ў Брэсцкі аблвыканкам, які першапачаткова падтрымаў пазіцыю райвыканкама, у абласное ўпраўленне ўнутраных спраў, у Мінюст і Савет Міністраў. І вось нарэшце пасля скаргі ў Саўмін справа дайшла да свайго завяршэння. На пачатку кастрычніка праваабаронцы атрымалі адпаведнае паведамленне з райвыканкама за подпісам намесніка старшыні Яўгена Тарасюка. Разам з тым, абсалютна нечакана ў рашэнні райвыканкама, прадстаўленым 14 кастрычніка ў суд Бярозаўскага раёна на судовае паседжанне па іску праваабаронцаў аб забароне пікета 25 жніўня, выявілася, што ва ўжо змененым рашэнні патрабаванне прадстаўлення копіі дамовы адначасова з падачай заявы — застаецца. На судзе юрыст райвыканкама Яўген Кашталян заявіў, што адмоўлена ў пікеце па прычыне адсутнасці дамовы з міліцыяй законна, таму што, нягледзячы на ўнесенае дапаўненне ў рашэнне, копію дамовы з міліцыяй павінны падаваць адначасова з заявай на пікет.

16 верасня сябру КХП БНФ Яну Дзяржаўцаву адмовілі ў правядзенні двух пікетаў салідарнасці з Украінай. Гэта ўжо другая забарона акцый аднолькавай тэматыкі, і актывіст выказаў намер прыцягнуць да адказнасці прадстаўнікоў арганізацый, якія мусяць займацца «абслугоўваннем акцый». Заяўляльнік планаваў акцыі 17 кастрычніка ў парку Мазурына, 20 кастрычніка — у Парку культуры і адпачынку чыгуначнікаў. Адміністрацыі Чыгуначнага і Кастрычніцкага раёнаў, куды ён звяртаўся, дазволаў не далі. Ні з міліцыяй, ні з цэнтральнай гарадской паліклінікай заключыць дамовы не ўдалося. Дамову пагадзіліся заключыць толькі камунальнікі — прадпрыемства «Віцебскі зеленбуд». З міліцыі адказалі, што будуць заключаць дамову толькі пасля таго, як дадуць дазвол раённыя ўлады, з паліклінікі прыйшла стандартная адпіска: маўляў, мы не можам заключаць папярэднія дамовы, бо не ведаем, якая будзе сітуацыя з захворваннямі ў названы дзень.

16 кастрычніка Гомельскі абласны суд па пратэсту пракуратуры вобласці перагледзеў рашэнне суда Хойніцкага раёна і адмяніў рашэнне па скарзе актывіста АГП Аляксандра Процкі. 27 ліпеня актывіст планаваў правесці ў Хойніках два пікеты з мэтай актуалізацыі ў грамадстве каш-

тоўнасці незалежнасці і суверэнітэту, а таксама выказвання салідарнасці з украінскім народам у яго імкненні захаваць цэласнасць і незалежнасць дзяржавы. Аляксандр Процка загадзя падаў у райвыканкам адпаведную заяву на правядзенне пікетаў, але райвыканкам адмовіў яму ў правядзенні масавых мерапрыемстваў. Заяўнік не згадзіўся з дадзеным рашэннем, бо палічыў, што такое рашэнне абмяжоўвае яго правы, і абскардзіў яго ў судзе Хойніцкага раёна. Раённы суд стаў на бок актывіста АГП, і 5 верасня прыняў рашэнне: прызнаць скаргу Аляксандра Процкі абгрунтаванай і адмяніць рашэнне мясцовага райвыканкама аб адмове ў правядзенні пікета. На падставе рашэння суда Хойніцкага раёна Аляксандр Процка звярнуўся ў райвыканкам зноў з патрабаваннем дазволіць правесці пікет. Але ў справу ўмяшалася абласная пракуратура, якая вынесла пратэст на рашэнне раённага суда. А прэзідыум абласнога суда адмяніў рашэнне ніжэйшай інстанцыі і запатрабаваў вынесці па справе новае рашэнне.

23 кастрычніка стала вядома, што Камітэт па правах чалавека ААН прызнаў парушэнне беларускімі ўладамі правоў віцебскіх актывістаў Ігара Базарава, Валерыя Аляксандрава і Сяргея Каваленкі па падзеях 25 сакавіка 2009 года. У той дзень святкаванне скончылася для актывістаў затрыманнем, а праз два дні судом Кастрычніцкага раёна яны былі пакараны штрафамі памерам 2 базавыя велічыні. Згодна з рашэннем суддзі Алены Казілавай, удзельнікі акцыі праводзілі несанкцыянаванае шэсце, калі выйшлі на плошчу Свабоды з бел-чырвона-белымі сцягамі і паспелі прайсці некалькі метраў, пакуль іх не затрымала міліцыя. Усіх траіх абвінавацілі ў парушэнні артыкула 23.34 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. Спробы Ігара Базарава і Валерыя Аляксандрава абскардзіць гэтае рашэнне ў Віцебскім абласным і Вярхоўным судах не далі выніку. Паводле рашэння КПЧ ААН, улады парушылі частку 2 артыкула 19 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах (права на свабоднае выказванне свайго меркавання), а ў адносінах да Базарава быў парушаны яшчэ і артыкул 21 Пакта (права на мірныя сходы).

23 кастрычніка грамадская актывістка Анжаліка Камбалава атрымала ліст за подпісам намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Д. Касцюкевіча, у якім паведамлялася пра забарону правядзення пікета, прысвечанага 77-х угодкам «крыштальнай ночы» беларускай культуры. Чыноўнік палічыў, што заяўніца адзіночнага пікета Анжаліка Камбалава парушыла абзац 5 арт. 5 Закона Рэспублікі Беларусь ад 30.12.1997г. № 114-З «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь» і п. 4 рашэння гарвыканкама ад 16.06.2009 г. № 1497 «Аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у горадзе Баранавічы», не заключыўшы дамовы па абслугоўванні

пікета з міліцыяй, медыкамі і камунальшчыкамі. У ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года супрацоўнікі НКУС расстралялі ў мінскай турме 22 беларускіх пісьменнікаў і больш 80 прадстаўнікоў інтэллігенцыі Беларусі.

29 кастрычніка віцебскі праваабаронца Павел Левінаў атрымаў з Віцебскага гарвыканкама пісьмовую забарону на правядзенне адзінаасобнага вулічнага шэсця ў сувязі з невыкананнем патрабаванняў рашэння гарвыканкама «Аб арганізацыі масавых мерапрыемстваў у г.Віцебску». У якасці маршруту праваабаронца пазначыў дарогу ад свайго дома да крамы «Віцебскія прадукты». Заяўка ў гарвыканкам была пададзена, бо маршрут у краму праходзіць па тэрыторыі двух раёнаў — Кастрычніцкага і Першамайскага. Забарона атрымана ў сувязі з тым, што заяўнік не заключыў дамовы на абслугоўванне акцыі з супрацоўнікамі міліцыі, паліклінікі і службы ЖКГ. Павел Левінаў падрыхтаваў заяву ў суд наконт забароны шэсця. Праваабаронца лічыць, што патрабаванні рашэння гарвыканкама №881 невыканальныя — адпаведна, трэба прадэманстраваць уладам абсурднасць такіх дакументаў. Ён на сваім прыкладзе вырашыў прадэманстраваць, што з такім падыходам пад парушэнне заканадаўства аб масавых мерапрыемствах можна падвесці ўсё што заўгодна, у тым ліку персанальны паход у краму. За апошнія 5 гадоў, з часу прыняцця гэтага рашэння, у Віцебску не было дазволена ніводнай акцыі паводле ініцыятывы мясцовых актывістаў. Павел Левінаў перакананы, што ўмовы атрымання дазволу на масавыя мерапрыемствы ў Віцебску трэба мяняць, бо яны невыканальныя.

## Абмежаванне свабоды асацыяцый

1 кастрычніка на бабруйскім заводзе ТДіА (трактарных дэталяў і агрэгатаў) не працягнулі працоўныя кантракты з двума сябрамі Свабоднага прафсаюза Беларускага — наладчыкам 6-га разраду Аляксандрам Варанкіным і наладчыкам 5-га разраду Аляксандрам Грамыка. За прафесіяналаў заступіліся іх непасрэдныя начальнікі і калегі, але супраць іх настойліва выступіў дырэктар завода Аляксандр Аграновіч. 7 кастрычніка стала вядома, што адміністрацыя завода ТДіА не працягнула кантракты яшчэ з трыма сябрамі пярвічкі СПБ — Алегам Шаўчэнкам, Аляксандрам Бенасікам і Мікалаем Жыбулем. Мікалаю Жыбулю заставалася дапрацаваць да пенсіі ўсяго два гады. Ён адпрацаваў на ТДіА 30 гадоў, але раптам яго скарацілі «у сувязі з аптымізацыяй колькасці працоўных». Пры гэтым завод пастаянна рамяшчае абвесткі аб пошуку рабочых. Сябры СПБ звязваюць непрацягненне кантрактаў з прафсаюзнай прыналежнасцю, а таксама з тым, што яны не баяліся адстойваць працоўныя правы.

17 кастрычніка стала вядома, што Вярхоўны суд не задаволіў скаргу сябра кампаніі «Гавары праўду» Аляксандра Кузьміна з Белаазёрска, які прасіў адмяніць судовыя пастановы наконт правамоцнасці пісьмовага папярэджання, вынесенага Бярозаўскай пракуратурай па арт. 193.3 Крымінальнага кодэкса — дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі. Пісьмовае папярэджанне актывіст атрымаў у сакавіку 2013 г. ад пракурора Бярозаўскага раёна. Прыцягнуць Кузьміна да крымінальнай адказнасці за дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі прасіў у сваім прадстаўленні супрацоўнікам Бярозаўскага РАУС цяпер ужо былы старшыня Белаазёрскага гарвыканкама Вячаслаў Дамброўскі. Бярозаўская міліцыя ва ўзбуджэнні крымінальнай справы адмовіла, не ўбачыўшы ў грамадскіх кампаніях, якія праводзіліся прыхільнікамі «Гавары праўду», прыкмет арганізацыі. Разам з тым, пракуратура Бярозаўскага раёна прыкметы арганізацыі ўбачыла і вынесла Аляксандру Кузьміну папярэджанне. Вярхоўны суд таксама прызнаў, што пракуратура Бярозаўскага раёна правільна адрэагавала на дзеянні Кузьміна. Адказ падпісаны намеснікам старшыні Вярхоўнага суда Андрэем Забарам.

21 кастрычніка студэнты магілёўскага філіяла «Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі» паведамілі, што дырэктар навучальнай установы Мікалай Алданаў прымушае іх уступаць у БРСМ. Са слоў Мікалая Алданава, тыя, хто не папоўніць шэрагі прадзяржаўнай арганізацыі, могуць сутыкнуцца з праблемамі са здачай іспытаў і залікаў. Па словах студэнтаў, нават нягледзячы на пагрозы дырэктара, напісалі заявы на ўступленне ў БРСМ не болей за 20 чалавек з амаль 120.

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Лістапад 2014 года

Лістапад адзначыўся тэндэнцыяй да пагаршэння сітуацыі з правамі чалавека. За кратамі працягвалі ўтрымлівацца 7 палітычных зняволеных, прычым супраць аднаго з іх — Мікалая Дзядка, які павінен быў вызваліцца пасля поўнага тэрміну адбыцця пакарання 3 сакавіка 2015 года, была ўзбуджана новая крымінальная справа па частцы 1 артыкула 411 КК РБ — злоснае непадпарадкаванне законным патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы. Гэты артыкул ужо не ўпершыню выкарыстоўваецца супраць палітычных вязняў з мэтай далейшай іх ізаляцыі, прадухілення актыўнасці і запалохвання.

У лістападзе таксама ўступіў у сілу прысуд у адносінах да гомельскага актывіста Юрыя Рубцова, касацыйная скарга якога засталася без задавальнення. Пасля таго, як актывісту будзе вызначана месца адбыцця пакарання (паўтары гады абмежавання волі з накіраваннем ва ўстанову адкрытага тыпу) і ён будзе накіраваны адбываць вызначаны судом прысуд, ягонае прозвішча папоўніць спіс палітзняволеных.

Аддзел па грамадзянстве і міграцыі Першамайскага РУУС Мінска прыняў рашэнне аб высылцы на 3 гады з Беларусі старшыні праўлення Цэнтра прававой трансфармацыі «Lawtrend» Алены Танкачовай. Такая непрапарцыйная мера пакарання праваабаронцы — грамадзянкі Расійскай Федэрацыі, якая пражывае ў Беларусі амаль 30 гадоў, за чатыры выпадкі відэафіксацыі ДАІ нязначнага перавышэння дапушчальнай хуткасці руху аўтамабіля, зарэгістраванага на імя Алены Танкачовай, расцэньваецца як пераслед за прафесійную дзейнасць і імкненне ўладаў знішчыць крытычныя галасы ў краіне.

У лістападзе стала вядома пра прывядзенне ў выкананне смяротнага прысуду ў дачыненні да жыхара Гомеля Аляксандра Грунова, індывідуальная скарга якога зарэгістравана і пакуль не разгледжана Камітэтам па правах чалавека ААН.

Працягвалася практыка прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці журналістаў, якія супрацоўнічаюць з замежнымі СМІ без акрэдытацыі па абвінавачанні ў «незаконым вырабе і распаўсюдзе прадукцыі СМІ». Прычым атрыманне акрэдытацыі па-ранейшаму блакавалася МЗС Беларусі.

Магчымасці рэалізацыі права на свабоду мірных сходаў заставалася мінімальнымі. Былі забаронены шэраг заяўленых публічных мерапрыемстваў па абмежавальных і незаконных падставах, пры гэтым не толькі несанкцыянаваныя, але і нават дазволеныя акцыі заканчваліся пераследам, як гэта адбылося з арганізатарам акцыі ўшанавання памяці продкаў

Дзяды і шэсця да месца расстрэлаў ахвяраў бальшавіцкага тэрору ў Лошыцы Юрасём Беленькім.

У адсутнасці рэальных механізмаў уплыву ўнутры краіны на магчымасці адстойвання правоў чалавека працягвалася замацаванне сітуацыі, калі найбольшыя чаканні станоўчай дынамікі звязваліся са знешнім удзеяннем, найперш у пытанні вызвалення палітвязняў. Аднак інтэнсіўныя кантакты беларускіх уладаў з Еўрапейскім Саюзам, ягонымі структурамі і асобнымі краінамі, а таксама з ЗША не прывялі да рэальных паляпшэнняў у дадзеным накірунку. Нарошчванне кантактаў адбывалася на фоне зніжэння ўзроўню патрабаванняў адносна вызвалення палітычных зняволеных з прынцыповай пазіцыі перадумовы для ўзнаўлення і развіцця прагматычных кантактаў і ўзаемадзеяння да традыцыйнай каштоўнаснай рыторыкі.

Так, 19 лістапада дырэктар дэпартамента Расіі, Усходняга партнёрства, Цэнтральнай Азіі, рэгіянальнага супрацоўніцтва і АБСЕ Еўрапейскай службы знешніх дзеянняў Гунар Віганд паведаміў журналістам, што на ўсіх сустрэчах з афіцыйнымі прадстаўнікамі Беларусі ён уздымаў пытанне аб вызваленні палітвязняў. Па яго словах, гэта не было сюрпрызам для яго суразмоўцаў. «Усе разумеюць, што ёсць шэраг крокаў, якія неабходна зрабіць, каб можна было цалкам выкарыстаць патэнцыял адносін паміж Беларуссю і Еўрапейскім Саюзам, — сказаў ён. — Ёсць пэўныя крокі, якія ўжо можна прадпрымаць, але паглыбленне супрацоўніцтва немагчыма без зрухаў у сферы вяршэнства права, дэмакратыі і правоў чалавека». Адказваючы на пытанне, ці магчыма паляпшэнне адносін паміж Беларуссю і ЕС, калі палітвязні не будуць вызваленыя і паляпшэнняў у сферы дэмакратыі не будзе, Віганд сказаў: «Цяпер мы гэта прапрацоўваем, але будзе лепш для ўсіх, калі абодва бакі будуць настроены на супрацоўніцтва і будуць прадпрымаць крокі для гэтага». Пры гэтым дыпламат адзначыў, што адносіны Беларусі і ЕС не абмежаваны адной праблемай палітвязняў, але «ёсць рэчы, якія нельга ігнараваць». Візіт Гунара Віганда ў Беларусь — гэта быў чацвёрты раўнд прамежкавай фазы па дыялогу аб мадэрнізацыі, які Еўракамісія вядзе як з грамадзянскай супольнасцю, так і з урадам Беларусі. На сустрэчах абмяркоўвалася супрацоўніцтва ў правядзенні рэформ у сферы адукацыі, рэгіянальнага развіцця і сацыяльных пытаннях. «Гэта была добрая канцэнтраваная дыскусія, — сказаў Віганд. — Мы абмеркавалі магчымыя патрэбы ў рэформах у дадзеных сферах, а таксама іх магчымую падтрымку з боку ЕС. Сёння былі канкрэтныя абмеркаванні, задачай якіх было пазначыць шэраг сфер для супрацоўніцтва».

Дадзеныя словы еўрапейскага чыноўніка сведчаць пра тое, што ЕС намераны працягваць супрацоўніцтва з афіцыйным Мінскам незалежна ад рашэння беларускіх уладаў адносна лёсу палітвязняў, што дае падставы

сумнявацца ў трывалай пазіцыі Еўрапейскага Саюза адносна раней агучаных прынцыпаў узнаўлення стасункаў выключна пасля іх вызвалення. Гэта выклікае насцярожанасць, паколькі адыход ад публічна заяўленай пазіцыі можа спрыяць замарожванню пытання і абыходу яго наўзамен эканамічнай і палітычнай мэтазгоднасці.

## Палітычныя зняволеныя, крымінальны пераслед грамадскіх актывістаў

1 лістапада Марына Адамовіч, жонка палітвязня Мікалая Статкевіча, патлумачыла, якія прадукты мае магчымасць зняволены набыць на 2 базавыя велічыні, якія яму дазволены на месяц: 140 грамаў сыру і 100 грамаў каўбасы, зефір (на дзень па палове зефірынкі), вафлі (адну на дзень). Паводле паведамлення Мікалая Статкевіча, у Магілёўскай турме ўключылі ацяпленне і выдалі цёплае адзенне. 8 лістапада Марына Адамовіч паведаміла, што 12 студзеня 2015 года завершыцца трохгадовы тэрмін ўтрымання М. Статкевіча ў турме, пасля чаго ён можа быць вернуты ў Шклоўскую калонію, дзе яму застанецца адбыць ад агульнага тэрміну яшчэ 2 гады. 29 лістапада Марына Адамовіч паведаміла, што ўпершыню з вясны Мікалаю Статкевічу дазволілі набыць 2 кілаграмы цыбулі. Па яе словах, раней у адміністрацыі казалі, што цыбулі хапае, але яму чамусьці не прыносілі, колькі ні замаўляў.

1 лістапада Рушанія Васьковіч, маці палітвязня Яўгена Васьковіча, паведаміла пра верагодны перавод сына з Магілёўскай турмы ў мясцовую калонію. Гэткую выснову яна зрабіла пасля тэлефанавання ў спецаддзел турмы, дзе ёй сказалі, што Яўгена ўжо ў іх няма. Палітвязень адбыў 3 гады ў крытай турме, куды трапіў паводле рашэння выязнога суда па абвінавачанні ў парушэнні рэжыму ўтрымання. У Магілёўскай калоніі Васьковічу прыйдзецца дабываць з агульнага тэрміну яшчэ амаль 3 гады.

8 лістапада Валянціна Аліневіч, маці палітвязня Ігара Аліневіча, паведаміла, што ён пасля спаткання 21 кастрычніка з бацькамі, калі толькі выйшаў з карцэру, дзе ён адбыў 30 дзён, не выходзіць на сувязь. Маці Ігара Аліневіча не выключыла, што з яе сынам зноў нешта адбываецца ў калоніі.

15 лістапада жонка палітвязня Мікалая Дзядка Валерыя Хоціна паведаміла, што яе муж змешчаны ў адзіночную камеру ў Магілёўскай турме. Перад гэтым Мікалай 8 сутак адбыў у карцары, але прычын пакарання ён не паведаміў у лісце да жонкі. Падчас ўтрымання ў карцары зняволенаму прыйшла бандэроль з лекамі, якую яму перадалі па выхадзе. 20

лістапада з'явілася інфармацыя пра ўзбуджэнне ў дачыненні да Мікалая Дзядка крымінальнай справы па частцы 1 артыкула 411 КК РБ — злоснае непадпарадкаванне законным патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы. Пра гэта бацькам Мікалая паведаміў дзяржаўны адвакат, якога выклікалі для прад'яўлення абвінавачвання. Справа была заведзена 13 лістапада. Палітвязня плануюць перавесці ў СІЗА як падследнага. 22 лістапада Валерыя Хоціна паведаміла, што Мікалаю Дзядку прызначылі судова-псіхалагічную экспертызу. У сакавіку палітвязень павінен быў выйсці на волю, у яго заканчваўся тэрмін пакарання ў 4 гады 6 месяцаў. Артыкул 411 КК РБ праваабаронцы ацэньваюць як спадчыну Савецкага Саюза, якая перакачавала ў сучаснае крымінальнае заканадаўства Беларусі, аналагаў гэтага артыкула няма ні ў заканадаўстве РФ, ні Украіны. Фактычна гэта пралангаванне тэрміну зняволення ў турме, гэты крымінальны артыкул дае магчымасць яго селектыўнага прымянення ў дачыненні да «непажаданых» вязняў. Праваабаронцы выказалі апасенне, што судовы працэс па справе Мікалая Дзядка можа прайсці ў закрытым рэжыме.

15 лістапада Пётр Парфянкоў, бацька палітвязня Васіля Парфянкова, са спасылкай на ліст сына апісаў умовы ў адзіночцы ў калоніі ў Горках, дзе ён утрымліваецца: сцены мокрыя, спаць даводзіцца не распранаючыся , і ўсё роўна холадна. Васіль Парфянкоў знаходзіцца ў адзіночнай камеры некалькі месяцаў. На волю палітвязень мусіць выйсці 5 снежня бягучага года.

17 лістапада стала вядома, што 24 кастрычніка 2014 г. Камітэт па правах чалавека ААН прыняў рашэнне па справе Алеся Бяляцкага, старшыні Праваабарончага цэнтра «Вясна» і віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека (FIDH), прызнаўшы, што Беларусь парушыла яго правы, гарантаваныя артыкуламі 9 (права на свабоду і асабістую недатыкальнасць), 14 (права на справядлівае судовае разбіральніцтва) і 22 (свабода асацыяцый) Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах. Пасля таго, як «Вясна» была ў 2003 годзе пазбаўлена дзяржаўнай рэгістрацыі, яе заснавальнікі тройчы (у 2007 і 2009 гадах) звярталіся ў Мінюст Рэспублікі Беларусь за рэгістрацыяй, але дзяржава тройчы адмаўляла ў рэгістрацыі гэтай арганізацыі, пазбавіўшы яе такім чынам магчымасці адкрываць рахункі на сваё імя для прыцягнення фінансавання сваёй дзейнасці. Паводле высноваў Камітэта, парушэннем свабоды асацыяцыі з'яўляюцца адмовы ў дзяржаўнай рэгістрацыі Праваабарончага цэнтра «Вясна», прынятыя толькі на падставе таго, што ў пададзеных на рэгістрацыю дакументах меліся нязначныя неадпаведнасці патрабаванням Міністэрства юстыцыі, якія маглі быць выпраўлены пры

прадастаўленні міністэрствам такой магчымасці заснавальнікам. Адмовы ў рэгістрацыі прывялі да забароны дзейнасці арганізацыі на тэрыторыі Беларусі і перашкодзілі рэалізацыі яе сябрамі сваіх правоў. Прысуд Алеся Бяляцкага да працяглага тэрміну пазбаўлення волі за дзеянні, звязаныя з атрыманнем і расходаваннем сродкаў на фінансаванне дзейнасці арганізацыі, якую ён узначальвае, быў прамым следствам парушэння свабоды асацыяцыі. Пры разглядзе справы беларускія суды адхілілі доказы таго, што гэтыя сродкі прызначаліся і выкарыстоўваліся менавіта на названыя мэты, і не разглядалі справу з пункту гледжання гарантый права на свабоду асацыяцый. У гэтых умовах прыцягненне Алеся Бяляцкага да крымінальнай адказнасці Камітэт расцаніў як парушэнне гэтага права. Камітэт па правах чалавека таксама заключыў, што ўтрыманне пад вартай Алеся Бяляцкага ў перыяд папярэдняга расследавання мела адвольны характар, паколькі рашэнне аб арышце прымалася пракурорам, а не судом, і грунтавалася толькі на цяжары прад'яўленага абвінавачання, а не на фактах, якія сведчылі б пра неабходнасць і мэтазгоднасць дадзенай меры. Камітэт прызнаў, што ў працэсе крымінальнага пераследу Алеся Бяляцкага была парушана прэзумпцыя невінаватасці, што выявілася ў інфармацыі дзяржаўных СМІ і выказваннях Прэзідэнта, якія да ўступлення ў законную сілу прысуда суда сцвярджалі аб вінаватасці Алеся Бяляцкага, а таксама ў тым, што падчас судовых пасяджэнняў яго ўтрымлівалі ў клетцы і дастаўлялі ў суд у кайданках. У рашэнні Камітэта па правах чалавека ўказана, што Алесь Бяляцкі мае права на належныя сродкі прававой абароны, а менавіта: перагляд заявы «Вясны» аб дзяржаўнай рэгістрацыі, зняцце судзімасці, адэкватную кампенсацыю, уключаючы пакрыццё выплат, зробленых паводле судовых рашэнняў. Акрамя таго, Камітэт пастанавіў, што дзяржава павінна перагледзець сваё ўнутранае заканадаўства аб асацыяцыях і прывесці яго ў адпаведнасць з артыкулам 22 Пакта. Рашэнне Камітэта па гэтай справе мае прэцэдэнтны характар. Яно ясна дэманструе, што дзеянні дзяржавы, накіраваныя на перашкоды дзейнасці праваабарончай арганізацыі — ад адмовы ў дзяржаўнай рэгістрацыі асацыяцыі да прыцягнення да адказнасці яе сябраў за ажыццяўленне імі права на асацыяцыю — з'яўляюцца парушэннем міжнароднага права. Ніякія маніпуляцыі з унутраным заканадаўствам з боку дзяржаўных органаў не хаваюць гэтага парушэння перад тварам міжнароднай супольнасці.

21 лістапада ў Мінскім гарадскім судзе адбыўся разгляд касацыйнай скаргі грамадскага актывіста з Гомеля Юрыя Рубцова, асуджанага 6 кастрычніка судом Цэнтральнага раёна Мінска па абвінавачанні ў здзяйсненні злачынства, прадугледжанага артыкулам 391 Крымінальнага кодэкса «Абраза суддзі або народнага засядацеля» на паўтары гады абмежаван-

ня волі з накіраваннем ва ўстанову адкрытага тыпу. У аснове абвінавачання — заява суддзі суда Савецкага раёна Мінска Кірылы Палулеха, які сцвярджаў, што падчас разгляду адміністрацыйнай справы Юрыя Рубцова 28 красавіка той нібыта яго абразіў. Юрый Рубцоў тлумачыў, што ў той дзень яго даставілі ў суд Савецкага раёна Мінска напаўаголеным, што абражала ягоную годнасць. Апроч таго, ён не змог азнаёміцца з матэрыяламі адміністрацыйнай справы, паколькі быў без акуляраў. Таму і сказаў, што гэта «не суд, а судзілішча». Актывіст заявіў адвод судовай калегіі на чале з суддзёй Людмілай Шапашнікавай, казаў пра недавер усім беларускім суддзям. Амаль гадзіну суддзі раіліся адносна адводу на свой адрас і ў выніку яго не задаволілі. У выніку судовага разгляду ў задавальненні скаргі Юрыю Рубцову было адмоўлена. Праваабаронцы заявілі, што пасля таго, як Юрый Рубцоў будзе накіраваны адбываць пакаранне, ён будзе лічыцца новым палітвязнем.

25 лістапада Марына Лобава, маці палітвязня Эдуарда Лобава, які адбывае пакаранне ў Івацэвіцкай калоніі, мела спатканне з сынам каля 2 гадзін. Размова ішла праз шкло па тэлефоне. Эдуард Лобаў павінен выйсці на волю ўжо 18 снежня і, па словах маці, ён чакае вызвалення і асабліва не гаварыць пра тое, што ў яго адбываецца. 29 лістапада Марына Лобава са спасылкай на званок сына паведаміла, што яе сыну прызначаны на год прэвэнтыўны нагляд, які пачне дзейнічаць, калі ён выйдзе з калоніі. Па словах Марыны Лобавай, яна не ведае дакладнай даты суда, які адбыўся ў калоніі. Эдуарда Лобава прывялі на выязное паседжанне суддзі і вынеслі гэтае рашэнне без адваката. Марына Лобава адзначыла, што адвакат загадзя накіроўвала просьбу ў івацэвіцкі суд і калонію, каб не праводзілі слуханні без яе, але гэтага не ўлічылі. І на спатканні маці пра суд не паведамілі, не папярэдзілі і самога зняволенага. Пасля вызвалення Эдуард Лобаў планаваў ехаць вучыцца за мяжу, але цяпер гэтыя планы мусяць быць адтэрмінаваны мінімум на год.

## Смяротнае пакаранне

3 лістапада стала вядома, што асуджанаму да смяротнага пакарання жыхару Гомеля Аляксандру Грунову адмоўлена ў памілаванні. Паводле атрыманай праваабаронцамі інфармацыі, справа Аляксандра Грунова 13 кастрычніка паступіла ў Гомельскі абласны суд з пазнакай, што асуджанаму адмоўлена ў памілаванні, і ўсе працэсуальныя дзеянні па абскарджанні смяротнага прысуду выкарыстаны. 4 лістапада Вольга Грунова атрымала паштовае апавяшчэнне, у якім значылася, што ёй прыйшла пасылка «да запатрабавання». У гэтай пасылцы былі рэчы, у якіх Аляк-

сандр быў апрануты падчас знаходжання ў камеры смяротнікаў мінскай турмы, у тым ліку — турэмная роба. На турэмнай робе смяротніка напісаны белай фарбай літары «ИМН» — выключная мера пакарання. Гэта ўжо другі выпадак, калі родным расстралянага дасылаюць робу, у якую ён быў апрануты падчас знаходжання ў СІЗА. Першы такі выпадак быў з маці расстралянага Паўла Селюна. Праваабаронцы лічаць, што такія дзеянні ўладаў прыносяць дадатковыя пакуты родным пакаранага і з'яўляюцца жорсткім і бесчалавечным абыходжаннем. 12 лістапада з абласнога суда Вользе Груновой было накіравана афіцыйнае паведамленне аб прывядзенні ў выкананне прысуду ў дачыненні да яе сына. 18 лістапада Гомельскі цэнтр стратэгічнай цяжбы накіраваў паведамленне сп. Крыстафу Хэйнсу, Спецыяльнаму дакладчыку ААН па пытанні аб пазасудовых пакараннях смерцю. У паведамленні праваабаронцы праінфармавалі спецдакладчыка аб прывядзенні ў выкананне смяротнага прысуду ў дачыненні да Аляксандра Грунова, індывідуальная скарга якога знаходзіцца на разглядзе ў Камітэце па правах чалавека ААН. Праваабаронцы выказалі занепакоенасць прывядзеннем у выкананне смяротнага пакарання, якое па сваёй сутнасці з'яўляецца пазасудовым. У звароце праваабаронцы заклікалі Спецдакладчыка ААН распачаць усе магчымыя дзеянні ў рамках свайго мандата. 27 лістапада Гомельскі абласны суд, які вынес смяротны прысуд Аляксандру Грунову, адмовіў яго маці ў паведамленні пра месца пахавання расстралянага. Вольга Грунова атрымала пісьмовую адмову за подпісам старшыні суда Сяргея Шаўцова. Яна выказала намер у судовым парадку дамагацца змены беларускага заканадаўства, якое накладае табу на інфармацыю пра месцы пахавання расстраляных паводле смяротных прысудаў. Згодна з артыкулам 155 Крымінальна-выканаўчага кодэкса, які рэгулюе парадак выканання смяротнага пакарання ў Беларусі, адміністрацыя ўстановы, у якой адбываецца смяротнае пакаранне, абавязана паведаміць пра выкананне прысуду ў суд, які пастанавіў яго, а суд паведамляе аднаму з блізкіх сваякоў. Цела для пахавання не выдаецца, пра месца пахавання не паведамляецца. Камітэт па правах чалавека ААН неаднаразова крытыкаваў беларускае заканадаўства, заклікаў дзяржаву спыніць катаванні сваякоў расстраляных.

14 лістапада стала вядома, што справа асуджанага да смяротнага пакарання і расстралянага Васіля Юзэпчука, жыхара Драгічынскага раёна, была разгледжана Камітэтам па правах чалавека ААН у кастрычніку 2014 года. Пры разглядзе было ўстаноўлена парушэнне п.3 арт. 9 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, паколькі Юзэпчук не быў дастаўлены да суддзі ў тэрміновым парадку для вырашэння пытання пра яго арышт. Камітэт таксама прызнаў парушэнне дзяржавай арт. 7 Пак-

та, які забараняе катаванні і бесчалавечнае абыходжанне. Пасля затрымання Юзэпчук падвяргаўся катаванням: яго збівалі супрацоўнікі міліцыі, марылі голадам, кідалі ў карцар, прымусова паілі гарэлкай і давалі невядомыя пігулкі. Васіль Юзэпчук пад прымусам прызнаўся ў здзяйсненні серыі забойстваў жанчын-пенсіянерак у Драгічынскім раёне, але затым ён адмовіўся ад сваіх прызнанняў і паведаміў пра катаванні. Пасля гэтага яго змясцілі ў ізалятар і зноў катавалі, каб адмовіўся ад сваіх слоў. Юзэпчук паўторна заявіў пра катаванні, але гэтыя заявы не былі разгледжаны належным чынам. Юрыст-праваабаронца Раман Кісляк, які прадстаўляў інтарэсы Васіля Юзэпчука ў Камітэце, адзначыў, што міжнародны орган прызнаў і неадпаведнасць судовага разгляду крытэрам незалежнасці і бесстароннасці, доказы віны з'яўляліся ўскоснымі і не дазвалялі зрабіць адназначную выснову адносна вінаватасці. Ні адна з праведзеных экспертыз не пацвердзіла вінаватасць асуджанага. Камітэт палічыў, што асуджэнне да смерці па выніках судовага разбіральніцтва не адказвае патрабаванням арт. 14 Пакта (мінімальныя гарантыі справядлівага судовага працэсу) і сведчыць пра адвольнае пазбаўленне жыцця, то бок пра парушэнне права на жыццё (арт. 6 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах). Справа Васіля Юзэпчука ўжо трэцяя, у якой Камітэт вызначыў парушэнне права на жыццё ў сувязі з вынясеннем смяротнага пакарання. Васіль Юзэпчук — па нацыянальнасці цыган, меў разумовую адсталасць, дрэнна арыентаваўся ў часе, непісьменны. Ён быў прызнаны вінаватым Брэсцкім абласным судом у забойствах з абцяжарваючымі абставінамі і асуджаны да смяротнага пакарання ў ліпені 2009 года. Прысуд уступіў у сілу 2 кастрычніка 2009 года пасля разгляду касацыйнай скаргі ў Вярхоўным судзе РБ. Справа Васіля Юзэпчука была зарэгістравана ў Камітэце па правах чалавека ААН 12 кастрычніка 2009 г. Камітэт прыняў меры абароны, паведаміўшы дзяржаве аб неабходнасці ўстрымацца ад выканання смяротнага пакарання, пакуль справа знаходзіцца на разглядзе ў Камітэце. У сакавіку 2010 года Васіль Юзэпчук быў расстраляны.

## Ужыванне катаванняў і іншых відаў жорсткага і бесчалавечнага абыходжання

5 лістапада ў чацвёрты раз пракуратурай была адменена адмова ва ўзбуджэнні крымінальнай справы па факце катаванняў асуджанага хлоркай Пятра Кучуры ў ПК-15 за подпісам старэйшага следчага Магілёўскага міжраённага аддзела СК П.Л. Скавародкіна. Нягледзячы на тое, што замкнёнае кола — з пастаноў следчага Скавародкіна і наступных рашэнняў пракурора аб іх адмене — разарваць не атрымлівалася, жонка асуджанага Людміла Кучура выказала намер не здавацца. Яна заявіла, што

не стоміцца дамагацца азнаямлення з матэрыяламі праверкі, якія ад яе як заяўніка і яе мужа як пацярпелага старанна хавае следчы орган. Яна намерана дабівацца, каб службовыя асобы, якія здзейснілі злачынства, былі пакараны.

24 лістапада стала вядома, што суд Светлагорскага раёна адмяніў пастанову Светлагорскага РАСК аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы па факце смерці Аляксандра Акуліча, які памёр у траўні 2012 года ў ІЧУ Светлагорскага РАУС, адбываючы адміністрацыйны арышт. Справа атрымала новы паварот, калі намеснік старшыні Вярхоўнага суда, разгледзеўшы наглядную скаргу, 22 верасня прынёс пратэст на прадмет адмены пастановы суда Светлагорскага раёна і накіравання справы на новы разгляд у гэты суд. У пачатку кастрычніка пратэст быў разгледжаны Прэзідыумам Гомельскага абласнога суда, які, задаволіўшы яго, накіраваў справу ў суд Светлагорскага раёна на новы разгляд. Суддзя Ірына Алісейка, разгледзеўшы скаргу маці загінулага Валянціны Акуліч на пастанову следчага Светлагорскага РАСК аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы па факце смерці Аляксандра Акуліча, адмяніла яе. Суддзя задаволіла скаргу Валянціны Аляксееўны па ўсіх падставах. У сваёй пастанове Ірына Алісейка ўказала тыя супярэчнасці, якія «маглі паўплываць на правільнасць рашэння, прынятага супрацоўнікамі Светлагорскага РАСК». Па-першае, «па выніках дадатковай камісійнай судова-медыцынскай экспертызы ўстаноўлена іншая, чым пры правядзенні першапачатковых праверак, прычына смерці Акуліча А.А.». У пасведчанні аб смерці ўказваецца тромбаэмбалія лёгачнай артэрыі, а ў заключэнні эксперта №72 ад 29 красавіка 2013 года — хранічная алкагольная інтаксікацыя, якая ўскладнілася развіццём алкагольнага дэлірыя. Падкрэслім, што раней ні следства, ні суд не ацанілі гэтага адрознення. Па-другое, указваецца на супярэчнасці ў тлумачэннях супрацоўнікаў ІЧУ Сцешанкова Р.І. і Бачко А.А. наконт збіцця імі Аляксандра Акуліча. Суддзя заключае, што яны не былі падрабязна апытаны. «Так, у ходзе праверкі не высветлена, колькі разоў і ў якія часткі цела імі наносіліся ўдары ПР-73 Акулічу А.А .; у чым выяўлялася непадпарадкаванне Акуліча А.А. ; чаму хуткая дапамога была выклікана не адразу, а праз пэўны прамежак часу. Кім наносіліся ўдары па галаве і тыльнай паверхні стопаў Акулічу А.А., механізм іх нанясення, неабходнасць нанясення дадзеных цялесных пашкоджанняў». Пры гэтым суддзя звяртае ўвагу на тое, што замест выкліку хуткай дапамогі супрацоўнікі ІЧУ збівалі адміністрацыйна арыштаванага, які знаходзіўся ў хваравітым стане. Акрамя таго, указваецца, што не былі апытаны асобы, якія знаходзіліся ў адной камеры з Аляксандрам Акулічам і якія ўтрымліваліся ў той дзень у іншых камерах ІЧУ. Асобна яна адзна-

чае, што следчым органам не дадзеная ацэнка дзеянняў супрацоўнікаў ІЧУ Сцешанкова і Бачко на прадмет выканання імі патрабаванняў арт.23 Закона Рэспублікі Беларусь ад 17.07.2007 года «Аб ораганах унутраных спраў Рэспублікі Беларусь», а менавіта — абавязкі па неадкладным аказанні медыцынскай і іншай неабходнай дапамогі, у дадзеным выпадку, асобе, якая знаходзіцца ў бездапаможным або небяспечным для жыцця або здароўя стане, а таксама патрабаванняў арт.26 — на прадмет праvamернасці прымянення спецсродкаў і фізічнай сілы, а таксама прыняцця мер па неадкладным аказанні медыцынскай дапамогі, якая відавочна была неабходная Аляксандру Акулічу.

24 лістапада актывіст прафсаюза РЭП Аляксандр Вайцешык, які адбыў 2 сутак у Ізалятары часовага ўтрымання Нясвіжскага РАУС за просьбу выдаць яму кнігу скаргаў і прапаноў у пункце грамадскага харчавання г. Нясвіжа, напісаў скаргу ў Генеральную пракуратуру на ўмовы ўтрымання яго пад вартай у камеры № 4. Аляксандр Вайцешык адзначыў, што ў камеры было вельмі холадна, асабліва ноччу, з-за таго, што батарэя не грэла. Па ягоных адчуваннях, тэмпература ўдзень скадала +12-14 градусаў, а ноччу каля 10. Ад холаду не было сну і немагчыма было сагрэцца. Вентыляцыя ў камеры не працавала, і ад дыма курцоў было вельмі цяжка дыхаць, у сувязі з чым у яго з'явіўся моцны кашаль. У скарзе адзначалася, што ў камеры № 4 няма туалета, а сукамернікі карысталіся адкрытым вядром, якое стаяла ў брудным куце. Смурод у камеры быў настолькі вялікі, што ў такіх умовах немагчыма было адчуваць сябе чалавекам. І ў такіх антысанітарных умовах затрыманыя павінны былі снедаць, абедаць, вячэраць і ноччу спаць. У прыбіральню, адзначае Аляксандр Вайцешык, сукамернікаў не выводзілі з-за недахопу міліцыянераў. У камеры № 4 не было вады для піцця, недастаткова дзённага і электрычнага святла, доктар ні разу не праводзіў агляду стану затрыманых, патэлефанаваць сям'і ці родзічам не ўяўлялася магчымым, на шпацыр затрыманых таксама ніхто не выводзіў.

## Пераслед праваабаронцаў і праваабарончыя арганізацыі

4 лістапада ў Магілёўскім абласным судзе абласное ўпраўленне юстыцыі адклікала пазоў на прыпыненне дзейнасці Магілёўскага праваабарончага цэнтра ў сувязі з тым, што праваабарончая арганізацыя здолела знайсці новы юрыдычны адрас. Прычынай для пазову ў суд з боку абласнога ўпраўлення юстыцыі паслужыла тое, што грамадская арганізацыя не прадставіла ў час дакументы, якія былі неабходы для рэгістрацыі зменаў юрыдычнага адраса. Напярэдадні судовага працэсу аблюст вынес Магілёўскаму праваабарончаму цэнтру (МПЦ) два пісьмовых папярэ-

джанні. У МПЦ быў юрыдычны адрас, аднак у сувязі з тым, што ў пададзеных дакументах у аблюст чыноўнікі выявілі недакладнасці ў метражы памяшкання, гэтыя дакументы вярнулі назад. Праваабаронцы спадзяваліся, што выпраўленне дакументаў вырашыць пытанне, аднак гаспадар памяшкання адмовіўся працягваць арэнду.

5 лістапада аддзел па грамадзянстве і міграцыі Першамайскага РУУС Мінска разгледзеў пытанне аб высылцы з Рэспублікі Беларусі старшыні праўлення Цэнтра прававой трансфармацыі «Lawtrend» Алены Танкачовай, якой 30 кастрычніка быўануляваны від на жыхарства ў Беларусі. Згодна з рашэннем, праваабаронца на працягу месяца павінна пакінуць Беларусь. Гэтае абмежаванне вынесена на тры гады, без права вяртання, затым магчымы перагляд рашэння. У Аддзел па грамадзянстве і міграцыі Першамайскага РУУС былі перададзеныя 7 тысяч хадайніцтваў аб прыпыненні працэдуры высылкі Алены Танкачовай. Працэдура пазбаўлення віду на жыхарства, пазней і высылкі ў дачыненні грамадзянкі Расійскай Федэрацыі Алены Танкачовай, якая пражывае ў Беларусі з 1985 года, была распачата ў верасні 2014 года. Падставай да пачатку працэдуры паслужылі чатыры выпадкі відэафіксацыі ДАІ нязначнага перавышэння дапушчальнай хуткасці руху аўтамабілем, зарэгістраваным на імя Алены Танкачовай. 28 лістапада Алена Танкачова падала скаргу ў ГУУС Мінгарвыканкама на рашэнне Першамайскага РУУС аб высылцы з Беларусі. У гэты ж дзень Першамайскі РУУС Мінска працягнуў праваабаронцы тэрмін рэгістрацыі на знаходжанне ў Беларусі на адзін месяц у сувязі з падачай скаргі на іх дзеянні па высылцы. У адпаведнасці з законам «Аб прававым становішчы замежных грамадзян і асоб без грамадзянства ў Рэспубліцы Беларусь» факт падачы скаргі — гэта падстава для прыпынення высылкі да моманту разгляду скаргі.

21 лістапада праваабаронцу і публіцысту з Гродна Уладзіміру Хільмановічу патэлефанаваў супрацоўнік РАУС Ленінскага раёна Аляксей Вайцешка і паведаміў, што ў дачыненні да яго складзены пратакол адміністрацыйнага правапарушэння (удзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве паводле артыкула 23.34, частка 3 КаАП). Потым гэты прадстаўнік міліцыі прыехаў да Хільмановіча дадому, азнаёміў з пратаколам правапарушэння і склаў пратакол апытання. Пратакол правапарушэння склаў начальнік ООПП Свіслацкага РАУС маёр міліцыі Віктар Ганчарэвіч. У віну Хільмановічу ставіцца ўдзел у традыцыйным Дні памяці паўстанцаў 1863 года, які прайшоў у Свіслачы 26 кастрычніка, а таксама фатаграфаванне на фоне бел-чырвона-белага сцяга. 25 лістапада суддзя суда Ленінскага раёна Гродна Алена Пятрова аштрафавала Уладзіміра на 35 базавых велічынь.

## Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні

1 лістапада да свіслацкага актывіста Юрыя Глебіка завіталі прадстаўнікі міліцыі. Яны паведамілі, што ў дачыненні да яго складзены пратакол па абвінавачанні ў здзяйсненні адміністрацыйнага правапарушэння 26 кастрычніка, калі ў Свіслачы адбыўся традыцыйны штогадовы Дзень памяці паўстанцаў 1863 года. Юрый Глебік тады выступіў перад прысутнымі, трымаючы ў руках нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг. 24 лістапада Юрый Глебік быў аштрафаваны мясцовым раённым судом па абвінавачанні ва ўдзеле ў «несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве» на 10 базавых велічынь.

17 лістапада ўчастковы Кобрынскага РАУС лейтэнант міліцыі Анатоль Тарасюк запрасіў па тэлефоне ў аддзяленне Алеся Меха ў сувязі з удзелам актывіста ва ўшанаванні ўдзельнікаў паўстання Кастуся Каліноўскага ў Свіслачы. Алесь Мех запатрабаваў позву, і 18 лістапада такая позва была ўручана яму, а таксама ягонаму непаўнагадоваму сыну Антону. 21 лістапада Алесь Мех у РАУС азнаёміўся з матэрыяламі адміністрацыйнай справы па абвінавачанні ва ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве, што прыйшлі са Свіслачы. Пратакол быў складзены і падпісаны начальнікам Свіслацкага РАУС маёрам міліцыі Віктарам Гандарэвічам. Сведкамі ў тым, што Аляксандр Мех удзельнічаў у мерапрыемстве і ўскладаў кветкі, сталі супрацоўнікі міліцыі гэтага РАУС Юрый Садоўскі і Дзяніс Паўлючэня. Судовы працэс над Алесем Мехам быў прызначаны на 4 снежня, на гэты ж дзень прызначана пасяджанне камісіі па справах непаўнагадовых Кобрынскага райвыканкама па справе Антона Меха.

25 лістапада ў судзе Ленінскага раёна Гродна прайшлі адміністрацыйныя працэсы ў дачыненні да яшчэ чатырох чалавек, якія прысутнічалі ў Свіслачы на традыцыйным Дні памяці паўстанцаў. Суддзя Алена Пятрова па абвінавачанні ва ўдзеле ў несанкцыянаваным мерапрыемстве аштрафавала публіцыста і праваабаронцу Уладзіміра Хільмановіча і актывіста партыі АГП Ежы Грыгенчу на 35 базавых велічынь кожнага, а журналіста Радыё Свабода Міхаіла Карневіча і актывіста партыі АГП Віталя Лопасава — на 15 базавых велічынь кожнага. Фактычна ўсе былі асуджаныя на падставе таго, што яны прысутнічалі ў Свіслачы ў гэты дзень, у матэрыялах спраў і ў паказаннях сведкаў — свіслацкіх міліцыянтаў — не знайшлося нічога, што пацвердзіла б здзяйсненне пералічанымі асобамі нейкага правапарушэння. Асабліва недарэчна выглядала рашэнне па адміністрацыйнай справе ў дачыненні да акрэдытаванага журналіста Міхаіла Карневіча, які выконваў у той дзень свае прафесійныя абавязкі.

8 лістапада музыкаў гурта «Дзецюкі» і здымачную групу затрымалі АМАПаўцы каля Заслаўя, дзе здымаўся кліп на песню «Хлопцы-балахоўцы». У міліцыю патэлефанавалі мясцовыя жыхары Заслаўя, якіх насцярожылі людзі ў вайсковай форме. Музыкі былі апранутыя ў вайсковыя строі часоў грамадзянскай вайны. На здымачнай пляцоўцы былі і бел-чырвона-белыя сцягі, якія выкарыстоўвалі ў якасці рэквізіту. Усяго было затрымана 18 чалавек. Міліцыянты палічылі здымкі кліпа за несанкцыянаванае шэсце. Затрымалі на той падставе, што ніякіх дазваляльных папераў музыкі не мелі. Дазвол на здымкі неабходна было атрымаць у Заслаўі. Пасля разбіральніцтва ў аддзяленні міліцыі Заслаўя міліцыянты вярнулі музыкам відэаматэрыялы і частку рэквізіту.

11 лістапада ў судзе Ленінскага раёна Гродна быў аштрафаваны грамадска-палітычны актывіст Ежы Грыгенча. Ён быў затрыманы міліцыяй 2 кастрычніка, калі як удзельнік кампаніі «Гавары праўду» збіраў подпісы грамадзян за пытанні «Народнага рэферэндуму». Суддзя Юрый Казакевіч не ўзяў пад увагу ўсе акалічнасці адміністрацыйнай справы і вынес Грыгенчу штраф — 10 базавых велічынь. Суд вынес рашэнне аб парушэнні выбарчага заканадаўства нібыта за невыкананне працэдуры рэгістрацыі ініцыятыўнай групы ў Цэнтрвыбаркаме, што прадугледжана пры арганізацыі рэферэндуму па ініцыятыве грамадзян. Але подпісы «Народнага рэферэндуму» збіраюцца пад зваротам грамадзян у Палату прадстаўнікоў і да прэзідэнта, каб гэтыя суб'екты ініцыявалі правядзенне рэферэндуму. На працэсе Грыгенча не толькі сказаў гэта на словах, але і папрасіў дадаць да адміністрацыйнай справы Закон аб зваротах грамадзян.

17 лістапада ў судзе Першамайскага раёна Мінска адбыўся суд над намеснікам старшыні Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ Юрасём Беленькім па абвінавачанні ў парушэнні ч.2 арт.23.34 КаАП (парушэнне парадку арганізацыі масавага мерапрыемства). Паводле міліцэйскага пратакола, Юрась Беленькі не забяспечыў ахову парадку і медыцынскае абслугоўванне падчас акцыі Дзяды, якая праходзіла 2 лістапада. Нягледзячы на тое, што 27 кастрычніка адбылося сумеснае пасяджэнне прадстаўнікоў ГУУС Мінгарвыканкама, пракуратуры з арганізатарам мерапрыемства, у пратаколе значылася, што ён не ўзгадніў меры па забеспячэнні аховы парадку. Суддзя Анастасія Папко не задаволіла хадайніцтва сп. Беленькага пра выклік у суд прадстаўніка міліцыі грамадскай бяспекі ГУУС Мінгарвыканкама Грышчанкі і пракурора Смаленскага. Прадстаўнік Мінгарвыканкама Юрый Уральскі ў судзе сказаў, што «істотных парушэнняў з боку арганізатараў не было», а пра неаплату ім «не паведамі-

лі». Суддзя прызнала Ю. Беленькага вінаватым і вынесла рашэнне пра штраф памерам у 20 базавых велічынь.

28 лістапада суд Ленінскага раёна Мінска разгледзеў адміністрацыйную справу Юрася Беленькага і вынес яму штраф у памеры 30 базавых велічынь па абвінавачанні ў парушэнні парадку арганізацыі шэсця да месца расстрэлаў ахвяр бальшавіцкага тэрору 9 лістапада ў Лошыцы (ч.2 арт.23.34 КаАП). Справу разглядала суддзя Марына Запаснік. Яна задаволіла ўсе хадайніцтвы Беленькага (пра ўдзел адваката, допыт сведкі), але па выніку адмовіла ў праглядзе відэа з агульнага паседжання у Мінгарвыканкаме 27 кастрычніка і з самой акцыі. Юрась Беленькі даводзіў у судзе, што меры па бяспецы былі ўзгоднены на паседжанні 27 кастрычніка, а таксама перад акцыяй 9 лістапада, а пра працэдуру аплаты яму не паведамілі, пратакол правапарушэння склалі 12 лістапада, хаця паслугі па забеспячэнні парадку КХП БНФ павінна была аплаціць паводле закону цягам 10 дзён пасля акцыі.

21 лістапада былы палітвязнь Андрэй Гайдукоў быў затрыманы ў Наваполацку падчас раздачы ўлётак пра беларускіх палітзняволеных. Супрацоўнікі міліцыі затрымалі яго нібыта за правядзенне несанкцыянаванай акцыі, але ў пастарунку склалі пратакол за распаўсюд улётак без выходных дадзеных. Пасля афамлення неабходных дакументаў А. Гайдукоў быў вызвалены. 24 лістапада актывіст зноў быў затрыманы ў Полацку за распаўсюд улётак. У РАУС быў складзены пратакол аб парушэнні парадку правядзення масавага мерапрыемства (арт. 23.34 КаАП) і выдадзена позва ў суд на 27 лістапада. Разам з тым, 25 лістапада Андрэя Гайдукова забралі ў суд проста з кватэры. У судзе ён заявіў хадайніцтва аб удзеле ў працэсе абаронцы і паведаміў, што мае дамову з мінскім адвакатам, які дабрацца так хутка да Полацка не зможа. Суддзя Уладзімір Бясецкі чакаць не пагадзіўся: ён сказаў, што дае паўгадзіны, каб затрыманы заключыў дамову з полацкім адвакатам. А. Гайдукову давялося на гэта пагадзіцца. У выніку Уладзімір Бясецкі прызнаў А. Гайдукова вінаватым у парушэнні артыкула 23.34 КаАП і за «правядзенне несанкцыянаванага пікета з раздачай улётак» асудзіў на арышт тэрмінам 10 сутак.

24 лістапада лідар «Zмены» Павел Вінаградаў, вядомы частымі адвольнымі затрыманнямі і арыштамі, заявіў пра свой намер пераехаць з Мінска да бацькі ў Беразіно. Асноўная прычына — пагроза трапіць у ЛТП. Актывіст на той момант меў тры адміністрацыйныя спагнанні па абвінавачанні ў «знаходжанні ў стане ап'янення ў грамадскім месцы», якія ён абскарджваў.

25 лістапада ў Светлагорску пры спробе зладзіць пікет каля райвыканкама Юрыя Ляшэнку, грамадскага актывіста, інваліда 1 групы, забрала хуткая дапамога. Ён спрабаваў зладзіць пікет у абарону правоў людзей з абмежаванымі магчымасцямі, у тым ліку ў знак пратэсту супраць невыканання правоў інвалідаў пры капітальным рамонце з элементамі мадэрнізацыі жылога двухпавярховага дома па вуліцы Леніна. Райвыканкам забараніў праводзіць масавае мерапрыемства, але Юрый Ляшэнка выехаў на вазку на цэнтральную плошчу Светлагорска. Праз некалькі хвілін, не паспеў ён і разгарнуць плакат, як да яго падбеглі супрацоўнікі «хуткай», якая з мігалкамі пад'ехала на плошчу, і мужчыну пацягнулі ў аўтамабіль. У шпіталі яму памералі ціск, зрабілі кардыяграму, сказалі, што ў яго тахікардыя і ўкалолі ўкол. Потым прыйшоў міліцыянер, які апытаў актывіста. Пасля наведвання міліцыянера, які склаў пратакол па артыкуле 23.34 КаАП (парушэнне парадку правядзення масавага мерапрыемства), медсястра сказала Юрыю Ляшэнку, што ён можа ісці дахаты, бо яму «аказана неабходная дапамога». 27 лістапада павінен быў адбыцца суд па адміністрацыйнай справе Юрыя Ляшэнкі, але быў перанесены. Калі Юрый Ляшэнка з адвакатам прыбылі ў суд, да іх падышоў падпалкоўнік міліцыі і паведаміў, што суд пакуль не адбудзецца, бо матэрыялы справы патрабуюць дапрацоўкі. Паколькі грамадскі актывіст павінен з'ехаць за мяжу на лекаванне, ён напісаў заяву ў суд, каб справу не разглядалі без яго прысутнасці.

## Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі, пераслед журналістаў

3 лістапада сябра ГА «БАЖ» Аліна Літвінчук з Брэста паведаміла, што яе абвінавачваюць у парушэнні артыкула 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях: у «незаконнай перадачы і вырабе інфармацыі замежнаму сродку масавай інфармацыі, які не мае акрэдытацыі ў Рэспубліцы Беларусь». Аліну Літвінчук выклікалі позвай у адзін з апорных пунктаў Брэста ў якасці сведкі па адміністрацыйнай справе. Калі 29 кастрычніка журналістка наведалася ў міліцэйскі пастарунак, ёй патлумачылі, што яна з'яўляецца абвінавачанай. У якасці «пацярпелага» ў пратаколе фігураваў кіраўнік Брэсцкага гарадскога аддзялення грамадскай арганізацыі «Хрысціянская садружнасць дарослых і маладых» Аляксандр Драчук. Да пратакола быў прыкладзены зварот за подпісам намесніка начальніка ўпраўлення КДБ па Брэсцкай вобласці А. Крупенькіна ад 1 кастрычніка 2014 года, які рабіў выснову пра «незаконную журналісцкую дзейнасць ад імя замежнага сродку масавай інфармацыі Літвінчук А.С.» У звароце, у прыватнасці, гаварылася, што 25 верасня журналістка ўзяла інтэрв'ю ў кіраўніка грамадскага аб'яднання «Хрысціянская садружнасць

дарослых і маладых» Аляксандра Драчука і падрыхтавала публікацыю па праблеме ўжывання насельніцтвам брэсцкага рэгіёна наркатычных рэчываў. Гэты матэрыял у верасні быў размешчаны на сайце «Беларускага Радыё Рацыя» пад назвай «Аднагодкі школьнікаў распавядуць пра шкоду спайсу». Такім чынам, адзначаецца ў звароце, «у дзеянні Літвінчук А.С. бачацца прыкметы адміністрацыйнага правапарушэння, прадугледжанага арт. 22.9 КаАП Рэспублікі Беларусь (незаконны выраб прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі)». Азнаёміўшыся з матэрыяламі справы, журналістка адмовілася даваць паказанні, скарыстаўшыся канстытуцыйным правам не сведчыць супраць самой сябе. Пасля гэтага супрацоўнік міліцыі Дзмітрый Сверба склаў адпаведны пратакол і ўручыў ёй позву ў суд на 6 лістапада. Увечары 31 кастрычніка гісторыя атрымала нечаканы працяг: супрацоўнікі міліцыі паспрабавалі пранікнуць у кватэру журналісткі, каб перапісаць пратакол, які суд вярнуў на дапрацоўку. Журналістка зноў адмовілася даваць паказанні і падпісваць новы пратакол. 6 лістапада па хадайніцтве журналісткі працэс перанеслі. З-за ўдзелу у навучальнай сесіі за межамі Беларусі Аліна перадала ў суд Ленінскага раёна Брэста заяву з просьбай перанесці разгляд справы на час пасля вяртання на радзіму. У судзе ўзялі пад увагу яе хадайніцтва і забавязалі з'явіцца да суддзі Святаслава Каліны 25 лістапада, калі дакладна і стане вядома дата працэсу.

5 лістапада, у сусветны дзень «Станем за журналістыку», у Віцебску мясцовыя журналісты і актывісты сфатаграфаваліся на фоне будынка з малюнкам — выявамі трох жалезных клетак, з якіх вырываецца зробленая з газеты птушка. Удзельнікі фотасесіі таксама трымалі ў руках папяровых птушак або клеткі. У хуткім часе ўдзельнікаў фотасесіі пачалі выклікаць у РАУС Чыгуначнага раёна і складаць пратаколы аб нібыта адміністрацыйным правапарушэнні — удзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве. 28 лістапада ў судзе Чыгуначнага раёна Віцебска былі разгледжаны адміністрацыйныя справы журналістаў Зміцера Казакевіча і Алены Сцяпанавай, а таксама актывісткі Алены Шабуні. У выніку ўсе былі прызнаны вінаватымі ў парушэнні арт. 23.34 КаАП (парушэнне парадку арганізацыі альбо правядзення масавых мерапрыемстваў) і аштрафаваны: Зміцер Казакевіч і Алена Сцяпанава на 20 базавых велічынь кожны, Алена Шабуня — на 18 базавых велічынь. Разгляд справы Казакевіча суддзёй Аленай Цыганковай заняў каля 30 хвілін. З боку абвінавачання выступаў складальнік пратакола, начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі АУС Чыгуначнага раёна Віцебска Аляксандр Рыбакоў. Ён сказаў, што «фотасесія» была «акцыяй», бо, маўляў, так пісалі ў інтэрнэце. Суддзя Дзяніс Губанаў вёў справу і прызнаў вінаватай журналістку Алену Сцяпанаву. Той жа суддзя вынес рашэнне

аштрафаваць Алену Шабуню на 18 базавых велічыняў. Меншыя памеры штрафу Дзяніс Губанаў патлумачыў тым, што ў яе трое дзяцей, сярод якіх двое непаўнагадовых. Усяго па справе фотасесіі праходзілі сем чалавек. Суды над журналістам Кастусём Мардзвінцавым і актывісткай Таццянай Севярынец прызначаны на 1 снежня, над жыхаром Віцебска Пятром Берлінавым, шараговым мінаком, які далучыўся да фотасесіі — 3 снежня. На праваабаронцу Паўла Левінава пратакол да канца месяца не быў складзены: ён заявіў, што будзе заключаць дамову з абаронцам, і таму яго візіт у міліцыю да маёра Рыбакова быў адкладзены.

13 лістапада незалежнаму журналісту Андрэю Мялешку патэлефанавалі з РАУС Ленінскага раёна Гродна і сказалі, што ў дачыненні да яго заведзена новая адміністрацыйная справа па арт. 22.9 ч. 2 КаАП (незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ). Яго выклікалі ў пастарунак, каб узяць тлумачэнні з нагоды інтэрв'ю з прафесарам Гродзенскага ўніверсітэта Валерыем Чарапіцам, але журналіст запатрабаваў афіцыйнай позвы. У гэты ж дзень старэйшы лейтэнант аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Ленінскага РАУС Войцешка і прапаршчык Грынь прыйшлі да журналіста ў кватэру, каб узяць тлумачэнні адносна гэтага інтэрв'ю. Са слоў супрацоўнікаў міліцыі вынікала, што справа ўжо заведзена, і праз некалькі тыдняў будзе суд. Гэта ўжо трэцяя на працягу года адміністрацыйная справа супраць журналіста з аднолькавым абвінавачаннем: першы раз яго ашрафавалі на 30 базавых велічынь у чэрвені, другі — у кастрычніку (35 базавых велічынь).

13 лістапада журналіст Алесь Залеўскі атрымаў афіцыйную позву ў Слонімскі РАУС. Начальнік Слонімскага РАУС Валерый Раманчук паведаміў, што ў ягоных дзеяннях «заўважаны склад адміністрацыйнага правапарушэння», і яго справу накіруюць у суд. Алесь Залеўскі — штатны супрацоўнік Польскага грамадскага тэлебачання TVP, часткай якога з'яўляецца «Белсат», аўтар і вядоўца праграм «Людскія справы» і «Рэпартаж Залеўскага». Гэта ўжо другая адміністрацыйная справа ў дачыненні да яго цягам 2014 года. У траўні Карэліцкі раённы суд пакараў журналіста штрафам у памеры 30 базавых велічынь за нібыта «незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ» (арт. 22. 9 ч 2. КаАП). Падставай стаў рэпартаж пра прыватны краязнаўчы музей у Міры.

17 лістапада падаткавая інспекцыя Ленінскага раёна Магілёва выклікала незалежнага журналіста Алеся Буракова да намесніка начальніка аддзела Каральковай. Нагода для візіта — падача падаткавых дэкларацый (разлікаў) па падаходнаму падатку з фізічных асоб за 2010-2013 га-

ды (прыбыткі, якія былі атрыманы з-за мяжы). Пры сабе падаткавікі прасілі мець пашпарт, а таксама дакументы, якія пацвярджаюць рэзідэнцтва ў Расійскай Федэрацыі. Алесь Babакоў адзначыў, што гэта ўжо трэці выклік з падаткавай інспекцыі за апошнія некалькі месяцаў. Ён падкрэсліў, што пасля канфіскацыі ў яго кампутараў у межах адміністрацыйнай справы за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі праваахоўнікі шукалі ў ягоным кампутары ўсё, што датычылася ганарараў, грошай, сайтаў «Свабоднага фармату» і «Дойчэ Вэле».

18 лістапада ў судзе Ленінскага раёна Гродна адбыўся разгляд адміністрацыйнай справы Вольгі Крапоцінай, яка была затрыманая 19 верасня з улёткамі ў падтрымку Украіны. Суддзя Дзмітрый Бубенчык прызнаў грамадскую актывістку вінаватай у «незаконным вырабе і распаўсюдзе друкаванай прадукцыі» (арт. 22.9 ч.2 КаАП) і аштрафаваў на 30 базавых велічынь. Вольга Крапоціна сваёй віны не прызнала, спасылаючыся на тое, што кожны грамадзянін Рэспублікі Беларусь паводле Канстытуцыі мае права на вольны распаўсюд інфармацыі. У матэрыялах справы фігуравала таксама экспертыза Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, якая прызнала самаробныя ўлёткі Крапоцінай «масава-палітычным неперыядычным выданнем».

24 лістапада расійскімі памежнікамі была затрымана беларуская журналістка з Гомеля Ларыса Шчыракова разам з кіроўцам Кастусём Жукоўскім. Гомельцы здымалі матэрыял на беларуска-расійскай мяжы ў Добрушскім раёне. Пазней яны пераехалі праз мяжу на тэрыторыю Расіі і там здымалі грузавікі, што рухаліся з Беларусі ў Расію для сюжэта аб абмежаванні Расіяй транзіту беларускага экспарту. У гэты час іх спынілі расійскія памежнікі, адабралі пашпарты і пыталі, з якой мэтай вядуцца здымкі. Ларысу Шчыракову і Кастуся Жукоўскага пратрымалі расійскія памежнікі і невядомыя ў цывільным, якія не прадставіліся, дзве гадзіны. Пытанні невядомых тычыліся інфармацыі: з якой мэтай здымалі на памежнай тэрыторыі. Прэтэнзіі складаліся ў тым, што нібыта на відэа маглі трапіць супрацоўнікі ФСБ.

26 лістапада журналістку-фрылансера з Бярозы Тамару Шчапёткіну па тэлефоне выклікаў намеснік начальніка аддзела аховы грамадскага парадку Бярозаўскага РАУС Мікалай Пракурат з нагоды яе журналісцкай дзейнасці. Тамара Шчапёткіна спачатку пагадзілася на прапанову прыйсці 27 у першай палове дня, але потым сказала, што калі яна парушыла законы, то супрацоўнікі міліцыі мусяць даслаць ёй позву. 30 лістапада Тамара Шчапёткіна ў РАУС азнаёмілася з матэрыяламі справы. У адміністрацыйным

пратаколе, складзеным Мікалаем Пракуратам, было адзначана, што журналістка парушыла арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях. Падставай для абвінавачання стала інтэрв'ю на сайце неакрэдытаванага ў Беларусі «Беларускага Радыё Рацыя» з загадчыкам цэнтральнай Бярозаўскай аптэкі Алегам Казюпай на тэму выдачы лекаў па рацэптах. Дарэчы, на сайце радыё кароткая інфармацыя са здымкам Казюпы была змешчана без указання аўтарства. Сярод здымкаў 4 жанчын, паказаных Казюпу і дырэктару сярэдняй школы № 1 Бярозы Мікалаю Жуковічу, у якога Шчапёткіна таксама брала інтэрв'ю, яны прызналі Тамару Шчапёткіну.

30 лістапада мясцовыя праваабаронцы паведамілі, што старшыня Салігорскага райвыканкама Аляксандр Рымашэўскі «рэкамендаваў» усім кіраўнікам прадпрыемстваў і арганізацый Салігорскага раёна «актыўна падпісацца» на грамадска-палітычную газету «Шахцёр», заснавальнікам якой з'яўляецца Салігорскі раённы выканаўчы камітэт. «З мэтай ідэалагічна правільнага інфармавання насельніцтва раёна аб палітычнай і сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў краіне, Мінскай вобласці, на Салігоршчыне» старшыня райвыканкама таксама «рэкамендаваў» прыняць меры па актыўнаму і масаваму ўдзелу ў падпіснай кампаніі на газету работнікаў працоўных калектываў. Следам за зваротам Аляксандра Рымашэўскага кіраўнікі прадпрыемстваў і арганізацый Салігоршчыны атрымалі ліст ад галоўнага рэдактара газеты «Шахцёр» Сяргея Квіткевіча. Спасылаючыся на «рэкамендацыю» Аляксандра Рымашэўскага, галоўрэд уведаміў адміністрацыі салігорскіх прадпрыемстваў аб неабходнасці ўжо абавязковага афармлення ведамаснай падпіскі на газету, а таксама давёў квоту на індывідуальную падпіску не менш за 50% ад колькасці работнікаў у працоўным калектыве. Кіраўнікі прадпрыемстваў абавязаны прадставіць справаздачу аб выкананні плана па падпісцы на газету «Шахцёр» у ідэалагічны аддзел Салігорскага райвыканкама.

## Абмежаванне свабоды сходаў

2 лістапада ў Мінску прайшла дазволеная Мінгарвыканкамам традыцыйная акцыя да Дня памяці продкаў — «Дзяды — 2014», якая ўключала шэсце і мітынг. Мерапрыемства было арганізавана Кансерватыўна-хрысціянскай партыяй БНФ. Назіральнікі ад Праваабарончага цэнтра «Вясна» і РПГА «Беларускі Хельсінкскі Камітэт», якія ажыццяўлялі маніторынг ходу масавага мерапрыемства, ацанілі яго як маючае мірны характар цягам усяго сходу. Пазітыўна былі адзначаны дзеянні супрацоўнікаў ДПС па забеспячэнні руху калоны праз перакрыжаванні па маршруце шэсця і прысутнасць адмыслова пазначаных супрацоўнікаў інфармацыйнай

службы міліцыі. Разам з тым, зафіксаваны праблемы ў працы міліцыі па забеспячэнні грамадскага парадку падчас масавага мерапрыемства. Мелі месца ўмяшальніцтвы ў свабоду мірных сходаў, а менавіта беспадстаўныя затрыманні ўдзельнікаў, якія былі ацэнены як неправамерныя і адвольныя. Па-ранейшаму занепакоенасць выклікала немагчымасць ідэнтыфікаваць супрацоўнікаў праваахоўных органаў як такіх з-за адсутнасці форменнай вопраткі, а таксама ідэнтыфікацыйных картак на супрацоўніках у форме. Немагчыма было таксама ідэнтыфікаваць службовыя аўтамабілі, якія выкарыстоўваліся праваахоўнымі органамі, адсутнічалі машыны хуткай дапамогі па маршруце масавага мерапрыемства. Пры такіх абставінах удзельнікі ў выпадку неабходнасці не маглі ведаць, да каго звярнуцца па дапамогу. Варта адзначыць, што рэгуляванне парадку правядзення масавых сходаў у Беларусі, замацаванае Законам «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь» ад 30 снежня 1997 года (у рэдакцыі ад 08.11.2011), супярэчыць міжнародным стандартам. У сумесным заключэнні Венецыянскай камісіі і БДІПЧ/АБСЕ (CDL-AD (2012) 006) адзначана: «Закон аб масавых мерапрыемствах характарызуецца падрабязным празмерным рэгуляваннем працэдурных аспектаў правядзення сходаў. Закон стварае складаную працэдуру захавання жорсткай і працаёмкай працэдуры атрымання дазволу, у той жа час пакідаючы большую свабоду дзеянняў адміністрацыйным органам для прымянення Закона. Гэтая працэдура не адлюстроўвае пазітыўнае абавязацельства дзяржавы забяспечваць і заахвочваць ажыццяўленне права на свабоду мірных сходаў і на свабоду выказвання меркаванняў».

7 лістапада сябры Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі БНФ Пётр Сарапеня і Ян Дзяржаўцаў планавалі ў Віцебску правесці масавае мерапрыемства з мэтай інфармаваць суграмадзянаў «аб наступствах контррэвалюцыйнага кастрычніцкага перавароту» і «аб неабходнасці забароны ў Беларусі кампартыі і яе ідэалогіі», аднак атрымалі адмову. Забарону чыноўнікі абгрунтавалі сумнавядомым рашэннем Віцебскага гарвыканкама №881 «Аб масавых мерапрыемствах у г. Віцебску». Згодна з гэтым рашэннем, заяўнікі мусяць прыкладаць да заяўкі ў раённую адміністрацыі таксама і дамовы на абслугоўванне акцыі медыкамі, супрацоўнікамі міліцыі і ЖКГ. Апрача апошніх, заключаць любыя дамовы з актывістамі згаданыя структуры адмаўляюцца.

19 лістапада стала вядома, што Камітэт па правах чалавека ААН прызнаў парушэнне права на мірны сход і атрыманне інфармацыі сябра Партыі БНФ Сяргея Лазенкі. Актывіст быў затрыманы ў жніўні 2007 года і прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці за несанкцыянаванае ма-

савае мерапрыемства — сход гарадской арганізацыі Партыі БНФ у офісе партыі ў Брэсце. Акрамя С. Лазенкі тады былі затрыманы яшчэ 24 чалавекі, сярод якіх — палітык Павел Севярынец, які прэзентаваў сваю новую кнігу «Лісты з лесу». Затрыманыя былі дастаўлены ў РУУС Маскоўскага раёна, большасць — пакараны штрафамі, а Павел Севярынец і Андрэй Шарэнда атрымалі адміністрацыйныя арышты.

20 лістапада стала вядома, што Камітэт па правах чалавека ААН прызнаў неаднаразовае парушэнне права на мірны сход і свабоду выказвання меркавання актывіста АГП з Гомеля Уладзіміра Няпомняшчых. Адзін з эпізадаў звароту Уладзіміра Няпомняшчых датычыў «маўклівай акцыі», якая прайшла летам 2011 года ў Гомелі. Актывіст на адной з плошчаў Гомеля ўдзельнічаў у акцыі «апладысментаў», заклікаючы гараджан прыняць удзел у мірным сходзе ў выглядзе вулічнага шэсця. Яго абвінавацілі ў парушэнні закону аб масавых мерапрыемствах, суддзя суда Чыгуначнага раёна Гомеля Ілля Свірыдаў пакараў актывіста буйным штрафам. Другі эпізод: 7 кастрычніка 2011 года апазіцыянер распаўсюджваў сярод жыхароў Гомеля ўлеткі з заклікам да ўдзелу ў Народным Сходзе, які адбываўся з ініцыятывы мясцовых дэмакратаў дзеля абмеркавання сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў краіне. Суддзя суда Цэнтральнага раёна Гомеля Алена Цалкова таксама пакарала актывіста буйным штрафам.

З 20 па 24 лістапада сябры бабруйскай суполкі АГП і іншыя грамадскія актывісты Бабруйска планавалі правесці пікеты супраць размяшчэння ў горадзе расійскай ваеннай базы і звярнуліся ў гарвыканкам па адпаведны дазвол. Месцам правядзення актывісты ўказвалі стадыён фабрыкі «Славянка» — гэта адзінае ў Бабруйску месца, вызначанае гарвыканкамам для правядзення пікетаванняў. Чыноўнікі знайшлі прычыну, каб адмовіць у правядзенні акцый. Намеснік старшыні гарвыканкама Аляксандр Маркачоў напісаў, што якраз у гэтыя дні на стадыёне будзе праводзіцца адкрытае першынство ДЮСШ па футболе. Пасля гэтага актывісты пачалі падаваць заявы на іншыя даты: з 30 лістапада па 4 снежня. Актывістка Галіна Смірнова вырашыла зайсці на стадыён, каб пагледзець, як праходзіць першынство па футболе. Але ніякіх спаборніцтваў там не было: на дзвярах комплекса была размешчана аб'ява, у якой было пазначана, што першынство ДЮСШ па футболе, запланаванае на перыяд з 20 па 24 лістапада, у сувязі з умовамі надвор'я пераносіцца на перыяд з 30 лістапада па 4 снежня, гэта значыць — якраз тыя даты, на якія актывісты пачалі падаваць заявы.

21 лістапада ў судзе Маскоўскага раёна Мінска разглядалася скарга Уладзіміра Андрыенкі на рашэнне Мінгарвыканкама, які не даў дазвол на

правядзенне адзіночнага пікета салідарнасці з Украінай каля амбасады Расійскай Федэрацыі. У абгрунтаванні свайго рашэння намеснік старшыні Мінгарвыканкама Ігар Карпенка напісаў, што адзіночны пікет не будзе спрыяць захаванню добраўпарадкавання і зеляніны, створыць перашкоды для пешаходнага руху і руху транспарту, не будзе спрыяць выкананню ПДР. Пры гэтым чыноўнікі спасылаліся на артыкул 9 Закона «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь». У судзе прадстаўніком Мінгарвыканкама Уральскім былі дадаткова агучаны патрабаванні да заяўніка: маўляў, патрэбна да заявы прыкласці мапу з канкрэтна намаляванай кропкай, дзе будзе стаяць пікетоўшчык, заключыць загадзя дамову з міліцыяй і іншымі структурамі, яшчэ трэба падстроіцца пад надвор'е, бо яно таксама будзе ўлічвацца пры прыняцці рашэння пра дазвол акцыі. Нягледзячы на абсурднасць вылучаных патрабаванняў, суддзя Гусакова прызнала скаргу неабгрунтаванай і не задаволіла яе.

22 лістапада на цэнтральнай плошчы Светлагорска інвалід першай групы, грамадскі актывіст Юрый Ляшэнка планаваў правесці пікет, каб прыцягнуць увагу грамадскасці і выказаць пратэст супраць невыканання правоў інвалідаў пры капітальным рамонце з элементамі мадэрнізацыі жылога двухпавярховага дома па вуліцы Леніна. Светлагорскі гарвыканкам адмовіў у дазволе на правядзенне пікета, таму што «месца правядзення пікета не адпавядае патрабаванням рашэння райвыканкама»: «Раённы выканаўчы камітэт забараняе правядзенне пікета на цэнтральнай плошчы», — было сказана ў адказе. Адзінае месца, дзе дазволена ладзіць пікеты — сцэнічная пляцоўка ў гарадскім парку культуры і адпачынку — знаходзіцца на ўскраіне горада ў закінутым стане.

## Абмежаванне свабоды асацыяцый

5 лістапада Мікалай Жыбуль, Аляксандр Варанкін, Алег Шаўчэнка і Аляксандр Грамыка — пазбаўленыя працы сябры пярвічкі Свабоднага прафсаюза Беларускага на бабруйскім зводзе ТДіА (трактарных дэталяў і агрэгатаў) распачалі галадоўку. Яны лічаць, што адміністрацыя завода не працягнула з імі кантракты менавіта з-за прафсаюзнай прыналежнасці. З 10 гадзін раніцы яны знаходзіліся ў будынку гарвыканкама, дзе збіраліся правесці першы дзень галадоўкі, але каля 12 гадзін дня іх адтуль выштурхаў супрацоўнік міліцыі. 6 лістапада Мікалай Жыбуль, Аляксандр Варанкін, Аляксандр Грамыка і Алег Шаўчэнка працягвалі акцыю каля будынка адміністрацыі прадпрыемства. На сваім працоўным месцы да галадоўкі таксама далучыўся «свабодавец» Генадзь Лабачоў. Актывісты-прафсаюзнікі прастаялі каля прахадной увесь працоўны дзень. Ніхто з

адміністрацыі прадпрыемства да іх не падыходзіў. 10 лістапада актывісты працягнулі акцыю пратэсту каля Бабруйскага гарвыканкама. Да іх з гарвыканкама ніхто не выйшаў, каля 12:30 усіх удзельнікаў галадоўкі затрымала міліцыя. Праз 2 гадзіны затрыманых адпусцілі з пастарунку, папярэдзіўшы пра недапушчальнасць правядзення несанкцыянаванай акцыі. 12 лістапада безвынікова скончылася сустрэча бабруйскіх галадоўнікаў са старшынёй Бабруйскага гарвыканкама Андрэем Каваленкам. 14 лістапада сябры Свабоднага прафсаюза Беларускага заявілі, што спыняюць галадоўку пратэсту. Іх патрабаванне аб аднаўленні на працы не было выканана. У міліцыі актывістам паведамілі, што на іх склалі пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні. Паводле міліцыі, актывісты правялі несанкцыянаванае масавае мерапрыемства — галадоўку.

13 лістапада мясцоваму каардынатару аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» (БХД) Аляксандру Храпко было вынесена афіцыйнае папярэджанне за подпісам намесніка пракурора Брэсцкай вобласці Аляксандра Тачко. У тэксце дакумента, які Храпко атрымаў, было сказана, што ён афіцыйна папярэджаны «аб недапушчальнасці ўдзелу ў дзейнасці і выступу ад імя незарэгістраванай партыі». Пры гэтым прадстаўнік абласной пракуратуры спаслаўся на частку 3 артыкула 7 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб палітычных партыях». Свае высновы пракуратура зрабіла на падставе матэрыялаў, дасланых Камітэтам дзяржаўнай бяспекі. У прыватнасці, размова ішла пра тое, што брэсцкі актывіст прымаў удзел у кампаніях «'За малы памежны рух" і «Абаронім нашых дзяцей ад алкагалізму», ініцыятарамі якіх выступілі сябры арганізацыйнага камітэта па стварэнні партыі БХД.

25 лістапада Грамадскае аб'яднанне беларускіх пенсіянераў «Наша пакаленне» паведаміла што зламыснікі ўзламалі пошту і змянілі паролі на сайце арганізацыі. На думку яе кіраўніцтва, гэта нанесла непапраўны ўрон дзелавой рэпутацыі. «Так, у выніку ўзлому арганізацыйнай пошты зламыснікі вялі перапіску ад імя партнёраў арганізацыі, у выніку чаго былі сарваны некаторыя намечаныя мерапрыемствы. Акрамя гэтага, быў нанесены непапраўны ўрон дзелавой рэпутацыі арганізацыі сярод некаторых замежных партнёраў, сябраў ГАБП «Наша пакаленне» і актывістаў ІАУ «Пенсійны выпадак». На жаль, дакладна ўстанавіць, калі гэта было зроблена, не атрымліваецца, аднак, вядома, што не менш, чым месяц таму. Мы таксама просім улічваць вышэйсказаную інфармацыю тым, хто, магчыма, атрымліваў ад нас «дзіўныя» лісты», — адзначана ў заяве «Нашага пакалення». Таксама паведамлялася, што на сайце арганізацыі былі зменены паролі, у выніку чаго абнаўленне інфармацыі было немагчымым.

# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі. Снежань 2014 года

У снежні сітуацыя з правамі чалавека пагаршалася, замацоўваліся і пашыраліся негатыўныя тэндэнцыі парушэння і абмежавання правоў як на заканадаўчым узроўні, так і на праваўжывальным.

Зафіксаваны сур'ёзны наступ на свабоду слова. 17 снежня адразу ў двух чытаннях Палатай прадстаўнікоў былі прыняты папраўкі да Закона «Аб сродках масавай інфармацыі», якія дазволяць дзяржаве значна ўзмацніць ціск на незалежныя медыі. Ужо 18 снежня праект закона быў ухвалены Саветам Рэспублікі, а 20 снежня — падпісаны кіраўніком дзяржавы А. Лукашэнкам (тэрмін уступлення ў дзеянне — 1 студзеня 2015 года). Згодна з новаўвядзеннямі, на інтэрнэт-СМІ стане цалкам распаўсюджвацца дзеянне закона аб СМІ, за выключэннем патрабавання аб рэгістрацыі. Папраўкі таксама вызначаюць, якую інфармацыю забаронена распаўсюджваць у СМІ. Так, забараняецца ў тым ліку распаўсюд «інфармацыі, якая здольная нанесці шкоду нацыянальным інтарэсам Рэспублікі Беларусь». Абмежаванне доступу да інтэрнэт-СМІ стане магчымым за два вынесеныя папярэджанні на працягу года, а таксама за распаўсюд імі забароненай інфармацыі і невыкананне уладальнікам інфармацыйнага інтэрнэт-рэсурсу законнага патрабавання дзяржаўнага органа аб ліквідацыі парушэнняў заканадаўства аб СМІ. Пры гэтым за распаўсюд інфармацыі, якую ўлады могуць палічыць пагражаючай нацбяспецы, блакаванне сайтаў будзе ажыццяўляцца без вынясення якіх-небудзь папярэджанняў. Яшчэ адзін з вельмі сур'ёзных выклікаў для медыя-супольнасці: магчымасць Мініфармацыі даць указанне блакаваць інтэрнэт-рэсурс у па-засудовым парадку.

Разам з тым, нават не дачакаўшыся ўступлення паправак да закона ў дзеянне, пачынаючы з 19 снежня некалькі інфармацыйных інтэрнэт-рэсурсаў у Рэспубліцы Беларусь падвергліся блакіроўцы.

У прыватнасці, без тлумачэння прычын быў абмежаваны доступ карыстальнікаў да сайтаў belapan.com і belapan.by, naviny.by,belaruspartisan.org, charter97.org, udf.by, 21.by, gazetaby.com, zautra.by.

Дадзеныя рэпрэсіўныя меры ў адносінах да незалежных медыяў эксперты звязалі з падрыхтоўкай уладаў да прэзідэнцкіх выбараў (павінны адбыцца ў 2015 годзе), а таксама аб'ектыўным асвятленнем крызісных праяваў у эканоміцы краіны.

Прадстаўнікі медыяў па-ранейшаму сутыкаліся з затрыманнямі падчас ажыццяўлення прафесійнай дзейнасці, адміністрацыйным пераследам за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі на фоне пастаян-

ных адмоў у такіх акрэдытацыях з боку беларускага МЗС, пракурорскімі папярэджаннямі.

Выказванне меркаванняў шляхам правядзення публічных мерапрыемстваў было скрайне мінімізаваным. Былі забаронены больш за дзесяць мірных сходаў, да Дня правоў чалавека дазволены быў толькі адзін пікет — у Брэсце. Працягваўся адміністрацыйны пераслед за ўдзел у масавых мерапрыемствах, у тым ліку — дазволеных уладамі, а таксама практыкаваліся беспадстаўныя адвольныя затрыманні.

Беларускія ўлады выразна прадэманстравалі, што не намераны спыняць рэпрэсіўную палітыку ў адносінах да апанентаў і іншадумцаў, праяўляць палітычную волю ў пытанні вызвалення палітвязняў. Нягледзячы на тое, што ў снежні на волю выйшлі два палітычныя зняволеныя — Васіль Парфянкоў і Эдуард Лобаў, гэта не стала знакам на змяненне курсу па дадзенай вострай праблеме, паколькі вызваленне было звязана выключна са сканчэннем поўных тэрмінаў адбыцця пакарання. Нязменнасць пазіцыі ўладаў у пытанні палітычнага пераследу пацвердзіла з'яўленне новага палітвязня — грамадскага актывіста Юрыя Рубцова, які з 22 снежня пачаў адбываць паўтары гады абмежавання волі ў спецкамендатуры в. Куплін Пружанскага раёна. Такім чынам, снежань завяршаўся з шасцю палітычнымі вязнямі ў месцах пазбаўлення і абмежавання волі: Мікалай Статкевіч, Ігар Аліневіч, Мікалай Дзядок, Яўген Васьковіч, Арцём Пракапенка і Юрый Рубцоў. Гатоўнасць уладаў да выкарыстання крымінальнага пераследу як сродку спынення ці абмежавання публічнай дзейнасці асобаў прадэманстраваў і арышт супрацоўнікамі КДБ журналіста, карэспандэнта газеты «Белорусы и рынок» Аляксандра Алесіна, які з'яўляецца экспертам у вайсковых пытаннях. Ён быў абвінавачаны ў супрацоўніцтве з замежнымі спецслужбамі. Пасля вызвалення з СІЗА КДБ журналіст заявіў, што ў сваёй працы выкарыстоўвае выключна адкрытыя крыніцы інфармацыі, якія не з'яўляюцца сакрэтнымі. Аляксандр Алесін застаецца пад следствам і падпіскай аб нявыездзе.

Пагаршэнне сітуацыі з правамі чалавека адбывалася на фоне нарошчвання і пашырэння кантактаў Еўрапейскага Саюза і ЗША з беларускімі ўладамі, што прымушала сумнявацца ў захаванні прынцыповай пазіцыі Захаду адносна ўзнаўлення кантактаў з афіцыйным Мінскам толькі пасля вызвалення палітвязняў. Такім чынам, назіраўся далейшы практычны адыход ЕС і ЗША ад каштоўнаснай пазіцыі да прагматычнага супрацоўніцтва, навязваемага беларускім бокам. Гэта стала трывожнай тэндэнцыяй, паколькі найперш са знешнепалітычны фактарам звязваліся спадзяванні станоўчай дынамікі па праблемах палітвязняў, дэмакратыі і правоў

чалавека ў сітуацыі практычнай адсутнасці рычагоў уплыву па дадзеных пытаннях унутры краіны.

## Палітычныя зняволеныя, крымінальны перaслед грамадскіх актывістаў

1 снежня палітвязню Эдуарду Лобаву споўнілася 26 гадоў. Гэта чацвёрты Дзень нараджэння, які Эдуард сустрэў у зняволенні. 18 снежня ў 8 гадзін раніцы Эдуарда Лобава вызвалілі з Івацэвіцкай папраўчай калоніі №22 пасля поўнага адбыцця пакарання. Яго сустракалі сям'я і паплечнікі. Ён паведаміў, што яшчэ ў 2011 годзе яму тройчы прапаноўвалі пісаць прашэнне аб памілаванні, але ён адмовіўся. З таго часу больш прапановаў не было. Былы палітвязень сказаў, што ў сувязі з прызначэннем прэвэнтыўнага нагляду (на год) ён пакуль не вызначыўся, чым будзе займацца: раней планаваў з'ехаць за мяжу вучыцца. Ён падкрэсліў, што ў турме ягоныя погляды не змяніліся, і ён будзе працягваць грамадска-палітычную дзейнасць. 19 снежня Эдуард Лобаў правёў першую пасля вызвалення прэс-канферэнцыю. Узгадваючы суд 24 сакавіка 2011 года над сабой і Дзмітрыем Дашкевічам, ён адзначыў: «Гэты працэс правялі фармальна, паколькі ад самага пачатку было вядома, каму і які тэрмін будзе свяціць і было вядома, што гэтая справа цалкам падстаўная. Увогуле, я не разглядаў гэта як суд». Былы палітвязень адзначыў, што адносіны з іншымі зняволенымі былі нармальнымі. Супрацоўнікі калоніі ведалі, за што ён сядзіць, здаралася што выклікалі на пэўныя размовы. Па словах Лобава, ён не адчуваў асаблівага прэсінгу на сабе як на палітвязня, хаця за чатыры гады атрымаў 18 спагнанняў, сядзеў у карцары. Лічыць, што ніякіх адрозненняў паміж ім і астатнімі зняволенымі не было. Умовы ў калоніі, дзе адбываў тэрмін, ён назваў звычайнымі, але прызнаўся, што яму няма з чым параўноўваць, паколькі ў іншых калоніях ён не быў. Закранаючы тэму медыцынскага абслугоўвання, Эдуард Лобаў распавёў, што звяртаўся да лекараў са звычайнымі хваробамі, і яму дапамагалі здавальняюча, а тыя, у каго розныя складаныя альбо хранічныя захворванні, скардзяцца на медыцыну вельмі часта. Што тычыцца харчавання, дык яно было звычайным для такіх устаноў: раніцай каша на вадзе, на абед — суп, макароны ці ізноў каша з якой-небудзь каўбасой, увечары — бульба з рыбай ці кіслая капуста: «Наколькі я зразумеў, гэтую ежу даюць так, каб падтрымліваць жыццядзейнасць. Для гэтага такой нормы якраз і дастаткова».

4 снежня Валерыя Хоціна, жонка палітвязня Мікалая Дзядка, паведаміла, што яе мужу ў Магілёўскай турме №4 правялі псіхолага-псіхіятрычную экспертызу, што адбываецца з усімі вязнямі перад судом у зняво-

ленні. Паводле Валерыі Хоцінай, вынікі экспертызы пакуль невядомыя. 6 снежня Валерыя Хоціна паведаміла, што Мікалаю Дзядку выставілі абвінавачанне ў злосным непадпарадкаванні законным патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы (арт. 411 Крымінальнага кодэкса), што пагражае яму яшчэ годам зняволення. Па яе словах, суд можа адбыцца ў студзені 2015 года, будзе выязным, а паседжанне пройдзе ў закрытым рэжыме. Яшчэ адна непрыемная навіна — Мікалая Дзядка пазбавілі спаткання, запланаванага на 5 студзеня, якога яны з жонкай чакалі амаль год. Гэта адбылося з-за таго, што зняволены нібыта стварыў канфліктную сітуацыю ў камеры, але Мікалай гэта адмаўляе. Пасля гэтага, па словах В. Хоцінай, палітвязень канчаткова вырашыў сысці ў адзіночную камеру. Паводле Валерыі, муж маральна трымаецца добра, з лістоў і тэлефоннай размовы ў яе склалася ўражанне, што новая хваля ціску не зламала яго, ён больш хвалюецца за сваіх родных, чым за сябе.

5 снежня каля 7 гадзін раніцы з папраўчай калоніі № 9 у Горках выйшаў на волю пасля адбыцця пакарання палітвязень Васіль Парфянкоў. Сябры і журналісты сабраліся сустрэць Васіля, аднак яго ў суправаджэнні міліцыі даставілі да цягніка на Воршу на чыгуначны вакзал. У Воршы адбылася сустрэча з паплечнікамі, пасля якой Парфянкоў накіраваўся ў Мінск. Васіль Парфянкоў адзначыў, што падчас знаходжання ў калоніі яму было вынесена 39 спагнанняў за розныя парушэнні рэжыму адбыцця пакарання, а перад вызваленнем, 11 лістапада, у калоніі адбыўся выязны суд, на якім яму быў прызначаны прэвентыўны нагляд тэрмінам на 1 год. Былы палітвязень паведаміў, што ў той дзень разглядаліся адразу каля 40 падобных спраў. Адносна таго, ці можна ў калоніі абскардзіць накладзеныя спагнанні, Васіль сказаў, што тэарэтычна гэта зрабіць можна, аднак, паколькі хадайніцтвы, скаргі, разглядае той самы чалавек, які выносіў спагнанне, вынікаў гэта не дае: начальнік калоніі перадае зняволенаму стандартную адпіску, што пакаранне вынесена цалкам законна. Па ягоных словах, можна напісаць скаргу і ў пракуратуру ці Дэпартамент выканання пакаранняў, аднак такія скаргі вельмі рэдка трапляюць за сцены калоніі. На працягу года ўтрымання ў калоніі Васіль Парфянкоў усяго дзён 5 выходзіў на працу, у жылой зоне правёў усяго 29 дзён, затым ён быў змешчаны ў ПКТ (памяшканне камернага тыпу), а таксама неаднаразова змяшчаўся ў штрафны ізалятар. Падчас «атаваркі» была магчымасць набываць у краме на 300 тысяч рублёў на месяц, і звычайна ён набываў фрукты, яблыкі, апельсіны. Адзначыў, што ў краме былі і кілбасы, і сыр. На ўвесь час зняволення Парфянкоў быў пазбаўлены спатканняў і перадач ад сваякоў. Стан медыцынскага абслугоўвання ў калоніі ў Горках Парфянкоў назваў вельмі дрэнным, практычна адсутнічалі лекі.

Напрыклад, ВІЧ-інфікаваным патрэбны адмысловыя лекі, якія выдзяляе Чырвоны крыж, але іх запатрабаваць было вельмі складана. Але хворых на сухоты трымаюць асобна і ў ПКТ, і ў камерах. Штрафны ізалятар уяўляе сабой звычайную камеру на 8 месцаў з драўлянай падлогай, нары на дзень прымацоўваюцца да сценаў. Тут удзень ляжаць забаронена. Ёсць лаўка, на якую можна прысесці, і стол. У халодны час камера ацяплялася, але пад раніцу было халодна. 19 снежня Васіль Парфянкоў, нягледзячы на прэвентыўны нагляд, з'ехаў ва Украіну. Паводле яго слоў, вяртацца ў Беларусь не мае намеру і збіраецца «абараняць Украіну ад расійскіх акупантаў». У Львоўскай вобласці знаходзіцца жонка Парфянкова з 11-месячным сынам.

6 снежня Валянціна Аліневіч, маці палітвязня Ігара Аліневіча, паведаміла, што сын даслаў дадому ліст, з якога вынікае, што ён ведае пра ўзбуджэнне новай крымінальнай справы супраць ягонага паплечніка Мікалая Дзядка. Спадарыня Валянціна адзначыла, што раней яе ліст да сына не прапусціла турэмная цэнзура таму, што ў ім перадаваліся прывітанні ад Мікалая Статкевіча і Мікалая Дзядка. 25 снежня Валянціна Аліневіч распавяла, што яна з мужам мела доўгатэрміновае спатканне з сынам, але замест звычайных 3 сутак яно доўжылася толькі суткі. Па словах Валянціны Аліневіч, Ігар схуднелы, бледны, бо ўвосень адбыў каля 40 сутак у карцары. Пры гэтым настрой у яго добры і бадзёры. Маці палітвязня сказала, што калі ўсе астатнія зняволеныя выходзілі са спатканняў з прадуктамі, якія ім дазволілі вынесці, то Ігару нават ніводнага яблыка не далі забраць.

6 снежня ў лісце да бялыніцкага журналіста Барыса Вырвіча палітвязень Мікалай Статкевіч паведаміў, што да яго даходзяць не ўсе лісты з волі, у прыватнасці, што не атрымліваў ад журналіста лістоў ужо некалькі месяцаў, «ды і не толькі вашых». Пры гэтым спадар Вырвіч кожны месяц дасылаў палітвязню ліст альбо паштоўку з апошнімі навінамі з жыцця дэмакратычных сіл Магілёўшчыны. Мікалай Статкевіч напісаў, што «толькі лісты ад сваякоў больш-менш даходзілі, бо там мажлівы кантроль. Я пішу, напрыклад, бацьку і жонцы па пэўных днях тыдня і паведамляю, якія іхнія лісты атрымаў». Палітвязень паведаміў журналісту, што яго павінны перавесці ў калонію 12 студзеня 2015 года, калі скончацца тры гады вызначанага судом турэмнага рэжыму. «Тут мелі права пры адсутнасці спагнанняў вярнуць мяне ў калонію і праз 1,5 гады, але ж гэта не для «палітычных». З калоніі могуць вярнуць ізноў сюды, але маёй пазіцыі гэта не зменіць», — адзначыў Мікалай Статкевіч. 17 снежня Марына Адамовіч, жонка Мікалая Статкевіча, мела з ім двухгадзіннае спатканне праз шкло

з тэлефонам. Па словах Марыны Адамовіч, Статкевіч не змяніўся: вельмі ясныя і светлыя вочы, ніякіх расчараванняў, стомленасці, зняверанасці, ён упэўнены ў сябе, вельмі моцны і мужны з абсалютна дакладным разуменнем таго, што ён робіць, дзеля чаго і на што яшчэ ён гатовы пайсці дзеля сваіх перакананняў. З нагоды розных захадаў з розных бакоў наконт таго, каб напісаць прашэнне ад памілаванні, Мікалай Статкевіч сказаў жонцы, што нельга адной паперкай перакрэсліць усё жыццё, і гэтага ён не зробіць ніколі. Марына Адамовіч адзначыла, што яе муж рыхтуецца да этапу ў калонію, аднак не ведае, куды будзе накіраваны. Па ягоных словах, крыху лепей апошнім часам стала з «атаваркай», павялічыўся асартымент у турэмнай краме.

13 снежня Віялета Пракапенка, маці палітвязня Арцёма Пракапенкі, падчас кароткатэрміновага спаткання з сынам даведалася, што той застаўся злосным парушальнікам рэжыму адбыцця пакарання, з-за чаго ён не можа разлічваць на датэрміновае вызваленне. Па яе словах, гадавы тэрмін папярэдняга спагнання заканчваўся ў верасні, але ў ліпені было вынесена новае, і толькі праз год пасля сканчэння ягонага дзеяння Арцём зможа разлічваць, калі не будзе болей пакаранняў, на УДВ. Парушэннем палічылі тое, што ў спякоту зняволены быў у шлёпанцах, а не ў турэмных чаравіках. Падобныя дзеянні іншых зняволеных не караюцца. Віялета Пракапенка наведала намесніка начальніка калоніі і спытала, як справы сына. Той адказаў, што з ім пакуль усё нармальна, але ў яго ўсё ў галаве. Па меркаванні маці палітвязня, прадстаўнік адміністрацыі меў на ўвазе, што калі б Арцём напісаў прашэнне, то быў бы ўжо на волі, але ён адмаўляецца пісаць. Віялета Пракапенка таксама паведаміла, што ў калоніі сын ужо не працуе, паколькі няма заказаў (раней Арцём працаваў з металам). Паводле маці зняволенага, пра страчаны заробак сын не шкадуе, бо яны за месяц зараблялі па 20-40 тысяч.

22 снежня ў Беларусі з'явіўся новы палітвязень: актывіст з Гомеля Юры Рубцоў пачаў адбываць паўтары гады абмежавання волі ў папраўчай установе адкрытага тыпу №7 у вёсцы Куплін Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці. Адразу ён атрымаў заўвагу ад адміністрацыі спецкамендатуры за тое, што на дзень спазніўся з прыездам у Куплін. Актывіст патлумачыў, што паводле атрыманага паведамлення, ён павінен быў прыбыць на месца адбыцця пакарання цягам 3 дзён, як ён і разлічыў. Але высветлілася, што палітвязень мусіў весці адлік не ад часу атрымання паведамлення, а з нуля гадзін таго дня. Адміністрацыя ўстановы запатрабавала ад Рубцова тлумачальную запіску, але ён прынцыпова не піша і не падпісвае ніякія афіцыйныя паперы. Па словах Юрыя Рубцова, у спец-

кмендатуры ёсць кухня, гатаваць ежу зняволеныя павінны самі. Крамы няма, толькі раз на два тыдні прыяжджае аўталаўка. За межы камендатуры выходзіць нельга, толькі з пісьмовага дазволу. Пасялілі Ю. Рубцова ў невялікім пакоі, дзе знаходзіцца тры двух'ярусныя ложкі. Дзе будзе працаваць, Юрыю пакуль невядома. Ён паводле прафесіі — кіроўца. Працу давядзецца, хутчэй за ўсё, шукаць у Пружанах. Аўтобус у Куплін ходзіць два разы на тыдзень, і могуць паўстаць пытанні з тым, як дабірацца.

19 снежня маці і бабуля палітвязня Яўгена Васьковіча наведалі яго ў калоніі. Спатканне цягнулася дзве гадзіны. Рушанія Васьковіч, маці Яўгена, паведаміла, што перадала ў магілёўскую папраўчую калонію № 15 лекі і вітаміны, бо ў сына ўзніклі праблемы са здароўем: палітвязня трывожыць спіна і страўнік. Маці даслала Яўгену яшчэ і канцылярскую бандэроль з канвертамі і паштоўкамі. Сябры і аднапартыйцы сабралі для Яўгена перадачу з цёплымі рэчамі, гігіенічнымі сродкамі, афармілі падпіску на газеты і часопісы. Па словах Рушаніі Васьковіч, зняволены мае працу — шые фуфайкі, у яго ёсць два выходных на тыдзень. Яна выказала спадзяванне, што сына вызваляць раней вызначанага судом тэрміну пакарання за добрыя паводзіны.

## Смяротнае пакаранне

1 снежня Камітэт па правах чалавека ААН выказаў сур'ёзную занепакоенасць тым, што Беларусь прывяла ў выкананне смяротны прысуд у дачыненні да асобы, скарга якой знаходзілася на разглядзе Камітэта. Камітэт быў праінфармаваны аб тым, што смяротны прысуд, вынесены Аляксандру Грунову, прыведзены ў выкананне 22 кастрычніка. «Пазіцыя Камітэта па правах чалавека адносна незадавальнення просьбы Камітэта аб прыняцці часовых мер абароны ў пазбяганне непапраўнай шкоды застаецца нязменнай», заявіў сэр Найджэл Родлі, старшыня Камітэта. Ён падкрэсліў, што Беларусь не першы раз прыводзіць у выкананне смяротны прысуд у дачыненні да заяўнікаў, чые зарэгістраваныя справы знаходзяцца на стадыі разгляду. «Гэта ўяўляе сабой сур'ёзнае парушэнне Беларуссю сваіх міжнародна-прававых абавязацельстваў», — адзначыў Сэр Найджэл. У адпаведнасці са сваёй практыкай Камітэт працягне разгляд справы Грунова, нягледзячы на прывядзенне прысуду ў выкананне.

3 снежня па запыце БелаПАН Вярхоўны суд паведаміў, што прыгавораны Мінскім абласным судом да смяротнага пакарання Эдуард Лыкаў напісаў прашэнне аб памілаванні. Запыт быў зроблены пасля таго, як стала вядома пра выкананне смяротнага прысуду ў дачыненні да Аляк-

сандра Грунова. Праваабаронцы выказвалі меркаванне, што ў той жа час маглі расстраляць і Эдуарда Лыкава, таксама асуджанага ў 2013 годзе. У адказе Вярхоўнага суда за подпісам намесніка старшыні ВС Валерыя Калінковіча сказана, што паколькі асуджаны Лыкаў звярнуўся да Аляксандра Лукашэнкі з хадайніцтвам аб памілаванні, «выкананне прысуду ў дачыненні да асобы, асуджанай да смяротнай кары, прыпыняецца да разгляду хадайніцтва аб памілаванні». Адвакат Аляксандр Клюкач адмовіўся паведаміць, у якім стане знаходзіцца яго падабаронны і калі ён падаў прашэнне аб памілаванні.

4 снежня маці пакаранага смерцю гамельчука Аляксандра Грунова — Вольга Грунова звярнулася ў Канстытуцыйны суд з просьбай даць ацэнку калізіі Крымінальна-выканаўчага кодэкса, які забараняе выдаваць целы пакараных смерцю і паведамляць пра месцы іх пахавання, што супярэчыць Канстытуцыі Беларусі і Міжнароднаму пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах. Жанчына прасіла Гомельскі абласны суд паведаміць ёй пра дакладны час выканання прысуду і месца пахавання сына, але суд са спасылкай на артыкул 175 Крымінальна-выканаўчага кодэкса адмовіў у гэтым. «У сувязі з гэтым заяўляю, што заканадаўства і практыка, якая склалася ў краіне, пасля прывядзення ў выкананне смяротнага прысуду ў дачыненні да майго сына працягвае прычыняць мне душэўныя пакуты і псіхічны стрэс», — адзначыла Вольга Грунова. Яна лічыць, што абстаноўка поўнай сакрэтнасці вакол працэдуры смяротнага пакарання, месцаў пахавання расстраляных, адмовы ў выдачы цел для пахавання раўнацэнныя па сваёй сутнасці запалохванню і пакаранню сем'яў расстраляных, паколькі іх наўмысна пакідаюць у стане няпэўнасці і псіхічных пакутаў. «Такое стаўленне дзяржавы да сям'і, сваякоў пакаранага смерцю раскрывае парушэнне ч.3 артыкула 25 Канстытуцыі, згодна з якой «ніхто не павінен падвяргацца жорсткаму, бесчалавечнаму абыходжанню». Гэта пацягнула за сабою і парушэнне артыкула 7 Міжнароднага Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, які ўстанаўлівае, што «ніхто не павінен падвяргацца жорсткаму, бесчалавечнаму абыходжанню», — напісала маці пакаранага смерцю гамельчука. У звароце ў КС Вольга Грунова просіць распачаць вытворчасць па справе аб скасаванні ў нарматыўнаправавых актах супярэчнасцей і калізій у святле гарантый ч. 3 артыкула 25 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і артыкула 7 Міжнароднага Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, а таксама прыняць рашэнне аб унясенні зменаў у заканадаўства. 15 снежня Вольга Грунова атрымала адказ на свой зварот у Канстытуцыйны суд. КС нагадаў жыхарцы Гомеля, што, згодна заканадаўству, уносіць прапановы ў вышэйшую судовую інстанцыю маюць права Палата прадстаўнікоў, Савет Рэспублікі, прэзідэнт,

Вярхоўны суд і Савет міністраў. «У РБ для грамадзян устаноўлены ускосны доступ да канстытуцыйнага правасуддзя — яны звяртаюцца з ініцыятывай аб унясенні прапаноў да органаў, якія валодаюць правам унясення ў КС такіх прапаноў», — патлумачылі Вользе Груновай у КС і прапанавалі звярнуцца да пералічаных органаў. 23 снежня Вольга Грунова звярнулася да Прэзідэнта, абедзьвух палат Парламента, Вярхоўнага суда і Урада краіны з просьбай ініцыяваць перад Канстытуцыйным судом пытанне аб неканстытуцыйнасці Крымінальна-выканаўчага кодэкса, які забараняе выдаваць целы расстраляных і паведамляць аб месцах іх пахавання.

13 снежня суд Цэнтральнага раёна Гомеля адмовіў Вользе Груновай ва ўзбуджэнні грамадзянскай справы супраць Гомельскага абласнога суда і Дэпартамента выканання пакаранняў, якія адмаўляюцца паведаміць месца пахавання яе сына. 13 снежня жанчына падала скаргу на дадзеную адмову раённага суда ў Гомельскі абласны суд. Раней старшыня Гомельскага абласнога суда Сяргей Шаўцоў адмовіў Вользе Груновай у задавальненні просьбы выдаць цела сына або паказаць месца яго пахавання. Суд спаслаўся на артыкул 175 Крымінальна-выканаўчага кодэкса, згодна якому «смяротнае пакаранне выконваецца непублічна шляхам расстрэлу. Цела для пахавання не выдаецца, аб месцы пахавання не паведамляецца». З дапамогаю праваабаронцаў жыхарка Гомеля распачала стратэгічную цяжбу, накіраваную на змяненне як заканадаўства, так і практыкі яго прымянення, якія кожны раз вядуць да пакут бацькоў ды сваякоў расстраляных у Беларусі.

## Ужыванне катаванняў
## і іншых відаў жорсткага і бесчалавечнага абыходжання

10 снежня Праваабарончы цэнтр «Вясна» прэзентаваў аналітычнае даследванне «Справаздача па выніках маніторынгу месцаў прымусовага ўтрымання ў Рэспубліцы Беларусь». Маніторынг, які ахоплівае перыяд з 2013 па 2014 год, праводзіўся шляхам аналізу пенітэнцыярнага заканадаўства, атрымання аб'ектыўных звестак як з адкрытых крыніц, так і шляхам інтэрв'юіравання зняволеных. Адначасова рабіліся захады ў рамках нацыянальнага заканадаўства па паляпшэнні ўмоў утрымання зняволеных. Выступаючы падчас прэзентацыі справаздачы яе аўтар Павел Сапелка адзначыў, што ў даследванні прыводзяцца актуальныя дадзеныя аб колькасці месцаў зняволення і колькасці саміх зняволеных, падрабязны аналіз працоўных правоў зняволеных, якія, як паказвае маніторынг, паўсюдна парушаюцца. Прыведзены таксама аналіз заканадаўства, якое рэгламентуе правы зняволеных на перапіску і на звароты ў розныя ін-

станцыі, якія неабгрунтавана абмяжоўваюцца. Асаблівая ўвага нададзеная аналізу магчымасцяў грамадзянскага кантролю месцаў абмежавання свабоды і зроблена выснова пра татальны закрыты характар такіх устаноў. Праваабаронцы канстатуюць практычную адсутнасць магчымасці заканадаўча весці такі кантроль. У даследванні ўдзялялася пэўная ўвага праблеме катаванняў і жорсткаму, бесчалавечаму абыходжанню ў месцах пазбаўлення волі. Прыводзяцца задакументаваныя прыклады падобнага абыходжання і робіцца выснова аб тым, што такія выпадкі, як правіла не расследваюцца незалежнымі і аб'ектыўнымі інстанцыямі. Павел Сапелка прызнаў, што «у праваабаронцаў абмежаваныя магчымасці, каб уплываць на сітуацыю ў месцах прымусовага ўтрымання ў поўнай меры, аднак ёсць магчымасць рабіць такія факты публічнымі і прапаноўваць дзяржаве прымаць пэўныя захады па выключэнні такіх парушэнняў. Па выніках маніторынгу даследчыкамі прапанаваныя меры як у галіне нарматыўнага рэгулявання, так і ў галіне правапрымянення, якія дазваляюць палепшыць становішча зняволеных.

19 снежня актывіст прафсаюза РЭП Аляксандр Вайцешык атрымаў ліст за подпісам Галаўнага ўрача Рэспубліканскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Дэпартамента фінансаў і тыла Міністэрства ўнутраных спраў А. Л. Жука, у якім паведамлялася, што спецыялісты гэтай дзяржаўнай установы разглядзелі яго зварот па фактах невыканання патрабаванняў санітарна-эпідэміялагічнага заканадаўства ў ізалятары часовага ўтрымання (ІЧУ) аддзела ўнутраныях спраў Нясвіжскага райвыканкама. У лісце паведамляецца, што падчас абследавання ІЧУ Нясвіжскага РАУС выяўлена, што шэраг фактаў, выкладзеных Вайцешыкам у сваёй скарзе Генеральнаму пракурору, падцвердзіліся. У прыватнасці, у адказе адзначаецца, што камеры ў ІЧУ сапраўды патрабуюць правядзення рамонту, а для ўсталявання ў камерах санвузлоў і пляцоўкі для шпацыру на тэрыторыі ўстановы патрэбны вялікія фінансавыя ўкладанні. Таксама ў лісце паведамлялася, што ў штаце ІЧУ не прадугледжана стаўка медработніка, таму агляд стану здароўя праводзіцца міліцыянерамі. У лісце адзначалася, што ў адпаведнасці з планам ліквідацыі выяўленых парушэнняў у снежні 2014 года ў ІЧУ пачынаюцца працы па рамонту камер, а начальніку Нясвіжскага РАУС будзе накіравана пісьмовае патрабаванне па ліквідацыі парушэнняў санітарна-эпідэміялагічнага заканадаўства.

23 снежня пракуратура Салігорскага раёна паведаміла, што па звароце актывіста «Еўрапейскай Беларусі» Уладзіміра Лемеша была праведзена праверка ўмоў утрымання зняволенных у ізалятары часовага ўтрымання Салігорскага РАУС. У выніку праверкі былі выяўлены асобныя парушэнні

Правіл унутраннага распарадку спецыяльных устаноў ораганаў унутраных спраў. Як выявілася, сваю ўвагу пракуратура звярнула толькі на адно са шматлікіх парушэнняў: колькасць пасадачных месцаў у камеры. З гэтай нагоды пракурор Салігорскага раёна Алег Аўдзей накіраваў начальніку Салігорскага РАУС інфармацыю аб неабходнасці даўкамплектавання камер неабходным інвентаром. Усе астатнія факты Уладзіміра Лемеша пра прыніжаючыя чалавечую годнасць умовы ўтрымання ў ІЧУ пракуратура Салігорскага раёна назвала неабгрунтаванымі. Згодна з адказам з пракуратуры, падчас праверкі нібыта былі апытаныя былыя сукамернікі У. Лемеша, супрацоўнікі ІЧУ. Разам са спецыялістамі Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі агледжаныя камеры, узяты пробы вады, нібыта зроблены замеры штучнага асвятленні і мікраклімата, і на момант абследвання камер парушэнняў не было выяўлена.

## Пераслед праваабаронцаў і праваабарончыя арганізацыі

17 снежня праваабаронца Алена Танкачова, кіраўнік Цэнтра прававой трансфармацыі «Lawtrend» паведаміла, што ў гэты дзень яна была запрошана ў аддзел па грамадзянстве і міграцыі ГУУС Мінгарвыканкама для таго, каб азнаёміцца з матэрыяламі справы і мець магчымасць падаць поўны тэкст скаргі. Аднак, калі яна прыйшла ў міліцыю, ёй уручылі апавяшчэнне аб тым, што яшчэ 12 снежня было прынята рашэнне пакінуць у сіле пастанову РУУС Першамайскага раёна Мінска аб высылцы з Беларусі і забароне на ўезд у краіну на тры гады. Ні адзін з аргументаў, якія былі прыведзены ў скарзе праваабаронцы адносна непрапарцыйна прынятага рашэння, няправільнай ацэнкі фактычных абставін не былі прынятыя да ўвагі. 24 снежня Алена Танкачова накіравала ў суд Першамайскага раёна Мінска скаргу на рашэнне РУУС Першамайскага раёна пра яе высылку з краіны. У гэты ж дзень у РУУС ёй на месяц працягнулі магчымасць знаходжання на тэрыторыі Беларусі — да разгляду скаргі ў судзе. Падставай для рашэння пра высылку Алены Танкачовай сталі факты нязначнага перавышэння хуткасці аўтамабілем Танкачовай, зафіксаваныя відэакамерамі.

## Адміністрацыйны пераслед грамадска-палітычных актывістаў, адвольныя затрыманні

1 снежня ў судзе Чыгуначнага раёна Віцебска адбыліся працэсы над удзельнікамі фотасесіі на фоне графіці — каардынатарам аргкамітэта па стварэнні партыі БХД Таццянай Севярынец і журналістам Кастусём Мардзвінцавым. У міліцыі фотасесію кваліфікавалі як «несанкцыянава-

нае пікетаванне» (арт. 23.34 КаАП). Суддзя Алена Цыганкова вырашыла праводзіць працэсы ў закрытым рэжыме — у сваім уласным кабінеце, і толькі пасля ўмяшальніцтва старшыні суда ўпусціла ў кабінет 5 чалавек — роўна столькі, колькі было вольных крэслаў. А. Цыганкова не задаволіла хадайніцтвы Кастуся Мардзвінцава, каб працэс праводзіўся на беларускай мове або каб быў запрошаны перакладчык. Адвод суддзі таксама не быў задаволены — а гэтага патрабавалі і Кастусь Мардзвінцаў, і Таццяна Севярынец, убачыўшы яўна негатыўнае стаўленне Алены Цыганковай да ўсіх прысутных. Суд цалкам падтрымаў меркаванне міліцыі, і ў выніку Таццяна Севярынец была аштрафавана на 25 базавых велічынь, Кастусь Мардзвінцаў — на 20 базавых велічынь. У канцы снежня за ўдзел у фотасесіі ўжо былі аштрафаваны журналістты Алена Сцяпанава і Зміцер Казакевіч (па 20 базавых велічыняў) і актывістка аргкамітэта па стварэнні партыі БХД Алена Шабуня (18 базавых велічынь).

3 снежня суд Чыгуначнага раёна Віцебска асудзіў выпадковага мінака Пятра Бярлінава, які далучыўся да ўдзельнікамі фотасесіі на фоне графіці, да трох сутак арышту. Гэтыя трое сутак, якія ў якасці пакарання за «удзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве» Пятру Бярлінаву вынесла суддзя Алена Цыганкова, ён ўжо адбыў: з моманту затрымання 28 лістапада да 13 гадзін 1 снежня. Яго затрымалі на вуліцы, завезлі ў РАУС Чыгуначнага раёна, склалі пратакол за нібыта адміністрацыйнае правапарушэнне. Паводле Пятра Бярлінава, ён хацеў бліжэй пазнаёміцца з удзельнікамі фотасесіі, бо сярод іх заўважыў журналістаў. А ў яго ёсць праблема, да якой бы ён хацеў прыцягнуць увагу. Некалькі гадоў таму ў яго забралі зямельны ўчастак разам з пабудовамі, узамен далі трохпакаёвую кватэру, але ён лічыць, што гэта не раўнацэнная кампенсацыя страчанай маёмасці. У новую кватэру ён не перасяляецца з прынцыповых меркаванняў.

12 снежня ў судзе Чыгуначнага раёна Віцебска пачаўся разгляд справы праваабаронцы Паўла Левінава па абвінавачанні ва ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве — фотасесіі на фоне графіці. Вяла паседжанне суддзя Алена Цыганкова. Павел Левінаў спрабаваў давесці, што фотасесія — гэта не пікетаванне, што фатаграфавацца нікому не забаронена і нават папрасіў дадаць да матэрыялаў справы фотаздымкі з уласнага архіву, зробленыя ў розных абставінах. Таксама Павел Левінаў прасіў далучыць да справы фотаздымкі з акцыі, якую замежныя журналісты правялі ў Брусэлі дзеля падтрымкі віцебскіх калег -яны таксама сфатаграфаваліся з папяровымі кветкамі і птушкамі, зробленымі з газеты. А яшчэ трымалі ў руках шыльдачкі з надпісам «Хіба гэта злачынства?» Але суддзя вырашыла, што гэтыя матэрыялы да справы дачынення не маюць. Маёр міліцыі Аляксандр Рыбакоў, складальнік пратаколаў на

ўдзельнікаў фотасесіі, падтрымаў яе рашэнне. Праваабаронца некалькі разоў абвяшчаў адвод суддзі Алены Цыганковай і нават напісаў скаргу на імя старшыні суда з просьбай «вярнуць суддзю ў прававое поле». Але спадарыня Цыганкова на адводы не пагадзілася. Двойчы Павел Левінаў хадайнічаў, каб матэрыялы справы вярнулі ў РАУС Чыгуначнага раёна на дапрацоўку, бо маёр міліцыі Аляксандр Рыбакоў парушыў заканадаўства. У прыватнасці, ён склаў пратакол правапарушэння ў адсутнасць Паўла Левінава — у той час, калі праваабаронца быў у ад'ездзе і папярэджваў пра гэта міліцыянта. Суддзя прыняла хадайніцтва наконт удзелу ў працэсе адваката, з якім Павел Левінаў заключыў дамову, у сувязі з чым працэс быў перанесены. 17 снежня Павел Левінаў быў прызнаны вінаватым ва «удзеле ў несанкцыянаваным пікетаванні» і аштрафаваны на 25 базавых велічынь.

3 снежня ў судзе Мінскага раёна пачаўся разгляд адміністрацыйнай справы намесніка старшыні КХП-БНФ Юрася Беленькага па абвінавачанні ў парушэнні парадку правядзення масавага мерапрыемства — мітынгу ў Курапатах 2 лістапада. Паколькі ў суд не з'явіліся сведкі з боку міліцыі, якія займаліся аховаю правапарадку падчас правядзення мітынгу, суд быў перанесены. Рашэнне па справе не было вынесена і 17 снежня. У гэты дзень стала вядома, што ў сувязі з хваробай памяняўся суддзя. Судовы працэс пачаў суддзя Ігар Іглікаў, але перанёс яго на пазнейшы тэрмін. 24 снежня Юрась Беленькі быў прызнаны вінаватым, яму вынесена пакаранне ў выглядзе штрафу ў памеры 25 базавых велічынь. Гэта была трэцяя адміністрацыйная справа, заведзеная на Юрася Беленькага за арганізацыю дазволеных уладамі мітынгу і шэсця ў Курапаты і Лошыцкі Яр 2 і 9 лістапада адпаведна.

4 снежня Віталь Гуляк — яшчэ адзін прысутны на Дні памяці паўстанцаў 1863 года, што адбываўся 26 кастрычніка ў Свіслачы і Якушоўцы, быў аштрафаваны па абвінавачанні ва «удзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве». Абвінавачванне базавалася на складзеным у Свіслацкім РАУСе пратаколе пра адміністрацыйнае правапарушэнне. Віталь Гуляк у той дзень не трымаў ніякай сімволікі, ні выкрыкваў лозунгаў, не выступаў, ніякім чынам не парушаў грамадскага парадку, але фактычна за саму прысутнасць на Дні памяці ў Свіслачы суддзя Ваўкавыскага раённага суда Юрый Якімовіч пакараў яго штрафам у памеры 20 базавых велічынь.

4 снежня ў судзе Кобрынскага раёна пачаўся разгляд адміністрацыйнай справы Алеся Меха па абвінавачанні ва ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве — ушанаванні памяці паўстанцаў 1963 года ў

Свіслачы. Намеснік старшыні суда Кобрынскага раёна Пятро Цімашэнка, які вёў судовы працэс, задаволіў хадайніцтва Алеся Меха пра выклік свіслацкіх сведкаў-міліцыянтаў на судовы працэс. Пратакол правапарушэння яны складалі завочна, і ў ім прысутнічалі фактычныя памылкі. Па словах Алеся Меха, сведкаў-міліцыянтаў ён не ведае, і прозвішчы іх упершыню даведаўся ў Кобрынскім РАУС падчас азнаямлення з матэрыяламі справы. У дадзеных імі тлумачэннях напісана, што яны пазналі старых сяброў Партыі БНФ, хаця ні сам Алесь, ні тым больш ягоны 17-гадовы сын Антон (на яго таксама складзены пратакол правапарушэння), не з'яўляюцца сябрамі партыі. 11 снежня Пётр Цімашэнка прызнаў Алеся Меха вінаватым ва ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрымстве і аштрафаваў на 10 базавых велічынь.

8 снежня Свіслацкі раённы суд аштрафаваў сябра АГП Уладзіміра Пруднікава на 10 базавых велічынь па абвінавачанні ва ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве ў Свіслачы 26 кастрычніка. Адміністрацыйны працэс вёў старшыня Свіслацкага раённага суда Аляксандр Шылін.

15 снежня сябра АГП Канстанцін Дзмітрыеў з Азёраў быў аштрафаваны за ўдзел у Дні памяці ў Свіслачы. Свіслацкі раённы суд настаяў на яго прысутнасці ў час разгляду адміністрацыйнага пратакола — актывіст быў вымушаны ехаць з Мінску, дзе працуе, у раённы цэнтр Свіслач. У выніку разгляду адміністрацыйнай справы яго аштрафавалі на 10 базавых велічынь.

16 снежня ў Свіслачы старшыня мясцовага раённага суда Аляксандр Шылін аштрафаваў Аляксандру Васілевіч, старшыню Гродзенскай абласной арганізацыі партыі АГП на 25 базавых велічынь.

23 снежня суд Шклоўскага раёна пакараў штрафам у памеры 25 базавых велічынь намесніка старшыні Партыі БНФ Рыгора Кастусёва за ўдзел у Дні памяці паўстанцаў Кастуся Каліноўскага. Разглядала справу суддзя Святлана Баранцэва. Рыгор Кастусёў у сваім выступе адзначыў, што не прызнае сваёй віны ў здзяйсненні адміністрацыйнага правапарушэння. Удзел у пахаванні грамадскага актывіста Віктара Дзясяціка, ускладанне кветак да помнікаў і запальванне свечак каля іх, ушанаванне памяці герояў-паўстанцаў не можа быць правапарушэннем. Рыгор Кастусёў стаў дванаццатым чалавекам, аштрафаваным за прысутнасць у Свіслачы і Якушоўцы на ўшанаванні памяці паўстанцаў 1863 года, а таксама на пахаванні мясцовага актывіста Віктара Дзясяціка.

5 снежня сябра аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» Андрэя Гайдукова выпусцілі пасля 10-сутачнага арышту. Пасля гэтага яго завезлі ў суд Наваполацка, дзе за раздачу ўлё-

так асудзілі яшчэ на 5 сутак, прызнаўшы вінаватым у парушэнні арт. 23.34 КаАП (парушэнне парадку правядзення масавага мерапрыемства). Маці бачыла актывіста толькі 20 хвілін. Ён быў хворы: у яго кашаль, балела горла. Андрэй Гайдукоў папярэдні арышт атрымаў 25 лістапада таксама за раздачу ўлётак пра палітвязняў у Полацку.

12 снежня ў цэнтры Мінска непадалёк ад Кастрычніцкай плошчы быў затрыманы актывіст грамадскага аб'яднання «Альтэрнатыва» Аляксей Шубара. Ён стаяў у адзіночным пікеце з бел-чырвона-белым сцягам, трымаючы ў руках плакат з надпісамі «Людзі, трэба тэрмінова спыніць Пуціна» і «Не сусветнай вайне», выказваючы такім чынам пратэст супраць палітыкі прэзідэнта Расіі і распальвання трэцяй сусветнай вайны. Выходныя да суда актывіст правёў у РУУС Цэнтральнага раёна. 15 снежня суд Цэнтральнага раёна Мінска пакараў Аляксея Шубару арыштам на сем сутак. Суддзя Наталля Вайцэховіч прызнала яго вінаватым у парушэнні арт.23.34 КаАП (парушэнне парадку правядзення масавых мерапремстваў). Сведкамі на судзе выступілі супрацоўнікі РУУС Цэнтральнага раёна Грызенка і Корзун, якія ажыццяўлялі затрыманне.

12 снежня стала вядома, што ў Баранавічах праваахоўныя органы затрымалі актывіста Зміцера Палойку, які апошнія паўгады быў ва Украіне. Ён быў затрыманы на вакзале, як толькі выйшаў з цягніка «Харкаў-Баранавічы». На яго быў складзены адміністрацыйны пратакол за дробнае хуліганства, і 11 снежня Баранавіцкі гарадскі суд прызнаў яго вінаватым і пакараў 10 суткамі арышту. Пастанову пра арышт вынес старшыня суда Мікалай Кміта. Падчас адбыцця арышту супрацоўнікі міліцыі выклікалі і дапытвалі ўсю радню Палойкі, забараняючы ім пакідаць Баранавічы. Пасля адбыцця арышту Зміцер Палойка паведаміў, што падставай для затрымання было тое, што ягонае прозвішча знаходзілася ў спісах батальёна «Данбас», які быў апублікаваны ў інтэрнэце. Актывіст не прызнаваў сваёй датычнасці да «Данбаса». Па ягоных словах, амаль кожны дзень у ІЧУ да яго прыходзілі гутарыць супрацоўнікі КДБ, у тым ліку — намеснік старшыні Баранавіцкага аддзялення КДБ, а таксама супрацоўнікі крымінальнага вышуку. Супрацоўнікі спецслужб пыталіся ў яго пра беларусаў, якія знаходзяцца ва Украіне.

18 снежня ў Бабруйскім судзе прайшло пасяджэнне па справе звольненых з завода ТДіА сябраў Свабоднага прафсаюза Беларускага Аляксандра Варанкіна, Мікалая Жыбуля, Аляксандра Грамыкі і Алега Шаўчэнкі, абвінавачаных ва ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве — праведзенай імі галадоўцы. Справу разглядала суддзя Наталля

Шэгеда. На пасяджэнне ў якасці сведак выклікалі супрацоўніка міліцыі, які ў дзень галадоўкі дзяжурыў у будынку гарвыканкама, ахоўніка і намесніка начальніка аховы з завода ТДіА. У сведак суддзя запыталася, ці бачылі яны абвінавачаных у дні галадоўкі на прахадной завода і ў гарвыканкаме, і яны гэта пацвердзілі. Адзначылі, што ў галадоўнікаў не было ніякіх плакатаў, яны не выкрыквалі лозунгі. Віну Аляксандр Варанкін, Мікалай Жыбуль, Аляксандр Грамыка і Алег Шаўчэнка не прызналі. Адзінае, з чым яны пагадзіліся — што не бралі ў гарвыканкаме дазвол на правядзенне галадоўкі. Яны патлумачылі суддзі, што гэта быў іх жэст адчаю пасля звальнення. Суддзя азнаёмілася з асабістымі справамі «свабодаўцаў» і ўбачыла, што ніхто з іх дагэтуль не прыцягваўся да адказнасці. Але Наталля Шэгеда адзначыла, што галадоўка атрымала шырокі грамадскі розгалас, і таму аштрафавала кожнага на 7 базавых велічынь.

20 снежня ў судзе Маскоўскага раёна Мінска адбыўся разгляд адміністрацыйнай справы рэжысёра Вольгі Мікалайчык, якую абвінавацілі ва ўдзеле ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве. Вольга была затрымана ўвечары 19 снежня каля Чырвонага касцёла, дзе ладзілася акцыя памяці падзей 19 снежня 2010 года, якую здымала Вольга Мікалайчык. Падчас акцыі актывістка Ніна Багінская разгарнула бел-чырвона-белы сцяг. Калі амапаўцы сталі затрымліваць Багінскую, Вольга заступілася за яе, у выніку — Багінскую адпусцілі, а Вольгу затрымалі. Вольга Мікалайчык была дастаўлена ў РУУС Маскоўскага раёна, дзе на яе быў складзены пратакол правапарушэння. Адміністрацыйную справу разглядала суддзя Таццяна Мотыль. Прызначаны на 10 гадзін раніцы працэс давялося перанесці, паколькі згубіўся пратакол правапарушэння. Супрацоўнікам міліцыі прыйшлося складаць новы, са шматлікімі нестыкоўкамі, на якія падчас разгляду справы ў 17 гадзін звярнуў увагу адвакат: «публічна выказвала грамадска-палітычныя асабістыя інтарэсы шляхам размахвання бел-чырвоным сцягам без адпаведнага дазволу Мінгарвыканкама, чым парушыла ўсталяваны парадак арганізацыі і правядзення пікетавання». Сведкі з боку міліцыі так і не з'явіліся ў судзе. Нягледзячы на ўсе нестыкоўкі, суддзя вынесла рашэнне пакараць Вольгу Мікалайчык на 15 базавых велічынь.

22 снежня ў судзе Светлагорскага раёна адбыўся разгляд адміністрацыйнай справы ў дачыненні інваліда-вазочніка 1 групы Юрыя Ляшэнкі. Жыхар Гомеля 25 лістапада спрабаваў зладзіць пікет каля будынку райвыканкама ў абарону правоў людзей з абмежаванымі магчымасцямі, у тым ліку ў знак пратэсту супраць невыканання правоў інвалідаў пры капітальным рамонце з элементамі мадэрнізацыі жылога двухпавярховага

дома па вуліцы Леніна. Райвыканкам забараніў праводзіць масавае мерапрыемства. Правядзенню акцыі інваліду перашкодзіла хуткая дапамога, якая забрала яго ў шпіталь. Юрыя Ляшэнку абвінавацілі ў парушэнні арт. 23.34 КаАП (парушэнне парадку правядзення масавага мерапрыемства). Суддзя Ірына Алісейка пакарала грамадскага актывіста штрафам у памеры 2 базавыя велічыні. Асноўныя прэтэнзіі на судзе тычыліся таго, што пікет Ю. Ляшэнка праводзіў на адлегласці бліжэй чым 50 метраў да будынка выканкама.

23 снежня Аляксандар Ахмач быў аштрафаваны на 10 базавых велічынь за фатаграфаванне з плакатам «Russian army go home» у Брэсцкай крэпасці, якое адбылося 8 верасня. Суддзя суда Ленінскага раёна Брэста Святаслаў Каліна палічыў фатаграфаванне правядзеннем масавага мерапрыемства. Пра гэтым актывіст даведаўся з ліста з суда, на апошняе паседжанне якога ён не пайшоў, даслаўшы хадайніцтва разглядаць справу ў яго адсутнасць. Таксама, у сваім хадайніцтве Аляксандар Ахмач прасіў суд спыніць супраць яго адміністрацыйны працэс, бо сышоў тэрмін даўніны па ягонай справе. Аднак, апошнюю заўвагу суд да ўвагі не прыняў і прызнаў актывіста вінаватым. У судовай пастанове ўказвалася, што Ахмач «у судзе сваю віну не прызнаў і патлумачыў, што ўчыніў дадзеныя дзеянні таму, што хацеў выказаць сваю нязгоду з прысутнасцю вайсковых злучэнняў Расійскай Федэрацыі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Дадзеныя фотаздымкі з указаным надпісам зрабіў у мемарыяльным комплексе «Брэсцкая крэпасць-герой» на фоне вайсковых пахаванняў і вайсковай тэхнікі, таму што выказваў сваё незадавальненне наяўнасцю Брэсцкай крэпасці на месцы старога горада Берасця, які знеслі пры будаўніцтве крэпасці».

27 снежня ў судзе Першамайскага раёна Віцебска адбыўся разгляд адміністрацыйнай справы віцебскага актывіста КХП БНФ Сяргея Каваленкі. Трое сутак да судовага працэсу ён утрымліваўся ў ІЧУ, трымаючы галадоўку. Актывіст быў затрыманы 24 снежня — у той дзень у Віцебску быў вывешаны бел-чырвона-белы сцяг. На судовы працэс Сяргея Каваленку прывезлі ў кайданках. Паводле першага міліцэйскага пратакола, Сяргей Каваленка быў затрыманы за дробнае хуліганства — нібыта недалёка ад уласнага дома ён спраўляў малую патрэбу. У другім пратаколе супрацоўнікі РАУС Першамайскага раёна напісалі, што ён не падпарадкаваўся іх патрабаванням — адмаўляўся ехаць для разбіральніцтва ў пастарунак. Актывіст хадайнічаў, каб яму далі час на заключэнне дамовы з мінскім адвакатам, але суддзя Андрэй Прэйс хадайніцтва не задаволіў: ён заявіў, што ў Каваленкі быў час, каб наняць адваката, пакуль ён зна-

ходзіўся ў ізалятары часовага ўтрымання. Актывіст засведчыў, што такой магчымасці яму не далі: у першы дзень забаранілі тэлефанаваць жонцы, каб даведацца нумар адваката, а на другі сказалі, што ў ІЧУ зламаўся тэлефонны апарат. Паводле судовага рашэння, Сяргею Каваленку вынесены 10 сутак арышту: трое сутак нібыта за дробнае хуліганства, і яшчэ сем — нібыта за непадпарадкаванне міліцыі.

28 снежня на памежным пераходзе «Гудагай» для правядзення асабістага мытнага дагляду памежнікі знялі з цягніка намесніка старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Васіля Палякова, які вяртаўся з Вільні ў Мінск. Падчас пільнага дагляду ён быў вымушаны здымаць вопратку і нават абутак. Натуральна, што цягнік не чакаў, пакуль скончацца «разборкі» на мяжы. Пасля дагляду палітык быў вымушаны дабірацца да Мінску самастойна, чакаючы амаль тры гадзіны мясцовага дызель-цягніка. Памежнікі і мытнікі нават не хавалі тое, што асабістыя дадзеныя палітыка знаходзяцца ў іх нейкай спісачнай базе дадзеных. Па дазвол на правядзенне асабістага дагляду палітыка мытнікі тэлефанавалі начальніку Ашмянскай мытні. Аналагічны выпадак адбыўся з палітыкам 4 снежня ў нацыянальным аэрапорце «Мінск», калі ён накіроўваўся ў Варшаву. Тады памежнікі для правядзення мытнага дагляду рэчаў нават вярнулі здадзены раней багаж. У выніку Васіль Палякоў ледзь не спазніўся на самалёт.

## Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі, пераслед журналістаў

2 снежня да штрафу ў памеры 40 базавых велічынь па абвінавачанні ў парушэнні арт. 22.9 ч. 2 Адміністрацыйнага кодэкса (незаконны выраб і распаўсюд інфармацыйнай прадукцыі) быў асуджаны гродзенскі журналіст-фрылансер Андрэй Мялешка. Пастанову вынес суддзя Ленінскага раённага суда Юрый Казакевіч. Правапарушэннем суддзя прызнаў тое, што 16 кастрычніка Андрэй Мялешка ў абласной бібліятэцы імя Карскага на прэзентацыі гістарычных выданняў запісаў кароткі каментар аднаго з аўтараў кніжкі — прафесара Гродзенскага ўніверсітэта імя Янкі Купалы Валерыя Чарапіцы. Пазней аўдыёфрагмент быў змешчаны на сайце «Беларускага Радыё Рацыя». РАУС Ленінскага раёна пачаў па гэтым факце ў дачыненні Мялешкі адміністрацыйную справу. Гэта ўжо трэці штраф Андрэю Мялешку за журналісцкую дзейнасць на працягу года.

3 снежня ў кнігарню «ЛогвінаЎ» прыйшла пазапланавая фінансавая праверка падатковых служб, арганізаваная на замову Міністэрства інфармацыі. Кнігарня на час праверкі была апячатана, што з'яўляецца вы-

ключным пры падобных працэдурах. 17 снежня стала вядома, што па выніках праверкі інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах Цэнтральнага раёна Мінска прыйшла да высновы, што ў кнігарні нібыта адбываўся продаж кніжнай прадукцыі без абавязковай рэгістрацыі ў Міністэрстве інфармацыі ў якасці кнігараспаўсюдніка. Дадзенае патрабаванне ўступіла ў сілу ў студзені 2014 года. За гэты час кнігарня восем разоў звярталася ў Міністэрства інфармацыі па рэгістрацыю, але ўвесь час атрымлівала адмовы па відавочна надуманых прычынах. У выніку праверкі інспекцыя прыйшла да высновы, што праз незаконны гандаль кнігарня нібыта атрымала амаль мільярд рублёў прыбытку, залічыўшы ў прыбытак увесь валавы аб'ём продажу. У верасні 2013 года Ігар Логвінаў быў пазбаўлены Міністэрствам інфармацыі Беларусі ліцэнзіі на выдавецкую дзейнасць за выданне альбома «Прэс-фота Беларусі 2011», які праз доўгі час пасля выхаду ў свет быў прызнаны экстрэмісцкім. Увесь час існавання кнігарня «Логвінаў» з'яўлялася не толькі месцам продажу кніг і часопісаў, але важным цэнтрам беларускай культуры і грамадскай пляцоўкай, месцам сустрэчы чытачоў і літаратараў. 29 снежня стала вядома, што суд над кнігарняй прызначаны на 5 студзеня 2015 года.

4 снежня ў беларускіх незалежных медыях з'явілася інфармацыя аб затрыманні журналіста газеты «Белорусы и рынок» Аляксандра Алесіна. У КДБ не пацвердзілі і не абверглі звестак пра затрыманне. 5 снежня Праваабарончы цэнтр «Вясна» і ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» заклікалі КДБ Рэспублікі Беларусь праінфармаваць грамадскасць пра прычыну і месца ўтрымання пад вартай Аляксандра Алесіна, а таксама пра сутнасць прад'яўленага яму абвінавачання. «Мяркуем, што інфармацыя пра затрыманне, змяшчэнне пад варту асобы, сутнасць падазрэнняў і абвінавачванняў, працэсуальны статус, месца ўтрымання і іншыя аспекты, якія не маюць дачынення да дэталяў крымінальнага пераследу, не можа парушыць таямніцу следства, якая ахоўваецца па закону, і не паставіць пад пагрозу інтарэсы дзяржаўнай бяспекі, аховы грамадскага парадку», — указвалася ў заяве. 8 снежня стала вядома ад родных Аляксандра Алесіна, што Камітэт дзяржаўнай бяспекі выставіў журналісту абвінавачанне ў здрадзе дзяржаве і выдачы дзяржаўнай таямніцы замежнай дзяржаве, замежнай арганізацыі ці прадстаўніку, альбо шпіянажы. Яны адзначылі, што разам з Алесіным абвінавачваецца дыпламат адной з краін, Аляксандар Алесін не з'яўляецца асноўным фігурантам справы. 10 снежня Аляксандар Алесін быў вызвалены з СІЗА КДБ пад падпіску аб нявыездзе. Журналіст заявіў, што лічыць сябе ні ў чым не вінаватым і перакананы, што яго падставілі людзі, з якімі ён супрацоўнічаў. Ён падкрэсліў, што браў інфармацыю з адкрытых крыніц. Спадар Алесін

паведаміў, што з яго знята абвінавачанне ў здрадзе дзяржаве, засталося абвінавачанне ў супрацоўніцтве з замежнымі спецслужбамі (арт. 356.1 КК РБ — замах на ўстанаўленне супрацоўніцтва са спецыяльнай службай, органам бяспекі або разведвальным органам замежнай дзяржавы). Аляксандар Алесін не абверг і не пацвердзіў, што яго затрымалі пасля сустрэчы з заходнім дыпламатам, паколькі ён даў падпіску аб неразгалошванні матэрыялаў следства. Выявілася, што Аляксандар Алесін быў затрыманы яшчэ 26 ці 27 лістапада.

4 снежня міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч заявіў, што наспела вострая неабходнасць карэкціроўкі заканадаўства, звязанага з інтэрнэт-дзейнасцю. У прыватнасці, на яго думку, патрабуецца забарона доступу ўсіх інтэрнэт-карыстальнікаў да сайтаў, уключаных у спіс абмежаванага доступу. Гэтая ініцыятыва МУС была агучана на нарадзе ў Мінску па пытаннях супрацьдзеяння незаконнаму абароту наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў, іх прэкурсораў і аналагаў. Вядома, што ў спіс абмежаванага доступу ўнесены таксама і некаторыя незалежныя сайты, сярод якіх — charter97.org, belaruspartisan.org, spring96.org, блог Яўгена Ліпковіча ў livejournal ды іншыя грамадска- палітычныя сайты. Праваабаронцы, вітаючы захады ўладаў па ўзмацненні барацьбы з наркагандлем у Беларусі, пры гэтым выказалі нязгоду з тым, што пад гэтаю маркай дзяржава спрабуе зачысціць і без таго абмежаваную незалежную інфармацыйную прастору.

6 лютага ў Мінску пры выкананні прафесійных абавязкаў быў затрыманы фатограф-фрылансер, сябра ГА «БАЖ» Уладзімір Грыдзін. Яго затрымалі разам з грамадскімі актывістамі, дырэктарам «Арт-сядзібы» Паўлам Белавусам і журналістам Франкам Вячоркам, калі тыя раздавалі мінакам каля Камароўскага рынку стужкі з беларускім арнаментам. Уладзь Грыдзін фатаграфаваў працэс. Міліцыянты сказалі, што ім нехта патэлефанаваў і паведаміў пра «акцыю». Затрыманых даставілі ў РУУС Савецкага раёна Мінска, дзе ўзялі з іх тлумачэнні і адпусцілі без складання пратаколаў.

8 снежня суддзя суда Крычаўскага раёна Алена Азаранка вынесла рашэнне спагнаць з журналістаў газеты «Вольны горад» — яе выдаўца Уладзіміра Кудраўцава, рэдактара Сяргея Няроўнага і журналіста Мікалая Гердзія кампенсацыю за нанесеныя начальніку аддзела ідэалогіі, культуры і па справах моладзі Крычаўскага райвыканкама Марыне Максімавай маральныя страты ў памеры 7 000 000 рублёў, аплачаную ёй дзяржпошліну і выдаткаў, звязаных з удзелам яе прадстаўніка ў судзе. Журналісты «Вольнага горада» ўпэўненыя, што змешчаная ў «Вольным горадзе» інфармацыя ніякім чынам не можа ганьбіць гонар, годнасць і

дзелавую рэпутацыю Марыны Максімавай, бо яна цалкам адпавядае сапраўднасці. У публікацыі «Не ў сваім крэсле?» няма ніякай абразы для Марыны Максімавай як для асобы. Прыказка ў артыкуле была дадзена, каб паказаць, што чалавек не разбіраецца ў сваёй працы. Аддзел ідэалогіі райвыканкама і мясцовая раёнка «Крычаўскае жыццё» не надавалі практычна ніякай увагі наступствам абвалу будынка актавай залы і сталовай мясцовай гімназіі, хаця гэта тэма рэгулярна асвятлялася АНТ, БТ, Белта, «Советской Белоруссией» і іншымі дзяржаўнымі выданнямі.

11 снежня суд Слонімскага раёна (суддзя Андрэй Ліхач) прызнаў журналіста, сябра ГА «БАЖ» Алеся Залеўскага вінаватым у «незаконным вырабе і распаўсюдзе прадукцыі СМІ» (арт.22.9 ч.2 КаАП) і аштрафаваў на 40 базавых велічынь. Алесь Залеўскі з'яўляецца штатным журналістам «Белсата», аўтарам і вядоўцам праграмаў «Людскія справы» і «Рэпартаж Залеўскага». Журналіст здымаў у Слоніме рэпартаж пра злоўжыванне і карупцыю ў сферы ЖКГ. Неўзабаве працай журналіста зацікавілася міліцыя, якая 4 снежня паведаміла яму дату судовага працэсу. Алесь Залеўскі звязаў такія дзеянні міліцыі з рэзанансам, які выклікаў яго рэпартаж. Сведкам у судзе выступаў суразмоўца Алеся Залеўскага, кіраўнік слонімскага ЖКГ Мікалай Сыантовіч. Ён пацвердзіў, што Залеўскі з ім гутарыў, але не казаў, для якога тэлебачання здымае сюжэт. Гэта ўжо другая адміністрацыйная справа ў дачыненні да Залеўскага цягам бягучага года. 16 снежня Алесь Залеўскі атрымаў папярэджанне аб недапушчальнасці парушэння заканадаўства аб СМІ за подпісам намеснікам пракурора Мінска Казіміра Кежуна. Падставай для папярэджання стала праца журналіста падчас разгляду справы аб высылцы з Беларусі вядомай праваабаронцы Алены Танкачовай. Па інфармацыі, сабранай пракуратурай, у гэты дзень Алесь Залеўскі рабіў відэасюжэт у інтарэсах тэлеканала «Белсат», чым парушыў беларускае заканадаўства. Сам журналіст лічыць, што беларускія ўлады самі паставілі незалежных журналістаў у нелегальнае становішча, паколькі шмат разоў тэлеканал «Белсат» спрабаваў атрымаць афіцыйную акрэдытацыю ў Беларусі, але Міністэрства замежных спраў кожны год адмаўляла ў гэтым.

15 снежня гродзенскі журналіст-фрылансер Віктар Парфёненка пасля сёмай адмовы ў акрэдытацыі МЗС у якасці журналіста «Беларускага Радыё Рацыя» падаў скаргу ў суд Ленінскага раёна Гродна, каб дамагчыся акрэдытацыі праз суд. Журналіст некалькі разоў пісаў скаргі і ў само міністэрства, і ва ўрад Беларусі, даводзячы, што яго пазбаўляюць права на прафесію.

17 снежня дэпутаты Палаты прадстаўнікоў у двух чытаннях прынялі папраўкі ў Закон «Аб сродках масавай інфармацыі». Іх прадставіла міністар інфармацыі Лілія Ананіч. Згодна з папраўкамі, дзеянне Закона «Аб СМІ» распаўсюджвацца і на інтэрнэт-рэсурсы, але дзяржаўная рэгістрацыя іх не прадугледжваецца. Міністэрства інфармацыі атрымала магчымасць абмяжоўваць доступ да сайтаў, якія на працягу года атрымалі два і больш пісьмовыя папярэджанні за распаўсюд інфармацыі, якая парушае нормы заканадаўства. Абавязак не дапускаць распаўсюду інфармацыі, змест якой супярэчыць закону, ускладаецца на ўладальніка інфармацыйнага рэсурсу. Абвяржэнне інфармацыі, распаўсюджанай у інтэрнэце, мусіць адбывацца на тым самым інфармацыйным рэсурсе не пазней, чым у дзень, які надыходзіць за днём патрабавання аб абвяржэнні. Інфармацыя, якая абвяргаецца, мусіць быць выдаленая з рэсурсу. Таксама папраўкі прадугледжваюць абмежаванні долі замежнага капіталу ў фондзе СМІ — з 30 працэнтаў да 20. Уводзіцца дзяржаўны рэестар распаўсюднікаў СМІ. Па словах Ліліі Ананіч, «змены ў сферы інтэрнэту стануць дзейсным інструментам рэалізацыі дзяржаўнай інфармацыйнай палітыкі». Абноўлены закон уступае ў дзеянне з 1 студзеня 2015 года. Між тым, яшчэ ў кастрычніку 2014 г. Камісія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі па правах чалавека, нацыянальных адносінах і сродках масавай інфармацыі пісала ГА «БАЖ», што «у цяперашні час унясенне карэкціровак у акты заканадаўства Беларусі ў сферы свабоды выказвання меркавання не патрабуецца». Пры гэтым міністр інфармацыі Лілія Ананіч сярод тых, хто браў удзел у распрацоўцы законапраекта, назвала Мінінфармацыі, Беларускі саюз журналістаў і Саюз выдаўцоў і распаўсюднікаў друку. 18 снежня Савет Рэспублікі ўхваліў праект закона «Аб унясенні дапаўненняў і змяненняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб сродках масавай інфармацыі». 20 снежня папраўкі ў закон былі падпісаны кіраўніком дзяржавы А. Лукашэнкам.

17 снежня ў судзе Бярозаўскага раёна адбыўся разгляд адміністрацыйнай справы незалежнай журналісткі Тамары Шчапёткінай па абвінавачанні ў незаконным вырабе прадукцыі сродкаў масавай інфармацыі (арт.22.9 ч.2 КаАП). Згодна з пратаколам, складзеным намеснікам начальніка аддзела аховы правапарадку Бярозаўскага РАУС капітанам міліцыі Мікалаем Пракуратам, гэта выявілася ў тым, што журналістка, не маючы акрэдытацыі, узяла інтэрв'ю ў загадчыка аптэкі № 18 Алега Казюпы, якое было размешчана на сайце «Беларускага Радыё Рацыя». Суддзя Натал-ля Вакульчык прызнала Тамару Шчапёткіну вінаватай і вынесла рашэнне аб спагнанні штрафу памерам 30 базавых велічынь.

18 снежня сябру ГА «БАЖ» Алесю Ляўчуку патэлефанаваў супрацоўнік міліцыі, які прадставіўся ўчастковым Ленінскага РАУС г. Брэста Андрэем Кажэнкам. Супрацоўнік міліцыі зазначыў, што хоча апытаць журналіста датычна інтэрв'ю, якое ён браў 24 лістапада ў цэнтры горада. Ён таксама распавёў, што супраць Алеся Ляўчука адкрыты адміністрацыйны працэс, але пратакол нібыта «гуляў» па розных РАУС ужо тыдзень і толькі цяпер дабраўся да ўчастковага. 24 снежня суд Ленінскага раёна Брэста аштрафаваў Алеся Леўчука на 40 базавых велічынь па абвінавачанні ў незаконным вырабе і распаўсюдзе прадукцыі СМІ (ч. 2 арт. 22.9 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях). Ляўчук адзначыў, што калі азнаёміўся з матэрыяламі справы, там было напісана: КДБ устаноўлена, што ён працуе на тэлеканал «Белсат». На судзе быў разгледжаны адказ з Міністэрства замежных спраў, у якім было сказана, што ў Леўчука няма акрэдытацыі ў якасці замежнага журналіста. Сам журналіст паказаў у судзе пісьмовае пацвярджэнне, што ён з'яўляецца пазаштатным карэспандэнтам БелаПАН, а таксама рэдакцыйнае пасведчанне, аднак «гэта нават не разглядалася».

18 снежня ў судзе Горацкага раёна пасля доўгага перапынку працягнуўся разгляд справы па пазову старшыні Горацкай раённай арганізацыі Беларускага таварыства інвалідаў Тамары Калтуновай да ЗАТ «БелаПАН» і прыватнага гандлёва-вытворчага ўнітарнага прадпрыемства «УзГорак», якое выдае газету пад такой жа назвай. Суддзя Віктар Яскевіч прыняў рашэнне спагнаць з прыватнага гандлёва-вытворчага ўнітарнага прадпрыемства «УзГорак», ЗАТ «БелаПАН» і журналіста Уладзіміра Лапцэвіча ў салідарным парадку 6 000 000 рублёў у якасці кампенсацыі маральнай шкоды старшыні Горацкай раённай арганізацыі БелТІ Тамары Калтуновай. Суд таксама абавязаў адказчыкаў аплаціць судовыя выдаткі, якія панесла Тамара Калтунова, у памеры 780 000 рублёў.

Пачынаючы з 19 снежня некалькі інфармацыйных інтэрнэт-рэсурсаў у Рэспубліцы Беларусь падвергліся блакіроўцы. У прыватнасці, без тлумачэння прычын быў абмежаваны доступ карыстальнікаў да сайтаў belapan.com і belapan.by, naviny.by,belaruspartisan.org, charter97.org, udf.by, 21.by, gazetaby.com, zautra.by. 21 снежня ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» выступіла з заявай, у якой адзначыла, што блакаванне шэрагу грамадска-палітычных сайтаў, за якое ніхто дагэтуль не ўзяў на сябе адказнасць, — гэта прававое бязмежжа. Няма ніякіх юрыдычных падстаў абмяжоўваць доступ грамадзян Беларусі да інфармацыі пра падзеі ў краіне.»Такія захады напярэдадні чарговай прэзідэнцкай кампаніі фактычна пазбаўляюць яе сэнсу, бо ў краіне дэ-факта ўведзена надзвычайнае

інфармацыйнае становішча. Натуральна, што яны таксама абсалютна супярэчаць міжнародным абавязальніцтвам Беларусі ў галіне свабоды медыя і прадэклараваным намерам кіраўніцтва краіны палепшыць адносіны з Захадам. Відавочна, што атакі на незалежныя СМІ выклікаюць яшчэ большы недавер у грамадзян Беларусі да звестак, якія агучваюць афіцыйныя крыніцы. Гэта, у сваю чаргу, здольна толькі пагоршыць сітуацыю, у тым ліку эканамічную. Адсутнасць альтэрнатыўнай, прафесійна падрыхтаванай інфармацыі будзе спрыяць распаўсюду самых неверагодных чутак адносна рэальнага становішча спраў у краіне», — адзначалася ў заяве. ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» запатрабавала ад Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Аператыўна-аналітычнага цэнтра пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, Генеральнай пракуратуры Рэспублікі Беларусь, а таксама ад усіх магчымых задзейнічаных у незаконным блакаванні суб'ектаў: «тэрмінова зрабіць усе магчымыя захады дзеля аднаўлення доступу да пералічаных сайтаў; правесці праверку незаконнага абмежавання на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь доступу да ўказаных вышэй сайтаў; вызначыць асобаў, вінаватых у парушэнні заканадаўства Рэспублікі Беларусь, і прыцягнуць іх да адказнасці ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь».

20 снежня па патрабаванні Мінгандлю дамен onliner.by быў выключаны з рэестра нацыянальнай даменнай зоны. «У сувязі з выяўленымі Міністэрствам гандлю Рэспублікі Беларусь парушэннямі ўладальнікам інтэрнэт-рэсурсу onliner.by заканадаўства аб гандлі, у тым ліку рэгулюе парадак рэалізацыі тавараў (работ, паслуг) з выкарыстаннем сеткі інтэрнэт, і непрыняцці ў раней устаноўленыя тэрміны мер па іх ліквідацыі, 20 снежня 2014 прынята рашэнне аб выключэнні адпаведнага даменнага імя з рэестра нацыянальнай даменнай зоны», — сказана ў паведамленні Аператыўна-аналітычнага цэнтра пры прэзідэнце Беларусі. Днём раней Міністэрства гандлю Беларусі паведаміла, што будзе закрываць інтэрнэт-крамы за ўказанне коштаў ва ўмоўных адзінках. Прэтэнзіі ў Мінгандлю да партала былі і раней. Так, у лістападзе па выніках праверкі ўладальнікаў некалькіх інтэрнэт-крам на гандлёвай пляцоўцы прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці. Onliner.by з'яўляўся найбуйнейшай гандлёвай пляцоўкай Беларусі. Там размяшчаюцца крамы фірм і прадпрымальнікаў, якія гандлююць гаджэтамі і бытавой тэхнікай. Партал уваходзіць у пяцёрку самых папулярных сайтаў у інтэрнэце сярод беларусаў.

22 снежня афіцыйныя лісты за подпісам старшыні ГА «БАЖ» Жанны Літвіной былі накіраваны ў Генеральную пракуратуру РБ, Упраўленне МУС па раскрыцці злачынстваў у сферы высокіх тэхналогій (упраўлен-

не «К») і Аператыўна-аналітычны цэнтр пры Прэзідэнце. Журналісцкая арганізацыя запатрабавала разблакаваць сайты, высветліць і пакараць вінаватых у парушэнні шэрагу артыкулаў Канстытуцыі, Крымінальнага і Адміністрацыйнага кодэксаў. У звароце былі пералічаны сайты, якія былі падвергнуты блакаванню ў апошнія дні 2014 года: belapan.com, belapan.by, naviny.by, belaruspartisan.org, udf.by, 21.by, gazetaby.com, zautra.by, charter97.org. «Дзеючае заканадаўства РБ не дапускае абмежавання доступу да інтэрнэт-рэсурсаў для ўсіх інтэрнэт-карыстальнікаў Беларусі. Такое абмежаванне парушае правы і законныя інтарэсы як уладальнікаў гэтых інфармацыйных рэсурсаў, так і права грамадзян РБ на атрыманне і распаўсюд інфармацыі, гарантаванае арт.арт. 33, 34 Канстытуцыі РБ», — сказана ў лісце. ГА «БАЖ» звярнула ўвагу, што ўладальнікам інфармацыйных рэсурсаў belapan.com, belapan.by і naviny.by з'яўляецца ЗАТ «БелаПАН», зарэгістраванае ў РБ у якасці інфармацыйнага агенцтва. Ніякіх папярэджанняў пра парушэнне заканадаўства яно не атрымлівала. «Абмежаванне доступу да сайтаў інфармацыйнага агенцтва парушае, акрамя права на распаўсюд інфармацыі, і камерцыйныя інтарэсы ЗАТ «БелаПАН», а таксама яго падпісчыкаў (падпіска на інфармацыйныя, аналітычныя і мультымедыйныя матэрыялы БелаПАН ажыццяўляецца на платнай аснове). Арганізацыя нагадала, што, паводле арт. 7 Закона «Аб СМІ», незаконнае абмежаванне свабоды СМІ цягне за сабой адказнасць паводле арт. 22.9 КаАП (Парушэнне заканадаўства аб СМІ) і арт. 198 КК РБ (Стварэнне перашкодаў законнай прафесійнай дзейнасці журналіста). «Акрамя таго, у дзеяннях асоб па незаконным абмежаванні доступу да сайтаў на тэрыторыі Беларусі можна ўгледзець прыкметы складаў злачынстваў, прадугледжаных главой 31 КК (Злачынствы супраць інфармацыйнай бяспекі) і арт. 232 КК (Стварэнне перашкодаў законнай прадпрымальніцкай дзейнасці). У сувязі з гэтым арганізацыя заклікала вызначаныя ведамствы тэрмінова ліквідаваць парушэнне правоў і законных інтарэсаў грамадзян і арганізацый, пацярпелых ад абмежавання доступу да сайтаў, правесці праверку іх незаконнага блакавання, высветліць асобаў, вінаватых у парушэнні заканадаўства, і прыцягнуць іх да вызначанай законам адказнасці.

22 снежня ў сваім звароце да беларускіх уладаў прадстаўнік Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе (АБСЕ) па пытаннях свабоды СМІ Дуня Міятавіч заявіла, што папраўкі ў закон аб СМІ і блакаванне незалежных сайтаў павінны быць адменены. Паводле яе слоў, папраўкі ў заканадаўства, якія робяць больш жорсткімі дзяржаўны кантроль над інтэрнэтам у Беларусі, уяўляюць сабой сур'ёзную пагрозу для свабоды слова і свабоды СМІ. «Гэтыя папраўкі заснаваны на няпэўна сфарму-

ляваных прававых палажэннях і даюць дзяржаве шырокія правы для ўмяшання ў размяшчэнне любой інфармацыі ў інтэрнэце, — сказана ў звароце. — Яны таксама прымушаюць распаўсюднікаў інфармацыі задзейнічаць самацэнзуру. Інтэрнэт павінен заставацца для грамадзян вольнай прасторай для магчымасці абмену інфармацыяй і выказвання крытычных поглядаў. Шырокае тлумачэнне гэтых новых паправак прывядзе да празмернага кантролю онлайн-кантэнту з боку ўладаў». Прадстаўнік АБСЕ таксама асудзіла блакаванне незалежных інфармацыйных сайтаў, у тым ліку charter97.org, naviny.by, belaruspartisan.org і БелаПАН, доступ да якіх для беларусаў абцяжараны або немагчымы.

24 снежня стала вядома, што Камітэт па правах чалавека ААН разгледзеў справу актывіста Руху «За свабоду» Віталя Сымоніка і ўстанавіў парушэнне права на распаўсюд інфармацыі (арт. 19 Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах). У ліпені 2006 года Віталь Сымонік разам з актывістам Андрэем Шарэндай раздаваў улёткі з запрашэннем на мітынг 27 ліпеня, да гадавіны абвяшчэння незалежнасці Беларусі. Падчас раздачы іх затрымалі, улёткі канфіскавалі, а самі актывісты былі прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці за распаўсюд інфармацыі пра забаронены мітынг. Дадзены мітынг спачатку быў дазволены ўладамі, а потым, калі стала вядома, што будзе прысутнічаць Аляксандр Мілінкевіч, масавае мерапрыемства забаранілі. Фармальнай жа прычынай забароны мітынгу стаў распаўсюд інфармацыі пра масавае мерапрыемства да атрымання дазволу мясцовых уладаў.

24 снежня друкарня адмовілася надрукаваць наклад газеты «Свободные новости плюс», ніяк гэта не абгрунтаваўшы рэдакцыі. Пазней намеснік дырэктара прыватнай друкарні «Плутас-маркет» Ігар Вішнеўскі патлумачыў сваю адмову паломкай абсталявання. На пытанне, чаму іншыя газеты на тым жа абсталяванні ўсё ж былі надрукаваныя, ён адказаў: «Ну... рамантавалі...». «Свободные новости плюс» — адна з самых папулярных недзяржаўных грамадска-палітычных газет Беларусі. Яе наклад перавышае 31 тысяч асобнікаў.

## Абмежаванне свабоды сходаў

1 снежня праваабаронца Сяргей Гоўша атрымаў з Баранавіцкага гарвыканкама адказ на свій зварот за подпісам намесніка старшыні Д. Касцюкевіча, у якім паведамлялася, што рашэнне ад 16.06.2009 г. № 1497 «Аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у г. Баранавічы» да канца 2014 года будзе прыведзена ў адпаведнасць з пастановай Савета

Міністраў ад 05.03.2012 года. Такое даручэнне Баранавіцкаму гарвыканкаму дадзена Брэсцкім абласным выканаўчым камітэтам. Баранавіцкі гарвыканкам неабгрунтавана патрабаваў ад грамадзян заключэння дамоў з праваахоўнымі органамі пры правядзенні масавых мерапрыемстваў. Пры гэтым згодна з пастановай Савета Міністраў, выканаўчы камітэт на другі дзень пасля рэгістрацыі заявы на правядзенне масавага мерапрыемства павінен сам давесці копію заявы ў праваахоўныя органы, што якраз у Баранавічах і не выконвалася.

4 снежня намеснік старшыні па ідэалагічнай працы Салігорскага райвыканкама Мікалай Маскевіч не дазволіў мясцовым прадстаўнікам Беларускага Хельсінскага Камітэта правядзенне на цэнтральнай плошчы горада пікета, прымеркаванага да міжнароднага Дня правоў чалавека. Сваю адмову чыноўнік абгрунтаваў неадпаведнасцю абранага праваабаронцамі месца для правядзення масавага мерапрыемства рашэнню Салігорскага райвыканкама ад 7 кастрычніка 2004 года «Аб мерах па папярэджанні надзвычайных здарэнняў пры правядзенні масавых мерапрыемстваў». На афіцыйным сайце выканкама дадзенае рашэнне адсутнічае, а прадставіць копію гэтага дакумента на рукі галоўны ідэолаг раёна Мікалай Маскевіч катэгарычна адмовіўся. 26 снежня пракуратура Салігорскага раёна не стала рэагаваць на скаргу мясцовага прадстаўніка Беларускага Хельсінскага Камітэта Леаніда Мархоткі на нематываваную адмову ў правядзенні пікета з боку гарадскіх чыноўнікаў і адмову прадставіць дакумент, на падставе якога пікет быў забаронены. Пракурор Салігорскага раёна Алег Адзей пакінуў скаргу без разгляду. 30 снежня Леанід Мархотка накіраваў у суд Салігорскага раёна скаргу на забарону пікета. У сваёй скарзе ў суд праваабаронца адзначыў, што падставай для забароны пікетавання стала рашэнне Салігорскага райвыканкама, тэкст якога чыноўнікі з невядомых прычын адмаўляюцца рассакрэціць.

5 снежня Баранавіцкі гарвыканкам забараніў пікет да 66-х угодкаў прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, які планавалі правесці 10 снежня праваабаронцы Сяргей Гоўша і Вячаслаў Болбат. Гэта стала вядома з ліста за подпісам намесніка старшыні Баранавіцкага гарвыканкама Д. Касцюкевіча. Арганізатары своечасова падалі заяву і прыклалі да яе пісьмовыя дамовы па абслугоўванні пікета з гарадской палiклінікай і ЖКГ, а згодна з пастановай Савета Міністраў ад 05.03.2012г. № 207, выканаўчы камітэт на другі дзень пасля рэгістрацыі заявы на правядзенне масавага мерапрыемства павінен сам давесці копію заявы ў праваахоўныя органы. Заяўнікі выканалі ўсе патрабаванні закона і выказалі намер аспрэчваць у судзе рашэнне выканкама.

5 снежня намеснік старшыні Бярозаўскага райвыканкама Яўген Тарасюк паведаміў праваабаронцам Сяржуку Русецкаму і Тамары Шчапёткінай, што зmененае рашэнне Бярозаўскага райвыканкама «Аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў» № 138 ад 2010 г. згодна пастанове Саўміна № 207 ад 2012 г. не прайшло юрыдычную экспертызу ў галоўным упраўленні юстыцыі Брэсцкага аблвыканкама. Паводле адказу чыноўніка, юрыдычным сектарам упраўлення справамі і аддзелам ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі райвыканкама павінна быць распрацавана новая рэдакцыя рашэння аб унясенні зменаў у рашэнне райвыканкама. Пасля праходжання юрыдычнай экспертызы рашэнне будзе апублікавана ў СМІ. Сэнс гэтай змены заключаецца ў тым, што пасля атрымання заявы на правядзенне масавага мерапрыемства ў першыя суткі выканкам павінен звязацца з міліцый для разгляду пытанняў, звязаных з аховай грамадскага парадку падчас акцыі. Такое патрабаванне замацавана ў пастанове Саўміна, і гэта азначае, што не заяўнікі павінны звязвацца з міліцыяй і заключаць дамову на абслугоўванне масавага мерапрыемства, а сам выканкам.

7 снежня стала вядома, што брэсцкія ўлады далі дазвол на правядзенне двухгадзіннай акцыі ў парку воінаў-інтэрнацыяналістаў да 66 гадавіны прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Адпаведны дазвол быў падпісаны намеснікам старшыні гарвыканкама Генадзем Барысюком. 10 снежня акцыя адбылася ў вызначаным месце. Галоўнай мэтай мерапрыемства сталася прыцягненне ўвагі грамадскасці да наяўнасці ў Беларусі палітычных зняволеных. Удзельнікі акцыі трымалі плакаты, на якіх былі змешчаны фотаздымкі Мікалая Статкевіча, Ігара Аліневіча, Яўгена Васьковіча, Арцёма Пракапенкі, Эдуарда Лобава і Мікалая Дзядка. У марозны дзень людзей у парку было няшмат: пераважна пенсіянеры і бацькі з малымі дзецьмі. Таксама побач з месцам правядзення пікета можна было ўбачыць супрацоўнікаў міліцыі і людзей ў цывільным, якія вельмі ўважліва сачылі за падзеяй. Напрыканцы мерапрыемства да пікетоўцаў завітаў супрацоўнік гарвыканкама, які адзначыў, што палітзняволеных у Беларусі няма, а таксама зрабіў заўвагу, што падчас акцыі выкарыстоўваецца незарэгістраваная сімволіка. Аднак пасля атрымання тлумачэнняў з боку ўдзельнікаў пікета, што гэта не сімволіка, а назва грамадзянскай ініцыятывы, больш пытанняў не было і акцыя скончылася без інцыдэнтаў. Гэта было адзінае дазволенае ў Беларусі масавае мерапрыемства да Міжнароднага дня правоў чалавека.

8 снежня заяўнікі вулічнага шэсця ў Гомелі, прымеркаванага да Дня правоў чалавека, атрымалі з гарвыканкама адмову на правядзенне маса-

вага мерапрыемства. Матывацыя адмовы гарадскіх уладаў стандартная: не заключаны дамовы з хуткай дапамогай і камунальнікамі, непадалёк ад прапанавага маршруту ёсць адміністрацыйныя будынкі. Заяўку на шэсце падавалі гомельскія праваабаронцы Анатоль Паплаўны і Леанід Судаленка, а таксама грамадзянская актывістка Галіна Бялова. Мэтай мірнага сходу было заяўлена прыцягненне ўвагі жыхароў горада да наяўнасці ў краіне палітычных зняволеных. У Гомелі, згодна рашэнню гарвыканкама «Аб масавых мерапрыемствах», заяўнікам пікетаў, мітынгаў і шэсцяў трэба заплаціць за паслугі хуткай дапамогі і камунальных служб. Праводзіць масавыя мерапрыемствы, якія праходзяць не па ініцыятыве ўладаў, можна толькі на двух пляцоўках у аддаленых мікрараёнах. Заяўнікі пікетаў і мітынгаў сутыкаюцца з замкнёным колам: «хуткая» не згаджаецца абслугоўваць масавыя мерапрыемствы, нават пры ўмове аплаты, спасылаючыся то на недахоп карэт хуткай дапамогі, то на тое, што гарвыканкам не даў дазвол на масавае мерапрыемства (хоць выканкам можа даць дазвол толькі пасля дамовы з «хуткай»). У Гомельскай вобласці за апошнія 10 гадоў улады не дазволілі правесці ніводнага масавага мерапрыемства, якія былі заяўлены прадстаўнікамі дэмакратычнай супольнасці. Абскарджванне такіх рашэнняў у судах не прыносіць плёну.

10 снежня ў Віцебску былі забаронены тры аднахвілінныя пікеты ў розных раёнах горада. Заяўкі ў тры раённыя адміністрацыі падаваў праваабаронца Павал Левінаў, але атрымаў ужо традыцыйныя, шаблонныя забароны. Віцебскі праваабаронца ўжо не першы раз прадэманстраваў, што віцебскія чыноўнікі, абапіраючыся ў сваіх адмовах на недасканалае рашэнне віцебскага гарвыканкама «Аб масавых мерапрыемствах у г.Віцебску», самі ствараюць няёмкія сітуацыі. Згодна з гэтым рашэннем, да заяўкі на пікет заяўнік мусіць прыкласці дамовы на абслугоўванне акцый, заключаныя з міліцыяй, паліклінікай і службай ЖКГ, але дамовы падпісваць усе яны адмаўляюцца, і праз гэта заяўнікам забараняюць акцыі. Павел Левінаў абраў уласную тактыку змагання ў гэтай сітуацыі: сваімі заявамі на акцыі ён даводзіць сітуацыю з забаронамі да поўнага абсурду.

10 снежня віцебскі праваабаронца Павел Левінаў атрымаў адказ з адміністрацыі Чыгуначнага раёна, куды ён паведаміў, што збіраецца сфатаграфавацца з сябрамі каля будынка з графіці — малюнкам трох клетак, з якіх на волю вылятаюць птушкі. Пры гэтым падкрэсліў, што ўдзельнікі фотасесіі маюць адзіную мэту — толькі сфатаграфавацца. Аднак у адказ атрымаў ліст з забаронай: маўляў, ён не выканаў патрабаванняў рашэння гарвыканкама «Аб масавых мерапрыемствах у г.Віцебску». Падставай для звароту ў адміністрацыю быў інцыдэнт з віцебскімі журналістамі і ак-

тывістамі, якіх аштрафавалі нібыта за правядзенне несанкцыянаванай акцыі, калі іх фотаздымкі на фоне гарадскога краявіду з'явіліся ў інтэрнэце.

15 снежня старшыня Гомельскай абласной арганізацыі беларускай партыі левых «Справядлівы свет» Уладзімір Сякерка накіраваў у суд Цэнтральнага раёна Гомеля скаргу на дзеянні службовых асоб гарадской станцыі хуткай медыцынскай дапамогі і цэнтральнай гарадской паліклінікі. У скарзе Уладзімір Сякерка адзначыў, што 2 снежня Гомельскі гарвыканкам не дазволіў яму правесці пікет, запланаваны на 9 снежня. Гарадскія ўлады спасланіся на тое, што заяўнікі пікета не заключылі дамову з зацікаўленымі асобамі (хуткай дапамогай і паліклінікай) на медыцынскае абслугоўванне пры правядзенні масавага мерапрыемства. Лідар гомельскіх левых сцвярджае, што пры падрыхтоўцы да масавага мерапрыемства заяўнікі ажыццявілі ўсе неабходныя захады па заключэнні дамовы з медыкамі. «Хуткая» дала адказ, што «у сувязі з пастаянна растучай нагрузкай на станцыю хуткай дапамогі, якая звязана з павелічэннем рэспіратара-вірусных інфекцый, не маем магчымасці заключыць з вамі дамову». Цэнтральная гарадская паліклініка па даручэнні ўпраўлення аховы здароўя разгледзела зварот заяўнікаў на сваё ж бяздзеянне і прызнала яго правамоцным. Уладзімір Сякерка просіць суд прызнаць дзеянні станцыі хуткай дапамогі і цэнтральнай паліклінікі неправамоцнымі. Таксама лідар гомельскіх левых накіраваў заяву ў міністэрства і гомельскае ўпраўленне аховы здароўя. Ён просіць міністэрства аховы здароўя ініцыяваць перад беларускім урадам пытанне аб неабходнасці прыняцця пастановы урада, якая б рэгулявала парадак арганізацыі ўзаемадзеяння медыцынскіх устаноў і арганізатараў масавых мерапрыемстваў па пытаннях медыцынскага абслугоўвання пры правядзенні масавых мерапрыемстваў. Уладзімір Сякерка звяртае ўвагу міністэрства, што неаднаразовыя спробы з боку арганізацыі партыі левых «Справядлівы свет» заключыць дамовы з медыцынскімі ўстановамі застаюцца нерэалізаванымі, таму што заяўнікам адмаўляюць па надуманых прычынах.

23 снежня ў судзе Светлагорскага раёна адбыўся разгляд грамадзянскай справы па скарзе жыхара горада Юрыя Ляшэнкі на дзеянні райвыканкама. Грамадзянскі актывіст меў намер 25 лістапада правесці ў Светлагорску пікет у абарону правоў людзей з абмежаванымі магчымасцямі, у тым ліку ў знак пратэсту супраць невыканання правоў інвалідаў пры капітальным рамонце жылога двухпавярховага дома па вуліцы Леніна. Райвыканкам забараніў праводзіць масавае мерапрыемства. Адмову ўлады матывавалі тым, што пляцоўка на цэнтральнай плошчы горада не з'яўля-

ецца месцам, дазволеным для правядзення масавых мерапрыемстваў. Згодна з рашэннем райвыканкама, пікетаваць ці мітынгаваць можна толькі на «сцэнічнай пляцоўцы парку культуры і адпачынку». Як аказалася, парк знаходзіцца ў занядбаным стане. А сцэнічнай пляцоўкі там і няма зусім. Сумненні наконт існавання «сцэнічнай пляцоўкі ў парку культуры і адпачынку» выказаў і суддзя, параіўшы прадстаўніку райвыканкама разабрацца з дадзеным пытаннем. Працяг суда павінен адбыцца пасля 10 студзеня 2015 года. У гэты ж дзень Юрый Ляшэнка звярнуўся да міністра аховы здароўя з просьбай разабрацца з медыкамі, якія «затрымалі» яго на несанкцыянаваным пікеце 25 лістапада і даставілі ў шпіталь, дзе ўкалолі ін'екцыю нібыта з-за высокага ціску. Грамадскі актывіст лічыць, што ў дадзеным выпадку ідзе размова пра выкарыстанне медыцынскіх работнікаў у палітычным пераследзе грамадзян. «Прашу прадставіць у маё распараджэнне поўнае медыцынскае заключэнне аб стане майго здароўя па стане на 25 лістапада 2014 года, уключаючы адказы на пытанні, навошта, што менавіта і на якой падставе мне калолі ў прыёмным пакоі», — напісаў у скарзе міністру аховы здароўя Юрый Ляшэнка.

## Абмежаванне свабоды асацыяцый

4 снежня адміністрацыя РУП «Граніт»не працягнула працоўны кантракт з кіроўцам БелАЗа Уладзімірам Крывавым, спаслаўшыся на парушэнне з яго боку тэхнікі бяспекі, якое здарылася яшчэ вясной. Кіраўнік суполкі Беларускага незалежнага прафсаюза на прадпрыемстве «Граніт» Алег Стахаевіч мяркуе, што звальненне адбылося паводле фармальных прычын, бо Крывава абвінавацілі ў тым, што ён у канцы працоўнай змены прыйшоў да майстра без верхняга адзення. За гэта кіроўца атрымаў заўвагу, а пасля з'явіўся загад дырэктара «Граніта» Эдуарда Гаўрылковіча, які і стаў падставай для звальнення. Уладзімір Крываў адпрацаваў на «Граніце» 20 гадоў і за гэты час не меў ніякіх сур'езных спагнанняў ад адміністрацыі прадпрыемства. Таму Алег Стахаевіч лічыць, што такім чынам кіраўніцтва «Граніта» помсціць усім, хто тры гады таму спрычыніўся да стварэння суполкі незалежнага прафсаюза на прадпрыемстве (сярод актывістаў быў і Крываў). З таго часу з «Граніта» паводле розных падставаў быў звольнены сам Стахаевіч і яшчэ з дзясятак рабочых, якія жадалі зладзіць у Мікашэвічах сапраўдны прафсаюзны рух.

ДАДАТАК 1.

## Рэзалюцыя Савета па правах чалавека ААН «Сітуацыя ў галіне правоў чалавека ў Беларусі».

*25 чэрвеня 2014 г.*

Организация Объединенных Наций A/HRC/26/L.14/Rev.1

Генеральная Ассамблея

Distr.: Limited
25 June 2014
Russian
Original: English

**Совет по правам человека**
**Двадцать шестая сессия**
Пункт 4 повестки дня
**Ситуации в области прав человека, требующие внимания со Стороны Совета**

**Австрия, Албания*, Бельгия*, Болгария*, бывшая югославская Республика Македония, Венгрия*, Германия, Греция*, Дания*, Ирландия, Исландия*, Испания*, Италия, Канада*, Кипр*, Латвия*, Литва*, Лихтенштейн*, Люксембург*, Мальта*, Монако*, Нидерланды*, Новая Зеландия*, Норвегия*, Польша*, Португалия*, Румыния, Сент-Китс и Невис*, Словакия*, Словения*, Соединенное Королевство Великобритании и Северной Ирландии, Соединенные Штаты Америки, Финляндия*, Франция, Хорватия*, Черногория, Чешская Республика, Швейцария*, Швеция*, Эстония, Япония: проект резолюции**

**26/…**
**Ситуация в области прав человека в Беларуси**

*Совет по правам человека,*

*руководствуясь* целями и принципами Устава Организации Объединенных Наций, положениями Всеобщей декларации прав человека, международных пактов о правах человека и других применимых договоров о правах человека,

*ссылаясь* на все резолюции, принятые Комиссией по правам человека, Генеральной Ассамблеей и Советом по правам человека о положении в области прав человека в Беларуси, в том числе на резолюции Совета 20/13 от 5 июля 2012 года и 23/15 от 13 июня 2013 года, и выражая сожаление по поводу ненадлежащей реакции правительства Беларуси на просьбы Совета, содержащиеся в этих резолюциях, и отсутствия сотрудничества со стороны правительства Беларуси, включая отказ в доступе в страну для Специального докладчика по вопросу о положении в области прав человека в Беларуси и других мандатариев специальных процедур,

* Государство, не являющееся членом Совета по правам человека.

GE.14-06439 (R) 250614 250614

*1406439*

Просьба отправить на вторичную переработку

*ссылаясь также* на резолюции Совета по правам человека 5/1 и 5/2 от 18 июня 2007 года,

1. *приветствует* доклады Специального докладчика по вопросу о положении в области прав человека в Беларуси[1];

2. *выражает глубокую обеспокоенность* по поводу продолжающихся нарушений прав человека в Беларуси, которые носят системный и систематический характер, а также применения пыток и жестокого обращения в местах содержания под стражей, отсутствия реакции правительства Беларуси на случаи насильственных исчезновений политических оппонентов, безнаказанности лиц, нарушающих права человека, нарушений трудовых прав, равнозначных принудительному труду, значительных пробелов в антидискриминационном законодательстве, оказания давления на адвокатов и неучастия оппозиционных политических партий в работе парламента, настоятельно призывает правительство провести избирательную реформу в соответствии с рекомендациями, сделанными Специальным докладчиком, с тем чтобы обеспечить соответствие выборов в Беларуси на всех уровнях нормам и стандартам Организации по безопасности и сотрудничеству в Европе, и призывает власти Беларуси в полной мере сотрудничать в этих целях с соответствующими механизмами Организации Объединенных Наций и Бюро по демократическим институтам и правам человека вышеуказанной организации;

3. *призывает* правительство Беларуси провести всеобъемлющий пересмотр соответствующего законодательства, политики, стратегий и практики для обеспечения того, чтобы нормы были четко определены, соответствовали международному праву прав человека и обязательствам и обязанностям страны в области прав человека и не использовались для того, чтобы препятствовать или необоснованно ограничивать осуществление любых прав человека, включая право на свободу мнений и их свободное выражение, право на свободу мирных собраний и право на свободу ассоциации, в том числе право создавать профессиональные союзы и входить в них, а также свободу средств массовой информации;

4. *отмечает* постоянное внимание, уделяемое Специальным докладчиком вопросу о смертной казни в Беларуси, и призывает парламентскую рабочую группу по вопросу о смертной казни ускорить свою работу;

5. *настоятельно призывает* правительство Беларуси провести всеобъемлющую реформу сектора правосудия и адвокатских коллегий, с тем чтобы гарантировать полную независимость и беспристрастность судей, презумпцию невиновности, право на справедливое судебное разбирательство и право на эффективный пересмотр приговоров и осуждений вышестоящей судебной инстанцией, созданной на основании закона, и на свободно избранное юридическое представление в ходе всех процессуальных действий, а также на доступ к информации об исполнении всех приговоров, отмечая при этом недавние попытки реформирования судебной системы;

6. *самым решительным образом призывает* правительство Беларуси незамедлительно и безоговорочно освободить и реабилитировать всех политических заключенных, при этом приветствуя недавнее освобождение одного из видных правозащитников, также самым решительным образом призывает правительство обеспечить незамедлительное и полное восстановление тех, кто был освобожден, в их гражданских и политических правах, рассмотреть в рамках

[1] A/HRC/26/44 и A/68/276.

